# «ДЗЕВЯНОСТА ПЕРШЫ», «ДЗЕВЯНОСТА ДРУГІ», «ДЗЕВЯНОСТА ТРЭЦІ» «ДЗЕВЯНОСТА ЧАЦЬВЕРТЫ», «ДЗЕВЯНОСТА ПЯТЫ» — ВОДГУКІ І АЦЭНКІ

## «ДЗЕВЯНОСТА ПЕРШЫ»

«Дзевяноста першы» — гэта ўзор жарснай публіцыстыкі, прадоннага аналізу падзеяў, прарочых высноваў. Сяргей Навумчык — правая рука Зянона — пісаў профілі дзевяноста першага году, у якім вырашаўся лёс незалежнай дзяржавы Беларусь.  Знайшоўся неспакойны Беларус і распавёў пра падзеі, як ён бачыў іх, як непасрэдна ўспрымаў.

І захмар'е, і дол,
і халодны позірк,
і душэўная трывога.
Ацэнку дасьць час.
За ім — слова!

*Рыгор Барадулін, народны паэт Беларусі*

Навумчык — выдатны аўтар. У яго добры стыль, ён умее трымаць увагу і напружаньне. Гэта звышчытэльны тэкст. 500-старонкавы фаліянт прачытваецца на адным дыханьні.

*«Наша ніва»*

Час ідзе, нешта забываецца, а потым зьяўляюцца тыя мэмуарысты, якія помняць добрае, зьвязанае зь імі самімі, і забываюць тое, што, можа, ня надта добрае было зь імі, або гэтае ня надта добрае хочуць перакласьці на чужую адказнасьць, на чужыя плечы. Ва ўсякім разе, у тых кнігах, якія я прачытаў пра той час, у мяне такое адчуваньне было. Таму тое, што Сяргей дае дакумэнты, дае атмасфэру таго часу, — мне здаецца, гэта вельмі важна.

*Генадзь Бураўкін, паэт, першы прадстаўнік незалежнай Беларусі ў ААН*

Захапляюся — часам са сьлязой у вачах — дэталямі, якія проста ўцягваюць чытача ў апісаныя падзеі. Кніга «дзевяноста першы» — каштоўны архіў, які чытаецца як раман.

*Івонка Сурвіла, старшыня Рады БНР*

Гэты важкі том — найлепшы адказ як тым, хто лічыць, нібыта незалежнасьць звалілася на беларусаў зь неба, так і тым, хто мяркуе, быццам нацыянальна-дэмакратычныя сілы на чале з БНФ у нашай найноўшай гісторыі пацярпелі паразу. Насамрэч яны ў неверагодна складаных умовах дасягнулі галоўнай мэты — краіна атрымала Незалежнасьць.

*Уладзімер Арлоў, пісьменьнік*

Гісторыю, як вядома, пішуць пераможцы. Са спазьненьнем на 20 гадоў мы дачакаліся і сваёй гісторыі пра пераможны 1991 год.

*Дзьмітры Гурневіч, журналіст*

# «ДЗЕВЯНОСТА ДРУГІ»

На пачатку 60-х гадоў мінулага стагодзьдзя тагачасная моладзь зачытвалася мэмуарамі Ільлі Эрэнбурга «Люди, годы, жизнь», зь нецярплівасьцю чакала іх працягу. У іх быў выкрыты мэханізм сталінізму, іншымі, зразумела, сродкамі. І калі надышоў нэасталінізм у брэжнеўска-суслаўска-андропаўскім выкананьні, ён ужо ня здольны быў яе, моладзь, «повернуть назад». Бо ў сьвядомасьці «шасьцідзясятнікаў» пасьпела насьпець Будучыня.  У пэўным сэнсе сэрыю кніг, якую задумаў і ажыцьцяўляе Сяргей Навумчык, можна назваць «Людзі, час, Беларусь», хоць яны не зусім мэмуары, а мо і не мэмуары зусім. Ёсьць, ёсьць прыкметы таго, што беларуская моладзь, дзякуючы кнігам Сяргея, усё глыбей асэнсоўвае, як дзейнічае мэханізм нацыянальнай здрады, і разумее, як ёй супрацьстаяць.

*Сяргей Ваганаў, журналіст*

Першая палова 90-х — гэта пэрыяд гісторыі Беларусі, які цяперашняя ўлада хоча калі не забыць, то прынізіць. «Успамін ад тых дзён — адчуваньне страчанага часу», — піша Сяргей Навумчык пра 1992 год. Але сам жа і зьняпраўджвае гэтую журботную выснову, бо сьведчыць як удзельнік падзеяў пра беспрэцэдэнтны акт волі нашага народу: сабраныя Народным Фронтам амаль паўмільёна подпісаў за свабодны, дэмакратычны, нармальны шлях для незалежнай Беларусі.

*Вінцук Вячорка, мовазнаўца*

# «ДЗЕВЯНОСТА ТРЭЦІ»

Гэта ня проста кніга, гэта кавалак гісторыі, гэта застанецца назаўсёды. Гісторыя часам выбірае нас як летапісцаў, і шчасьце, калі мы аказваемся да гэтага гатовыя.

*Сьвятлана Алексіевіч, ляўрэатка Нобэлеўскай прэміі*

Кнігі Навумчыка напісаныя ў лепшых традыцыях нон-фікшн (літаратуры факту або дакумэнтальнай прозы), яны трымаюць увагу чытача і ў большасьці выпадкаў не адпускаюць яе. Аўтар віртуозна разводзіць паміж сабой падзеі, якія адбыліся на стыку некалькіх гадоў (да прыкладу, у 92-м і 93-м гадах), дзякуючы чаму ў розных кнігах цыклю практычна няма паўтораў. Кнігі, прысьвечаныя 1990-м гадам, маюць цудоўную кампазыцыю. Нарэшце, кнігі Навумчыка — гэта хіба першы абсалютна цэласны погляд на першую палову 1990-х з боку пэўнай палітычнай сілы (у гэтым выпадку БНФ). Бо ні лібэралы, ні сацыял-дэмакраты, ні камуністы так і не прадставілі такой падрабязнай вэрсіі тых падзеяў. Усё гэта робіць цыкль Навумчыка унікальным праектам.

*Дзяніс Марціновіч, рэдактар Tut.by*

Летапіс нашага часу.

*Анатоль Вярцінскі, паэт*

# «ДЗЕВЯНОСТА ЧАЦЬВЕРТЫ»

Сяргей Навумчык напісаў вельмі цікавую кнігу, якая, дзякуючы стылю і пачуцьцю гумару аўтара, чытаецца на адным дыханьні. Але галоўнае, што там ня схлушаны аніводны факт. Часта бывае прыкра, калі чытаеш хлусьню пра тое, чаму сам быў сьведкам. У кнігах Навумчыка такога няма.

*Сяргей Дубавец, пісьменьнік*

Гэта хроніка палітычнага жыцьця, якое было ў Беларусі.

*Сяргей Антончык, лідэр рабочага руху пачатку 1990-х*

Сяргей Навумчык досыць аб'ектыўна ацэньвае расклад палітычных сіл у нашай краіне напярэдадні і падчас прэзыдэнцкіх выбараў 1994 году. Ён прыходзіць да высновы, зь якой цяжка не пагадзіцца: на тых выбарах і Кебіч, і Аляксандар Лукашэнка рэпрэзэнтавалі блізкія між сабою палітычныя пазыцыі, у аснове якіх ляжала імкненьне да пераўтварэньня Беларусі ў калёнію ўсходняга суседа ўзамен на моцна жаданую імі найвышэйшую ўладу на гэтай тэрыторыі.

*Лявон Баршчэўскі, дэпутат Вярхоўнага Савету XII скліканьня*

Такая кніжка — выдатная зьява.

*Радзім Гарэцкі, акадэмік*

## «ДЗЕВЯНОСТА ПЯТЫ»

Значная частка тэксту прысьвечана красавіцкай галадоўцы ў памяшканьні парлямэнту, рэфэрэндуму і выбарам 1995 году. Паводле сваёй трагічнай значнасьці ў найноўшай гісторыі Беларусі гэтыя падзеі, бадай, пераважаць гісторыю злачыннага зьнікненьня вядомых беларускіх грамадзян. Такія злачынствы ня маюць маральнага тэрміну даўнасьці.

*Пётра Садоўскі, першы амбасадар Беларусі ў Нямеччыне*

Кніга выдатна адпавядае жанру «нон-фікшн». У кнігах гэтага жанру выкарыстоўваюцца мастацкія прыёмы раскрыцьця вобразаў і такая спэцыфічная кампазыцыйная арганізацыя твораў – сцэна за сцэнай. У выпадку зь Сяргеем Навумчыкам гэта ня толькі сцэна за сцэнай, але і год за годам. І можна сказаць, што гэта ў пэўным сэнсе ўзорны нацыянальны «нон-фікшн».

*Ганна Кісьліцына, літаратурны крытык*

Лёгкі стыль аўтарскага выкладаньня робіць, здавалася б, сур’ёзную гістарычную літаратуру «надрыўнай», кшталту майстроў дэтэктыўнага альбо фантастычнага жанру.

*Сяргей Пульша, аглядальнік газэты «Новы час»*

Аўтар не нэўтральны, ён нефармал, бэнээфавец, апазыцыянэр, дэмакрат, пацярпелы, герой, удзельнік, зацікаўленая асоба... Усё так. Толькі гэта ня мінус, а фарматная дадзенасьць. Яе галоўная рыса – не абмежавальнасьць, а сумленнасьць сьведкі, эмоцыя часу, а не ягоны асадак, не наратыў прафэсара, а праўдзівасьць летапісца.

*Аляксандар Лукашук, дырэктар Радыё Свабода*

Гэта каштоўнае, дакладнае дасьледаваньне па найноўшай гісторыі змаганьня за незалежную Беларусь пагрунтована на дакумантах, на летапісе друку, на ўспамінах і архіўных матар'ялах і на вопыце ўласнага ўдзелу ў палітычным працэсе той пары. Асаблівай каштоўнасьцю кнігі зьяўляецца тое, што яна адлюстроўвае дух таго часу, сваістае адчуваньне падзей, часам апісаных скрупулёзна да найменшых дэталяў.

*Зянон Пазьняк, старшыня Апазыцыі БНФ*
*у Вярхоўным Савеце XII скліканьня*

Узяла ў рукі на хвіліну пагартаць і не змагла адарвацца, хоць вельмі балюча чытаць усе падрабязнасьці таго, што мы, учарашнія дзеці, бачылі збоку, а аўтар – знутры. Як быццам ізноў разанула па сэрцы. Як тады, калі мы даведаліся пра вынікі рэфэрэндуму (у мяне дагэтуль зьвініць у вушах крык маёй тагачаснай сяброўкі, вельмі-вельмі ціхай дзяўчынкі Наташы – «Ня можа быць!» на ўсю кавярню). Як тады, калі глядзелі, як здымаюць «Пагоню» з будынку на плошчы Незалежнасьці, і плакалі. Спадзяюся, што некалі ўрыўкі з кнігі ўвойдуць у падручнікі, па якіх будуць вучыцца калі ня нашы дзеці, то ўнукі – дакладна.

*Мілана Міхалевіч, настаўніца*

*Маім бабулям Ядзьвізе, Лізавеце і Ганьне,*
*дзядам Ягору і Адаму*

**Сяргей Навумчык. Дзевяноста шосты.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) — 2-е выд., удакладненае і дапоўненае. — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2021. 540 с.: іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Рэдактар *Аляксандар Лукашук*

У заключным томе хронікі новай беларускай дзяржаўнасьці канца XX стагодзьдзя аўтар — удзельнік падзеяў апавядае пра масавы супраціў аб’яднаньню Беларусі і Расеі, вядомы як «Вясна-96», арышты, драматычны выезд за мяжу і наданьне адміністрацыяй ЗША палітычнага прытулку лідэру Беларускага Народнага Фронту Зянону Пазьняку і яму, прызнаньне тым самым рэжыму ў Беларусі аўтарытарным, а таксама аналізуе адчайную спробу імпічмэнту, якая скончылася паразай Канстытуцыі. Папярэднія кнігі цыклю — «Дзевяноста першы», «Дзевяноста другі» і «Дзевяноста трэці», «Дзевяноста чацьвёрты», «Дзевяноста пяты».

У кнізе скарыстаныя фатаздымкі Сяргея Грыца, Уладзімера Кармілкіна, Георгія Ліхтаровіча, Галіны Навумчык, Уладзімера Сапагова, Віктара Стралкоўскага, Зянона Пазьняка, Андрэя Шаўлюгі, ТАСС, газэтаў «Свабода», «БДГ», «Имя», «Народная воля», матэрыялы сайту «Вытокі», а таксама фота з архіву аўтара.



ISBN 978-0-929849-89-8

# ЗЬМЕСТ

## 96

Год

Куляецца

Дагары нагамі

І ператвараецца

Ў матылька.

Якую ён выкліча буру!

*Аляксандар Лукашук,*
*Бібліятэкар Свабоды*

*Трэба жыць дома.*
*Каб тое толькі было б магчымым.*
Васіль Быкаў

## Родны дом ня ў сьне

24 траўня 2016 году ў 16.30 самалёт кампаніі «Белавія» Прага — Менск прызямліўся ў менскім аэрапорце. У Беларусь я прыляцеў разам з жонкай і дачкой. З аэрапорту мой даўні сябар журналіст Аляксандар Старыкевіч павёз нас на месца вечнага спачыну Васіля Быкава.

У той дзень Радыё Свабода зьмясьціла інтэрвію, якое я даў Валянціну Жданко.

— *Сяргей, ты ўпершыню ў Менску праз дваццаць гадоў пасьля вымушанага ад'езду, які адбыўся ў выніку хвалі палітычных рэпрэсіяў вясны 1996 году. Як цяпер ацэньваеш той крок?*

— *Гэты быў вымушаны крок. Даўшы тады палітычны прытулак Зянону Пазьняку і мне (а для Вашынгтону гэта быў момант выбару, бо Эўропа ўжо была гатовая прызнаць палітыку афіцыйнага Менску дэмакратычнай), ЗША фактычна далі адназначную ацэнку курсу, на які павярнуў рэжым у Беларусі. Наступныя трагічныя падзеі са зьніклымі асобамі пацьвердзілі слушнасьць такога рашэньня.*




Разам з дачкой Ганнай і жонкай Галінай у першыя хвіліны пасьля 20-гадовай эміграцыі, аэрапорт Менск-2

*— Раней ты не лічыў свой прыезд бясьпечным.*

*— Маю зьвесткі, што сытуацыя з маёй бясьпекай зьмянілася. Хаця я разумею, што ніхто ні ад чога тут не застрахаваны. На жаль, Беларусь яшчэ вельмі далёкая ад таго, каб сапраўды быць дэмакратычнай, прававой дзяржавай.*

*— Вы зьяжджалі разам зь Зянонам Пазьняком, таму лягічнае пытаньне: ці варта чакаць ягонага прыезду?*

*— Я ніколі не параўноўваў сябе з Пазьняком што да маштабу асобаў. Летась у верасьні ў цэнтры Менску прайшла прэзэнтацыя маёй кнігі пра рэфэрэндум 1995 году, сабралася больш за трыста чалавек, імпрэза прайшла безь якіх-небудзь перашкод з боку ўладаў. Нядаўна Радыё Свабода паведамляла пра арышт на мяжы кнігі Пазьняка — не пра*

*палітыку, пра мастацтва фатаграфіі. Лягічная выснова з такога стаўленьня да яго напрошваецца сама сабой.*

А газэта «Наша ніва» ў той жа дзень напісала:

*«За гэтыя 20 гадоў не было ні дня, калі б я ня думаў пра вяртаньне ў Беларусь, — сказаў Навумчык. — Раней мае бацькі маглі езьдзіць да нас, цяпер ужо не — узрост. Мая дачка, якая нарадзілася ў Амэрыцы, увогуле першы раз прыехала ў Беларусь, хоць мае беларускае грамадзянства. Яна ніколі ня бачыла сваіх дзеда і бабку па лініі маці. Таму, калі бацькі выказалі жаданьне нас пабачыць, мы не маглі не пайсьці ім насустрач», — расказаў ён.*

*Галоўнае ўражаньне ў Сяргея Навумчыка — што ён вярнуўся дадому.*

*«Хоць за 20 гадоў і зьмянілася амаль усё тут, я адчуваю, што гэта ўсё сваё, што я дома», — кажа Навумчык.*

*На пытаньне, ці плянуе ён вярнуцца на пастаянна і ці не зьбіраецца ўзначаліць партыю ці стварыць уласны рух, Навумчык адказаў: «Я лічу, што мая і маіх калегаў па апазыцыі галоўная гістарычна-палітычная місія была выкананая 25 жніўня 1991 году, калі пры падтрымцы тысяч людзей мы стварылі гэтую краіну, калі прымалі першыя законы. І я разумею, што я ў палітыцы нічога большага не зраблю. Таму для мяне сёньня галоўнае — завяршыць цыкль кніг найноўшай гісторыі. А ўвогуле, ёсьць такая прымаўка: «Хочаш насьмяшыць Бога — раскажы яму пра свае пляны на наступны тыдзень».*

Уражаньне, што я дома, было першахвілінным, потым жа я ўбачыў краіну зусім іншую, адрозную ад той, якую пакінуў у сакавіку 96-га.

Журналіст Tut.by Арцём Шрайбман прапанаваў мне прайсьціся па цэнтры сталіцы і падзяліцца ўспамінамі пра былыя часы.

Плошча перад Домам ураду, на якой мы выступалі перад тысячамі людзей падчас сэсіяў Вярхоўнага Савету, была пустая. Важна падваліў нейкі афіцэр аховы (не магу разабрацца ў новых пагонах), запытаўся, што гэта мы тут робім. Адказаў яму, што гаворым пра падзеі, якія тут калісьці адбываліся. Служака прадэманстраваў на твары роздум, нічога не надумаў і адышоў.

Я спрабаваў хоць нешта разглядзець за вокнамі на трэцім паверсе Дому ўраду, дзе быў 363-і пакой, замацаваны за Апазыцыяй БНФ, у якім працаваў над законапраектамі, дзе правёў некалькі самых напружаных і шчасьлівых дзён і начэй у жніўні 1991-га. Не, нічога не відаць. Цяпер там месьціліся супрацоўнікі Цэнтральнай выбарчай камісіі.

Так, бурлівыя гады нацыянальнага Адраджэньня не пакінулі ніякіх сьлядоў на цэнтральным менскім праспэкце — і, як выглядала, у душах мінакоў.

Нішто ня сьведчыла і пра тое, што праз чатыры гады праспэкты сталіцы будуць запоўненыя сотнямі тысяч людзей пад бел-чырвона-белымі сьцягамі, а ў мікраараёнах жыхары дамоў будуць спаборнічаць у тым, хто больш (на дзесяць паверхаў ці на дваццаць) пашые нацыянальны сьцяг.

У траўні 2016-га Менск здаўся нейкім заснулым, застылым. Калі не памерлым, дык ня надта жывым.

Яшчэ больш сонным выглядаў Віцебск — зь перафарбаваным у белы колер «сінім домам», дзе прайшло дзяцінства, зь нязвыклым для вока сылюэтам цэнтру гораду. Адноўленыя Ўсьпенскі сабор і Ўваскрасенская царква, зруйнаваныя яшчэ да май-

го нараджэньня, — за іх аднаўленьне ў канцы 80-х агітаваў у сваіх публікацыях, ня надта верачы, што гэта адбудзецца. Але ж во — адбудавалі. У горадзе пабольшала граніту, але паменшала інтэлігентных твараў. І, вядома, не было чуваць беларускай мовы. Зрэшты, як і ў Менску, і паўсюль.

І толькі бацькоўская кватэра была амаль такой жа, як і трыццаць, і дваццаць гадоў таму.

Віцебск я сьніў увесь час — гадоў дзесяць ці болей не было ніводнага «эміграцыйнага» сну.

І вось нарэшце родны дом ня ў сьне.

Гэта вельмі асаблівыя і асабістыя адчуваньні — калі бачыш тыя рэчы, якія былі з табой зь дзяцінства — прывезеная ў 60-х бацькам з Манголіі парцалянавая фігура каня, выразаная з дрэва літоўская кампазыцыя пана і падпанка, што была на сэрванце ў залі; драўляная ж фігурка з бочкай для асадак, якая стаяла на маім пісьмовым стале; медная попельніца-чаравік (хоць у сям'і ніхто не курыў), рознакаляровыя кубачкі для кавы, якія ў нашым зь сястрой дзяцінстве маці трымала ў суседкі, каб мы іх, барані Божа, не разьбілі. Гарцарскі нож, які прывёз з Польшчы ў 1973 годзе. Дзясяткі, сотні іншых рэчаў, пра якія я забыўся і ніколі за дваццаць гадоў эміграцыі не ўспамінаў, а цяпер кожная зь іх імгненна выклікала нейкую згадку.

Шчарбіна на сэрванце, зробленая, калі старшаклясьнікам няўдала адчыніў бар, каб дастаць перададзены ад цёткі Веры з Таліна лікёр Vana Tallinn і пачаставаць ім сябра Андрэя Сычова. Акварэль зь лясной дарогай Аляксандра Саф'яніка, якая з 1974-га вісела над маім ложкам; выява віцебскай ратушы ў пэйзажы Фэлікса Гумена. Кнігі, якія гартаў, калі яшчэ ня ўмеў чытаць...

Ня верыцца, але рука прыгадала, дзе месьцяцца ўключальнікі ў пакоях.

І тады я зразумеў, што вярнуўся дадому.

Але гэтая кніга не пра вяртаньне, а пра разьвітаньне.

## Калі пачынаецца будучыня

Палітычны 1996 год у Беларусі пачаўся 11 студзеня. У гэты дзень Цэнтральная выбарчая камісія разглядала скаргу на масавыя фальсыфікацыі і парушэньні закону ў Смаргонскай выбарчай акрузе.

Увогуле вызначальныя палітычныя падзеі часьцей за ўсё адбываюцца ў сталіцах. Аднак, хоць гэты сюжэт разгортваўся ня ў Менску і нават не ў абласным цэнтры, а ў невялікім гарадку, ён істотна паўплываў ня толькі на палітычны лёс галоўнага ўдзельніка, але, упэўнены, і на лёс беларускай дэмакратыі ў наступныя чвэрць стагодзьдзя.

Але, перш чым працягнуць, мушу зрабіць невялікае тлумачэньне наконт крыніц гэтай кнігі.

Зразумела, найперш гэта ўласныя ўспаміны. Але памяць чалавека недасканалая.

На жаль, мая звычка весьці дзёньнікі засталася ў юнацтве — інакш напісанае ў кнізе больш рэльефна адлюстроўвала б падзеі 96-га. У пэўным сэнсе, хоць і са спазьненьнем у некалькі месяцаў, такім дзёньнікам можна лічыць запіс цыклю радыёперадач, якія вясной 1997-га прагучаў на хвалях Радыё Свабода — якраз пра падзеі году папярэдняга. Тады мне ўдалося запісаць яшчэ сьвежыя ўспаміны ўдзельнікаў і сьведак драматычнай гісторыі нашай з Пазьняком эміграцыі, а крыху пазьней, працуючы на Радыё Свабода, зрабіць некалькі перадач пра

восеньскі канстытуцыйны крызіс. Тыя свае запісы і інтэрвію я выкарыстоўваю.

У гэтай кнізе, як і ў папярэдніх, прысьвечаных гадам апошняга нацыянальнага адраджэньня і дзейнасьці дэпутацкай апазыцыі БНФ, будзе шмат цытат з дакумэнтаў, публікацый у друку і ўспамінаў удзельнікаў падзеяў.

Асобна скажу пра яшчэ адну крыніцу, аўтарку рэпартажаў агенцтва «Павет» і Радыё Свабода, якая адначасна зьяўляецца і гераіняй гэтай кнігі, — маю жонку, журналістку Галіну Навумчык.

У пачатку 1993-га, пасьля таго, як я пакінуў пасаду сакратара Камісіі Вярхоўнага Савету ў пытаньнях галоснасьці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека (гэта было пратэстам супраць забароны рэфэрэндуму аб новых выбарах, за якія БНФ сабраў амаль паўмільёна подпісаў), мы заснавалі інфармацыйна-аналітычнае агенцтва «Павет». Матэрыялы «Павету» зьмяшчалі газэты «Свабода» і «Народная воля», яны гучалі і на хвалях Радыё Свабода, дзе Галіна выступала пад дзявочым прозьвішчам Прыгара. Цытую тут гэтыя тэксты так, як яны былі апублікаваныя тады, чвэрць стагодзьдзя таму.

У адрозьненьне ад іншых маіх кніг пра палітычную гісторыю 1990-х, гэтым разам чытач убачыць толькі адзін фрагмэнт са стэнаграмы сэсіі Вярхоўнага Савету: у 96-м аўтар пабыў дэпутатам толькі дзевяць дзён, да пачатку працы новай кадэнцыі парлямэнту, і ў Авальнай залі прысутнічаў ужо ў якасьці журналіста. Затое ёсьць фрагмэнты прыватнага ліставаньня з роднымі і блізкімі мне людзьмі. Прыватныя пачуцьці і эмоцыі — таксама законны складнік гістарычнай дакумэнталістыкі.

Ну і, вядома, чытач мусіць зрабіць амаль немагчымае: уявіць палітычнае жыццё і журналістыку без інтэрнэту, без сацыяльных сетак і мэсэнджараў, без мабільных тэлефонаў і лічбавых камэр.

У пачатку 1996-га ў Беларусі пра інтэрнэт чулі, але… Як ні імкнуўся актывіст БНФ Валянцін Асташынскі на пачатку 96-га патлумачыць мне, што такое кампутарная пошта і якія ў яе перавагі, я так і не зразумеў. Мабільныя тэлефоны ўжо зьявіліся, але каштавалі недзе каля 500 даляраў, пры тым што месячны заробак у $50 лічыўся вельмі добрым. Ні ў Пазьняка, ні ў мяне, ні ў кога з актывістаў БНФ такіх тэлефонаў не было (Пазьняку на выбары ў Смаргонях у канцы 95-га свой мабільны тэлефон даў мой аднакурсьнік, бізнэсовец Алесь Прашкуратаў).

У гэтай кнізе няма спасылак на жывыя чаты, і-мэйлы, камэнты, SMS, твіты, вікіпэдыю і да таго падобныя складнікі сучаснай інфармацыйнай прасторы, бо іх тады не было. Кампутары былі, але першы ў жыцьці ноўтбук я ўбачыў, калі не памыляюся, толькі ўвесну 1996-га ў Польшчы.

Ні ў кога не было гэтых магчымасьцяў і інструмэнтаў, і таму кантроль за традыцыйнымі СМІ, перш за ўсё тэлевізіяй, быў галоўным палітычным рэсурсам, ня менш важным за адміністрацыйны і нават карны.

У 1996-м усе тры ўжо моцна трымала ў сваіх руках аўтарытарная ўлада першага прэзыдэнта. Але фармальна незалежнай заставалася Цэнтральная выбарчая камісія — і менавіта яе пасяджэньне 11 студзеня магло паўплываць на ходу будучых падзеяў нашмат наперад. І паўплывала.

## Мёртвыя паўстаюць і ідуць галасаваць супраць БНФ

Мой дэпутацкі мандат ВС-12 мусіў бы скончыцца ў першай палове 1995-га, але заставаўся дзейным яшчэ і на пачатку 1996-га.

У 1995 годзе на вясновых, сумешчаных з рэфэрэндумам, выбарах патрэбную для кворуму колькасьць дэпутатаў ня выбралі. Лукашэнка тады заявіў, што сам на выбары ня пойдзе: «Усё роўна падмануць».

У траўні 95-га ў новы Вярхоўны Савет ня быў прапушчаны ніводзін кандыдат ад БНФ, у тым ліку і лідэр Фронту. Многім кандыдатам БНФ не хапіла аднаго-двух адсоткаў для перамогі, яны набіралі большасьць галасоў, але лічылася, што выбары не адбыліся, бо не прыйшла неабходная колькасьць выбарнікаў. Валянціну Голубеву, напрыклад, не хапіла 25 чалавек, Юрасю Беленькаму — 69, Міраславу Кобасу — 92 чалавекі. Тут, канешне, не абышлося без махлярства.

У фокусе ўладаў, адміністрацыйнага апарату і спэцслужбаў натуральна, апынуўся БНФ і яго старшыня Зянон Пазьняк. Адзінства розных дэмакратычных сілаў заўсёды праблема, але падчас умацаваньня аўтакратыі адсутнасьць яго проста згубная. Не было каардынацыі дэмакратычных сілаў, у многіх акругах кандыдаты перашкаджалі адзін аднаму, расьцягвалі галасы, адштурхоўвалі выбарнікаў. У траўні парлямэнт ня быў выбраны.

Давыбары прызначылі на канец лістапада, Фронт ізноў вылучыў сваіх кандыдатаў. Краіна магла аказацца ўвогуле без парлямэнту і адразу правалілца ў квазіманархічную аўтакратыю. Навошта ўладам

праводзіць у парлямэнт сваіх паслухмяных дэпутатаў, не прапускаць незалежных, калі можна адным ударам пазбавіцца ад самой праблемы падзелу ўлады? Увосень дзяржаўная тэлерадыёкампанія на чале з Рыгорам Кісялём адмовіла старшыні ВС-12 Мечыславу Грыбу ў радыёэфіры — і сьпікер прыехаў у менскае бюро Радыё Свабода, каб зачытаць зварот да грамадзянаў Беларусі з заклікам прыйсьці на выбары.

Сам я ў восеньскіх «давыбарах» ня ўдзельнічаў, хаця на травеньскіх выйшаў у другі тур ва Ўруцкай акрузе.

Я адчуваў, што ніводнага кандыдата ад БНФ улады не прапусьцяць. Тым ня менш трэба было скарыстаць усе магчымыя шанцы, і я патлумачыў Сойму БНФ свой няўдзел у выбарах тым, што лепей буду дапамагаць прабіцца ў дэпутаты іншым. На маё месца ва Ўруцкай акрузе пажадаў вылучыцца Ігар Гермянчук, рэдактар газэты «Свабода», дэпутат Апазыцыі БНФ, мой колішні аднакурсьнік. Але ён, як і іншыя нашыя кандыдаты, у парлямэнт ня быў дапушчаны.

У Фронце лічылі, што ў вакантных сталічных акругах могуць нечакана быць вылучаныя папулярныя сярод насельніцтва непалітычныя асобы, і таму разглядалі варыянты ў рэгіёнах. Найлепш у гэтым сэнсе выглядалі раёны, дзе на прэзыдэнцкіх выбарах Пазьняк сабраў найбольш галасоў.

Спыніліся на Смаргонях, дзе на прэзыдэнцкіх выбарах лідэр БНФ апярэдзіў і Лукашэнку (18%), і Кебіча (16%). У Смаргонскім раёне паказчык Пазьняка быў 34%. Тут мелася вялікая суполка БНФ — яна налічвала 250 чалавек. Народнаму Фронту ўдалося зарэгістраваць там 372 назіральнікі.



У 1995–1996 гг. нашая кватэра ва Ўруччы ператварылася ў падпольную друкарню. Галя за рызографам, размножвае ўлёткі кандыдатаў БНФ

Вырашылі вылучаць Пазьняка не ад партыі, на Сойме, а зборам подпісаў — што ўжо было пачаткам выбарчай кампаніі.

Улада таксама ацаніла выбар Пазьняка і кінула на Смаргоні ўсе сілы. Два месяцы ў раёне бязвылазна сядзеў прэзыдэнцкі дарадца Сяргей Посахаў. Мясцовыя жыхары ніколі ня бачылі такой колькасьці чыноўнікаў і «людзей у цывільным» зь Менску і Горадні.

Фармальна ў Пазьняка былі два канкурэнты — вылучэнец Камуністычнай партыі і доктар мясцовай лякарні (якая, між іншым, месьціцца там, дзе калісьці была славутая «Смаргонская акадэмія», у якой вучылі мядзьведзяў розным штукам).

Гэта прымушала дапускаць варыянт другога туру. Але незадоўга да галасаваньня прадстаўнік Кампартыі сваю кандыдатуру зьняў. Заставаліся два кандыдаты — Пазьняк і лекар Сьвятаслаў Савіцкі, які ня ўтойваў, што яго падтрымліваюць улады. Здавалася б, зьняцьце другога суперніка было на карысьць Пазьняку, бо менш канкурэнтаў. Насамрэч наадварот.

Зьняцьце камуністамі свайго кандыдата, па-першае, рабіла немагчымым другі тур, а па-другое, і гэта галоўнае — адсякала ад удзелу ў выбарах частку пракамуністычных грамадзян, якія прыйшлі б на ўчасткі галасаваць за свайго кандыдата-камуніста. А цяпер вось ня пойдуць.

Ключавыя словы тут не «прагаласавалі б за свайго кандыдата», а «прыйшлі б на ўчасткі», бо ў выпадку Пазьняка, які відавочна быў лідэрам, важнай была яўка выбарнікаў на ўчасткі.

Нешта падобнае было ўвесну ў акрузе былога міністра МЗС Пятра Краўчанкі: выбары прызналі несапраўднымі праз адсутнасьць належнай яўкі выбарнікаў — не хапіла 700 чалавек. Парадокс быў у тым, што калі б гэтыя 700 прыйшлі і ўсе як адзін аддалі б свае галасы за канкурэнта Краўчанкі, ён ўсё роўна быў бы выбраны.

Словам, улада прымянілі стратэгію зрыву выбараў.

Тое, што ў лістападзе 95-га ўлады рабілі ў Смаргонях, шмат для каго было шокам. Затое ў наступныя гады па ўсёй краіне гэта будзе даведзена да аўтаматызму, і слова «Ярмошына» набыло сапраўды эўрапейскую вядомасьць. Ды й сусьветную.

Лідэра БНФ не пускалі ў працоўныя калектывы, не дазвалялі праводзіць публічных сустрэч з выбар-

нікамі. 24 лістапада ў памяшканьні райвыканкаму быў знойдзены стос ананімных улётак, дзе Пазьняка называлі Гітлерам і фашыстам, абражалі ягоную маці. На запыты, пратэсты, звароты кандыдата ўлады не рэагавалі ні на месцах, ні ў вобласьці, ні ў сталіцы.

Пазьняк зьвярнуўся да эўрапейскіх структураў і праваабарончых арганізацый з заклікам накіраваць у Смаргоні міжнародных назіральнікаў, але зварот быў праігнараваны.

29 лістапада прайшло галасаваньне.

Адразу пасьля падліку галасоў карэспандэнтка Радыё Свабода Галіна Прыгара перадавала з Смаргоняў:

*Гэтая акруга адзіная ў Беларусі, дзе пры яўцы 67% выбарнікаў у галасаваньні выбары не адбыліся. Дэпутат не абраны таму, што выпалі несапраўдныя бюлетэні, дзе выкрасьленыя два прозьвішчы, ды тыя, дзе выбарнікі выкрасьлілі абодвух. Такіх 13%, прыкладна 2185 чалавек.*

Атрымлівалася, што кожны восьмы выбарнік прыйшоў, каб выкрасьліць абодвух кандыдатаў ці кінуць у скрынку чысты бюлетэнь. У сярэднім у Беларусі лічба несапраўдных бюлетэняў дасягала 5%, а ў Смаргонях у два з паловай разы больш. Яшчэ з таго рэпартажу:

*Ні на адным выбарчым участку ў Смаргонскай акрузе не было магчымасьці наладзіць належны кантроль. Міліцыянты ды члены камісіяў перашкаджалі назіральнікам хадзіць па выбарчым участку, каб сачыць за працэсам выдачы бюлетэняў. На некаторых выбарчых участках падчас падліку галасоў назіральнікі не былі дапушчаныя да нагляду,*

*ім проста дазволілі паглядзець потым ужо сфармаваныя стосы.*

Пазьняк не чакаў абвяшчэньня лічбаў — зьвяртаўся зь пісьмовымі заявамі да пракурора гораду ды старшыні акруговай выбарчай камісіі, тэлефанаваў старшыню КДБ Уладзімеру Ягораву, дзяжурнаму пракурору Генпракуратуры, прадстаўнікам Цэнтральнай выбарчай камісіі ў Менску.

Яшчэ з таго рэпартажу на Радыё Свабода:

*Як сказала пры сьведках у тэлефоннай размове з прадстаўніком мясцовай выканаўчай улады адна са старшыняў участковай камісіі: «Зрабілі ўсё, што маглі».*

Пасьля скаргі Пазьняка ЦВК накіравала ў Смаргоні адмысловую камісію для праверкі — камісія двойчы выяжджала туды і абодва разы вярталася з пацьверджанымі фактамі парушэньняў.

І вось 11 студзеня 1996 году, калі ўжо працаваў нававыбраны Вярхоўны Савет, ЦВК разглядзела вынікі праверак. Я быў на тым пасяджэньні. Адзін толькі пералік пацьверджаных (падкрэсьліваю: пацьверджаных) парушэньняў, які зачытваў член ЦВК Алесь Жук, заняў паўгадзіны.

Да непрапарцыйна вялікай, папросту нерэальнай колькасьці сапсаваных бюлетэняў (13% пры тым, што рэдка іх больш за 5%, а традыцыйна 1-2%) дадалося шмат чаго іншага.

Бюлетэні на ўчастках выдаваліся без паказваньня дакумэнтаў, ствaралася магчымасьць галасаваць двойчы.

Складаліся тайныя сьпісы выбарнікаў.

Колькасьць выбарнікаў не адпавядала сьпісачнаму складу ў пачатку галасаваньня і ў канцы.

Дапускалася галасаваньне без пашпартоў (пацыенты Слонімскай лякарні маглі прагаласаваць двойчы, яшчэ і па месцы жыхарства).

На ўчастках зьяўляліся людзі ў вайсковай форме, вызначыць ведамасную прыналежнасьць якіх не ўдалося.

На чатырох участках падлік галасоў быў штучна зацягнуты да 3 гадзін ночы (менавіта на тых участках колькасьць галасоў, пададзеных за Пазьняка, была найменшая).

Міліцыянтам было загадана не падпускаць назіральнікаў да скрыняў бліжэй за 10 мэтраў, і яны сьпінамі закрывалі сталы пры падліку галасоў.

У наступныя гады ўсё гэта зробіцца нормай, міліцыянты будуць ня проста закрываць бюлетэні, а і пачнуць сілай выводзіць назіральнікаў з памяшканьняў, а на прэзыдэнцкіх выбарах 2020-га атрады міліцыі асаблівага прызначэньня (АМАП) будуць затрымліваць, а потым катаваць тых, хто падыходзіў да ўчасткаў, каб даведацца пра вынікі галасаваньня.

Але тады ў Смаргонях улады шмат што выпрабоўвалі ўпершыню.

Самае галоўнае: як высьветліла камісія ЦВК, штучна завышаная колькасьць выбарнікаў у акрузе Пазьняка складала 561 чалавека; на пасяджэньні ЦВК было паведамлена, што ўсе старшыні ўчастковых камісіяў прызналіся, што рабілі гэта. Старшыня ЦВК Аляксандар Абрамовіч там жа, на пасяджэньні ЦВК, заявіў, што такія ўчынкі ўжо падпадаюць пад дзеяньне Крымінальнага кодэксу.

«Цяпер кіраўнікі ўчастковых камісіяў будуць даваць тлумачэньні ня нам, а праваахоўным органам», — адзначыў спадар Абрамовіч.

ЦВК вырашыла накіраваць матэрыялы ў пракуратуру, дзе яны і былі сьпісаныя ў архіў, каб калінебудзь зрабіцца здабыткам гісторыкаў.

У самой жа Цэнтральнай выбарчай камісіі было тры варыянты дзеяньняў. Першы — прызнаць выбары несапраўднымі і прызначыць новыя выбары. Другі — выкрасьліць са сьпісу 561 чалавека; у такім выпадку Пазьняк набірае больш за 50% і лічыцца абраным дэпутатам. І, нарэшце, не рабіць нічога.

І пры тым, што старшыня ЦВК сказаў пра крымінальнае парушэньне закону, што матэрыялы накіравалі ў пракуратуру, камісія зрабіла выснову, што істотных парушэньняў, якія паўплывалі б на вынікі галасаваньня, не было. І пакінула ў сіле ранейшае рашэньне акруговай камісіі.

Зрабіла ўсё, што магла.

Усім без выключэньня кандыдатам БНФ раптам не хапіла выбарнікаў.

Валянціну Голубеву для таго, каб лічыцца дэпутатам, не хапіла 67 галасоў. Пры гэтым выявілася, што ў сьпісы для галасаваньня былі ўключаныя грамадзяне, якіх там ня мусіла быць: памерлыя і прызваныя ў войска.

Старшыня 40-й участковай камісіі Сьцепанюк прызнаўся, што выкрасьліць са сьпісу прызваных у войска і памерлых (!) яму забараніў супрацоўнік Маскоўскага райвыканкаму г. Менску Дземяшкевіч.

ЦВК праверыла сьпісы з 40-га ўчастку — так, 19 чалавек ня мусілі там быць. Несумненна, падобнае было і на іншых адзінаццаці ўчастках (калі б аналягічная колькасьць была выяўленая хаця б яшчэ на трох участках, Голубеў набіраў бы патрэбныя для дэпутацтва 50% плюс адзін голас). Але ЦВК адмовілася іх правяраць.

Валянцін зьвярнуўся да нававыбранага Вярхоўнага Савету, аднак, як і варта было чакаць, безвынікова.

У дні, калі разглядаліся запыты кандыдатаў БНФ, абмяркоўвалі сытуацыю вакол дэпутата ад Віцебску Ўладзімера Гарбунова — прадстаўніка ня тое што прарасейскага, але нават праімпэрскага хаўрусу «Марскіх афіцэраў». Спачатку высьветлілася, што яго ня мелі права рэгістраваць кандыдатам у Віцебску, бо ён быў прапісаны ў Менскім раёне і не ўваходзіў у цэнтральны кіроўны орган якой-небудзь партыі. А потым аказалася, што Гарбуноў... ня меў права на беларускае грамадзянства.

Тым ня менш дэпутацкія паўнамоцтвы Гарбунова прызнаюць, а пасьля рэфэрэндуму 96-га ён будзе прызначаны ў Палату прадстаўнікоў, увойдзе ў міжнародную камісію так званага «парлямэнцкага сходу Беларусі і Расеі», заслужыць падзякі Лукашэнкі і атрымае 1-ю клясу дзяржаўнага службоўца.

Улада цягнула ў дэпутаты нават неграмадзянаў Беларусі, паставіўшы бэтонную заслону для тых, для каго незалежнасьць Беларусі была сэнсам жыцьця.

Некалькі словаў пра тое, як склаўся лёс некаторых удзельнікаў падзеяў.

Старшыня ЦВК Абрамовіч неўзабаве быў прызначаны намесьнікам кіраўніка Адміністрацыі прэзыдэнта, а ягоная дачка пазьней заняла пасаду чальца Канстытуцыйнага суду. Пабыў Абрамовіч і віцэ-сьпікерам Нацыянальнага сходу. Памёр у сьнежні 2018 году.

Памочнік прэзыдэнта палкоўнік Сяргей Посахаў, які ад адміністрацыі быў адным з каардынатараў выбараў у Смаргонскай акрузе, потым адыграў сваю ролю ў супрацьстаяньні Вярхоўнага Савету

з Лукашэнкам і рэфэрэндуме 1996 году. У адным з тэлеэфіраў Посахаў адправіў апазыцыю «гаўкаць на Бангалор» — плошчу, адведзеную ўладай для апазыцыйных мітынгаў.

Свой удзел у недапушчэньні прадстаўнікоў дэмакратычных сілаў, найперш БНФ, у парлямэнт, Посахаў у інтэрвію «Народнай волі» ў 2009 годзе абгрунтаваў тым, што, цытую: «Нават самая дэмакратычная палітыка мае ў сваім падмурку сілавы складнік». А свой досьвед выбарчых тэхналёгіяў абагульніў у доктарскай дысэртацыі «Выбарчыя тэхналёгіі і фармаваньне вышэйшых органаў улады ў Рэспубліцы Беларусь». Пазьней Посахаў зьехаў у Расею. «Я нарадзіўся ў Расеі. І прыехаў на сваю радзіму», — сказаў ён у інтэрвію «Народнай волі», заявіўшы, што «беларускі народ яшчэ не дасьпеў да поўнай свабоды».

Канкурэнт Пазьняка ў акрузе, лекар Сьвятаслаў Савіцкі, як я ўжо казаў, ня ўтойваў падтрымкі з боку вэртыкалі. Ён стаў кандыдатам навук, дэпутатам абласнога савету і галоўным доктарам Горадзенскай абласной лякарні. У пачатку 2019-га быў асуджаны на чатыры гады пазбаўленьня волі за незаконныя фінансавыя дзеяньні і шкоду дзяржаве памерам больш як на 40 тысяч рублёў.

Гэтыя і іншыя асобы, ад простых сяброў участковых камісій да старшыні ЦВК, ад участковых міліцыянтаў да генэральнага пракурора, зрабілі ўсё, што маглі, каб не выконваць сваіх абавязкаў перад законам і Канстытуцыяй.

Адсутнасьць у новым Вярхоўным Савеце прадстаўнікоў БНФ, асабліва з досьведам парлямэнцкай і палітычнай барацьбы, адыграла крытычную ролю ў падзеях, якімі завяршаецца гэтая кніга.

## Не сядзіцца дома, цягне яго Крэмль

«Ня бойцеся, сёлета Лукашэнка на расейскія выбары ня пойдзе, — супакоіў у пачатку 96-га кіраўнік прэзыдэнцкай адміністрацыі Леанід Сініцын аглядальніка маскоўскіх „Известий“ Ота Лацыса. — А вось потым...»

Гэтае «потым», улічваючы кволае здароўе Ельцына (і 5% рэйтынгу), магло надысьці ў любы момант.

У 1996-м Беларусь ужо другі год была ўнікальнай краінай, кіраўнік якой меў за мэту яе ліквідацыю як незалежнай дзяржавы.

Парадаксальна, але гэтую асаблівасьць Лукашэнкі доўгі час ня будуць заўважаць многія палітычныя аналітыкі, выстройваючы розныя мудрагелістыя тэорыі, якія б тлумачылі незразумелыя і алягічныя паводзіны беларускага прэзыдэнта.

У самае простае тлумачэньне ім паверыць было цяжка.

Між тым імкненьне Лукашэнкі зрабіцца кіраўніком аб'яднанай дзяржавы было тым, што на гады вызначыла як вонкавую, так і ўнутраную палітыку Беларусі.

«Ён вельмі хацеў трапіць у Крэмль — гэта ні для кога не сакрэт», — скажа Станіслаў Шушкевіч у інтэрвію тэлеканалу «Настоящее время» летам 2019-га.

Але ў 1996-м у гэта мала хто верыў. Годам раней у газэце «Свабода» я надрукаваў артыкул «Мэта», у якім паспрабаваў аргумэнтаваць шанцы Лукашэнкі зрабіцца гаспадаром Крамля — у выпадку ўваходжаньня Беларусі ў склад Расеі. Шанцы гэтыя выглядалі зусім не благімі, бо ён успрымаўся б




Карыкатура з газэты «Свабода»

расейскім насельніцтвам як чалавек, які «вярнуў» ім Беларусь. Артыкул быў напісаны па-расейску — каб прачыталі ў тым жа Крамлі. І, як потым казаў мне міністар замежных спраў Пятро Краўчанка, у Маскве яго сапраўды прачыталі.

Камэнтавалі публікацыю і ў расейскай, і ў беларускай прэсе. Для большасьці крамлёўскія амбіцыі Лукашэнкі здаваліся фантазіяй аўтара публікацыі.

Сур’ёзна паставіліся да гэтага толькі ў БНФ, а Васіль Быкаў неўзабаве пасьля публікацыі сказаў, што цалкам пагаджаецца з маімі высновамі і што іранічнае стаўленьне да артыкулу лічыць памылковым. Нешта кшталту таго, што людзі ня хочуць заўважаць тое, што не ўкладаецца ў звыклыя схемы.

Сьведчаньні пра крамлёўскія амбіцыі Лукашэнкі, як правіла, ускосныя. Ніхто не прызнаўся, што асабіста яму Лукашэнка гаварыў пра імкненьне зрабіцца прэзыдэнтам Расеі (альбо аб’яднанай дзяржавы). Але спасылаюцца на словы тых, каму ён

абавязаны прыходам да ўлады і хто ў першыя гады прэзыдэнцтва ўваходзіў у кола ягоных канфідэнтаў.

Найперш — ужо прыгаданага Леаніда Сініцына, кіраўніка перадвыбарчага штабу у 1994 годзе і першага кіраўніка прэзыдэнцкай адміністрацыі.

Словаў, якія працытую, Сініцын ніколі не абверг.

У кнізе «Дзевяноста чацьвёрты» ў разьдзеле, цалкам прысьвечаным асобе Сініцына, я паспрабаваў прааналізаваць некаторыя моманты ягонай біяграфіі, якія сьведчаць на карысьць ягоных (сфармулюю мякка) асаблівых адносінаў са службай, якую з савецкіх часоў прынята называць «кампэтэнтнай».

Адразу пасьля першых прэзыдэнцкіх выбараў у 94-м Пазьняк заявіў, што Лукашэнка — стаўленік маскоўскіх спэцслужбаў, і гэта абсалютнай большасьці здалося нерэальным. Праз 26 гадоў кіеўскі палітычны аналітык Віталь Портнікаў выказаў перакананьне, што выбары 1994 году былі спаборніцтвам дзьвюх «крамлёўскіх вежаў» — партыйна-дзяржаўнага апарату, які ставіў на Кебіча, і ФСБ, якая падтрымлівала Лукашэнку.

Ня лішне будзе дадаць, што значна пазьней, праз шмат гадоў пасьля сваёй адстаўкі, у верасьні 2012 году, у інтэрвію Віктару Марціновічу ў «Белорусской газете» Сініцын пацьвердзіў, што «с самого начала моей работы с Лукашенко нас объединяла именно тема интеграции». «Я хочу жить в сильном государстве. Не в маленьком и слабом, а в большом и сильном», — патлумачыў Сініцын сваю ініцыятыву правесьці рэфэрэндум аб аб’яднаньні Беларусі і Расеі. У 1994 годзе Сініцын быў рухавіком выбарчай кампаніі Лукашэнкі, у 1995-м — архітэктарам рэфэрэндуму пра мову, сымбалі і эканамічнае

аб’яднаньне з Расеяй (і нават намаляваў эскіз герба), а ў пачатку 1996-га спрыяў Лукашэнку ў тым, што Беларускі Народны Фронт ацэньваў як ліквідацыю сувэрэнітэту.

Для чалавека, які цягам двух гадоў (1994–1996) рэальна быў другой асобай у краіне, незалежнасьць яе не азначала нічога. Беларусь была для яго замалая, хацелася краіны вялікай.

Дэпутат ВС 12-га і 13-га скліканьняў Генадзь Карпенка лічыў, што распараджэньне на палітычны «штурм Крамля» каманда Лукашэнкі атрымала ў канцы 1995 году, пасьля ягонай паездкі ў Цюмень, дзе ён сустрэў цёплы прыём.

Гэта пацьвярджае і Васіль Лявонаў, які ў 80-х на пасадзе 1-га сакратара Магілёўскага абкаму фактычна выпісаў Лукашэнку пуцёўку ў палітыку, пасьля прэзыдэнцкіх выбараў атрымаў пасаду міністра сельскай гаспадаркі, а потым, пад тэлекамэры, быў арыштаваны ў сваім міністэрскім кабінэце і адседзеў некалькі гадоў.

У 2009-м Лявонаў даў інтэрвію журналісту Радыё Свабода Віталю Цыганкову.

Цыганкоў: *...Шмат якім членам каманды першага прэзыдэнта я задаваў пытаньне: калі Лукашэнка перастаў слухаць іншых, калі ён вырашыў, што будзе сам усім камандаваць?*

Лявонаў: *Пасьля рэфэрэндуму 1995 году за двумоўе і інтэграцыю з Расеяй. Тады мяне паклікаў пагаварыць кіраўнік Адміністрацыі Леанід Сініцын. І сэнс гутаркі быў такі: у нас малады Аляксандар Рыгоравіч, у Маскве — стары і лядашчы Ельцын. Уступай у каманду, не патрэбен нам сувэрэнітэт, давай будзем працаваць на заваёву Крамля. Я адказаў, што ў гэтай авантуры ня ўдзельнічаю.*

Цыганкоў: *Ці было заваёва Крамля галоўнай мэтай усёй гэтай «інтэграцыі», ці галоўнай мэтай было «даіць» Расею? А Крэмль — другаснае, калі атрымаецца?*

Лявонаў: *Не, менавіта Крэмль быў галоўнай мэтай. Ельцын гуляў сваю гульню, яму трэба было апраўдацца перад народам за Белавескія пагадненьні, забраць інтэграцыйную карту ў камуністаў.*

Цыганкоў: *І калі адбыўся паваротны момант? У 1998-м, калі Чубайс убачыў праект дамовы, які даваў Лукашэнку велізарныя саюзныя паўнамоцтвы, і разгарнуў яго?*

Лявонаў: *Не, Лукашэнка зразумеў, што ўсё скончылася, толькі тады, калі прэзыдэнтам Расеі стаў Пуцін.*

Цыганкоў: *Значыць, у Лукашэнкі ёсьць усе прычыны, мякка кажучы, не любіць Пуціна?*

Лявонаў: *Так, і гэта пацьвярджае маю думку пра тое, што для Лукашэнкі галоўнай мэтай быў Крэмль, і менавіта Пуцін яе перакрыў.*

Красамоўную падборку цытатаў Лукашэнкі зрабіў у сваёй кнізе «Аляксандар Лукашэнка. Палітычны партрэт» палітоляг Валер Карбалевіч.

*«Каму патрэбен сувэрэнітэт пры беднай нацыі?» (сьнежань 1998). «Ня трэба баяцца, палохаць фэдэрацыяй або канфэдэрацыяй. Можа, мы прыйдзем зноў да Савецкага Саюзу, і можа быць, больш жорсткага, чым у Савецкім Саюзе (сакавік 1996). «Можа быць, гэта будзе адзіная дзяржава, можа быць — фэдэрацыя, можа быць — канфэдэрацыя. Мы да гэтага мусім прыйсьці» (чэрвень 1997).*

Я мог бы дапоўніць гэтыя цытаты іншымі, але гэта зойме некалькі старонак. Апагеем зрабілася падпісаньне зь Ельцыным у сьнежні 1999 году па-

гадненьня аб стварэньні «саюзнай дзяржавы» Беларусі і Расеі (Васіль Быкаў назваў гэта «злачынствам стагодзьдзя»). Але паціраць рукі і рыхтавацца да апошняга бліцкрыгу на Крэмль Лукашэнку давялося нядоўга: празь некалькі тыдняў Ельцын пайшоў у адстаўку, пакінуўшы пераемнікам Пуціна.

З таго часу інтэграцыйная рыторыка ў Лукашэнкі хаця і захавалася, але зрабілася менш наступальнай і больш настальгічнай; Ельцына ўжо не было ў Крамлі, і Лукашэнка дазваляў сабе заяўляць, што тыя, хто падпісаў Белавескія пагадненьні, атрымаюць праклён сваіх народаў.

Лукашэнка ніколі не прыгадваў рашэньне Вярхоўнага Савету аб абвяшчэньні незалежнасьці, прынятае 25 жніўня 1991 году. Ён увогуле не дапускаў думкі, што ўжо да Віскулёў практычна ўсе былыя савецкія рэспублікі (за выключэньнем Казахстану) дэ-юрэ былі незалежнымі краінамі. Ён не жадаў дапусьціць, што незалежнасьць ня вынік «злой волі» падпісантаў Белавескіх пагадненьняў, «народных франтоў», Захаду, а спрадвечнай волі пакаленьняў.

Беларускай нацыянальнай гісторыі для яго не існавала, і ён быў перакананы ў сваёй уласнай гістарычнай місіі — аднавіць імпэрыю, хай бы нават і ў выглядзе аб’яднаньня дзьвюх дзяржаў. На чале якой будзе, безумоўна, ён — хто ж яшчэ? Ня Ельцын жа, які «разваліў Саюз».

Аднак для аб’яднаньня з Расеяй Лукашэнку ў самой Беларусі трэба было зьнішчыць нацыянальна-дэмакратычныя сілы і ўсталяваць рэжым абсалютнай улады. Гэта і зрабілася ляйтматывам ягоных дзеяньняў у 1996 годзе.

А значыць — і нашага, актывістаў Беларускага Народнага Фронту, супраціву такім намерам.

## Расейскія дэпутаты ідуць у СССР, а трапляюць у канфуз

15 сакавіка 1996 году Дзяржаўная Дума Расеі на ініцыятыву камуністаў прагаласавала за дэнансацыю Белавескіх пагадненьняў аб спыненьні існаваньня СССР. У гэтым быў і прапагандысцкі разьлік — яно, відавочна, было накіравана супраць удзельніка сустрэчы ў Віскулях Ельцына.

Пастанову пракамуністычнага расейскага парляманту нэгатыўна ўспрынялі практычна ўсе кіраўнікі СНД і выказалі падтрымку Ельцыну — за выключэньнем прэзыдэнтаў Беларусі і Таджыкістану.

Паказальнай была рэакцыя прэзыдэнта Казахстану Нурсултана Назарбаева, які ў свой час да апошняга спадзяваўся на захаваньне СССР — аж нагэтулькі, што Казахстан абвясьціў сувэрэнітэт толькі праз тыдзень пасьля падпісаньня Белавескіх пагадненьняў, 16 сьнежня 1991 году. А ў сакавіку 96-га Назарбаеў на нацыянальнай тэлевізіі заявіў:

*Учора ўвечары я меў тэлефонную размову з Барысам Ельцыным, які яшчэ раз пацьвердзіў сваю думку наконт таго, што рашэньне дзярждумы неправамернае і ня мае юрыдычнай сілы. У сіле застаюцца раней падпісаныя ў рамках СНД дакумэнты.*

*Цяпер бы я хацеў патлумачыць грамадзянам Казахстану сваю пазыцыю. Калі нехта думае, што мы хочам мець шчыльныя адносіны з Расеяй ад нашай слабасьці, то гэта ня так: мы нізавошта не адмовімся ад незалежнасьці, пра якую марылі нашы дзяды і бацькі.*

*Як кіраўнік дзяржавы я буду выконваць тое, што запісана ў нашай Канстытуцыі. І заяўляю, што*

*Казахстан будзе адстойваць сваю незалежнасьць у любым выпадку. А калі нейкія партыі і арганізацыі мараць аднавіць СССР, што накіравана супраць тэрытарыяльнай цэласнасьці Казахстану і яго сувэрэнітэту, то я як прэзыдэнт буду вымушаны забараніць дзейнасьць такіх партый у Казахстане, а супраць іх лідэраў ужыць адпаведныя захады.*

*Хачу асобна зьвярнуцца да інтэлігенцыі і адукаваных людзей: мы не павінны траціць пільнасьці і самазаспакойвацца. Мы мусім даць зразумець, што ніхто сілай альбо нейкімі іншымі мэтадамі ня зможа адняць у нас нашай незалежнасьці.*

*Ужо ўся сусьветная супольнасьць прызнала Казахстан незалежнай, сувэрэннай дзяржавай. Мы сябры многіх міжнародных арганізацыяў, а абвяшчэньне ў свой час сувэрэнітэту нашай краіны было гістарычным рашэньнем Казахстану.*

Нічога падобнага не маглі пачуць ад кіраўніка сваёй дзяржавы грамадзяне Беларусі. Калі Назарбаеў прыраўняў заклікі аб аднаўленьні СССР да антыканстытуцыйных дзеяньняў (і ясна даў зразумець пра крымінальныя наступствы), дык «развал Саюзу» Лукашэнка адкрыта называў злачынствам. Калі Назарбаеў апэляваў да нацыянальнай эліты — Лукашэнка абражаў найлепшых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі. Назарбаеў казаў, што незалежнасьць была марай бацькоў і дзядоў (хай нават і забыўшыся пра сваю пазыцыю ў 91-м) — Лукашэнка ж пляны стварэньня канфэдэрацыі з Расеяй называў выпраўленьнем гістарычнай памылкі.

На нарадзе з прэм’ер-міністрам, сьпікерам Вярхоўнага Савету і членамі прэзыдыюму ВС Лукашэнка вітаў пастанову расейскіх дэпутатаў і за-

явіў, што яна паспрыяе хутчэйшаму аб’яднаньню Беларусі і Расеі.

Аднак хутка зразумеў, што Ельцыным гэта можа быць успрынята нэгатыўна, і пасьпяшаўся даць задні ход.

*Пастанова Дзяржаўнай Думы Расеі аб дэнансацыі белавескіх пагадненьняў стала для мяне асабістай трагедыяй, — заявіў на праведзенай 20 сакавіка сустрэчы з кіраўніцтвам дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі «Мір» і дырэктарамі яе нацыянальных прадстаўніцтваў у краінах СНД прэзыдэнт Беларусі Аляксандар Лукашэнка. — З аднаго боку, усім вядомыя мае намаганьні, накіраваныя на больш цесную інтэграцыю дзяржаў Садружнасьці, і я, па ідэі, мусіў бы радавацца рашэньню расейскай Дзярждумы. Аднак я балюча ўспрымаю гэтую сытуацыю, бо ў нас з прэзыдэнтам Расеі Барысам Ельцыным таксама маюцца аб’яднальныя пляны, і мы ўжо нямала зрабілі ў гэтым кірунку. («Советская Белоруссия», 23 сакавіка 1996).*

Мы ж у БНФ убачылі ва ўсім гэтым яшчэ адно пацьверджаньне небясьпечнай для сувэрэнітэту тэндэнцыі і правялі прэсавую канфэрэнцыю, на якой намесьнік старшыні Фронту Лявон Баршчэўскі зачытаў заяву:

*Пастанову Дзяржаўнай Думы Расеі аб дэнансацыі Белавескіх пагадненьняў можна было б вітаць, паколькі яна сьведчыць ад радыкальным выхадзе Расеі з СНД... Не сумняваемся, што краіны, якія ўваходзяць у Садружнасьць Незалежных Дзяржаў, уздыхнулі б з палёгкай, калі б гэты крок расейскай Думы быў прадыктаваны высакароднымі мэтамі свабоды і дэмакратыі.*

*...Дэпутаты Думы прастадушна меркавалі, што з дэнансацыяй аўтаматычна вяртаецца Савецкі Саюз. У выніку атрымаўся канфуз. Такая палітыка вартая жалю. Ініцыятарамі яе ў Расеі, як і паўсюдна ў краінах СНД, зьяўляюцца камуністы, а рэальнай прычынай — прага авалоданьня ўладай, бо набліжаюцца прэзыдэнцкія выбары ў Расеі. На авантурную ініцыятыву Барыса Ельцына і Аляксандра Лукашэнкі аб канфэдэрацыі Расеі зь Беларусьсю камуністы адказалі яшчэ большай авантурай — вярнуць СССР.*

Зянон Пазьняк сказаў, што такая дэнансацыя магла б мець і станоўчы эфэкт, бо тады Беларусь выходзіць з сыстэмы Калектыўнай бясьпекі і іншых дамоваў СНД. Але:

*Тое, што адбылося ў расейскай Думе, гэта чыста прапагандысцкі крок, накіраваны на тое, каб падабраць увесь электарат, які сумуе па Савецкім Саюзе, па камуністах. Тым ня менш мы вырашылі, што ня можам пакінуць без увагі гэтую падзею.*

Таксама БНФ зьвярнуўся да прэзыдэнта Ельцына і расейскага ўраду:

*Мы гатовыя любой цаной абараніць нашыя дзяржаўныя інтарэсы, аднак спадзяёмся, што ў Расеі дастаткова палітыкаў, якія не дапусьцяць ускладненьняў і будуць будаваць добрасуседзкія стасункі зь Беларусьсю як з сувэрэнным і роўным партнэрам.*

Адрозна ад лідэра Казахстану, які пасьпеў ацаніць усе перавагі незалежнай дзяржавы, кіраўнік Беларусі ўспрымаў сваю краіну як прадмет для выгаднага гандлю.

Лукашэнку не цікавіла аднаўленьне СССР у ранейшых межах — яму трэба было аб’яднаньня толькі з адной краінай, з Расеяй. І менавіта пад

гэта і была падрыхтаваная дамова паміж Беларусяй і Расеяй.

Але падобныя дамовы патрабуюць ратыфікацыі парлямэнтамі, і парлямэнт у Беларусі, нягледзячы на перашкоды, існаваў — нававыбраны Вярхоўны Савет 13-га скліканьня пачаў працу 9 студзеня 1996 году (у гэты ж дзень дэ-юрэ скончыліся і паўнамоцтвы ВС 12-га скліканьня). Старшынём прэзыдыюму выбралі калегу прэзыдэнта па прафэсіі, былога старшыню калгасу Сямёна Шарэцкага.

Супраць ратыфікацыі дамовы Беларусі і Расеі, якая пагражала незалежнасьці, прагаласавалі толькі тры дэпутаты — Людміла Гразнова, Аляксандар Дабравольскі і Станіслаў Багданкевіч. Праўда, некаторыя дэпутаты ня ўдзельнічалі ў галасаваньні ўвогуле, бо таксама не падтрымлівалі дамову. Але большасьць дэпутатаў падтрымалі.

А сьпікер Сямён Шарэцкі ўвогуле заявіць, што дзень падпісаньня дамовы — самы шчасьлівы дзень у ягоным жыцьці.

Але шчасьце, як пакажуць далейшыя падзеі, капрызная асоба.

## Прэзыдэнт і сьпікер крочаць нага ў нагу

Новы Вярхоўны Савет нагадваў... парлямэнт.

Прынамсі, у рэпартажы зь першага дня новага Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня карэспандэнт газэты «Свабода» Віталь Цыганкоў зазначыў, што «шэрасьць і безасабовасьць — асноўныя якасьці, якія былі ўласьцівыя парлямэнцкай большасьці 12-га скліканьня. Першыя дні працы новага Вярхоўнага Савету прымушаюць канстатаваць, што цяпер

у Авальнай залі пануюць іншыя настроі. У новым парлямэнце ўсё неяк больш выразна, адкрыта, настойліва. Камуністы самыя сапраўдныя: ідэйныя і агрэсіўныя. Вэртыкальшчыкі не зьбіраюцца хаваць сваю любоў да „бацькі”, дэманструючы (часам нават занадта) адданасьць і вернасьць. Дэмакраты з прычыны адсутнасьці масавасьці напіраюць на інтэлект і прафэсійнасьць». («Свабода», 12 студзеня 1996).

Наведваючы Авальную залю ўжо ў якасьці не дэпутата, а журналіста, я заўважыў гэтую камуністычную агрэсіўнасьць.

Але відаць было і іншае: толькі тры дэпутаты (Знавец, Шушкевіч і часам Дабравольскі) прамаўлялі па-беларуску. А галоўнае — было адчуваньне, што практычна ўсе (і дэмакраты не выключэньне) ня бачаць ніякай небясьпекі ў «інтэграцыйных» памкненьнях Лукашэнкі.

Абсалютна паслухмяным дэпутацкі корпус ня быў. Ужо ў першы дзень працы новы парлямэнт зламаў сцэнар Лукашэнкі, адмовіўшыся ад ягонай прапановы заслухаць прэзыдэнцкі выступ на закрытым паседжаньні, прычым лідэр камуністаў Сяргей Калякін абверг словы Лукашэнкі, што ініцыятыва такой формы пасяджэньня зыходзіла ад ягонай фракцыі. Не атрымалі чаканага эфэкту і спробы скампрамэтаваць былога старшыню Нацбанку Станіслава Багданкевіча (праўда, ён ня быў абраны віцэ-сьпікерам). Насуперак жаданьню Лукашэнкі, намесьнікам старшыні ВС выбралі Генадзя Карпенку.

За ўладу Вярхоўны Савет паспрачацца з Лукашэнкам мог (хаця і не заўсёды пасьпяхова).

А вось за незалежнасьць Беларусі — нават спрачацца не жадаў.

Ня мог на ўзроўні парлямэнцкіх рашэньняў супрацьстаяць інтэграцыйным памкненьням Лукашэнкі і Беларускі Народны Фронт, бо мы ня мелі сваіх дэпутатаў.

Новыя дэпутаты ўвогуле рабілі выгляд, што ніякай Апазыцыі БНФ у сьценах Авальнай залі ніколі не існавала. Гэта выразна праявілася ў нежаданьні разглядзець пытаньне аб пабіцьці дэпутатаў БНФ у Авальнай залі ў ноч на 12 красавіка 1995 г.

Сьпікер Сямён Шарэцкі, як і прэзыдэнт, быў аграрыем — старшынём Аграрнай партыі, раней кіраўніком перадавога калгасу на Меншчыне. Прапагандысцкая кампанія Шарэцкага на выбарах вызначалася заклікамі да аднаўленьня СССР і паліваньнем гразьзю Пагоні і бел-чырвона-белага сьцяга.

Вось цытата са стэнаграмы сэсіі ВС 13 скліканьня 28 лютага 1996 году, падчас зацьвярджэньня на пасаду генэральнага пракурора Васіля Капітана. Папярэдні генпракурор, Васіль Шаладонаў, быў зьняты з пасады пасьля таго, як завёў крымінальную справу аб пабіцьці дэпутатаў БНФ.

Старшыня. *Чтобы быстрее пошло дело, я предлагаю на обсуждение, кандидатуры, на вопросы отвести десять минут. Есть другие предложения? Ставится на голосование вопрос. Пожалуйста, пятый микрофон.*

Ганчар В.І. *Уважаемые депутаты! Процедура обсуждения уже выдержана. Мы тщательно обсудили и во фракциях, и в головных комиссиях. В этой связи нам необходимо поддержать первое предложение, первую кандидатуру, которая вынесена*



Галадоўка дэпутатаў Апазыцыі БНФ. Сяргей Навумчык, Зянон Пазьняк, Лявонці Зданевіч, Мікалай Крыжаноўскі, Ігар Гермянчук, Мікола Маркевіч, Сяргей Папкоў. За прэзыдэнцкай трыбунай – Лукашэнка. 11 красавіка 1995

*Председателем Верховного Совета. В этой связи я предлагаю перейти к голосованию (Аплядысмэнты).*

Сьпікер Шарэцкі прапануе абмеркаваць прэтэндэнтаў на пасаду генэральнага пракурора (уключна з пытаньнямі да іх і адказамі) за дзесяць хвілінаў, дэпутат Ганчар прапаноўвае ўвогуле больш не абмяркоўваць і прагаласаваць за адну кандыдатуру.

Дэпутаты так і робяць — выбіраюць генэральным пракурорам Васіля Капітана. Але адзіны ў Вярхоўным Савеце прадстаўнік Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады Павал Знавец хоча

пачуць ад генпракурора адказ на пытаньне пра падзеі, якія адбыліся ў сьценах Авальнай залі дзесяць месяцаў таму. Ізноў фрагмэнт стэнаграмы.

Знавец П.К. *Я прашу Васіля Сьцяпанавіча адказаць на адно пытаньне. Я прашу прабачэньня, выслухайце аргумэнтацыю. Адно пытаньне, якое...*

Старшыня. *Садитесь, пожалуйста. Уже было время задавать вам вопросы.*

Знавец П.К. *Паважаныя дэпутаты! Па даручэньні групы дэпутатаў мінулага парлямэнту, якія былі пабітыя тут і выкінутыя АМОНам 12 красавіка 1995 году ў 2.50 ночы. У акце ўдзельнічалі 150 байцоў спэцатраду. Я хацеў бы пачуць ад новага генэральнага пракурора тлумачэньне, як гэтая справа зараз ідзе...*

Старшыня. *Уважаемый депутат! Вопрос закончен.*

Праз некалькі месяцаў Лукашэнка гвалтам спыніць паўнамоцтвы Вярхоўнага Савету і яго сьпікера Шарэцкага, атрад АМАПу выштурхне з кабінэту старшыню Цэнтральнай выбарчай камісіі Ганчара. Яшчэ праз тры гады Шарэцкі апынецца ў эміграцыі, а Ганчар прападзе.

Але ў лютым 96-га дэпутаты спадзяваліся на кампраміс і супрацоўніцтва з Лукашэнкам. Слова «апазыцыя» ў іх зваротах не гучала.

Фрагмэнт з рэпартажу парлямэнцкага карэспандэнта Радыё Свабода Галіны Айзэнштат:

*Уведзены новы рытуал уваходу прэзыдэнта і старшыні Вярхоўнага Савету ў залю парлямэнту. Усе дэпутаты на сваіх месцах у чаканьні, і вось у адчыненыя дзьверы ўваходзяць і, нага ў нагу, ідуць побач Аляксандар Лукашэнка зь Сямёнам Шарэцкім. Як быццам на ўрачыстай цырымоніі ці*

*то ў замежжы, ці то сустракаючы гасьцей у сябе дома. У такім жа парадку абодва кіраўнікі і выходзілі з залі падчас перапынку паміж пасяджэньнямі, такім чынам публічна дэманструючы згоду.*

Такім чынам — згода.

У сваім жаданьні знайсьці паразуменьне з Лукашэнкам сьпікер новавыбранага парлямэнту Сямён Шарэцкі здаваў адну пазыцыю за другой.

*Шарэцкі, здаецца, добраахвотна трапіў у адну псыхалягічную пастку, якая называецца «жаданьне супрацоўнічаць з прэзыдэнтам». Гэтае жаданьне можна было б, безумоўна, ухваліць, каб не адна непрыемная акалічнасьць — менш за ўсё прагне з кімнебудзь «супрацоўнічаць» сам Лукашэнка. Сыстэма ягоных узаемаадносінаў зь іншымі галінамі ўлады зводзіцца да немудрагелістай «альтэрнатывы»: падпарадкаваць альбо зьнішчыць... Некаторых дэпутатаў непрыемна зьдзівіла, зь якой незразумелай настойлівасьцю Сямён Шарэцкі спрабаваў правесьці праз Вярхоўны Савет прэзыдэнцкія пажаданьні. Наступная непрывабная сытуацыя стварылася вакол жаданьня Шарэцкага адклікаць з Канстытуцыйнага суду ўсе справы, ініцыятарам якіх выступіў ягоны папярэднік Мечыслаў Грыб. Няўцямнае тлумачэньне сьпікерам сваіх паводзінаў выклікае ў лепшым выпадку іронію... Фактычна не было яшчэ ніводнай вострай праблемы, аб якой Шарэцкі выказаўся б максымальна цьвёрда і канкрэтна, без размытых агаворак* (Віталь Цыганкоў, «Свабода», 23 лютага 1996).

Пазыцыя сьпікера ў крытычных сытуацыях можа быць вызначальнай — а што такія сытуацыі ўзьнікнуць і што супрацьстаяньне парлямэнту і Лукашэнкі непазьбежнае, мы не сумняваліся.

Таму Пазьняк імкнуўся паўплываць на Шарэцкага. На Сойме БНФ быў прыняты заклік да новых дэпутатаў «адстойваць незалежнасьць Беларусі і асноўныя нацыянальна-культурныя каштоўнасьці». Рабіліся і іншыя крокі: «Днямі адбылася гутарка паміж Сямёнам Шарэцкім і Зянонам Пазьняком, ініцыятарам якой быў лідэр БНФ. Абмяркоўваліся пэрспэктывы супрацоўніцтва парлямэнту і грамадзкіх арганізацыяў, міжпартыйных сувязяў, а таксама некаторыя іншыя пытаньні». («Свабода», 23 лютага 1996).

Галоўнай небясьпекай у пачатку 1996-га было тое, што ўзмацненьне антыдэмакратычнага рэжыму Лукашэнкі ішло паралельна зь яшчэ больш небясьпечнай тэндэнцыяй — павялічвалася пагроза страты дзяржаўнай незалежнасьці.

У такой сытуацыі для нас, актывістаў БНФ, вельмі важна было даказаць грамадзтву, што нацыянальная ідэя ня зьнікла, што ёсьць сілы, здольныя змагацца за незалежнасьць.

Але рабіць гэта Беларускаму Народнаму Фронту давялося ў як ніколі аслабленым становішчы.

## Інжынэр-мэханік піша пра мэханізмы нацыянальнай здрады

Гавораць, што лепш раз убачыць, чым сто разоў пачуць. Дык вось у гэтым разьдзеле будзе паказана сытуацыя пачатку 1996 году, як яе пабачыў ня аўтар, зацікаўленая асоба і сам удзельнік падзеяў, ужо былы дэпутат і журналіст, а адзін з выбарнікаў, назавем яго пакуль толькі так.

Галоўнай асаблівасьцю моманту было тое, што Фронт апынуўся па-за сыстэмнай палітыкай і пры гэтым заставаўся фактычна адзінай палітычнай арганізацыяй, якая без усялякіх кампрамісаў выступала за незалежнасьць Беларусі.

Дзяржаўныя СМІ камэнтавалі адсутнасьць фронтаўцаў у новым парлямэнце зьедліва, недалёка адыходзілі ад іх і незалежныя выданьні (за выключэньнем «Свабоды» Ігара Герменчука ды некалькіх рэгіянальных кшталту «Выбару» Барыса Хамайды ў Віцебску ды «Пагоні» Міколы Маркевіча ў Горадні).

Асабліва балюча адсутнасьць у парлямэнце дэпутатаў БНФ успрынялі фронтаўцы ў рэгіёнах. У вёсцы ці ў райцэнтры значна цяжэй, чым у сталіцы, супрацьстаяць начальству, і дэпутаты вельмі часта абаранялі фронтаўцаў.

А цяпер яны адну за другой чыталі публікацыі палітолягаў пра тое, што ўсё, канец Народнаму Фронту. «Ніколі ўжо ня пройдзе калёна БНФ пад бел-чырвона-белымі сьцягамі», — пісаў журналіст Анатоль Майсеня. «Рана вы нас хаваеце!» — адказваў я яму (гэта калі зьвесьці нашую дыскусію да дзьвюх фразаў).

Але найбольш поўнае тлумачэньне сытуацыі, як мне здаецца, прагучала ў лісьце ў газэту «Свабода» інжынэра-рачніка з Горадні Аркадзя Жукоўскага.

Ён быў прыкметнай фігурай у Горадні. У 60-я скончыў караблебудаўнічы інстытут у Ленінградзе, працаваў у Касьпійску ў Дагестане, у пачатку 70-х вярнуўся ў Беларусь і дваццаць гадоў быў галоўным інжынэрам Горадзенскага рачнога порту. У канцы 80-х уваходзіў у суполку «Паходня», якую ўзначальваў гісторык Міхась Ткачоў. У 1989-м удзель-

нічаў ва Ўстаноўчым зьезьдзе БНФ у Вільні, быў адным з заснавальнікаў скаўцкага руху ў Беларусі.

Жукоўскі быў прадстаўніком той палітычна актыўнай часткі тэхнічнай інтэлігенцыі, якая ў Фронце была бадай што большай за гуманітарную. Так што, калі я назваў Аркадзя Жукоўскага проста «выбарнікам», я даў няпоўную характарыстыку: ён быў актыўным грамадзянінам.

Ягоны допіс прыводжу амаль цалкам.

*На мой погляд, бяда БНФ ня столькі ў капіяваньні стратэгіі франтоў Прыбалтыкі, што нібыта напужала значныя прадэмакратычныя слаі, колькі ў адносінах гэтых слаёў да нацыянальна-вызвольнага руху. Мясцовыя дэнацыяналізаваныя дэмакраты з адукаваных слаёў (як і тыя, хто прыехалі ў Беларусь здалёк) працягваюць успрымаць новае Адраджэньне як зьяву недарэчную, заўчасную, як прыдумку вузкага кола дзеячоў культуры і мастацтва. Займаючы значнае становішча ў грамадзка-палітычным жыцьці, гэтыя колы перадалі сваю пазыцыю больш простай публіцы (балазе, улады былі ў гэтым зацікаўленыя). Увесь іх дэмакратычны зарад быў скарыстаны на падтрымку барацьбы БНФ з 6-м артыкулам Канстытуцыі СССР аб вядучай ролі КПСС. Відаць, адціснаньне ад улады абрыдлай намэнклятуры было адзінай мэтай іх саюзу з БНФ.*

*Аналітыкі дзейнасьці БНФ з гэтых колаў удзяляюць вельмі мала ўвагі сур'ёзным праграмным мэтам Фронту, якія ахопліваюць асноўныя праблемы дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі і рэфармаваньня эканомікі. Што было правільна, а што памылкова? Што і чаму сёньня зьдзейсьнена, хаця БНФ не ўваходзіў ва ўладныя структуры?*

*Што і чаму засталося незапатрабаваным? Аналітыкаў гэта як бы не цікавіла, яны больш займаліся абсмоктваньнем мітаў кшталту знакамітага «вывучы мову (?!), а затым прыходзь да нас». Але ж БНФ патрабаваў ад сваіх прыхільнікаў не самога веданьня беларускай мовы, а прызнаньня яе права на сапраўдную, а не дэкляратыўную дзяржаўнасьць і на годнае месцы ў жыцьці грамадзтва.*

*Здрада нацыянальным інтарэсам адукаванымі слаямі насельніцтва Беларусі, іх пастаяннае адмежаваньне ад праблемаў нацыі, сэрвільнасьць, даведзеная да маніі самаліквідацыі, «пазбавіла» іх ад шмат якіх клопатаў, уласьцівых вядучым групам дзяржаваў, якія нармальна разьвіваюцца. У такой сытуацыі застаецца адна мэта — эканамічны дабрабыт, можна сказаць, на побытавым узроўні. Але, адыходзячы ад грамадзка-палітычных працэсаў, немагчыма ўплываць на эканоміку, тым больш сабе на карысьць...*

*Дык дзе ж узяць Фронту сілы, калі адукаваныя слаі ня здольныя ня тое што выканаць, але і ўсьвядоміць сваю палітычную ролю? Не сэктанцтва БНФ першаснае. Першасная вось гэтая палітычная нясьпеласьць. У ёй вытокі вузкай сацыяльнай базы Фронту, хранічнай «нястачы кадраў», немагчымасьці арганізаваць належную прапаганду, сваю прэсу. Ня шмат што здольныя зрабіць ідэалісты-аматары ў сур'ёзнай палітычнай барацьбе.*

*Ня дзіўна, што часта бяруць верх непадрыхтаваныя людзі, што магчымы дух сэктанцтва, абмежаванасьць і бездапаможнасьць.*

*І нічога дзіўнага ў тым, што Фронт ня здольны самарэфармавацца. Гэта ж грамадзкая арганізацыя. Дзеля гэтага патрэбны сьвежыя сілы і думкі.*

*Але і таго, і другога прапануецца грамадзтвам нагэтулькі ж няшмат, наколькі няшмат было падтрымкі БНФ з тым, што здавалася непарушным, за тое, што здавалася недасяжным.*

*Фронт ня можа рэфармавацца загадам Пазьняка ці нават рашэньнем Сойму. Ён пачне пераўтварацца прыходзячымі ў яго новымі і іншымі людзьмі пры ўдзеле старых і папярэдніх. І тыя, і другія павінны гэта ўсьвядоміць і жадаць гэтага.*

*Аркадзь Жукоўскі, 58 гадоў, інжынэр-мэханік, Горадня.* («Свабода», 20 лютага 1995).

Што да новых людзей, дык якраз у дні, калі «Свабода» надрукавала артыкул Жукоўскага, у сядзібе БНФ на Варвашэні, 8 Павал Севярынец стварaў «Малады Фронт». Ну а наконт пераўтварэньняў прыклад паказаў сам аўтар, калі ва ўжо паважным веку зрабіўся Аркадзем Ліцьвіном і пад гэтым псэўданімам выдаў звыш дзясятку прыгодніцкіх гістарычных раманаў (сюжэты, натуральна, зьвязаныя зь мінуўшчынай Беларусі).

Тым самым гарадзенец працягнуў закладзеную Уладзімерам Караткевічам традыцыю — думаю, яны сышліся б і ў той справе, дзе спадар Аркадзь быў большым прафэсіяналам за аўтара рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні»: Караткевіч, як вядома, любіў рачныя падарожжы. Адзін зь яго вершаў з ракой у назьве канчаецца так:

*...Тых, хто носіць небасхіл у сэрцы,*
*Нельга ні уджаліць, ні забіць.*

## Мы «разгойдваем лодку»

Няпроста зацягваць канапу ў кватэру, але і спускаць ненашмат лягчэй, асабліва калі робіш гэта з восьмага паверху. А тут яшчэ жыхары пад'езду выходзяць з кватэраў, а ўнізе — журналісты...

Маёмасьць колішняга дэпутата Апазыцыі БНФ Сяргея Антончыка, апісаную паводле рашэньня суду, выставілі на продаж. Але ні канапа, ні стары тэлевізар, ні лядоўня не пакрывалі і сотай часткі таго, што мусіў быў выплаціць Антончык кіраўніку справаў прэзыдэнта (і таксама быламу дэпутату) Івану Ціцянкову ў якасьці кампэнсацыі за маральную шкоду, якую Сяргей нанёс яму сваім дакладам аб карупцыі.

Антончыку прысудзілі выплаціць Ціцянкову 200 мільёнаў рублёў, на той час гэта больш як 17 тысяч даляраў. У Сяргея такіх грошай не было і блізка. Тады апісалі маёмасьць. Апісалі, трэба прызнаць, у поўнай адпаведнасьці з законам, які падыходзіць гуманна: сям'і пакідаецца нейкі мінімум для жыцьця: лыжка, відэлец, талеркі, крэслы, стол. У Сяргея і Тамары Антончыкаў трое дзяцей, школьнікі, так што крэслаў ім пакінулі аж пяць і не апісалі стол, за якім дзеці рабілі ўрокі. А вось лядоўня ў пералік прадметаў жыцьцёвай неабходнасьці не ўваходзіла, яе апісалі. Тэлевізар таксама. І нагадалі, што, пакуль лядоўню і тэлевізар ня вынесьлі, Антончык нясе за іх фінансавую адказнасьць, калі нешта сапсуецца — давядзецца плаціць.

Так што дзеці Сяргея бачылі па тэлевізары выступ Лукашэнкі, у якім той заявіў, што Антончык можа ехаць на ўсе чатыры бакі, дзяржава выхавае і паставіць ягоных дзяцей на ногі.

*У чацвер 25 студзеня на пляцы Незалежнасці ў Мінску Беларускі народны фронт выставіў пікет з патрабаваннямі не дапусціць перадачы нафтаперапрацоўчых прадпрыемстваў у Мазыры і Наваполацку расійскім кампаніям.*

*Прысутных журналістаў здзівіў той факт, што ўлады гэтым разам нікога не разганялі. Міліцыянты, якія выпадкова прабягалі побач з пікетам, замест традыцыйных дубінак трымалі ў руках купленыя ў суседнім падземным пераходзе цёплыя булачкі* ***(на здымку)****.*




Публікацыя ў газэце «Свабода»

Ціск на дэпутатаў Апазыцыі БНФ пачаўся яшчэ ў часе дзейнасьці нашых паўнамоцтваў, пасьля іх спыненьня ён узмацніўся. Паводле закону, былым дэпутатам мусілі прапанаваць тое месца працы, на якім яны былі да дэпутацтва, альбо раўназначнае. Пракамуністычныя, праімпэрскія дэпутаты пайшлі «на павышэньне» — кіраўнікамі структураў выканаўчай «вэртыкалі», міністрамі і іх намесьнікамі, амбасадарамі. Дэпутаты ж Апазыцыі БНФ ня про-

ста былі выкінутыя на вуліцу, а зазналі сапраўднае цкаваньне.

Папраўдзе, перасьлед разгарнуўся супраць усіх актывістаў БНФ, у сталіцы і ў рэгіёнах. Ён меў татальны характар — тысячы людзей апынуліся бяз працы, шмат хто спазнаў ціск ня толькі на сябе, але і на родных і блізкіх. Колішнія камуністы, якія засталіся пры ўладзе і атрымалі другое дыханьне з прыходам прэзыдэнта, помсьцілі сваім палітычным апанэнтам — за 25 жніўня 1991-га, за Незалежнасьць, за спыненьне дзейнасьці КПБ-КПСС, за сапраўднае, хоць і нядоўгае нацыянальнае Адраджэньне.

І абараніць гэтых людзей мы ніяк не маглі — мы ўжо не былі дэпутатамі. А наш лёс ня надта цікавіў нававыбраных дэпутатаў.

*Пасьля вяртаньня з адпачынку лідэр страйкавага руху і былы дэпутат Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Сяргей Антончык звольнены па «скарачэньні штатаў» з заводу «Белвар». Летась у жніўні, падчас страйку на Менскім мэтрапалітэне, Антончык быў інтэрнаваны на тэрыторыі падразьдзяленьня ўнутраных войскаў. Хаця Канстытуцыя Беларусі прадугледжвае, што дэпутат не нясе юрыдычнай адказнасьці за дзейнасьць у Вярхоўным Савеце, спадару Антончыку было прысуджана выплаціць 200 мільёнаў рублёў маральнай кампэнсацыі кіраўніку справаў прэзыдэнта Івану Ціцянкову. Некалькі тыдняў таму да Антончыка ўжо зьярталіся судовыя выканаўцы, каб апісаць ягоную хатнюю маёмасьць.*

*— Ціск з боку ўладаў адчуваюць і іншыя былыя дэпутаты апазыцыі, — кажа Сяргей Антончык. — Цяпер я чакаю адказу ад Генэральнага пракурора, рыхтую зварот да старшыні Вярхоўнага суду. Калі*

*ўлады не пакінуць мяне ў спакоі, я буду зьвяртацца да міжнароднай супольнасьці з просьбай палітычнага прытулку. Бо гэта закранае ўжо ня толькі мяне аднаго, а маю сям'ю, маіх дзяцей.* (Павет, «Свабода», 16 лютага 1996).

Гэта была першая заява пра магчымы зварот па палітычны прытулак ад беларускага палітыка ў незалежнай Беларусі.

Парлямэнцкай трыбуны мы ўжо ня мелі. Доступ у дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, на тэлевізію і радыё быў заблякаваны. Заставалася адна пляцоўка, дзе БНФ ня меў канкурэнтаў, — вуліца, вулічныя акцыі.

Самі падзеі прадыктавалі нам тактыку — правядзеньне хай і невялікіх, але рэгулярных пікетаў ды мітынгаў. Адной з нашых мэтаў была псыхалягічная падрыхтоўка людзей да выхаду на вуліцы — спачатку невялікай групай, на пару дзясяткаў чалавек, а потым, мы былі перакананыя, выйдуць тысячы. Мы правялі сэрыю такіх пікетаў, і такую тактыку, скарыстаную тады ўпершыню, пазьней час ад часу выкарыстоўвала апазыцыя.

Нагодаў для пікетаў хапала, а інфармацыйны складнік гэтых дзеяньняў зьяўляўся маім абавязкам. Вось як гэта (і сам аўтар) выглядала ў люстэрку прэсы:

*БНФ выступае супраць акцыянаваньня расейскімі кампаніямі нафтаперапрацоўчых прадпрыемстваў Беларусі. Як паведаміў прэсавы сакратар Беларускага Народнага Фронту Сяргей Навумчык, апошняе пасяджэньне Ценевага кабінэту БНФ было прысьвечана пытаньню магчымага акцыянаваньня нафтаперапрацоўчых заводаў у Наваполацку і Мазыры расейскімі кампаніямі «ЛУКойл»,*

*«Славнефть» і «ЮКОС». Выступаючы катэгарычна супраць перадачы кантрольнага пакету акцыяў беларускіх прадпрыемстваў у рукі расейскіх кампаніяў, што прывядзе да манапалізацыі галіны, на пасяджэньні Ценевага кабінэту прапаноўвалася разгарнуць кампанію супраць акцыянаваньня.*

*«Гэта могуць быць як пікеты і мітынгі, так і кансультацыі з парлямэнтарыямі», — заявіў прэсавы сакратар. Па словах сп. Навумчыка, напрацоўкі Ценевага кабінэту ўжо перададзеныя ў парлямэнцкую фракцыю «Грамадзянскае дзеяньне» і камуністычную фракцыю парлямэнту. Якія павінны будуць ініцыяваць разгляд пытаньня аб уласнасьці нафтаперапрацоўчых заводаў на сэсіі парлямэнту. Па інфармацыі сп. Навумчыка, камуністы ахвотна пайшлі на кантакт і заявілі, што будуць падтрымліваць ініцыятыву БНФ* (СІМ, «Свабода», 26 студзеня 1996).

Дарэчы, падчас гэтага пікету мне давялося даваць інтэрвію маскоўскаму каналу НТВ, у эфір выйшла якіх 20-25 сэкундаў, але іх хапіла, каб Лукашэнка пачаў папракаць нас у тым, што мы плацім грошы маскоўскім тэлеканалам («Вы ж ведаеце, колькі каштуе там хвіліна рэклямы!»).

Вядома, нікому і нічога мы не плацілі. Большасьць акрэдытаваных у Менску журналістаў (як маскоўскіх СМІ, так і польскіх) самі праяўлялі інтарэс да нашых вулічных акцый. Хаця ў нейкай ступені спрацоўвалі і мае зь імі добрыя асабістыя стасункі — і яны звычайна адгукаліся на запрашэньні. Аляксандар Старыкевіч з маскоўскіх «Известий», Аляксандар Ступнікаў з расейскіх тэлеканалаў, Уршуля Мікалайчык, Цэзары Галіньскі і Ўладзімер Пац з польскіх СМІ працавалі прафэсійна,

у інтарэсах сваіх чытачоў, гледачоў і слухачоў. Ну і, безумоўна, заўсёды на нашых акцыях былі карэспандэнты беларускай рэдакцыі Радыё Свабода.

Прысутнасьць журналістаў была для нас важная яшчэ і таму, што ў тыя дні міліцыянты яшчэ не адважваліся хапаць людзей пад тэлекамэрамі.

Пікеты былі прысьвечаныя ня толькі эканамічным праблемам. 15 лютага тры дзясяткі актывістаў Народнага Фронту сталі ў пікет перад Міністэрствам адукацыі з пратэстам супраць русыфікацыі адукацыйнай сфэры. Людзі трымалі транспаранты з надпісамі «Не — абавязковаму экзамэну па рускай мове ў сярэдняй школе», «Ганьба русыфікатарам зь Міністэрства адукацыі».

Праз тыдзень, 22 лютага, на плошчы Незалежнасьці паўстаў пікет у абарону Сяргея Антончыка. Гэта быў першы пікет у абарону канкрэтнай асобы ў Рэспубліцы Беларусь (першы пасьля лета 1991-га, калі ў СІЗА знаходзіўся актывіст Фронту Валер Сядоў).

Заканадаўства тады не патрабавала браць дазвол на пікет — дастаткова было паведаміць пра яго ўладам. Што мы і зрабілі, перадаўшы адпаведную паперу ў Менгарвыканкам. Але раніцай старшыня гарвыканкаму Ўладзімер Ярмошын (будучы прэм'ер) пікет забараніў. Празь месяц я ўбачу Ярмошына ў атачэньні целаахоўнікаў пры самым першым у найноўшай гісторыі Беларусі жорсткім разгоне масавай акцыі — а ў той лютаўскі дзень да дубінак справа не дайшла, хоць адразу, як толькі мы сталі з плякатамі, зьявіліся міліцыянты і тры аўтамабілі з амапаўцамі.

Мы паказалі афіцэрам міліцыі вытрымкі заканадаўства, але гэта ня дзейнічала. Пасьля гэтага



**БНФ пікетаваў міністэрства адукацыі**

**“Ганьба русіфікатарам з міністэрства адукацыі Беларусі”, “Не — абавязковаму экзамену па рускай мове ў сярэдняй школе”. З гэтымі і іншымі плакатамі прадстаўнікі БНФ 15 лютага пікетавалі міністэрства адукацыі і навукі, аб чым папярэдне паведамілі ў гарвыканкам сталіцы.**

Публікацыя ў газэце «Свабода»

я папрасіў журналістаў, якія мелі акрэдытацыю ў Вярхоўным Савеце, схадзіць у Дом ураду і паклікаць віцэ-сьпікера Генадзя Карпенку (я ведаў пра сяброўства Карпенкі з Антончыкам і разумеў, што калі ён на месцы, дык абавязкова прыйдзе). І сапраўды, праз колькі хвілінаў Карпенка зьявіўся на плошчы.

І вось дэталь, якая добра характарызуе настроі таго часу. Як толькі прыйшоў Карпенка, машыны АМАПу імгненна зьехалі, а старшы сярод міліцыянтаў афіцэр патлумачыў віцэ-сьпікеру, што гэтыя аўтамабілі на плошчы — проста выпадко-

васьць. Прыкметна тут тое, што міліцыянты баяліся віцэ-сьпікера (пры тым, што Карпенка быў у апазыцыі да Лукашэнкі) — тады яшчэ дзейнічаў аўтарытэт заканадаўчай улады. І гэта праз два гады пасьля таго, як у адстаўку адправілі Станіслава Шушкевіча, які заўсёды казаў, што «ня мае паўнамоцтваў» — паўнамоцтвы папраўдзе былі, прынамсі быў аўтарытэт улады; іншая справа, што не было палітычнай волі.

Скончыўся пікет тым, што галоўны сярод міліцыянтаў папрасіў у нас ксэракопію закону, які рэглямэнтаваў пікеты, — для сябе і для свайго начальства.

Два пікеты правёў БНФ, калі Лукашэнка выказаў намер ліквідаваць Канстытуцыйны суд, бо «судзьдзі перашкаджаюць прэзыдэнту».

У канцы лютага некалькі дзясяткаў актывістаў БНФ сталі каля будынку Адміністрацыі прэзыдэнта на Карла Маркса, непасрэдна пад вокнамі кабінэта Лукашэнкі. Самога Лукашэнку на ягоным пятым паверсе разгледзець не ўдалося, а вось супрацоўнікі адміністрацыі з вокнаў пазіралі, з усіх пяці паверхаў.

А праз два тыдні, 13-га сакавіка, мы выйшлі пратэставаць супраць ліквідацыі Канстытуцыйнага суду ўжо на плошчу Незалежнасьці. За паўгадзіны, што прастаяў пікет, з вокнаў аўтобусаў і тралейбусаў сотні людзей убачылі плякаты «БНФ падтрымлівае законнасьць», «Сёньня топчуць Канстытуцыйны суд — заўтра зальюць Беларусь крывёю». Тут жа, каля Дома ўраду, мне і Юрыю Беленькаму выпісалі позвы з патрабаваньнем прыйсьці ў РАУС Маскоўскага раёну, дзе на нас склалі пратаколы

за адміністрацыйнае парушэньне (хаця, як я ўжо казаў, закон не прадугледжваў дазволу на пікеты).

Пікет у абарону Канстытуцыйнага суду прайшоў і ў Віцебску, але «быў разагнаны міліцыяй. Пяць удзельнікаў пікету затрымалі і даставілі ў пастарунак... Цікавая акалічнасьць: міліцыя брала толькі тых пікетчыкаў, якія трымалі бел-чырвона-белыя сьцягі» («Свабода», 19 сакавіка 1996).

Нарэшце, невялікі мітынг 15 сакавіка, у гадавіну Канстытуцыі, пратэставаў супраць намераў Лукашэнкі зьмяніць Асноўны закон.

Нехта з афіцыйных камэнтатараў у той час зазначыў, што «БНФ разгойдвае лодку». Калі не зьвяртаць увагу на нэгатыўнае адценьне такой фармулёўкі, па сутнасьці слушна. Нам трэба было вывесьці грамадзтва, найперш прыхільнікаў БНФ, з апатыі пасьля няўдалых для Фронту выбараў. Гэтыя нашыя пікеты, з аднаго боку, акцэнтавалі ўвагу грамадзтва на важных тэмах, а з другога — паказвалі, што Фронт жывы, не загнаны ў падпольле і, нават ня маючы прадстаўнікоў у парлямэнце, не спыніў палітычнай барацьбы і пераносіць яе на вуліцы.

Пікеты БНФ — хоць і выходзілі на іх калі 50, а калі толькі 20 чалавек — адыгралі важную ролю ў падрыхтоўцы да галоўнай акцыі вясны, якую потым гісторыкі назавуць «Менскай вясной – 96», да адзначэньня 78-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Сьвята, аднак, на нашу задуму, мусіла мець ня столькі гістарычную скіраванасьць, колькі актуальную.

Падзеі маглі разгарнуцца так, што магло і ня быць як і дзе сьвяткаваць.

## Быкаў узначальвае сьвята 25 Сакавіка

Да Дня Волі – 96 мы ў Народным Фронце рыхтаваліся максымальна шырока. На ўвазе маецца ня толькі геаграфія, хоць акцыі рыхтаваліся і ў рэгіёнах, а ў Менск прыбылі замежныя госьці.

Непасрэдна перад сьвяточнымі днямі ў сядзібе БНФ на вуліцы Варвашэні, 8 мы праводзілі чарговую канфэрэнцыю палітыкаў Балта-Чарнаморскага рэгіёну (Міжмор'я), на якой абмяркоўваліся палітычныя, эканамічныя ды іншыя аспэкты супрацоўніцтва Беларусі, Украіны, Польшчы, Літвы і Латвіі. Падрыхтоўка да канфэрэнцыі таксама брала час, таму дні былі напружаныя. Трэба было апекавацца гасьцямі з Украіны і краінаў Балтыі, зьбіраць выступы экспэртаў, дакумэнты. Я адказваў за блёк, зьвязаны з інфармацыйнай палітыкай.

У сакавіку 1996-га важна было заявіць, што за незалежнасьць Беларусі выступае ня толькі БНФ, але і іншыя партыі, вядомыя асобы. І гэта ўдалося — у склад аргкамітэту пагадзіліся ўвайсьці людзі, чые подпісы ў сумесных заявах разам з Пазьняком раней уявіць было цяжка (напрыклад, Мечыслава Грыба, ды й Станіслава Багданкевіча). А ўзначаліў аргкамітэт сьвята Васіль Быкаў. Першай акцыяй стала заява пра Акт 25 сакавіка 1918 году:

*Мы, усе беларусы, усе грамадзяне нашай краіны, будзем заўсёды шанаваць гэтую вялікую дату. Асабліва важна гэта цяпер, калі над нашай краінай зноў згусьціліся хмары небясьпекі, узьнікла пагроза нашай незалежнасьці, культуры, нацыянальнаму існаваньню.*

*Аргкамітэт заклікае грамадзянаў Беларусі, грамадзкія, палітычныя, дзяржаўныя аргані-*

*зацыі ўрачыста і з годнасьцю адзначыць 78-я ўгодкі абвяшчэньня БНР. Грамадзкі нацыянальны аргкамітэт віншуе ўсіх грамадзянаў Беларусі са слаўнай датай незалежнасьці БНР і 78-мі ўгодкамі вялікай падзеі. Зычым свабоды, дабра і натхненьня ўсім людзям нашай краіны. Жыве Беларусь!*

З цэнтральных дзяржаўных газэтаў нашую заяву апублікавала «Звязда». Пад заявай ішлі імёны сяброў аргкамітэту: В. Быкаў (старшыня), Р. Барадулін, А. Грыцкевіч, М. Біч, Г. Карпенка, М. Грыб, А. Дабравольскі, С. Багданкевіч, П. Знавец, І. Сярэдзіч, Л. Баршчэўскі, І. Гермянчук, В. Мазец, Ю. Беленькі, Ю. Хадыка, В. Вячорка, В. Асташынскі, А. Бяляцкі, В. Сіўчык, А. Марачкін, С. Гусак, М. Купава, М. Анцыповіч, І. Саверчанка, С. Навумчык, М. Чарняўскі, З. Пазьняк.

Напярэдадні шэсьця прадстаўнікі аргкамітэту далі прэсавую канфэрэнцыю ў Доме ўраду — гэтаму паспрыялі Станіслаў Багданкевіч і Аляксандар Дабравольскі, якія сядзелі перад мікрафонамі разам з Васілём Быкавым, Зянонам Пазьняком і аўтарам гэтых радкоў.

Быкаў гаварыў пра гістарычную значнасьць 25 Сакавіка: «Усе пачаткі нашай дзяржаўнасьці і, безумоўна, нашага права пачынаюцца менавіта з гэтага часу — а менавіта з III Устаўной граматы, у якой абвяшчалася незалежнасьць Беларусі. У кожнай краіне (у кожнай нармальнай краіне, я хацеў бы сказаць), дэмакратычнай, гэта ўсё было б вельмі элемэнтарна, гэта б ведалі дзеці яшчэ са школы, а можа, зь дзіцячых садкоў. У нас жа якраз праз 78 год даводзіцца многае адкрываць. Прытым ва ўмовах нязгоды, а то і прамым супраціўленьні ўлад».

Быкаў паведаміў, што, хаця аргкамітэт падаў заяўку на шэсьце і мітынг на плошчы Незалежнасьці, Менгарвыканкам дазваляе толькі мітынг на пляцоўцы перад Опэрным тэатрам. Быкаў гаварыў жорстка і адназначна:

«Элемэнтарнае права на шэсьце і дэманстрацыі, якое рэглямэнтавана многімі міжнароднымі пагадненьнямі, — у нас яно па-ранейшаму залежыць ад улады. Найперш ад выканаўчай улады. Улады стварылі пэўны статус плошчы. Канешне, статус гэты антыдэмакратычны, антынародны. У гарадах плошчы на тое і існуюць, каб на іх зьбіраўся народ. Гэта ва ўсіх рэлігіях, ва ўсіх цывілізацыях так было прынята. У нас гэта — тое месца, дзе адбываюцца рэпрэсіі».

На прэсавай канфэрэнцыі я абвясьціў рашэньне аргкамітэту: калі людзі прыйдуць на плошчу Незалежнасьці — шэсьце адбудзецца, а парадак здольныя забясьпечыць структуры Народнага Фронту. Сказаў таксама, што ўвечары таго ж дня ў Доме літаратара пройдзе паказ фільма паводле аповесьці Васіля Быкава «На Чорных лядах» (фільм у пракат ня выйшаў, згодна з распараджэньнем, якое зыходзіла з Адміністрацыі прэзыдэнта).

«Гэтыя ўгодкі павінны засьведчыць стан нашага грамадзтва, наколькі яно здольнае, наколькі яно гатовае выступіць у гэты пэрыяд у абарону самога сябе», — падсумаваў Зянон Пазьняк.

Некаторыя палітолягі ў тыя дні прадракалі Беларускаму Народнаму Фронту і ўвогуле нацыянальнаму руху імклівы заняпад. Маскоўскія палітыкі лічылі апошнія дні існаваньня незалежнай Беларусі.

Вечарам 23 сакавіка Менск засынаў пад сьнегам, і холад панаваў ня толькі на вуліцах.

## Пазьняк тлумачыць, чаго трэба баяцца

Раніцай 24 сакавіка мы з жонкай селі ў нашым Уруччы на аўтобус (мой «Масквіч», няспраўны зь верасьня, стаяў у двары пад сьнегам, на рамонт не было грошай), даехалі да станцыі мэтро «Ўсход» і праз пятнаццаць хвілінаў выйшлі на плошчы перад Домам ураду.

Там ужо сабраліся некалькі тысяч чалавек — адна частка на самой плошчы, другая каля Галоўпаштамту. АМАП спрабаваў перакрыць шлях, але людзі прарвалі кардон, аб'ядналіся і пад бел-чырвона-белымі сьцягамі пайшлі цэнтральным праспэктам, які тады насіў імя Скарыны.

На чале калёны ішлі лідэры Народнага Фронту, Валянцін Голубеў прамаўляў у мэгафон. Да нас далучаліся ўсё новыя людзі, і, калі заварочвалі з праспэкту на вуліцу Купалы, «хвост» калёны заставаўся недзе на Кастрычніцкай плошчы.

Перад Опэрным тэатрам сабралася да 30 тысяч чалавек. Мора бел-чырвона-белых сьцягоў.

Весьці мітынг даручылі мне, намесьнік старшыні БНФ Вінцук Вячорка зачытваў рэзалюцыі.

Захаваліся фрагмэнты магнітафоннага запісу.

Валянцін Голубеў: *Сёньня дзень пратэсту, дзень змаганьня за Незалежнасьць, дзень змаганьня з антыбеларускімі ўладамі. Тое, што я бачу сёньня, гэтыя тысячы людзей, гэтыя дзясяткі і сотні бел-чырвона-белых сьцягоў, паказваюць, што беларусы жылі, жывуць і будуць жыць. Нас ціснулі, нас душылі, даўно хацелі зьнішчыць і беларусаў, і Беларусь, але народ падымаўся. Народ падымаўся ў канцы XVIII стагодзьдзя пад кіраўніцтвам Касьцюшкі. Мы падымаліся ў 1830–1831 годзе, мы падымаліся*




Шэсьце на праспэкце Незалежнасьці

*пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. І зараз мы падымемся, калі вось тыя людзі, якія ня маюць беларускіх каранёў, будуць імкнуцца зьнішчыць Беларусь, зьнішчыць беларусаў. Лукашэнка толькі і робіць, што падманвае свой народ. Ён падмануў пэнсіянэраў, падмануў сялянаў, калі ён абяцаў усё, што толькі хто хацеў, і яны за яго прагаласавалі. Ён ня выканаў нічога!*

Генадзь Карпенка: *78 гадоў назад лёс даў беларусам стварыць сваю дзяржаву. Але крок гэта быў невялікі. Пяць гадоў назад парлямэнт Беларусі зрабіў усё, каб наша дзяржава стварылася. Парлямэнт*




У мітынгу ля Опэрнага тэатру ўзялі ўдзел каля 30 тысяч чалавек

*зрабіў, каб дзяржава стала жыць. Але сёньня становішча такое, што ўсё, што створана людзьмі, ставіцца пад сумненьне. Задаецца пытаньне: як нам жыць, які лёс, які варыянт эканомікі выбіраць? У нашу мову ўвайшлі такія паняцьці, якія не разумее народ, — «інтэграцыя»... Што яшчэ там, я і сам не разумею... «Лукашызацыя», мне тут падказваюць. У Беларусі ёсьць свой лёс, у Беларусі ёсьць свае магчымасьці стварыць сваю дзяржаву. Сёньня гавораць, што мы эканамічна ня можам выжыць. Мы можам выжыць, я ведаю. Беларусь мае свае шляхі. Беларусь выйдзе на гэтыя шляхі. Я думаю, і вы ведаеце выйсьце для Беларусі — гэта праз сваю дзяржаўнасьць. Жыве Беларусь!*

Станіслаў Багданкевіч: *Прыгадаем, што такое Расея цяперашняя — гэта карумпаваны капіталізм, дзікі капіталізм, гэта карупцыя, гэта фашызм карычневы, які ўздымае галаву ў гэтай краіне. Гэта вайна супраць уласнага народу, гэта гібель у Чачэніі*



Зянон Пазьняк: «Калі сэрца б’ецца за Бацькаўшчыну — ніякія сілы не перамогуць нас!»

*гарадоў і вёсак. Я разумею літоўцаў, латышоў, палякаў, славакаў, чэхаў, калі яны хочуць інтэгравацца ў эканоміку Захаду ў імя дабрабыту свайго, сваіх дзяцей і ўнукаў, у імя лепшай тэхналёгіі. У імя чаго мы сёньня жадаем у гэтую краіну ўліцца ў якасьці заходняй тэрыторыі? Няхай жыве наша цудоўная сувэрэнная Беларусь!*

Сяргей Антончык згадаў паказаны па тэлевізіі выступ Лукашэнкі, у якім той прапанаваў сабраць грошы, каб яго, Антончыка, накіраваць за мяжу. Сяргей жа прапанаваў сабраць на плошчы грошы, каб купіць для Лукашэнкі квіток у Маскву. «У адзін бок, бо зваротны ня трэба!» — пачуліся скрозь сьмех галасы.



Выступае старшыня аргкамітэту сьвяткаваньня 78-х угодкаў незалежнасьці БНР Васіль Быкаў

Зянон Пазьняк: *Ніводная цывілізацыя не загінула ад голаду. Гінулі ад упадку культуры і маралі. Ня бойцеся, калі ня будзе хлеба; бойцеся, калі ня будзе мовы. Бо не эканомікай жыве народ. Народ жыве духам. Народ жыве верай. Народ жыве сэрцам. І сюды нас прывяло сэрца. І калі яно б'ецца за Бацькаўшчыну, ніякія сілы не перамогуць нас. Той чалавек, якога выбралі рабы і які здрадзіў Бацькаўшчыне, які здрадзіў народу — гэты чалавек перастаў быць прэзыдэнтам. Ён паставіў сябе па-за Канстытуцыяй і па-за законам. З таго часу, калі будуць падпісаныя гэтыя пагадненьні, ён перастае быць афіцыйным прэзыдэнтам. І кожны з нас можа яго не лічыць больш прэзыдэнтам. Ён падлягае суду, народнаму, суду сумленьня, і нашым законам, якія дзейнічаюць і якія мы будзем берагчы».*

І выступоўцы, і людзі на плошчы былі адзіныя ў памкненьні абараніць Беларусь. Самага высокага

эмацыйнага напалу гэтая еднасьць дасягнула падчас песьні Касі Камоцкай «Прэзыдэнт, ідзі дамоў!»

*І мы з табой выбіраем Слова,*
*Але яны яго не пачуюць,*
*І мы за сабой пакідаем тры словы:*
*«Прэзыдэнт, ідзі дамоў!»*

«Прэзыдэнт, ідзі дамоў», — паўтаралі тысячы галасоў плошчы.

А мы пайшлі да будынку, адкуль сапраўды можна было паўплываць на хаду падзеяў.

## Спэцназ б'е людзей ля тэлецэнтру

Гэта цяпер, калі я пішу гэтую кнігу, можна не глядзець тэлевізію і быць у курсе апошніх падзеяў — ёсьць інтэрнэт, сацыяльныя сеткі, тэлеграм-каналы. Спосаб дастаўкі інфармацыі мяняецца зь неймавернай хуткасьцю, і зусім магчыма, што праз некалькі гадоў пасьля выданьня гэтай кнігі малады чытач (спадзяюся, так і будзе) нават не зразумее, што такое той жа тэлеграм-канал: як сучасная моладзь ня надта ведае, што такое пэйджар ці факс.

Але і ў час інтэрнэту тэлевізія застаецца эфэктыўным спосабам прапаганды. А ў 1996 годзе тэлевізар глядзелі ўсе.

Доступу ж да тэлеэфіру БНФ ня меў.

Рашэньне патрабаваць эфірнага часу вось проста зараз прыйшло спантанна, я ўжо не магу ўспомніць, хто першы падчас мітынгу агучыў ідэю. Думаю, паўплываў досьвед 1990 году, калі на перадвыбарчым стотысячным мітынгу на плошчы перад Домам ураду прапанавалі ісьці да тэлецэнтру на вуліцы



Гэты здымак я зрабіў па дарозе да тэлецэнтру

Камуністычнай — тады лідэры БНФ атрымалі эфір упершыню.

Гэтым разам мітынг прыняў рэзалюцыю выступіць у прамым эфіры Зянону Пазьняку, Генадзю Карпенку, Станіславу Гусаку і аўтару гэтых радкоў. Нашыя ранейшыя звароты да старшыні тэлекампаніі Кісяля і ў Адміністрацыю прэзыдэнта з просьбай даць тэлеэфір апазыцыі (што, дарэчы, прадугледжвалася Законамі аб статусе дэпутата і аб партыях) выніку ня мелі. На гэты раз прынцыпова важным быў удзел Генадзя Карпенкі, бо як віцэ-сьпікер парлямэнту ён увасабляў заканадаўчую ўладу і меў законныя падставы атрымаць эфір.

Да тэлецэнтру ён не дайшоў, але побач з намі заставаўся дэпутат парлямэнту Павал Знавец. Калі

калёна прыблізна ў дзесяць тысяч чалавек падышла да будынку тэлецэнтру, перад уваходам ужо стаяў ланцуг міліцыянтаў. Калёна яго лёгка рассунула. Патанаючы па калена ў сьнезе, праз клюмбу мы прайшлі да ганку будынку, на які перамясьціліся і міліцыянты.

Тыя падзеі ніхто не здымаў на смартфоны і не выкладваў у YouTube і сацыяльныя сеткі, бо не было ні сетак, ні смартфонаў. Але часам словы дастаткова дакладна перадаюць сутнасьць падзеяў, нават больш дакладна, чым проста рухі, гукі, карцінка.

*На падыходзе да будынку калёну спыніў даволі рэдкі ланцуг міліцыянтаў. Пасьля таго, як дэлегацыі мітынгоўцаў на чале з З. Пазьняком не было дазволена прайсці ў будынак для перамоваў з кіраўніцтвам дзяржтэлерадыёкампаніі, натоўп проста зьнёс заслон сваёй масай. Дэлегацыю прапусьцілі, што, з аднаго боку, крыху астудзіла наступальны запал натоўпу, а з другога — дазволіла ўзмацніць ачапленьне за кошт атраду АМАПу* (БелТА, «Рэспубліка», 26 сакавіка 1996).

*Мітынгоўцы пры гэтым паводзілі сябе даволі карэктна і стрымана, ня робячы спробаў прарвацца да будынку і не рэагуючы на паводзіны міліцыі. Яны толькі скандавалі лёзунгі «Жыве Беларусь!» і «Далоў Лукашэнку!». Тым часам улады скарысталі перадышку для таго, каб сьцягнуць да тэлецэнтру дадатковыя сілы* (Андрэй Махоўскі, «Белорусская деловая газета», 28 сакавіка 1996).

Пазьняка і Знаўца прапусьцілі ў будынак на перамовы. Зянон Пазьняк:

*У будынку тэлецэнтру было поўна спэцназаўцаў. Такое адчуваньне, што пачынаюцца ваенныя дзеяньні. Усе калідоры, усе пляцоўкі былі забітыя*



Людзі патрабуюць эфіру для лідэраў апазыцыі

*аўтаматчыкамі, людзьмі са шчытамі, бегалі ўзьярошаныя камандзіры. Мы зайшлі з начальнікам менскай міліцыі Тарлецкім і паспрабавалі шукаць начальства. Нікога не было. Тады я стараўся датэлефанавацца да Кісяля, зь вялікімі цяжкасьцямі шукалі тэлефоны, ніхто нічога ня ведаў, усе пахаваліся. Па ўсіх тэлефонах Кісяля (а мне далі тры-чатыры) ніхто нічога не адказваў. Такое ўражаньне, што яны былі папярэджаныя і ніхто ня браў трубку ў гэты час.*

*І вось тут была цікавая сытуацыя. Я ўвогуле ў такіх варунках паводжу сябе вельмі спакойна, гавару напаўголаса. Спакойна сябе паводзіў і Тарлецкі, і даволі прыстойна ў той сытуацыі. Але былі людзі, якія рваліся ў канфлікт. Мне запомніўся адзін*

*рыжаваты ўзьярошаны маёр, які кіраваў спэцназам, ён вечна падбягаў да Тарлецкага і павышаным голасам спрабаваў на яго крычаць: «Всё, я пускаю ребят! Я пускаю в дело!» Тарлецкі яго спрабаваў абсекчы, і тым часам Тарлецкі — гэта начальнік упраўленьня.*

*І вось калі на калідоры была размова з Тарлецкім, я гаварыў, што, паколькі ўсё начальства пахавалася і немагчыма дамовіцца, то, канешне, мы зараз ня будзем «штурмаваць тэлебачаньне», людзі адыдуць ад тэлебачаньня. І ў гэты час абсалютна беспрычынна падбягае гэты нэрвовы маёр рыжаваты: «Ну всё, я даю указание. Всё, всё, ребята, в дело, пошли, пошли!». Словам, было зразумела, што ім хацелася пусьціць у справу сілу.*

Я ж заставаўся на прыступках, паміж уваходам і міліцэйскім ланцугом. Голас Валянціна Голубева аднекуль з натоўпу («Сяргей, гавары што-небудзь!») прымусіў скарыстацца мэгафонам, які аднекуль апынуўся ў руцэ.

Спачатку зьвярнуўся да людзей з просьбай зрабіць тры крокі назад, каб не ствараць цісканіны і канфлікту зь міліцыяй; папрасіў захоўваць парадак, а потым пачаў у мэгафон агітацыю да міліцыі. Расказаў, чым можа пагражаць асабіста ім аб'яднаньне Беларусі і Расеі, калі давядзецца абараняць інтарэсы Крамля ў Чачэніі ды ў розных «гарачых пунктах». Праінфармаваў, што беларускае заканадаўства і міжнародныя акты ня проста дазваляюць, але і патрабуюць не выконваць загадаў камандзіраў, калі гэтыя загады злачынныя.

— Вы за гэта адкажаце, — пачуў голас за сьпінай.

Абярнуўся — побач стаяў незнаёмы афіцэр у камуфляжнай форме (ягоныя пагоны хаваліся за

шырокім, апушчаным на плечы каўняром з футра, таму званьня я не разгледзеў). Ён перайшоў на «ты»:

— Трапіш да нас хоць на гадзіну — і галадоўка табе здасца раем.

Інфармаваны быў афіцэр — ведаў пра парлямэнцкую галадоўку.

Праз некалькі хвілінаў з боку праспэкту Скарыны зьявіліся калёны спэцназаўцаў у шлемах з празрыстымі шчытамі. У атачэньні ахоўнікаў узьнік мэр Менску Ярмошын. Разам зь ім — невядомы мне палкоўнік, таксама ў камуфляжнай форме. Ня ўтойваў свайго імя і прадставіўся як намесьнік камандуючага ўнутранымі войскамі.

— Прыбярыце спэцназ, палкоўнік! — паспрабаваў апэляваць да ягонага розуму. — Вы ж бачыце, людзі стаяць спакойна, міліцыі не правакуюць. Хутка выйдуць дэпутат Знавец і Зянон Пазьняк і паведамяць пра вынік перамоваў.

— Ніякіх перамоваў, — абарваў палкоўнік. — Калі праз хвіліну не разыдзецеся, прыменім спэцыяльныя сродкі.

— Але вы будзеце несьці адказнасьць за гэта, спадар палкоўнік. Пэрсанальна вы!

Я спрабаваў яшчэ пераканаць намесьніка камандуючага, але ён, не даслухаўшы, пайшоў да Ярмошына. Той, відаць, аддаў нейкую каманду, і праз некалькі сэкундаў у людзкі натоўп урэзаліся сотні спэцназаўцаў.

Людзі ў шэра-зялёнай форме пачалі біць людзей дубінкамі; вылучалася група нейкіх карантышоў ростам ня больш за мэтар пяцьдзясят — мэтар шэсьцьдзесят, некаторыя ў чырвоных бэрэтах. Білі ўсіх — мужчын, жанчын, старых, дзяцей.

Працытую апісаньні падзеі дзяржаўнай і незалежнай прэсай.

*Калі стала вядома, што эфірнага часу З. Пазьняк не атрымае, каб пазьбегнуць магчымых эксцэсаў, да будынку было падцягнута спэцыяльнае падразьдзяленьне ўнутраных войскаў, узброенае шчытамі і гумавымі дубінкамі. З боку дэманстрантаў у ачапленьне паляцелі сьняжкі і кавалкі лёду. Супрацоўнікі міліцыі і ўнутраных войскаў, распачаўшы дзеяньні ў адказ, выцесьнілі натоўп з тэрыторыі, што прылягае да будынку дзяржтэлерадыёкампаніі* (БелТА, «Народная газета», 26 сакавіка 1996).

*Пасьля таго, як на падыходах да будынку сабралася дзевяць рот (гэта прыблізна тысяча байцоў. — СН) АМАПу і міліцыі, абаронцы парадку перайшлі ў наступ. У першых шэрагах знаходзіліся спэцназаўцы, узброеныя мэталёвымі шчытамі, балёнчыкамі з газам і дубінкамі. Перастроіўшыся «сьвіньнёй», яны пачалі цясьніць натоўп у кірунку Сьвіслачы. Супраць дэманстрантаў былі скарыстаныя газ і дубінкі. Дзеяньнямі міліцыі кіраваў мэр Менску Уладзімер Ярмошын* (Андрэй Махоўскі, «Белорусская деловая газета», 28 сакавіка 1996).

Гэта было першае масавае зьбіваньне ўдзельнікаў мірнага пратэсту ў гісторыі незалежнай Беларусі.

## Ламаюць рэбры, труцяць газам, лупяць рацыямі

Праз тры месяцы пасьля пагрому на вуліцы Камуністычнай, ужо вельмі далёка ад тэлецэнтру, у скарынаўскай бібліятэцы ў Лёндане, мне трапіўся

артыкул у незалежнай газэце «Імя», прысьвечаны падзеям 24 сакавіка. Зь яго вынікала, што арганізатары шэсьця да тэлецэнтру зрабілі вялікую памылку — спыніліся на паўдарозе. Калі ўжо мы прывялі туды людзей, дык трэба было ісьці на рашучыя крокі.

І тут выявілася вечная дылема, перад якой апынаюцца палітыкі: ахвяраваць людзьмі дзеля мэты ці ўсё ж на першым месцы мусяць быць здароўе, бясьпека людзей, іх жыцьці? Вядома, у выпадку 24 сакавіка мэтай была зусім ня ўлада, а паўгадзіны эфіру.

Ну а калі б не эфір, а ўлада? Ці варта было б ахвяраваць чалавечым жыцьцём? Гэта вельмі цяжкае пытаньне, якое, вядома, палягае не ў палітычнай, а ў маральнай плоскасьці. Пра сябе скажу, што я ня змог бы «адключыць» сумненьні, ці вартая перамога жыцьцяў. Наколькі я ведаю Пазьняка, і ён таксама.

Але рашэньні такога кшталту палітыку часам трэба прымаць імгненна, часта без магчымасьці зь некім параіцца.

У куды выгаднейшым становішчы знаходзяцца камэнтатары, якія ацэньваюць дзеяньні палітыка, ужо ведаючы вынік. І, вядома, маюць час падабраць ёмістыя словы для пераліку таго, што і як трэба было рабіць.

Я перакананы, што спроба штурму тэлецэнтру — калі менавіта гэта разумелася аўтарам пад «рашучымі крокамі» — прывяла б да сур'ёзных раненьняў, а магчыма, і чалавечых ахвяраў, ня кажучы ўжо, што і ніякага эфіру не дамагліся б.

*Зробленыя дзеяньні дазволілі адцясьніць натоўп на некалькі мэтраў, але канчатковай перамогі*



За сьпінамі міліцыянтаў – спэцназ

*абаронцы парадку не дамагліся. Узьнікла патавая сытуацыя, якую вырашыла зьяўленьне лідэра БНФ. Зянон Пазьняк абвясьціў пра тое, што зьвязацца з кіраўніцтвам тэлекампаніі яму не ўдалося, і заклікаў мітынгоўцаў разысьціся* (Андрэй Махоўскі, «Белорусская деловая газета», 28 сакавіка 1996).

Тады Пазьняк і Знавец выйшлі на ганак, лідэр БНФ сказаў, што будзем апэляваць да замежных сродкаў масавай інфармацыі, каб расказаць сьвету пра сытуацыю ў Беларусі.

А мяне ў тыя хвіліны ўразілі нейкія шкляныя вочы байцоў спэцназу, нібыта іх нашпігавалі наркотыкамі альбо нейкім атупляльным рэчывам. Гэтыя

людзі прагнулі крыві і былі гатовыя на забойства. Ад іх ішла нянавісьць.

Такіх самых я ўпершыню ўбачыў годам раней, у Авальнай залі, падчас нашай галадоўкі. Але тады падзеі разгортваліся імкліва. А праз некалькі месяцаў, калі мы прыехалі ў адзін з пастарункаў міліцыі вызваляць захопленых АМАПам фронтаўскіх актывістаў, удалося пагутарыць зь іх камандзірам ў невялікім, сяржанцкім, званьні.

Ён заядаўся з намі: «Мне пляваць, што вы дэпутаты, ваш БНФ разваліў СССР, вы супраць улады». Паводзіў сябе нахабна, хоць гады за два да гэтага сяржант АМАПу наўрад ці дазволіў бы сабе такое — дэпутаты дамагліся б ад міністра ягонага звальненьня і адстаўкі ягонага камандзіра.

Наступную чвэрць стагодзьдзя такія людзі будуць інструмэнтам рэпрэсій супраць тых, хто выступае за перамены. Да іх прысутнасьці на вуліцах беларускіх гарадоў нават прызвычаяцца, маўляў, нічога страшнага. Аж пакуль у жніўні 2020-га да тысяч людзей не прыменяць такіх нялюдзкіх катаваньняў, што стане страшна і ўсё грамадзтва задасца пытаньнем: адкуль, зь якіх цёмных нораў павылазілі гэтыя карнікі-пачвары? Але імгненна знойдуцца іх акаўнты ў сацыяльных сетках, і на фатаздымках беларусы ўбачаць пяшчотных мужоў і клапатлівых бацькаў.

Тое, у каго ператварыліся міліцыянты ў жніўні 2020-га, будзе прадметам дасьледаваньняў псыхіятраў і сацыяльных псыхолягаў. Я не спэцыяліст у гэтых сфэрах, дасьледаваньне матываў злачынстваў байцоў і афіцэраў лукашэнкаўскіх спэцслужбаў — ня мэта гэтай кнігі. Скажу толькі, што працэс, які ў сваім фінале меў катаваньні,



Міліцыя б’е людзей на праспэкце Францішка Скарыны

якіх Беларусь ня ведала пасьля Гітлера і Сталіна, пачаўся вось тады, у сакавіку 96-га, ля тэлецэнтру на вуліцы Камуністычнай.

Я мог бы сказаць, што пачаўся на год раней, пабіцьцём дэпутатаў, але тады шмат хто ўспрыняў гэта як «разборку» палітыка з палітыкамі. Аднак і біцьцё звычайных людзей 24 сакавіка 1996-га ня выклікала масавага абурэньня — «не мяне ж білі». Спатрэбіцца чвэрць стагодзьдзя, каб пасьля страляніны і катаваньняў сотні тысяч выйшлі на вуліцы.

... Тады, ля тэлецэнтру на Камуністычнай, галоўным было — пазьбегнуць ахвяраў. Людзі адышлі ў бок праспэкту, да музэю першага зьезду РСДРП, але не зьбіраліся разыходзіцца. Было відаць, што, абражаныя і абураныя, яны імкнуцца да нейкага дзеяньня. Але і спэцназаўцы ўжо перамясьціліся да праспэкту і пачалі зноў выстройвацца ў «баявы парадак».

Я сказаў Пазьняку, што людзі самі не разыдуцца, яны патрабуюць дзеяньня. Павінна прагучаць нейкая прапанова, нейкі заклік. Самае лепшае — заклікаць іх прыйсьці на шэсьце 2 красавіка, калі Лукашэнка зь Ельцыным будуць падпісваць дамову ў Маскве. Пазьняк пагадзіўся і даручыў мне зрабіць абвестку.

З балюстрады ля музэю зьвярнуўся да менчукоў з прапановай сабрацца ў нядзелю, каб сказаць «не» плянам інтэграцыі, прывесьці сваіх сяброў ды знаёмых. А цяпер — разысьціся.

Прапанова была прынятая — частка людзей рушыла да ўваходу ў мэтро, а іншыя, каму зручней было дабірацца да дому ад вакзалу, пайшлі праспэктам у бок плошчы Незалежнасьці.

*Фактычна пасьля гэтага інцыдэнт можна было лічыць вычарпаным. Але, як высьветлілася, іншай думкі прытрымлівалася міліцыя. Група мітынгоўцаў прыблізна ў дзьве тысячы чалавек рушыла па праспэкце Францішка Скарыны ў кірунку плошчы Незалежнасьці. У раёне Галоўпаштамту шлях ім перагарадзіў кардон АМАПу. Спроба людзей працягнуць рух па тратуары была спыненая — амапаўцы проста рассунулі шэрагі. Пасьля невялікай сутычкі дэманстранты былі адкінутыя да КДБ. Менавіта там і разыграліся па-сапраўднаму трагічныя падзеі гэтага сьвяточнага дня.*

*Нягледзячы на тое, што відавочных прычынаў для прымяненьня сілы не было, міліцыя пайшла на абвастрэньне сытуацыі. Мяркуючы па ўсім, скарыстаўшыся нешматлікасьцю шэсьця, ахоўнікі парадку паспрабавалі ўзяць маральны рэванш за свае няўдачы на працягу дня. У выніку навядзеньне*

*парадку ператварылася ў зьбіцьцё бяззбройных людзей.*

*Аднак і на гэты раз спадзяваньні міліцыі не апраўдаліся. Каля сотні чалавек занялі абарону, замацаваўшыся ў сквэры Дзяржынскага. У міліцыю паляцелі кавалкі лёду і пустыя пляшкі. Далейшае разьвіцьцё падзеяў уяўлялася непрадказальным.* (Андрэй Махоўскі, «Белорусская деловая газета», 28 сакавіка 1996).

Ля будынку КДБ у сквэры Дзяржынскага людзей, якія мірна ішлі па тратуары, АМАП і міліцыя білі да непрытомнасьці — як прафэсара Мікалая Савіцкага. Наляцелі і на Пазьняка, але ахова, дужыя хлопцы з БНФ, удала адбілі амапаўцаў. У крыві ў сквэры Дзяржынскага заставаліся ляжаць некалькі чалавек. Былі зь імі, аж пакуль не прыехала «хуткая».

Вось як людзі апісвалі падзеі на праспэкце праз дзень на прэсавай канфэрэнцыі ў сядзібе БНФ:

Валянціна Шымко, 61 год, інвалід другой групы: *Я ўжо сабралася абыходзіць міліцэйскі ланцуг, як бачу, мая суседка хоча прайсьці кардон. А нейкі здаравенны паставы схапіў яе за грудзі і пачаў трэсьці як грушу. А потым так пхнуў, што яна ўпала на тратуар, шапка адляцела ў брудную лужыну. Я ня вытрымала, кінулася да яго і пачала сарамаціць: «Як ты можаш біць жанчыну, якая ў маці табе гадзіцца?» Тут раптоўна другі міліцыянт так стукнуў мяне кулаком у жывот, што аж дыханьне сьціяла. Я павалілася каля ягоных ботаў. Лекары кажуць, што ў мяне пашкоджаная рабрына.*

Галіна Мядзьведзева, 42 гады, інжынэр: *Зрабіўшы пакупкі ў гастраноме, што насупраць будынку КДБ, я выйшла на вуліцу. Вакол стаяў гвалт, шум, з усіх бакоў несьліся крыкі. Ад нечаканасьці*





*Фотаздымкі пабоішча, якое ўчыніў міліцэйскі спецназ у Мінску 24 сакавіка абыйшлі ўвесь свет. Мы вырашылі апублікаваць некаторыя з тых кадраў, якія з'явіліся ў замежнай прэсе.*

Публікацыя ў газэце «Свабода»



*На гэтым здымку, зробленым каля КДБ, вы бачыце збітага да непрытомнасці маладога чалавека. У кадры (справа) — лідэр Народнага Фронта Зянон Пазьняк. Прозвішча пацярпелага хлопца высвятліць нам пакуль не ўдалось.*

Публікацыя ў газэце «Свабода»

*я спынілася і прытулілася да сьцяны. За некалькі крокаў ад мяне міліцыя біла дубінкамі мужчыну, які ляжаў каля бардзюру. Калі яны пакінулі яго і кінуліся на другога, я падышла да мужчыны, каб дапамагчы падняцца. Але толькі нахілілася, як па сьпіне ўдарылі дубінкай. Павярнула галаву — а мне ў вочы газам. Пачала задыхацца, павалілася. Нейкія людзі адцягнулі да кіёска, дзе мяне і падабрала хуткая дапамога. У 10-й гарадзкой лякарні паставілі дыягназ: апёкі вачэй першай ступені і моцныя пабоі на сьпіне, галаве і плячах.*

Віктар Хажавец, 49 гадоў, прадпрымальнік: *Пасьля таго, як каля тэлецэнтру Пазьняк заклікаў усіх разыходзіцца, я пайшоў па праспэкце ў бок плошчы Незалежнасьці. Ля будынку КДБ насустрач мне беглі зь бел-чырвона-белымі сьцягамі людзі, а насустрач ім несьліся спэцназаўцы, стукаючы дубінкамі па сваіх шчытах. Бачу — жанчына гадоў 60 упала на асфальт ад удару дубінкі. Я падбег, стаў падымаць яе, і тут у самога сьцямнела ў вачах ад моцнага ўдару па галаве.*

Зінаіда Сачанка, 56 гадоў, пэнсіянэрка: *На маіх вачах моцна пабілі ляжачую дзяўчыну, тая ўпала, зачапіўшыся за кусты. А мужчыну, які спрабаваў яе абараніць, мардасты міліцыянт стукнуў рацыяй па галаве, і той заліўся крывёю. Я ўжо ня памятаю, як падбегла да таго мардастага, выставіўшы ўперад рукі. У гэты момант збоку атрымала моцны ўдар дубінкай.*

Вітаўт Мартыненка, 36 гадоў, журналіст: *На праспэкце Скарыны, каля кнігарні «Падпісныя выданьні» пяць міліцыянтаў узялі мяне ў кола, пабілі, начапілі наручнікі і кінулі ў машыну. Па дарозе ў Цэнтральны РАУС білі кулакамі, нібыта па бак-*

*сэрскай грушы. Не супакоіліся яны і ў дзяжурцы. У выніку зь міліцыі мяне забрала 25-я брыгада хуткай дапамогі і адвезла ў 10-ю гарадзкую лякарню.*

Шмат падобнага на тое, што скалане сьвет у жніўні 2020-га, адбылося на менскіх вуліцах у сакавіку 1996-га.

*Сьвята пагражала скончыцца крывавым пабоішчам. Але менавіта ў гэты момант ахоўнікі парадку адступілі. Пасьля чаго мітынгоўцы зьнесьлі ланцуг АМАПу і прарваліся да будынку паштамту. Захапіўшы ў найлепшых традыцыях пошту, тэлеграф і тэлефон, удзельнікі акцыі, аднак, не зрабілі спробы ўзяць вакзалы і банкі. На прыступках паштамту Зянон Пазьняк правёў імправізаваны мітынг, пасьля якога дэманстранты разышліся.* (Андрэй Махоўскі, «Белорусская деловая газета», 28 сакавіка 1996).

З праспэкту разам з Пазьняком і ягонай жонкай Галінай Вашчанкай заехалі ў карпункт Радыё Свабода, забралі маю жонку Галю, а адтуль паехалі ў офіс нашага інфармагенцтва «Павет», дзе быў тэлевізар. Ва ўсіх інфармацыйных выпусках расейскіх каналаў сёньняшнія падзеі, хай сабе і з рознымі камэнтарамі, падаваліся як пратэст нечакана вялікай колькасьці грамадзянаў супраць аб’яднаньня Беларусі і Расеі. Назаўтра вядучыя газэты сьвету паведамілі пра падзеі ў Менску.

Пачатак прарыву інфармацыйнай блякады быў пакладзены: сьвет убачыў, што беларусы ня хочуць пад Расею.

Днём пазьней прэсу абляцела заява прэсавага сакратара прэзыдэнта Расеі Сяргея Мядзьведзева, што «речь о создании нового государства не идет» («Коммерсантъ», 26 сакавіка 1996).

Гэта можна было б расцаніць як перамогу, калі б не другая частка фразы крамлёўскага чыноўніка: «Но наднациональные органы, символика и гимн созданы будут».

## Лукашэнка гаворыць на Радыё Свабода

У палітыцы эфэктыўнай бывае як красамоўнасьць, так і яе адсутнасьць. Адны і тыя ж аргумэнты можна паўтараць бясконца, асабліва, калі апанэнты ня маюць роўных магчымасьцяў для адказу. Аляксандар Лукашэнка падзеі 24 сакавіка ў інтэрвію карэспандэнту беларускай рэдакцыі Радыё Свабода Галіне Айзэнштат пракамэнтаваў наступным чынам (падаю на мове арыгіналу):

*Эта акция, она уже давно была задумана, она инспирирована была соответствующими людьми, она была оплачена, туда со всей республики пришли автобусы, которые привезли, э-э-э, бэнээфовцев (это были бэнээфовцы). Сегодня идёт разбирательство, все эти автобусы были зарегистрированы. Кто платил, кто возил, почему сюда везли. Мы ведь не запрещали митинг.*

Як і ўсё, што я чуў ад Лукашэнкі з моманту нашага знаёмства вясной 1990 году, гэтая заява была напалову хлусьлівай. Альбо, калі ўлічыць, што нават частка хлусьні пазбаўляе словы даверу, — хлусьлівай цалкам.

Мы не рабілі таямніцы з падрыхтоўкі да гадавіны БНР — я ўжо згадваў і прэсавую канфэрэнцыю, і зварот аргкамітэту, распаўсюджаны сярод журналістаў.

Сьпіс «соответствующих людзей» — аргкамітэту на чале з Быкавым — таксама быў вядомы. Само

гэтае азначэньне — «соответствующие люди» — у вуснах Лукашэнкі гучала нэгатыўна, ён нібыта цураўся назваць імёны сваіх апанэнтаў. Гэтае ж слова ў адным са сваіх выступаў, не з паперкі, ён аднойчы скарыстаў і ў дачыненьні да беларускай мовы — «на соответствующем языке», чым пацьвердзіў сваё грэблівае да яе стаўленьне.

Вядома, ніякіх арганізаваных аўтобусаў не было — у нас папросту не хапіла б на гэта грошай. Хаця я ня бачу крамолы ў тым, каб нехта зь бізнэсоўцаў выдзеліў ці арандаваў бы аўтобус для таго, каб хтосьці з Паставаў альбо Глуску, зь Нясьвіжу ці Смаргоняў прыехаў паслухаць Быкава і Пазьняка. Але абсалютнай большасьці прадпрымальнікаў даражэйшы быў іх бізнэс. Так што аўтобусаў не было.

*Но скажите, Галина Иосифовна, как бы поступили на Западе, если бы было такое нарушение? Неужели вы не смотрите телевидение и не видите, как в таких случаях поступают? Разбираются капитально!*

*Я ведь контролировал каждую минуту вот этого события. И единственное только просил — чтобы ни в коем случае не устроили провокации.*

*Я же ведь знал: стоило только милиции где-то кого-то толкнуть так, чтобы действительно пролилась кровь, Галина Иосифовна, — завтра не только в «Свободе» это б было. Да, они устраивали стычки с милицией, входили в столкновение, — я требовал от милиции, не вступая ни в какую конфронтацию, подобных вещей не прощать. И я вам скажу, что наши военнослужащие — спасибо им, кстати, за это — с достоинством вели себя в течение этого полудня. С достоинством!* (Радыё Свабода, 26 сакавіка 1996).

Нешта вельмі падобнае Лукашэнка ўжо казаў — на наступны дзень пасьля пабіцьця дэпутатаў Апазыцыі БНФ, калі гвалтоўна была спыненая галадоўка пратэсту. Тады на сэсіі Вярхоўнага Савету Лукашэнка заявіў:

*Знал или не знал президент о том, что происходило здесь, в моей резиденции, в резиденции правительства? Уважаемые депутаты! Ну конечно же, знал.*

*Президент не просто знал. Президент каждые 30 минут был информирован как глава государства министром обороны о том, что происходит здесь... Я абсолютно не препятствовал никаким действиям МВД, спецподразделениям...*

*Единственное, я просил: «Учтите, вас провоцируют. Ни в коем случае даже не царапните этого человека* (Пазьняка, – С.Н.)*, поскольку будет гвалту на весь мир»* (Стэнаграма сэсіі Вярхоўнага Савету Беларусі, 12 красавіка 1995).

Вось так — усё ведаў, кожную хвіліну кіраваў, папярэджваў, каб ня білі, і ніхто нікога ня біў. Акрамя толькі як у адказ на правакацыі, безь якіх ці то дэпутаты парлямэнту, ці то нацыянальна сьвядомая моладзь і дня пражыць ня могуць.

Дарэчы, гэта апошняе інтэрвію Лукашэнкі Радыё Свабода — у наступныя чвэрць стагодзьдзя звароты журналістаў радыё застануцца без адказу.

Пазьней выказваліся розныя вэрсіі, чаму Галіне Айзэнштат удалося дамагчыся таго. Думаю, прычына простая. Яна рабіла інтэрвію з Лукашэнкам яшчэ ў гады ягонага дэпутацтва, тады, калі ён мала каго з журналістаў цікавіў. Лукашэнку такая ўвага ў той час, зразумела, была на карысьць — вось ён і адказаў на просьбу. Але апошні раз.

## Не здагадваюся, што гэта апошняя ноч на радзіме

Ноч з 24 па 25 сакавіка я ўжо быў ня дома — знаёмыя папярэдзілі, што гэта небясьпечна. Сябры запрапанавалі нам пажыць у іхняй кватэры ў Серабранцы.

Але раніцай, як і штодня, паехаў у офіс нашага інфармагенцтва «Павет» на дзявятым, апошнім, паверсе дома на Юбілейнай плошчы, потым — на прэсавую канфэрэнцыю, якую мы арганізавалі ў штаб-кватэры БНФ на Варвашэні, 8. Пра падзеі напярэдадні ля тэлецэнтру і ў сквэры Дзяржынскага на прэсавай канфэрэнцыі расказвалі самі ахвяры, я іх цытаваў раней.

На прэс-канфэрэнцыі між іншым Пазьняк расказаў пра тое, што апошнія два дні за ягонай машынай пастаянна езьдзяць два аўтамабілі:

*Вечарам 24 сакавіка, каля 20-й гадзіны, мы паехалі з жонкай у госьці з нагоды сьвята. Неўзабаве заўважылі, што за намі неадступна цягнуцца два легкавікі. Адарвацца не ўдалося. Тады мы паехалі ў пракуратуру Менску. Легкавікі зьніклі. Я пакінуў заяву ў дзяжурнага пракурора аб перасьледзе нашай машыны і пазначыў нумары легкавікоў.*

Аднойчы Пазьняк папрасіў свайго шофэра спыніцца — спыніліся і тыя аўтамабілі зь людзьмі ў скураных куртках. Падышоў да першай машыны і з усёй сілай ударыў нагой па бампэры. Любы нармальны чалавек не стрываў бы, а гэтыя нават з машыны ня выйшлі. Праглынулі моўчкі. Відаць, вонкавы выгляд машыны, да якога неабыякавы кожны аўтамабіліст, ня меў значэньня ў параў-

наньні з пастаўленымі кіраўніцтвам апэратыўнымі мэтамі.

Сёньня я разумею, што той апошні вечар у Менску быў падарункам у сэнсе сустрэч, але ж я тады ня думаў, што ён будзе апошнім.

Пасьля інтэрвію ў жывым эфіры расейскай службы Радыё Свабода я пайшоў на вечарыну, якую ладзіў Беларускі ПЭН-цэнтар у Доме дружбы на вуліцы Захарава.

Перад вечарынай мне пазваніла Вольга, жончына сястра, і паведаміла, што прынесьлі позву. Васіль Быкаў сказаў, што трэба пайсьці ў міліцыю («і прыняць пакуты»), а Рыгор Барадулін раіў гэтага ні ў якім разе не рабіць («ня трэба гуляць па іхніх правілах»).

Пра «пакуты», зрэшты, Быкаў сказаў, як мне здалося, з адценьнем іроніі, бо тады яшчэ нікога з апазыцыянэраў не пасадзілі нават на 15 сутак. Праз некалькі месяцаў, калі мы з Пазьняком апынуліся ў сытуацыі, якую ў сакавіку ніхто ня мог і ўявіць, Быкаў катэгарычна падтрымае нашае рашэньне аб палітычным прытулку. Але падрабязна пра гэта я распавяду пазьней.

Уладзімер і Валя Арловы запрасілі нас працягнуць сьвяткаваньне Дня Волі ў майстэрні мастака Аляксея Марачкіна, аднаго з удзельнікаў нацыянальнага руху яшчэ з 70-х гадоў, члена Сойму БНФ.

Маё знаёмства з Уладзем адбылося завочна, калі я быў надрукаваў у віцебскай абласной газэце водгук на ягоную першую кніжку «Добры дзень, мая шыпшына!». Я тады служыў у войску, Уладзя працаваў у наваполацкай газэце, мы ліставаліся, і ўрэшце пасьля таго, як я зьняў афіцэрскія пагоны,

Уладзя і Валя запрасілі мяне на вячэру ў іх навапалацкай кватэры.

Потым было шмат сустрэч — і ў Наваполацку, і ў Віцебску, і ў родным Уладзевым Полацку, дзе мы разам з латыскім журналістам Дайнісам Івансам удзельнічалі ў акцыі супраць будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС, якое б мела цяжкія экалягічныя наступствы і ў Латвіі, і ў Беларусі. Праз год Дайніс узначаліў новаўтвораны Народны Фронт Латвіі, і мы з Уладзем у ягонай кватэры з добрай зайздрасьцю гаварылі, што прыбалты нас апярэдзілі гадоў на пяць, калі ня болей; што ў нас, у Беларусі, такі рух паўстане няхутка. А праз колькі месяцаў сядзелі побач у Чырвоным касьцёле на ўстаноўчым сходзе «Мартыралёгу», галасавалі за ўтварэньне Аргкамітэту БНФ, потым ішлі па начным Менску ў майстэрню да Алега Бембеля, дзе склалі паведамленьне для прэсы пра гістарычны сход.

У студзені 1990-га неафіцыйная «выдавецкая група» БНФ сабралася ў пакоі цокальнага паверху старога дома на Камсамольскай, у раёне Нямігі, дзе я жыў пасьля пераезду ў Менск, каб рыхтаваць нумар газэты да гадавіны БНР і адначасна да выбараў у Вярхоўны Савет; разьмеркавалі, хто што будзе рабіць, і Ўладзя ўзяўся напісаць «што-небудзь» пра каштоўнасьць сваёй дзяржавы. Эсэ «Незалежнасьць — гэта...» потым было перакладзенае на дзясяткі моваў. Мы ня так часта сустракаліся, калі я працаваў у Вярхоўным Савеце, а ён у выдавецтве «Мастацкая літаратура», але дыхалі аднымі ідэямі. У 96-м Уладзімер Арлоў быў ужо прызнаным пісьменьнікам, якому лічыцца клясыкам перашкаджаў хіба толькі зусім яшчэ не салідны ўзрост.

Майстэрня Марачкіна месьцілася ў доўгім доме над Сьвіслаччу. Там сабраліся некалькі дзясяткаў чалавек, адзначалі 25 Сакавіка. Дзіўна, але вылецела з галавы размова з паэтам Алесем Разанавым, творамі якога захапляўся яшчэ ў студэнцкія гады, а асабіста пазнаёміўся толькі ў той вечар. Нейкая загадкавая асаблівасьць памяці — хіба з тае прычыны, што ўвага сканцэнтравалася на тэлевізійнай перадачы, якую паказалі адразу пасьля вечаровага выпуску навінаў.

Перадача не была папярэдне заяўленая ў праграме і зьявілася як рэакцыя на экстраардынарную падзею, якой быў успрыняты ўладамі шматтысячны мітынг.

Гэтую тэлеперадачу мы глядзелі разам з Арловымі ў пакойчыку побач з майстэрняй Марачкіна.

Рэпартаж быў зроблены ў традыцыях наступальнай прапаганды і мог бы стаць працягам вядомай гнюснай азаронкаўскай стужкі, запушчанай на тэлевізію перад рэфэрэндумам у 95-м. Твары ўдзельнікаў мітынгу паказвалі ў скажоным ракурсе — ёсьць такі прыём у апэратараў, калі даўгафокусны аб'ектыў падсоўваюць максымальна блізка.

На экране мільгалі невялікія купкі людзей — а шматтысячную плошчу не паказалі ніводнага разу. Потым на экране зьявіўся пракурор Менску, нехта Купрыянаў, як ні дзіўна, не ў гарнітуры, а ў бруднага колеру швэдры, і, пыкаючы, нібыта з пахмельля, пачаў абвінавачваць арганізатараў мітынгу: сказаў, што па факце парушэньня грамадзкага парадку ў час несанкцыянаванага шэсьця і за непадпарадкаваньне міліцыі будуць заведзеныя крымінальныя справы. Паскардзіўся, што ў пракуратуры не хапае сьледчых, але дзеля такога выклю-

чнага выпадку, які паставіў пад пагрозу грамадзкі спакой, ён здыме пракурорскіх работнікаў з расьсьледаваньня іншых справаў (трэба думаць — аб забойствах ды крадзяжах) і загадае ім заняцца палітычнымі экстрэмістамі.

Выглядала, што пракурора схапілі для запісу дома ці на лецішчы, не далі нават магчымасьці прыстойна апрануцца.

Ну а потым, як і трэба было чакаць, у студыі зьявіліся камэнтатары. На гэты раз — аглядальнік тэлевізіі Ігар Грышан, прэзыдэнцкі ідэоляг Уладзімер Замяталін і прафэсар Валянцін Акулаў.

Цяжка назваць партыю, у якую б, пасьля шматгадовага знаходжаньня ў КПСС, не ўступаў Акулаў — і паўсюль ягонае членства канчалася скандалам. У 1996 годзе атабарыўся толькі ў панславісцкім, шавіністычным «Славянскім саборы», дзе выступаў за «аднаўленьне вялікай краіны ад Берасьця да Курылаў». На гэты раз прафэсар дэманстраваў высакароднае абурэньне паводзінамі актывістаў БНФ і нават заявіў, што адмаўляе нам у праве звацца нацыяналістамі. «Гэта хуліганьнё», — дыягназаваў Акулаў. Палкоўнік Замяталін таксама ня стрымліваўся ў характарыстыках.

Абвінавачаньні ў бок БНФ павялічваліся, ужо і стандартная фармулёўка пра «нацыянал-экстрэмістаў» выплюхнулася, і «правакатарамі» абазваў, і вось-вось з вуснаў Замяталіна павінна было прагучаць нешта скрышальнае...

І яно прагучала.

Як найбольш прыхаваную таямніцу апазыцыі, якую выявілі слаўныя спэцслужбы прэзыдэнта, выгаворваючы кожнае слова, нібыта на курок націскаў, Замяталін выдаў: «А сапраўднымі — не фар-

мальнымі, а сапраўднымі — арганізатарамі гэтага шабасу зьяўляюцца былыя дэпутаты Вярхоўнага Савету, якія ў 1991 годзе галасавалі за незалежнасьць Беларусі і развал СССР».

Ва ўспрыманьні ідэоляга гэта было самае вялікае злачынства — куды больш страшнае і небясьпечнае, чымсьці забойства ці абрабаваньне банку.

А злачынцы, вядома, мусілі быць пакараныя — і Замяталін паведаміў, што арганізатары неўзабаве, вельмі хутка панясуць суровую адказнасьць. Апошнія словы прэзыдэнцкага памагатага гучалі чамусьці на фоне відэазапісу Пазьняка і майго выступу на мітынгу.

Той вечар застаўся ў памяці і Ўладзімера Арлова:

*Так званае «наша» тэлебачаньне было верным сабе. Мы атрымалі чарговую порцыю хлусьні з вуснаў «палітычных аглядальнікаў» Беларускага тэлебачаньня, якія заслугоўваюць такой назвы толькі з аднае прычыны — а менавіта з той, што ня скажуць ані слова, не аглядаючыся на сваіх гаспадароў. У старанна адцэнзураваным рэпартажы пра сьвяткаваньне Дня Волі тысячы прыхільнікаў беларускай Незалежнасьці, якія выйшлі на вуліцы, ператварыліся ў сотні «нацыянал-радыкалаў». Камэра ўпарта не заўважала прыгожых жанчын і юнакоў з абліччамі вікінгаў, а старанна шукала нетэлегенічныя, змрочныя твары. Затым з экрана пачуліся пагрозы арганізатарам...*

*Як, запэцкаўшыся ў брудзе, хочацца хутчэй памыцца, так ад усяго гэтага смуроду нам захацелася на вольнае паветра.*

*Мы выйшлі на вуліцу. Памятаю, спачатку гэта была вуліца Камуністычная, але неяк падсьвядома мы зьвярнулі зь яе на вуліцу імя Алаізы Пашкевіч.*

*Ішлі, гаварылі пра блізкі Чарнобыльскі шлях. Я думаў, што на ім мы абавязкова сустрэнемся, будзем ісьці разам па праспэкце Скарыны: не па ходніках, а менавіта па самым праспэкце, як гаспадары.*

Прайшлі мы і ўздоўж пляцоўкі перад тэлецэнтрам — на сьнезе пры сьвятле ліхтароў усё яшчэ заставалася бачнай кроў, былі відаць абламаныя дрэўкі сьцягоў, валяліся нечыя пальчаткі.

— Думаю, Сяргей, табе варта ў гэтыя дні залегчы на дно, — параіў Уладзя перад тым, як селі ў таксоўку (у машыне пра палітыку ўжо не размаўлялі).

У той вечар ён падараваў нам сваю кніжку «Фаўна сноў» з надпісам «Дарагім Галіне і Сяргею з пажаданьнем шчасьлівых сноў пра Беларусь і іхняга зьдзяйсьненьня». Як у ваду глядзеў — і шмат, шмат гадоў на эміграцыі мне ня сьнілася нічога з амэрыканскага, брытанскага, чэскага ці польскага жыцьця. Пра што Рыгор Барадулін нават верш напісаў. Гэтая Ўладзева кніга потым вандравала ў маім «дыплямаце» па краінах і гарадах, а цяпер займае пачэснае месца ў хатняй бібліятэцы ў Празе, побач зь дзясяткамі кніг, якія прынесьлі майму дарагому сябру заслужаную славу.

Але ў той момант я ня ведаў, што гэта мая апошняя ноч на Радзіме — на дваццаць доўгіх гадоў.

## Мне дасылаюць позву № 74 853 195

А 7-й раніцы аўторка, 26 сакавіка, у дзьверы нашай кватэры ва Ўруччы пазванілі. А потым пагрукалі. Адчыніла дзьверы жончына сястра Вольга, якая вучылася ў пэдынстытуце і жыла ў нас.

З трох чалавек толькі адзін быў у міліцэйскай форме. Але яшчэ мінулым днём прынесьлі позву з патрабаваньнем прыйсьці ў Цэнтральны РАУС Менску. Мэтай выкліку быў пазначаны «допыт». У графе, дзе паведамляецца, у якасьці каго выклікаюць — абвінавачванага альбо сьведкі — стаяў прочырк.

Ля пад'езду стаяў аўтамабіль з характэрнымі антэнамі.

Пра падзеі тых дзён газэта «Свабода» паведамляла:

*...Позву для Сяргея Навумчыка ўручылі яго 18-гадовай сваячцы, якая замест гаспадароў аказалася на кватэры. Пачынаючы з 26 сакавіка, каля пад'езду дзяжурыць машына. А міліцыянты рэгулярна звоняць у кватэру і пытаюцца, дзе знаходзіцца Навумчык. За сваячкай, як толькі яна выходзіць з кватэры, пачынаюць сачыць. 27-га сакавіка а 17-й гадзіне міліцыянт, які ўручаў ёй позву, пагражаў дзяўчыне рознымі мерамі пакараньня, калі «ня скажаш, дзе цяпер знаходзіцца Навумчык».*

Неўзабаве ў міліцыі (а магчыма, і ў іншых органах) прыдумалі найбольш эфэктыўную, на іх погляд, пагрозу Вользе — было абяцана перанесьці гутарку зь лесьвічнай пляцоўкі ў кабінэт рэктара пэдагагічнага ўнівэрсытэту імя Максіма Танка, дзе яна вучылася. Вышэй за рэктара для студэнта, зразумела, нікога няма.

Але не спрацавала — на ўсе патрабаваньні міліцыянтаў і людзей у цывільным Вольга адказвала, што ня ведае пра маё месцазнаходжаньне нічога, і гэта было праўдай.

Дарэчы, позву тую мне прывезьлі толькі праз год у Прагу, і зьдзівіў яе нумар: 74 853 195. У сем разоў

болей, чым насельніцтва Беларусі. Неймаверная колькасьць правапарушальнікаў для хай сабе нават і сталічнага раёну.

Тады ж, у панядзелак, рэальна паўстаў выбар: турма альбо свабода. Спачатку быў схільны да таго, што трэба выбіраць арышт, прычым як форму працягу палітычнай барацьбы. Мы з жонкай доўга абмяркоўвалі гэты варыянт, і маім галоўным аргумэнтам было — хай нас пасадзяць, хай зьдзекуюцца ў турме, так, могуць нават і забіць, але гэта выведзе на вуліцу яшчэ большую колькасьць людзей, а гэта, у сваю чаргу, паскорыць канец рэжыму. Сто пяцьдзясят тысяч на плошчы перад прэзыдэнцкім палацам — і міліцыя, войскі будуць паводзіць сябе зусім інакш, чым перад дзесяцьцю тысячамі; гэта якраз той выпадак, калі колькасьць пераходзіць у якасьць. Ніводзін генэрал ня возьме на сябе сьмеласьць разганяць такі натоўп з прымяненьнем сілы, бо ахвяры могуць быць велізарныя. Палітычная сытуацыя ж можа разгортвацца проста: патрабаваньне да Вярхоўнага Савету аб імпічмэнце; імпічмэнт; пераход улады да сьпікера парлямэнту.

Мне спатрэбілася зусім ня шмат часу для разуменьня, што гэтыя прагнозы былі наступствам эўфарыі, значнай пераацэнкі ўласных магчымасьцяў і, што больш важна, магчымасьцяў грамадзтва.

І справа нават ня ў тым, што, як значна пазьней пакажа 2020 год, нават 300 тысяч на праспэктах не вядуць да імгненнай перамогі (тэорыя «100 тысяч на плошчы — і рэжым падзе» дзесяцігодзьдзямі панавала ў грамадзтве, я і сам быў яе гарачым адэптам).

Пераломным момантам для пачатку пераасэнсаваньня ступені салідарнасьці ў грамадзтве для мяне было ўсё ж пабіцьцё дэпутатаў Апазыцыі БНФ

12 красавіка 1995 году. Адразу пасьля гэтага здавалася, што народ нарэшце пабачыў, хто насамрэч ёсьць Лукашэнка, і што цяпер апазыцыянэрам як пакутнікам гарантаваная перамога... Аднак на плошчу Незалежнасьці выйшлі дзьвесьце чалавек (пераважна жанчын), якіх разагнала міліцыя, а ў крамах, у тралейбусах ды ў сябе на кухнях некаторыя казалі: «Мала ім, дэпутатам, далі».

Безумоўна, людзі, хай сабе і ў невялікай колькасьці, маглі выйсьці на вуліцу, але гэта не зьмяніла б нічога. Зь імі расправіліся б яшчэ больш жорстка, чым 24 сакавіка, бо рэжым умацаваўся і пераканаўся ў тым, што атрымае маўклівую падтрымку большасьці. Крывавыя расправы над удзельнікамі пікету ў абарону Сіўчыка і Хадыкі 30 траўня 1996 году пад сьценамі Нацыянальнага банку, калі пабілі ў кроў сотні людзей, пацьвердзіла гэта.

Але ўвесь час у эміграцыі мне давядзецца чуць пра тое, што трэба было б Пазьняку і Навумчыку сесьці ў турму, зрабіцца пакутнікамі.

26 сакавіка 1996-га, калі трэба было прымаць рашэньне, у дэмакратычных сілаў Беларусі не было досьведу турмаў і, адпаведна, досьведу вызваленьня зь іх. Пазьней, праз тры месяцы, я даведаюся, што турма — гэта хіба найлепшае з таго, што чакала Пазьняка і мяне на радзіме.

Ніводнага разу за ўсе гады на чужыне я не сумняваўся, што рана ці позна вярнуся на Беларусь — але ніколі і не пашкадаваў аб тым рашэньні, якое было прынята на кватэры сяброў у Серабранцы 26 сакавіка.

Вядома, у той момант я ня думаў пра эміграцыю, ды і наўрад ці кіраваўся нейкай дакладнай тэорыяй. У тыя трывожныя хвіліны такая тэорыя проста

не магла нарадзіцца. І галоўным, бадай што, стаў не рацыянальны палітычны разьлік, а пачуцьцё, з палітыкай ніяк не зьвязанае...

Гэта была агіда і нежаданьне апынуцца ў ролі ахвяры. У той ролі, у якой давялося пабыць падчас парлямэнцкай галадоўкі, калі двое невядомых у масках кідаюць цябе салдатам-спэцназаўцам, а тыя, вывернуўшы табе рукі да болю ў сьпіне, валакуць цябе праз залю, па сходах, на двор і, нібы мех з бульбай, кідаюць у міліцэйскі «варанок». Магчыма, гэта было самае брыдкае адчуваньне ў жыцьці — уласная бездапаможнасьць перад грубай фізычнай сілай. Пасьля таго я даў сабе слова ніколі не дастаўляць падонкам асалоды зьдзекавацца зь сябе.

Рашэньне было прынята — у міліцэйскі пастарунак не ісьці.

## Выкарыстоўваю параду Чарнавола

Вяртацца дамоў было небясьпечна — пад'езд быў блякаваны. Ставіць пад рызыку сяброў, у якіх начаваў, я ня меў права. Пачалі шукаць магчымасьць схавацца за горадам, але дзе ты знойдзеш такое леціўча, у якім можна пражыць некалькі тыдняў у халодным сакавіку. Ды і сувязь зь Менскам трымаць складана — жонку спэцслужбы маглі элемэнтарна высачыць. Мабільных тэлефонаў, нагадаю, у нас не было, інтэрнэту таксама. Хаця, як цяпер відавочна, зьяўленьне ўсяго гэтага потым толькі значна аблегчыла спэцслужбам атрыманьне максымальна поўнай інфармацыі пра апанэнтаў рэжыму, у тым ліку і пра месца іх знаходжаньня, з дакладнасьцю ледзь не да мэтра.

Заставаўся варыянт выезду (вядома ж, часовага) зь Беларусі.

Але куды? Пераходы ў Польшчу, а таксама ў Латвію і Літву жорстка кантралююцца памежнікамі. Адкрытая мяжа з Расеяй, але я не сумняваўся, што пры першым жа званку зь Менску расейцы выдадуць мяне зь вялікім задавальненьнем, як выдалі дзясяткі дысыдэнтаў з Паўночнай Карэі, Азэрбайджану ды Ўзбэкістану.

Заставалася Ўкраіна, мяжа зь якой хоць і кантралюецца, але ня так моцна. Для зьмяншэньня рызыкі можна паехаць у Кіеў праз Расею — наўрад ці менскія спэцслужбы дадумаліся разаслаць на расейска-ўкраінскія памежныя пункты дэпэшы з загадам затрымаць і вярнуць, хаця ўсё было магчыма. Але ж нічога іншага не заставалася, як прарывацца гэтым маршрутам. Істотна было і тое, што паміж кіраўніцтвам БНФ і лідэрамі «Руху» меліся трывалыя сяброўскія сувязі і я мог спадзявацца на дапамогу.

У чэрвені 1995 году мы з Пазьняком былі на міжнароднай канфэрэнцыі ў Кракаве, і там у нас адбылася гутарка зь лідэрам Народнага Руху Ўкраіны Вячаславам Чарнаволам.

Чарнавол быў сымбалем супрацьстаяньня савецкаму рэжыму яшчэ з 60-х гадоў. У рассакрэчаных украінцамі архівах КДБ існуе «специальное сообщение» дзяржбясьпекі пра тое, што 4 верасьня 1965 году ў кіеўскім кінатэатры «Україна» «...перед началом сеанса состоялась встреча зрителей с творческой группой „Тіні забутих предків“. После выступления режиссёра-постановщика ПАРАДЖАНОВА (у дакумэнтах КДБ прозьвішчы звычайна друкаваліся вялікімі літарамі. — С. Н.)

на сцену поднялся литературный критик ДЮБА Иван Михайлович, который обратился к зрителям с речью...». Дзюба заявіў пра масавыя арышты ўкраінскай інтэлігенцыі, а «ЧЕРНОВОЛ обратился к публике с призывом подняться с мест в знак протеста против „политических репрессий". Некоторая часть публики последовала этому призыву».

За гэты выступ Чарнавол быў звольнены з газэты, дзе працаваў, а ў далейшым некалькі разоў быў асуджаны, зьяўляючыся членам Украінскай Хэльсынскай групы. Ён адзін з заснавальнікаў Народнага Руху Ўкраіны, быў абраны гетманам украінскага казацтва, народным дэпутатам Украіны, на першых прэзыдэнцкіх выбарах у сьнежні 1991-га заняў другое месца, набраўшы амаль сем з паловай мільёнаў галасоў (больш як 23%), саступіўшы Леаніду Краўчуку.

Цяжка было ўявіць, што гэты энэргічны, імклівы, вясёлы чалавек — адзін з найбольш глыбокіх мысьляроў і публіцыстаў сучаснай Украіны. Было ўражаньне, што яму цяжка сядзець на месцы (канфэрэнцыя дзе-нідзе была нуднаватай, як і кожнае такога кшталту мерапрыемства), часам ён адпускаў жартаўлівыя рэплікі.

Але, калі трэба было ехаць з гатэлю ў цэнтар Кракава (здаецца, на нейкі фуршэт), ён прапанаваў нам з Пазьняком прайсьціся пехатою, каб пагутарыць утрох.

Мы ішлі нейкім доўгім мостам, пра нешта размаўлялі. У нейкі момант Чарнавол спыніў тэму і сказаў, што сытуацыя ў Беларусі можа быць вельмі небясьпечнай для жыцьця лідэраў БНФ (не свабоды — менавіта жыцьця) і што ў выпадку, калі мы палічым гэта неабходным, нам заўсёды дадуць

прытулак у Кіеве. І што там, ва Ўкраіне, створаць умовы для сталай палітычнай працы.

Але, перш чым прыняць канчатковае рашэньне, я папрасіў жонку — нікога з Фронту побач не было — паехаць да Пазьняка і абмеркаваць зь ім сытуацыю.

Вось як Галя прыгадвае той дзень 26 сакавіка:

*Я выйшла з дому, дзе ў сяброў хаваўся Сяргей, з аўтамата пазваніла Пазьняку ў Грушаўку, дзе яны з Галяй жылі, і папрасіла сустрэцца, бо ёсьць размова. Пазьняк зьбіраўся на канфэрэнцыю аб Чарнобылі. Узяла таксі і, калі пад'яжджала да Грушаўкі, убачыла, што паўсюль людзі ў вайсковай форме са зброяй, з сабакамі. Таксіст зьдзівіўся, сказаў, што, пэўна, шукаюць некага, хто ўцёк з турмы. Я сказала, што, напэўна, пільнуюць таго, да каго мы едзем, але гэта чалавек не злачынец. Я папрасіла таксіста спыніцца за рогам дома; не хацела, каб ён ведаў, дзе жыве Пазьняк. А самога Пазьняка ўжо ўбачыла ў пад'езьдзе, калі ён спускаўся па лесьвіцы. Расказала, што адбываецца вакол. Я прапанавала адпусьціць Юзіка, ягонага шофэра, машыну якога міліцыя ведала, і зьехаць на таксі. Калі селі ў аўтамабіль, таксіст пазнаў Пазьняка, сказаў, што ён добра ведае гэты раён і пастараецца выбрацца. Ён выяжджаў нейкімі дварамі, але сапраўды выбраўся.*

А вось як успамінае той дзень Зянон Пазьняк:

*Раніцай 26 сакавіка я ўжо выклікаў па тэлефоне машыну і чакаў, каб ехаць на канфэрэнцыю па Чарнобылі, як неўзабаве пазваніла журналістка Галіна Прыгара (жонка Сяргея Навумчыка) і папрасіла яе пачакаць. Прыехаўшы, яна паведаміла, што на канфэрэнцыі мяне чакае міліцыя, каб арыштаваць, а ўвесь наш квартал таксама акружаны міліцыяй і ўзброеным АМАПам. Спыняюць усе машыны, акра-*

*мя, як ёй падалося, таксі, і правяраюць дакумэнты. Яна сказала, што іхны дом таксама блякаваны машынамі КГБ і што хочуць схапіць Сяргея (Лукашэнка меў да яго асаблівую непрыхільнасьць).*

*Усё гэта выглядала праўдападобна, бо вельмі нагадвала кагэбоўскі «новы стыль». Ніякіх пракурорскіх працэдураў, ніякіх позваў, як было раней. Схапіць — і ўсё. Я ведаў (быў папярэджаны) пра тры вэрсіі «нэўтралізацыі» маёй асобы: аўтамабільнай аварыі, забойства ў натоўпе з абвінавачваньнем унутранай апазыцыі ў Фронце супраць мяне (якую акурат пачалі ляпіць) і, нарэшце, — варыянт «турэмнага ўзьдзеяньня». Незразумелы быў зьмест гэтай вэрсіі, але ў выніку яе ажыцьцяўленьня я, па задуме, павінен быў «нэўтралізавацца» сам, і ўжо на свабодзе. (Цяпер, калі «нэўтралізаваўся» Генадзь Карпенка, зразумела, што арсэналам яны валодаюць, як некалі, немалым).*

*Выглядала на тое, што пачалі спрабаваць трэці варыянт. Сусьветны рэзананс ад нашай маніфэстацыі супраць саюзу з Расеяй быў велізарны. У Маскве не чакалі такога павароту падзеяў. Стала зразумела, што ціха праглынуць Беларусь, ды яшчэ выставіць нашу няволю як добраахвотнае жаданьне беларусаў, ужо ня ўдасца. Лукашэнка і маскоўскія палітыкі не змаглі схаваць сваёй зьбянтэжанасьці і злосьці.*

*Стоячы ў пад'езьдзе, я задумаўся, што рабіць. Навумчыкава якраз кажа, што Сяргей вырашыў ад'ехаць на Ўкраіну і што, на яе пагляд, мне таксама лепш было б адлучыцца зь Беларусі, што ёсьць магчымасьць дапамагчы мне выехаць у Кіеў, дзе мне заўсёды паспрыяе мой сябра, кіраўнік Народнага Руху Ўкраіны Вячаслаў Чарнавол.*

*Я добра разумеў сытуацыю ў Беларусі: і тое, куды яна паварочваецца, і тое, што рыхтавалася для мяне. Трэба было прымаць рашэньне, да якога я быў не гатовы. Але, як кажуць, на вайне, як на вайне. Паўтараць памылкі Цьвікевіча, Тарашкевіча, Ластоўскага ды іншых адраджэнцаў я не зьбіраўся. І добра перадумаў гэта яшчэ ў курапацкай расстрэльнай яме, стоячы над трупамі.*

*Акурат прыехала выкліканая мной машына. Я сказаў калегу-фронтаўцу, што паеду іншай машынай і каб ён ад'ехаў праз паўгадзіны пасьля майго ад'езду. Я падняўся ў дом, узяў замежны пашпарт і дакумэнты.*

*Мы выехалі з Галінай Навумчыкавай задворкамі на таксі. Праз шкло я бачыў на ўездах у квартал амапаўцаў з аўтаматамі і рэгуліроўшчыкаў (хаця што тут рэгуляваць).*

Ізноў успамін Галі:

*Потым мы даведаліся, што машыну Юзіка спыніў патруль і літаральна ўсю ператрос. А мы на таксі прыехалі ў офіс нашага агенцтва «Павет» на Юбілейнай плошчы, гэта была аднапакаёвая кватэра. Я расказала Пазьняку пра Сяргея, ён адразу падтрымаў ідэю яго выезду і сказаў, што паедзе на кватэру да сябра, бо дадому вяртацца небясьпечна. Даў мне нумар тэлефона свайго даўняга сябра, які ніяк ня быў засьвечаны ў Фронце, увогуле ў нейкай палітычнай актыўнасьці, і патлумачыў, што я павінна рабіць.*

*А павінна я была патэлефанаваць гэтаму сябру з аўтамата і сказаць, што званю ад чалавека (гэта быў адзін з малавядомых псэўдонімаў Пазьняка, скажам, Мацей Бурачок), што прыехала цётка ў Менск, стаіць пад дзьвярыма, і што для яе трэба*

*даць ключы ад кватэры. Маўляў, гэта вельмі даўняя дамоўленасьць, ён зразумее, што да чаго.*

*Я пайшла званіць. Чалавек быў на месцы. Але маіх словаў не зразумеў. Я паўтарыла. Ён ізноў: «Які такі Бурачок? Якая цётка? Што вы мне дурыце мазгі?!» Я яшчэ раз, у іншай форме сказала. «Жанчына, што вы выдумляеце? Вы ненармальная ці правакатарка?» Адчуваючы, што мужчына можа пакласьці трубку, я ўжо сказала прамым тэкстам: «Я вам званю ад Пазьняка!» — «Усё! Зразумеў! Прыяжджайце!». Я паехала да яго на працу па адрасе, які ён назваў.*

*Узяла ключы, прыехала ў офіс, і мы з Пазьняком паехалі на кватэру гэтага сябра, у «хрушчоўку» аднаго з цэнтральных мікраraёнаў Менску. Там Пазьняк і быў да ад'езду ва Ўкраіну.*

Галя вярнулася гадзіны праз тры і выглядала прыкметна перапалоханаю.

## Каб пачулі і ў Лёндане, і ў Парыжы, і ў Нью-Ёрку

Дамовіцца пра паездку ў Кіеў са знаёмымі, якія мелі машыну, Галі ўдалося хутка. Па мяне ў Серабранку прыехалі, калі яшчэ было сьветла. Узьнікла патрэба вярнуцца ва Ўручча, каб узяць некаторыя дакумэнты. Праехалі недалёка ад майго дома — і мне паказалі аўтамабіль з антэнкаю на даху каля майго пад'езду.

Потым выскачылі на Маскоўскую трасу і, не перавышаючы хуткасьці, каб не спыніла ДАІ, паехалі ў бок мяжы.

Каля Воршы падумалася, што зусім блізка — кілямэтраў якіх восемдзесят — Віцебск, бацькі, і што трэба будзе заехаць на зваротным шляху. Але гэта хіба не раней як праз пару тыдняў, а то і празь месяц. Затое ўжо сыдзе сьнег і пачнецца вясна, а з высокіх віцебскіх мастоў так цікава назіраць крыгаход на Дзьвіне...

Мільганулі нейкія будынкі ці то былой мытні, ці то памежнага пункту — і Беларусь засталася ззаду. Хлопцы зьмянілі адзін аднаго за рулём і ўсю дарогу круцілі новы дыск Алы Пугачовай «Не делайте мне больно, господа!» — і потым доўга, як толькі чуў якую-небудзь песьню з таго альбому, успамінаў тую сьнежную начную дарогу.

На расейскай тэрыторыі паддалі газу, на сьпідомэтры было недзе пад сто сорак. Праскочылі Смаленск, Браншчыну, без прыгод перасеклі ўкраінскую мяжу і а дзявятай раніцы 27 сакавіка былі ў Кіеве.

У штаб-кватэры Руху да тэлефону ніхто не падыходзіў — відаць, было зарана. Таму падаліся да нашага добрага знаёмага — гішпанскага дыплямата Хасэ Пая. Гішпанец адразу павёз нас дахаты на сьняданак. Натуральна, за сталом зайшла гутарка пра Беларусь; сапраўдныя эўрапейцы дзівіліся тым парадкам, якія панавалі ў Менску. А гаспадыня дома правяла клясычныя гістарычныя паралелі. Расчуліла і зацікаўленьне нашым асабістым лёсам, але мы далікатна павярнулі размову ў грамадзкае рэчышча, паведаміўшы, што не зьбіраемся прасіць палітычнага прытулку.

У такой добразычлівай атмасфэры яшчэ болей хацелася верыць у тое, што яшчэ крыху — і дыктатура падзе. Потым Хасэ адвёз нас у штаб-кватэру

Руху. Там пра менскія падзеі ведалі, але падрабязнасьці пра расправу над маніфэстантамі ўразілі кіяўлянаў. І нагэтулькі моцна, што намесьніца старшыні Руху Алена Бандарэнка і прэс-сакратар РУХу Дзьмітро Панамарчук запрасілі журналістаў.

Але тут я хачу расказаць пра пані Алену («Олену» па-ўкраінску).

Людзі, зь якімі давялося пазнаёміцца ці блізка сысьціся ў 96-м, мелі вялікае значэньне для майго лёсу. Але лёс шмат каго зь іх перасякаўся з асобамі, да якіх, здавалася б, бясконца далёка ў часе і ў прасторы, і стваралася гэтым мудрагелістая тканіна жыцьця, у якім, па вялікім рахунку, усё непрадказальна і нечакана. Выпадковасьць можа мець большае значэньне, чым заканамернасьць. Людзі гэтыя былі зьвязаныя з падзеямі значнымі, рэдка прыемнымі, часьцей — трагічнымі. Ня кажучы ўжо пра тое, што часам яны самі ўплывалі на ходу гісторыі — калі не сусьветнай, дык сваіх краінаў.

Калі б гісторыю бацькоў Алены Бандарэнкі экранізавалі ў поўнай адпаведнасьці з рэальнымі падзеямі, гэта ўспрымалася б як празьмерная фантазія сцэнарыста.

Адразу пасьля вайны генэральны сакратар Саюзу пісьменьнікаў СССР Аляксандар Фадзееў напісаў раман «Маладая гвардыя» пра падпольную арганізацыю ў Краснадоне. Аўтар карыстаўся матэрыяламі камісіі, якая не абцяжарвала сябе праверкай фактаў. Сярод сотняў асобаў фігуравала і школьніца Вольга Лядзкая, якая аднойчы трапіла ў паліцыю, але праз тыдзень яе адпусьцілі — маці выкупіла за пляшку самагону. Фадзееў скарыстаў яе імя і прозьвішча для вобразу здрадніцы, і ў рамане яна выдае немцам удзельнікаў арганізацыі.

Але папраўдзе рэальная Вольга нават ня ведала пра існаваньне «Маладой гвардыі».

Першы варыянт не спадабаўся Сталіну — была недастаткова паказаная роля партыйнай арганізацыі. Дакладней, зусім не паказаная, і тут Фадзееў быў верны праўдзе: партыйныя работнікі пакінулі горад незадоўга да прыходу гітлераўцаў. Генсек пісьменьнікаў улічыў пажаданьні самага галоўнага генсека, увёў новыя пэрсанажы камуністаў, даў ім ролю арганізатараў падпольля, але прозьвішчаў «здраднікаў» не зьмяніў. На папрокі блізкіх тых, каго Фадзееў абылгаў (Вольга такая была не адзіная), ён адказаў, што пісаў не дакумэнтальны твор, а мастацкі, які прадугледжвае аўтарскую выдумку, і ўносіць праўкі адмовіўся.

Ня Сталін жа прасіў.

Вольгу Лядзкую арыштавалі, катавалі, прымушалі прызнацца ў тым, у чым не была вінаватая. У турме яна захварэла на адкрытую форму сухотаў і ў адчаі спрабавала разьбіць сабе галаву аб сьценку — але ўратавалі, перад судом падлячылі.

Вольгу асудзілі на 15 гадоў. Яе цкавалі і крымінальнікі, і канваіры, а ў лягеры ў казаскім Кенгіры дэманстравалі інспэктарам-начальнікам як «тую самую, якая здала моладагвардзейцаў».

Пасьля сьмерці Сталіна палітычныя вязьні спадзяваліся, што іх вызваляць ці хаця б зробяць рэжым больш мяккім, але гэтага не адбылося. Наадварот: у зоны да палітычных запускалі крымінальнікаў, ад якіх адміністрацыя лягераў чакала расправы з «антысаветчыкамі». 16 траўня 1954 зьняволеныя Кенгіру паўсталі, запатрабавалі прыезду члена прэзыдыюму ЦК, каб перадаць яму свае ўмовы. Паўстанцы зрынулі агароджы паміж

«мужчынскімі» і «жаночымі» зонамі, стварылі сыстэму самакіраваньня. Існавала нават кузьня, дзе выраблялі зброю — лягер адразу ўзялі ў аблогу чэкісты і вайскоўцы. Да паўстанцаў прыехаў намесьнік генэральнага пракурора СССР, але паразуменьня, натуральна, не атрымалася.

У паўстаньні ўдзельнічалі ўкраінцы, літоўцы, латышы, расейцы, беларусы, эстонцы, габрэі, татары — дасьледчыкі налічваюць прадстаўнікоў да паўсотні нацыянальнасьцяў. Сярод іх быў і вугорац па бацьку і немец па маці Фэрэнц Варкані-Лебэр (зьняволеныя называлі яго Фёдар); лекар па адукацыі, ён працаваў у мэдпункце.

«Сорак дзён Кенгіру» (так Салжаніцын назваў прысьвечаны паўстаньню разьдзел у «Архіпэлягу ГУЛАГу») былі адначасна і днямі шчасьця для Вольгі і Фэрэнца, якія пакахалі адно аднаго. Яны сталі першымі зь некалькіх дзясяткаў маладых людзей, якіх падчас паўстаньня вянчаў сьвятар-вязень Антон Куява.

З фрагмэнтаў мэдычнага абсталяваньня ўдалося сабраць радыёперадатчык, зрабіў гэта сябар Фэрэнца, які скончыў тэхнічны інстытут. Ён атрымаў 20 гадоў за тое, што ў коле сяброў выказаў падазрэньне пра магчымую сувязь члена Палітбюро Бэрыя з замежнымі ўстановамі, у тым ліку і ангельскай выведкай. Праз тры гады Бэрыя арыштавалі і расстралялі як ангельскага шпіёна. Аднак асуджанага ня вызвалілі. Бо справа ж, урэшце, ня ў Бэрыя як пэрсоне — чалавек жа асьмеліўся ўсумніцца ў чысьціні партыйнага кіраўніцтва. Фэрэнц навучыў таварыша ангельскай азбуцы Морзэ, і паўстанцы дасылалі ў эфір заклікі аб дапамозе.

Урэшце да лягеру сьцягнулі танкі. Вось як апісвае Фэрэнц Варкані апошнія хвіліны паўстаньня, калі ягоны напарнік-радыст, пачуўшы грукат танкаў, ускрыў сабе артэрыю:

*«Ратуйце, нас забіваюць», — перадаваў ён да апошняй хвіліны ў эфір. Але хто мог злавіць гэты покліч адчаю, акрамя хіба прымачоў МУС у Казахстане? І хто б наагул рэагаваў на яго, нават калі б ён і сапраўды дасягаў замежжа, на дапамогу якога мы так спадзяваліся ў Кенгіры? Каго ў Бэрліне, Парыжы, Лёндане або Нью-Ёрку турбуе сьмертазабойства ў Кенгіры або Варкуце? Жанчыны выносяць літоўца-радыста з кабіны і стараюцца яшчэ выратаваць яго, але позна. Позна думаць нават аб паратунку аднаго; бутэлькі, якія жанчыны і дзяўчаты напаўнялі выбухоўкай, скончыліся. Скончыліся і камяні, якімі да канца спрабавалі адганяць чэкістаў.*

*Каля сямі гадзін раніцы жанчыны і дзяўчаты другога бараку жаночага лягеру бяруцца за рукі і са сьпевамі выходзяць у двор, насустрач танкам. Ня стануць жа яны так проста ўразацца ў жаночыя шэрагі, спадзяюцца яны. Але танкі ўразаюцца. Сталёвыя гусеніцы праходзяць па жаночых целах, не спыняючыся.*

Наступная цытата — фрагмэнт эсэ Ўладзімера Арлова з кнігі «Імёны Свабоды», прысьвечанага ўдзельніцы кенгірскага паўстаньня беларусцы Надзеі Дземідовіч, асуджанай на 25 гадоў за ўдзел у Саюзе беларускай моладзі:

*Падчас разгрому паўстаньня загінула болей за сямсот расьціснутых танкамі і расстраляных вязьняў. Калі каты пашыхтавалі ацалелых на пера-*

*клічку, Надзея ў адказ на сваё прозьвішча крыкнула: «Далоў бэрыеўскае беззаконьне!».*

Вольгу і Фэрэнца раскідалі па іншых лягерах. Яны ўжо ніколі не пабачыліся. Іх дачка Алена нарадзілася ў сібірскім Тайшэце, яе ўдалося забраць да сябе Вольжыным бацькам.

У траўні 1956-га, праз тры месяцы пасьля антысталінскай прамовы Хрушчова на XX зьезьдзе, Фадзееў застрэліўся. У перадсьмяротным лісьце ў ЦК, які камуністычныя ўлады апублікуюць толькі ў 1990-м, ён скардзіцца, што яго, створанага «для большого творчества во имя коммунизма», адоранага «талантом незаурядным», поўнага «самых высоких мыслей и чувств, какие только может породить жизнь народа, соединенная с прекрасными идеалами коммунизма», ператварылі ў «лошадь ломового извоза», маючы на ўвазе тую бюракратычную працу, якую ён выконваў як кіраўнік саюзу пісьменьнікаў (пісаньне розных пастановаў, разьмеркаваньне прэміяў, кватэраў, дачаў і падобнае). Пра рабскую працу за «пайку» зьняволеных у ГУЛАГу, куды адправілі абылганых ім людзей, ён не напісаў. І, напэўна, калі закладаў у пісталет кулю, ня ўспомніў і Вольгу Лядзкую. Што значыць ейная доля ў параўнаньні з «прекрасными идеалами коммунизма»?

Праз два тыдні пасьля таго, як Фадзееў застрэліўся, Вольгу вызвалілі. Яна зьвярталася ў розныя інстанцыі, аж да Вярхоўнага Савету, пісала, што невінаватая. Яе выклікалі ў КДБ, патрабавалі спыніць гэта і пагражалі «дабавіць, калі было мала». Аднак з прыходам Гарбачова і пачаткам перабудовы нешта зрушылася. Дамагчыся справядлівасьці Вользе Лядзкай дапамагалі Алена Бонэр, Андрэй Сахараў

і Сяргей Аверынцаў. За справу ўзяўся народны дэпутат СССР журналіст Юры Шчакачыхін, у пракуратуры нарэшце вывучылі справу дэталёва — і ў сакавіку 1990 году Вольгу Лядзкую цалкам рэабілітавалі «праз адсутнасьць складу злачынства».

У 2000 годзе на Радыё Свабода я зраблю са Шчакачыхіным перадачу пра ягоную кнігу «Рабы ГБ». А яшчэ праз тры гады Шчакачыхін загадкава памрэ — экспэртыза знойдзе ў целе хімічныя рэчывы, якія не маглі трапіць туды натуральным шляхам, пракуратура Расеі будзе то адкрываць, то спыняць крымінальную справу паводле артыкулу «Забойства». Замежныя экспэрты пацьвердзяць, што Шчакачыхіна атруцілі.

Што да фадзееўскага раману, наклад якога ў адным толькі СССР дасягнуў некалькіх дзясяткаў мільёнаў асобнікаў (фактычна ён быў у кожнай трэцяй савецкай сям'і), дык дасьледчыкі сталінскіх рэпрэсій падлічаць: у выніку «мастацкіх фантазій» аўтара былі зламаныя лёсы ня менш як трох сотняў чалавек. Але кніга перавыдаецца, без усялякіх выпраўленьняў і камэнтароў. «Маладая гвардыя», калі я пішу гэтыя радкі, у Беларусі ўваходзіць як літаратура для дадатковага чытаньня ў школьную праграму. «У капцюрох ГПУ» Францішка Аляхновіча і «Споведзь» Ларысы Геніюш, у якіх зь першых вуснаў расказана пра пакуты ахвяраў бальшавізму, у праграму не ўключылі.

Хто быў яе бацька, Алена даведалася ў 16-гадовым узросьце, але сустрэцца ім не давялося: маці, баючыся за лёс дачкі, хавала ад яе лісты зь Нямеччыны, куды Фэрэнц пераехаў пасьля вызваленьня. Ён жыў у Мюнхэне, супрацоўнічаў з вугорскай рэдакцыяй Радыё Свабода. Менавіта

Фэрэнц Варкані быў першым, хто паведаміў на Захадзе падрабязнасьці паўстаньня ў Кенгіры. Памёр ён у 1987 годзе. Алена пайшла ў журналістыку, далучылася да стварэньня Народнага Руху Ўкраіны, стала намесьніцай кіраўніка Руху Вячаслава Чарнавола. Потым яна будзе выбірацца народным дэпутатам Украіны чатырох скліканьняў, увойдзе ў пастаянную дэлегацыю Вярхоўнай Рады Ўкраіны ў Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы.

Калі гэтая кніга ўжо праходзіла карэктуру, маці пані Алены памерла ў кіеўскім шпіталі ад каранавірусу ва ўзросьце 95 гадоў. За тыдзень да адыходу ў лепшы сьвет Вольгі Лядзкай ад цяжкай хваробы памёр і Дзьмітро Панамарчук.

А ў той сакавіцкі дзень 96-га, слухаючы наш расповед, пані Алена была ўпэўненая, што да пакутаў беларусаў не павінны застацца абыякавымі жыхары Бэрліну, Парыжу, Лёндану або Нью-Ёрку, якія калісьці не пачулі голасу яе бацькоў.

А пачынаць трэба было з Кіева, каб часу не марнаваць. Калі ў штаб-кватэру Руху прыехалі запрошаныя пані Аленай журналісты, мне з Галяй давялося да самага вечара расказваць пра падзеі ў Беларусі.

Па недаверлівых позірках я адчуваў: яны лічаць, што мы перабольшваем.

## Выскокваю з 30-х гадоў

Кіеў прачынаецца ад зімы раней, чым Менск, і ў апошнія дні сакавіка сьнегу амаль не было. Добрая ўмова, каб пагуляць па вуліцах бясьпечнага гораду, які мне вельмі падабаўся, але пакуль што гэта давялося адкласьці — не было калі.

Увечары мы паехалі ў Боярку, кілямэтраў за дваццаць ад Кіева. Нас запрасіла пажыць да сябе журналістка газэты «Час-Time» Ніна Харчук — яе дачка Гэля працавала ў агенцтве «Рух-прэс».

Увесь гэты дзень павялічвалася пачуцьцё нерэальнасьці таго, пра што расказваў кіяўлянам, як быццам гэта было не са мной. Як быццам гэтага наогул не адбылося, а калі і здарылася, то вельмі даўно. «Вы ўсё роўна як выскачылі з трыццатых гадоў», — сказаў мне нехта з журналістаў. І калі мы прыехалі ў Боярку, зайшлі ва ўтульную хату, дзе ўжо ў калідоры пахла вячэрай, селі за стол, падумалася: а вось гэта і ёсьць нармальнае жыцьцё, астатняе — зь нейкага іншага сьвету.

Але вечаровая праграма Радыё Свабода, якое няблага лавілася ў Боярцы, вярнула ў рэчаіснасьць.

Мадэратар назваў нашы імёны: «Сёньня на сэсіі Вярхоўнага Савету прэзыдэнт Лукашэнка заявіў аб пачатку крымінальнага перасьледу арганізатараў акцыі пратэсту супраць беларуска-расейскага саюзу. Апошнія два дні менская міліцыя шукае лідэраў Беларускага Народнага Фронту Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка. На момант выхаду праграмы ў эфір месца знаходжаньня палітыкаў невядомае».

Далей з прымача загучаў голас Валянціна Жданко:

*Падзеі, што адбыліся ў Менску ў мінулую нядзелю, падчас масавых урачыстасьцяў з нагоды чарговых угодкаў Беларускай Народнай Рэспубліі, якія перарасьлі ў шырокамаштабную акцыю пратэсту супраць палітыкі Лукашэнкі па скасаваньні незалежнасьці дзяржавы, па-ранейшаму застаюцца ў цэнтры грамадзкай цікавасьці ў Беларусі.*

*Тым больш што гэтыя падзеі мелі працяг. Па гарачых сьлядах акцыі, у панядзелак, лідэрам Беларускага Народнага Фронту Зянону Пазьняку і Сяргею Навумчыку былі накіраваныя позвы з Цэнтральнага райаддзелу ўнутраных справаў Менску з прадпісаньнем у як мага болей кароткія тэрміны зьявіцца ў гэты райаддзел. Пад позвамі значыўся подпіс начальніка аддзелу ахову грамадзкага парадку Цэнтральнага РАУС Уладзімера Сьвістуна.*

*Тыя, хто спрабаваў у мінулыя аўторак і сераду зьвязацца зь Сяргеем Навумчыкам і Зянонам Пазьняком, ня здолелі гэтага зрабіць.*

(Тут я зноў нагадаю, што мабільных тэлефонаў як звыклага спосабу камунікацыі не было. Можна было толькі пазваніць па стацыянарнай тэлефоннай сувязі.)

*Ва Ўправе Народнага Фронту паведамляюць, што пра месца знаходжаньня іх нічога не вядома. Сябра Сойму БНФ Валеры Буйвал, які дзяжурыць у офісе партыі, у тэлефоннай размове са мной паведаміў, што прадстаўнікі праваахоўных органаў неаднаразова цікавіліся, дзе знаходзяцца Пазьняк і Навумчык. У аўторак ля ўваходу ў штаб-кватэру БНФ увесь час можна было бачыць дзьвюх асобаў у цывільным, якія адмаўляліся прад'яўляць свае дакумэнты.*

*Валеры Буйвал таксама сказаў, што назіраньне за Ўправай БНФ не спыняецца ні днём, ні ўначы, яно вядзецца зь некалькіх аўтамабіляў, прыпаркаваных побач з офісам Народнага Фронту.*

27 сакавіка Валянцін Жданко зьвязаўся з начальнікам аддзелу аховы грамадзкага парадку Цэнтральнага РАУС Уладзімерам Сьвістуном, які падпісваў позвы. Той заявіў, што выклікаў Пазь-

няка, Навумчыка і іншых толькі дзеля таго, каб удакладніць шэраг дэталяў таго, што адбылося 24 сакавіка. Ён паведаміў, што размова ідзе толькі пра адміністрацыйнае правапарушэньне, зьвязанае з тым, што дазволены мітынг перарос у недазволенае шэсьце. Ніякіх арыштаў, паводле яго, міліцыя на мэце ня мела. Але Жданко высьветліў крытычную дэталь:

*Уладзімер Сьвістун пацьвердзіў, што адразу пасьля накіраваньня позваў іх аддзел пачаў актыўныя, але бясплённыя пошукі Пазьняка і Навумчыка. Ні на кватэрах, ні на працы міліцыянтам лідэраў БНФ знайсьці не ўдалося. Так што пратаколы аб парушэньні 167 артыкулу Адміністрацыйнага кодэксу засталіся непадпісанымі.*

Але гэта, як адзначыў журналіст, вэрсія праваахоўных органаў. Свой камэнтар Жданко падсумоўваў так:

*Недвухсэнсоўныя заявы кіраўнікоў выканаўчае ўлады пра намер прыцягнуць арганізатараў акцыі да крымінальнай адказнасьці маглі выліцца ў арышты ўжо ў бліжэйшыя дні. Напярэдадні 2 красавіка — дня, на які прызначылі падпісаньне саюзнай дамовы з Расеяй, Лукашэнка яўна не жадае чуць голасу тых, хто ня згодны зь ягонай палітыкай, накіраванай на ліквідацыю незалежнасьці Беларусі* (Радыё Свабода, 27 сакавіка 1996).

Вядома, маёр Сьвістун, мякка кажучы, быў не зусім дакладны — з нагоды падзеяў 24 красавіка была заведзена не адміністрацыйная, а крымінальная справа. Пра гэта па тэлевізіі, галасна і на ўсю краіну заявіў намесьнік кіраўніка Адміністрацыі прэзыдэнта Ўладзімер Замяталін, а потым на сэсіі парлямэнту сказаў і Лукашэнка. Сумнеўна, каб

дзеля адных толькі нашых подпісаў у пратаколе трэба было выстаўляць кругласутачныя пасты і каля кватэраў, і каля штаб-кватэры БНФ. У красавіку, пасьля Чарнобыльскага шляху, прафэсара Юрыя Хадыку кінулі за краты, пачаўшы зь ім гутарку менавіта як са сьведкай, а не як з абвінавачваным, ну а ў наступныя гады перакваліфікацыя адміністрацыйных справаў у крымінальныя ў момант гутаркі са сьведкай ці падазраваным зробіцца рутынай.

Каб ужо не вяртацца да гэтай тэмы, скажу, што потым мы даведаліся, што ў той дзень, як з Вашынгтону прыйшла інфармацыя пра нашую заяву аб палітычным прытулку, сьледчым загадалі выкінуць з крымінальнай справы ўсе дакумэнты, так ці інакш зьвязаныя з Пазьняком і Навумчыкам. У такім выглядзе справу нават хацелі паказаць прадстаўнікам амэрыканскай амбасады — маўляў, Пазьняк і Навумчык тут не фігуруюць, ім нічога не пагражае, хай вяртаюцца. Магчыма, і паказалі. Нават напэўна паказалі. Дыпляматы пра такое звычайна не паведамляюць.

У момант, калі на хвалях Свабоды гучаў рэпартаж Валянціна Жданко, Пазьняк усё яшчэ быў на канспірацыйнай кватэры, пра якую, акрамя гаспадароў, ведалі толькі адзін з актывістаў Фронту і мая жонка Галя.

На экстранай нарадзе кіраўнікоў Руху вырашылі як мага хутчэй перавезьці ў Кіеў Пазьняка. Вырашылі, што зрабіць гэта мусіць Галя, і ўвечары я праводзіў жонку ў Менск.

## Ксэракс расейскіх памежнікаў ставіць рэкорд

Сьведчаньні аб прыняцьці Пазьняком рашэньня аб выезьдзе ў Кіеў ад дваіх удзельнікаў сустрэчы крыху разыходзяцца.

Галя кажа, ёй давялося больш за гадзіну ўгаворваць Пазьняка пакінуць Менск і паехаць у Кіеў: «Пазьняк сказаў, што гэта цяжкае рашэньне і ён павінен падумаць. Але з машынай ужо было дамоўлена, і я сказала, што буду ля пад'езду а 8-й гадзіне раніцы. Калі ён вырашыць — паедзем. Калі не — я вяртаюся ў Кіеў цягнікам».

Пазьняк, наадварот, сьцьвярджае, што рашэньне ім было прынятае імгненна: «Пра мой выезд ніхто ня ведаў, нават жонка. Ня верылася і не меркавалася, што ад'яжджаю надоўга».

Думаю, што абое не памыляюцца. Пазьняк унутрана прыняў рашэньне адразу, але «адпрацоўваў» на суразмоўцы pro і contra.

Паводле Галі, адным з аргумэнтаў супраць, якія прыводзіў Пазьняк, быў той самы, што два дні таму выкладаў і я — калі пасадзяць, народ скіне рэжым.

Праз больш чым дваццаць гадоў, калі я прыгадваю тыя нашыя спадзяваньні, яны здаюцца мне верхам наіўнасьці. Але яшчэ раз нагадаю, што на той момант, у сакавіку 96-га, нікога зь лідэраў апазыцыі і нават з актывістаў у турму не садзілі. Мне падобнае здавалася проста немагчымым. Пазьняк глядзеў на сытуацыю больш рэальна і такой магчымасьці не выключаў.

Празь дзень Галя пазваніла мне ў Кіеў і паведаміла, што трэба «рыхтавацца да прыёму гасьцей».

Галіна Навумчык: *У нас была дамоўленасьць з прэс-сакратаром Руху Дзьмітром Панамарчуком, што, калі ўсё нармальна, я пазваню яму і скажу, што «пячатка гатовая» і дзе яе трэба забраць. Гэтым разам нашыя сябры ня мелі магчымасьці ехаць да Кіева, таму вырашылі, што яны пакінуць нас з Пазьняком у расейскім гарадку Ўнечы, гэта Бранская вобласьць. Я сказала Панамарчуку, што пячатку можа будзе забраць кожную гадзіну ва Ўнечы ля ўнівэрмагу. Дзе той унівэрмаг, ні я, ні Дзьмітро ня ведалі, але ж мусіў быць у той Унечы ўнівэрмаг.*

Раніцой наступнага дня па гасьцей зь Менску выехаў джып — разам з кіроўцам былі два чалавекі з Руху, якім, па словах Чарнавола, ён давяраў як самому сабе — палкоўнік Цымбалюк і прэсавы сакратар Руху Дзьмітро Панамарчук. У пяць, максымум сем гадзін вечара, паводле нашых разьлікаў, яны мусілі вярнуцца ў Кіеў.

У той дзень на Хрышчаціку спаткаўся з добрым знаёмым — акрэдытаваным у Кіеве карэспандэнтам нямецкага агенцтва DPA Фрыдэманам Колерам. Выслухаўшы падрабязнасьці апошніх дзён, ён не хаваў скепсісу:

— Ты пайшоў на вялікую рызыку, адпусьціўшы жонку ў Менск. Відаць, проста не ўяўляеш, на што здольныя спэцслужбы. А што тычыцца прывезьці сюды Пазьняка... Будзе цуд, калі гэта вам удасца.

Сем гадзінаў вечара — машыны ўсё яшчэ няма. Людзі са штаб-кватэры пачалі разыходзіцца. Зазьбіраліся і мае гаспадары, але ехаць зь імі ў Боярку адмовіўся. Не прыйшла машына ні ў восем, ні ў дзевяць гадзінаў. Ні ў дванаццаць.

Сядзеў у кабінэце Чарнавола, і ўсю ноч у галаву лезьлі самыя дрэнныя вэрсіі, ды такія, што затрымка на мяжы здавалася дробязьзю. Дарога была пакрытая лёдам — раптам катастрофа?

У сем раніцы я пазваніў Чарнаволу.

— Не хвалюйся, кіроўца добры, сто дваццаць кілямэтраў у гадзіну па такой дарозе для яго — элемэнтарна!

Ад гэтых словаў мне стала ніякавата.

— Але, — працягваў Вячаслаў Максімавіч, — я пазваню дзяжурнаму ў Міністэрства ўнутраных справаў, ці не здарылася чаго па дарозе.

Праз паўгадзіны была інфармацыя, што за мінулы дзень на трасе транспартных здарэньняў не было. Але гэта на тэрыторыі Ўкраіны; пра дарогі Смаленскай і Бранскай абласьцей у міністэрстве нічога, натуральна, ня ведалі.

— Я ўсё ж баюся, што нешта нядобрае здарылася на мяжы, — сказаў Чарнавол. — Украінцы іх затрымаць не маглі, а вось расейцы — зусім магчыма. І самае паскуднае, што мы нічога ня будзем ведаць — субота, усё начальства адпачывае.

Але а дзясятай гадзіне раніцы машына прыехала. Усе былі цэлыя, хаця і ня выспаліся.

Джып і сапраўды затрымалі на мяжы, на расейскай тэрыторыі. Толькі палітыка была ні пры чым — расейскім мытнікам хацелася «пазалаціць ручку». Запатрабавалі копіі правоў кіроўцы ды тэхнічнага пашпарта на аўтамабіль.

— Першы раз чую такое патрабаваньне, — зьдзівіўся кіроўца. — Гэта ў якім законе так напісана?

— Гэта ў маёй інструкцыі так запісана, і я вам яе паказваць не абавязаны. — вышчарыўся расейскі мытнік. — Бяз копій не прапусьцім.

— А дзе ж ксэракс знайсьці ўначы, ды яшчэ ў чыстым полі?

— А дзе хочаце! — быў кароткі адказ.

Праз гадзіну мытнік прыйшоў зноў.

— Ну што, зрабілі копіі? Не? Тады ад'едзьце ўбок, а то астатнім машынам замінаеце.

Праз гадзіну Галя сама пайшла да мытнікаў і папрасіла параіць, дзе знайсьці ксэракс.

— Вось цяпер я бачу чалавека, які хоча законна пераехаць мяжу! — пацяплеў твар мытніка. — А то ўчапіліся: «Пакажыце інструкцыі»... Для вас я галоўная інструкцыя. Ксэракс ёсьць у нас. Вам трэба восем старонак, наш тарыф — дзесяць даляраў за старонку. Прашу!

80 даляраў у Галі пры сабе знайшлося.

Бясспрэчна, то быў самы рэнтабэльны капіравальны апарат у сьвеце.

## Генпракуратура патрабуе ад Кіева нас выдаць

У Кіеве быў іншы час — іншы гістарычны час.

Праз гадзіну ў штаб-кватэры Руху зьявіўся і Чарнавол — ён хіба што не сьвяціўся ад радасьці, вітаючы менскага госьця. Нехта сказаў, што было б няблага адразу вырашыць, дзе можна схавацца Пазьняку.

— Навошта хавацца? — зьдзівіўся Чарнавол. — Трэба, наадварот, максымальна «засьвяціцца». Ня мы іх — яны нас баяцца мусяць. Я ўжо дамовіўся зь кіраўніком тэлевізіі — празь дзьве гадзіны ён сам прывязе здымачную групу, інтэрвію сёньня ж пойдзе ў эфір. Заўтра — прэсавая канфэрэнцыя,



У штаб-кватэры Народнага Руху Ўкраіны – Галіна і Сяргей Навумчыкі, Вячаслаў Чарнавол і ягоная жонка Атэна Пашко, Зянон Пазьняк

пасьлязаўтра — мітынг на Сафійскім майдане. Шмат у нас цяпер людзей не зьбіраецца, ну але тысяч пяць падыдзе, я думаю. А пра астатняе не хвалюйцеся. Я ўжо папярэдзіў кіраўніцтва Службы бясьпекі, яны пэрсанальна будуць несьці адказнасьць, калі нешта здарыцца з Пазьняком. Але думаю, што ў Кіеў лукашэнкаўцы ня сунуцца, бо ведаюць, што тут ім не Масква.

Адразу ж вырашылі, што нашае знаходжаньне ў Кіеве трэба выкарыстаць для інфармаваньня пра становішча ў Беларусі. Мы ўжо ведалі пра цікавасьць заходняй прэсы да апошніх менскіх падзеяў, але камэнтатары пісалі пра іх як пра дзіўны і невытлумачальны ўсплёск пратэсту ў краіне, якая ўжо канчаткова асуджаная на зьнікненьне. Тым

больш што ВС-13 вітаў кожную інтэграцыйную ініцыятыву Крамля. Трэба было выкарыстаць момант ды растлумачыць заходнім палітыкам, што існуюць сілы, якія будуць пасьлядоўна супрацьстаяць анэксіі.

Паводле Чарнавола, зрабіць гэта эфэктыўна можна толькі падчас асабістых сустрэч. Магчыма, давядзецца і самім паехаць на Захад.

Чарнавол недарэмна клапаціўся пра нашу бясьпеку на палітычным узроўні.

*Першага красавіка ў штаб-кватэры Беларускага Народнага Фронту праведзены двухгадзінны вобыск. Як паведамілі карэспандэнту «БДГ» у кіраўніцтве БНФ, у ордэры, выдадзеным гарадзкім пракурорам, было пазначана, што вобыск праводзіцца з мэтаю забраць матэрыялы і памнажальную тэхніку, на якой рабілася друкаваная прадукцыя з заклікам узяць удзел у мітынгу 2 красавіка. У штаб-кватэры пацьвердзілі інфармацыю пра тое, што лідэр БНФ Зянон Пазьняк і прэс-сакратар БНФ Сяргей Навумчык знаходзяцца ў Кіеве, дзе сустракаюцца з замежнымі журналістамі і афіцыйнымі ўкраінскімі асобамі з тым, каб праінфармаваць міжнародную супольнасьць пра палітычны клімат на Беларусі. Згодна неафіцыйнай інфармацыі, Пракуратура Беларусі зрабіла запыт на імя ўкраінскага пракурора з просьбай выдаць лідэраў БНФ, аднак у адказ атрымала адмову* (Юрась Карманаў, «Белорусская деловая газета», красавік 1996).

Пазыцыя ўкраінскае пракуратуры была не адзіным, што зьдзіўляла ў Кіеве; здавалася, што трапілі ў іншы час.

А гэта проста была краіна, дзе прызнавалася за чалавекам права на ўласную думку.

Нязвыкла было чуць на дзяржаўнай тэлевізіі крытыку прэзыдэнта Кучмы. Было дзіўна, што газэта «Час-Time», якую рэдагуе Вячаслаў Чарнавол, выходзіць аж на шаснаццаці палосах.

Зразумела, я ведаў, што гэта нармальна для свабоднага грамадзтва. Нешта падобнае было і ў нас, у Беларусі, у 1991–1994 гадах, калі была свабода, хай тады яна і здавалася нам абмежаванай. Але за амаль два гады прэзыдэнцтва Лукашэнкі мы ад такога адвыклі. Далібог, да рабства прызвычаіцца лягчэй, чым да свабоды. Нават калі і вельмі яе прагнеш.

Ну а мае ўкраінскія гаспадары дзівіліся іншаму. Увечары, калі ўжо разам з жонкай селі за стол у хаце Харчукоў, гаспадары самі распачалі гутарку пра Лукашэнку. Спачатку падзівіліся жорсткасьці, зь якой распраўляліся з дэманстрантамі, а потым — памкненьню беларускага прэзыдэнта зьліквідаваць сваю краіну.

— З Лукашэнкам ўсё зразумела, гэта расейскі агент, — катэгарычна падсумаваў гаспадар дома пан Анатоль. — А што ж з народам? Няўжо беларусы так проста здадуцца?

Гэтае пытаньне — у тых ці іншых варыяцыях — гучала ня толькі ў Кіеве. Яшчэ часьцей яго задавалі ў Польшчы, у Брытаніі, і штораз — у Злучаных Штатах. Відавочна, што чым больш сталай была дэмакратыя, тым больш незразумелай для людзей была інэртнасьць беларусаў, іх гатоўнасьць прамяняць свабоду на ярмо. І цяжка было знайсьці нейкі ўнівэрсальны адказ, бо не заўсёды быў час апавядаць пра крывавыя набегі на беларускія землі Івана Жахлівага, Пятра Першага ды Суворава, пра зьнішчэньне Вялікага Княства Літоўскага, задушэньне паўстаньня Каліноўскага ды рэпрэсіі

супраць беларускай інтэлігенцыі ў трыццатыя гады ўжо XX стагодзьдзя.

Магчыма, у генэтычнай памяці беларускага народу трывала замацаваўся страх перад Масквой, які адбівае ўсялякую ахвоту супраціўляцца, бо, як вучыла гісторыя, супраціў заўсёды меў фіналам паразу ды сьмерць. Але пры гэтым заўсёды ж хтосьці і паўставаў. І, можа быць, якраз гэта — што супраціў не спыняўся ніколі, ні ў часы імпэрскага царызму, ні ў гады сталінскага тэрору — і мусіла зьдзіўляць найбольш.

— Бачыце, — казаў я сваім кіеўскім сябрам, — трыццаць тысяч менчукоў выйшлі на вуліцы. І не каўбасы прасілі таннай, а палітычнай незалежнасьці.

— То так, — згаджаліся ўкраінцы. — У нас цяпер на мітынг і тры тысячы не зьбярэш.

— Вясновы авітаміноз у кіяўлянаў, — сумна канстатаваў лідэр Рэспубліканскай партыі, пісьменьнік Уладзімір Яварыўскі.

Пройдуць гады, і на кіеўскі Майдан будуць выходзіць сотні тысяч людзей. Не бывае нічога вечнага — у тым ліку і палітычнага авітамінозу.

А ў 2020-м ужо і Беларусь прачнецца і зьдзівіць сьвет магутнымі шэсьцямі за свабоду, за права «людзьмі звацца».

Што яшчэ зьдзівіла мяне ў Кіеве — шмат якія буйныя бізнэсоўцы лічылі сваім абавязкам дапамагаць нацыянальна-дэмакратычным сілам. У адрозьненьне ад менскіх, большасьць зь якіх у першай палове 90-х і слухаць не жадалі пра БНФ, імкнуліся пасябраваць з кебічаўскімі чыноўнікамі і ў выніку страцілі значную частку сваіх грошай, а некаторыя і свабоду.

Праўда, кожны кіяўлянін, у якога пытаўся, быў незадаволены сваім эканамічным становішчам — ці то зарплатай, ці то даходам ад бізнэсу. Але ніхто і не выказваў жаданьня палепшыць сваё жыцьцё далучэньнем да Расеі.

Хоць аднойчы я пачуў такіх людзей — мы ехалі па Кіеве і па радыё слухалі трансьляцыю з сэсіі Вярхоўнае Рады.

Група камуністаў зьвярнулася да сьпікера з запытам: як здарылася, што першы канал украінскай тэлевізіі аддаў прайм-тайм, найлепшы эфірны час, «белорусскому фашисту Позняку»? Саліраваў лідэр камуністаў, дэпутат Пятро Сіманенка. Пачалася сварка і, як нам потым расказалі, ледзь не дайшло да бойкі. А ў вечаровай праграме навінаў палітычны аглядальнік таго ж самага першага тэлеканалу пракамэнтаваў паводзіны камуністаў як рэцыдыў імпэрскага мысьленьня.

Імпэрскі час тады таксама яшчэ ня змыла хадой гісторыі.

## Два прэзыдэнты хочуць адну прыбіральню

Прэсавая канфэрэнцыя з Чарнаволам і Пазьняком у нас была прызначаная ў Акадэміі навук, да яе ад штаб- кватэры Руху добрых хвілінаў сорак язды на аўтобусе. Мы мусілі ехаць аўтамабілямі.

Да канфэрэнцыі заставалася хвілінаў дваццаць, а Чарнавол пра нешта з намі разважаў і не сьпяшаўся. Я карэктна нагадаў, што ўжо варта б выехаць. Чарнавол сказаў, што пасьпеем, і толькі хвілінаў празь дзесяць мы пайшлі да аўтамабіляў.

Машыны набралі хуткасьць, зь якой я ехаў па горадзе толькі аднойчы, калі ў лютым 90-га камандуючы акругай генэрал Кастэнка ўзяў мяне і рэдактара «Народнай газеты» ў сваю «Волгу», якая ехала пятай ці шостай за «ЗіЛам» Гарбачова — ад Дому ўраду да Акадэміі навук даехалі за пару-тройку хвілінаў. Але тады ўвесь Ленінскі праспэкт быў перакрыты. Цяпер жа сьвятлафоры працавалі звычайна, на машынах не было ніякіх «мігалак», але яны імчалі па цэнтры дарогі ці нават па сустрэчнай паласе. Міліцыя машыну лідэра Руху ведала і не спыняла. Цяпер я сам пераканаўся, што нядаўнія словы Чарнавола пра свайго кіроўцу, які здольны гнаць па 120 хоць на галалёдзе, не гіпэрбала. Энэргічны і жвавы, Чарнавол імкнуўся зьвесьці час на дарогу да мінімуму, каб паўсюль пасьпець і болей зрабіць, і гэта мы адчулі.

Тое не было сакрэтам ня толькі ад паплечнікаў, але і ад ворагаў. Праз тры гады сьветлы для нас дзень 25 Сакавіка для нашых украінскіх сяброў стане чорным — у 1999 годзе Чарнавол загіне ў аўтакатастрофе, якая, як перакананы ягоны сын Тарас (мы сустрэліся ў 2010-м), ды й ня толькі ён, была арганізаваная. Тыя, хто дзесяцігодзьдзямі набівалі руку на забойствах няўгодных, навучыліся вызначаць слабыя месцы і ствараць выгадныя сытуацыі.

…Але ж цяпер Чарнавол вядзе нас у залю Акадэміі навук, ён задаволены колькасьцю журналістаў, Дзьмітро Панамарчук пачынае прэсавую канфэрэнцыю, і мы з Пазьняком апавядаем пра менскія падзеі. Таксама мы заявілі, што Беларусь мусіць быць прынятая ў Раду Эўропы, бо зьяўляецца незалежнай эўрапейскай дзяржавай.

Потым, калі я задаваў сабе пытаньне, ці можна было запабегчы такому разьвіцьцю падзеяў, пры якім інтэграцыя Беларусі ў эўрапейскія структуры сталася (на бліжэйшы час) немагчымай, бачу толькі адзін адказ: так, можна было. Калі б у памкненьні зрабіць Беларусь дэмакратычнай і эўрапейскай краінаю зь лідэрамі Народнага Фронту салідарызаваліся і кіраўнікі Вярхоўнага Савету, легітымнай прадстаўнічай улады.

На жаль, вясной 96-га сьпікер парлямэнту і пераважная большасьць дэпутатаў ніяк не рэагавалі на пабіцьцё дэманстрантаў і горача падтрымлівалі ідэю беларуска-расейскай садружнасьці. Разуменьне простых ісьцін прыйдзе да іх тады, кал рэжым замацуецца і набудзе такія абрысы, што пра ўступленьне Беларусі ў Раду Эўропы гаворка будзе немагчымая.

Найбольш цікавіў адказ на пытаньне — у чым рэальныя прычыны заплянаванага беларуска-расейскага пагадненьня? Маскоўскія, ды і менскія, аналітыкі зьвязвалі яго з выбарчай кампаніяй Ельцына і былі перакананыя, што ўвесь гэты інтэграцыйны вэрхал скончыцца ў момант інаўгурацыі. Пазьняк, наадварот, лічыў, што гэта частка стратэгічнай мэты Крамля дзеля інкарпарацыі Беларусі ў склад Расеі і што, незалежна ад выніку выбараў, працэс анэксіі будзе нарастаць.

У доказ сваіх словаў ён прывёў праект пагадненьня, якое мусіла быць падпісана на пачатку красавіка — да гэтага часу ня ведаю, праз каго трапіла да Пазьняка гэтае пагадненьне, якое Лукашэнка не паказаў нават дэпутатам Вярхоўнага Савету, нягледзячы на іхнія просьбы патрымацца за «гістарычную» паперку.



На прэсавай канфэрэнцыі разам зь Дзьмітром Панамарчуком, Вячаславам Чарнаволам і Зянонам Пазьняком

У кожнага палітыка могуць і павінны быць канфідэнцыйныя каналы інфармацыі, пра якія ведае і мусіць ведаць толькі ён, Пазьняк не выключэньне. Я ніколі не спрабаваў выведаць у яго пра іх — хаця б таму, што не хацеў ставіць у няёмкае становішча адмовы адказаць. (Зрэшты, гэтым прынцыпам кіруюся ў дачыненьні ня толькі з Пазьняком і ня толькі з палітыкамі.) Праекту таго пагадненьня ня бачылі і маскоўскія журналісты, і таму тая нашая першая кіеўская прэсавая канфэрэнцыя, дзе Пазьняк паказаў копію дакумэнту, выклікала сапраўдны фурор.

Праз гадзіну сусьветныя агенцтвы ўжо цытавалі падрыхтаваны ў Маскве праект дамовы, якую мы ацанілі як эскаляцыю паглынаньня Беларусі. Заява лідэра беларускай апазыцыі, перададзеная сусьветнымі інфармагенцтвамі, істотна паўплывала на

думку эўрапейскіх палітыкаў, якія пачалі ўдзяляць больш пільную ўвагу падзеям у Беларусі.

Але камэнтары ўсё ж былі ранейшыя: «Ня больш як хітрая перадвыбарчая акцыя Ельцына», «Крэмль перахоплівае ініцыятыву ў Зюганава». Тыя ж, хто бачыў за гэтым не тактычны крок, а доўгатэрміновую палітычную стратэгію, былі перакананыя, што праз колькі месяцаў, максымум праз паўгода, Беларусь назаўсёды зьнікне з карты Эўропы. Як сказаў мне знаёмы заходні журналіст: «Ёсьць дзьве краіны, існаваньне якіх у блізкім часе выклікае ў мяне вялікія сумневы — Манголія і Беларусь».

Перад падпісаньнем пагадненьня Лукашэнка выступіў у Вярхоўным Савеце. Гэта быў выступ ідэйнага, перакананага, зацятага ненавісьніка беларускай незалежнасьці:

*И белорусы, и россияне на референдуме 17 марта 1991 году высказались за сохранение нашего общего дома — Советского Союза. После известной встречи в Вискулях подавляющее большинство белорусских граждан демонстрировало своё желание преодолеть это противоестественное разделение.*

Рэфэрэндум пра захаваньне Саюзу ў Беларусі прайшоў з парушэньнямі як саюзнага, так і беларускага заканадаўства. Праз год пра яго з настальгіяй успаміналі толькі камуністы (ва ўсіх былых рэспубліках) і адзін прэзыдэнт (толькі ў Беларусі). Ажыцьцяўленьне спрадвечнай мары беларусаў жыць ва ўласнай дзяржаве ён лічыў «противоестественным».

*...Вам хорошо известны результаты президентских выборов, майского референдума 1995 году. Многие из вас получили поддержку избирателей*

*именно потому, что обещали добиваться интеграции с Россией.*

І праўда: за Лукашэнку ў1994 годзе галасавалі на хвалі прарасейскай, праімпэрскай прапаганды, якая ад самага пачатку 1992 году штодня пераконвала людзей, што развал Саюзу трагедыя і што выратаваньне толькі ў саюзе з Расеяй. Гэта спрыяла пашырэньню прарасейскіх настрояў у грамадзтве. Найбольшую інтэнсіўнасьць прапагандысцкая кампанія за інтэграцыю і супраць Народнага Фронту набыла ў апошні год перад прэзыдэнцкімі выбарамі, што, на задуму ініцыятараў, мусіла спрыяць перамозе Вячаслава Кебіча, аднак гэта была адначасна і моцная ідэалягічная падтрымка Лукашэнку, якой той удала скарыстаўся.

Лукашэнка працягваў:

*Успехи нашей восточной политики, близкая перспектива выхода белорусско-российских отношений на качественно новый уровень взбудоражили национал-радикалов и других политических спекулянтов. Для этого они пошли на организацию 24 марта в Минске беспорядков. Толпа нетрезвых молодчиков пыталась штурмом взять телецентр, нападала на милиционеров. Расчёт организаторов был прост — спровоцировать конфликт, вызвать жертвы и на этом получить политические дивиденды.*

Тут кожнае слова — падман, у чым чытач можа пераканацца, вярнуўшыся да апісаньня сьвяткаваньня Дня Волі.

*Но те времена, когда кучка крикливых национал-экстремистов могла запугать людей и парализовать власти, прошли.*

Тут, несумненна, меліся на ўвазе арганізаваныя БНФ шматтысячныя мітынгі канца 1980 — пачатку 1990-х гадоў, у тым ліку і жнівень 91-га, калі пад ціскам Плошчы дэпутаты-камуністы былі вымушаныя прагаласаваць за Незалежнасьць.

*Правоохранительные органы действовали в рамках закона, не поддались на провокации, и националисты не достигли того, на что рассчитывали. Те, кто организовывал штурм телецентра, избивал милиционеров и совершал другие правонарушения, будут наказаны. Сейчас проводится разбирательство, и суд определит меру ответственности каждого из них.*

У тыя дні ў сядзібу БНФ на Варвашэні, 8 прыходзілі дзясяткі людзей са скаргамі на брутальныя паводзіны спэцназу і міліцыі, якія ня толькі білі мірных грамадзянаў ля тэлецэнтру, але і ўчынілі паляваньне на праспэкце аж да Галоўпаштамту. Ніякай спробы штурму тэлецэнтру, як вядома, не было.

*Разумеется, националисты и поддерживающие их средства массовой информации будут кричать о преследовании за убеждения. На самом же деле речь идёт об ответственности за хулиганство, другие правонарушения и подстрекательство к их совершению. За это в любом государстве виновные наказываются. Так будет и у нас.*

Цягам наступных дзесяцігодзьдзяў грамадзяне Беларусі будуць лічыцца вінаватымі толькі за выказваньні палітычных перакананьняў.

У тыя ж дні перад украінскімі палітыкамі паўстала дылема: як ставіцца да магчымага ўступленьня Беларусі ў Раду Эўропы? Як вядома, адзін з галоў-

ных крытэраў прыёму — забесьпячэньне правоў чалавека і свабоды слова.

З паведамленьня прэсавай службы БНФ:

*1 красавіка 1996 году на сумеснай прэсавай канфэрэнцыі кіраўніцтва БНФ і Народнага Руху Ўкраіны ў Кіеве Вячаслаў Чарнавол узьняў вельмі важнае і складанае на сёньняшні момант пытаньне аб прыёме Беларусі ў Раду Эўропы. Зянон Пазьняк выказаў думку, што непрыняцьце нашай краіны ў Раду Эўропы выглядала б дзіўным пасьля таго, як прынялі Расею, дзяржаву, якая вядзе каляніяльныя войны, праводзіць генацыд чачэнскага народу. «Беларусь трэба прымаць у Раду Эўропы, — сказаў Зянон Пазьняк. — з абавязковымі агаворкамі аб правах чалавека, аб спыненьні палітычнага перасьледу за дэмакратычныя незалежніцкія погляды, стварыўшы адпаведныя камісіі па нагляду і ажыцьцяўляючы паэтапны кантроль за аднаўленьнем законнасьці і дэмакратыі ў беларускай дзяржаве».*

А неўзабаве прайшоў мітынг на Сафійскай плошчы, да нас падыходзілі дзясяткі кіяўлянаў, абураліся паводзінамі Лукашэнкі, нават прапаноўвалі грошы, ад якіх мы, натуральна, адмаўляліся.

2 красавіка Ельцын і Лукашэнка ў маскоўскім Крамлі падпісалі пагадненьне аб утварэньні беларуска-расейскай садружнасьці.

У Кіеве мы зрабілі ўсё, што маглі. Каб пераканаць эўрапейскіх палітыкаў у тым, што ў Беларусі ёсьць сілы, здольныя абараніць незалежнасьць, патрэбны былі асабістыя сустрэчы. І мы вырашылі кіравацца на Захад.

Была і яшчэ адна падстава для ад'езду. Як расказаў Вячаслаў Чарнавол, прэзыдэнт Украіны Кучма даў яму зразумець, што нашае знаходжаньне

ў Кіеве ўсё больш ускладняе адносіны і з афіцыйным Менскам, і з Масквой, і што калі б мы вырашылі пакінуць тэрыторыю краіны, нам бы не чынілі перашкод, а наадварот, паспрыялі б.

Такое жаданьне ўкраінскіх уладаў супала з нашымі плянамі, а пра спрыяньне крыху пазьней.

Трэцяга красавіка Пазьняк адаслаў у Менск, у БНФ і незалежную прэсу зварот да беларускага народу.

*Людзі Беларусі! Дарагія землякі, браты!*

*Трагічны час пачынаецца для нашай Бацькаўшчыны. Імпэрскія сілы Масквы, выкарыстоўваючы свайго стаўленіка Лукашэнку, пачалі анэксію Беларусі. Другога красавіка падпісаны першы этап гэтай анэксіі.*

*Наступныя этапы, згодна плянаў Масквы, павінны завяршыць ліквідацыю нашай дзяржавы і незалежнасьці. А ў пэрспэктыве — зьнішчэньне нашае нацыі. Чалавек, які 2 красавіка прадаў наш народ і здрадзіў дзяржаве, паставіў сябе па-за законам і Канстытуцыяй, ён страціў права быць прэзыдэнтам Беларусі. Настаў час, калі кожны грамадзянін нашай пакутнай зьнявражанай Радзімы павінен стаць на абарону яе свабоды і незалежнасьці. Беларускі народ, які перажыў гітлераўскі і бальшавіцкі генацыд, які страціў мільёны сваіх лепшых прадстаўнікоў, не павінен і ня можа мірыцца з крымінальна-фашыстоўскім рэжымам на Беларусі. Расейскі імпэрыяліст ня будзе пляваць нам у твар, ня будзе карыстацца з нашае працы і нацыянальнага дабра. Беларусьсю не павінны кіраваць здраднікі і маскоўскія халуі. У Беларусі ёсьць каму абараняць Бацькаўшчыну.*

ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ!

Людзі Беларусі! Дарагія землякі, браты!

Трагічны час пачынаецца для нашай Бацькаўшчыны. Імперскія сілы Масквы , выкарыстоўваючы свайго стаўленьніка Лукашэнку, пачалі анексію Беларусі. Другога красавіка падпісаны першы этап анексіі. Наступныя этапы згодна планаў Масквы павінны завяршыць ліквідацыю нашай дзяржавы і незалежнасьці, а ў перспектыве -- зьнішчэньне нашай нацыі. Чалавек, які 2-га красавіка прадаў наш народ і здрадзіў дзяржаве, паставіў сябе па-за законамі і Канстытуцыяй, ён страціў права быць прэзідэнтам Беларусі.

Настаў час, калі кожны грамадзянін нашай пакутнай зьняважанай Радзімы павінен стаць на абарону яе свабоды і незалежнасьці. Беларускі народ , які перажыў гітлераўскі і бальшавіцкі генацыд, які страціў мільёны сваіх лепшых прадстаўнікоў, не павінен і не можа мірыцца з крымінальна-фашыстоўскім рэжымам на Беларусі. Расейскі імперыяліст не будзе пляваць нам у твар, не будзе карыстацца з нашае працы і нацыянальнага дабра. Беларусьсю не павінны кіраваць здраднікі і маскоўскія халуі. У Беларусі ёсьць каму абараняць Бацькаўшчыну.

Дарагая моладзь , хлопцы і дзяўчаты , любіце, абараняйце свабоду Беларусі. Гэта наша сьвятая зямля, гэта вашае шчасьце і будучыня. Лёс Бацькаўшчыны , яе прышласьць кладзецца на вашы плечы . Няхай лунае над намі наш сьвяты Хрыстовы Бел-Чырвона-Белы Сьцяг!

Жыве Беларусь!
Жыве вольная, любімая наша Айчына!
Слава Беларусі!

Зянон Пазьняк,
Старшыня Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"
3 красавіка 1996г.

Зварот Зянона Пазьняка перад ад'ездам з Кіева

*Дарагая моладзь, хлопцы і дзяўчаты, любіце, абараняйце свабоду Беларусі. Гэта наша сьвятая зямля, гэта вашае шчасьце і будучыня. Лёс Бацькаўшчыны, яе прышласьць кладзецца на вашыя плечы. Няхай лунае над намі наш сьвяты Хрыстовы Бел-Чырвона-Белы Сьцяг!*

Прыводжу тэкст звароту цалкам з аднае прычыны — ён ня быў надрукаваны ніводнаю газэтай.

## Нас не пускаюць у Чэхію, але Свабода перамагае

Мы з Галяй узьняліся на пагорак ля Андрэеўскага сабору, адкуль відаць увесь Падол, а потым спусьціліся па крутой вуліцы, дзе на павароце ўзьнікае двухпавярховы дом Булгакава. Той самы, які ў «Белой гвардии». Гэта на нейкі час вярнула ў студэнцкія гады, калі я пісаў навуковую працу па Булгакаву, яна ўзяла першае месца на факультэцкім конкурсе, і мяне мусілі адправіць на міжунівэрсытэцкую канфэрэнцыю ў Кіеў, але кіраўніцтва дэканату ставілася да мяне дрэнна, і я не паехаў.

Для мяне ў «Белай гвардыі» найбольш блізкія старонкі, дзе вельмі дакладна перададзена атмасфэра ўтульнасьці дому. Я звычайна перачытваю іх перад Новым годам, які лічу самым цёплым сямейным сьвятам. Але цяпер у нас з Галяй была толькі валізка з рэчамі і чыгуначны білет на Прагу.

Перад ад’ездам паехалі ва ўнівэрмаг, каб купіць Пазьняку касьцюм — ён прыехаў у тым адзеньні, у якім выйшаў з дому. Галя і Ніна Харчук падабралі сьветла-карычневы гарнітур, ён Пазьняку адразу спадабаўся. Праўда, неўзабаве ледзь не згубіўся.

І вось цёплае расстаньне зь Вячаславам Чарнаволам, Аленай Бандарэнкай, Дзьмітром Панамарчуком, Нінай Харчук — і наш цягнік адпраўляецца з кіеўскага вакзалу.

Пазьняк, Галя і я былі ў адным купэ. А купэ справа і зьлева былі занятыя афіцэрамі СБУ (Службы бясьпекі Ўкраіны), і суправаджалі яны нас да самай мяжы са Славаччынай.

Тую мяжу мы перасеклі без праблемаў, а вось на чэскай нас чакалі непрыемнасьці.

Паколькі ў нас не было магчымасьці ўзяць афіцыйнае запрашэньне ад нейкіх палітычных ці грамадзкіх арганізацыяў Чэхіі (мы проста нікога ня ведалі ў Празе), а запрашэньне з Радыё Свабода дайшло б толькі праз тыдзень, мы выбралі самы просты шлях.

Я пайшоў у нейкую кіеўскую турыстычную фірму і купіў звычайныя ваўчары, якія давалі права на ўезд у Чэхію (тады яшчэ для грамадзянаў Беларусі віза была не патрэбна — дастаткова было запрашэньня альбо турыстычнага ваўчара). Але на славацка-чэскай мяжы чэскія памежнікі, зазірнуўшы ў свае сьпісы, паведамілі, што тая кіеўская турфірма права продажу ваўчараў ужо пазбаўленая, і прапанавалі нам сысьці зь цягніка.

Зьбірацца давялося за пару хвілінаў; я пакінуў у купэ часопісы, якіх накупляў у Кіеве. Але яшчэ горш, што забыліся і пакунак з новым гарнітурам Пазьняка на самай верхняй паліцы.

А шостай гадзіне раніцы мы ўтраіх (Пазьняк, Галя і я) апынуліся на невялікай чыгуначнай станцыі Горні Лідэч. Праўда, мы былі не адзіныя, каго высадзілі зь цягніка, такіх набралася некалькі дзясяткаў. Усіх правялі ў паліцэйскі будынак.

Нам сказалі, што гэта тыповая сытуацыя з украінскімі і беларускімі грамадзянамі; расейцам для ўезду ў Чэхію тады дастаткова было паказаць пашпарт.

Выратавала нас тое, што Пазьняк крыху ведаў па-чэску — у маладосьці, падчас «Праскай вясны», чытаў чэскія газэты і часопісы. Пасьля таго, як паліцыянты даведаліся, хто мы такія, танальнасьць іх размовы зьмянілася і яны самі прапанавалі выйсьце — пазваніць на Радыё Свабода ў Прагу, каб тэрмінова пераслалі запрашэньне факсам непасрэдна на чыгуначную станцыю.

Працэдура атрыманьня падобнага запрашэньня ў праскай паліцыі займае дзень, а то і болей. Але супрацоўнік Свабоды Багдан Андрусышын (больш вядомы аматарам песьні як сьпявак Данчык) узяўся за справу, і мы мелі запрашэньне ўжо праз дзьве гадзіны. Паліцыянты на сваёй «Шкодзе» адвезьлі нас на станцыю і дапамаглі ўзяць квіткі на цягнік.

Але яшчэ раней за нас у Прагу прыбыў пакунак з тым самым гарнітурам Пазьняка, купленым у Кіеве і ў сьпешцы забытым на паліцы ў купэ: калі мы тэлефанавалі ў Прагу, мы папрасілі забраць касьцюм, назвалі нумар цягніка і вагона. Офіс радыё месьціўся побач з вакзалам, і журналіст Сяргей Абламейка пасьпеў сустрэць цягнік і ўратаваць пазьнякоўскі гарнітур.

У Празе намі апекаваліся дырэктар беларускай службы Радыё Свабода Вячка Станкевіч і супрацоўнік рэдакцыі Аляксандар Лукашук.

З Аляксандрам я пазнаёміўся ў 1987 годзе, калі ён прабіў у «Звяздзе», дзе тады працаваў, мой артыкул з жорсткай па тых часах крытыкай віцебскага кіраўніцтва. Публікацыя ўскладніла мае адносіны

з начальнікамі, затое я атрымаў сябра (і рэдактара гэтай кнігі).

У першыя тыдні пасьля пераезду ў Менск я жыў ва Ўруччы ў кватэры сваіх аднакурсьнікаў, кінарэжысэра Уладзімера Дашука і журналісткі Алены Лукашэвіч, і ў тым жа доме жыў Аляксандар. Потым наша з Галяй кватэра таксама была ва Ўруччы, толькі ў іншай яго частцы, але пехатою ў госьці можна было дайсьці за паўгадзіны.

Самую драматычную ноч путчу ў жніўні 91-га мы правялі разам у кватэры Аляксандра ў кампаніі з журналістам Дзімам Філімонавым (вядоўцам звышпапулярнай тады тэлепраграмы «Крок») і Веранікай Чаркасавай, жудаснае забойства якой у 2004 годзе не раскрытае і па сёньня. Быў з намі і кінаапэратар Юры Гарулёў.

У тыя дні Аляксандар, які ў якасьці сцэнарыста разам зь Міхаілам Жданоўскім ўжо зрабіў фільм «Дарога на Курапаты» з удзелам Пазьняка, разам зь Юрыем здымалі кінакарціну пра дэпутатаў Вярхоўнага Савету. Аляксандар быў сцэнарыстам, Юры — і рэжысэрам, і апэратарам. Путч зламаў сцэнарны плян. Здымалі і на плошчы, і ў 363-м пакоі апазыцыі БНФ, і потым, калі сабралася сэсія, у Авальнай залі. Калі на тэлевізіі і сапраўды размагніцілі касэты з запісам «Сэсіі Незалежнасьці» 24–25 жніўня 1991 году, здымкі для фільму застануцца адзінай кіна-, відэафіксацыяй таго, што адбывалася ў тыя два дні ў Авальнай залі.

Фільм «Дэпутаты» прадэманстравалі ў 1992 годзе ў некалькіх кінатэатрах, але потым цалкам не паказвалі ніколі, хоць лукашэнкаўскія прапагандысты выкарыстоўваюць сякія-такія кадры, скажаючы кантэкст падзеяў. Прычынаю фактычнай забароны



У студыі Радыё Свабода. Гутарку вядзе Аляксандар Лукашук

былі і аўтар сцэнару, і тэма, і галоўныя пэрсанажы. Апошніх было трое — Генадзь Карпенка, Віктар Ганчар і я. Двух з трох ужо няма ў жывых — ня ведаю, ці ўбачу калі-небудзь фільм па беларускім тэлебачаньні.

У 1993 годзе Аляксандар зь сям'ёй пераехалі ў Мюнхэн, адкуль тады вяшчала Радыё Свабода. Я яшчэ пасьпеў наведаць легендарны будынак, дзе КДБ СССР арганізоўваў тэракты.

Тады дырэктарам беларускай службы быў ужо Вячка Станкевіч. У 1995 годзе радыё зь Мюнхэну пераехала ў Прагу, у будынак парлямэнту былой Чэхаславаччыны.

Вячка быў сынам беларуса Янкі Станкевіча і чэшкі Мар'і Новак, якія пазнаёміліся ў часы студэнцтва ў праскім Карлавым унівэрсытэце, ужо

пасьля таго, як Янка браў удзел у працы Рады БНР у Менску, і перад тым, як ён будзе абраны дэпутатам польскага Сойму ад Лідзкай акругі. Сам Вячка служыў у амэрыканскім войску, гуляў у беларускіх футбольных камандах, атрымаў адукацыю інжынэра-электроншчыка, а ў год здабыцьця незалежнасьці, у 91-м, узначаліў беларускую службу Радыё Свабода.

Прага — горад старажытнай архітэктуры, горад музэяў, тэатраў, горад Моцарта, Кафкі ды Яраслава Гашака зь ягоным бесьсьмяротным Швэйкам. Для беларусаў гэта яшчэ і месца, дзе знайшлі сабе прытулак стваральнікі БНР, вымушаныя ратаваць жыцьцё ад бальшавіцкіх рэпрэсіяў.

Але ў той першы прыезд у Прагу за дзесяць дзён я гораду амаль ня бачыў — нашыя з Пазьняком мэты былі зусім не турыстычныя.

Ужо ў Празе мы даведаліся ўсе падрабязнасьці падзеяў 2 красавіка — пра шматтысячнае шэсьце моладзі супраць беларуска-расейскага аб’яднаньня. Гэтым разам міліцыя не чапала яго ўдзельнікаў — Лукашэнка ў той дзень выпіваў «чарку сяброўства» ў крамлёўскім палацы, не хацелі ствараць рэпрэсіўны фон.

Менавіта там, у Крамлі, і была падпісаная Ельцыным і Лукашэнкам і дамова «Аб утварэньні супольнасьці Расеі і Беларусі». Побач сьвяціўся ад шчасьця Шарэцкі.

Лукашэнка выпіў келіх гарэлкі і разьбіў яго аб падлогу. «Русский мужик! Нам бы такого в президенты!» — ацанілі жэст на абшарах Расеі. На тое і быў разьлік.

Калі з праскай рэдакцыі Радыё Свабода я патэлефанаваў Быкаву, Васіль Уладзімеравіч сказаў, што,



Разам з Барысам Ельцыным Аляксандар Лукашэнка запіў здраду Беларусі расейскай гарэлкай

паводле ягоных назіраньняў, у той дзень на вуліцы Менску выйшла «нейкая новая, дагэтуль не вядомая сіла». Выйшлі тыя, хто раней ня браў удзелу ў палітычных акцыях і хто толькі цяпер пачаў разумець прамую залежнасьць уласнага лёсу ад таго, ці застанецца іх краіна сувэрэннай.

Праз дваццаць пяць гадоў будуць гаварыць пра «жаночы твар» пратэставых выступаў 2020 году — а вось Вясна-96, думаю, мела мужчынскі твар. Ішла вайна ў Чачэніі, і беларускія юнакі ўсьведамлялі небясьпеку апынуцца ў шэрагах расейскага войска.

*Прайшоў тыдзень — і ўсё паўтарылася. Многія меркавалі, што 30-тысячнае шэсьце за незалежнасьць, якое адбылося 24 сакавіка, было рэкордам сэзону. Аднак у аўторак 2 красавіка сталіца паказала, што асноўныя падзеі і рэкорды наперадзе... А галоўнае, што далі падзеі 2 красавіка — карцінка на тэлеэкранах усяго сьвету, як беларусы ў дзень падпісаньня расейска-беларускага саюзу пратэсту-*

*юць супраць пакту Лукашэнкі — Ельцына. Наўрад ці цяпер міжнародныя аглядальнікі ўплывовых замежных СМІ будуць сьцьвярджаць, што мы ня хочам незалежнасьці. Мы паказалі ўсяму сьвету, чаго хочуць беларусы. І гэта самае важнае.* («Свабода», 5 красавіка 1995).

Пра міжнародны палітычны эфэкт шэсьцяў 24 сакавіка і 2 красавіка пазьней, а цяпер пра ацэнку беларуска-расейскага пагадненьня.

Дзень 2 красавіка потым будуць адзначаць як «дзень яднаньня народаў Расеі і Беларусі».

У наступным, 1997-м, у той жа самы дзень будзе падпісаная яшчэ адна дамова — гэтым разам ужо «Аб Саюзе Беларусі і Расеі». Гэтыя і іншыя дагаворы створаць падмурак для працэсу паступовага, але няўхільнага ўцягваньня Беларусі ў палітычную ды эканамічную залежнасьць ад Масквы (вайсковая залежнасьць бярэ пачатак ад 1993-га, калі Вярхоўны Савет, ігнаруючы папярэджаньні БНФ, прагаласаваў за далучэньне да сыстэмы калектыўнай бясьпекі СНД). Апагеем будзе стварэньне 8 сьнежня 1999 году «саюзнай дзяржавы», якое Васіль Быкаў у нашай гутарцы для Радыё Свабода назаве «злачынствам стагодзьдзя».

А ў тыя дні падзеі ў Крамлі на хвалях Свабоды пракамэнтавала з Масквы былая савецкая дысыдэнтка Валерыя Навадворская (яна прыгадала назоў, які ў выніку не прыжыўся — Супольнасьць сувэрэнных рэспублік (ССР).

Навадворскую я ніколі ня бачыў, але ня раз размаўляў зь ёй па тэлефоне. Першы раз — калі ў пачатку сьнежня 1995-га Васіль Быкаў папрасіў мяне зьезьдзіць замест яго ў Маскву на міжнародную канфэрэнцыю «КГБ: учора, сёньня, заўтра»,

арганізаваную былым дысыдэнтам Сяргеем Грыгар'янцам. Якраз перад гэтым я прачытаў адну зь яе кніг, якая ўразіла мяне бескампраміснасьцю і гатоўнасьцю ахвяраваць жыцьцём у імя ідэалаў, я патэлефанаваў ёй, мы дамовіліся сустрэцца ў Маскве, ды не атрымалася: Навадворская захварэла. Ізноў пагутарылі па тэлефоне, Валерыя Ільлінічна выказала падтрымку Народнаму Фронту, прасіла перадаць прывітаньне Пазьняку.

Валерыя Навадворская: *Это просто политическая диверсия против суверенной Беларуси и против суверенной России, затеянная реакционным окружением президента Ельцина, который не понимает, во что его, собственно, втягивают. Чего стоит одна аббревиатура — ССР! Не хватает только одной буквы, дабы всё это воплотилось в самую худшую, самую кошмарную действительность. Кошмарные сны воплощаются в кошмарную действительность. 29 марта в 15 часов «Демократический союз» проводил пикет протеста у белорусского представительства на Маросейке под национальными белорусскими флагами, бело-красно-белыми, которые у белорусского народа уже отнял коллаборационист Лукашенко, с российским флагом и с лозунгами «За нашу и вашу свободу!», «Президент Лукашенко — белорусский вариант Доку Завгаева» и «Лукашенко, учти, что у Зюганова в ЦК все места уже заняты». Лукашенко предает свою Родину, так же, как её предаёт Доку Завгаев.*

*Мы видели замечательный митинг национально-демократических сил на площади в Минске. Мы счастливы, что Василь Быков разделяет национальные устремления белорусского народа, и мы уверены, что Алесь Адамович, если бы он был жив,*

*он бы тоже присоединился к этому митингу. Но решает всегда молчаливое тупожующее большинство, которое не имеет национальной идентичности. Совки в России не являются русскими. Совки в Беларуси не являются белорусскими гражданами, они как были, так и остаются советскими людьми.*

*Я могу понять мотивы господина Лукашенко, который был рождён совком, и в совковой ситуации он, видимо, рассчитывает, что Россия возьмёт на содержание его аппарат, будет давать ему деньги, списывать долги и при этом оставит его у власти. Но он может просчитаться, потому что такие бестолковые наместники не нужны никаким колониальным империям. И мы отнюдь не благодарны ему за то, что он из России пытается сделать колониальную империю. Мало нам чеченской войны — нам ещё не хватало рельсовой войны в Беларуси!*

Праз некалькі месяцаў Навадворская рэзка крытычна выкажацца з нагоды нашай з Пазьняком эміграцыі і некалькі разоў вернецца да гэтай тэмы ў інтэрвію. Народжаная ў беларускіх Баранавічах, яна цытавала багдановіцкую «Пагоню»: «За яе мне памерці дазволь».

Навадворская лічыла, што лідэр павінен памерці, але не эміграваць (пазыцыя часткі дысыдэнтаў яшчэ з савецкіх часоў). Аднак гэта ніяк не зьмяніла майго стаўленьня да яе, якое больш дакладна было б вызначыць як піетэт.

У сакавіку 2014-га яна рэзка асудзіла Пуціна за анэксію Крыму, а праз некалькі месяцаў, у ліпені, памерла ва ўзросьце 65 гадоў. Як паведамілі — ад інфэкцыі.

## Шарэцкі сустракаецца са шчасьцем, я — з Чарнамырдзіным

Трэба мець вельмі спэцыфічнае ўяўленьне пра чалавецтва, каб праект вяртаньня СССР лічыць агульначалавечым сьвятам. Але, трэба прызнаць, людзей з такім спэцыфічным поглядам на сьвет у Савецкім Саюзе ў свой час нарабілі нямала.

Афіцыйная прапаганда рэклямавала лукашэнкаўска-ельцынскую дамову, цытуючы ацэнкі менскіх і маскоўскіх палітыкаў і грамадзкіх дзеячоў.

«Народная газета» (орган Вярхоўнага Савету) зьмясьціла выказваньне вядомых асобаў пад агульным загалоўкам «Нас хацелі расьцягнуць па кватэрах. Не атрымалася» (так і просіцца дадаць падзагаловак «Будзем жыць у камуналцы, з агульнай кухняй і прыбіральняй»).

Міхаіл Чыгір, кіраўнік Кабінэту міністраў Беларусі: «Я думаю, ні ў кога не выклікае сумненьня, што гэта вельмі важная падзея ў жыцьці нашых народаў. Тым больш што захоўваюць сувэрэнітэт незалежныя дзяржавы. Мы выраўнуем эканоміку, ад інтэграцыі атрымаюць „плюс" як народ Расеі, так і народ Беларусі».

Віктар Чарнамырдзін, прэм'ер-міністар Расеі: «Нас хацелі разьяднаць, расьцягнуць па кватэрах. Не атрымалася. І вось сёньня дзьве дзяржавы аб'ядналіся».

З наступным суразмоўцам карэспандэнта «Народнай газеты», выканаўчым сакратаром СНД Іванам Каратчэнем, я быў добра знаёмы — нейкі час ён узначальваў парлямэнцкую камісію галоснасьці і правоў чалавека, дзе я таксама працаваў. Да гэтага Каратчэня быў першым сакратаром Вялейскага

райкаму, разам зь іншымі камуністамі тарпэдаваў нашы прапановы ў справе дасягненьня Незалежнасьці, выступаў супраць распаду СССР і крытыкаваў Шушкевіча.

Ён, вядома, ня мог уявіць, што ў выніку гэтага самага распаду ўзьнясецца на Алімп ужо не беларускай, а міжнароднай палітыкі, будзе на роўных з прэзыдэнтамі краінаў СНД. Менавіта Шушкевіч прапанаваў прэзыдэнтам прызначыць Каратчэню выканаўчым сакратаром СНД — і тым самым пазбыўся актыўнага крытыка ў Прэзыдыюме Вярхоўнага Савету (Каратчэня пакінуў пасаду старшыні камісіі і, адпаведна, выйшаў з Прэзыдыюму).

Да Каратчэні крытычна ставіліся мае калегі па апазыцыі, але нашыя зь ім працоўныя адносіны ў камісіі будаваліся на ўзаемнай павазе. Магу сказаць, што адразу пасьля свайго прызначэньня на новую пасаду ён прапанаваў мне ўзначаліць прэсавую службу апарату СНД — я адмовіўся з той прычыны, што мы ў апазыцыі БНФ лічылі гэтую структуру рэінкарнацыяй імпэрыі. Пазьней сваю пасаду Каратчэня перадасьць расейскаму алігарху Барысу Беразоўскаму.

Але вернемся да публікацыі ў «Народнай газеце».

Іван Каратчэня, выканаўчы сакратар СНД: «Да гэтай падзеі мы ішлі больш чым чатыры гады. Асабіста я з моманту распаду СССР спадзяваўся, што настане той момант, калі „распаўзаньне" ў бакі і пераход да сувэрэнітэту закончыцца і надыдзе новае яднаньне».

Кіраўнік новавыбранага Вярхоўнага Савету пацьвердзіў сваё рэнамэ прыхільніка інтэграцыі.

Сямён Шарэцкі, старшыня Вярхоўнага Савету: «Адбылося выпраўленьне таго павароту ў лёсе нашых народаў, які ў свой час адбыўся. Я шчасьлівы, што гэта здарылася пры маім жыцьці».

А самую высокую ноту ўзяла Людміла Зыкіна, народная артыстка СССР: «Тое, што адбылося, гэта ня проста сьвята дзьвюх дзяржаваў, гэта сьвята ўсяго чалавецтва. Я больш чым упэўненая, што пачалі беларусы і расіяне, а падтрымаюць іх і іншыя дзяржавы». («Народная газета», 4 красавіка 1996).

Гэта было надрукавана 4 красавіка ў парлямэнцкай «Народнай газеце». Незалежная «Белорусская деловая газета» ж зьмясьціла думкі дэпутатаў Вярхоўнага Савету, якія прыхільнікамі Лукашэнкі не лічыліся, але ў іх словах мы не адчулі асаблівай заклапочанасьці.

Станіслаў Багданкевіч, старшыня АГП: «За выключэньнем палажэньняў, якія тычацца некаторых аспэктаў ваеннага супрацоўніцтва, гэта дагавор зусім можна падтрымаць».

Людміла Гразнова, намесьніца старшыні парлямэнцкай камісіі ў пытаньнях бюджэту, падаткаў, банкаў і фінансах: «Небясьпеку для сувэрэнітэту Беларусі ўяўляюць толькі тыя палажэньні дамовы, якія тычацца правядзеньня ў будучыні адзінай крэдытна-грашовай палітыкі. Стварэньне адзінага бюджэту і адзінай валюты зусім можа скончыцца стратай незалежнасьці нашай дзяржавы».

Сяргей Калякін, лідэр фракцыі камуністаў: «З нагоды пагадненьня, падпісанага ў Маскве, я ня маю ілюзіяў. Гэта СНД-2, у межах якога вырашаецца толькі частка існуючых праблемаў... А мы лічым, што неабходна прыйсьці да больш цеснага саюзу з Расеяй і перадаць частку сувэрэнных паўна-

моцтваў саюзнаму кіраўніцтву» («Белорусская деловая газета», 9 красавіка 1996).

Скончу цытаваньне ўспамінам пра падзею, якая адбудзецца празь дзесяць гадоў, у красавіку 2006-га ў Кіеве, дзе я браў удзел у міжнароднай канфэрэнцыі аб Чарнобылі. Я прыпазьніўся на ўрачыстае паседжаньне ў Опэрным тэатры, давялося ўсё роўна праходзіць праз раму мэталадэтэктара (у паседжаньні ўдзельнічалі прэзыдэнт Украіны Віктар Юшчанка, міжнародныя чыноўнікі, амбасадары, таму сыстэма аховы была ўзмоцненая).

За сьпінай пачуў незадаволенае: «Ну что так долго?» Абярнуўся — за мной стаяў былы расейскі прэм'ер Віктар Чарнамырдзін. У той час ён быў расейскім амбасадарам ва Ўкраіне.

Па шырокай лесьвіцы тэатру мы падымаліся разам, і я запытаўся, ці па-ранейшаму ён верыць у будучы саюз Беларусі і Расеі і ці можа такі саюз нечым паспрыяць ахвярам Чарнобылю?

— А при чём здесь союз? — запытаў Чарнамырдзін і дадаў, што пра саюз ня трэба гаварыць у будучым часе: — Союз — почему не будет? Он есть.

— Но ведь отдельные же государства — Беларусь и Россия, — запярэчыў я.

— Ай, не выдумывай! — параіў Чарнамырдзін.

Хацеў бы выдумаць, але, баюся, не атрымаецца, як заўсёды.

## Атрымліваю ўрок у Празе

Калі празь дзесяцігодзьдзі чытаеш заявы, інтэрвію, артыкулы Пазьняка і іншых лідэраў Народнага Фронту, у тым ліку мае прэс-рэлізы і артыкулы, пра пляны інкарпарацыі Беларусі,

можа ўзьнікнуць уражаньне, што ўсе мы дрэнныя прагназісты: шмат чаго ня спраўдзілася.

Але такі падыход да дзейнасьці палітыка ў нечым падобны на адчуваньні чалавека, які слухае аповед чалавека, што згубіўся ў лесе ці перажыў караблекрушэньне: «Але ж урэшце ж усё больш-менш абышлося».

Здольнасьці аналізаваць і прагназаваць зьяўляюцца неабходнымі якасьцямі для палітыка. Але ягоная галоўная функцыя — фармаваць новую будучыню, спрыяць ёй, папярэджваць непажаданую хаду падзеяў. І ня толькі папярэджваць, але і рабіць максымальныя крокі для прадухіленьня такога разьвіцьця падзеяў, якое ён лічыць шкодным.

Усе нашыя дзеяньні ў 1996 годзе былі накіраваныя на зрыў анэксіі Беларусі. Празь пятнаццаць гадоў журналіст Андрэй Дынько напіша ў «Нашай ніве» ў артыкуле «Вясна, якая сарвала аншлюс»: «Галоўнае, што інфармацыйныя перамогі Вясны-1996 зьбілі тэмп інтэграцыі з Расеяй. Дай лішні месяц, дай маўчаньне грамадзтва — і сёньня Беларусь магла б існаваць у форме ўнутранага Татарстану».

А каб не было маўчаньня, трэба было гаварыць пра пагрозу, і як мага гучней.

Па чэскай тэлевізіі мы бачылі кадры шматтысячных шэсьцяў у Менску, хаця беларускі сюжэт і ня быў галоўным — значную частку навінаў займала інфармацыя пра авіякатастрофу пад Дуброўнікам з амэрыканскай урадавай дэлегацыяй, у якой загінуў і міністар гандлю ЗША.

Зянон Пазьняк:

*Калі мы былі ў Празе, выступаў па тэлебачаньні Дзяржсакратар ЗША Ўорэн Крыстафэр і, ка-*

*жучы пра дэманстрацыю ў Менску і пра лукашэнкаўска-расейскую інтэграцыю, адзначыў, што няма на гэта згоды беларусаў, што афіцыйная інфармацыя Масквы і Менску не адлюстроўвае ўсю праблему і што сьведчаньнем гэтаму ёсьць дэманстрацыя ў Менску. «Нават калі б супраць былі толькі гэтыя трыццаць тысячаў дэманстрантаў, — сказаў тады Крыстафэр, — мы таксама мусім іх улічваць».*

Відэазапіс шэсьця ў Менску ілюстраваў інтэрвію Пазьняка першаму каналу чэскае тэлевізіі. Уладу на Беларусі Пазьняк назваў «крымінальна-фашыстоўскім рэжымам». Але аглядальнік, які сядзеў у студыі, зь недаверам паставіўся да заявы, што на Беларусі ўсталёўваецца таталітарызм. Відавочна, журналіст прызвычаіўся размаўляць з эўрапейскімі палітыкамі з краінаў, дзе пануе дэмакратыя, і яму было нязвыкла чуць пра дыктатуру ў эўрапейскай краіне.

Дарэчы, першае маё ўражаньне пра стаўленьне чэскай грамадзкасьці да беларускіх падзеяў не было памылковым. Ужо пазьней, падчас наступных спатканьняў, я са зьдзіўленьнем пабачыў, што чэскія дысыдэнты як быццам наўмысна не жадалі верыць у тое, што ў рэспубліцы былога СССР можа адрадзіцца дыктатура. Здаралася нават, што заявы пра жаданьне Крамля далучыць Беларусь да Расеі кваліфікавалі як нацыяналізм з выразна радыкальным адценьнем.

— Вы лічыце, што Масква ня можа праводзіць палітыку ў сваіх інтарэсах? — пытаўся я чэскіх дысыдэнтаў.

— Так, ня можа, — адказвалі мне.

— Чаму ж тады ў 1968 годзе Масква ўвяла танкі ў Прагу?

— Але гэта была яшчэ тая, камуністычная Масква, а сёньня ў Расеі Ельцын і дэмакратыя, — пераканана заяўлялі чэскія сябры.

Падчас далейшых гутарак я зразумеў прычыну. У канцы 80-х, калі Гарбачоў абвясьціў «галоснасьць» і «перабудову», у Чэхаславакіі яшчэ кіравалі артадаксальныя камуністы. Вацлаў Гавэл і іншыя праваабаронцы сядзелі ў турмах. Ня толькі маскоўская прагрэсіўная пэрыёдыка, але нават кнігі генсека Гарбачова, якія пыліліся ў савецкіх крамах, фактычна былі забароненыя ў Чэхаславакіі. У выніку чэхі пазіралі на Маскву з надзеяй, успрымалі яе як прадвесьце дэмакратыі ва Ўсходняй Эўропе. Прайшло некалькі гадоў, і ў палітычных ды эканамічных рэформах чэхі нашмат апярэдзілі колішняга «старэйшага брата». У канцы 90-х праскія газэты рэгулярна пісалі пра «рускую мафію», некаторыя пражане не жадалі здаваць кватэры ў арэнду грамадзянам краінаў былога СССР. Але стаўленьне да Расеі як краіны дэмакратычнай, як ні дзіўна, у 1996 годзе шмат у каго заставалася (і нават з прыходам Пуціна зьнікла не адразу).

І другая прычына — няведаньне поўнай і аб’ектыўнай інфармацыі. Тады, у 96-м, мне здалося, што чэхам проста нецікава было ведаць, што адбываецца ў гэтай далёкай, незразумелай Беларусі. Так, вельмі далёкай — хаця Беларусь і ляжыць праз адну краіну, праз Польшчу, усяго якія-небудзь сем сотняў кілямэтраў на ўсход. Прагноз надвор’я на ўзьбярэжжы Адрыятыкі, куды заваблiваюць турыстычныя агенцтвы, ня кажучы ўжо пра вартасьці мясцовага піва, будзе цікавіць пражанаў значна болей, чым пэрспэктывы беларускай дэмакратыі. І ня трэба вінаваціць іх за гэта. Сваё права на

павольнае, свабоднае жыцьцё гэтыя людзі здабылі праз пакуты, не адзін год дамагаючыся дэмакратыі.

Але такое стаўленьне натуральнае для звычайных грамадзянаў, ад палітыкаў і журналістаў мы чакалі іншага. І першым нашым пачуцьцём было расчараваньне.

З паведамленьня прэсавай службы БНФ: «Падчас спатканьняў з чэскімі палітыкамі Зянон Пазьняк заявіў, што беларуска-расейскае пагадненьне — першы этап анэксіі Беларусі, якая даўно заплянаваная Крамлём. Другі этап — непасрэдна ліквідацыя дзяржаўнасьці Беларусі — пачнецца ў 1997 годзе і будзе адзначаны адпаведным рэфэрэндумам. Няма сумневу ў тым, што расейскія тактычныя ядзерныя ракеты хутка зьявяцца на мяжы Польшчы ды Ўкраіны, а мішэньню для іх будуць эўрапейскія краіны. Лукашэнка здольны пагражаць NATO, паколькі за ім Масква, — адзначыў лідэр БНФ».

Заява гэтая была ўспрынятая як даволі абстрактны, папросту нерэальны прагноз, выкліканы жаданьнем беларускага палітыка напусьціць страху вакол Расеі. Нікому ня верылася ні ў новы рэфэрэндум (не прайшло яшчэ і году з папярэдняга), ні ў тое, што Менск пойдзе на стварэньне агульнай з Масквой вайсковай групоўкі.

Прагноз у тым выглядзе, які выказаў Пазьняк, як вядома, у 1996-м ня спраўдзіўся. Дакладней, ня спраўдзіўся ў дэталях — але ў наступным, 97-м, будзе падпісаная яшчэ адна «інтэграцыйная» дамова з Расеяй, у 99-м створаць «саюзную дзяржаву». Потым наступны расейскі прэзыдэнт прапануе Лукашэнку ўвайсьці ў склад Расеі шасьцю губэрнямі. Пасьля будзе нафтавы і газавы шантаж. Шмат чаго будзе.

Наконт рэфэрэндуму Пазьняк памыліўся толькі ў тэрмінах — ён прайшоў яшчэ раней, чым прагназаваў лідэр БНФ, у канцы 96-га, хай і не паклаўшы канец беларускай незалежнасьці, але паставіўшы крыж на беларускай дэмакратыі.

Нават такія дасьведчаныя палітыкі, як кіраўнік Адміністрацыі прэзыдэнта Чэхіі Іван Мэдэк і намесьнік міністра замежных справаў Павэл Брацінка, ня верылі ў сур'ёзнасьць плянаў аб'яднаньня Масквы і Менску.

Вячка Станкевіч, у 1996-м — дырэктар Беларускай службы Радыё Свабода:

*У той дзень я суправаджаў Зянона Пазьняка ў якасьці перакладчыка. Увайшоўшы ў будынак чэскага МЗС, у так званы Чэрнінскі палац, мы сустрэліся з намесьнікам міністра Паўлам Брацінкам. Ён вельмі прыязна сустрэў, цікавіўся думкамі Пазьняка, але выснова была такая, што чэхі, і ён асабіста, думаюць, што ўсё, што датычыць беларуска-расейскай інтэграцыі, — гэта частка перадвыбарчай кампаніі Ельцына і, як толькі Ельцын выйграе выбары, на гэтым усё спыніцца. У Градчанах мы сустрэліся з Іванам Мэдэкам, кіраўніком Адміністрацыі прэзыдэнта Гавэла. Ён таксама палічыў неверагодным, што нейкія крокі да такога «саюзу» сапраўды будуць працягвацца пасьля таго, як Ельцын выкарыстае тую нагоду і выйграе выбары.*

Мэдэк і Брацінка памыліліся: пасьля прэзыдэнцкіх выбараў «інтэграцыйны» імпэт Крамля сьцішыўся ненадоўга.

На той сустрэчы Пазьняк папрасіў, каб Чэхія падтрымала Беларусь падчас далучэньня да Рады Эўропы: «Пасьля таго, як у Раду Эўропы ўвайшла

Расея, якая вядзе вайну ў Чачні, непрыняцьце Беларусі будзе выглядаць недарэчна».

Гэты і іншыя падобныя нашыя заявы дысанавалі з абвінавачаньнямі афіцыйнай прапаганды ў тыя дні, што мы нібыта дамагаліся ізаляцыі Беларусі. Прадстаўляць краіну ў Радзе Эўропы мусіў Вярхоўны Савет, а ў міжнародных арганізацыях — дэмакратычныя партыі і праваабарончыя суполкі.

Цэлую паласу гутарцы зь лідэрам беларускай апазыцыі прысьвяціла газэта Lidové noviny — адно з найбольш папулярных у коле чэскай інтэлігенцыі выданьняў. Расказаўшы пра перасьлед актывістаў апазыцыі, Пазьняк зноў заклікаў чэскае грамадзтва падтрымаць беларускую дэмакратыю. І папярэдзіў, што ўсталяваньне аўтакратычных мэтадаў на Беларусі можа пагражаць стабільнасьці ва Ўсходняй Эўропе. Але і да гэтага сьцьвярджэньня, як мне здалося, журналісты паставіліся з доляй скепсісу. Пры гэтым, аднак, словы Пазьняка ў газэце былі перададзеныя абсалютна дакладна.

У той час гэта мяне прыемна ўразіла, бо ў Беларусі твае думкі часьцей за ўсё перакруцяць і абавязкова аздобяць уласным камэнтаром.

Пасьля выступу Пазьняка ў прамым эфіры першай праграмы чэскай тэлевізіі цікавасьць да падзеяў у Беларусі, прынамсі з боку журналістаў, пабольшала. Не было дня, каб лідэр БНФ ня браў удзелу ў «круглым стале» ці не даваў інтэрвію. Выступіў Пазьняк і ў эфіры нацыянальных службаў Радыё Свабода.

Тут жа, у будынку Свабоды, адбылася і прэсавая канфэрэнцыя для чэскіх і замежных журналістаў.

Менавіта на ёй упершыню было заяўлена, што ў пэрспэктыве нельга выключаць далучэньня Бе-

ларусі да NATO. Мы доўга разважалі і пралічвалі розныя варыянты, перш чым зрабіць такую заяву, бо ведалі, як пракамэнтуе яе ў Менску афіцыйная прапаганда.

Найперш нас маглі папракаць у непасьлядоўнасьці — бо менавіта Апазыцыя БНФ у 1990-м прапанавала ідэю нэўтральнасьці Беларусі. Але пасьля жорсткага націску пракебічаўскай парлямэнцкай большасьці, калі Станіслаў Шушкевіч у апошні дзень 1993-га ўсё ж быў вымушаны падпісаць заяву пра далучэньне Беларусі да сыстэмы калектыўнай бясьпекі СНД (якая рэальна кантралюецца Генштабам Расеі), нэўтральнасьць Беларусі зрабілася толькі тэрмінам. У сытуацыі няўхільнага ўцягваньня Беларусі ў арбіту вайсковых стратэгічных інтарэсаў Расеі адзінай альтэрнатывай гэтаму працэсу і адначасна гарантыяй незалежнасьці магло б стаць толькі далучэньне Беларусі да NATO.

У нас не было магчымасьці абмеркаваць прапанову з кіраўнікамі БНФ, якія засталіся ў Менску, бо тэлефонная размова для гэтага не падыходзіла. Таму для іх гэта таксама было нечаканасьцю.

Безумоўна, мы разумелі тагачасную нерэальнасьць такой ідэі — але дзесяць гадоў таму і незалежнасьць Беларусі мала каму здавалася рэальнай.

У наступныя гады, калі Масква ўсё больш шчыльна будзе ўцягваць Беларусь у свае вайсковыя гульні, сумесныя манэўры, відавочна накіраваныя на супрацьстаяньне з Захадам, апазыцыйная частка беларускага грамадзтва падзеліцца. Адны будуць за нэўтралітэт, другія (меншая частка, як выглядае) — за NATO.

І ўвесь гэты час, больш як чвэрць стагодзьдзя, краіна будзе існаваць у сытуацыі, якая супярэчыць

канстытуцыйнаму палажэньню аб нэўтралітэце як мэце.

Пакідаючы Чэхію ў пачатку красавіка 1996 году, Зянон Пазьняк выказаў прэзыдэнту Вацлаву Гавэлу павагу і падтрымку палітыцы, якую ён ажыцьцяўляе на карысьць вольнай і дэмакратычнай Чэхіі:

*Беларускаму Народнаму Фронту блізкія і зразумелыя рэформы, якія адбываюцца ў Чэхіі. Не валодаючы ні выканаўчай уладай, ні большасьцю ў парлямэнце, мы прыклалі шмат намаганьняў для ажыцьцяўленьня аналягічнай мадэлі рэформаў на Беларусі... У цяжкія часы, як паказала гісторыя, дэмакратыя мае права разьлічваць на салідарнасьць і маральную падтрымку сяброў. Толькі вольныя і незалежныя народы могуць пазьбегнуць у XXI стагодзьдзі трагедыі XX стагодзьдзя.*

Празь некалькі гадоў, у верасьні 2001-га, мне давялося быць на гутарцы Васіля Быкава з Вацлавам Гавэлам (дарэчы, на наступны дзень пасьля тэрактаў у Нью-Ёрку і Вашынгтоне). Кіраўнік чэскай дзяржавы быў ня толькі зацікаўлены, але і шчыра занепакоены сытуацыяй у Беларусі. Быкаў тады падзякаваў за дапамогу, сярод іншага, і беларускай моладзі, якой далі магчымасьць вучыцца ў чэскіх унівэрсытэтах — а пачатак гэтай студэнцкай праграмы быў закладзены менавіта вясной 96-га, у размовах Пазьняка з паплечнікамі Гавэла.

Натуральна, што ўжо хутка пасьля вясновых падзеяў 1996 году чэскія палітыкі былі вымушаныя значна больш сур’ёзна ставіцца для плянаў расейска-беларускага аб’яднаньня.

Але менавіта тады, у Празе, нам стала зразумела, што ўвага сьвету да Беларусі сама па сабе ня зьявіцца. Дзеля гэтага патрэбна напружаная



У цягніку перад ад’ездам у Польшчу

праца з улікам асаблівасьцяў успрыманьня заходнімі палітыкамі і фігуры расейскага прэзыдэнта, і, шырэй, саміх працэсаў, якія адбываюцца ў Расеі.

І асабіста для мяне гэта было галоўным урокам, атрыманым у Чэхіі.

## Не памёр за Радзіму, а мог

Часам у гэтай кнізе я саступаю сваё месца аўтара дакумэнтам і сьведчаньням іншых людзей, сучасьнікаў. Гэта ня проста цытаты, а поўны тэкст. Раблю гэта, калі лічу, што той ці іншы погляд збоку на нейкую сытуацыю ці праблему, асабліва зьвязаную з асобай аўтара, больш плённы.

У дзень, калі мы з Чэхіі перасеклі мяжу з Польшчай, газэта «Свабода» ў Менску надрукавала напісаны ў Празе артыкул Аляксандра Лукашука ў форме дыялёгу з уяўным апанэнтам:

*Шаноўная рэдакцыя, днямі ў мяне адбылася тэлефонная гутарка з адным менскім знаёмым на актуальную, як той казаў, тэму. Прапаную вашай увазе некаторыя фрагмэнты.*

*— Эміграцыя — гэта здрада агульнай справе, — заявіў мой субяседнік, калі мы загаварылі пра падзеі пасьля мітынгу ў абарону незалежнасьці Беларусі і далейшыя дзеяньні ўладаў і апазыцыі. І працягваў: — Гэта здрада ўсім, хто заставаўся, гэта здрада сабе, бо гэта баязьлівасьць.*

*— Іншымі словамі, правільней было б застацца і даць магчымасьць рэжыму дабіцца свайго — тады гэта была б ня здрада нашай справе, так? — спытаўся я. — Калі б чалавек быў пазбаўлены магчымасьці рабіць гэтую справу, пісаць, гаварыць, дзейнічаць дзеля яе — гэта было б правільна і на карысьць? Вам не здаецца, што вы ўяўляеце нашу справу ў выглядзе паганскага бога, які крыважэрна патрабуе ахвяраў, і гэтыя ахвяры трэба моўчкі прыносіць, а хто ня хоча быць зьедзеным драконам — той баязьлівец? Трэба пакорліва даваць зьдзекавацца зь сябе — у гэтым доблесьць? І правільна, што Кастуся Каліноўскага павесілі, добра, што ня ўцёк з-пад шыбеніцы. Іначай была б бяда, вялікая шкода беларускай ідэі. Яшчэ б заплыў, барані Бог, у Амэрыку, як Касьцюшка, і помнік паставілі б яму ў амэрыканскім Кангрэсе. А так вяроўку накінулі на шыю і падстаўку з-пад ног выбілі. Вяроўка — выключна дзеля беларушчыны — шыю перарэзала, горла пераціснула, захрыпеў, вочы з арбіт вылезьлі, лёгкія скруціла. Языкываліўся...*

*— Заўсёды лічылася прыгожым памерці дзеля Радзімы.*

*— А выжыць дзеля Радзімы, значыць, менш прыгожа? Парушае эстэтычныя ўяўленьні гледачоў і былых таварышаў? Цяпер таварышы жадаюць клясычнага завяршэньня і іх жаданьні супадаюць чамусьці адзін да аднаго з жаданьнямі катаў. Аднак таварышы гэтага супадзеньня чамусьці не заўважаюць. Яны перакананыя, што прагнуць крыві свайго нядаўняга сябра выключна з высакародных матываў. Няхай памрэ за ідэю. Ідэя, лічаць яны, вартая таго, каб за яе памерці. Меркаваньні сябра, які небеспадстаўна зазначае, што тады цяжка адрозьніць катаў ад таварышаў, іх вельмі крыўдзіць.*

*— Калі ўлез у гэтую справу — ідзі да канца, памры, іначай ты здраднік.*

*— У чым здрада — у тым, што ня даў паздзекавацца зь сябе, са сваіх блізкіх? І магчыма, зрабіць зламаным, скалечаным якім-небудзь псыхатропным прэпаратам і вымушаным падпісаць што-небудзь гнюснае, пагадзіцца з катамі? Ня даў ім дасягнуць іхняй мэты — гэта што, азначае пасобніцтва ворагу? Правільна было б дапамагчы праціўніку дабіцца свайго?*

*— Ня ў гэтым справа, але ў нашай турме ўцякач-эмігрант мог бы стаць нашым сьцягам. Мы б на ягоным прыкладзе вялі моладзь, арганізоўвалі пратэсты, складалі паэмы і песьні. А так яго і нас будуць папракаць у адсутнасьці мужнасьці, баязьлівасьці, здрадзе ідэалам.*

*— Якім ідэалам ён здрадзіў?*

*— Ён не памёр за Радзіму, а мог. Ён жа кляўся ў любові да Радзімы, хіба ж не?*

*— Не разумею, чаму вы дазваляеце яму любіць Радзіму толькі мёртваму. Чаму не жывому? І ча-*

*му папрокі тых, хто зьяўляецца нашым ворагам, павінны быць для нас аўтарытэтнымі? Зь якога часу ў вас сталі аднолькавыя маральныя ацэнкі? І, апроч таго, той бок такіх патрабаваньняў сваім членам не прад'яўляе. Ён чамусьці хоча выключна крыві праціўнікаў.*

*— Мы не такія, як яны, і таму выкручвацца і хавацца ня будзем. Гэта нізка.*

*— Як белыя афіцэры ў фільме «Чапаеў», якія прыгожа, ліха і адважна ідуць у псыхічную атаку на чырвоныя кулямёты — як бараны? Вашыя патрабаваньні нагадваюць адзін загад, які ўвайшоў у гісторыю войнаў як самы жорсткі і дурны адначасна: ні кроку назад, патрабаваў той загад. А за кожны такі крок, зроблены без дазволу камандаваньня, гэта значыць тых, хто быў ззаду, — расстрэл. Вялікі дзякуй ад гера Гітлера таварышу Сталіну. Што гітлераўскія салдаты не пабілі ў адкрытых палях і на дурацкіх вышынях, тое на загад Радзімы дабівалі таварышы СМЕРШаўцы.*

*— Дык вы што, можа быць, лічыце, што і Маскву трэба было аддаць, і Ленінград, і за Сталінград ня трэба было змагацца?*

*— Хто вінаваты ў той вайне і чаму яна была такая бяздарная — асобная тэма. Зазначу, аднак, што Кутузаў Маскву аддаў, непатрэбных бітваў пазьбягаў — і колькі жыцьцяў выратаваў, наколькі калек менш дахаты вярнулася... Гэта тыпова сталінскія адносіны да чалавека, якія падзялялі і ягоныя ахвяры, толькі гэта ім не дапамагло. Яны таксама лічылі партыю вышэйшай за чалавека, прынцыпы даражэйшымі за жыцьцё (чужое).*

*— Так, ня хочацца пагаджацца, выкручваецеся, прыдумляеце нейкія адгаворкі замест таго, каб*

*адважна выканаць сваю місію. Шкода ад такіх паводзінаў велізарная, як ні круці.*

*— Шкода для каго і чаго? Для рэжыму — так, шкода, бо яны не дасягнулі таго, чаго хацелі. Шкоды для справы, далібог, ня бачу. Праўда, можа, нам трэба больш дакладна дамовіцца, што ёсьць нашая справа, чаго яна вымагае. Мне здавалася, што гэтая справа накіраваная на паляпшэньне жыцьця для ўсіх, і ягонага ўключна. Яна накіраваная дзеля адраджэньня недаробленага папярэднікамі. Занадта мала ім выпала пражыць на волі і зрабіць, у нас столькі работы наперадзе...*

*Вось такі дыялёг. Кожны можа працягнуць яго сваімі аргумэнтамі і контраргумэнтамі. На разьвітаньне я параіў, перш чым выносіць прысуды, паглядзець на вынікі дзейнасьці тых, аб кім ідзе гаворка. Ён пагадзіўся, і мы дамовіліся сазваніцца зноў* (газэта «Свабода», 10 красавіка 1996).

Публікацыя Аляксандра Лукашука мела назоў «Разьвітаньне з Радзімай?».

Пытальнік тут быў дарэчы — нашае становішча рабілася ўсё больш няпэўным.

## Палякі пазнаюць Пазьняка на вуліцах

Наш першы прыпынак у Польшчы быў ва Ўроцлаве — і нечаканасьцю стала тое, што нас там чакалі.

У Польшчу беларускія грамадзяне тады маглі ўяжджаць бязь візаў, але патрэбна было запрашэньне. Яго нам арганізаваў супрацоўнік беларускай рэдакцыі Радыё Свабода Мікола Іваноў — ад імя грамадзкай арганізацыі Straż Mogił Polskich («Варта

польскіх магіл»), якая займалася тэмай гістарычнай памяці і месьцілася ва Ўроцлаве.

Сустрэўшы ў Чэхіі — прынамсі, у першыя дні — даволі стрыманую цікавасьць грамадзтва да беларускіх праблемаў, мы чакалі падобнага і ў Польшчы, але прыемна памыліліся. Праўда, да візыту ў Польшчу мы падрыхтаваліся больш грунтоўна.

Я адаслаў у польскае інфармацыйнае агенцтва адмысловую заяву для прэсы:

*Заставацца ў Беларусі ў нашых умовах азначала хавацца на падпольных кватэрах, падвяргаць небясьпецы свае сем'і і блізкіх і фактычна сядзець з «завязаным ротам», не маючы магчымасьцяў палітычнай дзейнасьці. Сёньня ўжо можна сказаць, што мы вымушаныя былі, ратуючыся ад перасьледу паслухмяных Лукашэнку «органаў правапарадку», найперш КДБ, фактычна нелегальна пакінуць тэрыторыю Беларусі і праз трэцюю краіну прыехаць у Кіеў. Дзякуючы салідарнасьці дэмакратаў Украіны і журналістаў Чэхіі мы атрымалі магчымасьць інфармаваць грамадзтва гэтых краінаў пра становішча ў Беларусі. Мы разьлічваем знайсьці разуменьне і маральную падтрымку ў дэмакратычнай Польшчы.*

Ужо прыехаўшы ў Польшчу, я даведаўся, што газэта Życie Warszawy зьмясьціла маю заяву.

І сапраўды, калі ў Чэхіі нам спачатку даводзілася самім шукаць кантактаў з журналістамі, дык у першы ж дзень ва Ўроцлаве журналісты самі ўзялі нас у цеснае кола. Ва Ўроцлаве на той час працавала каля дзясятка прыватных радыёстанцыяў на ўльтракароткіх хвалях, і кожная прапанавала нам жывы эфір. Мне, праўда, часьцей за ўсё даводзілася выступаць ня ў ролі суразмоўцы, а асыстэнта, бо

польскай мовы ня ведаў. Затое Пазьняк ведаў яе даволі няблага — з журналістамі размаўляў безь перакладчыка.

Але праз тры месяцы жыцьця ў Польшчы мову гэтай краіны я калі і ня вывучыў, дык пачаў добра разумець, і ўрэшце нават асьмеліўся па-польску выступаць на прэсавых канфэрэнцыях.

Тут, магчыма, паўплывала тое, што часам называюць «сямейная памяць». Мая бабуля Ядзя (маці бацькі), беларуска, зь юнацтва магла размаўляць і чытаць па-польску, як, напэўна, і ўсе, хто жыў у Заходняй Беларусі, (але бацька ў 1945 годзе пайшоў у беларускую школу). Памятаю зь дзяцінства, што, хоць бацька пры мне чытаў толькі некалькі польскіх кніжак, але даволі свабодна, а адну зь іх, «Патоп» Сянкевіча, гадоў у трынаццаць паспрабаваў чытаць і я. У 1973 годзе мы з маці месяц правялі ў Польшчы, у Зеленагурскім ваяводзтве, і я збольшага разумеў тое, што гаварылі палякі.

*Адразу па прыездзе ва Ўроцлаў лідэры БНФ былі прынятыя біскупам Тыравам, мэрам гораду Багданам Здраеўскім і старшынём гарадзкой Рады Анджэем Лосем. Лекцыя Зянона Пазьняка «Незалежнасьць: пагрозы і персьпектывы», прачытаная ў Політэхнічным унівэрсытэце, сабрала больш за дзьве сотні прафэсараў і выкладчыкаў з розных інстытутаў гораду і скончылася сьпяваньнем «Сто лят» у гонар беларускіх гасьцей.*

*Пазьняк і Навумчык выступілі ў прамым эфіры нацыянальнага радыё, першая і другая праграмы польскай тэлевізіі далі падрабязныя справаздачы зь іх прэсавай канфэрэнцыі. У гэтыя дні польская прэса ўдзяляе асаблівую ўвагу ацэнкам апазыцыйных палітыкаў сытуацыі на Беларусі. «Рэальную*

*палітыку ў краіне ажыцьцяўляюць афіцэры КДБ, якіх наблізіў да сябе Лукашэнка», — цытуе Gazeta Wyborcza Сяргея Навумчыка.*

*«Тое, што адбываецца ў Беларусі, ёсьць фашыстоўскі рэжым. Няма свабоды прэсы, перасьледуецца апазыцыя, правы чалавека парушаюцца», — прыводзіць словы Зянона Пазьняка газэта Wieczór Wrocławia.*

*«Умовай зьмяненьня такой палітыкі зьяўляецца адстаўка Лукашэнкі з пасады прэзыдэнта», — цытуе Rzeczpospolita заяву лідэраў БНФ* (газэта «Свабода» 19 красавіка 1996 году).

Ужо ў самыя першыя дні знаходжаньня ў Польшчы мяне прыемна зьдзівіла стаўленьне палякаў да таго, што рабілася на Беларусі. Зянон Пазьняк быў тут надзвычай вядомай асобай — газэты выносілі ягонае прозьвішча ў загалоўкі артыкулаў, нават не тлумачачы, хто ён такі: «Пазьняк прыехаў...», «Пазьняк сказаў...». За дзейнасьцю лідэра БНФ грамадзтва Польшчы сочыць з 1988 году, калі ён адкрыў Курапаты.

Ва ўсіх польскіх гарадах Пазьняка пазнавалі на вуліцах, незнаёмыя людзі ўступалі ў размову, выказвалі падтрымку беларускай апазыцыі.

Добрая інфармаванасьць польскага грамадзтва пра менскія падзеі — гэта, безумоўна, заслуга польскіх журналістаў, якія ў той час былі акрэдытаваныя ў Беларусі — Уршулі Мікалайчык, Цэзарыя Галіньскага, Уладзімера Паца. Нягледзячы на перашкоды з боку ўладаў, яны працавалі прафэсійна і апэратыўна. Потым, у наступныя тыдні, я ўжо прызвычаіўся да таго, што ў асноўным інфармацыя пра падзеі ў Беларусі ў польскай прэсе самая

сьвежая і даволі поўная. Але, як той казаў, не было б прапановы, калі б адсутнічаў попыт.

Я адразу зразумеў, што цікавасьць палякаў да Беларусі тлумачылася ня толькі тэрытарыяльным суседзтвам ды блізкасьцю гісторыі двух народаў. Палякі вельмі добра ведалі, што такое дыктатура. Падчас абвешчанага ў 1980 годзе ваеннага становішча яны наладзілі масавы супраціў.

З героем таго супраціву мы і пазнаёміліся яшчэ ва Ўроцлаве. На пачатку 1980-х гадоў імя Корнэля Маравецкага было вядомае ўсёй Польшчы — камуністычныя газэты бэсьцілі яго нароўні зь Лехам Валэнсам і Яцэкам Куранем. А рабочыя ў падпольнай друкарні выпусьцілі сэрыю марак з партрэтамі найбольш славутых суайчыньнікаў — Папы Яна Паўла II, Леха Валэнсы, Адама Міхніка. Адна з марак была прысьвечаная і Маравецкаму. Маркі клеілі на канвэрты, на газэты і часопісы — і тым самым нагадвалі людзям, што трэба змагацца. Пра гэтае змаганьне пан Корнэль апавядаў нам у сваёй кватэры за вячэрай — ня памятаю, ці быў тады за сталом ягоны сын, які праз дваццаць гадоў стане прэм’ер-міністрам Польшчы.

(У дужках адзначу неймавернае супадзеньне, такія зрэдку здараюцца — у момант, калі я рэдагаваў гэтыя радкі, мой калега Дзьмітры Гурневіч паведаміў мне, што пан Корнэль памёр на 79-м годзе жыцьця).

Штодня ў нас было больш за дзесяць сустрэч, і ня толькі ў кабінэтах мэраў і дэпутатаў, рэктараў і бізнэсоўцаў, але і са звычайнымі людзьмі на прадпрыемствах. Такі шчыльны графік і сапраўды шалёны тэмп нагадваў часы перадвыбарчай кампаніі, калі ў канцы дня літаральна валісься з ног. Усе дні

знаходжаньня ва Ўроцлаве і ў Кракаве зьліліся ў адзін вялікі дзень — праўда, мы з Галяй знайшлі пару гадзінаў, каб наведаць славуты выставачны комплекс ва Ўроцлаве, а ў Кракаве — старажытны Вавэль, дзе пахаваныя польскія каралі.

У тыя дні газэта Życie Warszawy апублікавала матэрыял свайго карэспандэнта Яцэка Якімчука:

*Жыхары Ўроцлава літаральна шакаваныя паведамленьнем пана Пазьняка пра антыбеларускую кампанію, якая распачалася на ягонай радзіме. Яна праявілася ў тым, што з 1994 году катастрафічна зьмяншаецца колькасьць сярэдніх школаў зь беларускай мовай навучаньня. Сёньня такіх школаў засталося толькі 19%, у той час як паўтара года таму іх было каля 80%.*

Такую інфармацыю палякі сустракалі спачуваньнем. Я бачыў, што гэтае спачуваньне сапраўды было шчырым — і ня толькі ва Ўроцлаве, але і ў іншых польскіх гарадах.

Удзень — палітычныя сустрэчы і інтэрвію, увечары — гутаркі з новымі сябрамі, а ўначы Пазьняк сядаў за пісьмовы стол. Прафэсійны занятак палітыкай вымагае ад чалавека вялікай фізычнай вытрымкі. Яшчэ падчас прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі я быў уражаны гэтай якасьцю Пазьняка, а тут усё ж былі іншыя абставіны — іншая краіна, няродная мова.

Мне, вядома, было лягчэй, чым Пазьняку, яшчэ і таму, што побач была Галя. У Пазьняка ж жонка засталася ў Менску, тэлефанаваць штодня не атрымлівалася — ня будзеш жа штораз пытацца ў офісе нейкай партыі дазволу пазваніць у іншую краіну.

Але мы былі ўпэўненыя, што неўзабаве вернемся.

## Чачэнец без аўтамата ратуе будучыню

Ва Ўроцлаве нас пасялілі ў кватэры, дзе жыў яшчэ адзін былы дэпутат і вымушаны падарожнік, чачэнец Лёма Ўсманаў — былы дэпутат парлямэнту Ічкерыі, старшыня міжнароднай камісіі.

У 1995 годзе расейскія войскі зьнішчылі ягоную сям’ю, зруйнавалі дом. Такі лёс напаткаў тысячы чачэнцаў, якім засталося адно — брацца за аўтаматы і змагацца. Але Лёму выпала іншае — яму было даручана наладзіць выезд чачэнскіх дзяцей у краіны Эўропы і арганізаваць іх навучаньне. Вынік супрацоўленьня ў той час быў невядомы, і такім чынам чачэнцы, паводле Лёмы, імкнуліся захаваць генафонд нацыі, стварыць гарантыі яе будучыні.

Акрамя гэтага, Лёма працаваў ва Ўроцлаве над кнігай пра гісторыю змаганьня чачэнскага народу за незалежнасьць.

— Мне вельмі хочацца ўзяць у рукі аўтамат, а не асадку, — гаварыў чалавек, чыю сям’ю зьнішчылі акупанты. — Але вымушаны знаходзіцца тут, бо гэтую працу за мяне ня зробіць ніхто.

Такія словы нас уразілі, і потым Пазьняк часта іх прыгадваў, калі чытаў у беларускіх незалежных газэтах, што мусіў быць на радзіме, хай сабе і забітым.

Па начах мы гадзінамі размаўлялі зь Лёмам — ягоныя веды пра гісторыю Чачэніі былі сапраўды энцыкляпэдычнымі. Праз некалькі гадоў Усманаў выдаў кнігу «Няскораная Чачэнія» і стаў прафэсарам у Каліфорніі.

Пазьней, ужо ў Кракаве, мы наведалі чачэнскі інфармацыйны цэнтар і пазнаёміліся зь ягоным кіраўніком Алі-Рамзанам Ампукаевым. Дзейнасьць

гэтага цэнтру выклікала вялікую незадаволенасьць расейскае амбасады ў Варшаве, і польскае МЗС атрымлівала з гэтай прычыны ноту за нотай. Але палякі лічылі абавязкам падтрымаць народ, які змагаецца за сваю свабоду. Польская прэса штодня публікавала рэпартажы з Чачэніі.

Спатканьні з чачэнцамі дазволілі нам больш глыбока зразумець сутнасьць вайны, якая вялася Крамлём і падавалася як «аднаўленьне канстытуцыйнага парадку».

І таму для мяне ня стала нечаканасьцю прапанова Пазьняка падчас Чарнобыльскага шляху ўшанаваць памяць Джахара Дудаева, забітага за два дні да мітынгу ў выніку спэцапэрацыі расейскіх войскаў. Ён блізка да сэрца ўспрыняў забойства лідэра, які абараняў незалежнасьць свайго народу.

Але ў Менску людзі пераважна думалі ў катэгорыях расейскай прапаганды. І тая прапанова Пазьняка была рэзка крытычна расцэнена абсалютнай большасьцю менскіх дэмакратаў і журналістаў. Як за два гады перад гэтым — артыкул «О русском империализме и его опасности».

Прайшло шмат гадоў, але я і па сёньня чую (маю на ўвазе ня толькі апанэнтаў Пазьняка) папрокі адносна артыкулу пра імпэрыялізм і выступу пра Дудаева. Маўляў, усё так, слушна сказаў, але ж варта было ўлічваць настроі большасьці, гэтым ён адштурхнуў ад сябе шмат каго. Думаючы стратэгічна слушна, ён прайграваў у тактыцы, а значыць, і многія стратэгічныя мэты не былі дасягнутыя.

Гэта дылема, якая паўстае перад любым сумленным палітыкам, асабліва востра ў краінах, дзе грамадзтва палітычна не сасьпела. Што лепей: выказаць нязвыклую, непрымальную для большась-

ці праўду і, згубіўшы вялікую частку выбарнікаў, застацца без улады, ці трымаць тую праўду пры сабе, але ўзяць уладу і ўжо потым выказваць яе?

Жыцьцё сьведчыць, што ў чыстым выглядзе гэтага «альбо-альбо» не атрымліваецца. Ці магчымы паміж гэтымі «альбо» нейкі кампраміс?

Я ведаю, што Пазьняка часам можна пераканаць у нейкіх дробязях, ён ідзе на кампрамісы, але ў галоўным — ніколі. Імпэрскасьць Расеі Пазьняк успрымаў і ўспрымае як галоўную пагрозу, і тут для яго кампраміс немагчымы.

## Мы не галоўныя ворагі «нашага паважанага прэзыдэнта»

У Варшаве мы сустрэліся з экс-прэм'ерам Янам Альшэўскім, «бацькам польскіх рэформаў» Лешэкам Бальцэровічам, са старшынём Канфэдэрацыі незалежнай Польшчы Лешэкам Мачульскім — рэпартажы з сумесных прэсавых канфэрэнцыях паказвалі па тэлевізіі і зьмяшчалі ў газэтах.

Нашая дзейнасьць за мяжой не прайшла незаўважанай у Менску.

Ужо ў сярэдзіне красавіка Міністэрства замежных справаў Беларусі прыняла адмысловую заяву, у якой выказала незадавальненьне тым фактам, што лідэраў БНФ прымаюць на высокім узроўні ва Ўкраіне, Чэхіі і ў Польшчы. МЗС заявіла, што такое стаўленьне да апазыцыянэраў «не спрыяе ўсталяваньню добразычлівых стасункаў паміж гэтымі краінамі і Беларусьсю». Акрамя таго, у адозьве абвяргаліся заявы Пазьняка пра ягоны перасьлед — маўляў, лідэру БНФ на радзіме ніхто не пагражае.

У мяне былі даволі добрыя адносіны зь міністрам Уладзімерам Сянько. Мы з жонкай нават былі ў яго ў гасьцях, калі ён працаваў там Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом і прыехаў у Беласток на сьвяткаваньне 75-х угодкаў БНР.

У ліпені 1994 году, калі яго, на той час ужо амбасадара ў Вялікай Брытаніі, тэрмінова выклікалі ў Менск, ён запытаўся ў мяне, ці пагаджацца на пасаду міністра. І я, і Пазьняк раілі пагадзіцца — маўляў, трэба, каб не адны толькі авантурысты вызначалі замежную палітыку краіны.

Але заява МЗС была толькі эпізодам прапагандысцкай кампаніі супраць нас.

Нібыта па камандзе, падхапілася афіцыйная прэса. І ня толькі афіцыйная. У афіцыйнай акцэнт рабіўся на тым, што мы імкнёмся не дапусьціць аб’яднаньня Беларусі і Расеі (што было праўдай), пры гэтым абвяшчэньне незалежнасьці і распад СССР падаваліся у горшым выпадку як «злачынства», у лепшым — як «памылка». Адметнасьць, якая зьявілася з прыходам да ўлады Лукашэнкі — пэдаляваньне «славянства» («славянского единства», «славянской культуры» і г. д.). Як быццам у Беларусі не жывуць яўрэі, татары, літоўцы...

З артыкулу дацэнта пэдагагічнага ўнівэрсытэту імя Максіма Танка В. Талкачова «Палітыканы за работай», зьмешчанага ў «Советской Белоруссии»:

*Не всем в нашей республике понравилось искреннее стремление президента А.Г. Лукашенко исправить досадную ошибку истории* (маецца на ўвазе незалежнасьць. — С.Н.) *и, опираясь на волю народа, начать сближение двух братских славянских народов и государств... Хочется сказать: успокойтесь, господа! Народ прозрел. Он уже не так глуп и наи-*



Прэсавая канфэрэнцыя сумесна з «бацькам польскай эканамічнай рэформы» Лешэкам Бальцэровічам

*вен, как это было в конце 1980-х годов и на что вы делаете сегодня ставку. Не имея сегодня поддержки у народа Республики Беларусь и боясь народного гнева, лидеры БНФ З. Позняк и С. Наумчик укатили за границу, в якобы вынужденную эмиграцию. Там они продолжают свое гнусное дело.*

*... Они надеются, что в заграничных далях смогут повысить свой обанкротившийся имидж, прослыть борцами за свободу и права человека, надеть на голову терновый венок мучеников. Непонятно одно: кого за границей представляют эти господа, от чьего имени вещают и клевещут, на чьи деньги совершили столь длительный вояж?... Клевеща на нашу нынешнюю действительность, искажая факты и события, пользуясь подзаборными слухами и сплетнями, З. Позняк и С. Наумчик пугают западных журналистов установлением в Республике Беларусь диктаторского режима и устранением демократических свобод.*

З заявы намесьніка кіраўніка прэзыдэнцкай адміністрацыі Ўладзімера Замяталіна, распаўсюджанай па каналах БелТА:

*Позняк и Наумчик не преследуются правоохранительными органами или спецслужбами Беларуси. Вероятно, их маниакально преследует их собственное желание прийти к власти и управлять страной, в которой 80 процентов граждан на референдуме в мае 1995 году поддержали своего президента, призвали к интеграции с Россией, высказались за новую символику, за предоставление русскому языку одинакового статуса с белорусским. Во-вторых, Позняк вынужден искать политическую нишу за рубежом, потому что его Белорусский Народный Фронт не получил ни одного места на парламентских выборах. Таким образом, белорусские избиратели превратили позняковский фронт в антинародный. В-третьих, история знает, что революции обычно готовят господа, которые называют себя „в изгнании", политические иммигранты или наёмные специалисты. Пока г-н Позняк со слезами просит защиты на Западе — однако неизвестно, от кого — его партийные подчиненные готовят очередной политический шабаш 26 апреля, в день годовщины чернобыльской катастрофы. Принцип политической жизни для них крайне циничен — чем хуже, тем лучше.*

Незалежны друк дэманстраваў свой узровень іроніі.

З публікацыяў Аляксандра Фядуты ў «Белорусской деловой газете»: «Яны аднолькавыя — Лукашэнка і Пазьняк. Адзін упарта рэанімуе СССР, другі — Вялікае Княства Літоўскае». «На мітынгу 2 красавіка правадыра не было — ён паехаў раска-

зваць пра сытуацыю ў Беларусі Эўропе». «Байцы за нашу і вашу свабоду вымушаныя былі эміграваць і яшчэ Бог ведае калі вернуцца назад. Што зробіш: выдаткі прафэсіі — рабіць рэвалюцыі, седзячы ў сытай дэмакратычнай Эўропе».

Некаторыя былыя калегі па Авальнай залі былі больш стрыманыя…

З інтэрвію Анатоля Лябедзькі газэце «Свободные новости плюс»:

*Калі Пазьняк і Навумчык баяцца за сваё жыцьцё, яны маюць права рабіць любыя заявы, але атрыманы рэзананс проста не адпавядае рэальнай расстаноўцы сіл на палітычным подыюме.*

…А некаторыя менш.

З інтэрвію «Свободным новостям плюс» намесьніка старшыні парлямэнцкай камісіі ў пытаньнях правоў чалавека Уладзімера Нісьцюка:

*Я целиком согласен с нашим уважаемым президентом, что к административной ответственности Пазьняка, Наумчика и других активистов БНФ за нарушение законодательства привлекут обязательно — акции, устроенные ими вне митинга, иного решения не предполагают. Но за свою жизнь и безопасность разъезжающие по Европе Пазьняк и Наумчик могут не беспокоиться по одной простой причине — они не главные противники президента. У Александра Григорьевича достаточно врагов более значимых, и которые находятся при реальной власти. Заграничные заявления руководителей Фронта — это политический фарс, ибо политиками республиканского масштаба они уже давно не являются.*

Увогуле, беларускую прэсу мы чыталі ў Польшчы рэгулярна — нам прывозілі газэты зь Менску.

Інтэрнэт у 1996 годзе ў Беларусі быў у пачатковым стане — толькі адзінкі карысталіся кампутарнай поштай. Кампутара ў нас у Польшчы не было, і толькі ўвосень, ужо ў Нью-Ёрку, атрымалі доступ да электроннай пошты (зрабіў нам яе Алекс Сільвановіч, дзяяч беларускай дыяспары), але, як памятаецца, ніякіх беларускіх выданьняў у сеціве яшчэ не было, за выключэньнем асобных тэкстаў газэты «Свабода» і «БДГ», якія нехта разьмяшчаў. Найбольш цікавыя публікацыі нам дасылаў у Нью-Ёрк зь Віцебску мой бацька.

Яшчэ ў Варшаве Пазьняк зьвярнуў увагу на дзьве тэндэнцыі, якія ў тыя дні былі характэрныя для незалежнай прэсы (выключэньнем была герменчукоўская «Свабода»).

Першая — імкненьне зьвесьці рэйтынг Народнага Фронту да нулявой адзнакі, выставіць яго ў ролі арганізацыі, уплыў якой з кожным днём зьмяншаецца (хаця менавіта актывісты Фронту стварылі вясну-96). І другая — спроба атаясамліваць Пазьняка з Лукашэнкам як аднолькавых у сваёй мэнтальнасьці і мэтадах дзеячоў, толькі з розным палітычным вэктарам. Калі аўтары гэтай публіцыстыкі мелі на мэце палітычна зьнішчыць Фронт і ягонага лідэра, яны пацярпелі паразу. Калі ім яшчэ і хацелася папсаваць нам нэрвы ды падараваць некалькі бяссонных начэй — гэта ім удалося. Пазьней я ўжо навучыўся (хоць і не адразу) спакойна і нават з гумарам рэагаваць на падобнае, а тады было вельмі крыўдна. Магчыма, у аўтараў публікацыяў на гэта і быў разьлік.

«Але мусім, Сяргей, сьціснуць зубы і працаваць далей», — казаў Пазьняк.




12 красавіка 1996 году газэта «Имя» магла згадаць галадоўку дэпутатаў БНФ супраць ініцыяванага Лукашэнкам рэфэрэндуму, але прыгадала, што гэта Дзень касманаўтыкі. Нам жа з Пазьняком было не да гумару.

У Варшаве мы жылі ў гатэлі «Форум», у самым цэнтры гораду. Аднойчы, калі вярталіся зь нейкай сустрэчы, дзяжурная на рэцэпцыі, аддаючы Пазьняку ключы ад нумару, сказала, што пан прэзыдэнт чакае нас у сябе ў Гданьску 24 красавіка.

Мы адразу зразумелі, што гаворка ішла не пра дзейнага прэзыдэнта — у Польшчы, ды й ня

толькі там, былых прэзыдэнтаў часам называюць без дадатку «экс». Зразумелі яшчэ і таму, што ні пра якую сустрэчу з тагачасным прэзыдэнтам Польшчы Аляксандрам Квасьнеўскім гаворкі не ішло — ні ён, ні хто-небудзь зь ягонага ўраду ці апарату не выказваў жаданьня сустрэцца зь лідэрам БНФ. Квасьнеўскі ў тыя дні сустракаўся ў Белавескай пушчы з Лукашэнкам, спадзеючыся наладзіць зь ім партнэрскія адносіны і павярнуць яго да дэмакратыі.

24 красавіка — у дзень народзінаў Пазьняка — мы цягнікам паехалі ў Гданьск на спатканьне зь Лехам Валэнсам. Агульная праграма ў Гданьску была, як і паўсюль — прыём у мэрыі, прэсавая канфэрэнцыя, выступы ў прамым эфіры па радыё.

Першы прэзыдэнт свабоднай Польшчы, ляўрэат Нобэлеўскай прэміі міру прыняў нас у сваім працоўным кабінэце, які месьціўся ў офісе краёвай «Салідарнасьці».

У зусім не вялікім пакоі, акрамя нас, было каля дзясятка журналістаў — польская прэса надавала гэтай сустрэчы вялікае значэньне. Больш чым гадзіннае спатканьне адбывалася пры сьвятле тэлевізійных юпітэраў і фотабліскавіцах, ад гэтага было даволі горача і я прапацеў за некалькі хвілінаў. Беларускую прэсу традыцыйна, як і на ўсіх нашых польскіх сустрэчах, прадстаўляла мая жонка — праўда, ніводная беларуская газэта, акрамя «Свабоды», інфармацыю пра тое спатканьне, наколькі мне вядома, так і не апублікавала. У самым поўным варыянце рэпартаж прагучаў на хвалях Радыё Свабода.

Валэнса быў добра паведамлены аб нашай сытуацыі, і гаворка пачалася з пэрспэктываў беларуска-польскіх дачыненьняў. Пазьняк закрануў тэму





Сустрэча зь Лехам Валэнсам

рэстаўрацыі таталітарызму ў Беларусі і пагрозы ў сувязі з гэтым краінам Усходняй Эўропы. Валэнса выказаў стандартную для ўсходнеэўрапейскіх палітыкаў думку, што гарантыяй ад небясьпекі з Усходу можа быць уступленьне ў NATO. Экс-прэзыдэнт параіў беларускім дэмакратам не асабліва спадзявацца на дапамогу з Захаду — сытуацыя ўжо ня тая, як у 80-я гады, — але выказаў жаданьне па-

спрыяць у нейкіх канкрэтных справах. Напрыклад, у стварэньні беларускага інфармацыйнага цэнтру. І ўсё ж, зазначыў лідэр «Салідарнасьці», палітычны вынік магчымы толькі тады, калі людзі самі прагнуць зьмены свайго жыцьця. Акрамя гэтага, Валэнса разважаў пра пэрспэктыву стварэньня «Злучаных Штатаў Эўропы».

Прызнаюся, я ня надта ўспрымаў словы Валэнсы пра сучасныя палітычныя рэаліі і ягоныя праэкты, але глядзеў на яго на ўсе вочы як на легендарнага чалавека, які ў свой час сканцэнтраваў у сабе намаганьні мільёнаў у барацьбе за свабоду — і перамог.

Пазьняк жа разьлічваў на прагматычны вынік сустрэчы:

*Размова перад тэлекамэрамі была даволі агульнай і мяне не задавальняла. Напярэдадні я вырашыў, нягледзячы на небясьпеку, паехаць у Менск на Чарнобыльскі шлях — маніфэстацыю, якую наладжваў Беларускі Народны Фронт у сувязі з 10-й гадавінай чарнобыльскай трагедыі. Мне патрэбна была пэўная зарука з боку Леха Валэнсы ў выпадку дрэннага павароту падзеяў (якія, на маю думку, былі непазьбежнымі). Калі тэлекамэры прынялі, Валэнса сказаў, што ён на маім месцы таксама паехаў бы на 10-годзьдзе Чарнобылю, і паабяцаў мне сваю падтрымку на выпадак рэпрэсіяў супраць мяне.*

І нават болей, чым проста падтрымку — Валэнса сказаў, што калі раптам Пазьняка пасадзяць, ён будзе перадаваць лідэру БНФ у турму сала.

Праверыць гэтае абяцаньне не давялося.

## Спрачаюся з Пазьняком

Меркаваньне Валэнсы падштурхнула прыняць рашэньне, да якога мы ўжо схіляліся самі — збольшага, як нам тады здавалася, наша замежная місія выкананая, трэба вяртацца.

Гэтак думалі ня толькі мы.

Артыкул у «Белорусской газете» так і называўся —

*Эўрапейскае турнэ Пазьняка зацягнулася*

*Пайшоў чацьвёрты тыдзень знаходжаньня за межамі Беларусі лідэраў Беларускага Народнага Фронту Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка. «Эміграцыя», якая зацягнулася, прымушае задумацца: ці выйграе БНФ ад такой тактыкі? І «эмігранты», і прадстаўнікі кіраўніцтва Фронту, якія засталіся ў краіне, лічаць прычыны, якія прымусілі Пазьняка і Навумчыка пакінуць Беларусь, важкімі: «У атмасфэры сачэньня,ператрусаў, судовага перасьледу, у якой знаходзілася практычна ўся арганізацыя, рашэньне Пазьняка было слушным», лічыць намесьнік старшыні Фронту В. Вячорка. На яго думку, паездка па краінах Усходняй Эўропы неабходная і для «прарыву інфармацыйнай блякады і давядзеньня да міжнароднай супольнасьці таго, што здача Беларусі Расеі будзе азначаць толькі пачатак аднаўленьня імпэрыі»... Пазьняк і Навумчык перад выездам з Чэхіі выступілі з заявай, патлумачыўшы свой ад'езд нежаданьнем «хавацца на падпольных кватэрах..., сядзець з закрытым ротам, ня маючы магчымасьці займацца палітычнай дзейнасьцю».*

*Падобныя аргумэнты можна было б прыводзіць у першыя дні пасьля падзеяў 24 сакавіка, калі да лідэраў БНФ тэарэтычна маглі быць прыменены*

*рэпрэсіўныя дзеяньні. Аднак сёньня відавочна, што намесьнікі Пазьняка, якія разам зь ім бралі ўдзел у мітынгу, выклікаліся ў пракуратуру, за імі наладзілі сачэньне, але яны не ў вязьніцы і могуць «займацца палітычнай дзейнасьцю». Відаць, зь нейкіх прычынаў улады пакуль ня маюць намеру арганізоўваць крымінальны перасьлед кіраўнікоў БНФ. У гэтай сытуацыі знаходжаньне Пазьняка ў Менску ўяўляецца значна больш выйгрышным.*

*Больш за тое, магчымы арышт лідэра Фронту пасьля 24 сакавіка сыграў бы яму толькі на руку... Зянон Пазьняк, які адседзеў 15 сутак альбо хаця б толькі аштрафаваны, больш адпавядае іміджу «барацьбіта з рэжымам», чым апазыцыянэр, які хаваецца невядома ад чаго.*

*У апошні час кіраўніцтва БНФ, падобна, расчаравалася ў магчымасьці атрыманьня рэальнай падтрымкі з-за мяжы. Вядома, масавыя акцыі пратэсту прымусілі эўрапейскія ўрады неяк адкарэктаваць свае думкі пра настроі беларускага грамадзтва. Аднак наўрад ці варта разьлічваць на адкрытую падтрымку пазыцыі беларускіх дэмакратаў афіцыйнай Прагай ці Варшавай, на якім бы ўзроўні Пазьняк ні прымаўся...*

*Ці вернуцца Пазьняк і Навумчык у Беларусь да 26 красавіка, калі пройдзе Чарнобыльскі шлях? Падобна, гэтага ня ведаюць ні ў менскай штаб-кватэры БНФ, ні самі «эмігранты». Па словах В. Вячоркі, вяртаньня лідэра варта чакаць пасьля таго, як «будзе выкананая ўся праграма» ягонага знаходжаньня ў Эўропе. У той жа час спадар Вячорка прызнаецца, што ня ведае, калі гэта адбудзецца».*
(«Белорусская газета», 20 красавіка 1996).

Гэтая публікацыя на нашае рашэньне не паўплывала — артыкул Віктара Дзятліковіча я ўбачыў толькі праз два гады. Зьмяшчаю яго таму, што тут ляканічна сфармуляваныя думкі, якія ў тыя дні выказваліся.

Ды й нам таксама здавалася, што асноўная мэта дасягнутая, міжнародная супольнасьць пра сытуацыю ў Беларусі праінфармаваная (ва ўсялякім разе, уласныя магчымасьці мы скарысталі для гэтага максымальна), агрэсіўнасьць рэжыму супраць апазыцыі нібыта зьмяншаецца.

Нарэшце, адчувалася фізычная і псыхалягічная стомленасьць ад безьлічы сустрэч, выступаў, інтэрвію ў нязвыклым замежным асяродку.

Хацелася дамоў.

У тым, што мы мусім быць на Чарнобыльскім шляху, што калёну мусіць узначаліць Пазьняк, мне бачыўся ня толькі маральны, але і палітычны, і гістарычны сэнс — бо менавіта Народны Фронт прымусіў адкрыць праўду пра Чарнобыль. «Гадзіна смутку» ў красавіку 89-га, першы шматтысячны Чарнобыльскі шлях і «Народны трыбунал» у лістападзе, ініцыяваная дэпутатамі БНФ на першай сэсіі Вярхоўнага Савету ў 1990-м адмысловая парлямэнцкая камісія, дабрачынныя фонды — усё гэта прымусіла і грамадзтва, і кіраўніцтва Беларусі нарэшце ўбачыць маштаб і глыбіню праблемы.

Пасьля вяртаньня з Гданьску мы пачалі рыхтавацца ў дарогу — на гэты раз у Менск.

Але перад самым ад’ездам, увечары 25 красавіка, Пазьняк катэгарычна запатрабаваў ад мяне застацца ў Польшчы:

*Мы вярнуліся ў Варшаву, дзе мне прыйшлося вытрымаць цэлую баталію з Навумчыкам, выслу-*

*хаць крыўды і абвінавачаньні ў мой бок. Я катэгарычна забараніў яму ехаць са мной у Менск, з чым ён не жадаў пагадзіцца. Але было б верхам неразумнасьці апынуцца ў Менску ўдвух у адной камэры. Адзін павінен застацца за мяжой, каб у выпадку неабходнасьці абараняць другога, інфармаваць вольны сьвет аб рэальнай сытуацыі на Беларусі (потым Сяргей сам пераканаўся, наколькі правільным было такое рашэньне).*

Пазьняк сказаў, што разумее маё жаданьне вярнуцца ў Менск, але інтарэсы справы мусяць быць вышэйшыя за ўласныя жаданьні. Мая жонка стала на мой бок — калі вяртацца, дык усім разам. Нашая спрэчка пераходзіла на павышаную танальнасьць і скончылася тым, што Зянон Станіслававіч заявіў нешта накшталт таго, што калі я ня выканаю яго патрабаваньне, то перастану існаваць для яго як палітык.

Я быў вымушаны застацца — зь вялікай крыўдай на Пазьняка.

Безумоўна, ехаць у Беларусь адзін Пазьняк ня мог, хтосьці мусіў заўсёды быць побач зь ім. Вырашылі, што паедзе Галя. Лепш бы, вядома, паехаў які мужчына, але нікога з Фронту ў той момант у Варшаве не было. Зьвярнуцца да польскіх палітыкаў з прапановай суправаджаць Пазьняка нам у галаву не прыйшло, ды і наўрад ці гэта ўдалося б арганізаваць за адзін дзень. І што ўжо зусім дакладна — не атрымалася б захаваць ад’езд у таямніцы: польскія палітыкі папярэдзілі б пра такую місію журналістаў. Пазьней я пераканаюся, што абяцаньні абсалютнай большасьці польскіх палітыкаў рабіліся з разьлікам на эфэкт, да справы даходзіла рэдка. На шчасьце, былі і іншыя прыклады.

Увечары праводзіў Галю і Пазьняка на цягнік.

## АМАП штурмуе штаб-кватэру БНФ

З вакзалу я пехатой дайшоў да гатэлю «Форум», дзе мы жылі апошнія дні, правёў ноч у трывозе — як яны там, ці ўдалося перасячы мяжу? Удзень перасяліўся ў офіс грамадзкай арганізацыі Karta — мне паставілі раскладушку ў адным з пакояў. Менш камфортна, чым у гатэлі, затое...

Чытач, пэўна, чакае працягу «... затое ёсьць інтэрнэт», але не, інтэрнэту тады не было. Быў тэлевізар. Быў тэлефон, праз які я мог (зразумела, не злоўжываючы) пазваніць у Менск. І, вядома, быў радыёпрыемнік, які я купіў у Празе: беларуская Свабода лавілася цудоўна.

Увечары 26 красавіка я даведаўся шмат пра 50-тысячную дэманстрацыю — але ня болей, чым іншыя слухачы Свабоды. Ні з Пазьняком, ні з Галяй пагутарыць не ўдалося. Падзеі гэтага дня склаліся ў адно ўжо пазьней, калі паведамленьні журналістаў былі дапоўненыя расповедам Пазьняка і Галі.

Патаемна прыехаць у Менск Пазьняку не ўдалося. У Берасьці вагон, у якім ён ехаў, адчапілі, і давялося перацягваць рэчы ў іншы вагон. На берасьцейскім пэроне Пазьняка пазналі і пачалі працягваць нататнікі, квіткі для аўтографаў, гучна выказвалі словы падтрымкі — словам, шмат людзей, у тым ліку і міліцыянтаў, яго ўбачылі.

Зянон Пазьняк:

*Зь Берасьця ў Менск мы выехалі з Галінай Навумчык вечарам 25-га. У дарозе і на вакзале ў Менску з службоўцамі рэжыму адбываліся дзіўныя справы, пра якія я і цяпер не хачу адкрыта гаварыць. Але ў выніку гэтых «справаў» мяне не змаглі ўзяць на менскім вакзале, удалося нават адарвацца ад «хва-*

*стоў» у горадзе, і ніхто ня ведаў, куды я канкрэтна паехаў, дзе спыніўся.*

У Менску на вакзале ўзялі таксі і Галя адвезла Пазьняка ў кватэру на Юбілейнай плошчы, якую мы здымалі пад офіс інфармагенцтва «Павет», а сама паехала ў штаб-кватэру БНФ, каб паведаміць аб прыезьдзе Пазьняка і папрасіць арганізаваць ахову. Аднак у Фронце аб прыезьдзе лідэра ўжо было вядома — высьветлілася, што таксіста, які падвозіў ад вакзалу на Юбілейную плошчу, распыталі супрацоўнікі КДБ, а калі адпусьцілі, таксіст паехаў на Варвашэні, 8 і расказаў пра гутарку (відаць, ня надта напужалі).

Чарнобыльскі шлях, які мусіў адзначыць 10-годзьдзе катастрофы на АЭС, нашыя паплечнікі-франтаўцы рыхтавалі бяз нас, абмяркоўваць іх праз адкрытую тэлефонную сувязь не выпадала (а іншага спосабу камунікацыі не было), таму пра нейкія дэталі падрыхтоўкі я ня ведаю. Ведаю толькі вынік.

Падзеі 26 красавіка 1996 году ўвайшлі ў гісторыю як прыклад ня проста жорсткага, але бязьлітаснага разгону масавай акцыі сілавымі падразьдзяленьнямі. Тады такая нялюдзкасьць здавалася бессэнсоўнай, але вельмі хутка ўсе зразумелі, што сэнс якраз і быў у тым, каб людзей як мага глыбей запужаць.

На Чарнобыльскі шлях выйшла каля 50 тысяч чалавек.

Міліцыя перакрыла праспэкт Скарыны і справакавала канфлікт — праўда, потым гучалі вэрсіі, што тое было адказам на дзеяньні прыбылых з Украіны актывістаў УНА-УНСО, якія перакульвалі




Чарнобыльскі шлях на праспэкце Незалежнасьці

міліцэйскія машыны. Але чаму аўтамабілі гэтыя стаялі пасярод праспэкту, акурат на шляху калёны?

У дэманстрантаў былі толькі бел-чырвона-белыя сьцягі ды транспаранты, а ў амапаўцаў — дубінкі і сьлезацечны газ. Сотні людзей людзей былі пабітыя ў кроў.

На мітынгу каля Палацу спорту выступіў Пазьняк і прапанаваў ушанаваць хвілінаў маўчаньня лідэра Чачэніі Джахара Дудаева, які напярэдадні быў забіты расейскімі спэцслужбамі.

На мітынгу і адразу пасьля яго міліцыя хапала людзей, але вакол Пазьняка была ахова зь некалькіх дзясяткаў дужых хлопцаў, таму ўзяць яго прылюдна не асьмеліліся.






Чарнобыльскі шлях на праспэкце Незалежнасьці

Я даведаўся пра абставіны Чарнобыльскага шляху, калі паляваньне на ўдзельнікаў шэсьця яшчэ ня скончылася — моладзь хапалі на вуліцах, у сквэрах, кідалі ў машыны і жорстка білі.

Недзе каля паловы дзясятай гадзіны вечара, калі Пазьняк ў сваім кабінэце скончыў нараду з кіраўніцтвам Фронту, да штаб-кватэры БНФ пад’ехала





Зянон Пазьняк сярод удзельнікаў шэсьця

Гэты здымак абышоў вядучыя газэты сьвету. Чалавек з акрываўленым бел-чырвона-белым сьцягам — актывіст БНФ і Таварыства беларускай мовы, армянін Рыгор Фарманьян

некалькі аўтамабіляў. Вось як пра абставіны таго вечара апавядае сам Пазьняк:

*Ужо ў час выступу ля Палацу спорту стала вядома, што КДБ прыняло рашэньне ўзяць мяне адразу пасьля мітынгу. Я паехаў мікрааўтобусам у сядзібу Фронту. Са мной былі Юры Хадыка і сем чалавек аховы. Ззаду прыстроіліся аўтобусы з АМАПам. Каля скрыжаваньня АМАП памкнуўся ісьці на абгон, каб заблякаваць наш «РАФік». Але пад колы іхняга аўтобуса нечакана выбег сабачка, і шофэр інстынктыўна затармазіў. Мы праехалі на жоўтае сьвятло, а перасьледчыкі спыніліся перад чырвоным. У сядзібе было вырашана шмат справаў. Увесь час, пакуль мы праводзілі свае нарады, размовы ды перамовы, на вуліцы пад вокнамі сталі два аўтобусы з АМАПам. Дзесьці паміж 22-й і 23-й гадзінамі пачаўся штурм. У кабінэт ускочыў дзяжурны франтавец і сказаў, што ў пярэдні пакой ужо ўварваліся. Для таго, каб выйсьці незаўважаным, заставалася літаральна адна-паўтары сэкунды. Мы скарысталі гэтыя сэкунды і вышлі праз запасны выхад у цёмны закрыты двор, адкуль было толькі адно выйсьце — на вуліцу да аўтобусаў АМАПу. Але мы знайшлі іншы выхад з тупіку. Тут вельмі растаропна спрацавалі мае сябры. Акрамя Галіны Навумчык, не магу пакуль называць іхнія прозьвішчы і апісваць дэталі.*

Галіна Навумчык: *Мы апынуліся ў цёмным двары, выхад зь якога вёў якраз туды, дзе стаялі аўтобусы. Амапаўцы з хвіліны на хвіліну маглі ўварвацца ў штаб-кватэру, а потым тым самым шляхам, што і мы, у двор. Двор быў абгароджаны бэтонным плотам, але ў адным месцы быў пралом. Вырашылі пералезьці. Калі ўжо пералезьлі, пачулі*

*крыкі — гэта пачалі штурмаваць сядзібу БНФ. Усё адбывалася вельмі хутка. Трэба было хавацца і спадзявацца, што пашанцуе. Адзін з пад'ездаў аказаўся адчыненым, туды і забеглі. Вырашылі, што я выйду, знайду машыну, пад'еду і забяру Хадыку і Пазьняка. Я выйшла праз двары даволі далёка і ўбачыла запасны аўтамабіль Пазьняка і Анатоля — яго кіроўцу, пра якога ведалі некалькі чалавек. Ён чакаў Пазьняка, не ад'яжджаючы ад дамоўленага месца; у машыне была яшчэ адна асоба. Нам пашанцавала. Пад'ехалі, я зьбегала ў пад'езд, і Анатоль вывез Пазьняка на сакрэтную кватэру. Хадыка паехаў дадому.*

Зянон Пазьняк: *Празь нейкі час мы былі ўжо на ўскрайку Менску, і я кажу Юрасю Хадыку: «Цябе заўтра, верагодна, забяруць. Раю паасьцярожнічаць і пару дзён перачакаць, пакуль у іх гарачка пройдзе і нешта праясьніцца». «Ня думаю, што яны на такое пойдуць», — сказаў упэўнена Хадыка і паехаў дахаты. Нараніцу яго забралі.*

Вось як апісвае падзеі 26 красавіка 1996 адзін з тагачасных лідэраў БНФ, праваабаронца Алесь Бяляцкі:

*Людзей жорстка білі, хапалі ў мэтро, на прыпынках, на вуліцах. Часта асноўнай прыкметаю, за якую забіралі, была беларуская мова.*

*... Маладыя хлопцы, якія былі ў вітальні ўправы і ўбачылі пад'езд аўтобусаў, адразу паведамілі пра гэта. Заставалася адно выйсьце — запасны выхад, які выводзіў у двор дома, праз які выйшлі Пазьняк і Хадыка і яшчэ некалькі чалавек.* (Насамрэч, толькі Галіна Навумчык – С.Н.) *Але, як аказалася, дворык быў закрытым і адзіны выхад зь яго быў якраз ля пад'ехаўшых аўтобусаў.*

*... А ў гэтую хвіліну да ўправы ўжо ў поўнай цемры падышоў спадар Баршчэўскі. Доблесная група захопу, прыкінуўшы, што па росьце і валасяным покрыве на галаве ён падобны на Зянона Пазьняка, кінулася з аўтобусаў і схапіла яго, вынікам чаго і былі трое сутак, праведзеныя спадаром Баршчэўскім за кратамі.*

*Ва ўправу камандас не палезьлі, задаволеныя схопленым «Пазьняком». Калі ж урэшце ў пастарунку разабраліся, што гэта Баршчэўскі, а не Пазьняк, управу штурманулі другі раз, выцягнуўшы адтуль дэпутата Знаўца, але гэта ўсё ж быў не Пазьняк.*

*Тым, хто яшчэ сумняваецца, ці схапілі б Зянона Станіслававіча, нагадваю, што назаўтра ўжо трое зь пяці намесьнікаў Пазьняка па Фронце сядзелі ў турме»* («ЛіМ», 27 сьнежня 1996).

Ужо праз некалькі гадоў такую нататку «Літаратура і мастацтва» (газэта Саюзу пісьменьнікаў і Міністэрства культуры) надрукаваць бы ня здолела — ва ўсіх рэдакцыях дзяржаўных выданьняў адбудзецца татальная чыстка.

У дні, калі грамадзтва абуралася надзвычайнай жорсткасьцю міліцыі і АМАПу, быў адзін чалавек, які зьбіцьцё ў кроў ацаніў як «лібэральнічаньне».

## Лукашэнка лае сілавікоў

Пра ацэнку Лукашэнкам дзеяньняў сілавікоў 26 красавіка газэта «Свабода» пісала:

*Лукашэнка выклікаў да сябе «на ковёр» усё вышэйшае кіраўніцтва сілавых структураў.*

*Разгляд падзеяў 26 красавіка выліўся ў вельмі жорсткую крытыку перш за ўсё дзеяньняў міліцыі і ўнутраных войскаў. Лукашэнка абураўся тым,*

*што «здаравенныя бугаі» ня здолелі намыліць шыю «кричащим юнцам», і заявіў, што калі сілавыя структуры будуць далей «лібэральнічаць», то выступленьні апазыцыі ня скончацца ніколі.*

*Шэфу КДБ Уладзімеру Мацкевічу і намесьніку міністра ўнутраных справаў Леаніду Ерыну дасталося за тое, што іхнія падначаленыя не змаглі затрымаць Зянона Пазьняка. Маўляў, Пазьняк яшчэ раніцай сышоў з варшаўскага цягніка ў Менску, а КДБ пра гэта нічога ня ведаў* (ведаў, бо апыталі таксіста. – С.Н.). *А той факт, што Пазьняку ўдалося зьнікнуць праз «чорны» выхад са штаб-кватэры БНФ падчас начной аблавы, прэзыдэнт назваў «непростительным».*

*Але больш за ўсіх перапала генэральнаму пракурору Васілю Капітану, якога прэзыдэнт назваў «бэнээфаўскім стаўленікам» за тое, што падначаленая яму пракуратура не праяўляе актыўнасьці па ўзбуджэньні справаў супраць «основных зачинщиков». Сярод «зачинщиков», акрамя кіраўніцтва БНФ, былі названы дэпутаты Генадзь Карпенка, Станіслаў Шушкевіч, Аляксандар Дабравольскі і Павал Знавец. Загадана ўзбудзіць супраць іх справы і дамагацца ад парлямэнту, каб той даў дазвол на прыцягненьне іх да адказнасьці. Пазбаўленьне правоў чакае і БНФ. Па дадзеных з тых жа крыніцаў, міністар юстыцыі Сукала атрымаў на нарадзе загад рыхтаваць дакумэнты аб забароне Народнага Фронту.* («Свабода», 3 траўня 1996).

Выглядае, Лукашэнка быў настолькі разьюшаны тым, што Пазьняк высьлізнуў зь ягоных рук, што страціў здольнасьць хоць на крок пралічваць наступствы сваіх загадаў. Забарона ненавіснага яму БНФ і суды над дэпутатамі вельмі ўскладнілі

б міжнароднае становішча рэжыму (пра візыт у Францыю, які рыхтаваўся ў той час, можна было б забыць). А судовы працэс над Станіславам Шушкевічам, адным з падпісантаў Белавескіх пагадненьняў, імгненна прыцягнуў бы ўвагу ўсіх вядучых сусьветных СМІ і суправаджаўся б грандыёзным скандалам.

На шчасьце для БНФ, дэпутатаў і самога Лукашэнкі, нічога з пагрозаў выканана не было. Але на Сіўчыку і Хадыку адыграліся ў поўнай меры.

Пазьняк быў адвезены на кватэру да знаёмых.

Зянон Пазьняк:

*Я знаходзіўся ў Менску да 8-га траўня, напісаў некалькі артыкулаў і даслаў у рэдакцыі («Дурань шукае ворагаў, разумны — сяброў», «Беларускі шлях» і інш.) У так званым «незалежным» друку пачалося шалёнае цкаваньне маёй асобы ў сувязі з барацьбой чачэнцаў за незалежнасьць і абвяшчэньнем на мітынгу хвіліны маўчаньня па Джахару Дудаеву, якога расейцы подла забілі 21 красавіка.*

Я і цяпер не магу расказаць усе падрабязнасьці і назваць імёны тых, хто яго перахоўваў і хто яму дапамагаў — але, зноў жа, акалічнасьці я даведаўся пазьней. А ў тыя дні быў у поўнай невядомасьці, патрабаваў ад Галі хаця б намёкам сказаць, што з Пазьняком і дзе ён. У нейкі момант на Радыё Свабода прагучала інтэрвію з Пазьняком, запісанае зь Вільні. Значыць, Пазьняк у Вільні? Але ўсе мае спробы даведацца — і ў Галі, і ў іншых, дзе ён, плёну не далі. Потым высьветліцца, што «Вільня» была для таго, каб увесьці ў зман лукашэнкаўскія спэцслужбы — папраўдзе, Пазьняк усё яшчэ быў у Беларусі.

Пра падзеі ў Менску 26 красавіка польская тэлевізія ў той жа вечар дала рэпартаж. Мне пазванілі з кіраўніцтва «Салідарнасьці» і запрасілі выступіць. Спатканьне адбылося раніцай наступнага дня ў актавай зале Варшаўскага політэхнічнага ўнівэрсытэту.

Заля была поўная, прыйшлі і польскія сэнатары. Там я пазнаёміўся і з Мар'янам Кшаклеўскім — тагачасным кіраўнікам «Салідарнасьці», які заняў гэтае месца пасьля Леха Валэнсы. Тады мне ўпершыню давялося выступаць безь перакладчыка па-польску — ці, больш дакладна, спрабаваць гаварыць па-польску.

Разумею, што ў іншай сытуацыі гэтая спроба выклікалі б сьмех, але тады ні на адным твары не было і ценю ўсьмешкі. Аповед пра жорсткія, рэпрэсіўныя меры ў дачыненьні да ўдзельнікаў Чарнобыльскага шляху, і асабліва пра напад на штаб-кватэру БНФ, арышт парлямэнтара Знаўца, аўдыторыю ўразіў.

Кшаклеўскі заявіў, што ўсё, што я расказаў, не ўкладаецца ў сьвядомасьць, і прасьцей было б проста не паверыць, што такое можа быць у эўрапейскай краіне ў канцы XX стагодзьдзя.

Спэцыфіку беларускай рэчаіснасьці яму, аднак, вельмі хутка давялося адчуць самому. Кшаклеўскі сказаў, што ў гэты момант канчаткова прыняў рашэньне наведаць Беларусь у самыя бліжэйшыя дні, пабачыць сытуацыю на ўласныя вочы і выказаць салідарнасьць з калегамі зь незалежных прафсаюзаў.

І ён выканаў сваё абяцаньне, але не пасьпеў выканаць праграму візыту — беларускія спэцслужбы дэпартавалі яго ў Польшчу, што зрабілася потым для польскай прэсы сэнсацыяй нумар адзін.

## Адказваю на папрокі незалежных журналістаў

Не магу не згадаць тут адну акалічнасьць, якая мяне тады і зьдзіўляла, і бянтэжыла, і ўспрымалася даволі балюча. Гэта публікацыі ў незалежным друку.

Аднойчы Васіль Быкаў, камэнтуючы мой адказ на адну, як мне здалося, надта несправядлівую публікацыю, параіў ніколі не апраўдвацца. Спаслаўся на ўласны досьвед, сказаў, што не было выпадку, каб не пашкадаваў пасьля апраўданьняў, бо ўсё роўна нічога не дакажаш тым, а нэрвы сабе папсуеш. Гэта, напэўна, слушна, асабліва што датычыць нэрваў, але часам адказваеш ці пішаш не таму, што хочаш апраўдацца, а каб аднавіць праўду, бо проста ня можаш маўчаць. Цяпер быў менавіта гэты выпадак.

У нейкі момант я за пару гадзінаў, на адным подыху, напісаў тэкст, які празь некалькі дзён Ігар Гермянчук апублікаваў у газэце «Свабода». У загаловак вынес пытаньне, якое гучала найбольш часта:

*Чаму Пазьняк не ў турме?*

*Увага, праяўленая аглядальнікамі некаторых выданьняў («Белоруская деловая газета», «Свободные новости плюс», «Имя» ) да тэмы «эміграцыі» Зянона Пазьняка і аўтара гэтых радкоў сталася для мяне, прызнаюся, непрадбачанай. Асабліва кранае цікавасьць да Пазьняка газэты «Имя»; да гэтага яна ўпарта ігнаравала лідэра БНФ, значна больш увагі надаючы немаўляці-сыну Багданкевіча ці расфарбоўцы гальштукаў Карпенкі і Ганчара. Што ні кажыце, а доўгая адсутнасьць на Радзіме бывае карыснай хоць бы з тае прычыны, што некаторыя калегі, якія падаваліся сябрамі, раптам*

*апынаюцца ў іншай якасьці. Зрэшты, ці ў такой ужо і нечаканай?*

*Спачатку — цытаты. У Фядуты: «„Нет арестов? А ведь могли бы быть, если бы мы не уехали!» Спрашивается, как весь этот бред опровергнуть?»; «На митинге 2 апреля вождя не было. Он уехал рассказывать о сложившейся ситуации* **Эўропе***»; «Совершать революции, сидя при этом в демократической Европе»; «Александр Григорьевич с Зеноном Станиславовичем — близнецы-братья»; «Они одинаковы — Лукашенко и Пазьняк. Один усиленно реанимирует СССР, другой — не менее усердно — Великое Княжество Литовское» і, нарэшце, «Вынужден заявить: похоже, в лице Александра Лукашенко оппозиция получила именно такого президента, которого она заслужила».*

*Для параўнаньня — цытаты з Замяталіна: «Пазьняка и Наумчика ни правоохранительные органы, ни спецслужбы Беларуси не преследуют»; «Пазьняк вынужден искать политическую нишу за пределами Беларуси»; «Революции, как известно, готовятся господами, называющими себя „в изгнании"».*

*Міжволі блытаесься ва ўспамінах: гэта Замяталін зьмяніў Фядуту на пасадзе «міністра праўды» ў Лукашэнкі ці, наадварот, Фядута зьмяніў Замяталіна? Альбо не: Замяталін быў спачатку ў Кебіча, а ў Лукашэнкі быў спачатку Фядута, а потым ужо Замяталін. Не зьдзіўлюся, калі наступным пасьля Лукашэнкі прэзыдэнтам будзе Кебіч, а прэсавым сакратаром у яго — Фядута.* (У канцы 1994 году, узяўшы на сябе адказнасьць за белыя плямы ў газэтах замест дакладу дэпутата Антончыка аб карупцыі ў бліжэйшым атачэньні Лукашэнкі, начальнік упраўленьня інфармацыі

Аляксандар Фядута падаў у адстаўку. Ягоную пасаду заняў Замяталін, які раней быў прэсавым сакратаром прэм'ера Вячаслава Кебіча. — удакладненьне 2020 году).

*Між іншым, Фядута не зусім дакладны, калі заяўляе, што цяперашняга прэзыдэнта апазыцыя «атрымала». Лукашэнка ня зь неба ўпаў — яго настойліва падсоўвалі народу некаторыя маладыя амбітныя дзеячы, якія прагнулі атрымаць важкія партфэлі і для сябе. Не хачу называць іх палітыкамі — палітыкі абавязаны пралічваць наступствы сваіх дзеяньняў. Нагадаць прозьвішчы?*

*Цяпер пра так званы «малочны рэйтынг» газэты «Имя», 3 траўня: «Итоги нашей апрельской экспертизы оказались весьма неожиданными — практически единогласно человеком месяца был признан лидер БНФ в эмиграции Зенон Позняк», але адразу ж: «В организации митингов он не участвовал и, стало быть, человеком месяца быть не может по определению», «Предводитель путешествовал по странам и континентам и практически никакого участия в белорускoй полититке не принимал», «Прочие лидеры с трибун горячо убеждали общественность в том, что это чисто рабочий визит... в соответствии с графиком. При личном же разговоре стыдливо опускали глаза», «Грандиозная манифестация «Чернобыльский шлях»... сподобилась присутствия Зенона Станиславовича и минуты молчания в память Джохара Дудаева, Зеноном Станиславовичем же и объявленной, после чего вождь благополучно вернулся в эмиграцию, абсолютно не пострадавшим», «Человеком месяца стал не Зенон Позняк, а его уже отдельно живущее имя, превратившееся в знамя, хоругвь, штандарт,*

*рэвалюционный символ... А сам его обладатель душой, конечно же, с нами, а телом — как всегда, в Цюрихе».*

*Я ня ведаю, хто ў БНФ прыдумаў вэрсію пра «плянавую інфармацыйную паездку» і дзеля якой мэты некаторым актывістам Фронту спатрэбілася хаваць ад журналістаў вядомыя ім факты пра пляны ўладаў адносна Пазьняка і мяне. Нагодай выбралі падзеі ля тэлецэнтру 24 сакавіка; пракурор гораду Купрыянаў заявіў пра завядзеньне крымінальнай справы паводле часткі 3 артыкулу 186. А мне яшчэ «шылі» і артыкул 188, частку 2 («умяшаньне ў дзеяньні работнікаў міліцыі пры выкананьні імі службовых абавязкаў») за заклікі да байцоў АМАПу, спэцназу і міліцыі не выконваць злачынных загадаў іх камандзіраў. Дарэчы, ужо ўвечары 24 сакавіка нас папярэдзілі, што рыхтуюцца арышты і што могуць прымяніць псыхатропныя сродкі (думаю, пасьля арыштаў 26 красавіка Фядута ўжо ня будзе называць такія заявы «лухтой». А супрацоўнікам газэты «Имя» раю пагутарыць зь іх пастаянным аўтарам Уладзімерам Глодам, які перадаў у рэпартажы на Радыё Свабода, што Лукашэнка асабліва моцна лаяў шэфа КГБ за тое, што даў «сысьці» Пазьняку, а міністра ўнутраных справаў — за тое, што АМАП не «пераламаў шыі»).*

*Дык што ж заставалася — прыйсьці і здацца? Калі б я, ня дай Бог, падбіў на аўтамабілі чалавека альбо зьдзейсьніў «неахайнае захоўваньне агнястрэльнай зброі, якое пацягнула цяжкія наступствы» (спакойна, хлопцы са службы аховы прэзыдэнта, яго я ня маю), тады вядома. Але тое, што інкрымінуюць нам, што інкрымінуюць Хадыку і Сіўчыку — гэта палітычны перасьлед. А права-*

*судзьдзе, якое дзейнічае толькі ў бок апанэнтаў улады, ня што іншае, як судзілішча. І гуляць у такое «правасудзьдзе» з уладай — усё роўна як мышы гуляцца з катом: вынік прадвызначаны.*

*Уломваньне ў дзьверы, спэцаўтамабілі ля пад'ездаў і ля штаб-кватэры БНФ, шантаж нашых сваякоў і сачэньне за імі — усё гэта было пасьля 24 сакавіка. На шчасьце, нам удалося сысьці. Альбо, калі гэтак ужо жадаецца некаторым журналістам, удалося ЗЬБЕГЧЫ.*

*І тое, што пасьля мітынгу 26 красавіка Пазьняк сышоў, «абсалютна не пацярпеўшы», павінна ставіцца не ў віну Пазьняку, а ў заслугу кіраўніцтву БНФ, якое запатрабавала ад Пазьняка пайсьці ў бясьпечнае месца і здолела такі адыход арганізаваць. Наагул я ня ведаю ніводнай нармальнай партыі ў сусьветнай гісторыі, якая б наўмысна саджала сваіх лідэраў у вязьніцы. І я жадаў бы, каб Хадыка і Сіўчык былі цяпер калі не на свабодзе ў Менску, дык тут, у Варшаве (альбо ў Боне, у Нью-Ёрку, дзе заўгодна), але не ў СІЗА на Валадарскага. А вы хацелі б, каб у СІЗА?*

*І вас карабаціць ад слова «зьбеглі»? А вось маю маці (ды й маці Пазьняка, напэўна) яно не карабаціць.*

*Ды й наагул — зь якой прычыны бурчаньне? Ні Пазьняк, ні Навумчык пакуль што не прасілі палітычнага прытулку. Альбо вы сумняваецеся, што нам бы яго далі? Альбо ня ўпэўненыя, што беларуская дыяспара, як бы яна ні паставілася да ад'езду Пазьняка, не прыняла б лідэра БНФ «у сытай дэмакратычнай Эўропе» альбо ў Амэрыцы? Але ж, дарагія калегі, паклаўшы руку на сэрца, ці шмат хто з вас адмовіўся б скарыстаць такі момант для*

*зусім законнага перакідваньня свайго «цела», як вы выказваецеся, «туды»? І, паверце, я б не сказаў вам ні слова дакору.*

*Прыкметна, што асноўныя прэтэнзіі якраз не маральнага, а палітычнага характару. Прычым выніковасьць замежнай паездкі Пазьняка пацьвярджаецца нават рэйтынгам у «Имени» — аказваецца, «беларуская палітыка» можа рабіцца нават і па-за межамі Беларусі (зрэшты, роўна як і антыбеларуская палітыка можа ажыцьцяўляцца непасрэдна ў залі парлямэнту). Дакоры, ізноў жа, з нагоды... вязьніцы.*

*«Па-чалавечы я добра разумею і Пазьняка, і цябе, — сказала мне знаёмая журналістка. — А вось палітычна... Вы павінны былі б сесьці ў турму, адматаць тэрмін — затое выйшлі б героямі. Ды кожны палітык у кожнай краіне марыць пра такое!»*

*Падобнае — амаль даслоўна — я чуў неаднойчы ў тэлефонных гутарках зь Менскам. Праўда, ад тых, хто сам у вязьніцу не імкнецца. Наагул, даволі цікавая філязофія — вось хай вас пасадзяць, а мы потым будзем вас вызваляць, артыкулы пісаць, сусьветную грамадзкасьць уздымаць. А галоўнае — як падзяліліся, разьядналіся паняцьці — чалавечнасьць і палітыка.*

*Ну вось пасадзілі Юрася Хадыку і Вячаслава Сіўчыка. І што — народ пайшоў штурмаваць СІЗА? Заводы страйкуюць? У пікет ля СІЗА сталі сем чалавек — сваячкі падсьледных і актывісты БНФ. Прабачце, ня сем, а восем — забыў пра сямімесячнага сына Вячаслава Сіўчыка, ну ды ён проста ў калясцы ляжаў. Журналісткі той, дарэчы, у пікеце не было. А можа, варта нагадаць, як рэагавалі на зьбіцьцё дэпутатаў летась у красавіку? «Мала вам*

*далі», — вось што чуў я ў першыя месяцы пасьля галадоўкі, ну а потым пра гэта і зусім забыліся.*

*Мне могуць прывесьці ў прыклад Польшчу. Дысыдэнты тут адсядзелі, а потым сталі сэнатарамі, міністрамі, а адзін нават прэзыдэнтам. За гэтыя дні мне давялося пазнаёміцца практычна з усёй экс-дысыдэнцкай польскай элітай, у тым ліку і з Валэнсам, і магу меркаваць зь першых вуснаў. Дык вось, калі ў 81-м у Польшчы ўвялі ваеннае становішча, а лідэраў «Салідарнасьці» інтэрнавалі, кожны другі паляк лічыў сваім абавязкам чым-небудзь дапамагчы іх сем'ям. Па краіне разгарнулася сетка падпольных друкарняў. Ва ўладаў не хапала вадамётаў, каб расьсейваць маніфэстацыі пратэсту. Так што давайце ня будзем параўноўваць. Дарэчы, палякі пытаюцца: «А чаму ніхто з Апазыцыі Народнага Фронту не пажадаў балятавацца на выбарах? Як гэта — балятаваліся і не абраныя? У нас бы, калі б дэпутата пабілі на загад уладаў, яму быў бы гарантаваны праход у наступны парлямэнт, пра такое марыў бы кожны — ды вось ня б'юць». І, нарэшце, кажуць: «Ды няўжо ваш гэты, які з калгасу, не разумее, што калі ён дасьць каманду арыштаваць Пазьняка — дык усё, ягонаму ўладарству аўтаматычна канец?»*

*Мяркую, што ўлада якраз усё цудоўна разумее і ўсё выдатна пралічыла. Будзе Пазьняк сядзець у вязьніцы (дай Бог, каб ня зьбіты крымінальнікамі і не накачаны наркотыкамі) — а для большасьці паводле важнасьці гэта будзе нешта паміж колерам шпалераў у кватэры суседа і фіналам футбольнага матчу Мазамбік — Гандурас. Замест Пазьняка, зрэшты, можна паставіць якое заўгодна іншае прозьвішча.*

*«Дык вось вы якія, — напіша Фядута,— у вас усё рацыянальны палітычны разьлік, а як наконт таго, каб проста так, дзеля прынцыпу, пацярпець за народ, адпакутваць за яго? Не жадаеце?»*

*Не жадаю. Галоўным чынам таму, што ня мае сэнсу. У адрозьненьне ад тых, хто раіць пакутаваць, мне давялося за апошнія шэсьць гадоў і пагрозы выслухаць, і абвінавачаньні, і па шыі ў залі парлямэнту атрымаць. І я гатовы быў бы падставіць шыю яшчэ дзьвесьце разоў, калі б гэта дало рэальны палітычны вынік.*

*Адчуваю, што вымушаны даказваць відавочныя рэчы: што турма — гэта дрэнна, а свабода — добра. Дарэчы: чаму гэта журналісты, якія жадаюць Пазьняку вязьніцы, не жадаюць забароны сваіх газэтаў? Адразу б пачалі гаварыць пра іх у сьвеце, абураныя чытачы закідалі б суды пазовамі і — хто ведае? — пасьля зьмены ўлады пачалі б адразу з дзесяцікратнага накладу? Але не жадаюць — і правільна робяць, што не жадаюць. Паколькі журналіст толькі тады журналіст, калі ён мае магчымасьць быць пачутым, пабачаным, надрукаваным. Тое ж і палітык: ён можа рабіць палітыку толькі тады, калі знаходзіцца на волі. А калі ён у вязьніцы — тады сапраўды ён ужо не рэальны палітык, а — сымбаль. Але тады чаму ж вы не ідзяце ў сваіх разважаньнях да лягічнага завяршэньня? Бо самым яскравым, самым «заклікаючым» сымбалем робіцца той, каго пазбавілі жыцьця...*

*Давайце пакінем міталягізацыю жывых наступным пакаленьням. На шчасьце, Зянон Станіслававіч жывы і здаровы. І ён павінен быць там, дзе можа цяпер — і ў будучым — прынесьці найбольшую карысьць. За народ ён ужо адпакутаваў — час*

*заняцца рэальнай палітычнай працай. Ва ўмовах, калі легалізацыя на тэрыторыі Беларусі пагражае яму імгненным арыштам, найлепшым варыянтам было б, зразумела, знаходзіцца ў падпольлі і адтуль кіраваць дзейнасьцю Фронту. На жаль, гэта немагчыма, найперш з тэхнічных прычынаў, паколькі ўсе кантакты лідэраў БНФ адсочваюцца (1800 ілбоў са службы аховы прэзыдэнта трэба ж нечым заняць). Тэлефона сотавай сувязі ў БНФ няма — зрэшты, ён і не дапамог бы. У выпадку, калі ж вылічаць, гаспадарам кансьпірацыйнай кватэры жыцьцё папсуюць надоўга. Атрымліваецца, што заставацца на тэрыторыі Беларусі — гэта жыць з закрытым ротам і зьвязанымі рукамі.*

*Значыць, найбольш аптымальны варыянт — замежжа; такое рашэньне і прыняло кіраўніцтва БНФ пасьля 26 красавіка. А калі б сытуацыя складалася такім чынам, што трэба прасіць палітычнага прытулку — дык ён павінен быў бы рабіць менавіта гэтак. І на гэтым у тэме «эміграцыі» Пазьняка і Навумчыка я стаўлю кропку, ня лічачы патрэбным у далейшым тлумачыць людзям з дыплёмамі ісьціны, якія ў той жа Польшчы відавочныя кожнаму школьніку.* (6 траўня 1996 г., Варшава. Надрукавана ў газэце «Свабода»).

Ці падпісваўся б я пад гэтымі радкамі сёньня, праз больш як дваццаць гадоў? Безумоўна і адназначна. Усе гэтыя гады палітычныя аналітыкі пэрыядычна вярталіся да тэмы, чаму ў Беларусі, адрозна ад іншых краінаў, турма толькі на некаторы час уздымала рэйтынг палітыкаў і ніколі не прыводзіла нікога зь іх да палітычнай перамогі. Адказаў на гэтае пытаньне можна даць шмат (галоўным, пераканаy, будзе ўнівэрсальны адказ на ўсе асноўныя

пытаньні беларускай найноўшай гісторыі — нізкі ўзровень нацыянальнай сьвядомасьці).

Адзінае, што я пасьпяшаўся «паставіць кропку»: бо на пытаньне, вынесенае ў загаловак, давялося адказваць усе наступныя гады.

## Спрачаюся з прэзыдэнтам Квасьнеўскім

Жыў я па-ранейшаму ў офісе «Карты», спаў на раскладушцы, варыў сабе гарбату, выкарыстоўваючы кававарку, і глядзеў выпускі навінаў польскай ТВ. Тэлевізар увогуле працаваў фонам, і ў нейкі момант адчуў, што разумею ўсё, што гаварылі дыктары ці героі фільмаў.

Цяжэй было гаварыць самому. Але ўсё адно камунікаваць з польскімі палітыкамі, праваабаронцамі і журналістамі зрабілася лягчэй.

Якраз у апошнія красавіцкія дні і на пачатку траўня прыйшлося абзвоньваць і абыходзіць лідэраў польскіх партыяў, каб прысьпешыць прыняцьце рэзалюцыяў у абарону беларускіх палітычных вязьняў.

Уразіла, як адгукаліся палітыкі на мае звароты.

Тады я ўпершыню на ўласным досьведзе адчуў, што гэта значыць, калі народ актыўна і пасьлядоўна цікавіцца палітыкай, у тым ліку ўзаемаадносінамі паміж лідэрамі партыяў. Вядома, у гэтым часам прысутнічае і жаданьне камусьці «перамыць костачкі», але і за палітычнымі крокамі сочаць уважліва. З гэтай прычыны польскія тэлевізія, радыё ды друк надавалі шмат увагі партыйным мерапрыемствам, партыйным канфэрэнцыям ды рэзалюцыям — і гэта, натуральна, дапамагала грамадзянам

складаць аб’ектыўную і ўстойлівую думку задоўга да выбараў.

Гэта тое, што завецца палітычнай культурай грамадзтва, якой у Беларусі у 1996-м было няшмат, а праз чвэрць стагодзьдзя кіраваньня Лукашэнкі, як мне здаецца, зьнікла ўвогуле: палітычная біяграфія чалавека будзе цікавіць толькі вельмі вузкае кола ангажаваных у працэс людзей.

І таму ня кожны беларус памятае, хто патрабаваў усёй праўды пра Чарнобыль, а хто прычыніўся да падману. А значыць, сёньня палітыкі могуць казаць адно, а заўтра — іншае. У дні ўсплёску палітычнай актыўнасьці лета і восені 2020 году мне давялося чытаць у камэнтарах да сваіх публікацыяў абвінавачаньні, што нібыта я і мае калегі па Апазыцыі БНФ прывялі да ўлады Лукашэнку, затое тыя, хто дзесяцігодзьдзямі служыў яму, але потым пакінуў пасаду, прадстаўляліся героямі.

«Найлепшыя лекі ад дэмакратыі — пяціхвілінная гутарка зь сярэднім выбарнікам» — ня ведаю, ці сапраўды сказаў такую іранічную фразу Чэрчыль, ці яму яе толькі прыпісваюць, як і шмат якія іншыя афарызмы, але сэнс у ёй, бясспрэчна, ёсьць. І ўсё ж шматколернасьць пазыцый, у тым ліку нават і памылковых, значна лепшая за маналітнае аднадумства.

Польшча ж — краіна, дзе за слова нясуць адказнасьць. І калі кіраўнік партыі заяўляе, што ён падтрымлівае беларускіх дэмакратаў, — значыць, ён абавязаны даказаць гэта справай. Так зрабіў былы прэм’ер-міністар, лідэр партыі «Рух адбудовы Польшчы» Ян Альшэўскі, які прапанаваў мне сумесную прэсавую канфэрэнцыю. На той момант мне ўжо даслалі зь сядзібы БНФ сьпіс затрыманых падчас

і пасьля чарнобыльскага шэсьця, так што расказаць польскім і замежным журналістам было пра што.

Заявы з пратэстам супраць рэпрэсіяў у дачыненьні да мірных удзельнікаў Чарнобыльскага шляху прынялі Канфэдэрацыя незалежнай Польшчы, «Унія Свабоды» на чале зь Лешэкам Бальцэровічам, партыя «Паразуменьне Цэнтар» на чале зь Яраславам Качыньскім. Некалькі дзясяткаў польскіх сэнатараў падпісалі зварот да кіраўніцтва Беларусі з патрабаваньнем неадкладна вызваліць палітычных зьняволеных.

Спатканьні з палітыкамі, прэсавыя канфэрэнцыі давалі свой плён — тэма наступу на беларускую дэмакратыю і пагрозы ліквідацыі незалежнасьці не выходзіла з-пад увагі польскіх СМІ. Акрамя таго, польскія дэпутаты дапамаглі мне выйсьці на ўплывовыя эўрапейскія структуры — АБСЭ, Парлямэнцкую асамблею Рады Эўропы. У дачыненьнях з апошняй, на жаль, у той час нельга было разьлічваць на падтрымку ад Вярхоўнага Савету Беларусі — абсалютная большасьць новых дэпутатаў грэбліва ставілася да сваіх папярэднікаў.

На сэсіі Вярхоўнага Савету Сямён Шарэцкі ацаніў дзеяньні ўдзельнікаў чарнобыльскага шэсьця як правакацыйныя і нават антыдзяржаўныя. Было зразумела, што на абарону пацярпелых, тым больш перад сусьветным супольніцтвам, кіраўніцтва Вярхоўнага Савету не падымецца.

Нарэшце, сьпікер парлямэнту на сэсіі дапусьціў абразьлівыя для Польшчы і для палякаў выказваньні, якія імгненна былі распаўсюджаны прэсай. Мае варшаўскія сябры былі абураныя — гэта быў якраз дзень Канстытуцыі. Гэтаксама імгненна давялося на правах прэсавага сакратара БНФ напісаць заяву

і разаслаць яе ў польскія сродкі масавай інфармацыі, балазе факсам у «Карце» я мог карыстацца неабмежавана:

«Беларускі Народны Фронт расцэньвае выказваньні сьпікера Вярхоўнага Савету Сямёна Шарэцкага ў дачыненьні да Польшчы, якія прагучалі на сэсіі парлямэнту 3 траўня, як абразьлівыя ня толькі для польскага, але і беларускага народу. Вельмі сумна, што гэтыя словы былі сказаныя 3 траўня — у дзень, які зьяўляецца памятным і для Беларусі. Прыкметна, што падобныя выказваньні былі зробленыя Шарэцкім адразу ж пасьля сустрэчы з прэзыдэнтам Лукашэнкам, што яшчэ раз пацьвярджае ўсё большую залежнасьць сьпікера ад выканаўчае ўлады. Відавочна, заявы сьпікера цалкам супадаюць з пазыцыяй Лукашэнкі, але яны ніяк не адпавядаюць гістарычнай праўдзе».

Мне здавалася важным падкрэсьліць і тое, што «у сяброўскіх стасунках з Польшчай Беларускі Народны Фронт бачыць адну з гарантыяў інтэграцыі нашай краіны ў Эўропу. А словы спачуваньня і падтрымкі беларускім дэмакратам, якія прагучалі з вуснаў польскіх палітыкаў і грамадзкіх дзеячоў, зьявіліся канкрэтным прыкладам зацікаўленасьці Польшчы ў незалежнасьці Беларусі».

Гэтую заяву адразу ж перадалі па тэлевізіі, надрукавалі ў газэтах.

Наагул, тыя дні пацьвердзілі, што ў палітыцы шмат што, калі ня ўсё, вырашае час. Упусьціў момант — і страціш шанец; магчыма, назаўсёды.

Тады ж мне давялося ўступіць у своеасаблівую дыскусію з прэзыдэнтам Польшчы Аляксандрам Квасьнеўскім.



Моладзь паліць партрэт Лукашэнкі

На пытаньне журналістаў, якім чынам польскае кіраўніцтва зьбіраецца рэагаваць на задушэньне дэмакратычных свабодаў у Беларусі, ягоны прадстаўнік адказаў, што і прэзыдэнт, і ўрад лічаць вельмі важным захаваньне «роўных» стасункаў зь Беларусьсю і ня будуць умешвацца ва ўнутраныя справы.

Пачуўшы такое ў вечаровым выпуску тэлевізійных навінаў, я зразумеў, што трэба рэагаваць імгненна. Ужо праз гадзіну ў польскія інфармагенцтвы і на тэлевізію пайшла заява, якая раніцай зьявілася ў газэтах і прагучала на тэлевізіі:

*Калі б у 70-80 гады расстрэлы рабочых, інтэрнаваньне лідэраў «Салідарнасьці», задушэньне грамадзянскіх свабодаў заходнія лідэры лічылі ўнутранай справай Польшчы і не рабілі жорсткага ціску на камуністычную ўладу, — цяжка сказаць, як хутка вызвалілася б Польшча ад дыктатуры.*

*Сёньня ўсялякія пратэсты беларускіх дэмакратаў душацца, і толькі энэргічныя дзеяньні міжнароднай супольнасьці, і найперш эўрапейскіх лідэраў, здольныя прымусіць Лукашэнку выконваць элемэнтарныя, гарантаваныя міжнароднымі актамі і Канстытуцыяй Беларусі правы чалавека. Пазыцыя ж «неўмяшаньня», наадварот, канчаткова разьвяжа рукі прыхільнікам таталітарных мэтадаў і можа надоўга замацаваць на Беларусі дыктатуру.*

У той жа вечар прэзыдэнт у інтэрвію польскай тэлевізіі заявіў, што яго «няправільна зразумелі».

Квасьнеўскі зазначыў, што выкананьне правоў чалавека зьяўляецца бясспрэчным абавязкам кіраўніцтва любой краіны, і яму асабіста неабыякава, што робіцца на Беларусі. Аляксандр Квасьнеўскі заявіў, што беларуская дэмакратыя можа разьлічваць на яго падтрымку.

Гэта было вельмі важнае прызнаньне. Раней Квасьнеўскі такога не казаў.

## Шэран Стоўн ня вабіць Лукашэнку

Лідэры БНФ Юрась Хадыка і Вячаслаў Сіўчык знаходзіліся ў турме на Валадарскага. Пазьняк быў у Менску, на надзейнай сакрэтнай кватэры, але ніякага кантакту зь ім не было.

Натуральна, я ня мог запытацца праз тэлефон, дзе менавіта, у тых, хто гэта ведаў, ня кажучы ўжо пра нейкі кантакт. Пазьняку ўдасца прыехаць у Варшаву толькі ў сярэдзіне траўня, мне ж давялося сканцэнтраваць усе намаганьні на вызваленьні Сіўчыка і Хадыкі, якія абвясьцілі галадоўку.

З паведамленьня прэсавай службы БНФ:

*Сёньня сябра Беларускага Хэльсынскага камітэту Сяргей Навумчык спаткаўся ў Варшаве з групай польскіх сэнатараў і дэпутатаў Сэйму. Парлямэнтары выступілі з ініцыятывай прыняць ад імя Сэйму адмысловую заяву, у якой запатрабаваць неадкладнага вызваленьня з-пад арышту Юрася Хадыкі і Вячаслава Сіўчыка. У заяве, падпісанай парлямэнтарамі, адзначаецца, што арышты лідэраў беларускай апазыцыі нагадваюць часы панаваньня камуністычнага рэжыму. «Мы памятаем дапамогу, якую атрымлівала Польшча ад заходняй дэмакратыі ў нядаўнія часы, і абавязаныя выказаць заклапочанасьць у справе абароны правоў чалавека ды незалежнасьці ў Беларусі», — заявілі дэпутаты.*

*З заявай выступіў старшыня партыі «Паразуменьне Цэнтар» Яраслаў Качыньскі, які запатрабаваў найхутчэйшага вызваленьня Хадыкі і Сіўчыка і пакараньня ініцыятараў перасьледу абаронцаў незалежнасьці Беларусі: «Яшчэ раз падкрэсьліваем нашую салідарнасьць з барацьбой беларускага народу за незалежнасьць ды дэмакратыю».*

Памятаючы пра нашую нядаўнюю гутарку ў Гданьску і абяцаньне маральнай падтрымкі, у тыя ж дні з просьбай выказацца ў абарону Хадыкі і Сіўчыка я зьвярнуўся і да Леха Валэнсы. Падчас нашай сустрэчы Валэнса сказаў, што ў выпадку арышту Пазьняка будзе перадаваць яму сала. У мяне хапіла пачуцьця гумару зразумець гэтыя словы менавіта як гумар, але ў выпадку з Хадыкам і Сіўчыкам я спадзяваўся, што ён зробіць заяву.

Словы ляўрэата Нобэлеўскай прэміі міру прагучалі б моцна і — як мне тады здавалася — паўплывалі б на лёс палітвязьняў.



Юры Хадыка ў СІЗА на Валадарскага

Я даслаў Леху Валэнсу некалькі факсаў, разоў пяць размаўляў зь ягонымі памочнікамі.

Аднак Валэнса маўчаў і ні на адзін мой зварот не адказаў. Натуральна, не было і заявы, скласьці якую ў памочнікаў заняло б дзесяць хвілінаў. Чаму — засталося для мяне незразумелым. Хачу думаць, што адказу не было толькі таму, што ў тыя дні спадар Валэнса пачуваўся дрэнна. Альбо, наадварот, вельмі весела.

У той працы шмат дапамагла мне супрацоўніца часопісу Polityka Ягенка Вільчак, імпазантная жанчына гадоў сарака. Яна падключыла, здаецца, усіх сваіх знаёмых да справы вызваленьня беларускіх палітычных вязьняў.

«Ёсьць адзін эфэктыўны спосаб паўплываць на Лукашэнку, — сказала Ягенка. — Трэба, каб да яго зьвярнулася асоба, якой бы ён ня мог адмовіць.

Нават даў бы і адмоўны адказ, але адказ. І калі ў гэтым адказе будзе ігнараваньне просьбы выпусьціць Сіўчыка і Хадыку, то Лукашэнка паўстане ў вельмі непрывабным выглядзе. Гэта мусіць быць нейкая супэрвядомая асооба, прычым усё роўна, зь якой сфэры — літаратуры, кіно ці спорту. Накшталт Габрыеля Маркеса, Шэран Стоўн ці Пола Маккартні. Вы ж разумееце, што адмовіць Шэран Стоўн — гэта будзе выглядаць верхам цынізму».

Так, кінаактрыса Шэран Стоўн тады была сусьветнай сэкс-зоркай нумар адзін, пасьля вядомага пікантнага эпізоду ў «Асноўным інстынкце».

Я сказаў Ягенцы, што разважаньні ў такіх катэгорыях — гэта не пра Лукашэнку, але, натуральна, трэба выпрабаваць усе спосабы.

На шчасьце, у тыя дні варшаўскі кніжны фэст наведаў ляўрэат Нобэлеўскай прэміі, паэт Чэслаў Мілаш. Ён з разуменьнем успрыняў прапанову кагосьці з польскіх сяброў і зьвярнуўся да Лукашэнкі з просьбай вызваліць Хадыку і Сіўчыка. Свой подпіс далучыў і пісьменьнік Станіслаў Лем, адзін з самых вядомых фантастаў XX стагодзьдзя.

У канцы 1981 году, калі заходнія палітыкі вычарпалі ўсе магчымасьці ўратаваць акадэміка Сахарава, які паміраў ад галадоўкі, нобэлеўскі ляўрэат, фізык Пётар Капіца напісаў Брэжневу кароткі ліст у некалькі радкоў, і не палітычнымі заклікамі, а простымі словамі («Глубокоуважаемый Леонид Ильич! Я уже очень старый человек, и жизнь научила меня, что великодушные поступки никогда не забываются. Сберегите Сахарова. Да, у него большие недостатки и трудный характер, но он великий ученый нашей страны. С уважением, П. Л. Капица», — так цытуе той ліст Сахараў у сваіх успамінах). Словы

кранулі сэрца генсека, КДБ атрымаў адпаведную каманду, Сахараў быў уратаваны.

Сэрца ўладара Беларусі словы нобэлеўскага ляўрэата і выдатнага фантаста не кранулі — не было ні адказу, ні вызваленьня.

Адным з найбольш актыўных рупліўцаў за свабоду беларускіх вязьняў у тыя дні быў праваабаронца Марэк Навіцкі, старшыня Польскага Хэльсынскага камітэту, які зь першых дзён нашага знаёмства выказаў жаданьне дапамагаць нам з Пазьняком. Да таго часу ў пана Марэка ўжо ўсталяваўся трывалы кантакт і з нашым беларускім Хэльсынскім камітэтам, і менавіта Навіцкі дапамагаў беларускім калегам зьвязацца з міжнароднымі праваабарончымі арганізацыямі. Але ў тыя дні ўсе свае намаганьні ён паклаў на справу вызваленьня Хадыкі і Сіўчыка.

За кратамі быў і лідэр партыі аматараў піва Андрэй Рамашэўскі. Пасьля «рэфэрэндуму» 1995 году Рамашэўскі зрабіў пэрформанс ля прэзыдэнцкай адміністрацыі (будынку былога ЦК), павесіўшы лукашэнкаўскі сьцяг на прыбіральні ля тэатру непадалёк. Цяпер жа яго абвінавацілі ў тым, што ён у лютым 96-га спаліў чырвона-зялёны сьцяг.

Акрамя таго, у тыя ж травеньскія дні стала вядома і пра арышт паэта Славаміра Адамовіча — ён напісаў паэму «Убей президента!».

Марэк Навіцкі і пазнаёміў мяне з баранэсай Одры Гловэр, амбасадаркай Вялікай Брытаніі, якая ўзначальвала адну з галоўных структураў АБСЭ — Бюро дэмакратычных інстытуцый і правоў чалавека. Бюро месьцілася ў Варшаве.

Спадарыня Гловэр была дамай, як той казаў, у веку, гадоў за шэсьцьдзесят, але энэргічнай, іранічнай,

бясспрэчна адоранай у маладосьці той прыгажосьцю, якую не сьціраюць дзесяцігодзьдзі.

Пра дзесяцігодзьдзі я не перабольшыў. Калі праз 25 гадоў я пайшоў у інтэрнэт, каб пачытаць пра баранэсу, думаў, што ўбачу тэксты пра яе ў мінулым часе, як пра дзяячку, якая даўно пакінула наш недасканалы сьвет.

А вось жа і не. Узначальваньне бюро ў Варшаве не было нават сярэдзінай кар’еры баранэсы Гловэр: потым яна ацэньвала выбары ў Грузіі, Азэрбайджане, Манголіі, ЗША. Ужо з другой нашай сустрэчы баранэса, упэўнены, запомніла беларускія прозьвішчы: Рамашэўскі, Адамовіч, Сіўчык, Хадыка.

Я хадзіў у офіс АБСЭ, які месьціўся ў квартале шэрых адміністрацыйных будынкаў канца 1940 – пачатку 50-х гадоў у самым цэнтры Варшавы, як на працу. Падпільноўваў баранэсу перад абедам ці пасьля, большасьць нашых гутарак праходзілі якраз на лесьвіцы, па якой яна сьпяшалася ў кабінэт, і яна зразумела, што гэты дзіўны беларус у адной і той жа кашулі (папраўдзе, я мыў яе штовечар) ад яе не адчэпіцца.

Падазраю, ёй хацелася загадаць супрацоўнікам спыняць мяне яшчэ ў вэстыбюлі, і такое жаданьне, калі б яно ўзьнікла, я б добра зразумеў. Але я ўсё ж быў экс-парлямэнтаром. У лукашэнкаўскай Беларусі гэта не азначае нічога, але ў дэмакратычных краінах у той час нешта важыла.

Я імкнуўся пераканаць спадарыню Гловэр, што кіраўнікі эўрапейскіх краінаў не павінны спакойна назіраць за тым, як згасае жыцьцё Хадыкі і Сіўчыка.

На пачатку першай гутаркі мне здалося, што спадарыня Гловэр ня надта цікавіцца падзеямі



Вячаслаў Сіўчык пад кропельніцай

ў малапрыкметнай Беларусі — праз пару гадзінаў яна мусіла адлятаць у Сараева, каб кантраляваць ад імя АБСЭ падрыхтоўку да выбараў.

Наагул нам, беларусам, не пашанцавала ў тым, што вясна-96 прыпала на час урэгуляваньня канфлікту ў былой Югаславіі — увага сусьветнай, і асабліва эўрапейскай супольнасьці была сканцэнтраваная на ёй. Беларусь знаходзілася ў цені падзеяў больш драматычных ды трагічных. У далейшым падобнае будзе паўтарацца — напрыклад, 9 верасьня 2001-га прайшлі прэзыдэнцкія выбары, 10 верасьня заходняя прэса пісала пра іх недэмакратычнасьць, але ўжо на наступны дзень усім было не да Беларусі: захопленыя ісламскімі тэрарыстамі самалёты атакавалі Нью-Ёрк і Вашынгтон, сьвет узрушана ўзіраўся ў экраны тэлевізараў, дзе няспынна паказвалі падзеньне вежаў-блізьнят…

Ну а ўвосень пандэмічнага 2020-га рэпартажы пра шматтысячныя маршы ў Беларусі саступілі першае месца атручэньню расейскага апазыцыянэра Аляксея Навальнага.

Я ўсё ж паспрабаваў пераканаць баранэсу, што ў Беларусь варта паслаць сталага прадстаўніка АБСЭ, а лепш за ўсё — стварыць там сталы офіс. Галоўным аргумэнтам было тое, што калі не зрабіць рашучых крокаў сёньня, то праз год-два эўрапейцам давядзецца прыкладаць вялікія намаганьні і ў дачыненьні да Беларусі.

Пасьля сваёй паездкі ў Югаславію Гловэр узьняла пытаньне пра беларускіх палітычных вязьняў на пасяджэньні кіраўнікоў урадаў краінаў – сяброў АБСЭ. Пазьней, як вядома, было ўтворана і прадстаўніцтва АБСЭ ў Менску. Праўда, праіснавала яно нядоўга.

Між тым зь Менску даходзілі ўсё больш трывожныя зьвесткі пра стан здароўя зьняволеных лідэраў БНФ.

Я заўважыў, што заходняя прэса піша пераважна толькі пра Юрася Хадыку — і гэта было зразумела, прафэсар Хадыка быў больш вядомы. 9 траўня газэта The Washington Post надрукавала інтэрвію сына Хадыкі; імя Сіўчыка ня згадвалася. Зусім магчыма, гэта быў вынік рэдакцыйнай праўкі, але даволі паказальны.

А між тым якраз на стане Сіўчыка галадоўка адбілася мацней — ён трапіў у рэанімацыю. Тлумачылася гэта проста — у адрозьненьне ад Юрася Хадыкі, які меў пэўны досьвед лячэбнага галадаваньня і добра ведаў мэханізм правільнага ўваходу ў галадоўку і выхаду зь яе, Сіўчык абвясьціў

галадоўку адразу, даведаўшыся пра галадаваньне Хадыкі, без усялякай падрыхтоўкі.

Шэран Стоўн на дапамогу паклікаць не ўдавалася.

## Ельцын просіць не расстрэльваць Хадыку і Сіўчыка

Пазьняк прыехаў у Варшаву 14 траўня, увечары — перад гэтым мне нехта патэлефанаваў і сказаў, каб я чакаў яго ў гатэлі «Форум», унізе. Пра дарогу шмат тады не расказваў, сказаў толькі, што было складана. Пазьней ён прыгадаў акалічнасьці тых дзён.

Зянон Пазьняк: *Існавала некалькі варыянтаў выезду, які мне рыхтавалі розныя людзі. Я зноў скарыстаўся варыянтам Галіны Навумчык і выехаў на Ўкраіну. На гэты раз падарожжа было дрэнна ўзгодненым і небясьпечным. Прыйшлося пайсьці на рызыку, але Бог дапамог. 9 траўня я ўжо быў у Кіеве. Тут я даведаўся, што КГБ Беларусі зьвярнуўся ў Службу бясьпекі Ўкраіны, каб тыя выдалі мяне беларускім уладам. Пра гэта старшыня СБУ напрасткі паведаміў Вячаславу Чарнаволу. Украінцы, вядома, не зьбіраліся мяне выдаваць. Яны далі мне нават машыну суправаджэньня да мяжы з Польшчай, каб прадухіліць нечаканасьці. Распарадзіўся Вячаслаў Чарнавол.*

*Цяпер, успамінаючы гэты час, мне моцна баліць душа. Нішто мяне так ня ўразіла, не падкасіла, ня выклікала такой скрухі за гады эміграцыі, як забойства Вячаслава Чарнавола ў 1999 годзе. Я нават не здагадваўся, які дарагі мне быў гэты*

*прыхільны чалавек. Не магу зьмірыцца, што ён не жыве. Тады, у траўні 1996 году, мы неяк размаўлялі ўдвох у сядзібе Руху, і я сказаў, каб ён быў уважлівы і сьцярогся, бо Масква выкарыстоўвае адно клішэ для Беларусі і для Ўкраіны. Будзе наступ на Рух. Тое, што мералі на мяне, могуць прымераць і на яго. Памятаю, што ён успрыняў мае словы сур'ёзна і неяк, нібы лякнуўшыся, задумаўся.*

*Праз тры гады яго ня стала. Прымеркавалі стандартную схему з грузавіком. Аўтамабільная катастрофа. Забілі вялікага сына Ўкраіны. Як цяжка. Як шчымліва стаіць мне ўваччу яго вобраз... У Кіеве я затрымаўся на пяць дзён, пакуль аформіў усе справы на пераезд у Польшчу. Тым часам Сяргей Навумчык распачаў у Варшаве энэргічную дзейнасьць па вызваленьні з-пад арышту Хадыкі і Сіўчыка. 14 траўня я прыехаў у Варшаву, і мы заняліся іхным вызваленьнем разам.*

Марэк Навіцкі запытаўся ў мяне, ці ёсьць усё ж такі на плянэце чалавек, якога б Лукашэнка ня мог не паслухаць.

— Пэўна ж, ёсьць нейкая жанчына, якую ён кахае? — спытаў Марэк.

— Уладу, больш нікога, — адказаў я.

Аднак, падумаўшы, назваў імя чалавека, якому Лукашэнка сапраўды ня мог адмовіць. Ім быў Ельцын.

Дастаткова аднаго ягонага слова — і Сіўчык з Хадыкам будуць на волі.

Яшчэ раней, толькі прыехаўшы ў Варшаву, Пазьняк зьвярнуўся зь лістамі па дапамогу ў справе Сіўчыка і Хадыкі ня толькі да эўрапейскіх палітыкаў і прэзыдэнта ЗША Клінтана, але і да Ельцына. Ліст гэты быў перададзены ў расейскую амбасаду.

Спадзяваньняў, што ліст трапіць да адрасата праз гэты дыпляматычны канал, было няшмат. Патрабаваўся іншы спосаб.

Трэба было знайсьці чалавека, якому б, у сваю чаргу, ня мог адмовіць ужо Ельцын. Ці які б, як мінімум, мог зьвязацца з расейскім прэзыдэнтам. З такіх асобаў дасягальны для нас быў толькі праваабаронца, дэпутат Дзяржаўнай Думы Расеі, паплечнік акадэміка Сахарава Сяргей Кавалёў.

У тыя дні ягонае імя грымела. У Расеі пракамуністычныя выданьні пэцкалі яго гразьзю за змаганьне за правы жыхароў Чачэніі, якіх зьнішчала расейская артылерыя, якіх катавалі ў палявых пунктах ФСБ. Значная, калі ня большая частка насельніцтва Расеі мела такую ж думку (што менавіта Кавалёў, які прыехаў у Будзёнаўск, прадухіліў штурм шпіталя атрадам Басаева і фактычна ўратаваў дзясяткі закладнікаў ад сьмерці, у Расеі хутка забыліся).

На Захадзе пра Кавалёва гаварылі як пра сумленьне Расеі. За год да гэтага, у чэрвені 1995-га, мы з Пазьняком удзельнічалі ў міжнароднай канфэрэнцыі ў Кракаве і дэлегатаў запрасілі ў мясцовы опэрны тэатар на «Набука» Вэрдзі. Калі Кавалёў зьявіўся на бальконе, усе ўсталі і некалькі хвілінаў цягнулася авацыя. Я і цяпер перакананы, што калі б у тыя гады Кавалёву далі Нобэлеўскую прэмію міру, гэта магло б урававаць Расею ад прыходу ў Крэмль нашчадка тых, хто адпраўляў Сахарава ў ссылку ў Горкі, а Кавалёва — у турму і ў Магадан.

Адразу ж праз тэлефон зьвязаліся з Кавалёвым.

І зразумелі, што нам пашчасьціла.

Хаця і рэдка (значна радзей, чым хацелася б), але здараецца ў жыцьці зьбег акалічнасьцяў ці то ў часе, ці то ў прасторы, які шчасьліва ўплывае

на лёс ці нават вызначае яго. Кожны чалавек можа прыгадаць падобнае — менавіта так звычайна завязваюцца шчасьлівыя каханьні. Зрэшты, і нешчасьлівыя таксама.

Але ў той момант мы адчулі, як сказаў бы мой калега па дэпутацкай апазыцыі Пётра Садоўскі, «грамадзкае шчасьце».

Праз гадзіну ў Кавалёва была прызначаная сустрэча з Грыгорыем Яўлінскім, якога Кавалёў падтрымліваў на прэзыдэнцкіх выбарах. А сам Яўлінскі неўзабаве мусіў сустракацца зь Ельцыным — той быў зацікаўлены як мінімум перацягнуць яго на свой бок, а як максымум — угаварыць Яўлінскага зьняць сваю кандыдатуру зь перадвыбарчай гонкі.

Кавалёў паабяцаў, што папросіць Яўлінскага паставіць перад Ельцыным пытаньне аб вызваленьні супрацоўнікаў Акадэміі навук Сіўчыка і Хадыкі.

Раніцай наступнага дня нам сталі вядомыя падрабязнасьці гутаркі Яўлінскага зь Ельцыным. Адразу, як лідэр «Яблыка» перадаў просьбу, Ельцын зьвязаўся па тэлефоне з Лукашэнкам.

Вытрымаўшы «паўзу самапавагі» ў некалькі гадзінаў, Лукашэнка аддаў адпаведнае распараджэньне.

Пазьней, праз гады, ужо ў Празе, Яўлінскі расказаў мне падрабязнасьці той гутаркі, якая ў нейкі момант набыла трагікамічнае адценьне:

*Ельцин снимает трубку телефона и говорит Лукашенко:*

*«Александр Григорьевич, нужно что-то делать с этими вашими арестованными учёными. Проявите гуманизм! Как? Ну я не знаю, как. Ну если у вас там по кодексу расстрел — дайте им, понимаешь, десять лет. Если десять — дайте только пять».*

*Услышав это, я вскочил с кресла: «Нет, нет, пусть на свободу выпустит! Прямо сейчас!» Ельцин сразу понял свой промах.*

*«Нет. Не так. Не так! Сейчас же выпускайте их на свободу!».*

Выпусьцілі спачатку Сіўчыка, які быў у рэанімацыі ў крытычным стане, а пасьля Хадыку.

Потым мне даводзілася чуць вэрсію, што жонка Юрыя Хадыкі пазваніла Ельцыну, і гэта ейны званок спрацаваў. Жонка Хадыкі магла спрабаваць званіць у Крэмль, чаму не, але гутарка з самім прэзыдэнтам Расеі ў той час уяўляецца абсалютна нерэальнай: з кіраўніком дзяржавы ўвогуле злучаюць вельмі вузкае кола асобаў, а ў той час, як сьведчаць людзі з атачэньня Ельцына, прэзыдэнт Расеі быў у такой фізычнай форме, што дазваніцца да яго не маглі міністры ды губэрнатары, ня кажучы ўжо пра сваякоў беларускіх палітвязьняў.

«Я вымушаны быў даць Лукашэнку ўрок дэмакратыі», — заявіць потым Ельцын.

А Яўлінскі сваю кандыдатуру на карысьць Ельцына так і ня зьняў, набраўшы на выбарах пяць з паловай мільёнаў галасоў (7,34%) і заняўшы чацьвёртае месца пасьля самога Ельцына, камуніста Зюганава і генэрала Лебедзя.

Неўзабаве пасьля вызваленьня Хадыкі і Сіўчыка Сяргей Кавалёў наведаў Польшчу. Ён прыехаў на запрашэньне гісторыка-архіўнага цэнтру «Карта», які ўзначальвае былы польскі дысыдэнт і зусім яшчэ не стары чалавек Зьбігнеў Глюза.

Нагодай жа для прыезду Кавалёва ў Варшаву была ягоная кніга пра вайну ў Чачэніі, якую выдала «Карта». Супрацоўнікі «Карты» арганізавалі мне сустрэчу з Кавалёвым.

Я падзякаваў яму за дапамогу ў справе вызваленьня Хадыкі і Сіўчыка. Кавалёў з трывогай разважаў пра будучыню як Беларусі, гэтак і Расеі; сказаў, што ствараецца «беларуска-расейскі стандарт правоў чалавека», які падобны да таго, што існуе ў азіяцкіх краінах. Сказаў, што некаторыя маскоўскія палітыкі згодныя бачыць стратэгічным партнэрам нават Кітай. Тады, у 1996 годзе, такое жаданьне здавалася абсурдным — а неўзабаве яно зрабілася рэальнасьцю.

Даволі жорстка выказаўшыся пра намеры Гарбачова пасьля прыходу да ўлады (неяк хутка забылася, што аж да самога путчу ў жніўні 91-га генэральны сакратар кляўся ў вернасьці «ленінскім ідэям»), Кавалёў прааналізаваў актуальную сытуацыю, без асаблівых сымпатыяў да заходніх лідэраў. Сапраўды, тады заходнія лідэры так і не знайшлі спосабу паўплываць на адыход Ельцына ад дэмакратычных пазыцый, што скончылася прызначэньнем у якасьці пераемніка афіцэра КДБ.

У 2000 годзе я зноў сустрэўся з Кавалёвым, ужо ў Празе, у якасьці журналіста Радыё Свабода. Адказваючы на пытаньне пра новага расейскага лідэра, Кавалёў сказаў: «Уявіце, што ў пасьляваеннай Нямеччыне канцлерам выбралі былога падпалкоўніка СС».

Ацэньваючы званок Ельцына Лукашэнку, можна назваць яго адказам на просьбу чалавека, якога Ельцын хацеў угаварыць зьняць сваю кандыдатуру на выбарах. Так яно папраўдзе і было. Але я не магу ўявіць, каб (няважна, зь якой нагоды) такі званок зрабіў Пуцін. Ды і не рабіў ніколі — за ўсе два дзесяцігодзьдзі свайго прэзыдэнцтва і пры сотнях зьняволеных Лукашэнкам за палітыку.

## Начальнік памежнікаў загадвае нас затрымаць

21 траўня на першай паласе газэты «Свабода» была зьмешчаная інфармацыя, якая, як той казаў, асабіста зацікавіла.

*«Пазьняка, Навумчыка — затрымаць...»*

*Улады заяўляюць, нібыта зусім ня маюць намеру арыштоўваць Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка, якія знаходзяцца цяпер у Варшаве. У сапраўднасьці ж усё выглядае якраз наадварот: лідэраў Народнага Фронту вельмі чакаюць на мяжы.*

*Зь некалькіх крыніц рэдакцыя «Свабоды» атрымала інфармацыю, што на ўсіх памежных пастах Беларусі ў кнізе дзяжурнага КПП запісана наступнае ўказаньне: «Грамадзян РБ Пазьняка З.С. і Навумчыка С.І. пры ўезьдзе-выезьдзе затрымаць». Распараджэньне датавана 27 красавіка 1996 г.*

*Дарэчы, прыехаўшы ў Менск, Зянон Пазьняк выехаў нелегальна зь Беларусі ў польскую сталіцу толькі 8 траўня.*

*Мікола Грынявіцкі.*

Грынявіцкі — гэта быў псэўданім рэдактара газэты Ігара Герменчука, чыё імя часта сустракаецца ў гэтым аповедзе. Зь Ігарам я вучыўся на журфаку БДУ, дэпутацтваваў у Апазыцыі БНФ, разам удзельнічаў у парлямэнцкай галадоўцы.

Мы жылі зь Ігарам у інтэрнаце БДУ № 2 на Кастрычніцкай у адным блёку ў пачатку 80-х. Калі Ігар ажаніўся, я часта бываў у іх здымнай кватэрцы на Купалы, мы ababралі тону бульбы на вайсковых зборах у Слоніме, а потым былі разам усе шэсьць гадоў напружанага змаганьня з апанэнтамі ў парлямэнце.

## «Пазьняка, Навумчыка – затрымаць...»

**Улады заяўляюць, нібыта зусім не маюць намеру арыштоўваць Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка, якія знаходзяцца цяпер у Варшаве. У сапраўднасці ж усё выглядае якраз наадварот: лідэраў Народнага Фронту вельмі чакаюць на мяжы.**

З некалькіх крыніцаў рэдакцыя СВАБОДЫ атрымала інфармацыю, што на ўсіх памежных пастах Беларусі ў кнізе дзяжурнага КПП запісана наступнае ўказанне: *“Грамадзянаў РБ Пазьняка З.С. і Навумчыка С.І. пры выездзе-ўездзе — затрымаць”*. Распараджэнне датавана 27 красавіка 1996 г.

Дарэчы, прыехаўшы ў Мінск 26 красавіка, Зянон Пазьняк выехаў нелегальна з Беларусі ў польскую сталіцу толькі 8 траўня.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

Публікацыя ў газэце «Свабода»

Ігар пайшоў з жыцьця ў 41 год, але зробленага ім хапіла на біяграфічную кнігу «Спадар Свабода», якую напісаў Сяргей Астраўцоў, таксама наш аднакурсьнік. Назоў меў варыянты. Мой быў — «Той, хто зрываў маскі». Такое азначэньне мела ня толькі пераносны сэнс (якраз у газэце Ігара ў Беларусі нарадзіліся журналісцкія расьсьледаваньні), але і самы прамы. У ноч з 11 на 12 красавіка 1995-га, калі нас, дэпутатаў, білі людзі ў чорных масках, Ігар з двух ці трох байцоў маскі пазрываў, і тыя імгненна кідаліся на падлогу, тварам уніз, каб ня трапіць пад відэакамэры (з балькона Авальнай залі вялася здымка, стужку Лукашэнка абяцаў паказаць на тэлевізіі, але не паказаў). Гэта быў вельмі мужны ўчынак Ігара.

Я цалкам давяраў Ігару. І яшчэ ведаў ягоныя жорсткія рэдактарскія стандарты: друкаваць толькі тое, у чым упэўнены. І калі Германчук сказаў, што інфармацыя пра загад у яго ад некалькіх крыніц —

значыць, адной Ігару было недастаткова і ён па сваіх каналах інфармацыю пераправяраў.

Добрага настрою гэтая вестка нам не дадала.

## Імкнёмся ўратаваць паэта Адамовіча

Праз два дні пасьля падпісаньня расейска-беларускага пагадненьня аб «супольнасьці», 4 красавіка арыштавалі паэта Славаміра Адамовіча. Нагодай стаў верш «Убей президента»; таксама яго абвінавацілі ў спробе пераходу дзяржаўнай мяжы. У абарону вязьня выступілі журналісты «Нашай нівы» і газэты «Свабода», а таксама некаторыя пісьменьнікі. Нам было вельмі дзіўна, што ніяк не адрэагавалі на яго зьняволеньне менскія дэмакраты-парлямэнтары.

Ні Пазьняк, ні я не зьяўляліся прыхільнікамі палітычных дзеяньняў Адамовіча. Асабіста для мяне быў непрымальны ягоны эпатажны, экзальтаваны стыль паводзінаў, які праўладная прапаганда лёгка выкарыстоўвала супраць усяго адраджэнцкага нацыянальнага руху. Прыкладам можа быць фільм «Дзеці хлусьні», які паказалі на тэлевізіі перад выбарамі і рэфэрэндумам вясной 95-га. Тады мне як прэсаваму сакратару БНФ давялося нават рабіць заяву, што БНФ ня мае палітычных кантактаў з групай Славаміра «Правы рэванш», якую часам называлі партыяй.

Але Славамір Адамовіч трапіў у турму за сваю творчасьць — і не было ніякіх прычынаў пакідаць яго сам-насам з рэжымам.

У сярэдзіне траўня мы з Пазьняком далі прэсавую канфэрэнцыю, на якой расказалі пра арышт



Славамір Адамовіч

Адамовіча і Рамашэўскага і заклікалі праваабарончыя арганізацыі распачаць кампанію ў іх абарону.

Але да нашай просьбы паставіліся неадназначна — да прыкладу, сусьветна вядомая арганізацыя Amnesty International адмовілася абараняць Адамовіча, як нам патлумачылі, на той падставе, што ў ягоным славутым вершы можна было пры жаданьні ўгледзець заклік да гвалту.

Па запрашэньні гданьскага філіялу Amnesty International у чэрвені я быў у Гданьску — цэнтральным пунктам праграмы была прэсавая канфэрэнцыя. Амаль усю яе я прысьвяціў Адамовічу, заклікаючы праваабаронцаў узьняць за яго голас. Газэта Głos надрукавала верш «Забі прэзыдэнта» ў перакладзе на польскую. Неўзабаве ад Сяргея Дубаўца стала вядома, што Адамовіч абвясьціў «сухую» галадоўку і ягоны стан на мяжы сьмерці.

Гэта было важкай нагодай для яшчэ аднаго спатканьня з паслом АБСЭ Одры Гловэр і пісьмова-

га звароту з просьбай зьвярнуць увагу эўрапейскіх палітыкаў. Я пісаў у тым лісьце:

*Шаноўная спадарыня Пасол! Вымушаны паведаміць вам, што беларускі паэт Славамір Адамовіч, які знаходзіцца ў турме КДБ вось ужо больш за два месяцы, восьмы дзень трымае «сухую» галадоўку, адмаўляючыся ад ежы і піцьця. Ён патрабуе зьмяненьня яму меры стрыманьня і вызваленьня з-пад варты. Рэдактар незалежнае газэты «Наша ніва» Сяргей Дубавец, які быў дапушчаны да Адамовіча, сьведчыць, што стан Адамовіча — на мяжы жыцьця і сьмерці. Адамовічу інкрымінуюць нелегальны пераход дзяржаўнае мяжы і стварэньне верша «Забі прэзыдэнта», прычым ні першае, ні другое сьледзтвам не даказана. Абсалютна відавочна, што няма ніякай неабходнасьці ўтрымліваць Славаміра Адамовіча пад вартай. Паважаная спадарыня Пасол, я прашу вас зьвярнуць увагу на сытуацыю Адамовіча, на лёсы дзясяткаў людзей, якія ўтрымліваюцца пад арыштам выключна з прычыны нязгоды з палітыкай Лукашэнкі.*

У той жа дзень я спаткаўся са спадарыняй Гловэр і прапанаваў ёй як афіцыйнай прадстаўніцы АБСЭ стварыць спэцыяльную Камісію АБСЭ для вывучэньня сытуацыі з правамі чалавека ў Беларусі з паўнамоцтвамі для ўдзелу яе сяброў у судовых працэсах.

Падобна, што ў тыя дні дэмакраты ў Беларусі зразумелі, што нельга вязьняў рэжыму дзяліць на «чыстых» і «нячыстых», — даволі хутка на Беларусі распачалася акцыя за вызваленьне ня толькі Славаміра Адамовіча, але і некалькіх грамадзянаў Украіны, якія бралі ўдзел у Чарнобыльскім шляху.

Украінцы з арганізацыі УНА-УНСО, сьцьвярджалі дзяржаўныя СМІ, перакулілі падчас Чарнобыльскага шляху міліцэйскую машыну і ўвогуле прыехалі ў Беларусь, каб «радыкалізаваць» пратэсты.

Што да тэмы радыкалізму ў палітыцы, дык, не адмаўляючы рашучасьці ў дзеяньнях, я з асьцярогай стаўлюся да прымяненьня сілы.

Вялікае ўражаньне зрабіла на мяне выстава ў касьцёле сьв. Станіслава Косткі, прысьвечаная сьвятару Ежы Папялушку. Ён служыў у гэтым касьцёле, быў капэлянам «Салідарнасьці», калі ў гады ваеннага становішча яна была вымушаная пайсьці ў падпольле. У кастрычніку 1984-га быў забіты супрацоўнікамі спэцслужбаў. Забойства Ежы Папялушкі было адной з галоўных тэмаў на хвалях замежных радыёстанцый, у тым ліку і Свабоды, якія вяшчалі на Савецкі Саюз, ды і ня толькі. Шукаючы ў войску тую ж Свабоду ці «Голас Амэрыкі», я пастаянна на іншых галасах чуў гэтае імя. Пакутніцкая сьмерць Папялушкі ўскалыхнула палякаў, на яго пахаваньне сабралася каля 800 тысяч чалавек.

У адзін з чэрвеньскіх, здаецца, дзён мы з Пазьняком былі на набажэнстве ў касьцёле сьв. Станіслава Косткі, прысьвечаным Папялушку. Прысутнічаў там і польскі прэм’ер-міністар, які пазнаў Пазьняка і павітаўся, а таксама маці і бацька Папялушкі. Мы схілілі галаву ля магутнага гранітнага крыжа, пад якім ляжыць чалавек, які зрабіўся сымбалем супрацьстаяньня камуністычнаму рэжыму.

У пачатку 80-х польская служба Радыё Свабодная Эўропа рэгулярна перадавала казаньні Папялушкі, і, хаця яны былі зьвернутыя да суайчыньнікаў і закраналі тагачасныя актуальныя падзеі, многія зь іх маюць унівэрсальны характар. «Ра-

бочыя ў жніўні 1980 году значна болей выступалі за свае маральныя пастуляты, чым за падвышэньне заработнай платы. Сусьветная супольнасьць была ўражаная тым фактам, што ў жніўні не было агрэсіі альбо гвалту, ніхто ня быў забіты альбо паранены, і што бачылася сувязь з рэлігіяй», — казаў Папялушка ў сьнежні 1983-га пра страйк, падчас якога ўтварылася «Салідарнасьць». Тады польскія ўлады не прымянілі сілы супраць удзельнікаў страйку, хаця такі варыянт разглядаўся. Поўны кантраст са страйкам на менскім мэтрапалітэне ў іншым жніўні, 1995-га, калі арганізатараў паклалі на асфальт амапаўцы. І, вядома, з падзеямі жніўня 2020-га, калі мірныя пратэстоўцы ў Менску і іншых гарадах былі сустрэтыя зброяй.

Але ёсьць і агульнае: у Менску сотні тысяч выйшлі з патрабаваньнем справядлівых выбараў — і сьвет быў уражаны мірным характарам пратэстаў.

...Андрэя Рамашэўскага асудзяць у ліпені 96-га на два гады пазбаўленьня волі з адтэрміноўкай на год і выпусьцяць на волю ў залі суду. Славаміра Адамовіча вызваляць толькі ў лютым наступнага, 1997 году, у выніку судовага рашэньня, якое дасьць яму 10 месяцаў пакараньня і палічыць, што на момант вынясеньня прысуду свой тэрмін ён ужо адбыў.

## Расплачваюся за легкадумства

Праз гады мне здаецца, што палітычныя клопаты займалі ўвесь мой час, але памяць падказвае і іншыя эпізоды. Здараліся і прыемныя, але часьцей іншага кшталту.

Аднойчы ў чэрвені, калі мы з Пазьняком вярталіся зь нейкай сустрэчы, зусім блізка ад нашага дому мяне працяў зубны боль. Рэзкі, колючы, нібыта хто забіў доўгі цьвік.

Перадапошні раз я быў у дантыста ў нашай раённай паліклініцы ва Ўруччы ці то ў канцы 92-га, ці то ў пачатку 93-га. Прыйшоў, бо балеў зуб. Чаргі не было, затое хапала лекараў: дзьве ці нават тры студэнткі-практыканткі. Мяркуючы па размове, яны зьбіраліся ўжо сыходзіць: здаецца, рыхтаваліся да нейкай студэнцкай вечарыны ці канцэрту. Дзяўчаты паглядзелі і сказалі, што трэба закладаць лекі, рабіць часовую плёмбу, потым нешта яшчэ іншае, словам, доўгая працэдура. «А карацей нельга?» — запытаўся я. «Карацей можна вырваць. Можа, сапраўды вам яго вырваць? Ён усё роўна ня ў лепшым стане».

Словам, мне стала шкада дзяўчатак, ды і зуб быў не пярэдні, нябачны: «Давайце!»

Праз хвіліну я пашкадаваў. Болю не было (удзячныя практыканткі замарозкі не пашкадавалі), але сілаў у дзяўчат не хапіла. Атрымалася толькі адарваць нейкі кавалак, затое крыві было... Папоркаўшыся яшчэ, адна вымавіла: «Ну што, будзем выклікаць Мажэйку?». «Будзем», — адказала другая і выйшла з кабінэту.

«Приведите Вия! Ступайте за Вием!» (Гогаль). Мне зрабілася страшна. Калі студэнткі пусьцілі гэтулькі крыві, што ж зробіць той, каго цяпер прывядуць?

Але аказалася, што калі і праводзіць літаратурную рэмінісцэнцыю, дык не зь містычным пэрсанажам, а з доктарам Айбаліцем.

Мажэйкам (прозьвішчы сваіх выратавальнікаў трэба памятаць) быў малады лекар, які меў куды больш моцныя рукі, чым у дзяўчат, і хруст, які я пачуў, працягваўся толькі сэкундаў пяць. За прыемны вечар, які, спадзяюся, у студэнтак адбыўся, яны мусяць быць удзячныя менавіта яму, бо за мной пацыентаў ужо не было.

Апошні ж раз я быў у дантыста ўвосень 93-га, калі мне паклалі нейкі лек (каб потым пакласьці плёмбу), але потым я так і не вярнуўся нешта там дарабляць, бо падзеі ў Маскве (канфлікт Ельцына і Вярхоўнага Савету скончыўся стралянінай па будынку парлямэнту) імгненна абвастрылі сытуацыю ў Беларусі. Мы спрабавалі дамагчыся ад Шушкевіча стварэньня кааліцыйнага ўраду (безвынікова), словам, было не да зуба, ды ён і не балеў.

Як правільна разумее чытач, да свайго здароўя я ставіўся безадказна (ды і што ў 35 гадоў можа балець? Хіба зуб), і гэта працягвалася яшчэ шмат гадоў, заўсёды знаходзілася нешта больш важнае. Безумоўна, гэта дрэнны прыклад.

Вось у Варшаве я ўпершыню адчуў расплату.

Прычым расплату ва ўсіх сэнсах.

Пазьняк сказаў, што варта зьвярнуцца да лекара, але я паспрабаваў ператрываць. Я заўважыў, што калі паласкаць зуб вадой, дык боль на нейкі час сьціхае.

Мы жылі ў невялікай двухпакаёўцы, якую зьнялі нам польскія сябры, у Пазьняка быў асобны пакой, а я месьціўся ў большым пакоі, які сумяшчаўся з кухняй. Таму набіраць у рот ваду ўначы я мог, не разбудзіўшы Пазьняка. Трымаў у роце ваду, потым глытаў яе, але бясконца такая працэдура па зразумелых прычынах цягнуцца не магла. Потым

я прыгадаў: нехта казаў, што, калі прыкласьці сала, боль пройдзе. Сала ў лядоўні было (прыгоды зь ім у нью-ёрскім аэрапорце я апішу пазьней), і яно сапраўды дапамагло. Неяк удалося заснуць.

У мяне так ужо здаралася: адзін дзень баліць, а на другі — нічога. Але гэтым разам не абышлося. Набыў у аптэцы анальгін, крыху палепшала, але потым пачалося з новай сілай.

Ужо ня памятаю, ці сам адшукаў у даведніку адрас дантыста параўнальна недалёка, ці нехта падказаў — але ўрэшце я туды дабраўся. Паглядзеўшы, лекар сказаў, што справы дрэнь, найперш трэба зрабіць рэнтгенаўскі здымак усіх зубоў і даў накіраваньне. Здымак трэба было рабіць у іншым мікрараёне. Праз дзень я вярнуўся ў офіс са здымкам. Вывучыўшы яго, дантыст сказаў нешта кшталту: пяць зубоў лячыць, сем — на выдаленьне. А магчыма, і наадварот — розьніца невялікая. З выдаленьнем я вырашыў пачакаць, папрасіўшы пачаць з таго, які балеў.

Да адлёту ў Лёндан я хадзіў (дакладней, езьдзіў на аўтобусе, а потым з кілямэтар ішоў пешшу) да зубнога лекара, як на працу. Але зрабіць тое, што трэба, пасьпеў толькі, здаецца, з двума зубамі — але яны зжавалі амаль усе мае злотыя, бо паслугі дантыста ў Польшчы (адрозна ад тагачаснай Беларусі) былі платныя і нятанныя (гэта я яшчэ ня ведаў амэрыканскіх расцэнак).

Пазьняк сказаў, што аплачваць майго лекара будзем з агульных грошай (у нас быў агульны бюджэт, пароўну). Я запрацівіўся, Пазьняк настойваў, сытуацыя пачала нагадваць нашую спрэчку перад паездкай на Чарнобыльскі шлях, калі ён быў супраць майго вяртаньня і мы моцна паспрачаліся).

Давялося пагаджацца, але я назваў меншую суму, чым заплаціў рэальна — бо ўсё ж то была мая асабістая віна, што запусьціў.

І тут, напэўна, варта перайсьці да тэмы фінансаў, бо ў чытача можа слушна ўзьнікнуць пытаньне: а за чый кошт Пазьняк і Навумчык жылі ва Ўкраіне, Польшчы, Вялікай Брытаніі, а затым і ў Амэрыцы?

А ў таго, хто добра памятае 1996-ы, яно абавязкова ўзьнікне, бо ён можа ўспомніць, што тады гаварыла лукашэнкаўская прапаганда.

Ад сяброў і знаёмых, зь якімі ўдавалася сустрэцца ў першыя гады эміграцыі, я чуў пра нейкія два мільёны даляраў, якія нібыта мы з Пазьняком атрымалі — ці то ад амэрыканскага ўраду, ці то ад ЦРУ, ці то ад Дзяржпэпу, ці то ад усіх разам. Сябры, якія гасьцявалі ў нас з Галяй у Празе ці ў Нью-Ёрку, бачылі, як мы жывём, і разумелі, што ніякімі мільёнамі і ня пахне. Некаторыя са знаёмых з рознай ступеньню далікатнасьці цікавіліся, ці праўда гэта.

І хоць прынята гаварыць, што прыстойнага чалавека чужыя грошы цікавіць не павінны, да даходаў палітыкаў ці публічных асобаў, пэўна, гэта не адносіцца.

Даю расклад па нашых фінансах у 1996 годзе — дакладны ў той ступені, наколькі яго памятаю, бо ніякіх фінансавых запісаў я ня вёў.

Калі мы ў сакавіку 1996 выехалі зь Менску, у нас з Галяй было 700 даляраў, у Пазьняка, здаецца, каля сотні. Больш у нас проста не было, ды і ехалі мы, як думалі, зусім не надоўга.

Перад ад’ездам з Кіева ў Прагу Вячаслаў Чарнавол даў нам тры тысячы даляраў — гэтыя грошы перадалі ягоныя сябры-бізнэсоўцы. Народны Рух

Украіны меў добрую фінансавую падтрымку ад украінскіх прадпрымальнікаў.

Такая пазыцыя ўкраінскіх бізнэсоўцаў мяне моцна ўразіла, а потым, праз гады, я прачытаў, якую моцную фінансавую падтрымку ад расейскіх бізнэсоўцаў мелі ў першай палове 90-х Гайдар і Яўлінскі.

Нічога падобнага ў нас у Беларусі не было. Ва ўсялякім разе, у дачыненьні да Народнага Фронту — пры тым, што менавіта парлямэнцкая апазыцыя БНФ распрацавала і прабіла ў Вярхоўным Савеце законапраекты для пераходу на рынкавую эканоміку. Хай і пакрэмзаныя парлямэнцкай большасьцю, але яны стварылі ўмовы для свабоднага прадпрымальніцтва, і сёньня тыя, хто пачынаў бізнэс да прыходу ва ўладу Лукашэнкі, успамінаюць пачатак 90-х як гады свабоды.

Слоў удзячнасьці тым, хто гэтага дамогся, вядома, не гучыць; удзячнасьць — ня самы моцны бок беларусаў. Калі спынілася дзейнасьць Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня, перасьлед былых дэпутатаў БНФ узмацніўся, іх ня бралі на працу (хаця закон гарантаваў ім працоўнае месца, раўназначнае таму, што было да выбраньня дэпутатам). Сяргей Антончык уладкаваўся ў нейкую фірму грузчыкам. Але калі ўладальнік даведаўся, што гэта «той самы Антончык», былы дэпутат, Сяргея звольнілі, і ён развозіў цялежкі ў супэрмаркеце.

Кажучы аб прадпрымальніках, я маю на ўвазе буйны і сярэдні бізнэс; дробныя, ці, як потым іх пачалі называць, індывідуальныя прадпрымальнікі, якія не маглі і марыць пра нейкія кантракты празь дзяржаўныя структуры, ставіліся інакш. Пару дзясяткаў чалавек і ў Менску, і ў рэгіёнах Фронту дапа-

магалі, але яны самі ледзь зводзілі канцы з канцамі, таму дапамога была нерэгулярная і вельмі сьціплая.

Я ніколі ня ўлазіў у фінансавыя справы БНФ, але бачыў, што ў фінансах мы вельмі абмежаваныя. Ніякага параўнаньня з партыямі Багданкевіча ці Карпенкі. Потым будуць гаварыць, што Фронту варта было стварыць уласныя СМІ, але за якія сродкі?

БНФ існаваў і дзейнічаў у асноўным дзякуючы складкам сваіх актывістаў. Усе акцыі (збор подпісаў за датэрміновыя выбары, за вылучэньне Пазьняка ў прэзыдэнты, выбары ў парлямэнт) актывісты праводзілі бясплатна. Выехаўшы за межы Беларусі, мы з Пазьняком ні капейкі не ўзялі з фронтаўскай касы (таму словы Юрася Хадыкі пра тое, што Фронту няма за што нас утрымліваць, моцна нас зьдзівілі, мы нават і падумаць не маглі зьвярнуцца па фінансавую дапамогу; але пра гэта ў свой час).

У Польшчы ніякай фінансавай падтрымкі ў выглядзе грошай мы ні ад кога ня мелі, у Лёндане брытанскія беларусы нам сабралі суму, эквівалентную дзьвюм тысячам даляраў, а ў Амэрыцы каля трох тысячаў даляраў — ахвяраваньні мясцовых беларусаў і дапамога з Фонду імя Крачэўскага.

Але важна, што нам не прыйшлося аплачваць жытло.

У Кіеве мы жылі ў актывістаў Руху, у Празе — у сяброў, ва Ўроцлаве — у кватэры-інтэрнаце грамадзкай арганізацыі, у Варшаве — спачатку некалькі начэй у гатэлях, потым нам з Пазьняком паплечнікі братоў Качыньскіх зьнялі двухпакаёўку. У Лёндане нас прытуліў у каталіцкай місіі айцец Надсан, у Амэрыцы першыя тыдні — у гатэлях за кошт арганізацыі, якая прымала, потым — у кватэры Андрусышыных (бацькоў Данчыка). Пасьля зьнялі




Зянон Пазьняк на пікеце ў Варшаве

кватэру, зь фінансавай падтрымкай дыяспары. Такая дапамога была вельмі важнай, безь яе нават не ўяўляю, як бы мы жылі той год.

Атрымліваецца каля васьмі тысяч даляраў на дзевяць месяцаў, калі разьлічыць да канца году

(сюды не ўваходзіць аплата жылльля ў Варшаве і ў Нью-Ёрку). Для Беларусі гэта былі вялікія грошы; для Польшчы, калі падзяліць на дваіх, нармальныя; для Амэрыкі — больш чым сьціплыя.

Ва ўсялякім разе, да цэнаў у прадуктовых крамах мы прыглядаліся, выбіралі недарагое. І калі ў кастрычніку з Мангэтану пераехалі ў Бруклін, былі ўзрадаваныя таннымі прадуктамі на Брайтане.

Гатаваў звычайна Пазьняк, які адразу зразумеў, што мае кулінарныя здольнасьці абмяжоўваюцца яечняй і варанай бульбай. Гэта тое, што я люблю больш за ўсё (а яшчэ маміны дранікі і катлеты), усё астатняе для мяне — гурманства, безь якога можна лёгка пражыць. Я ўвогуле не ўдзяляю асаблівай увагі ежы; не магу прыгадаць, чым вячэраў пазаўчора, тым больш ня ўспомню, што мы елі з Пазьняком чвэрць стагодзьдзя таму. Але Пазьняк гатаваў таксама нешта вельмі простае. Ня памятаю. Адзінае, што ён ніколі не сядаў за стол бяз хлеба і перад ядой звычайна выпіваў кубак гарбаты. Я ж бяз хлеба магу абысьціся (хаця і люблю адрэзаць скарынку чорнага і пасыпаць сольлю. Кажуць, што нездарова, затое смачна).

Ніводнай грыўні, ніводнай кроны, ніводнага злотага, фунта, даляра ад дзяржаўных установаў Польшчы, Чэхіі, Вялікай Брытаніі, ЗША мы не атрымалі. Не атрымалі мы і так званай «сацыяльнай дапамогі» (у Амэрыцы яе называюць адным словам — «вэлфэр»). Грошай, вядома, не хапала — гэта і будзе прычынай майго ад'езду з Амэрыкі ў лістападзе ў Чэхію, бо з другой паловы году мая жонка працавала ў праскім офісе Радыё Свабода. Але тут я ў сваім расповедзе ўжо забег наперад.

І ўсё ж, напэўна, у сучасным сьвеце палітыка ня можа ажыцьцяўляцца бяз грошай, а палітык наўрад ці атрымае посьпех безь фінансавай падтрымкі. На грошы завязана ўсё — ад збору подпісаў за вылучэньне дэпутатаў да рэклямныхролікаў на тэлевізіі і пастоў у сацыяльных сетках, і сумы, якімі апэруюць паліттэхнолягі, уражваюць. А вось дысыдэнцтва не патрабуе сродкаў. Патрабуе толькі вернасьці ўласным перакананьням.

Ну а зубны боль можна ператрываць.

## Палохаем консула Яе Вялікасьці

Нашае з Пазьняком становішча заставалася няпэўным.

Яшчэ ў красавіку ў Варшаве мы спаткаліся з прадстаўніцамі амэрыканскага фонду National Endowment for Democracy Надзяй Дзюк і Барбарай Гэйг, якія запыталіся, ці не хацелі б мы наведаць Злучаныя Штаты. Пазьняк адказаў, што такая паездка будзе мець сэнс толькі тады, калі адбудуцца сустрэчы з палітыкамі. Арганізаваць такія сустрэчы нам паабяцалі, і ў сярэдзіне чэрвеня з Вашынгтону прыйшло запрашэньне і праграма візыту. Да гэтага часу мы ўжо мелі запрашэньне зь Вялікай Брытаніі, ад айца Аляксандра Надсана, і таму ляцець у Вашынгтон вырашылі праз Лёндан. Мэта заставалася ранейшай — сустрэцца з палітыкамі, пераканаць палітычны істэблішмэнт Эўропы і Амэрыкі, што плян анэксіі Беларусі не часовая кампанія Крамля, а стратэгічная задача.

Але ўзьнікла праблема з брытанскімі візамі. І Пазьняку, і мне даводзілася раней бываць у Ан-

гліі, апошні раз — на запрашэньне парлямэнту, праз пасла Брытаніі ў Беларусі Джона Эвэрарда. Натуральна, што ў тых выпадках афармленьне візы было простай фармальнасьцю.

Наагул, яно не было б для нас праблемай і цяпер, але каб толькі праз пасольства на тэрыторыі Беларусі. Прыйшоўшы ў брытанскае консульства ў Варшаве, мы пабачылі абвестку, што візы выдаюцца толькі грамадзянам Польшчы альбо асобам, якія на тэрыторыі Польшчы пастаянна пражываюць. Мы не адносіліся ні да тых, ні да другіх.

Вырашылі патлумачыць сытуацыю супрацоўніку консульскага аддзела. Як вядома, у пасольствах такіх краінаў, як Вялікая Брытанія ці ЗША, прэтэндэнты на атрыманьне візы праходзяць так званую гутарку, і галоўная мэта консульскага чыноўніка — высьветліць, ці не зьбіраецца чалавек застацца потым у краіне каб, напрыклад, нелегальна працаваць. Альбо — што яшчэ больш страшна — папрасіць палітычнага прытулку.

У 1996 годзе ўжо мінулі тыя часы, калі заходнія палітыкі патрабавалі ад Крамля падняць «жалезную заслону» і дазволіць пакінуць СССР усім, хто гэтага пажадае. Пачынала фармавацца іншая заслона — краіны Заходняй Эўропы, не кажучы пра ЗША, імкнуліся зьвесьці да мінімуму паток эмігрантаў з рэспублік былога СССР і рабілі сваё эміграцыйнае заканадаўства ўсё больш жорсткім. Асабліва гэта тычыцца Вялікай Брытаніі — запаўняючы візавую анкету, ты мусіш адказаць на дзясяткі пытаньняў, зь якіх яшчэ не самае цяжкае такое: «Дайце доказы, што вы не зьбіраецеся застацца ў Злучаным Каралеўстве».

Размова з чыноўнікам консульскага аддзела была своеасаблівай. Спачатку ён прапанаваў нам зьвярнуцца па візу ў брытанскую дыпляматычную місію ў Менску.

Пасьля таго, як Пазьняк патлумачыў, што мы ня можам ехаць па візу ў Менск, бо на мяжы нас чакае арышт, чыноўнік зьмяніўся ў твары. У такіх выпадках часам ужываюць выраз «у яго пашырыліся вочы», але ён толькі часткова адлюстраваў бы зьмены ў міміцы. У консула, здавалася, зьмяніўся ўвесь твар.

Словы Пазьняка азначалі, што візу нам нельга даваць ні ў якім разе, бо раптам пажадаем застацца ў Брытаніі.

Наступная фраза Пазьняка — што мы не зьбіраемся прасіць палітычнага прытулку ў Англіі — яшчэ больш зьбянтэжыла чыноўніка. Перад ім былі людзі, якія не жадаюць пасяліцца ў такой цудоўнай краіне, хоць патэнцыйна маглі б гэта зрабіць.

Прызнацца, у мяне пасьля блізкага знаёмства з консульскімі традыцыямі Альбіёна памалу пачало зьнікаць жаданьне ехаць туды нават у якасьці госьця. Бедны чыноўнік ня ведаў, што яму рабіць: з аднаго боку, ён бачыў, што перад ім людзі, якія ўжо наведвалі Брытанію па вельмі высокіх запрашэньнях, а з другога — дзейнічала інструкцыя, паводле якой нашую просьбу ён не павінен нават прымаць да разгляду.

Акрамя ўсяго іншага, тэрмін, а лепей сказаць, паняцьце «лідэр апазыцыі» ў Вялікай Брытаніі — гэта ня лідэр апазыцыі ў Беларусі, якога кіраўнік дзяржавы і дзяржаўныя СМІ прадстаўляюць у злавесным абліччы. Выраз «апазыцыя Яе Вялікасьці» азначае не канфрантацыйнае стаўленьне да манар-

ха, а якраз прыналежнасьць да дзяржаўнай герархіі. Ценявых прэм'ера і міністраў рэгулярна інфармуюць пра сытуацыю ў краіне ў аб'ёме, дастатковым для таго, каб у любы момант у выніку выбараў яны маглі замяніць дзейны ўрад.

Імаверна, консул пралічваў і варыянт магчымага скандалу ў выпадку, калі б лідэру беларускай апазыцыі было адмоўлена ў брытанскай візе. Але калі б гэты лідэр папрасіў прытулку ў Брытаніі, яго, консула, не пахвалілі б за ініцыятыву.

Дыплямат папрасіў прабачэньня за непрыемныя пытаньні і сказаў, што праблема мае палітычнае адценьне, таму самастойна ён яе вырашыць ня можа і будзе кансультавацца зь Лёнданам.

Ужо пазьней мы даведаліся, што вырашальным фактарам для брытанскага консуляту стала наяўнасьць у нашых пашпартах амэрыканскай візы. На прыёме ў амбасадзе ЗША ў Варшаве з нагоды Дня Незалежнасьці Галі сказалі, што мы зь Пазьняком можам не хвалявацца — амэрыканцы папрасілі брытанцаў, каб візы нам далі.

## Шарэцкі заклікае прыехаць і абмеркаваць

У ноч з 20 на 21 чэрвеня адбылася падзея, якая была першай у сьпісе таго, што я б назваў індывідуальным тэрорам. Пабілі жонку журналіста Юрыя Дракахруста.

Юры ўваходзіў у склад Аргкамітэту БНФ, выбранага на гістарычным паседжаньні ў Чырвоным касьцёле 19 лістапада 1988-га, дапамагаў Пазьняку на выбарах у Вярхоўны Савет у 90-х, потым адышоў ад актыўнай палітыкі ў палітычную аналіты-

ку. Юры публікаваў аналітычныя артыкулы, якія ніяк не маглі спадабацца Лукашэнку (напрыклад, з нагоды станоўчых ацэнак кіраўніком Беларусі Гітлера, дадзеных у інтэрвію нямецкай газэце). Галіна была сацыёлягам, часам выступала ў суаўтарстве з мужам.

Напад быў сплянаваны: Юры ў тыя дні знаходзіўся ў службовай выправе ў Польшчы, і ўначы двое невядомых праніклі ў кватэру і моцна пабілі Галіну. Пры гэтым ніякіх рэчаў з кватэры не забралі. Ніякіх ворагаў у сфэры, якую прынята называць крымінальным сьветам, у Галіны не было; ніякай камэрцыяй ні яна, ні Юра не займаліся (у тыя гады «першапачатковага станаўленьня капіталізму» існавала практыка сілавога ціску на канкурэнтаў альбо выбіваньня пазык).

Гэта была, безумоўна, помста, а яшчэ і папярэджаньне — ня толькі Юрыю Дракахрусту, але і ўсім супрацоўнікам незалежнай прэсы. Нападнікаў не знайшлі. Калі ўвогуле шукалі.

У тыя ж дні, адказваючы на пытаньне газэты «Народная воля», Пазьняк сказаў, што мы не зьбіраемся прасіць палітычнага прытулку.

Такі варыянт намі разглядаўся ў Варшаве, хоць і гіпатэтычна. Але тады нам здалося, што напружанасьць вакол нас будзе сьціхаць. Акрамя таго, мы чакалі, што дэмакратычныя дэпутаты ў Вярхоўным Савеце паспрабуюць дамагчыся афіцыйнага адказу наконт загаду пра нашае затрыманьне на мяжы. З дэпутацкім запытам аб гэтым загадзе зьвярнуліся Станіслаў Багданкевіч, Людміла Гразнова і Аляксандар Дабравольскі.

Галя, якая тады была акрэдытаванай журналісткай у Вярхоўным Савеце, падышла з просьбай

падтрымаць запыт і да Віктара Ганчара. А ў адказ пачула: «Галя, ці ня праўда, у мяне прыгожы гальштук?» Больш жонка да Ганчара з падобнымі просьбамі не зьвярталася.

…Атрымаецца так, што Галя зробіць з Ганчаром, напэўна, апошняе ў ягоным жыцьці інтэрвію. У верасьні 1999-га яна працавала ўжо на тэлевізіі ў Нью-Ёрку і патэлефанавала яму ў Менск: «Мы запісалі інтэрвію ў студыі, а потым я вярнулася на сваё працоўнае месца і перазваніла. Сказала, што сытуацыя дрэнная і, магчыма, яму варта падацца ўсьлед за намі. „Галя, ты што? Ён не асьмеліцца са мной нешта зрабіць. Бо ўвесь сьвет падымецца на вушы“. Назаўтра Ганчар прапаў. Я зрабіла для нашага эфіру (гэта было этнічнае тэлебачаньне) інфармацыю, амэрыканская прэса маўчала».

Яшчэ ў Варшаве да нас дайшлі нумары штотыднёвіка «Имя». У адным на ўсю паласу быў каляж, дзе мы з Пазьняком у скафандрах касманаўтаў перад стартам ракеты, з подпісам «Поехали!». У другім было інтэрвію, якое Пазьняк даў Ірыне Халіп.

Пытаньні былі сфармуляваны даволі спэцыфічна: «Як доўга вы будзеце знаходзіцца ў вымушанай эміграцыі і ці сапраўды яна вымушаная?», «Як вы расцэньваеце шматлікія выказваньні пра тое, што эміграцыя на самой справе — ня што іншае, як уцёкі?» і гэтак далей. Было пытаньне і пра мяне: «Чаму разам з вамі знаходзіцца Сяргей Навумчык, пра перасьлед якога размова не ідзе і сёньняшні статус якога не нагэтулькі значны, як ваш альбо выканаўцаў абавязкаў кіраўніка БНФ Баршчэўскага і Беленькага?»

Адчуваньне было, што пытаньні фармулюе не беларуская журналістка, а, напрыклад, маскоўская,



Гэты фотамантаж у газэце «Имя» мы ўспрынялі як правакацыю

якая не сачыла за падзеямі, ня ведае ні пра гістэрыку Лукашэнкі пасьля таго, як спэцслужбам не ўдалося затрымаць лідэра БНФ на Чарнобыльскім шляху, ні пра ціск на маіх блізкіх з мэтай высьветліць, дзе я хаваюся, ні, нарэшце, пра загад камандуючага памежнымі войскамі затрымаць нас абодвух. Пра ўсё гэта пісала самая папулярная незалежная газэта «Свабода», пра некаторыя эпізоды паведамляла «Белорусская деловая газета», у якой быў агульны з газэтай «Имя» выдавец Пётра Марцаў, і рэдакцыі месьціліся на адным паверсе.

Інтэрвію займала цэлую паласу, яно было аздоблена шаржам і двума фатаздымкамі. Адзін з гэтых здымкаў надзвычай Пазьняка зьдзівіў. На ім лідэр БНФ і Ельцын удвух нешта абмяркоўвалі. А ўразіў таму, што ніколі ў жыцьці Пазьняк зь Ельцыным ня гутарыў. У сьнежні 1991-га, перад Віскулямі,

Ельцын наведаў Авальную залю і выступаў, праз два тыдні Пазьняк у складзе дэлегацыі прысутнічаў на сустрэчы лідэраў рэспублік былога СССР у Алма-Аце — але ні пры якіх абставінах Пазьняк не знаходзіўся каля Ельцына бліжэй, чым за некалькі мэтраў.

Гэта быў яўны фотамантаж, зроблены зь невядомай нам мэтай. Імкненьне неяк падтрымаць лідэра БНФ выключалася: газэта ставілася да БНФ, мякка кажучы, без асаблівых сымпатый. Хутчэй за ўсё, мэта была адваротная. Магчыма, што ініцыятары мантажу разьлічвалі, што мы самі альбо нашыя паплечнікі ў Менску неяк пачнём выкарыстоўваць гэтае фота для ўзьняцьця палітычнай вагі Пазьняка — а потым зьявіцца публікацыя, якая раскрые карты і пакажа, як лёгка і танна лідэры БНФ «купіліся». Мы патэлефанавалі ў Менск у Фронт і папрасілі ніколі і нідзе не выкарыстоўваць гэтае фота. Наколькі мне вядома, больш яно нідзе не друкавалася.

Чым бліжэй быў момант адлёту ў Лёндан, тым мацнейшым рабілася жаданьне вярнуцца ў Менск. Пасьля ЗША мы плянавалі зноў правесьці дзесяць дзён у Лёндане, а затым вярнуцца ў Варшаву. Зваротны квіток зь Лёндану быў на 26 ліпеня. Мы меркавалі, што ў той жа дзень пасьпеем на вячаровы цягнік на Менск, каб назаўтра узяць удзел у шэсьці, прысьвечаным дню прыняцьця дэклярацыі аб сувэрэнітэце, які тады (аказалася, апошні раз) адзначаўся як дзень Незалежнасьці (Дэклярацыя аб дзяржаўным сувэрэнітэце была прынятая 27 ліпеня 1990 году, юрыдычна ж незалежнасьць была абвешчаная 25 жніўня 1991-га). І пра гэты

варыянт мы папярэдзілі некаторых паплечнікаў у Народным Фронце.

Сытуацыя у Менску рабілася ўсё больш трывожнай. Было зразумела, што парлямэнт здае прэзыдэнту адну пазыцыю за другой. Перад адлётам у Лёндан мы напісалі адкрыты ліст да Сямёна Шарэцкага:

*Паважаны спадар Старшыня.*

*Дзеяньні прэзыдэнта Лукашэнкі, сыстэматычнае і грубае парушэньне ім законаў, Канстытуцыі і правоў чалавека сталі небясьпечнымі для грамадзтва і існаваньня беларускай дзяржавы. Яны выклікалі ў краіне ўсеагульны крызіс, пагражаюць існаваньню і жыцьцю людзей.*

*Вярхоўны Савет як вышэйшы заканадаўчы орган улады надзелены канстытуцыйным правам кантролю і выпраўленьня антыпраўнага становішча шляхам зьмяшчэньня прэзыдэнта з пасады ў выпадку парушэньня ім Канстытуцыі, альбо калі ён зрабіў злачынства, альбо па стане здароўя. Усе тры прычыны маюць месца. Прытым грубае парушэньне Канстытуцыі адзінаццаць разоў доказана Канстытуцыйным Судом.*

*Улічваючы сказанае, просім Вас, спадар Старшыня:*

*— адчуць адказнасьць за лёс Беларусі, свой абавязак перад Канстытуцыяй і выступіць з ініцыятывай законнага зьмяшчэньня з пасады прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь грамадзяніна Лукашэнка Аляксандра Рыгоравіча;*

*— ініцыяваць стварэньне спэцыяльнай мэдыцынскай камісіі на прадмет экспэртызы аб стане здароўя прэзыдэнта;*

*— стварыць спэцыяльную камісію Вярхоўнага Савету для расьсьледаваньня злачынства — выкарыстаньня прэзыдэнцкай пасады А.Р.Лукашэнкам дзеля кантрабанднай дзейнасьці сумесна зь фірмай «Торгэкспо» і дзеля гандлю зброяй.*

*Вярхоўны Савет, як і іншыя органы і суб'екты ўлады, абавязаны выконваць законы, Канстытуцыю і несьці адказнасьць за зьнешнюю і ўнутраную палітыку краіны. На жаль, гэтай адказнасьці не было. Але яшчэ засталіся шанцы і магчымасьці рэабілітаваць сябе перад народам.*

*З павагай — Зянон Пазьняк, старшыня БНФ «Адраджэньне»,*

*Сяргей Навумчык, член Беларускага Хэльсынскага камітэту, сябра Сойму БНФ.*

*24.06.1996 г.*

Было ў нас з Пазьняком спадзяваньне, што, магчыма, новыя дэпутаты разварушацца.

Ужо ў Лёндане, злавіўшы хвалі Радыё Свабода, мы даведаліся, што ліст Шарэцкаму быў перададзены. І што ў адказ сьпікер параіў нам прыехаць у Беларусь і абмеркаваць сытуацыю зь ім асабіста.

Зь Сямёнам Георгіевічам мы і сустрэнемся, і падрабязна пагаворым пра падзеі 1996-га, але гэта будзе тады, калі ён сам апынецца ў эміграцыі.

Перад адлётам у Лёндан зь Менску прыйшла сумная вестка: Вярхоўны Савет узаконіў вынікі праведзенага Лукашэнкам у траўні 1995 году рэфэрэндуму. Вярхоўны Савет папярэдняга, 12-га, скліканьня гэтага не рабіў. Мы ў Фронце, аднак, працягвалі лічыць той рэфэрэндум нелегітымным. А Пазьняк узяў з сабой у падарожжа франтаўскі бел-чырвона-белы сьцяг з нашытым крыжам.

## Упершыню дакранаюся да слуцкіх паясоў

Тыдзень у Лёндане на пачатку ліпеня 96-га быў спатканьнем зь Беларусьсю.

У аэрапорце Гітроў, разглядаючы нашыя з Пазьняком пашпарты, памежны афіцэр дапытваўся, зь якой мэтаю мы прыляцелі ў Вялікую Брытанію і ці не зьбіраемся тут застацца. Не, не зьбіраемся. Хоць і была ў Лёндане мясьціна, дзе жыла Беларусь.

Сустракалі нас у аэрапорце Гітроў сьвятары — айцец Аляксандар Надсан, апостальскі візытатар для беларусаў-каталікаў замежжа, і айцец Зьміцер (Беленькі). У тыя дні айцец Надсан рыхтаваў чарговую партыю мэдыкамэнтаў для адпраўкі ў чарнобыльскую зону.

Беларуская ўніяцкая царква месьціцца ў лёнданскім раёне Фінчлі. Місія на той час мела чатыры дамы (калісьці Васіль Быкаў назваў іх «беларускай калёніяй»), у адным зь іх — бібліятэка імя Скарыны. У калёніі гэтай мне ўжо даводзілася гасьцяваць разам з Аляксандрам Лукашуком і кінарэжысэрам Юрыем Гарулёвым у калядныя дні на мяжы 1991 і 1992 гадоў. За чатыры гады нічога не зьмянілася У бібліятэцы — тысячы тамоў, багата рарытэтных выданьняў. Тут жа невялікі музэй, кожны экспанат якога — нацыянальная каштоўнасьць.

З хваляваньнем бярэш у рукі кнігу, якую трымаў пры сабе ў сталінскім лягеры Максім Гарэцкі. Ёсьць у музэі пры бібліятэцы і яшчэ адзін экспанат, зьвязаны з ГУЛАГам — роба Ларысы Геніюш зь лягерным нумарам. Пабачылі мы і пашпарты БНР.

Тут жа захоўваюцца і фрагмэнты слуцкіх паясоў — айцец Надсан купіў іх у Нью-Ёрку ў антыкварнай краме. Гаспадар крамы, каб узяць паболей

грошай, разрэзаў паясы на некалькі кавалкаў. Але і ў такім выглядзе яны зьяўляюцца надзвычайнай каштоўнасьцю. Я сказаў тады айцу Надсану, што калі б беларускі ўрад дбаў пра нацыянальную спадчыну, дык знайшоў бы сродкі і выкупіў бы некалькі паясоў на аўкцыёнах, дзе яны час ад часу зьяўляюцца. На гэта Надсан сумна ўсьміхнуўся і зазначыў, што на яго ўражаньне, да нацыянальнай спадчыны лукашэнкаўскае кіраўніцтва ставіцца значна горш, чым колішняе камуністычнае.

Эмацыйным было спатканьне ў «беларускай калёніі» зь сябрамі Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі. На працягу больш як дзьвюх гадзінаў мы з Пазьняком адказвалі на пытаньні брытанскіх беларусаў.

Вось як прыгадваў тыя дні айцец Надсан на хвалях Радыё Свабода вясной 97-га:

*Зянона Пазьняка мы ўсе вельмі паважаем, і мы глядзелі зь вялікім зацікаўленьнем і з павагай на тое, што ён рабіў у Беларусі. Паважаем яго за беларускі патрыятызм, за ягоную адданасьць усяму беларускаму. Сапраўды, ён шмат зрабіў. Нам было прыемна зь ім сустрэцца і цікава паслухаць. А з другога боку, было сумна, што сустрэча адбываецца пры такіх абставінах, калі ён ужо быў палітычным уцекачом зь Беларусі. Калі Беларусь атрымала сваю незалежнасьць, у 1991 годзе, мы мелі шмат спадзяваньняў. І нам ніколі ў галаву б не прыйшло, што Беларусь стане адзінай краінай у Эўропе, адкуль ёсьць палітычныя ўцекачы і дзе ёсьць палітычныя вязьні. Дай Бог, каб гэта доўга не трывала.*

Праз два дзесяцігодзьдзі, вясной 2015-га, разам са старшынёй Рады БНР Івонкай Сурвілай мы ў Лёндане будзем разьвітацца з айцом Надсанам —

і Беларусь, для якой ён гэтулькі зрабіў і якую так моцна любіў, усё яшчэ ня будзе свабоднай...

На жаль, у той наш з Пазьняком прыезд мы ўжо не пабачылі Янку Міхалюка, зь якім я кожны раз спатыкаўся, калі быў у Лёндане. Доўгі час спадар Міхалюк узначальваў Згуртаваньне беларусаў Вялікай Брытаніі, але апошнія гады прайшлі ў змаганьні зь цяжкай хваробай, і больш году назад прыйшла вестка аб яго сьмерці. Сыны Янкі Міхалюка атрымалі адукацыю, абзавяліся сем'ямі, разьехаліся (адзін зь іх працаваў нават у Афрыцы), але дасылалі спадарыні Алене Міхалюк усе артыкулы ў прэсе, дзе згадваецца Беларусь (інтэрнэту тады не было). Пасьля сьмерці мужа спадарыня Алена пераехала да дзяцей у Манчэстэр і пазьней доўгі час узначальвала Згуртаваньне беларусаў Вялікай Брытаніі.

А ў ліпені 1996 году старшынём Згуртаваньня быў Васіль Еўдакімаў — прадстаўнік новага пакаленьня эміграцыі.

Прыемна было нам спаткацца і з прафэсарам Джымам Дынглі, які багата зрабіў для папулярызацыі беларускай літаратуры ў Брытаніі. Спадар Дынглі ажаніўся зь беларускай, выпускніцай філфаку БДУ, зь якой у мяне знайшлося шмат агульных знаёмых па ўнівэрсытэцкіх гадах.

Яшчэ нядаўна ў брытанскіх беларусаў былі добрыя стасункі зь беларускай амбасадай — пачатак быў закладзены, калі паслом працаваў Уладзімер Сянько, а консульскія функцыі выконваў Алег Якавіцкі. На пачатку дзевяностых гадоў Беларусь заяўляла пра сабе ў Эўропе як дэмакратычная дзяржава, дыпляматы імкнуліся да кантактаў зь бела-

рускай дыяспарай. І гэта знаходзіла разуменьне ў прадстаўнікоў дыяспары.

Некалькі гадоў беларуская амбасада ў Лёндане займала будынак, які належаў спадару Янку Даменіку — аднаму з найбольш актыўных дзеячоў беларускай дыяспары ў Вялікай Брытаніі (ён памёр незадоўга да нашага прыезду). Спадар Дамінік прапанаваў гэты дом амбасадзе бясплатна — пры тым, што арэнда нерухомасьці ў Лёндане каштуе вялікіх грошай. Для спадара Дамініка, сапраўднага патрыёта сваёй Бацькаўшчыны, самай вялікай узнагародай было тое, што над будынкам лунае бел-чырвона-белы сьцяг. Адзіная ўмова, якую выставіў спадар Дамінік, — каб беларускія дыпляматы ў сьценах амбасады размаўлялі па-беларуску.

Невядома, на якой мове насамрэч размаўлялі дыпляматы ў тых сьценах, але адразу пасьля рэфэрэндуму 1995-га бел-чырвона-белы сьцяг над будынкам замянілі на чырвона-зялёны. Спадар Дамінік папрасіў місію вызваліць памяшканьне, бо, як патлумачыла мне ягоная жонка Тамара, «не жадаў падтрымліваць антыбеларускі рэжым».

У свой час у БНФ зрабілі два бел-чырвона-белыя сьцягі з накладзенай аплікацыяй крыжа. Адзін застаўся ў Менску, другі Пазьняк меў пры сабе. Айцец Надсан асьвяціў гэты сьцяг.

У дні нашага знаходжаньня ў Лёндане кантакты зь беларускай амбасадай у прадстаўнікоў дыяспары былі зьведзеныя да мінімуму — штат супрацоўнікаў амбасады зьмянілі, пайшоў у адстаўку і Алег Якавіцкі.

Але ўжо каля двух гадоў у беларускім пасольстве ў Лёндане на дыпляматычнай пасадзе працавала Вольга Галубовіч — ня толькі дэпутатка



Айцец Аляксандар Надсан асьвячае сьцяг БНФ ва ўніяцкай беларускай царкве ў гонар сьвятых Пятра і Паўла ў Лёндане

Вярхоўнага Савету 12-га скліка624ньня, але і сябра Апазыцыі БНФ. Я быў знаёмы зь ёй яшчэ да нашага выбраньня ў Вярхоўны Савет — Вольга працавала загадчыцай аддзелу газэты «Чырвоная зьмена», а я ў часопісе «Вожык», рэдакцыі былі побач. На выбары ішла пры падтрымцы Народнага Фронту. Першы час Вольга Галубовіч была актыўнай

дзяячкай апазыцыі, гэта яна ў Авальнай залі пад бел-чырвона-белым сьцягам разам з Пазьняком і Голубевым на вядомым фатаздымку 24 жніўня 1991-га, у першыя хвіліны Сэсіі Незалежнасьці. Але пазьней, ужо пасьля паступленьня ў дыпляматычную акадэмію, Вольга адышла ад дзейнасьці Фронту, не падпісвала заяваў апазыцыі. Ну што ж, мы з разуменьнем ставіліся да гэтага — кожны мае права на ўласны выбар.

Па прылёце ў Лёндан мы з Пазьняком раіліся з айцом Надсанам — можа, варта ёй пазваніць, запрасіць на сустрэчу? Усё ж такі некалькі гадоў правялі разам у Вярхоўным Савеце. Але вырашылі, што, магчыма, ёй будзе такі званок непрыемны — бо можа нэгатыўна паўплываць на яе кар'еру. Не хацелася псаваць жыцьцё былой паплечніцы. Айцец Надсан сказаў, што ў беларускім пасольстве ведаюць пра наш прыезд і, калі Галубовіч пажадае спаткацца, яна сама нас знойдзе.

Але званка так і не было.

## Эўропа гатовая прыняць Лукашэнку

У Міністэрстве замежных спраў Вялікай Брытаніі нас чакаў сюрпрыз — сустрэча з Іванам Антановічам.

*З 3 па 6 ліпеня Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык знаходзіліся ў Вялікай Брытаніі. Яны былі прынятыя кіраўніком Усходняга дэпартамэнту зьнешнепалітычнага ведамства Франсам Рычардсам. Лідэры БНФ пацьвердзілі сваю ранейшую пазыцыю, што Беларусь павінна быць прынятая ў Раду Эўропы, пры гэтым неабходна стварыць спэцыяльную*

*камісію для кантролю за выкананьнем правоў чалавека ўладамі Беларусі. Прадстаўнікі Народнага Фронту лічаць, што свае адносіны зь Беларусьсю Захад мусіць будаваць найперш праз парлямэнцкія структуры, дэмакратычныя партыі і грамадзкія арганізацыі. Пры гэтым была зьвернутая ўвага на неабходнасьць пазаўрадавай дапамогі незалежнай беларускай прэсе і пашырэньню праграмаў студэнцкіх стажыровак у Вялікай Брытаніі* (З паведамленьня прэс-цэнтру БНФ, ліпень 1996).

Як можа заўважыць чытач, хоць ніводнага прадстаўніка БНФ у новым Вярхоўным Савеце не было, мы вылучалі парлямэнцкія структуры ў якасьці прыярытэту.

Празь некалькі хвілінаў пасьля пачатку гутаркі гаспадар прапанаваў нам каву і мы селі ля часопіснага століка. Акрамя кубкаў для кавы, на паліраванай паверхні століка не было нічога. Але пасярэдзіне ляжала візытоўка. «Іван Іванавіч Антановіч, намесьнік міністра замежных справаў, доктар філязофіі», — было пазначана на ёй.

Мы ўсё зразумелі.

Яшчэ ў Варшаве нам з Пазьняком давялося пабачыцца з Іванам Іванавічам на канфэрэнцыі, прысьвечанай праблеме пашырэньня NATO. Сваю прамову Антановіч пачаў з паведамленьня, што гэта ён, Антановіч, дапамагаў Міхаілу Гарбачову распачынаць дэмакратызацыю і перабудову, вырываць краіну з абдымкаў кансэрватараў. Што няма ў гэтай залі чалавека, які б быў больш за яго зацікаўлены ў дэмакратызацыі Ўсходняй Эўропы. Выступаў ён так эмацыйна, выглядаў нагэтулькі расчулена, што, здавалася, сам пачынаў верыць у свае словы. І ў слухачоў не павінна было ўзьнікнуць сумневу,

што ён сапраўды быў з дэмакратамі, з Сахаравым ды Афанасьевым (а не на пасадзе сакратара па ідэалёгіі ЦК расейскіх камуністаў, які якраз і супрацьстаяў Гарбачову).

«Вось пабачыш, — сказаў мне тады Пазьняк, — Антановіч будзе езьдзіць за намі па ўсім сьвеце і спрабаваць абвергнуць усё, што мы гаворым».

Так яно потым і адбывалася — у Лёндане Антановіч нас нават апярэдзіў на некалькі дзён. Што дало мне задавальненьне зрабіць пастскрыптум да ягонага візыту, расказаўшы аднаму з кіраўнікоў брытанскай дыпляматыі пра некаторыя эпізоды палітычнай біяграфіі «доктара філязофіі» (удакладненьня, што філязофія была марксісцка-ленінская, уладальнік візытоўкі на ёй, на жаль, не зрабіў).

На жаль, не выпадала запытацца ў брытанскага дыплямата, ці здолеў доктар філязофскіх навук і аўтар кнігі «Социальная патология капитализма» (1974) Іван Антановіч уцягнуць яго ў сьветапоглядную дыскусію. А калі здолеў, то ў якой ступені быў шчырым, а ў якой — дыпляматычным? З Алесем Адамовічам ён быў гранічна адкрыты, заявіўшы, як успамінаў пісьменьнік, што калі сьвет загіне ў ядзерным канфлікце і на плянэце застанецца толькі адзін чалавек, важна, каб гэты адзін быў савецкім чалавекам.

Пэўна ж, наўрад ці Антановіч гаварыў брытанскаму дыплямату і тое, пра што заявіць у інтэрвію Радыё Свабода праз 20 гадоў, у 2016-м: што ў Беларусі не было патрэбы ў незалежнасьці і распад СССР — трагедыя.

У брытанскім замежнапалітычным ведамстве нас запэўнілі, што Лёндан зацікаўлены, каб Беларусь была незалежнай і дэмакратычнай краінай.

Брытанскія беларусы пыталіся, ці не зьбіраемся мы прасіць у Лёндане палітычнага прытулку. Мы адказвалі, што гэткай мэты ня маем, а вось зрабіць у Брытаніі нешта кшталту штаб-кватэры былі б ня супраць. Праўда, цалкам выключалася яе разьмяшчэньне ў айца Надсана — паводле статусу, рэлігійная місія ня можа займацца палітычнай дзейнасьцю. Але ў місіі можна было спыніцца на нейкі час, што пры нашых вельмі абмежаваных фінансавых магчымасьцях (а лепш сказаць — поўнай адсутнасьці сродкаў) было істотна.

Мы дамовіліся з айцом Надсанам, што пасьля выкананьня «амэрыканскай» праграмы вернемся ў Брытанію на нейкі час, каб закласьці інфармацыйны палітычны цэнтар, тым болей што брытанскую візу нам далі шматразовую і на паўгода.

Расклад меркаваўся такі: мы плянавалі, што 7–17 ліпеня будзем у ЗША, потым — Лёндан, пасьля — зноў Варшава. Ня кажучы пра гэта нават блізкім, мы з Пазьняком пачыналі рыхтавацца да таго, каб вярнуцца ў Менск.

Нагоду і дату вызначаў палітычны каляндар: 27 ліпеня, Дзень Незалежнасьці.

## Лукашэнка называе нас «ворагамі народу»

«Прывітаньне, «вораг народу»! — сказаў мне сябра, якому я патэлефанаваў у Менск, каб павіншаваць з днём народзінаў.

Тэлефонныя званкі праз акіян каштавалі вельмі дорага, мы размаўлялі ня больш за хвіліну, і я не надаў такому звароту ніякага значэньня, палічыўшы жартам. Зрэшты, ён і быў жартам.

Але хутка высьветлілася, што гэта была цытата і ў арыгінале яна мела зусім не жартаўлівы зьмест.

У пачатку ліпеня, перад візытам у Парыж, Лукашэнка сустрэўся з кіраўнікамі дзяржаўнай прэсы і падзяліўся зь імі сваім разуменьнем палітычнай апазыцыйнай дзейнасьці. Размову трансьлявалі па тэлевізіі і радыё, яе надрукавалі ўсе вядучыя дзяржаўныя газэты.

*Если в любом государстве оппозиция начинает действовать против народа, на подрыв государственности, на осложнение и так непростой ситуации в государстве, это не оппозиция, это враги этого народа и этого государства.*

*Тут можно и критиковать президента, власть, но можно их нещадно бить. Но извините, когда ты вояжируешь по заграницам и вообще создаёшь там какой-то антипрезидентский, антигосударственный пункт, откуда ты начинаешь давить на власть, давить на отдельных людей, нагнетаешь обстановку в республике за счёт поддержки других там отдельных государств и служб, то это уже не оппозиция.*

Такім чынам — «не оппозиция», а «враги этого народа и этого государства».

Упершыню за паўстагодзьдзя фраза «ворагі народу» была вымаўлена з асуджальным адценьнем — так, як яна вымаўлялася Сталіным, як фармулявалася сьледчымі НКВД, як запісвалася ў прысудах «троек» — перад тым, як гэтыя ворагі народу зьнікнуць у Курапатах ці ў ГУЛАГу.

*Сколько усилий было сделано этими позняками и наумчиками, чтобы не пустить Лукашенко в Европу. Но, поверьте, построить барьер между Беларусью и Западом этим господам не удастся.*

*Свидетельство этому — мой визит во Францию, который они всячески пробовали сорвать.*

Тут Лукашэнка не хлусіў — мы сапраўды імкнуліся пераканаць заходніх палітыкаў, што візыт у Парыж Лукашэнкі пасьля ўсяго, што ён зрабіў за апошнія месяцы, умацуе ягоныя пазыцыі і нашкодзіць дэмакратычным сілам. Маю на ўвазе ня толькі нас зь Пазьняком, але і лідэраў БНФ у Менску — яны сустракаліся з дыпляматамі і прыводзілі сур'ёзныя аргумэнты супраць прыманьня Лукашэнкі ў сталіцы дэмакратычнай Францыі.

Лукашэнка пытаўся:

*Как я должен реагировать на это? Ясно, соответственно, хотя и пробую не обращать внимания на тех, чья песенка спета. 1991-й для них уже не повторится, потому что против уже стоит не партийная номенклатура, против них стоит президент, избранный демократически, своим народом.*

Не даваў Лукашэнку спакою наш пераможны жнівень 91-га.

## Віцебскія чэкісты даведваюцца пра Банапарта штосьці новае

Ужо ў Злучаных Штатах мы даведаліся падрабязнасьці візыту Лукашэнкі ў Парыж, які адбыўся, нягледзячы на ўсе імкненьні яго сарваць.

Ідэя запрасіць Лукашэнку ў эўрапейскую сталіцу належала не заходняй дыпляматыі, а ішла ад афіцыйнага Менску. МЗС Беларусі даволі прафэсійна і ўдала намацала «слабае месца» на мапе дэмакратычнай Эўропы — Францыя шукала партнэраў.

Вось як прыгадвала гэта Ані Жаліф, жонка тагачаснага францускага амбасадара Клёда Жаліфа, у сваёй кнізе «Беларуская прыгода» якую па-французску выдала ў сваім выдавецтве Віржыні Шыманец, а ў скарочаным перакладзе на беларускую — часопіс ARCHE (2, 2004):

*Сапраўды, наш урад знаходзіцца ў даволі казытлівай сытуацыі пасьля аднаўленьня выпрабаваньняў ядзернай зброі ў Ціхім акіяне ды мусіць лічыцца з кожным патэнцыйным сябрам. Адсюль гэтае ажыўленьне цікавасьці да Беларусі. Ці дойдзе яно да запрашэньня яе прэзыдэнта ў Парыж з афіцыйным візытам, пра які ён марыць? Над гэтым працуе Мясьніковіч, які прываблівае нашых бізнэсоўцаў магчымасьцямі, якія адкрые такі візыт. Над візытам таксама працуе Латыпаў. Ён прыходзіць да нас напярэдадні выбараў і тлумачыць думкі свайго гаспадара. Ён пацьвярджае, што гэты апошні вельмі жадае спадабацца заходнім сталіцам. Мімаходзь Латыпаў устаўляе з абяззбройваючай непасрэднасьцю, што Францыя ня можа спадзявацца на разгортваньне тут маштабных праектаў, пакуль не накіруе ў Менск такога чаканага запрашэньня.*

Прыгадвае спадарыня Жаліф і яшчэ аднаго арганізатара візыту — тагачаснага намесьніка міністра замежных спраў Андрэя Саньнікава, які, па яе словах, «быў галоўнай дзейнай асобай у арганізацыі й падрыхтоўцы візыту свайго прэзыдэнта ў Францыю». З Саньнікавым я ня быў знаёмы, хаця ведаў, што зь ім быў у добрых стасунках Валянцін Голубеў.

А вось амбасадара Францыі Клёда Жаліфа ведаў вельмі добра.

Мы пазнаёміліся неўзабаве пасьля ягонага прыезду ў Беларусь, і летам 1992 году я запрасіў яго з жонкай у Віцебск. Ані і Клёд Жаліф вячэралі ў маіх бацькоў, я вадзіў іх па старым Віцебску. На Ўсьпенскай горцы паказаў былы губэрнатарскі палац, дзе ў 1812 годзе па дарозе на ўсход спыняўся Напалеон. Казалі, што імпэратар вагаўся — ці спыніцца і перазімаваць у Віцебску, ці рушыць далей на Маскву. Калі так, дык выбар стаўся для яго фатальным. Бясспрэчна тое, што на беларускіх землях далёка ня ўсе ўспрымалі яго акупантам — у былым Вялікім Княстве Літоўскім шмат хто спадзяваўся, што Напалеон адновіць незалежную ад Расеі дзяржаву.

Потым Ані Жаліф прыгадвала, што яе з Клёдам зьдзівіла мая ацэнка Напалеона, якая істотна разыходзілася з савецкай і расейскай гістарыяграфіяй. Уразілі мае словы і перакладчыцу — яна нават перапытала ў мяне, ці перакладаць; я пацьвердзіў: «Так, перакладайце».

Размова нашая адбывалася паміж пастаўленым у 1912 годзе ў памяць перамогі над Напалеонам 26-мэтровым абэліскам з чырвонага фінскага граніту, з бронзавым двухгаловым расейскім арлом наверсе, і ўваходам у былы губэрнатарскі палац.

Для тых, хто месьціўся ў гэтым палацы, мой погляд на Банапарта і вайну 1812 году, пэўна, таксама быў незвычайны. Думаю, што яны чулі ня толькі гэтую нашую размову, але і іншыя гутаркі з сужэнствам Жаліф — усё ж то быў першы ў гісторыі візыт у Віцебск замежнага амбасадара. Чуць, слухаць, фіксаваць было службовым абавязкам супрацоўнікаў абласнога ўпраўленьня КДБ, якое і месьцілася ў гэтым гістарычным будынку. Былі, пэўна, і тэхнічныя магчымасьці, хаця прыблізна ў

той час тагачасны начальнік упраўленьня генэрал Лявонаў скардзіўся мне, што дзяржава зусім не клапоціцца пра чэкістаў — на ўсю арганізацыю толькі адзін відэамагнітафон. Ня ведаю, ці казаў ён праўду, але ўжо празь некалькі гадоў наракаць відавочна не было прычынаў, мяркуючы пра веданьне чэкістамі нюансаў дзейнасьці апазыцыянэраў.

Паездку ў Віцебск Ані Жаліф потым апісала ў сваёй цудоўнай кнізе, якую я тут цытую. Яна зь цеплынёй піша пра нас з Галяй — сапраўды, мы былі частымі гасьцямі ў іхняй рэзыдэнцыі ў Драздах (францускаму амбасадару далі былую дачу сакратара ЦК па ідэалёгіі, будынак у сучасным, у нечым нават авангардным па тых часах, стылі. Італьянскі амбасадар займаў кансэрватыўны дом колішніх старшыняў КДБ).

Ну і паколькі я ўжо некалькі разоў згадаў тут КДБ, прыгадаю і пытаньне, якое мне часам задавалі ў гады дэпутацтва. Ці разумеў я, што шофэры амбасадараў, афіцыянткі ў іх рэзыдэнцыях (зрэшты, як і ў сталоўках Дому ўраду) маглі быць супрацоўнікамі ці інфарматарамі Камітэту дзяржаўнай бясьпекі, ва ўсялякім разе, калі ня ўсе, дык большасьць зь іх. І калі разумеў, дык наколькі вольна пачуваўся ў такіх сытуацыях?

Так, разумеў. Няспыннае сачэньне за дыпляматычным корпусам — звычайная справа ў якой заўгодна краіне. Падпадаюць пад яго і тыя, хто зь ім кантактуе, нават абароненыя дэпутацкім імунітэтам. А пасьля прыходу ва ўладу Лукашэнкі быў перакананы, што дэпутацкі імунітэт ужо нічога не азначае (чаго ён мог быць варты пасьля пабіцьця парлямэнтароў у будынку парлямэнту), што вядзецца праслухоўваньне тэлефонных размоваў,

сачэньне ў іншых формах. Не скажу, што адчуваеш сябе камфортна, хаця з часам да падобнага прызвычайваесься. Напэўна, дзейнічае нейкае псыхалягічнае блякаваньне, бо калі думаць пра тое ўвесь час, можна звар’яцець.

Нейкія важныя тактычныя крокі мы з пэўнага часу не абмяркоўвалі ў памяшканьнях, выходзілі на вуліцу (хаця, напэўна, і гэта не было гарантыяй захаваньня іх у тайне). А стратэгічныя мэты — што ж, зь іх мы не рабілі сакрэтаў, наадварот, імкнуліся данесьці да як мага шырэйшай аўдыторыі.

Але вярнуся да францускага амбасадара Клёда Жаліфа. Ён ня меў ілюзій наконт Лукашэнкі, яшчэ калі апошні быў дэпутатам, — пра што адкрыта мне казаў напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў у 1994-м. Зрэшты, пра гэта піша ў сваёй кнізе і Ані Жаліф.

Чаму тады арганізоўваў ягоны афіцыйны візыт у Парыж? Гэтае пытаньне хвалявала мяне ў тыя дні ня меней, чым палітычныя наступствы такога візыту, менавіта з прычынаў, пра якія я напісаў вышэй — маіх добрых асабістых стасункаў з Клёдам Жаліфам.

Тым больш сужэнства Жаліф не адмаўлялася ад асабістых стасункаў, наадварот, накіравала Галі запрашэньне на прыём у рэзыдэнцыі з нагоды нацыянальнага сьвята, якое адбывалася акурат на наступны дзень пасьля вяртаньня Лукашэнкі з Парыжу. Галя запрашэньнем не скарысталася, бо ў той час была ўжо ў Празе і працавала на Радыё Свабода.

Няпроста было зьмірыцца з тым, што дыплямат часта мусіць ставіць прафэсійныя, дзяржаўныя інтарэсы вышэй за асабістыя сымпатыі ці антыпатыі. Дзяржаўныя ж інтарэсы Францыі, як лічыў тады афіцыйны Парыж, якраз вымагалі візыту Лукашэнкі.

Мы з Пазьняком даведаліся пра заплянаваны візыт недзе ў канцы траўня – пачатку чэрвеня і адразу зразумелі яго небясьпеку: ён мог быць успрыняты як міжнародная легітымізацыя аўтарытарных мэтадаў улады ў Беларусі і як падтрымка Лукашэнкі Захадам. Пазьняк адразу напісаў ліст прэзыдэнту Шыраку.

У пэўны момант зрабілася ясна, што ніякія намаганьні — ні нашыя, ні нашых паплечнікаў-фронтаўцаў у Менску — ня здолеюць сарваць гэты візыт. Заставалася адно: падрыхтаваць францускае грамадзтва, даць максымальную інфармацыю пра сапраўднае становішча ў Беларусі.

Паехаць у Францыю нам так і не ўдалося — узьніклі праблемы зь візай; нам патлумачылі, што фармальна як грамадзяне Беларусі мы мусілі прасіць яе ў францускай амбасадзе ў Менску. Гэтае агульнае правіла, як і ўсе фармальнасьці, мае выключэньні, і мы іх атрымлівалі ў іншых амбасадах. Але ў выпадку з Францыяй атрымалі выключэньне з выключэньня — і на тое было адмысловае рашэньне.

## Француская дыпляматыя робіць faux pas

Закрыць францускую мяжу ўсяму БНФ парыскай дыпляматыі не ўдалося. У Парыж прарваўся намесьнік старшыні БНФ Вінцук Вячорка. Ён правёў прэсавую канфэрэнцыю, і тэзісы ягонай прамовы пераказалі найбуйнейшыя францускія СМІ, а газэта La Croix надрукавала інтэрвію.

Вінцук падрабязна расказаў журналістам пра сучасныя беларускія рэаліі, і ягоны расповед на-

столькі моцна ўразіў карэспандэнтаў, што аб’ём прысьвечаных Беларусі тэкстаў у дні перад і падчас візыту, напэўна, быў роўны ўсім публікацыям пра нашую краіну з моманту візыту ў Парыж Шушкевіча ў 1992-м.

Ну а аналіз матывацыі афіцыйнага Парыжу на хвалях Радыё Свабода зрабіла 12 ліпеня, калі візыт яшчэ ня скончыўся, Алена Радкевіч. Яна працытавала некаторыя вытрымкі зь вядучых францускіх выданьняў, якія былі салідарныя ў сваіх ацэнках Лукашэнкі:

*Ягоны позірк кобры гіпнатызуе натоўп. Ягоныя дыктатарскія мэтады прымушаюць замаўчаць парлямэнт і прэсу. Ягонае захапленьне Гітлерам хвалюе Захад. Ад Аляксандра Лукашэнкі — беларускага прэзыдэнта, які з афіцыйным трохдзённым візытам прыбывае ў Парыж, — адчувальна патыхае серай* (Figaro).

*Уражвае, што прарыў Аляксандра Лукашэнкі на вяршыню ўлады не прыцягнуў асаблівай увагі заходніх палітыкаў, схільных недаацэньваць палітычную эвалюцыю былых расейскіх ускраінаў. І дарэмна. Шлях Лукашэнкі пераканаўча ілюструе выхад на палітычную арэну ў рэспубліках былога СССР выпадковых палітыкаў, якія вылучыліся дзякуючы смутным пераходным часам і ў любы момант гатовыя вярнуцца да формаў аўтарытарнага кіраваньня* (Le Mond).

«Па інтанацыі артыкулаў францускай прэсы відаць, — зазначала Алена Радкевіч, — наколькі шакаванай да сёньняшняга дня застаецца Эўропа зьбіцьцём у верасьні 1995 году амэрыканскага паветранага шара і яшчэ ў большай ступені тым, што беларускія ўлады ўсьлед за гэтым выставілі

Злучаным Штатам штраф у 60 даляраў за незаконнае перасячэньне навігатарамі мяжы. Гэты факт не абмінае ніводная з газэтаў. Згадваецца і пабіцьцё дэпутатаў апазыцыі, і заклік прэзыдэнта не ісьці галасаваць у новы Вярхоўны Савет, і адносіны да прэсы, і закрытыя суды над маніфэстантамі, і забарона свабодных прафсаюзаў, і дэпартацыя лідэра „Салідарнасьці“, і захапленьне Гітлерам. Пералік падобнага роду дзеяньняў беларускага прэзыдэнта прыводзіць кожнае выданьне».

І гэта — толькі тэмы друкаваных газэтаў, без уліку тэле- і радыёвыпускаў.

«Чаму ж Францыя, якая так добра ведае цану беларускаму прэзыдэнту, запрасіла яго зь візытам у Парыж? — задалася пытаньнем Алена Радкевіч. — Францускія палітыкі ня могуць не разумець, што на фоне ўсеагульнага асуджэньня недэмакратычнага рэжыму Лукашэнкі гасьцінны ягоны прыём у Элізэйскім палацы будзе ўспрыняты як ухваленьне ці, прынамсі, талераваньне ягонай палітыкі. І менавіта такім чынам візыт гэты падаецца беларускай афіцыйнай прэсай».

Прыгадаўшы тлумачэньне высокапастаўленага чыноўніка адміністрацыі Шырака, што «Беларусь знаходзіцца ў цэнтры Эўропы», «Мы ня можам рабіць выгляд, што яе не існуе, гэтаксама як мы не адмаўляемся ад кантактаў зь сярэднеазіяцкімі палітыкамі», Радкевіч зьвярнулася па камэнтар да прафэсара Сарбоны Франсуазы Том.

«Гэтае запрашэньне, па-мойму, памылка францускай замежнай палітыкі, параўнальная хіба з той памылкай, якую зрабіў Мітэран, калі наведаў у сьнежні 1989-га ГДР. Крыніца гэтых памылак адна і тая ж, гэта — падабацца Маскве. Вядома,

французскія палітыкі апраўдваюцца тым, што нельга ізаляваць Беларусь, што можна было б, маўляў, унушыць некаторыя прынцыпы эўрапейскіх паводзінаў Лукашэнку і гэтак далей. Але тады я задаюся пытаньнем: чаму не заўважалі Беларусь, калі яна спрабавала заставацца сувэрэннай, калі яна была дэмакратычнай дзяржавай? Чаму запрасілі Лукашэнку менавіта пасьля падпісаньня дамовы аб рэінтэграцыі з Расеяй? Атрымліваецца, быццам Францыя першая з усіх заходніх краінаў блаславуляе аднаўленьне Савецкага Саюзу», — сказала спадарыня Францыя Франсуаза Том.

Адносна сьцьвярджэньня, што Парыж не заўважаў Беларусь у першыя гады незалежнасьці, калі краіна, хай і непасьлядоўна, але рухалася па дэмакратычным шляху, можна было б паспрачацца. У красавіку 1992 году ў Францыі з афіцыйным візытам быў старшыня Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч, ён узначальваў прадстаўнічую дэлегацыю, у складзе якой быў і старшыня парлямэнцкай камісіі адукацыі, культуры і захаваньня гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч, і рэдактар «Народнай газеты» Іосіф Сярэдзіч. Дэлегацыя, сярод іншага, была прынятая ў Элізэйскім палацы прэзыдэнтам Францыі Шыракам. Францыя спрыяла некаторым эканамічным праектам, напрыклад у Менску існавала бюро энэргазьберажэньня, якое ўзначальваў Лявон Шыманец. І ўсё ж у асноўным прафэсарка мела рацыю: увага, якая надавалася Францыяй Беларусі, была істотна меншай, чым можна было б разьлічваць, пра што неаднаразова зьвяртаў увагу ў сваіх зваротах да Шырака той жа Лявон Шыманец.

«Францыя, якая яшчэ да нядаўняга часу была ня толькі заканадаўцам модаў, але і заканадаўцам эўрапейскай палітыкі, пасьля аб’яднаньня Нямеччыны страціла свае лідэрскія пазыцыі, — камэнтавала Алена Радкевіч. — Згаданы Франсуазай Том візыт Мітэрана ў 1989 годзе ў ГДР, спроба захаваць бэрлінскую сьцяну хаця б у руінах былі адчайным намаганьнем не дапусьціць у Эўропе небясьпечнага канкурэнта».

Калі Радкевіч пісала гэты камэнтар, яшчэ не былі апублікаваныя матэрыялы перамоваў Міхаіла Гарбачова ў канцы 80-х з заходнімі лідэрамі: зь іх вынікае, што ня толькі Мітэран, але і Тэтчэр насьцярожана ставілася да пэрспэктывы ўзьяднаньня Нямеччыны. Але, як любіў казаць Гарбачоў, «працэс пайшоў».

«Нямеччына аб’ядналася. Яе магутны эканамічны патэнцыял, аўтарытэт і роля, якую яна пачала адыгрываць у эўрапейскай палітыцы, адсунулі Францыю на другі плян. Яскрава выявілася тое, што Парыж пасьпяхова маскаваў на працягу апошніх дзесяцігодзьдзяў: роля, на якую прэтэндавала амбітная, крыўдлівая Францыя — завялікая для яе, улічваючы абмежаваныя эканамічныя ды палітычныя габарыты гэтай дзяржавы. Занадта доўга Францыя жыла не па сродках.

Кажуць, што жанчыну можна любіць за розум, прыгажосьць і кепскі характар. Краіну, напэўна, таксама. У Францыі кепскі характар. Комплекс непаўнавартасьці, які ўзьнік у яе ў дачыненьні да Нямеччыны, сапсаваў гэты характар яшчэ больш. Кампэнсаваць гэты комплекс яна пачала капрызамі і грымасамі сваёй палітыкі», — канстатавала Алена Радкевіч. І назвала яшчэ адну магчымую прычыну

лагоднага стаўленьня да Лукашэнкі — імкненьне Парыжу ўзяць на сябе ролю пасярэдніка паміж Захадам і маладымі недэмакратычнымі краінамі: «Францыі вельмі хочацца, каб яе заўважылі. Што ж, запрасіўшы ў Парыж беларускага прэзыдэнта, яна свайго дамаглася».

У беларускай і расейскай прэсе візыт падаваўся як трыюмф: ганаровая варта, сустрэча з прэзыдэнтам Шыракам у Элізэйскім палацы, падпісаная шырокамаштабная палітычная дамова.

«По словам замминистра иностранных дел Белоруссии Андрея Санникова, это первый ёмкий договор, подписанный Белоруссией с крупным западным государством, и он создаст надежную правовую базу отношений между государствами, обеспечив поддержку контактам Белоруссии с ЕС и СЕ», — паведамляў маскоўскі «Коммерсантъ».

Андрэй Саньнікаў быў у ліку тых, хто рыхтаваў гэты візыт — як пазьней ён прызнаецца, спадзеючыся, што наведваньне дэмакратычнай Францыі хоць у нечым паверне Лукашэнку да эўрапейскіх каштоўнасьцяў. Такія спадзевы пасьля пабіцьця дэпутатаў у красавіку і разгону страйкаму ў жніўні 1995-га, жорсткага задушэньня масавых акцый пратэсту вясной 1996-га могуць толькі выклікаць зайздрасьць да веры ў лепшае ў кожным чалавеку. Вельмі хутка Саньнікаў пераканаецца ў марнасьці надзеяў — ужо ўвосень, перад рэфэрэндумам, ён пойдзе ў адстаўку.

Падпісаная ў Парыжы дамова «предусматривает регулярные консультации по вопросам безопасности в Европе, межпарламентское сотрудничество, взаимодействие военных ведомств, контакты в области экономики, экологии, энергетики, финансов,

подготовку специалистов и упрощение процедуры выдачи и продления въездных виз», — працягваў «Коммерсантъ» цытаваць Саньнікава.

У жонкі францускага пасла ацэнка візыту была супярэчлівай, прычым, як вынікае зь яе словаў, ацэнка гэтая не зусім супадала з ацэнкай яе мужа:

*Клёд вяртаецца ўвечары 13 ліпеня на прэзыдэнцкім самалёце з выглядам задавальненьня ад выкананага абавязку. Гэты візыт быў ужо даўно настойліва патрабаваны беларускім бокам. Рашэньне аб яго правядзеньні было без энтузіязму прынятае ў выніку шматлікіх кансультацыяў у Парыжы. Ён некалькі разоў пераносіўся з розных прычынаў, і нарэшце быў прызначаны на час, вельмі блізкі да Сьвята 14 ліпеня... Візыт не выглядаў найлепшым чынам, тым больш што апазыцыйныя колы (галоўным чынам БНФ) здолелі мабілізаваць парыскіх карэспандэнтаў дзеля таго, каб суправадзіць яго прэсавай кампаніяй у выключна палемічным тоне («Прыхільнік Гітлера ў Парыжы» — загаловак артыкулу ў Le Monde). Тым ня менш ён прайшоў даволі прыстойна, у тым ліку й на вышэйшым узроўні, дарма што там адбываўся хутчэй абмен маналёгамі (асабліва зь беларускага боку), чым сапраўдны дыялёг.*

Затое Лукашэнка быў задаволены візытам без усякіх агаворак.

Прызямліўшыся ў менскім аэрапорце, Лукашэнка сказаў, што ні ад кога ў Францыі пытаньняў пра «нэгатыўны імідж Беларусі» не было, на яго зьдзіўленьне. Лукашэнка меў на ўвазе палітыкаў і бізнэсоўцаў:

*Я ожидал таких вопросов, но, к моему удивлению, ни от кого таких вопросов не последовало. Да,*

*я сам потом поднял эти вопросы, поскольку лучше их поднять, вместо того, чтобы уехать, а они там остались. И президент Франции, и министры, с которыми я встречался, и бизнесмены... Ну бизнесмены так вообще об этом улыбнулись и ничего не стали обсуждать. А президент Франции прямо сказал: «Вы знаете, мы знаем, что есть СМИ, а есть реальная политика». Дав понять таким образом, что он рассматривает взаимоотношения с другими государствами не на страницах газет и не через окно объектива... Он смотрит на реальную политику. Поэтому мне легко было об этом говорить, он даже не поднял этот вопрос.*

Нічога дзіўнага і нечаканага ў гэтых словах Лукашэнкі для нас не было: ужо само тое, што Францыя на самым высокім узроўні прымала чалавека, які ўсталяваў рэжым аўтакратыі і няўхільна рухаўся да дыктатуры, сьведчыла, што Парыж кіруецца не прынцыпамі дэмакратыі і правоў чалавека, а сапраўды real politic, пра што і заявіў Шырак Лукашэнку. Артыкулы Вячоркі і французскіх аглядальнікаў у парыскіх газэтах парыскімі палітыкамі ня браліся пад увагу.

Для нас з Пазьняком гэта было сыгналам, што яшчэ два-тры такія візыты, і нашыя намаганьні патлумачыць заходнім палітыкам сутнасьць сытуацыі ў Беларусі, пераконваньне іх ціснуць на рэжым Лукашэнкі і спрыяць беларускай апазыцыі могуць пайсьці прахам.

На прэсавай канфэрэнцыі Лукашэнка прыгадаў і гэтую нашую працу:

*Мне очень неприятно было, когда вот вы сами прочитали в газетах, мне доложили мои помощники о том, что крайне негативно пытались пре-*

*поднести Беларусь в Париже. Некоторые оппозиционеры, которые «иммигрировали» из Беларуси, пытались прорваться во Францию, визу просили, но французское посольство, я им тоже за это благодарен, не предоставило им такой возможности, они туда не попали.*

Вось і патлумачылася, чаму ў францускай амбасадзе ў Варшаве ад нас папрасілі натарыяльна заверанны выклік ад грамадзяніна Францыі — працэдура магла б заняць не адзін тыдзень, тады як мы ўсё ж былі ня хлопчыкі з вуліцы і яны ведалі, з кім маюць справу.

Французам не хацелася, каб у часе візыту Лукашэнкі ў Парыжы знаходзіўся і ягоны галоўны апанэнт Пазьняк.

Ня ведаю, хто з кіраўнікоў МЗС вёў перамовы ў гэтай справе з францускімі дыпляматамі, але апэрацыя ім удалася (з амэрыканцамі ж не атрымалася).

Лукашэнка працягваў:

*Но тем не менее, я вот так очень часто возвращался чисто эмоционально после переговоров, после тяжёлой вот этой работы в конце дня, уже ночью, и думал: что же надо этим людям? Зачем свою собственную, родную Беларусь, которую они так любят, зачем её обливать грязью? Ведь это же не мне хуже делают, делают хуже народу. Но, слава Богу, и вы это видели воочию, нам удалось преодолеть эти всякие барьеры информационные.*

Падпісаную ў Парыжы дамову Вярхоўны Савет Беларусі ратыфікуе, а вось Нацыянальны сход Францыі адмовіцца гэта рабіць — на той момант у Беларусі ўжо пройдзе рэфэрэндум па зьмене Канстытуцыі.

Так што дамова ператворыцца ў пустую паперку.

Ну і апошнія цытаты з кнігі Ані Жаліф:

*Беларускі прэзыдэнт... выглядае задаволены сваім падарожжам і даверліва паведамляе, што француская Канстытуцыя натхніла яго на рэфармаваньне сваёй.*

*Але ж ня гэта, ня гэта было мэтай візыту!*

Францускі выраз faux pas у балеце азначае «зрабіць памылковы крок», «спатыкнуцца»; вынікам можа быць падзеньне, і што асабліва прыкра — часам нават з партнэрам. Выкарыстоўваецца выраз і ў палітыцы і дыпляматыі — для характарыстыкі кроку, які можа ўразіць ня так, як на сцэне, затое наступствы звычайна мае непараўнальна больш сур’ёзныя.

Лукашэнка прыадкрыў уласную мэту:

*Возможно, мы выйдем на референдум об изменении отдельных норм Конституции. И мы очень много заимствуем у французской демократии, у Французской Республики... Мы очень много берём в плане законодательства от французов.*

Адно палажэньне тагачаснай францускай Канстытуцыі Лукашэнку спадабалася аж занадта.

Тое, якое вызначала тэрмін паўнамоцтваў прэзыдэнта — сем гадоў.

## Мы прылятаем у Амэрыку

У нью-ёрскі аэрапорт імя Кенэдзі (JFK) мы прыляталі позна, і цёмнае поле акіяну раптоўна зьмянілася тысячамі кропак-агеньчыкаў. Але Нью-Ёрк пакуль быў толькі месцам перасадкі на іншы рэйс, на Вашынгтон, і таму нас суправаджала супрацоўніца аэрапорту.

Яна правяла нас лябірынтам вузкіх калідораў, і мы апынуліся перад памежнікам і мытнікам. Зь візамі было ўсё ў парадку, а вось з ручным багажом узьнікла праблема.

У валізцы Пазьняка быў загорнуты ў паперу кавалак сала, і ён выклікаў актыўную цікаўнасьць мытніка. Здаецца, аэрапортаўская супрацоўніца размаўляла па-польску, і нам удалося патлумачыць, што гэта не наркотык. Не магу прыгадаць, ці аддалі нам сала, ці канфіскавалі, але настрой нам перад рэйсам у Вашынгтон сапсавалі. Сала, дарэчы, было зь Беларусі.

Магутнасьць Амэрыкі я адчуў яшчэ летам 1992 году, калі ўпершыню яе наведаў на запрашэньне Дзяржздэпартамэнту ў складзе групы з палітыкаў краінаў былога Саюзу. Яна адчувалася візуальна і адразу — найперш большымі памерамі ўсяго. Большыя аэрапорты, большыя аўтамабілі, шырокія, у пяць ці болей палосаў, трасы, вялікія нумары ў гатэлях.

У 1996 годзе Амэрыка была на ўздыме, ва ўсіх сэнсах. Першы прэзыдэнцкі тэрмін Біла Клінтана завяршаўся ростам эканомікі (казалі, што база пад гэта было закладзеная ягонымі папярэднікамі — Рональдам Рэйганам і Джорджам Бушам). Нізкія беспрацоўе і інфляцыя, моцны даляр (Фэдэральная рэзэрвовая сыстэма нават пачала выпуск новых банкнотаў, дызайн якіх не мяняўся з канца 1920-х гадоў).

Ва ўспрыманьні жыхароў былых савецкіх рэспублік і краінаў былога сацыялістычнага лягеру Амэрыка ў той час, бадай, дасягнула піку свайго аўтарытэту — і як самая заможная краіна, і як самы аўтарытэтны гулец на міжнароднай арэне, і

як дзяржава з самым магутным войскам. Прычым яе ўладарства было непадзельнае — Расея знаходзілася ў заняпадзе, а пра Кітай як магчымага канкурэнта ЗША пісалі толькі найбольш празорлівыя аналітыкі.

У такім бачаньні калі і было перабольшаньне, дык невялікае. Асабіста я ўспрымаў Амэрыку шмат у чым як ідэал. А яе ўрад (у шырокім сэнсе, уключна з Кангрэсам) — як орган, які здолее ўратаваць Беларусь ад анэксіі Расеяй. Пазьняк быў больш стрыманы ў ацэнках, але таксама лічыў Вашынгтон цэнтрам прыняцьця палітычных рашэньняў — што, безумоўна, так і было.

Нашая паездка ў Амэрыку была заплянаваная на дзесяць дзён — пяць у Вашынгтоне і пяць у Нью-Ёрку. Арганізацыю візыту ўзяў на сябе фонд National Endowment for Democracy, які дапамагае грамадзянскай супольнасьці ў посткамуністычных краінах. Фонд — арганізацыя няўрадавая, але ягоныя супрацоўнікі маюць добрыя сувязі ў кіроўных колах ЗША.

Кантакты з амэрыканскімі палітыкамі ў нас былі і раней. Вясной 1991-га Пазьняк разам зь Лявонам Баршчэўскім і Ўладзімерам Заблоцкім зрабіў турнэ па Амэрыцы і Канадзе — паездка супала са знакамітым менскім страйкам, і інтарэс амэрыканскіх палітыкаў і журналістаў да Беларусі лідэры БНФ скарысталі максымальна. Праўда, тады ніхто (дакладней, амаль ніхто) з амэрыканцаў не паверыў, што БНФ удасца дамагчыся незалежнасьці Беларусі — а праз паўгода яны ўжо мусілі ўспрымаць распад СССР як факт. Потым некаторыя амэрыканскія палітыкі, якія наведвалі Менск, гутарылі і з дэпутатамі апазыцыі. Падчас свайго аднадзённага

візыту ў Беларусь 15 студзеня 1994 г. прэзыдэнт ЗША Біл Клінтан двойчы сустракаўся зь Зянонам Пазьняком.

Як я ўжо прыгадваў, мне давялося наведаць ЗША летам 1992 году на запрашэньне Дзярждэпартамэнту і амэрыканскіх юрыстаў, якія спэцыялізуюцца ў галіне канстытуцыйнага права і выбарчага заканадаўства, і за тры тыдні ўдалося шмат даведацца пра канстытуцыйную сыстэму ЗША. Тады ўпершыню пазнаёміўся і са шмат якімі лідэрамі беларускай дыяспары ў Вашынгтоне і ў Нью-Ёрку, дзе гасьцяваў у тагачаснага прадстаўніка Беларусі ў ААН Генадзя Бураўкіна. Генадзь Мікалаевіч пасяліў мяне ў невялічкім пакойчыку побач са сваёй кватэрай, а ў суседнім гасьцяваў тагачасны першы віцэ-прэм’ер Міхаіл Мясьніковіч.

Візыт у Амэрыку мы разглядалі як кульмінацыю нашай замежнай палітычнай дзейнасьці. Яшчэ падчас сустрэч у эўрапейскіх сталіцах мы імкнуліся пераканаць заходніх палітыкаў мінімум у дзьвюх бясспрэчных для нас зьявах.

Па-першае, што ўлада Лукашэнкі мае характар дыктатуры і, калі яна яшчэ не набыла клясычныя для дыктатуры абрысы, дык гэта адбудзецца вельмі хутка. І што супрацьстаяць гэтаму можна толькі пра кансалідаванай дапамозе лідэраў краінаў заходняй дэмакратыі.

З гэтым нашыя суразмоўцы нібыта пагаджаліся, але на справе мы бачылі хутчэй падтрымку Лукашэнкі, чым ціск на яго. Апагеем можна лічыць візыт Лукашэнкі ў Францыю ў ліпені, пра які я ўжо пісаў.

Па-другое, мы даводзілі, што праект інтэграцыі Беларусі з Расеяй выходзіць за межы перадвыбарчай

кампаніі Ельцына і ўяўляе сабой доўгатэрміновую стратэгічную мэту са зьнікненьнем беларускае дзяржаўнасьці ў выніку.

Але яшчэ на сустрэчы ў адміністрацыі Гаўла можна было пераканацца ў трываласьці думкі аб часовасьці інтэграцыйных памкненьняў Крамля. Нам казалі: вось пройдуць у ліпені выбары, Ельцын перавыберацца і размовы пра інтэграцыю сьціхнуць. Галоўнае, лічылі заходнія палітыкі, каб не перамог камуніст Зюганаў — а ў адданасьці Ельцына дэмакратыі яны не сумняваліся.

Спачатку нам здалося, што мэта нашага візыту ў Амэрыку спрашчаецца: вынікі выбараў у Расеі былі ўжо вядомыя — Ельцын перамог. Амэрыканцы ўжо не хваляваліся за лёс расейскай дэмакратыі і маглі патурбавацца лёсам дэмакратыі беларускай.

У сваіх спадзяваньнях мы празьмерных ілюзіяў ня мелі, бо разумелі, што ў сьпісе прыярытэтаў Беларусь, пасьля рашэньня аб пазбаўленьні (без усякіх умоваў) ядзернай зброі, знаходзіцца далёка не на першых месцах.

Але тое, што мы пачулі ў Вашынгтоне, увяло нас у стан, блізкі да шоку.

## Супрацоўнікі Белага дому заражаюць аптымізмам

Зрэшты, спачатку ўсё было вельмі добра, а для нас — дык нават вельмі пасьпяхова.

І не ў апошнюю чаргу дзякуючы арганізацыйным здольнасьцям супрацоўніц фонду National Endowment for Democracy Надзі Дзюк і Барбары

Гэйг, якія шмат паспрыяюць грамадзянскай супольнасьці Беларусі ў будучыні.

Нашая з Пазьняком праграма пачалася з сустрэчы з кангрэсмэнам, старшынём Палітычнай камісіі Рэспубліканскай партыі Крыстафэрам Коксам. Нягледзячы на даволі малады ўзрост, Кокс ужо ня першы раз быў выбраны ў Кангрэс. Пра ягоны аўтарытэт сьведчыла ўжо тое, што ў свой час яго разглядалі як кандыдата на пасаду віцэ-прэзыдэнта ЗША ў выбарчай кампаніі Боба Доўла, але, здаецца, якраз малады ўзрост і перашкодзіў. Тэмаю нашай гутаркі з Коксам была дапамога амэрыканскіх палітыкаў беларускім дэмакратам.

Захаваўся тэзісны запіс той гутаркі:

Кокс: *Выглядае, Лукашэнка зацікаўлены ў камуністычным рэваншы і выступае за цесныя сувязі з Масквой. Але падобна, што Масква робіцца антыкамуністычным цэнтрам у самой Расеі. Што гэта будзе азначаць для Беларусі? Ці здолее Лукашэнка дзейнічаць самастойна? Ці будзе ў Беларусі рынкавая дэмакратыя? Цяперашнія тэндэнцыі ў Расеі больш спрыяльныя прыватнаму бізнэсу, чым у Беларусі.*

Пазьняк: *Галоўная ідэалёгія Масквы, незалежна ад таго, камуністычная яна ці антыкамуністычная, — гэта імпэрская ідэя. І палітыка Масквы ў Беларусі — гэта эканамічны кантроль, захоп прыярытэтных для расейскага капіталу вытворчасьцяў з мэтай падпарадкаваньня Расеі эканомікі Беларусі.*

Кокс: *У якой ступені Лукашэнка быў пастаўлены? Як паўплывае адносны посьпех Ельцына і Лебедзя на Беларусь?*

Навумчык: *Лукашэнка — былы афіцэр КГБ. Ён і падчас свайго дэпутацтва ў парлямэнце выказваў*



Пасьля гутаркі з кангрэсмэнам Крыстафэрам Коксам

*прарасейскія погляды, а цяпер высьвятляюцца новыя факты падтрымкі яго Масквой на прэзыдэнцкіх выбарах.*

Пазьняк: *Канешне, назіраецца канфлікт паміж беларускім грамадзтвам і Лукашэнкам. І Ельцын можа зрабіць выбар не на карысьць Лукашэнкі.*

Кокс: *Што б Кангрэс мог зрабіць цяпер?*

Пазьняк: *Самае лепшае — калі б вяшчаньне беларускай службы Радыё Свабода было павялічана ў тры-чатыры разы.*

Кокс: *Я буду выступаць за тое, каб вяшчаньне радыё было пашыранае. На жаль, у палітыцы Белага дома рабскую залежнасьць ад Гарбачова хочуць кампэнсаваць дружбай зь Ельцыным.*

Пазьняк: *Было б разумна, каб Вашынгтон удзяляў увагу адносінам з Украінай і зь Беларусьсю, а ня толькі з Расеяй. Гэта стварыла б балянс сілаў.*

Кокс: *Мы падтрымліваем украінскую свабоду. Аднабаковая дапамога Расеі не дае станоўчага*

*эфэкту, і гэта пагражае вяртаньнем у часы Варшаўскай дамовы.*

Прыязнае стаўленьне да Беларусі адчулі мы і падчас сустрэчы з кангрэсмэнам ад штату Нью-Джэрзі дэмакратам Франкам Палёнэ. Адрозна ад рэспубліканца Кокса, як прадстаўнік кіроўнай партыі Палёнэ быў стрыманы ў сваіх ацэнках замежнапалітычнага курсу ЗША, але праявіў дэталёвае веданьне рэаліяў сытуацыі ў Беларусі. Што, зрэшты, ня дзіўна — на тэрыторыі выбарчай акругі Палёнэ жыве шмат беларусаў; натуральна, што кожны кангрэсмэн зацікаўлены мець як мага большую падтрымку выбарнікаў. Палёнэ прапанаваў нам быць, так бы мовіць, своеасаблівымі прадстаўнікамі беларускай дэмакратыі ў Кангрэсе і сваімі выступамі зьвяртаць увагу амэрыканскіх палітыкаў на факты парушэньня правоў чалавека ў Беларусі.

Сваё слова ён стрымаў — пазьней нават прапанаваў Кангрэсу прыняць адмысловую рэзалюцыю з прызнаньнем легітымнасьці Рады БНР. Але Кангрэс на гэта не пагадзіўся.

У Хэльсынскім камітэце правоў чалавека пры Кангрэсе ЗША мы гутарылі пра тактыку абароны ўдзельнікаў масавых акцыяў у Менску, якіх могуць затрымаць альбо асудзіць. Камітэт арганізаваў выступ Пазьняка ў Бібліятэцы Кангрэсу ЗША, паслухаць які прыйшлі дзясяткі палітолягаў і журналістаў. Пазьней Камітэт выпусьціў некалькі бюлетэняў, прысьвечаных становішчу з правамі чалавека ў Беларусі.

Была ў нас сустрэча і ў Белым доме, з намесьнікам кіраўніка аддзелу Эўразіі Рады бясьпекі Карлясам Паскуалем.

Паскуаль прыгадаў сваю дыпляматычную службу ў Паўднёвай Афрыцы ў гады апартэіду, расказаў, як наведваў у турме аднаго з паплечнікаў Нэльсана Мандэлы. Сытуацыя выглядала безнадзейнай, але цяпер былы вязень — губэрнатар адной з буйных правінцый. Аповед, вядома, мусіў надаць нам аптымізму.

Пра гэтую гутарку і пра іншыя спатканьня газэта «Беларус» у тыя дні пісала:

*«...Народны Фронт першы выступіў з канцэпцыяй нэўтралітэту Беларусі, але цяпер, пасьля актывізацыі працэсу анэксіі краіны Расеяй, мы выказваемся за далучэньне Беларусі да NATO», — заявіў Зянон Пазьняк у час спатканьня ў Камітэце замежных справаў Сэнату ЗША.*

*Тэзіс пра гарантыі незалежнасьці Беларусі быў разьвіты і на сустрэчы з намесьнікам кіраўніка дэпартамэнту Эўразіі Рады бясьпекі Карлясам Паскуалем. Зянон Пазьняк адзначыў, што ігнараваньне імпэрскіх амбіцыяў Крамля можа даволі хутка ўскладніць ня толькі становішча краінаў Усходняй Эўропы, але і Захаду.*

*Адказваючы на пытаньні пра пэрспэктывы дэмакратычнага руху ў часе гутаркі ў Дзяржаўным дэпартамэнце ЗША, З. Пазьняк выказаў упэўненасьць, што рэжым Лукашэнкі вычарпаў эканамічныя магчымасьці і паставіў грамадзтва на мяжу сацыяльнага выбуху. У такой сытуацыі, адзначыў лідэр БНФ, вельмі важна накіраваць незадаволенасьць людзей у канструктыўнае рэчышча. БНФ прапануе шлях палітычнай рэформы, галоўныя этапы якой — распачынаньне Вярхоўным Саветам імпічмэнту прэзыдэнта Лукашэнкі, скасаваньне па-*

*сады прэзыдэнта ў Канстытуцыі, выбары новага парлямэнту на шматпартыйнай аснове.*

Перапыню цытаваньне. Мы настойліва казалі амэрыканскім палітыкам і дыпляматам пра неабходнасьць імпічмэнту і сустракалі разуменьне. Але ўсьведамленьня неабходнасьці гэтага кроку не было ў тых, хто гэтую працэдуру мусіў, паводле Канстытуцыі, распачаць, — у дэпутатаў Вярхоўнага Савету.

*Ад імя Беларускага Хэльсынскага камітэту ў абарону правоў чалавека Сяргей Навумчык выказаў падзяку Дзяржаўнаму дэпартамэнту за ўвагу, якая была праяўленая ў дачыненьні да палітычных вязьняў і ахвяраў рэжыму Лукашэнкі. Тэме парушэньня правоў чалавека была прысьвечаная і сустрэча ў Хэльсынскім камітэце Кангрэсу ЗША.*

*Пры гэтым С. Навумчык падкрэсьліў, што БНФ выступае за прыняцьце Беларусі ў Раду Эўропы. «Мы за палітычную ізаляцыю Лукашэнкі як дыктатара, але сусьветная супольнасьць павінна пашырыць кантакты з парлямэнтам, партыямі і праваабарончымі арганізацыямі, — падкрэсьліў С. Навумчык. — Беларусь павінна набліжацца да ўсясьветных стандартаў у галіне выкананьня правоў чалавека, і сяброўства ў Радзе Эўропы гэтаму спрыяе. Да таго ж пасьля прыняцьця ў Раду Эўропы Расеі, якая вядзе вайну ў Чачэніі, адмова Беларусі выглядала б дзіўна і ўзмацніла б імпэрскія амбіцыі Крамля».*

*У гонар гасьцей зь Беларусі быў дадзены абед, на якім прысутнічалі Зьбігнеў Бжэзінскі, дырэктар USIA Джо Дафі, былы дзяржаўны сакратар генэрал Александэр Гэйг, дзяяч прафсаюзаў Лэйн Керклэнд і іншыя.*

*У час сустрэчаў у Вашынгтоне зь лідэрамі БНФ быў сп. Р. Завістовіч, старшыня Беларускага кангрэсавага камітэту.*

Тое, што Расьціслаў Завістовіч узяў на сябе ролю перакладчыка, было важна, бо ва ўладных калідорах Вашынгтону мы маглі гаварыць з суразмоўцамі па-беларуску. Для амэрыканскіх палітыкаў гэта быў ясны і зразумелы сыгнал. Са спадаром Расьціславам я пазнаёміўся летам 1992-га, калі на запрашэньне ДзяржДэпартамэнту быў у ЗША — ён быў першым амэрыканскім беларусам, якога я пабачыў. А праз год, у дні Першага зьезду беларусаў сьвету, мы з Галяй прымалі яго ў сябе ў Менску. Зьезд той у Опэрным тэатры, натхнёнасьць удзельнікаў, якія прыехалі зь дзясяткаў краінаў (многія ўпершыню за паўстагодзьдзя), сёньня ўспрымаецца як вяршыня, як пік апошняй хвалі нацыянальнага Адраджэньня.

У тыя ліпеньскія дні ня думалася, што ўжо праз тры гады ў Вашынгтоне мы будзем гаварыць пра панаваньне антыбеларускіх сілаў.

## Сустракаемся з Бжэзінскім, Гэйгам і сяброўкай Мэрылін Манро

У тыя дні амэрыканская пошта выпусьціла 32-цэнтавую марку з выявай Мэрылін, і я іх наклейваў на канвэрты зь лістамі дадому ў Віцебск. Пазьняк не ўхваляў маёй цікаўнасьці да Манро, ён лічыў яе пасрэднай актрысай. Я не спрачаўся — справа густу. Да таго ж ён меў дысэртацыю аб тэатры і ступень кандыдата мастацтвазнаўства, а я ў свой час не скарыстаўся запрашэньнем рэктара тэатральна-мастацкага інстытуту Сабалеўскага

пайсьці ў асьпірантуру на тэатразнаўства і мае веды засталіся на ўзроўні аматарства.

На той момант я бачыў толькі адзін фільм з удзелам Манро — «У джазе толькі дзяўчаты». На тэлевізіі, ужо пасьля краху камунізму, яго паказвалі, пазначаючы тое, што для пракату выразала савецкая цэнзура. Як выявілася, сапраўдны назоў карціны быў «Хтосьці любіць гэта гарачым», і ідэолягі пайшлі на тое, каб прыгадаць сумнеўны джаз («Сегодня ты играешь джаз, а завтра Родину продашь») замест двухсэнсоўнай «гарачай любові».

Згадаў я вялікую актрысу (я ўсё ж лічу яе вялікай) невыпадкова.

І тут варта расказаць больш падрабязна пра ланч і яго ўдзельнікаў.

Ён праходзіў не ў рэстарацыі, а ў нейкай залі прыёмаў у шматпавярховым доме.

Найбольш вядомым для мяне быў, безумоўна, Зьбігнеў Бжэзінскі — памочнік прэзыдэнта Джымі Картэра ў нацыянальнай бясьпецы, у пачатку 80-х пра яго шмат пісалі ў савецкай прэсе як пра ворага «міру і прагрэсу». Ніякім ворагам мірнага і прагрэсіўнага ён, вядома, ня быў, а быў прыхільнікам дэмакратычнага ладу і вялікім сябрам польскай «Салідарнасьці». І, што для Крамля і Лубянкі было галоўным, — перакананым антыкамуністам.

Пазьней я прачытаў ягоную кнігу «Вялікая шахматная дошка», якая спалучае ў сябе сапраўдны падручнік у геапалітыцы і прагнозы, якія спраўджваюцца на нашых вачах. Ён ня надта верыў у дэмакратычную будучыню Расеі і за шмат гадоў да анэксіі Крыму і вайны на Данбасе ўгледзеў, што Ўкраіна будзе тым месцам, дзе сканцэнтруецца супрацьстаяньне Расеі і Захаду. Своеасаблівы цывілізацыйны



Сустрэча са Зьбігневам Бжэзінскім (крайні справа)

разлом ён правёў па Ўкраіне і Беларусі, і ён супадаў зь межамі да 1939 году. (Розьніцу ў мэнтальнасьці жыхароў усходніх і заходніх рэгіёнаў я добра адчуў, калі мы з дэпутатамі БНФ аб’ехалі дзясяткі раёнаў па ўсёй Беларусі. Ці будзе яна існаваць і далей, як доўга і ці выльецца гэта ў нешта пакуль непрадказальнае — не магу прарочыць, я ж не Бжэзінскі.)

Прафсаюзны дзяяч Лэйн Керклэнд шаснаццаць гадоў узначальваў Амэрыканскую фэдэрацыю працы – Кангрэс прамысловых арганізацый (AFL-CIO). Вядомая фраза Керклэнда — «Калі б цяжкая праца была такой цудоўнай рэччу, багатыя, вядома ж, трымалі б яе пры сабе». Ён таксама спрыяў польскай «Салідарнасьці» ў самыя цяжкія для яе часы — гады ваеннага становішча. Прычым падштурхнуў таго ж Бжэзінскага на большую фінансавую дапамогу, чым першапачаткова плянавалася (Белы дом не хацеў занадта злаваць Маскву).

Разам з жонкай Керклэнд даваў у сваім доме прыёмы ў гонар дысыдэнтаў з краінаў «сацыялістычнага лягеру». Прыёмы ў доме Керклэндаў наведваў і Салжаніцын у першыя гады свайго амэрыканскага жыцьця.

На абед з гасьцямі зь Беларусі Керклэнд прыйшоў з жонкай. Ірэна Керклэнд была адвакаткай у галіне правоў чалавека, таму інтарэс да нас з Пазьняком у яе быў зусім ня сьвецкі. У дзявоцтве Нойманава, яна нарадзілася і жыла ў Празе, пакуль у часы нямецкай акупацыі яе ня выгналі са школы. Нацысты вывезьлі яе габрэйскую сям'ю ў Тэрэзін, потым, разам зь сястрой, — у Асьвенцім, дзе ім нейкім цудам удалося ня трапіць у газавыя камэры. Пасьля вайны яны вярнулася ў Прагу, Ірэна вучылася ў Карлавым унівэрсытэце і ўступіла ў сацыял-дэмакратычную партыю. Пасьля прыходу да ўлады камуністаў яе выключылі з унівэрсытэту і арыштавалі. Потым яна выехала ў Ізраіль, адтуль — у Парыж, Лёндан і, нарэшце, у Амэрыку. У нэкралёгу, зьмешчаным у The Washington Post пасьля сьмерці Ірэны Керклэнд у 2007 годзе (яна перажыла свайго мужа Лэйна на восем гадоў) напішуць, што ў апошні год жыцьця яна атрымала ўзнагароду Міністэрства замежных спраў Чэхіі за спрыяньне дэмакратыі, правам чалавека і дапамогу ўцекачам.

Перад абедам нехта мне сказаў, што Ірэна была сяброўкай Мэрылін Манро. Пасьля сустрэчы я пацікавіўся, як адбылося іхняе знаёмства, але Ірэна аджартавалася нечым кшталту «Гэта было вельмі, вельмі даўно!» Ужо потым я зразумеў, што маё пытаньне мела элемэнт нетактоўнасьці: яе сяброўства з актрысай было зьвязана з тым, што ейны першы муж быў прадусарам апошняга фільма,

у якім здымалася Манро, і прыпала якраз на самы драматычны, калі не сказаць трагічны, пэрыяд жыцьця актрысы.

Ну а праз дваццаць гадоў, у 2016-м, мая дачка Ганна сыграе ў спэктаклі праскага моладзевага тэатру пра лёс яўрэйскай дзяўчынкі, якая апынулася ў Тэрэзіне. На прэм’еры тэкст ад сябе самой будзе чытаць галоўная гераіня, якой, як і Ірэне Ноймана-вай-Керклэнд, пашчасьціла выжыць.

Александэр Гэйг быў сівы мужчына з крыху раскосымі, іранічнымі вачыма пад густымі (у часе майго юнацтва сказалі б «брэжнеўскімі») бровамі. У яго была галівудзкая зьнешнасьць, і да сваёй вайсковай і палітычнай кар’еры ён мог бы і цяпер дадаць кіношную, калі б пажадаў.

Калі нас знаёмілі, я сказаў, што ў мінулым быў афіцэрам, назваў і званьне — старшы лейтэнант — і дадаў, што гэта ня тыя зоркі, якія могуць яго ўразіць. Чатырохзоркавы генэрал засьмяяўся і сказаў, што ня ўсе сэнатары маюць такое званьне, большасьць зь іх не служылі.

Сам Гэйг аддаў войску большую палову жыцьця — легендарная акадэмія ў Вэст-Пойнт, войны ў Карэі, Віетнаме, баявыя ўзнагароды і, як фінал, — вярхоўны камандуючы сіламі NATO ў Эўропе, чатыры генэральскія зоркі на пагонах — вышэйшага званьня ў мірны час у Амэрыцы няма. А яшчэ — арганізаваны левардыкальнай тэрарыстычнай групоўкай «Фракцыя Чырвонай арміі» замах на жыцьцё, калі бомба, закладзеная пад мостам, узарвалася праз сэкунду пасьля таго, як ягоны аўтамабіль праехаў.

Але ў гісторыю Гэйг увайшоў у большай ступені як палітык. Ягоная кар’ера ў калідорах улады




Александэр Гэйг у часы камандаваньня сіламі NATO

ўражвае ня менш за вайсковую. Памочнік Гэнры Кісынджэра (і ўдзельнік перамоваў аб спыненьні вайны ў Віетнаме), кіраўнік апарату Белага дома і памочнік прэзыдэнта Рычарда Ніксана (і ўдзельнік перамоваў аб адстаўцы Ніксана ў часе Ўотэргейцкага скандалу). Прэзыдэнт Рональд Рэйган пасьля сваёй інаўгурацыі прызначыў яго дзяржсакратаром, і на гэтай пасадзе ён сказаў фразу, якую часта прыпісваюць Рэйгану: «Ёсьць рэчы, важнейшыя за мір».

Вядомасьць набыло і іншае выказваньне Гэйга — калі ў красавіку 1981-га паранены і праапэраваны Рэйган быў у шпіталі пасьля замаху на ягонае жыцьцё, на прэсавай канфэрэнцыі ў Белым доме дзяржсакратар заявіў журналістам, што «кантралюе сытуацыю».

Нядобразычліўцы адразу пачалі трактаваць заяву як спробу ўзяць на сабе паўнамоцтвы, не праду-

гледжаныя Канстытуцыяй. Па ёй лінія пераемнасьці ў выпадку няздольнасьці прэзыдэнта выконваць абавязкі ідзе да віцэ-прэзыдэнта, потым сьпікера Палаты прадстаўнікоў і часовага прэзыдэнта Сэнату, і толькі пасьля іх — да дзяржсакратара. Строга кажучы, фраза была вырваная з кантэксту. Насамрэч Гэйг прыгадаў і Канстытуцыю, і віцэ-прэзыдэнта, якому, аднак, Рэйган улады не перадаў, і сказаў у тым сэнсе, што кантралюе сытуацыю менавіта вось цяпер, вось тут, у Белым доме ў чаканьні віцэ-прэзыдэнта Джорджа Буша-старэйшага. Што было праўдай.

Мне ў той гісторыі якраз сымпатычная гэтая рыса Гэйга — гатоўнасьць узяць на сабе адказнасьць. У Беларусі мы бачылі зусім іншыя прыклады, калі кіраўнікі парлямэнту адзін за другім заяўлялі, што «ня маюць улады», «ня маюць» паўнамоцтваў, — у той час як Лукашэнка захопліваў сабе ўсё больш паўнамоцтваў, не прадугледжаных Канстытуцыяй. Заклікі БНФ да рашучых дзеяньняў сьпікеры (ня толькі яны, праўда) называлі пагрозай «грамадзянскаму міру» — але, магчыма, сапраўды ёсьць моманты, калі існуе нешта важнейшае за гэта самы «грамадзянскі мір», калі на карту стаіцца існаваньне краіны ці нават нацыі? Ці ня гэты сэнс укладаецца ў фразу «народ мае права на паўстаньне»?

Але часьцей і паўстаньня ніякага ня трэба — дастаткова ініцыятыўных дзеяньняў у выкананьні Канстытуцыі і заканадаўства. Перакананы, што бескампрамісныя крокі ў дачыненьні да Кебіча ўвосень 93-га, калі ён падтрымаў праімпэрскія сілы, ці да Лукашэнкі ў красавіку 95-га, калі былі пабітыя дэпутаты парлямэнту, прадухілілі б тое, у чым Беларусі давядзецца жыць амаль тры дзеся-



копия перевод с белорусского

Совет Европы

Уважаемые господа!

Мы осознаём всю необычность своего обращения, однако вынуждены это сделать, стремясь обезопасить народ Беларуси и государства Европы от разрушительных последствий, которые могут стать результатом непредсказуемости Александра Лукашенко.

Наблюдая Лукашенко несколько лет в парламенте и два года на посту Президента, мы вынуждены сомневаться в его способности адекватно воспринимать окружающую действительность и себя в этой действительности. В конце 1994 года группа депутатов белорусского парламента (в том числе и мы), обеспокоенные психическим состоянием Лукашенко, предложила создать специальную медицинскую комиссию для освидетельствования состояния здоровья Александра Лукашенко. К сожалению, это предложение не получило необходимой поддержки. Кроме того, сомнительно, чтобы созданная в Беларуси комиссия получила бы возможность провести обследование в полном объёме. Ныне странность и непредсказуемость поведения Лукашенко становятся всё более очевидными, проявляясь в чрезвычайно жестоких, бессмысленных с точки зрения политической логики действиях, в постоянной озлобленности, настороженности и поиске врагов. Это представляет особую опасность с учётом создания им незаконных вооружённых формирований (так называемая "Служба безопасности Президента", насчитывающая более 1.800 человек), его стремления оставить на территории Беларуси ядерные оружие. Просим рассмотреть возможность создания международной комиссии для медицинского освидетельствования Александра Лукашенко.

Зянон Пазьняк, Председатель Белорусского Народного Фронта

Сяргей Навумчык, член Белорусского Хельсинского Комитета

Варшава, 19 июня 1996.

Ліст у Раду Эўропы з прапановай стварыць міжнародную камісію для мэдычнага агляду Лукашэнкі: «… Мы вымушаныя сумнявацца ў ягонай здольнасьці адэкватна ўспрымаць навакольную рэчаіснасьць і сябе ў гэтай рэчаіснасьці».

цігодзьдзі. Ну а празь некалькі месяцаў мы ўбачылі, як кіраўніцтвам Вярхоўнага Савету бяздарна былі страчаныя канстытуцыйныя магчымасьці абвясьціць імпічмэнт.

Але пра гісторыю з фразай Гэйга падчас шпіталізацыі Рэйгана я даведаўся ўжо пасьля сустрэчы, а ў той момант трапіў пад уплыў надзвычайнай харызмы гэтага неардынарнага чалавека. Мне даводзілася бачыць шмат генэралаў, але Гэйг успрымаўся найперш як інтэлектуал.

Між іншым, пасьля таго, як я сказаў пра псыхічную, на маю думку, неадэкватнасьць Лукашэнкі, Александэр Гэйг папрасіў расказаць пра гэта больш падрабязна. І калі нехта за сталом усьміхаўся (а было з чаго), дык ён выслухаў маё тлумачэньне сур'ёзна. Тады я не надаў гэтаму асаблівай увагі, а вось пазьней зразумеў, чым выклікана было такое стаўленьне. Цягам вайсковай службы Гэйгу даводзілася трапляць у экстрэмальныя сытуацыі — і калі ад рашэньняў начальнікаў залежала ягонае ўласнае жыцьцё, і калі ягоныя рашэньні вырашалі лёс тысяч і нават мільёнаў. Як удзельнік складаных перамоваў — і па спыненьні віетнамскай вайны, і па арганізацыі візыту амэрыканскага прэзыдэнта ў Кітай і ягонай сустрэчы з Мао Цзэдунам, і ў сытуацыі Ўотэргейту — ён ведаў, што глябальныя рашэньні могуць залежыць ад індывідуальных асаблівасьцяў і нават ад капрызаў тых, хто іх прымае.

Ну а цяпер пра палітычную сутнасьць той гутаркі за ланчам успамінае Зянон Пазьняк:

*Бжэзінскі даў у наш гонар абед, куды запрасіў вядомых асобаў, у асноўным тых, хто ўжо адышоў ад пасадаў. Але ў Амэрыцы такія людзі, як Александэр Гэйг ці той жа Зьбігнеў Бжэзінскі, яны*

*ад палітыкі не сыходзяць, нават калі сыходзяць з пасадаў, і маюць самы непасрэдны ўплыў. Дык вось была вельмі канкрэтная размова. Лічу, што вельмі карысная, бо большасьць пытаньняў было такіх, на якія можна было канкрэтна адказваць, ня робячы тлумачэньняў. Ёсьць цяжкасьці, калі спатыкаесься з амэрыканскімі палітыкамі, якія займаюцца ўнутрыамэрыканскімі пытаньнямі альбо іншымі абласьцямі, яны цяжка арыентуюцца ў сытуацыі ва Ўсходняй Эўропе, у Беларусі, трэба шмат тлумачыць. Тут прафэсійны ўзровень быў такі, што тлумачэньняў было вельмі мала. Што зьвярнула ўвагу — сярод пытаньняў Бжэзінскі вылучыў адно, якое паўтарыў некалькі разоў: які ўзровень нацыянальнай сьвядомасьці беларускага народу? Ці здольны народ адстойваць свае правы? Вось гэтае пытаньне задаюць толькі ў Польшчы і ва ўсім сьвеце там, дзе ў палітыцы палякі. Гэта не выпадкова. Таму што польскае грамадзтва на працягу ўсёй сваёй гісторыі мела дачыненьне з маскоўскай імпэрыяй. Яны проста разумеюць, што ў гэтай сытуацыі самае важнае. І гэта было вельмі істотна пачуць такое ў Амэрыцы.*

*Задаваліся вельмі канкрэтныя пытаньні, што, як мы лічым, мусіць зрабіць Амэрыка для Беларусі ў гэтай сытуацыі. Выказваючы нашыя думкі (тут і правы чалавека, і інфармацыя, і адносіны з Масквой), мы ўказвалі на тое, што было б вельмі важна, каб амэрыканская палітыка занялася канкрэтным вывучэньнем сытуацыі ў Беларусі, каб быў пастаянны аналіз і каб Беларусь стала аб'ектам амэрыканскай палітыкі.*

*Таму што тое, што адбываецца на Беларусі, гэта ёсьць ажыцьцяўленьне стратэгічнай палітыкі*

*Крамля ва Ўсходняй Эўропе. І разуменьне гэтага вельмі важнае, бо потым можа аказацца позна, калі ўжо будуць вынікі, і вельмі дрэнныя.*

*Мы гаварылі, што ўражаньне часам такое, што быццам не Амэрыка выйграла халодную вайну, а Расея. І што ў гэтай сытуацыі Беларусь робіцца цэнтрам прыкладаньня расейскай імпэрскай палітыкі ва Ўсходняй Эўропе.*

Цяпер тых ганаровых гасьцей, зь якімі мы палуднавалі, няма ў жывых. У мяне засталася ня толькі добрая памяць пра іх, але і адчуваньне, што дакрануўся да амэрыканскай і сусьветнай гісторыі.

Усё ж памыляліся ідэолягі камунізму, калі казалі, што роля асобаў у гісторыі мізэрная. Часам яна бывае вельмі істотнай і нават вызначальнай, прыводзіць цэлыя народы і да добрага, і да дрэннага.

Людзі, якія паспрыялі абрынаньню камуністычнай сыстэмы, перакананы, паспрыялі добраму.

## У офісе Джо Байдэна спрачаемся пра Беларусь

Адным з апошніх пунктаў нашай праграмы ў Вашынгтоне, перад адбыцьцём у Нью-Ёрк, была пазначана сустрэча ў офісе сэнатара – сябра камітэту замежных справаў Сэнату ЗША.

Прозьвішча ягонае тады мне нічога не гаварыла. Папраўдзе, я адразу на яго і забыўся (што псыхалягічна апраўдана на фоне таго, што мы пачулі на той сустрэчы). Значна пазьней, калі разьбіраў запісы тых дзён, гэтае імя мне ўжо гаварыла шмат. Гэта быў Джо Байдэн.

Байдэн справядліва лічыўся адным з найбольш уплывовых амэрыканскіх сэнатараў — ён быў яшчэ і старшынём сэнацкага камітэту юстыцыі (менавіта праз яго праходзяць кандыдатуры генэральнага пракурора ЗША, судзьдзяў, таксама камітэт выносіць вэрдыкт адносна законапраектаў).

Але ў нашым выпадку важным было ня столькі старшынёўства Байдэна ў камітэце юстыцыі, колькі ягоная праца ў камітэце міжнародных адносінаў. Прычым на момант нашай сустрэчы Джо Байдэн уваходзіў у яго ўжо больш як 20 гадоў. Сэнацкія камітэты прыблізна ў роўнай прапорцыі складаюцца з прадстаўнікоў абедзьвюх партый, і Байдэн узначальваў групу дэмакратаў (старшынём камітэту быў рэспубліканец Джэсі Гэлмз, у 2001-м яго замяніць Байдэн).

Такім чынам, з аднаго боку, Байдэн прадстаўляў у сэнацкім камітэце, як мы казалі ў свой час у Беларусі, «дэпутацкую меншасьць» — але «меншасьць» гэтая належала да партыі, чый прадстаўнік быў гаспадаром Белага дома. Дасьведчанасьць і ўплыў такога палітыка не падлягалі сумневам.

Супрацоўнікі офісу Байдэна (іх было чалавекі чатыры), якія прысутнічалі на сустрэчы, таксама стваралі ўражаньне людзей, якія грунтоўна разьбіраюцца ў міжнароднай палітыцы. Ва ўсялякім разе, на іх тварах не ўзьнікала грымасы недаверу, калі мы сказалі, што зь перавыбраньнем Ельцына Масква ня спыніць сваіх імпэрскіх, экспансіяніцкіх намераў да Беларусі.

Ну і паколькі пераконваць у гэтым нашых суразмоўцаў, як нам здавалася, не было патрэбы, мы выказалі пажаданьне, каб Злучаныя Штаты далі нейкія важкія гарантыі незалежнасьці Беларусі

і паслалі недвухсэнсоўны сыгнал Маскве, што Вашынгтон ня зьмірыцца з паглынаньнем Беларусі Расеяй.

Гаварыў пра геапалітыку пераважна Пазьняк; я, здаецца, спыніўся толькі на некаторых асаблівасьцях характару Лукашэнкі і ягонага стаўленьня да незалежнасьці.

Нас уважліва выслухалі, а потым адзін з суразмоўцаў зазначыў:

— Расея можа не пагадзіцца з далучэньнем Літвы, Латвіі, Эстоніі ды краінаў Усходняй Эўропы да NATO і стварыць нам на гэтым шляху вялікія праблемы.

Разумець гэта трэба было так: калі Ельцын паставіць умову — пашырэньне NATO узамен на замацаваньне сфэры ўплыву Масквы (ці нават аб’яднаньне Беларусі і Расеі), Вашынгтон будзе вымушаны зрабіць выбар не на нашу карысьць.

Мы, безумоўна, ведалі, што Беларусь не прыярытэт для Вашынгтону.

Дазволю сабе гістарычную рэтраспэктыву.

Трэба прызнаць, што палітыкі ЗША ніяк не дапамагалі нам у барацьбе за незалежнасьць у 1990-1991 гадах. Спрыяла беларуская дыяспара, вакном у сьвет было Радыё Свабода, якое фінансуецца амэрыканскім Кангрэсам, але Белы дом, Дзяржпэпартамэнт, сэнатары, кангрэсмэны ніколі не выказвалі ні слова падтрымкі.

Мы чыталі пра візыты амэрыканскіх палітыкаў у Вільню, Рыгу, Талін, пра іх ціск на Маскву з патрабаваньнем адпусьціць прыбалтыйскія савецкія рэспублікі на свабоду (ЗША, увогуле Захад ніколі не прызнавалі іх анэксію). Але ў Менск кангрэсмэны і сэнатары не прыяжджалі; ні слова падтрымкі

ідэі незалежнасьці, якой дамагаўся БНФ, мы ня чулі. Праўда, да нас часам даходзілі праклямацыі некаторых кангрэсмэнаў да 25 Сакавіка — але мы разумелі, што гэта была даніна гісторыі, выкліка624ная ў значнай ступені актыўнай дзейнасьцю Рады БНР і наяўнасьцю этнічных беларусаў у выбарчых акругах гэтых палітыкаў.

Такія адносіны былі ня толькі да ідэі беларускай незалежнасьці — ясны і недвухсэнсоўны сыгнал быў пасланы прэзыдэнтам ЗША Бушам у Кіеве ў ліпені 1991-га, калі, выступаючы ў Вярхоўнай Радзе, ён перасьцярог дэпутатаў ад абвяшчэньня палітычнай самастойнасьці. У дачыненьні да рэспублік Савецкага Саюзу (акрамя прыбалтыйскіх) заходнія, у тым ліку і амэрыканскія палітыкі, кіраваліся прагматычным разьлікам, у падставе якога быў страх, што распад СССР прывядзе да вайны на абшарах «адной шостай часткі сушы», як тады называлі савецкую імпэрыю.

25 жніўня 1991 Беларусь абвясьціла незалежнасьць, праз некалькі дзён яе прызналі Польшча, потым Турэччына, Швэцыя — але ня Злучаныя Штаты. Вашынгтон падтрымліваў Гарбачова, баючыся, што ядзерны арсэнал СССР выйдзе з-пад адзінага кантролю.

8 сьнежня 1991-га былі падпісаныя Белавескія пагадненьні аб спыненьні існаваньня СССР «як геапалітычнай рэальнасьці», іх ратыфікавалі Вярхоўныя Саветы Беларусі, Украіны і Расеі, але і гэта не было падставай для прызнаньня Злучанымі Штатамі беларускай незалежнасьці.

І толькі пасьля таго, як 25 сьнежня Гарбачоў падаў у адстаўку з пасады прэзыдэнта СССР і над Крамлём чырвоны сьцяг СССР быў заменены на

расейскі трыкалёр, толькі пасьля гэтага, перад самым Новым годам, Белы дом заявіў аб прызнаньні незалежнасьці былых савецкіх рэспублік і ўсталяваньні дыпляматычных адносінаў; Беларусь уваходзіла ў гэты пакет.

У першыя гады ЗША выступалі за дэмакратычныя і эканамічныя рэформы ў Беларусі, падтрымлівалі намаганьні ў гэтых справах БНФ, але галоўнае, што цікавіла Вашынгтон, гэта адмова ад ядзернай зброі і вывад яе з тэрыторыі Беларусі.

Куды? Ясна, у Расею, дзе, на думку амэрыканскіх палітыкаў, будавалася дэмакратыя.

Вярхоўны Савет прагаласаваў за вывад ядзернай зброі — прычым вывад без усялякіх умоваў.

Узамен вываду ядзернай зброі падпісаны ў 1994 годзе Будапэшцкі мэмарандум даваў Беларусі, Украіне і Казахстану абяцаньні «паважаць незалежнасьць, сувэрэнітэт і існыя межы» з боку ЗША, Вялікай Брытаніі і Расеі. Цана гэтых абяцаньняў зрабілася зразумелай украінцам у 2014-м, калі Расея анэксавала Крым.

Тады, у 96-м, нам хацелася верыць, што палітыкі, асабліва заходнія палітыкі, будуць трымаць сваё слова. Але месца веры ўсё больш займала трывога.

«Нас падзялілі — хто? Чужаніцы, цёмных дарог махляры», — 75 гадоў таму пісаў Якуб Колас, пісаў пра зусім іншае, пра Рыскі мір 1921-га, у выніку якога заходняя частка Беларусі была далучаная да Польшчы. Тады Рада БНР зьвярталася ў Парыжы да заходніх палітыкаў, але безвынікова. Польшча як важная структурная частка Вэрсальскай сыстэмы цікавіла Амэрыку і краіны-пераможцы заходнія і куды болей, чым цэласнасьць нейкай незразумелай для іх Беларусі.

Цяпер мы бачылі, што намер пашырыць NATO (цалкам апраўданы, мы і самі ў Празе выказаліся за ўваходжаньне Беларусі ў альянс) можа быць рэалізаваны коштам саступак Маскве, прычым роля разьменнай карты выпадала Беларусі.

Гісторыя магла паўтарыцца.

Імавернасьць такога сцэнару мы ацанілі як вельмі сур'ёзную: міжнародны сэнацкі камітэт, ды яшчэ офіс аднаго з самых уплывовых палітыкаў, ня тое месца, дзе будуць жартаваць у такіх геапалітычных фарматах.

Празь некалькі гадоў, чытаючы мэмуары тагачаснага намесьніка дзяржсакратара ЗША Строўба Тэлбата, які быў «адказны» за былы СССР і, што яшчэ больш важна, належаў да асабістых сяброў Біла Клінтана яшчэ са студэнцкіх гадоў, я даведаўся, што ў тым самым 96-м другім «галаўным болем» ЗША на постсавецкай прасторы, пасьля выбараў у Расеі, было — як бы ўгаварыць Расею пагадзіцца на пашырэньне NATO.

Незалежнасьць Беларусі магла быць ахвяраваная без асаблівых ваганьняў, і гэта стала нам зразумела ў той сьпякотны дзень у Вашынгтоне.

Мы мусілі шукаць нейкі крок, які б, калі і не перашкодзіў, дык зблытаў карты ў гэтай геапалітычнай гульні.

Сытуацыя ўскладнялася і нявызначанасьцю нашага з Пазьняком уласнага становішча.

## Франтаўцы дасылаюць нам ліст

На сустрэчах з афіцыйнымі прадстаўнікамі Белага дому, Рады бясьпекі, Дзярждэпартамэнту мы падкрэсьлівалі, што не зьбіраемся прасіць палітычнага прытулку ні ў Амэрыцы, ні ў якай іншай краіне.

У нас было два варыянты. Мы абмяркоўвалі магчымасьць стварыць інфармацыйны цэнтар у Лёндане і дзейнічаць у Брытаніі паўгода, бо шматразовая шасьцімесячная брытанская віза ў нас была. Адначасна выдаваць у Варшаве бюлетэнь «Беларускія ведамасьці». Але гэта на скрайні выпадак.

Увогуле ж мы зьбіраліся завяршыць справы за мяжой і вярнуцца ў Менск.

Але, відаць, нашая замежная дзейнасьць нагэтулькі знэрвавала Лукашэнку, што ён вырашыў нашага вяртаньня не чакаць. У сярэдзіне ліпеня мы атрымалі вельмі сур'ёзную інфармацыю пра пляны ня толькі менскіх, але й маскоўскіх спэцслужбаў.

У самым канцы ліпеня быў падрыхтаваны дэпутацкі запыт пра загад аб затрыманьні нас на мяжы да генпракурора Капітана і старшыні КДБ Мацкевіча. Перад гэтым былы дэпутат Алег Трусаў і яшчэ некалькі чалавек — выбарнікі зь Ленінскага раёну Менску Ўладзімер Бордак, Яўген Лемеш, Любоў Палякова і іншыя — зьвярнуліся да дэпутата ВС-13 Аляксандра Дабравольскага.

Яны пісалі, што, «нягледзячы на неаднаразовыя звароты грамадзкасьці і прадстаўнікоў палітычных партыяў да ўраду, кіраўніцтва МЗС, КДБ, МУС і пракуратуры Рэспублікі Беларусь з пытаньнем, ці распачаты крымінальны перасьлед у адносінах да З. Пазьняка і С. Навумчыка, афіцыйнага адказу

атрымаць не ўдалося. Мы добра разумеем, што крымінальны альбо адміністрацыйны перасьлед удзельнікаў у вясновых падзеях 1996 г. маюць палітычны характар. Таму просім Вас выйсьці на другой сэсіі Вярхоўнага Савету з прапановай стварыць парлямэнцкую камісію Вярхоўнага Савету па высьвятленьні пытаньня: ці ёсьць загад аб затрыманьні лідэраў БНФ на мяжы Беларусі і ці распачаты супраць іх крымінальны перасьлед. Гэтая камісія павінна таксама даць афіцыйную ацэнку ўсім падзеям вясны 1996 году».

Аляксандар Дабравольскі зьвярнуўся да генпракурора і старшыні КДБ з запытам, які падтрымалі і дэпутаты Людміла Гразнова, Станіслаў Багданкевіч і Генадзь Карпенка.

Копію гэтага дэпутацкага запыту мы атрымалі ад жонкі Пазьняка Галіны Вашчанкі 31 ліпеня — разам з копіяй ліста ад кіраўніцтва БНФ, які быў падпісаны імі 27 ліпеня.

Ліст быў напісаны ў адказ на нашыя з Пазьняком просьбы даведацца пра нашую прававую сытуацыю ў Беларусі і магчымасьць вяртаньня. Прывяду яго цалкам:

*Мы зь вялікай удзячнасьцю ўспрымаем тую вашую велізарную інфармацыйную і палітычную працу, што вы ведзяце ва ўмовах доўгага знаходжаньня па-за Беларусьсю. Вельмі станоўча гэтая праца ацэньваецца ня толькі намі, але і іншымі палітыкамі-дэмакратамі, і нават большасьцю лібэральных журналістаў. Тэма вашай працы там асьвятляецца так, як яе магчыма асьвятляць (залежыць ад атрыманай ад вас інфармацыі). Трэба заўважыць, што цяпер улетку газэты выходзяць нерэгулярна і ўвага да палітыкі крыху аслабла. Тым*

*ня менш на мітынг у дзень Незалежнасьці (27 ліпеня) выйшлі каля 10 тысяч чалавек. Галоўную ролю ў арганізацыі выконвалі мы, што прызнаюць Багданкевіч і інш. Пад бел-чырвона-белымі сьцягамі ішлі і Таразевіч, і Захаранка, і Палевікова, і Бухвостаў. Па нашых зьвестках, былі ў калёне і некаторыя з камуністычных лідэраў. Усё прайшло добра, зь вялікай увагай расейскіх і іншых СМІ.*

*Сёньня галоўнае, што мы можам зрабіць тут для вас, гэта стварыць умовы для вашага вяртаньня — гэта значыць змусіць адысьці рэжым Лукашэнкі.*

*Што да нашых захадаў у вашую падтрымку. Мы згодныя, што мы тут зрабілі ня ўсё. Але ж папракаць нас у блізарукасьці і г. д. таксама ня варта. Сёньня ідзе самае рашучае змаганьне супраць рэжыму за ўсе апошнія гады, сёньня знаходзяцца пад судом з падпіскай аб нявыезьдзе спадары Хадыка, Вячорка і Сіўчык, сядзіць у турме Адамовіч, нядаўна асуджаны Рамашэўскі. У адносінах да вас мы ня можам сабраць ніякай дакладнай інфармацыі па сутнасьці вашага статусу. Дабравольскі афіцыйна зьвяртаўся да Мацкевіча, і той сказаў, што ніякага перасьледу няма. Іншыя крыніцы сьцьвярджаюць, што, як толькі вы вернецеся, вас адразу затрымаюць. Ніхто ніякага праўдзівага адказу даць ня можа. Прыкладаем вам копію новага запыту Багданкевіча, Грazновай, Карпенкі і Дабравольскага, які пойдзе 29-га. Гарантыі даць мог бы ў гэтай дзяржаве толькі Лукашэнка, але вы ведаеце, чаго вартыя гэтыя гарантыі. Прэса пастаянна вяртаецца да гэтай тэмы (інтэрвію Галі Навумчык ва ўчорашніх «СН-плюс» і г.д.). Зьвяртацца ў міжнародныя праваахоўныя арганізацыі было б нейк*

*няпроста, бо вы самі знаходзіцеся да іх бліжэй і мы ня можам прадаставіць ім ніякіх дакумэнтаў (калі іх здабудзем, адразу ж скарыстаем) адносна вашага перасьледу. Ніводная праваахоўная арганізацыя не пачынае рабіць захадаў, грунтуючыся на паведамленьнях СМІ.*

*Але самае галоўнае, што мы чакаем ад вас вытрымкі і далейшай плённай працы там. Думаем, што ваша вяртаньне ў Беларусь можа стаць бясьпечным у недалёкім часе. Супраціў гэтаму рэжыму расьце. Праз тыдзень пасьля вашага вяртаньня ўсякія адмоўныя моманты вашай сёньняшняй эміграцыі (якіх менш, чым станоўчых) забудуцца.*

*Мы прызнаём свае недахопы. Але наша праца сёлета ідзе на мяжы фізычных магчымасьцяў.*

*Вельмі вас просім быць вытрыманымі, бо разумеем вашую псыхалягічную сытуацыю, і зрываў тут быць не павінна. Ацэньваем сёньняшнюю сытуацыю ўвогуле як пэрспэктыўную. Асабліва прыемна, што словы «БНФ» і «Народны Фронт» на слыху ў самых розных сродках масавай інфармацыі.*

*Рашэньне падняць пытаньне пра вас на магчымым «круглым стале» намі прынята ўжо раней. Іншая справа, ці адбудзецца ён увогуле. Наша пазыцыя тут радыкальная, і мы чакаем новых вашых парадаў.*

*Нам незразумелая вашая надта актыўная пазыцыя па NATO. Мы яе ў Фронце яшчэ не абмяркоўвалі, але сёньня сацыялягічныя апытаньні паказваюць, што 65 % апытаных ставяцца да NATO адмоўна. Трэба ў палітыцы ўлічваць і гэты фактар, хоць бы ўжываючы больш абцякальныя, «дыпляматычныя» фармулёўкі.*

*У цэлым Фронт працуе згуртавана, аддана, і шараговых фронтаўцаў ваш лёс увесь час цікавіць.*

*Па пытаньні аб выбарах і рэфэрэндуме. Да выбараў мы рыхтуемся, бо рашэньне аб удзеле ў іх пакуль што ніхто не адмяняў (канфэрэнцыя адназначна выказалася супраць) Але калі Лукашэнка прапхне рэфэрэндум, то асноўная ўвага будзе нададзена яму. Багданкевіч і іншыя дэпутаты — «грамадзяне», дарэчы, ня раз гаварылі нам, што вельмі зацікаўленыя, каб была фракцыя БНФ у Вярхоўным Савеце. Яны нават абяцаюць фінансавую падтрымку. Таму падрыхтоўка да рэфэрэндуму ідзе плянавая і звычайная. Зьменіцца сытуацыя — будзем прымаць іншае рашэньне, з улікам вашых меркаваньняў.*

*На нашу агульную думку, сёньня сытуацыя ў Беларусі лёсавызначальная. Магчыма, і ў вас знойдзецца магчымасьць прымаць у гэтай сытуацыі нестандартныя рашэньні (арганізаваць сустрэчу з Шарэцкім недзе ў Эўропе, нечакана для ўсіх вярнуцца ў патрэбны момант і г.д.). Сёньня палітыка тут патрабуе неардынарных ходаў. Мы ведаем вашу добрую палітычную інтуіцыю і спадзяёмся, што вы і далей захаваеце мужнасьць, вытрымку і неабходны аптымізм.*

*Горача абдымаем, заўсёды вашы — Л. Баршчэўскі, Ю.Хадыка, Ю.Беленькі, В. Вячорка, С. Гусак, В. Асташынскі, В. Каролік, В. Сіўчык. 27.07.1996.*

Мы з Пазьняком яшчэ раз пераканаліся, што стратэгія адстойваньня незалежнасьці праз масавыя акцыі, якую кіраўніцтва БНФ выбрала ў пачатку году, калі Фронт страціў прадстаўніцтва ў парлямэнце, была правільная. У тым, што аўта-

рытэт Фронту вырас у такіх няпростых умовах, была вялікая заслуга нашых паплечнікаў у Менску, найперш падпісантаў ліста. І вядома ж, усіх тых, хто ўвесь гэты час выходзіў на вуліцы пад дубінкі АМАПу, даказваючы ўсяму сьвету, што беларусы ня зьміраццa з анэксіяй.

Іншая справа, што ніякай пэўнасьці зьмест гэтага ліста ў нашае жыцьцё ня ўзносіў — вядома, зусім не па віне нашых менскіх паплечнікаў, якія ў тых умовах сапраўды рабілі ўсё, што маглі.

Але атрымалі мы гэты ліст ужо ў зусім іншай для нас сытуацыі.

## Вісець ці не вісець у паветры

Пра тое, як у тыя дні разгортваліся падзеі, прыгадаў Зянон Пазьняк:

*Мы даведаліся, што ў Варшаву прызначылі адмыслова ўпаўнаважанага чыноўніка пры беларускай амбасадзе, задача якога — выяўляць уцекачоў, на якіх заведзеная крымінальная справа, і спрыяць іхняй выдачы ў Беларусь. Ніякага статусу ў Польшчы я ня меў, крымінальную справу (і, здаецца, не адну) Лукашэнка мне ўжо ціха «павесіў». Я не сумняваўся, што палякі, гэтак жа, як і ўкраінцы, мяне ня выдадуць. І тым ня менш усё гэта сьведчыла пра намеры рэжыму. Неўзабаве скандальны камуніст у рускай Думе В. Ілюхін заявіў, што ён атрымаў зьвесткі, нібыта ў Польшчу заслана «18 амэрыканскіх афіцэраў ЦРУ» з заданьнем забіць аднаго ці двух лідэраў БНФ, зваліць віну за забойства на Лукашэнку і такім чынам скампрамэтаваць «беларускага прэзыдэнта».*

*... Неўзабаве нам пазванілі ў Нью-Ёрк з Прагі і паведамілі пра канфідэнцыйную размову ў Менску зь вядомай нам асобай у Генэральнай пракуратуры Беларусі, дзе прасілі папярэдзіць, што аддадзены загад і распрацоўваецца плян «нэўтралізацыі» мяне ў Польшчы.*

*Мы пайшлі на рызыкоўны крок: пазванілі ў Менск той асобе і, не называючы нікога і нічога, спыталі, ці праўда «тое, пра што казалі таму». «Гэта праўда, і вельмі сур'ёзна», — быў адказ.*

*Прааналізаваўшы сытуацыю, мы прыйшлі да высновы, што вяртацца ў Польшчу нельга. Вісець у паветры — беспэрспэктыўна. Можна было б прасіць палітычны азыль у ЗША, але былі сумненьні. Я добра разумеў, што для ўраду ЗША гэта будзе выбар паміж мной і Лукашэнкам, паміж усімі антырэжымнымі сіламі ў Беларусі і афіцыйным кіраўніцтвам Рэспублікі Беларусь. Гэта дастаткова сур'ёзны палітычны крок, і я ня быў упэўнены, што Амэрыка будзе яго рабіць.*

*Але калі б такі крок адбыўся, то ён стаў бы наймацнейшым ударам па рэжыме Лукашэнкі і ў пэрспэктыве (лягічна) мог бы прывесьці да ізаляцыі гэтага рэжыму. Сваім азылем, які схіліў бы адміністрацыю ЗША да выбару ў наш бок, можна было б забясьпечыць істотную палітычную падтрымку для свабоды і незалежнасьці Беларусі. Выбар Амэрыкі ня мог бы застацца безвыніковым.*

У палітыцы часам здараецца, калі нейкае адно дзеяньне вырашае дзьве задачы. 27 ліпеня 1990-га, калі парлямэнцкая камуністычная большасьць унесла ў праект Дэклярацыі аб сувэрэнітэце пункт аб падпісаньні новай саюзнай дамовы, дэпутаты БНФ адмовіліся галасаваць і пакінулі Авальную за-

лю. Але гэты самы крок адначасна быў успрыняты тымі камуністамі, якія вагаліся, ці варта прымаць Дэкларацыю ўвогуле, як выклік: «Бээнэфаўцы не галасуюць? Ну дык мы насуперак ім прагаласуем за гэтую дэкларацыю».

Гэтак і цяпер, у канцы ліпеня 96-га, вырашаючы праблему нашай асабістай бясьпекі (а фактычна ратуючы свае жыцьці) — мы, у выпадку станоўчага адказу, атрымалі б і важны палітычны вынік: рэжым у Беларусі быў бы афіцыйна прызнаны дыктатарскім і ні пра якое «свабоднае волевыяўленьне» ў справе беларуска-расейскага аб'яднаньня не магло бісьці і гаворкі (было ясна, што аншлюс Беларусі праводзілі б праз «рэфэрэндум»). Так яно, між іншым, і атрымаецца — але зь іншым рэфэрэндумам, які будзе праходзіць пад непараўнальна больш пільнай увагай міжнароднай супольнасьці, чым рэфэрэндум 1995 году, і ня будзе прызнаны легітымным.

Але ў апошнія дні ліпеня, абдумваючыварыянт палітычнага прытулку, мы не выключалі і іншы, адмоўны вынік. Зянон Пазьняк:

*Калі мы прайграем і справа з азылем зацягнулася б у доўгае балота — гэта быў бы сьмяротны ўдар ня толькі па маёй палітычнай пэрспэктыве, але й па ўсім беларускім Адраджэньні, па ўсёй беларускай нацыянальна-вызвольнай палітыцы. Неабходна было ўсё ўзважыць і параіцца з амэрыканскімі беларусамі.*

У паветры доўга не павісіш.

## Пазьняк ня хоча паўтараць памылкі свайго дзеда

Рашэньне пра палітычны прытулак мы прымалі ўжо ў Нью-Ёрку, куды прыляцелі з Вашынгтону.

На вакзале «Пэн-Стэйшн» нас сустракаў дзясятак беларусаў зь бел-чырвона-белымі сьцягамі.

Тады я ўпершыню ўбачыў Антося Шукелойця — патрыярха беларускай дыяспары, старшыню Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня (БАЗА), які да вайны настаўнічаў на Ашмяншчыне, сьпяваў у хоры Рыгора Шырмы. Назаўтра пасьля нападу немцаў на Савецкі Саюз быў арыштаваны НКВД, але ўцёк падчас налёту авіяцыі. У часы акупацыі быў дырэктарам гістарычнага музэю. У Амэрыцы працаваў у гандлёвай сфэры. На момант нашай сустрэчы Шукелойцю было амаль 82 гады, а пражыў ён 101 год.

Вітаўта Кіпеля, як і ягоную жонку Зору, я ведаў па першым зьезьдзе беларусаў сьвету, але толькі візуальна. Вітаўт узначальваў Беларускі інстытут навукі і мастацтва.

Ён выпраменьваў энэргію, аптымізм, жартаваў, і калі часамі Пазьняк у нейкіх сытуацыях заклікаў мяне быць больш сур’ёзным, ён падміргваў мне і пляскаў па плячы: «Нічога, нічога. Трымайся!».

Тое, што Вітаўт і Зора Кіпелі зрабілі для беларускай культуры, для гісторыкаў дыяспары — бясцэнна.

Алу Орсу-Рамана вывезьлі зь Беларусі ў 1944-м дзіцем. Яе бацька Аляксандар Орса быў дырэктарам беларускай школы імя Янкі Купалы для дзяцей перамешчаных асобаў у нямецкім Міхэльсдорфе, а

па прыбыцьці ў ЗША першым запатрабаваў ад амэрыканскіх эміграцыйных уладаў, каб у дакумэнтах ён быў пазначаны як беларус (як правіла, запісвалі альбо расейцамі, альбо палякамі).

Сама ж Ала зь юнацтва выступала на сцэне — і як сьпявачка, і як танцорка. Стварыла самадзейны гурт «Васілёк», выкладала сьпевы і танец у беларускай школцы ў Нью-Ёрку. Што не перашкодзіла ёй у 32 гады абараніць доктарскую дысэртацыю ў галіне хіміі і зрабіцца прафэсаркай аднаго зь нью-ёрскіх унівэрсытэтаў.

Відаць, заняткі танцамі, а яшчэ і гены, дазволілі Але захаваць фігуру, якой пазайздросьцілі б і дваццацігадовыя дзяўчаты.

Мы адразу пасябравалі, і яна пачала мяне вучыць — тактоўна, але настойліва, — правільнаму, не «наркамаўскаму», а «тарашкевіцкаму» вымаўленьню: «Коцік, кажы не „АмЕрыка“, а — „АмЭрыка“!» Пазьней Ала ўтворыць дабрачынны фонд, і пералік адукацыйных, культурніцкіх і выдавецкіх праектаў у Беларусі, якія атрымаюць яе дапамогу, мог бы заняць некалькі старонак гэтай кнігі.

Францішак і Вера Бартулі апекаваліся Фондам Крачэўскага. Вера ў былыя гады працавала мадэлькай, і элегантнасьць была арганічнай часткай ейнай манеры паводзінаў. Францішак да пэнсіі займаўся бізнэсам у сфэры мэдыцыны, быў чалавек з гумарам. Калі ў наступныя гады ён пытаўся ў мяне, як жыцьцё, я звычайна адказваў словамі зь песьні Сержука Сокалава-Воюша: «Чужына сэрца джаліць, цісьне, як зьмяя» (дачка Бартулёў Ганна замужам за Сержуком). Вядома, то была горкая іронія.

У Янкі Запрудніка я гасьцяваў яшчэ ў 1992 годзе, калі ён узначальваў нью-ёрскае бюро беларускай

рэдакцыі Радыё Свабода. Месьціўся офіс на Мангэтане, у доме 1775, і ён завёў мяне ў рэдакцыю, мы запісалі гутарку — магчыма, за тым жа самым мікрафонам, перад якім яшчэ два гады таму сядзеў Сяргей Даўлатаў. Калі ў 2016 годзе мы з Запруднікам увайшлі ў той самы будынак (гэтым разам ужо я запісваў яго на відэа), Янка нічога не пазнаў: ранейшымі заставаліся толькі сьцены, а на другім паверсе, дзе месьцілася рэдакцыя, ішоў рамонт.

Нарада зь лідэрамі беларускай дыяспары Алай Орсай-Рамана, Антосем Шукелойцем, Вітаўтам Кіпелем, Францішкам Бартулём, Янкам Запруднікам адбывалася ў гасьцінным доме спадароў Веры і Францішка Бартулёў у Мангасэце, на Лонг-Айлэндзе, непадалёку ад Нью-Ёрку.

Праз год Вітаўт Кіпель так прыгадваў тую нашую сустрэчу:

*Я асабіста адразу прыхіліўся да таго, што варта прасіць палітычны азыль. Я ўважаў, што палітычны прытулак для Пазьняка і для Навумчыка — гэта пачатак палітычнай дзейнасьці на новым адрэзку.*

*Мае меркаваньні былі гэткія.*

*І Зянон Пазьняк, і Сяргей Навумчык — беларускія нацыянальныя грамадзка-палітычныя дзеячы, якія ў аснову сваёй палітычнай дзейнасьці ўзялі беларускую дзяржаўнасьць. Для гэткае праграмы незалежнай беларускай дзяржаўнасьці, дзяржаўнасьці дэмакратычнае, сёньня на Бацькаўшчыне месца няма. А таму я ўважаў, што гэтыя спадары змогуць прапагандаваць, пашыраць свае пагляды на Захадзе. Відавочна, што і спадару Пазьняку, і спадару Навумчыку будуць закіды — маўляў, вы пакідаеце Бацькаўшчыну.*



Раімся зь лідэрамі дыяспары наконт палітычнага прытулку. За сталом (зьлева направа) Антось Шукелойць, Зянон Пазьняк, Вера і Францішак Бартулі, Янка Запруднік.

*У мяне асабіста на гэткі закід такі адказ.*

*Мне 70 гадоў, зь іх на Беларусі мне давялося пражыць толькі сем. 63 гады я з волі таго самага ворага, што пагражае Беларусі сёньня, жыў па-за Беларусьсю. Але магу з упэўненасьцю сказаць, што па-над 50 гадоў мая праца і дзейнасьць кіраваліся толькі мэтамі беларускімі: зрабіць нешта для Беларусі. І такіх, як я, былі сотні і тысячы. Па-за Беларусьсю рабілася і жылося для Беларусі. Такім парадкам я ўважаў, што і Зянон Пазьняк, і Сяргей Навумчык, колькі ім ні прыйдзецца быць на Захадзе, будуць працаваць для Беларусі. Кантакт дэмакратычнае Беларусі з Захадам, з Амэрыкай нам неабходны.*

І Ала Орса, і Бартулі, і Запруднік таксама схіліліся да таго, што трэба прасіць прытулак. Прычым

Запруднік адразу папярэдзіў, што нам самім давядзецца клапаціцца пра тое, на што жыць. Зрэшты, гэта было нам зразумела: беларуская дыяспара зусім не такая багатая, каб утрымліваць дзьвюх асобаў, ды яшчэ зь іхнімі сем'ямі. Ні на якую фінансавую дапамогу мы не разьлічвалі.

У Нью-Ёрку першыя дні мы жылі ў гатэлі, а потым, калі ўжо вырашылі прасіць прытулку, у кватэры бацькоў Данчыка, Юліі і Паўла Андрусышыных, у Іст-Віліджы на ніжнім Мангэтане.

Гэты быў багемны нью-ёрскі раён, запоўнены крамкамі з вопраткай і аксэсуарамі для аматараў «альтэрнатыўных» плыняў — готаў, панкаў, якія там былі яшчэ ў той час (я ў іх зусім не разьбіраюся, хаця ў канцы 80-х нас, фронтаўцаў, у афіцыйнай прэсе называлі «нефармаламі»). Уздоўж усёй вуліцы на тратуарах, прыступках двух-трохпавярховых дамоў сядзела моладзь зусім ня звыклага для нас выгляду — з кольцамі ў носе, з чырвонымі валасамі, у нейкім экстравагантным адзеньні. Нехта граў на гітары. Ня тое каб я такіх ня бачыў у Менску, але тут была надзвычайная іх канцэнтрацыя. У адным з тых дамоў калісьці была студыя мастака Эндзі Ўоргала, аднаго з найбольш вядомых прадстаўнікоў поп-арту.

Калі мы выходзілі з мэтро і ішлі гэтай вуліцай «дадому», Пазьняк, як мне здавалася, не праяўляў нейкай цікавасьці да гэтай стракатай публікі. Я ж, наадварот, увечары прагульваўся гэтай вуліцай да Брадвэю, затрымліваючыся ля крамаў; быў там і вялікі салён зь вінілавымі дыскамі 60-70 гадоў, але практычна ўсе выканаўцы былі мне незнаёмыя.

Вось на такой вуліцы амаль паўстагодзьдзя ў невялікай кватэрцы жыла бабця Данчыка Яніна Каханоўская.

А праз некалькі кварталаў жыў Антось Шукелойць, старшыня Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, і зь ім мы сустракаліся штодня, звычайна — у недарагой польскай рэстарацыі «Тэрэза» на 1-й авэню, а потым ішлі на кватэру Андрусышыных, і там ужо гутарка цягнулася да вечара.

У той час «дзядзьку Антосю» (так называў яго Пазьняк) быў 81 год. Шукелойць часта ўспамінаў даваенную Вільню — ён быў знаёмы зь дзедам і бабкай Пазьняка, якія істотна ўплывалі і на палітычнае, і на культурніцкае жыцьцё беларускай Вільні. Шмат з таго, пра што апавядаў Шукелойць, для Пазьняка было ў навіну, ну а для мяне большасьць згаданых у гутарцы імёнаў увогуле былі невядомыя.

Аднойчы ў гутарцы з Шукелойцем і Кіпелем Пазьняк вымавіў фразу, якая тады мяне вельмі ўразіла.

— Я ніколі не паўтару памылкі свайго дзеда, — сказаў Пазьняк.

Дзед Пазьняка Ян (1887–1940) меў музычную адукацыю, удзельнічаў у беларускіх гуртках хрысьціянска-асьветніцкага кірунку, у розныя гады рэдагаваў газэты «Беларус», «Беларуская крыніца», «Хрысьціянская думка». На пачатку 30-х быў старшынём Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэту, за сваю беларускую дзейнасьць перасьледаваўся польскімі ўладамі, яго арыштоўвалі і штрафавалі. Зянон Пазьняк:

*Калі прыйшлі ў Вільню бальшавікі, у 39-м годзе, дзед застаўся працаваць у Вільні. Некалькі меся-*

*цаў ішоў тэрор, а дзед са сваёй сям'ёй жыў у тым жа доме, стараўся яшчэ займацца партыйнай работай. Вось гэтая гісторыя майго дзеда вельмі мяне зьдзіўляе: ён жа цудоўна разумеў, што гэта бандыты, што рана ці позна яны яго зьнішчаць. Так і атрымалася. Вось гэтая нерашучасьць... Патрэбны ясны рашучы крок у гэтай сытуацыі, таму што гэта — вайна. Гэты крок ня быў зроблены. А паколькі ня быў зроблены — аднойчы ноччу банда энкавэдыстаў уламалася ў дом і забрала дзеда. І павезьлі дзесьці ў кірунку Новай Вільні і Менску, я нават падазраю, што, магчыма, і ў Курапаты.*

Паводле дасьледчыкаў бальшавіцкіх рэпрэсій, Ян Пазьняк быў расстраляны згодна з рашэньнем Палітбюро ЦК ВКП(б) ад 5 сакавіка 1940 году.

У тыя ліпеньскія дні 96-га Пазьняк некалькі разоў згадваў дзеда Яна, спрабуючы знайсьці нейкае лягічнае тлумачэньне гэтай самай, як ён выказаўся, «нерашучасьці»:

*Напэўна, ён ня верыў у горшае, меў нейкія ілюзіі наконт бальшавікоў,* — казаў Пазьняк. — *Пасьля нашага зьбіцьця ў парлямэнце ў мяне наконт Лукашэнкі няма ніякіх ілюзіяў.*

Мяне ўразілі і гэтая праекцыя на сямейную гісторыю, і пошук слушнага рашэньня ў сучаснай сытуацыі праз аналіз падзеі вельмі даўняй.

Дзяды дапамагаюць прымаць правільныя рашэньні. Трэба толькі самому зразумець, якія.

Мы падалі заяву ў службу іміграцыі.

## Папярэджваем сем'і

Наша рашэньне тычылася ня толькі нас саміх і ня толькі палітыкі.

Кангрэсмэн Гоўк, які дапамагаў са зваротам па прытулак, атрымаў нейкую трывожную інфармацыю і параіў нам, каб перад тым, як стане вядома пра нашую заяву, нашыя сем'і былі ўжо па-за межамі Беларусі.

Зь сям'ёй Пазьняка была праблема — трэба сказаць жонцы, што яна мусіць тэрмінова выехаць у Варшаву, адначасна не гаворачы, чаму. І тут працытую ўспамін Галіны Пазьняк пра тыя дні:

*25 ліпеня 1996 Зянон патэлефанаваў мне зь Нью-Ёрку і сказаў, каб мы з дачкой тэрмінова прыехалі ў Варшаву. Мы дамовіліся, што праз два дні мы прыедзем (так прасіў і настойваў муж), а ён прыляціць і сустрэне нас у Варшаве. Размова падалася мне нейкай дзіўнай, але я ня стала задаваць ніякіх пытаньняў, бо разумела, што нашу размову слухае КГБ. Ад радасьці, што мы спаткаемся, я, не раздумваючы, стала зьбірацца.*

Пазьняк разумеў, што нават калі яго сям'я будзе ў Варшаве, навіна пра нашую заяву не павінна быць для іх шокам; што і Галю, і Надзею неяк трэба падрыхтаваць, мяняецца ўсё жыцьцё, і па тэлефоне гэта зрабіць немагчыма.

Пазьняк прапанаваў, што гэта можа зрабіць мая жонка. Галя на той момант ужо падпісала кантракт на працу ў праскім офісе Радыё Свабода, але яе папрасілі яшчэ некалькі дзён папрацаваць у менскім бюро.

Мы пазванілі ў Менск, і Пазьняк папрасіў, каб мая Галя сустрэлася зь ягонай жонкай Галяй і па-

дрыхтавала яе да таго, што яе знаходжаньне ў Варшаве можа быць працяглым. Вядома, пра палітычны прытулак ні я, ні Пазьняк у гэтай размове не гаварылі, але калі ў чэрвені Галя была ў Варшаве (тады ж там была і Галіна Пазьняк), мы разважалі пра такі варыянт, але спадзяваліся, што да яго ня дойдзе. Пэўна, мы з Пазьняком неяк далі зразумець Галі, што цяпер ён можа быць ужыты.

*Назаўтра патэлефанавала Галя Навумчык. Мы сустрэліся ў сквэры ля Купалаўскага тэатру. І тут яна мне сказала, што таксама размаўляла зь Зянонам, што размова была «эзопава», але, напэўна, мы ад'едзем на эміграцыю. Я толькі спытала: «Як ты думаеш, на які час?»*

*— Думаю, на год, а мо і на пяць, — сказала Галя.*

*Трэба сказаць, я гэта ўспрыняла спакойна. Слова «эміграцыя» тады для мяне ня значыла нічога, я адчула ў ім нейкую рамантыку, магчымасьць пабачыць сьвет (а езьдзіць я любіла. Паняцьці «рамантыка», «вандроўка» наклаліся на паняцьце «эміграцыя», засланіўшы на той час зьмест гэтага жахлівага страшнага слова, і я як бы забылася на сэнс нашага ад'езду). З дачкой Надзяй мы дамовіліся, што ў жніўні вернемся. Я сама ў гэта шчыра верыла.*

*Мы хутка сабраліся, узялі толькі летняе адзеньне. Перад ад'ездам я накансэрвавала шмат кампотаў зь ягад, наварыла чарнічнага варэньня і папрасіла маму разьліць па слоіках, калі яно астыне (вядома ж, зімой як знойдзем) (*Галіна Пазьняк, «Беларусь у сэрцы», 2007, с. 108-109).

Пазьняк недарэмна прасіў жонку з дачкой выехаць у Варшаву менавіта праз два дні, гэта значыць 27 ліпеня. У гэты дзень былі прызначаныя шэсьце




Зянон Пазьняк – ганаровы маршал шэсьця ў Дзень паняволеных народаў у Нью-Ёрку

і мітынг (яны адбыліся, удзельнічалі больш за 10 тысяч чалавек), і мы разьлічвалі, што ўсе сілы спэцслужбаў будуць кінутыя на «абслугоўваньне» гэтай масавай акцыі, ва ўсялякім разе ўвага да Галіны і Надзеі будзе меншая. Мяжу яны перасеклі без праблемаў, 28-га ліпеня былі ў Варшаве. А мая жонка вылецела ў Прагу.

Калі жонка ўжо была ў Чэхіі, я мог свабодна па тэлефоне абмяркоўваць пэрыпэтыі нашага становішча. З бацькамі, якія жылі ў Віцебску, рабіць гэта было немагчыма. Увогуле, так ці інакш, рашэньне мы прымалі з Пазьняком удвух, ведаючы, што, якое б яно ні было, мы можам разьлічваць на падтрымку нашых блізкіх.




Шэсьце ў Дзень паняволеных народаў на Мангэтане

Мы разумелі, што ўсе нашыя тэлефонныя камунікацыі зь Беларусьсю праслухоўваюцца (у тым, што тэлефоны маіх бацькоў былі на «праслушцы», я ня сумняваўся), а лісты чытаюцца. Ніякіх іншых спосабаў камунікацыі з бацькамі ў мяне не было.

У лістах да бацькоў у Віцебск (зноў жа, з улікам несумненнай пэрлюстрацыі), я ня столькі хацеў патлумачыць нейкія нюансы працэсу атрыманьня палітычнага прытулку, колькі супакоіць блізкіх і давесьці, што нават пры адмоўным рашэньні сытуацыя не безвыходная. Але, праз дваццаць гадоў знайшоўшы тыя свае лісты ў шуфлядцы сэрванту ў бацькоўскай кватэры ў Віцебску, я адчуў у іх водгалас нашай з Пазьняком трывогі. Ня вельмі, як цяпер разумею, тыя лісты супакойвалі маіх бацькоў.

Ёсьць у маіх тых радках і водгалас крыўды на аднадумцаў з БНФ, якія, як тады здавалася, недастаткова робяць для нашага хуткага вяртаньня. Сёньня я разумею, што, нават калі і недастаткова, дык іншых магчымасьцяў у іх не было. Лідэры БНФ у Менску мусілі сканцэнтравацца не на лёсе двух паплечнікаў, а на актуальных мясцовых падзеях. Напэўна, гэта было правільна. Але не скарачаю тых радкоў, пакідаю так, як тады напісаў.

На канвэртах у якасьці адрасата я звычайна пазначаў сястру Сьвятлану, якая тады жыла ў Віцебску разам з бацькамі. Зразумела, я не спадзяваўся падмануць гэтым КДБ. Магчыма, лічыў, што ёй будзе зручней, чым бацькам,ісьці па іх на пошту, калі б быў выбраны такі спосаб дастаўкі.

Лісты з ЗША ў Беларусь ішлі звычайна тыдзень.

Я з маленства прызвычаіўся вельмі адказна ставіцца да пошты. Дакладна і разборліва (у маім выпадку — друкаванымі літарамі) пазначаць адрас, наклейваць маркі дастатковага наміналу (як і шмат хто, у дзяцінстве мы з маім сябрам Ігарам Палуянам былі зацятымі філятэлістамі і ўцягнулі ў гэтую справу нават ягонага бацьку, а магчыма, гэта ён нас уцягнуў, цяпер ужо не прыгадаю). У тыя дні

стандартная 32-цэнтавыя маркі былі з выявай анёла з Рафаэлевай «Сыкстынскай мадонны», з Мэрылін Манро і з фрагмэнтам амэрыканскага сьцяга на фоне дома ў віктарыянскім стылі, а 60-цэнтавая, для замежжа, — з партрэтам паветранага аса Першай сусьветнай вайны Эдзі Рыкенбакера (прозьвішча ў былым Савецкім Саюзе больш вядомае праз лётчыкава кузэна, вынаходніка электрагітараў і заснавальніка аднайменнай фірмы па іх вытворчасьці). Я наклейваў двайную колькасьць, каб лісты хаця б да Беларусі дайшлі дакладна (што дазваляла пляменьніку Мікіту, тады школьніку, мець запас філятэліі для абмену).

Словам, лічыў абавязкам аблягчаць працу паштальёнаў.

Але ў Віцебску мае лісты атрымлівалі ў парваных канвэртах са штампам «Поступило в повреждённом виде». Што значыць — адмыслова прадэманстравалі, што канвэрты ўскрываюцца і перапіска пэрлюструецца. Тыя, хто гэтым займаюцца, умеюць, калі трэба, рабіць гэта непрыкметна. У маім выпадку вырашылі дзейнічаць дэманстратыўна.

Ліст я пісаў з тым разьлікам, што ён можа дайсьці да бацькоў у Віцебск праз некалькі тыдняў, калі ўжо будзе рашэньне ў нашай справе, станоўчае ці адмоўнае. Але, як сьведчыць штамп на канвэрце, ліст дайшоў значна раней.

*Пішу вам, калі рашэньне, пра якое, напэўна, не праміне паведаміць свайму народу ў сваёй жа інтэрпрэтацыі ўсенароднаабраны, пасьля доўгіх і глыбокіх сумненьняў намі прынята...*

*Ключавым момантам для нас зрабілася тое, што БНФ не прыняў па нашай сытуацыі асобнай*

*рэзалюцыі — плюс указаньне Л. узяць нас у Варшаве. Усе вымылі рукі і чакалі вясёлага прадстаўленьня, адны са злараднасьцю, другія — з абыякавасьцю. Хаця, кажучы папраўдзе, у Лёндан я ляцеў з жаданьнем вярнуцца да 27.VII на мітынг — і менавіта так прымеркаваў зваротны білет. Але да таго часу дэмакраты павінны былі пачаць кампанію за скасаваньне рашэньня — дакладней, дурнога ўказаньня — нас арыштаваць на мяжы. На жаль, гэтага ня здарылася. А далей давялося дзейнічаць, зыходзячы з аргумэнтаў палітычнага прагматызму. І, вядома, істотным аргумэнтам было меркаваньне В. Быкава, зь якім я гутарыў з Вашынгтона. Ягоная думка — цяпер нам там рабіць няма чаго: «Маеце магчымасьць не вяртацца — не вяртайцеся, гэта ніколі ня позна».*

*Зрэшты, я ня бачу неабходнасьці апраўдвацца перад кім бы ні было — вось толькі вам тлумачу некаторыя абставіны. Сустракаўся зь Нінай Якаўлеўнай, яна перадавала ўсім прывітаньне.* (Ніна Якаўлеўна Рабкіна — мая школьная настаўніца і клясная кіраўніца, у пачатку 90-х зь сям'ёй пераехала ў Амэрыку. — удакладненьне 2020 г., С.Н.) *Кажа, што сотні тысяч (не перабольшаньне) людзей мараць толькі хаця б трапіць сюды, і мільёны (афіцыйная статыстыка) застаюцца тут, ізноў жа нелегальна. У мяне не было жаданьня ні на першае, ні на другое. Тое ж — і ў З.С. Што тычыцца яго, дык, мяркую, яму якраз у самай меншай ступені трэба шукаць нейкія апраўданьні — асобы, якія зрабілі для сваіх народаў нашмат меней, атрымлівалі куды болей удзячнасьці, але, напэўна, пакуль што любоў да Лукашэнкі ў нашага народу мацнейшая*

*за голад. Значыць — шчасьлівы народ і жаліцца на лёс няма чаго.*

*Да гэтага магу дадаць, што ад амэрыканскага грамадзянства мы адмаўляемся. Увогуле, каб атрымаць амэрыканскае грамадзянства, трэба пражыць тут 5 гадоў. Канешне, я зусім не ідэалізую Амэрыку — гэта, ва ўсіх сэнсах, іншыя сыстэмы жыцьця і існаваньня, пачынаючы ад побыту і канчаючы культурай. Калі вельмі добра тут жыць — дык гэта ў старасьці. Але, само сабой, так далёка зазіраць ня буду. Хаця Ніна Якаўлеўна казала: «Замацоўвайся і перавозь бацькоў».*

*Што маем на сёньняшні дзень, пакуль наш статус ня вызначаны (да моманту атрыманьня ліста, магчыма, будзе больш ясна і ня выключана, пачуеце па радыё)...*

*... У кожным разе гэта лепей, чым сядзець у турме, альбо, што больш імаверна, ляжаць у каналізацыйным люку. Досьвед жа гісторыі сьведчыць, што рэжым ня вечны. Ня вечны і Лука.*

*4 жніўня 1996, Кліўлянд.*

Бацькі радаваліся кожнаму майму лісту, хаця і разумелі, што я пішу з улікам пэрлюстрацыі і што іх будуць чытаць «праз павелічальнае шкло», магчыма, нават выкарыстоўваючы нейкія спэцсродкі — ці не запісаныя там нябачным чарнілам якія-небудзь інструкцыі?

Вядома, можна было б і не пісаць лістоў, я ж час ад часу званіў па тэлефоне, а ў жывой гутарцы чуеш інтанацыю, эмоцыі, дыханьне. Але толькі лісты даюць магчымасьць дакрануцца да таго, што трымаў у руках дарагі табе чалавек.

Лісты не e-mail.

## Хтосьці плянуе «забіць аднаго альбо двух лідэраў нацыянальнага руху»

Мне часта даводзіцца чытаць, што на нашае рашэньне прасіць палітычнага прытулку паўплывала заява расейскага палітыка Віктара Ілюхіна пра намер забіць аднаго ці двух лідэраў нацыянальнага руху.

Але прэсавая канфэрэнцыя Ілюхіна адбылася, калі мы ўжо вырашылі прасіць палітычнага прытулку і нават падалі дакумэнты ў адпаведную іміграцыйную службу — але яшчэ не прайшлі ў ёй гутарку і не абвясьцілі пра наш крок публічна.

Заява Ілюхіна была гучнай і на некалькі дзён зрабілася ў Беларусі галоўнай тэмай як для ўлады, так і для апазыцыі, таму ёсьць сэнс расказаць пра гэта падрабязна.

У 96-м Віктар Ілюхін займаў пасаду старшыні Камітэту бясьпекі Дзяржаўнай Думы Расеі. Камітэт гэты фармальна ажыцьцяўляў парлямэнцкі кантроль над сілавымі ведамствамі (міністэрствамі абароны і ўнутраных спраў, ФСБ), але ў расейскіх рэаліях ён, наадварот, успрымаўся іх парлямэнцкім голасам.

Вядомасьць да Ілюхіна прыйшла ў апошнія дні савецкай імпэрыі, калі ён быў членам калегіі Генэральнай пракуратуры СССР і ў лістападзе 1991-га распачаў крымінальную справу супраць прэзыдэнта СССР Міхаіла Гарбачова за тое, што той падпісаў пастанову Дзяржаўнага Савету аб прызнаньні незалежнасьці Латвіі, Літвы і Эстоніі. Праз два тыдні Ілюхіна звольнілі з пракуратуры, ён знайшоў месца ў камуністычна-імпэрскай газэце «Правда», але пракурорскіх звычак ня страціў:

у 1992 годзе заклікаў завесьці крымінальную справу супраць Ельцына, Краўчука і Шушкевіча за «развал дзяржавы».

З 1993 году камуніст Ілюхін двойчы выбіраўся дэпутатам Дзяржаўнай Думы Расеі і двойчы — старшынём камітэту бясьпекі. У 1998 Ілюхін узначаліць яшчэ і «Рух у падтрымку войска, абароннай прамысловасьці і вайсковай навукі», які будзе мець некалькі дзясяткаў філіялаў у расейскіх рэгіёнах.

Прэсавая канфэрэнцыя Ілюхіна адбылася ў Маскве 25 ліпеня. Пра яе паведамілі ўсе вядучыя і беларускія СМІ, прычым рэгіянальныя беларускія газэты атрымалі ўказаньне апублікаваць прэс-рэліз канфэрэнцыі.

Вось фрагмэнты гэтага тэксту (не магу ўстрымацца ад некаторых камэнтароў):

*В последнее время мир стал свидетелем мощных потрясений славянских государств, славянской цивилизации в целом. По сценарию, разработанному в США и Германии, расчленена Югославия. Затеяна политическая возня вокруг венгерского вопроса в Словакии. Поощряется «западноукраинский» сепаратизм, не находят разрешения противоречия вокруг Крыма. С расширением военно-политического блока НАТО не только создаётся непосредственная угроза самой России, но и существенно ущемляются российские геополитические интересы в самой Европе. Происходит вытеснение России из юго-восточных и закавказских республик.*

*Не исключается в будущем вероятность объединения Германии и Австрии, возможного поглощения ими Чехии, других прилегающих к ним регионов.*

Вядома, праз амаль чвэрць стагодзьдзя прагноз пра паглынаньне Нямеччынай Чэхіі, роўна як і пра

аб’яднаньне з Аўстрыяй, успрымаецца як трызьненьне.

Але і папярэднія фразы Ілюхіна ў 1996 годзе ўспрымаліся гэткай жа недарэчнасьцю — у тым сэнсе, што не было ніякай падставы гаварыць пра пагрозу Расеі ў сувязі з пашырэньнем NATO. Наадварот, Расеі дапамагалі і краіны Эўропы (толькі ў 1996 годзе — каля 10 мільярдаў даляраў), і асабліва ЗША, выдаткоўваючы адзін за другім гіганцкія крэдыты, пра якія Беларусь пры Шушкевічу не магла і марыць. Потым высьветліцца, што частка гэтых грошай была скрадзеная, частка — праўда, ужо пры іншым прэзыдэнце — пойдзе на ўмацаваньне ваенна-прамысловага комплексу. І, абапіраючыся на гэты комплекс, Расея, як гэта будзе называцца ў крамлёўскай прэсе, «встанет с колен».

*«Передел» мира во многом стал возможным благодаря уничтожению Советского Союза, экономического и военного упадка России...*

На гэтым геапалітычная частка скончылася і пачалася практычная:

*Не может не обратить внимания и ситуация, складывающаяся вокруг Белоруссии. Кому-то очень хочется воспрепятствовать интеграционным процессам между Белоруссией и Россией, кому-то очень хочется вначале скомпрометировать, а потом и низвергнуть белорусского президента А.Г. Лукашенко...*

*Что касается Белоруссии, то хотел бы сделать достоянием широкой гласности весьма тревожную информацию.*

*Стало известно, что группа высокопоставленных офицеров ЦРУ в составе 18 человек во главе с полковником Полом Гейбортом с 10 июня*

*1996 года находится в Варшаве для подготовки специальных подрывных операций в Белоруссии. Суть операций такова:*

*а) создание в городах Минск, Орша, Витебск, Могилёв забастовочных комитетов типа польской «Солидарности»;*

*б) данные забастовочные комитеты 1–9 августа 1996 года должны поднять первичную волну политических и экономических забастовок во всех крупных городах Белоруссии;*

*в) Белорусский Народный Фронт (БНФ) к этому времени должен организовать в Минске демонстрацию с шествием в составе от 10 до 30 тысяч человек;*

*г) в данных демонстрациях должны участвовать не менее 200 боевиков из украинской УНА-УНСО для организации уличного сопротивления;*

*д) в ходе акций уличного сопротивления планируется убийство одного или двух лидеров национального движения Белоруссии, которым отводится роль мучеников, а организатором всего этого будет объявлен Президент А.Г. Лукашенко.*

*е) с целью освещения уличных демонстраций будут подключены 14 общеевропейских и американских средств массовой информации, в том числе российские НТВ, «Вести» и «Зеркало». На эту акцию выделено 254 000 долларов США.*

*Заключительной частью операции должна быть постановка вопроса в Верховном Совете Белоруссии об импичменте президента Белоруссии А. Г. Лукашенко. Известно, что приблизительно с пятьюдесятью депутатами велись переговоры по данному вопросу.*

*По сценарию данных операций апогей планируемых событий должен прийти на 15–18 сентября 1996 г.*

*Председатель Комитета В. И. Илюхин.*

Гэты тэкст я цытую па публікацыі ў газэце Віцебскага гарсавету «Віцьбічы» (галоўны рэдактар Ніна Тулінава), наклад газэты — 48 300 асобнікаў. Зусім ня мала для гораду з 350-тысячным насельніцтвам. Як перадавала ў тыя дні Радыё Свабода, прэс-рэліз надрукавалі і іншыя рэгіянальныя газэты. Натуральна, як і «Віцьбічы», безь якога-небудзь крытычнага камэнтару.

Як відаць, пра забойства Пазьняка і Навумчыка нічога не гаворыцца.

Але гэта тэкставая вэрсія заявы Ілюхіна; аўдыёзапісу мне знайсьці не ўдалося. Я ўвогуле сумняваюся, што Ілюхін называў нашыя прозьвішчы. Аднак тады нам адразу стала вядома, што шмат кім словы Ілюхіна пра забойства «аднаго або двух» «лідэраў нацыянальнага руху» былі ўспрынятыя менавіта пра нас з Пазьняком.

Так, у адным з камэнтароў Радыё Свабода паведамлялася, што «БНФ, арганізацыя па сваёй сутнасьці антынародная і антыславянская, заявіў Ілюхін, арганізуе магутную антыпрэзыдэнцкую дэманстрацыю. У выніку гэтых акцый магчымыя забойствы дэманстрантаў і баевікоў УНА-УНСО. Ілюхін таксама гаварыў аб плянах забойства аднаго-двух лідэраў БНФ».

У прэс-рэлізе словаў пра БНФ як арганізацыю «антынародную» і «антыславянскую» няма, роўна як і не гаворыцца пра забойства актывістаў УНА-УНСО. Трэба думаць, на прэсавай канфэрэн-



Гэты здымак, зроблены па дарозе зь Нью-Ёрку ў Кліўлэнд, я паслаў Васілю Быкаву. «Вялікі дзякуй за фота, надта добра атрымалася, прыгожа пры добрай кампазыцыі, — напісаў Васіль Уладзімеравіч. — Толькі выраз твараў пэрсанажаў ня дужа вясёлы. Але што ж... Усё зразумела. Ды не гаруйце дужа, усё неяк пераменіцца. Павінна перамяніцца па волі Госпада».

цыі Ілюхін сказаў больш (альбо інакш), чым было пазначана ў прэсавым рэлізе.

26 ліпеня ў эфіры Радыё Свабода майму інтэрвію (запісанаму яшчэ да заявы Ілюхіна) папярэднічалі іранічныя словы вядоўцы, што Пазьняк і Навумчык праводзяць палітычныя сустрэчы ў ЗША, не здагадваючыся, якая «небясьпека» пагражае ім ад ЦРУ.

Нам тэлефанавалі і пыталіся, як мы ставімся да заявы.

На яе, здаецца, зрэагавалі ўсе — і КДБ, і лідэры апазыцыйных партый, і незалежныя сродкі масавай інфармацыі.

Самым арыгінальным варта прызнаць камэнтар дэпутата-камуніста, сакратара камісіі абароны Вярхоўнага Савету Беларусі Валерыя Шчукіна:

*Я могу пояснить по этому вопросу, что это работа ЦРУ. Другого я членораздельного более-менее объяснения найти не могу. Смысл в чём? Что вот этот наш союз, который мы заключили с Россией, американцы разрешили России только по одной причине — чтобы победил Ельцин. Американцы не собирались и не собираются смотреть, как мы будем объединяться. Они (*вложили*) триллионы, чтобы разрушить нашу Родину, и вложат ещё миллиарды для того, чтобы мы опять не объединились. Поэтому это элементарная дезинформация, которую подсунули Илюхину, как и то, что Лукашенко оплачивал предвыборную компанию Зюганова... Это всё из той серии. ЦРУ целенаправленно работает, чтобы вбить клин в отношения между Ельциным и Лукашенко. Мы комиссию не собирали, как вы понимаете, сейчас все в отпусках, но, зная своих товарищей по комиссии, я однозначно утверждаю, что это происки ЦРУ* (Радыё Свабода, 27 ліпеня 1996).

У самім ЦРУ палічылі неабходным не пакідаць заяву без камэнтару, што служба робіць надзвычай рэдка.

Адразу пасьля прэсавай канфэрэнцыі ў нью-ёрскае бюро расейскай службы Радыё Свабода патэлефанаваў прэс-сакратар ЦРУ Рычард Обарн і заявіў:

*Сама ідэя, што ЦРУ магло ўдзельнічаць у падобнай змове, адназначная лухта. Гэта проста сьмехатворна. Звычайна мы не закранаем у камэнтарах нашай апэратыўнай работы, але гэтыя абвінавачаньні настолькі выходзяць за межы ўсялякіх разумных рамак, што я вырашыў зрабіць камэнтар.*

Обарн таксама заявіў, што ня ведае ніякага Пола Гейбэрта, пра якога згадваў Ілюхін, што можна было зразумець як сьцьвярджэньне, што ў штаце ЦРУ такога афіцэра няма.

Газэта «Свабода» працытавала былога дырэктара агенцтва ў справах нацыянальнай бясьпекі ЗША генэрала Ўільяма Одама:

*Гэта недарэчная, неверагодная выдумка. Я магу знайсьці толькі два тлумачэньні: або старшыня думскага камітэту зусім безадказны і быў не ў сабе, калі выказаў гэтыя абвінавачаньні, або ён рыхтуе сваю ўласную правакацыю ў расейскім парлямэнце, распальваючы жарсьці, каб рэанімаваць ідэю вяртаньня Беларусі пад кантроль Расеі. Чаго ЗША дасягнуць, дамогшыся імпічмэнту Лукашэнкі? А гэта, як я разумею са словаў Ілюхіна, мэта ЦРУ. Вашынгтон толькі што дапамог Менску атрымаць крэдыт Міжнароднага валютнага фонду. Дзеля чаго ЗША такім чынам будуць умешвацца ва ўнутраныя справы, рызыкуючы многім? І потым, Ілюхін, магчыма, ня ведае, што для правядзеньня такіх апэрацый патрабуецца дазвол Кангрэсу. Я не ўяўляю, што б адбылося, калі б такі дазвол быў дадзены. Інфармацыя трапіла б у прэсу... Скандал... І ўсё дзеля таго, каб адправіць у адстаўку беларускага прэзыдэнта?..*

Ад заявы Ілюхіна адхрысьціўся віцэ-сьпікер дзяржДумы Расеі Аляксандар Шохін, назваўшы яе «інсынуацыяй», якая «ўскладняе інтэграцыйныя працэсы паміж дзьвюма краінамі».

Вінцук Вячорка назваў словы Ілюхіна «палітычнай шызафрэніяй», Станіслаў Багданкевіч — «трызьненьнем сівой кабылы», Сямён Шарэцкі — «лухтой».

А ў магілёўскім Клюбе выбарнікаў надалі падзеі камічнае гучаньне, выпусьціўшы «анкету члена ЦРУ», у якой прапанавалі пазначыць, у якой валюце — далярах, тугрыках ці ў беларускіх зайцах — рэспандэнт хацеў бы атрымліваць узнагароджаньне.

Наколькі памятаю, расейскія рублі чамусьці не прапанавалі.

## Калі прагнозы ўспрымаюцца як пагрозы

Насамрэч усё было не зусім камічна.

Па Радыё Свабода прагучаў камэнтар Аляксандра Лукашука:

*Рэакцыя пасольстваў ЗША ў Маскве і ў Менску, а таксама польскіх уладаў і ўкраінскіх грамадзкіх дзеячоў на абвінавачаньні расейскага палітыка была вельмі падобная на рэакцыю прэс-сакратара ЦРУ Рычарда Орбана, толькі ў больш дыпляматычнай форме, як і належыць дыпляматам.*

*Ва ўправе інфармацыі КДБ Беларусі пра замах на прэзыдэнта Лукашэнку ня ведалі, але заявілі, што выступ Ілюхіна — гэта «вынік абагульненьня шэрагу нядаўніх антыграмадзкіх праяваў у рэспубліцы, арганізаваных апазыцыяй, у прыватнасьці Беларускім Народным Фронтам, ды іншымі дэструктыўнымі сіламі».*

*«Дэструктыўныя сілы», «антыграмадзкія акцыі» — гэтая лексыка, ацэнкі і высновы беларускага КДБ упісваюцца зь лёгкасьцю ў агляд падзеяў ня толькі што мінулага тыдня, а 70-, 50-, 20- ды 10-гадовай даўнасьці.*

*Зрэшты, ёсьць з каго браць прыклад. Жахлівыя і праклятыя для мільёнаў ахвяраў камунізму словы «ворагі народу» нядаўна прагучалі з вуснаў кіраўніка дзяржавы.*

Словы пра «ворагаў народу», якія прыгадаў камэнтатар Свабоды, Аляксандрам Лукашэнкам былі адрасаваны менавіта ў наш з Пазьняком бок. Лукашук працягваў:

*Як і ўсе неардынарныя заявы, папярэджаньні расейскага думца Ілюхіна выклікала цэлы шэраг featured рознабаковых камэнтароў, меркаваньняў, сустрэчных заяваў і ацэнак. Акцыя расейскіх камуністаў, аднак, вельмі нагадвае гульню на апярэджаньне і, безумоўна, тоіць небясьпеку. Для дэмакратычных партыяў і палітыкаў, прафсаюзных актывістаў у Беларусі. Праз тупы, але ад гэтага ня менш крывавы сцэнар так званых замежных шпіёнаў прайшлі мільёны былых савецкіх грамадзянаў, якія пахаваныя ў шматлікіх Курапатах і брацкіх магілах ГУЛАГу. Зноў рэанімаваць, абмяркоўваць, штурхаць да яго могуць толькі асобы бяз памяці, бяз сэрца, бяз сораму.*

Карэспандэнт Свабоды Ўладзімер Глод зьвярнуўся па камэнтар да былога супрацоўніка КДБ, памочніка віцэ-сьпікера Генадзя Карпенкі падпалкоўніка Валера Косткі, які да словаў Ілюхіна пра меркаванае забойства паставіўся без іроніі, сур’ёзна:

*— А як вы ставіцеся да той часткі выступу Ілюхіна, дзе ён кажа, што плянуецца забойства лідэраў Беларускага Народнага Фронту?*

*— Гэта пытаньне мяне больш за ўсё ўзрушыла з пункту погляду таго, што яно плянуецца. Пытаньне толькі, кім яно плянуецца? Яны скідваюць гэта на ЦРУ амэрыканскае. Але калі Ілюхін агучвае*

*такія рэчы, значыць, відаць, недзе нейкія пляны ў самога Ілюхіна ці ў гэтых іншых, супрацьлеглых сілаў, якія спрабуюць падставіць гэта ўсё пад ЦРУ. Таму, відаць, небясьпека пэўная ёсьць — і для лідэраў Беларускага Фронту, і для лідэраў увогуле дэмакратычнага руху Беларусі, калі ўжо агучваецца нават такая пастаноўка пытаньня. І вы ж паглядзіце: зараз, ня дай Бог, калі гэта здарыцца, там кагосьці забіваюць зь лідэраў — «Пра гэта ж казалі! Гэта ж ЦРУ!». І ўсё, у людзей стэрэатып закладзены ў мазгі, што гэта справа ЦРУ. Але на самай справе хто гэта зрабіў, тут яшчэ пытаньне ёсьць.*

Валер Костка таксама зьвязаў заяву Ілюхіна з намерам расейскіх камуністаў, чый кандыдат Зюганаў прайграў Ельцыну, умацаваць пляцдарм у Беларусі.

З гэтым пагадзіўся і аглядальнік газэты «Свабода» Алесь Дашчынскі:

*Ілюхінскі плян адхіленьня прэзыдэнта Лукашэнкі ад пасады настолькі праўдападобны, што калі замест «ЦРУ» напісаць «ФСБ», ён абсалютна не мяняецца. Толькі замест Варшавы лепш указаць Маскву ці нават Менск і знайсьці замену палкоўніку Полу Гейбэрту...*

*Надта ж пахне кухняй прэзыдэнцкай адміністрацыі. Вядома, што некаторыя члены каманды Лукашэнкі (кажуць, нават сам дзяржсакратар Савету бясьпекі Віктар Шэйман) дастаткова добра знаёмыя і цесна зьвязаныя зь Віктарам Ілюхіным.*

*Сваёй заявай Віктар Ілюхін практычна разьвязаў рукі прэзыдэнту Лукашэнку і даў яму алібі. Цяпер, калі ў Менску адбудзецца абвешчанае Ілюхіным забойства нацыянальных лідэраў, можна будзе сьпісаць на ЦРУ.*

Асабіста мне было зразумела, што «беларускі» разьдзел заявы Ілюхіна створаны ня без удзелу апантанага ворага беларушчыны, майстра подлых правакацый Уладзімера Замяталіна. Ня трэба было быць вялікім прагназістам, каб на фоне пагаршэньня эканамічнай сытуацыі прадбачыць імавернасьць масавых выступаў у Менску ды ў той жа Воршы, якія грымнулі страйкам на ўвесь сьвет у красавіку 1991-га. Натуральна, былі б і шэсьці супраць інтэграцыі і ў падтрымку Незалежнасьці (і праз два дні пасьля заявы Ілюхіна, у гадавіну прыняцьця Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце, 10-тысячны мітынг прайшоў у Менску зь прадстаўніцтвам самых шырокіх колаў апазыцыі).

І страйкі, і шэсьці пасьля заявы Ілюхіна мусілі ўспрымацца не як выяўленьне волі народу, які толькі некалькі гадоў таму пазбыўся поўнай залежнасьці ад Масквы, а як вынік інтрыгаў Захаду і падпарадкаваных ім «дэструктыўных сілаў» (тут, безумоўна, патас заявы Ілюхіна супадаў з ацэнкамі беларускага КДБ).

Гэтак жа сама мусіў успрымацца ў масавай сьвядомасьці і імпічмэнт Лукашэнку, з ідэяй якога ў ліпені выступілі апазыцыйныя партыі (за выключэньнем камуністаў, якія ў той момант яшчэ вагаліся).

Усё сьпісвалася на Захад, на ЦРУ — і гэта не было нечым новым у дзеяньнях прапагандысцкай машыны апошніх двух гадоў.

Новым было толькі абвяшчэньне пра забойства.

Але палітычных забойстваў у незалежнай Беларусі, здаецца, ніколі не было.

Да 1999 году заставаліся яшчэ цэлыя тры гады. Толькі тры.

## Нам гавораць не разьлічваць на фінансавую дапамогу ўраду ЗША

Абавязковы крок для атрыманьня палітычнага прытулку пасьля падачы заявы — гутарка ў службе іміграцыі і натуралізацыі (у 1996 годзе яна звалася менавіта так, потым назоў мяняўся).

У сярэдзіне ліпеня на запрашэньне беларусаў штату Агаё мы прыехалі ў Кліўлэнд, наведалі культурніцкі цэнтар «Полацак», у аўтакефальнай праваслаўнай царкве айцец Міхась Страпко асьвяціў сьцяг БНФ. Сустрэліся мы і з кіраўнікамі Агаё, але асабліва важным было знаёмства з кангрэсмэнам Мартынам Гоўкам, зь якім кліўлэндзкія беларусы мелі добрыя кантакты. Ён паспрыяў, каб інтэрвію ў службе іміграцыі з намі правялі як мага хутчэй, і нам прызначылі яго на 29 ліпеня.

У штаце Агаё вялікая і моцная ўкраінская дыяспара, і якраз у тыя дні ў Кліўлэнд прыехаў Вячаслаў Чарнавол. Ён запрасіў нас з Пазьняком на сустрэчу з амэрыканскімі ўкраінцамі. Вялікая заля была запоўненая сотнямі людзей, нас утрох пасадзілі на сцэну, і некалькі гадзінаў мы апавядалі пра беларускія падзеі. Мяне прыемна ўразіла такая салідарная цікаўнасьць амэрыканскіх украінцаў да далёкай для іх Беларусі. У той момант мы ўжо прынялі рашэньне аб палітычным прытулку, таму падзяліліся сваімі аргумэнтамі з украінцамі. Праз год, калі я тэлефанаваў Чарнаволу ў Кіеў ужо з Прагі, ён сказаў, што ў Кліўлэндзе сумняваўся ў слушнасьці нашага рашэньня, але пасьля восеньскіх падзеяў (ён назваў іх «канстытуцыйным пераваротам») пераканаўся, што зрабілі мы правільна.



Айцец Міхась Страпко асьвячае сьцяг БНФ у беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царкве

У Вашынгтон мы паехалі разам зь Вітаўтам Кіпелем. Туды прыехалі з Кліўлэнду айцец Міхась, а таксама актывісты дыяспары Янка Ханенка, Пол Васілеўскі і Аўген Кабяка — своеасаблівая маральная падтрымка. У фае офісу СІН было некалькі чалавек з афрыканскіх краінаў у стракатым адзеньні, паміж крэсламі бегалі дзеці. Спачатку запрасілі Пазьняка, потым мяне. Распытваў нас службовец 40-45 гадоў, прычым асабліва цікавіўся абставінамі пабіцьця падчас галадоўкі ў кастрычніку 1995-га. Перакладаў зь беларускай на ангельскую Вітаўт Кіпель. Вось як ён успамінае гэта:

*Калі Сяргей Навумчык апавядаў, як яму, дэпутату парлямэнту, спэцназаўцы, людзі ў форме, заломвалі рукі і выкідалі з залі парлямэнту, адчы-*

*няючы галавой дзьверы — у мяне было адчуваньне, што Захад пачынаў разумець, якая дыктатура ўсталёўваецца ў Беларусі.*

Пра Захад — гэта, вядома, вобразная гіпэрбала, а вось чыноўнік СІН, выглядала, пра падобнае ў дачыненьні да дэпутатаў парлямэнту ад непасрэднага ўдзельніка чуў упершыню.

На наступны дзень мы далі і прэсавую канфэрэнцыю ў будынку Кангрэсу ЗША.

Агенцтва Associated Press паведамляла:

*Два лідэры апазыцыйнай партыі Беларусі ў аўторак, 30 ліпеня, папрасілі ў Злучаных Штатах палітычнага прытулку, кажучы, што рэжым у былой савецкай рэспубліцы пагражае іхнім жыцьцям.*

*Зянон Пазьняк, старшыня партыі Беларускага Народнага Фронту, і Сяргей Навумчык, прэс-сакратар партыі, выступілі на прэсавай канфэрэнцыі ў Кангрэсе з абвінавачаньнямі ў адрас кіраўніцтва сваёй краіны і заклікалі Кангрэс правесьці слуханьні аб праблеме парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі.*

*Гаворачы праз перакладчыка, яны сказалі, што прэзыдэнт Лукашэнка павесіў на іх ярлык «ворагаў народу» і нібыта даў загад іх «нэўтралізаваць», гэта значыць забіць.*

*Яны не далі дакладнага адказу на пытаньне, як зьбіраюцца жыць, але паведамілі, што маюць яшчэ пэўныя рэчы для абмеркаваньня зь ДзяржДэпартамэнтам. Пазьняк паведаміў, што яны гатовыя жыць «вельмі сьціпла», а Навумчык сказаў, што любое жыцьцё ў Злучаных Штатах лепшае за жыцьцё ў турме альбо сьмерць у каналізацыі.*

*Лукашэнка, былы дырэктар саўгасу, выбраны прэзыдэнтам у 1994 г., нецярпімы да дысыдэнтаў. На антыўрадавыя выступленьні ён адрэагаваў хваляй арыштаў і закрыцьцём газэт, што выклікала крытыку з боку Злучаных Штатаў. Нядаўна Лукашэнка падпісаў пагадненьне, якое аднаўляе некаторыя сувязі з Расеяй. Народны Фронт і іншыя апазыцыйныя партыі сьцьвярджаюць, што дамова з Расеяй пазбаўляе Беларусь незалежнасьці і фактычна пакідае краіне ролю камуністычнай правінцыі.*

*Беларускія дысыдэнты знаходзіліся ў ЗША з 7 ліпеня. За гэты час яны сустракаліся зь дзеячамі беларускага амэрыканскага руху і рыхтаваліся да падачы просьбы аб палітычным прытулку. Яны кантактавалі з супрацоўнікамі кангрэсмэна-рэспубліканца Мартына Гоўка, чыя акруга ахоплівае Кліўлэнд — рэгіён, дзе вялікая канцэнтрацыя этнічных беларусаў, і тыя завязаліся зь Дзяржздэпартамэнтам ад іхняга імя. Гоўк пацьвердзіў, што зьвяртаўся да сваіх калегаў-кангрэсмэнаў з просьбай заблякаваць дапамогу Беларусі на суму 13 мільёнаў даляраў, заплянаваную на 1997 г. па лініі ўрадавага агенцтва міжнароднага разьвіцьця».*

Перад прэсавай канфэрэнцыяй у Кангрэсе нам паведамілі, што з намі пажадаў тэрмінова спаткацца спадар Джэк Сыгал, які ў Дзяржздэпартамэнце зьяўляецца куратарам Беларусі, Украіны і Малдовы.

Гэтая сустрэча адбылася ў той жа дзень, 31 ліпеня, а 16 гадзіне, у адным з пакояў будынку Кангрэсу ЗША. Сыгал быў не адзін, разам з супрацоўніцай «беларускага сэктару» Марыяй Рудэнскі (этнічнай ўкраінкай). Акрамя нас з Пазьняком, быў спадар

Вітаўт Кіпель, які ўзяў на сабе і ролю перакладчыка. Захаваўся канспэкт той сустрэчы.

Сыгал: *Нам перадалі пра вашую просьбу аб палітычным прытулку. Перш за ўсё я хачу запытацца: тут, у ЗША, вы адчуваеце сябе ў бясьпецы?*

Пазьняк: *Так.*

Сыгал: *Сёньня раніцай Дзярждэпартамэнт наведаў амбасадар Беларусі ў ЗША Мартынаў. Ён паведаміў, што ніякіх пагрозаў вашаму жыцьцю і свабодзе няма і вы можаце вяртацца ў Беларусь. Ён сказаў, што прэзыдэнт Лукашэнка асабіста гарантуе вам бясьпеку. Амбасадар Мартынаў таксама выказаў пазыцыю свайго ўраду. Погляд беларускага ўраду — ніякага палітычнага прытулку вам даваць ня трэба. Пазыцыя беларускага ўраду будзе ўважліва разгледжаная амэрыканскім урадам, як і вашыя аргумэнты. Амбасадар Мартынаў прасіў таксама, каб ЗША, ва ўсялякім разе, не прымалі рашэньня хутка. Гэта што тычыцца візыту Мартынава. Што да нашай пазыцыі, вы мусіце ведаць, што ў вашым пытаньні шмат момантаў, зьвязаных з узаемаадносінамі ЗША — Беларусь — Расея.*

Пазьняк: *дзякуй за інфармацыю. Але яна ня ёсьць для нас сюрпрызам. Мы адчувалі, што тут уплывае Масква. Мэта і Крамля, і Лукашэнкі — прывязаць Дзярждэпартамэнт, урад ЗША да авантурнай палітыкі Масквы. А мяне і Навумчыка трымаць у падвешаным стане. Сумна, калі вы паддасьцеся гэтаму. Што да «гарантыяў» Лукашэнкі, дык мы сур'ёзна ставімся не да ягоных «гарантыяў», а да ягоных пагрозаў, ведаючы ягоную псыхіку. Падзеі 12 красавіка 1995 году, калі дэпутаты апазыцыі БНФ былі пабітыя ў залі парлямэнту, гавораць пра ўсё лепш за ўсялякія «гарантыі».*

Навумчык: *Я ня веру ніводнаму слову ні Лукашэнкі, ні ягонага амбасадара. Летась я падымаў на сэсіі парлямэнту пытаньне пра мэдкамісію з мэтай дасьледаваньня псыхічнага стану Лукашэнкі. Хаця і без мэдкамісіі зразумела, што ён псыхічна неадэкватны і ад яго можна чакаць чаго заўгодна. Гэта чалавек маніякальна помсьлівы. Сёньня ён паабяцае адно, а заўтра зробіць супрацьлеглае. Што да заяваў Ілюхіна і Жырыноўскага, дык дзіўна, што аргумэнты такога кшталту ўрад ЗША бярэ пад увагу. Вы цудоўна ведаеце, што мы не зьяўляемся вашымі агентамі.*

Сыгал: *Я хачу паведаміць, што вы, спадар Пазьняк і вы, спадар Навумчык, калі застанецеся ў ЗША, не павінны разьлічваць ні на якую фінансавую дапамогу з боку амэрыканскага ўраду. Толькі на прыватныя ахвяраваньні вашых сяброў. Калі такія ў вас ёсьць. Ніякай матэрыяльнай дапамогі вам ня будзе, я гэта заяўляю афіцыйна.*

Пазьняк: *Спадар Сыгал, мы сюды прыехалі не па каўбасу. Мы прыехалі рабіць палітычную справу і абараняць сваю краіну, а не прыладкоўваць сваё жыцьцё.*

Навумчык: *Калі б для нас было істотным пытаньне матэрыяльнае, мы б маглі яго цудоўна вырашыць у Беларусі, паверце. БНФ не атрымліваў ад Амэрыкі дапамогі ў Беларусі, грошы давалі розным авантурыстам, і мы не разьлічваем на фінансавую дапамогу тут. Але мы, вядома, спадзяёмся на палітычную дапамогу.*

Сыгал: *Спадары, я дзякую вам за гутарку і запэўніваю, што вашыя аргумэнты будуць уважліва вывучаныя ўрадам. Спадзяюся, вы разумееце, што рашэньне буду прымаць ня я, і разумееце, на якім*

*узроўні будзе прымацца гэтае рашэньне. Ад сябе дадам, што па-чалавечы спачуваю вам. Дарэчы, вы ведаеце, куды вы цяпер мусіце зьвяртацца, якія крокі рабіць?*

Кіпель: *Учора яны ўжо былі на інтэрвію ў Службе іміграцыі і натуралізацыі.*

Сыгал: *Праўда? Мы гэтага ня ведалі. Яшчэ раз дзякую за сустрэчу.*

Пазьняк: *Вам таксама дзякуй. Мы разумеем, што ў выпадку прыняцьця станоўчага рашэньня ў нашым пытаньні ЗША давядзецца цалкам мяняць пазыцыю ў дачыненьні да Беларусі і разглядаць яе ўладу як дыктатарскі рэжым. Прашу перадаць вашаму кіраўніцтву, што цяпер вырашаецца лёс Беларусі: ці будзе яна дэмакратычнай і ці будзе існаваць наогул як краіна. Амэрыка павінна дапамагчы беларускай дэмакратыі, а не глядзець у рот Маскве.*

Адразу, як прадстаўнікі Дзяржпартамэнту пайшлі, Вітаўт Кіпель зьдзіўлена вымавіў: «Слухайце, яны нават ня маюць зялёнага паняцьця, як далёка зайшла ў вас справа! Правая рука ня ведае, што робіць левая!», маючы на ўвазе, што чыноўнікі Дзяржпу пасьпелі атрымаць інфармацыю пра нашу заяву аб прытулку, прынялі беларускага амбасадара, абмеркавалі сытуацыю, але ня ведалі, што мы зрабілі галоўны ў юрыдычным сэнсе крок — прайшлі інтэрвію ў Службе іміграцыі і натуралізацыі.

У той момант мы ня ведалі, што гэтая адасобленасьць урадавых амэрыканскіх ведамстваў згуляе нам на карысьць: калі б служба іміграцыі, якая падпарадкоўваецца Міністэрству юстыцыі, выконвала жаданьні Дзяржпу, вынік разгляду нашай просьбы мог бы быць адмоўны.

Мы разумелі, што рашэньне пра палітычны прытулак будзе палітычным. І ў выпадку, калі яно будзе станоўчым, мы (ня толькі мы асабіста, але і дэмакратычныя, незалежніцкія сілы) атрымаем такую перамогу, дасягнуць якой было немагчыма іншымі спосабамі. У выпадку ж паразы нас чакала тое, што Пазьняк вызначыў як палітычны крах.

Прыкметна, што гаворачы пра адмову нам у матэрыяльнай дапамозе, амэрыканскі дыплямат забыўся, што краіна, якая падпісала Жэнэўскую канвэнцыю, абавязана даць уцекачам, якія пражываюць на яе тэрыторыі, тую ж дзяржаўную матэрыяльную падтрымку, як і грамадзянам; нагэтулькі не хацелася, каб рашэньне было станоўчым.

Я прыгадваю матэрыяльны аспэкт толькі таму, што прадстаўнік амэрыканскай адміністрацыі сам, першы, акцэнтаваў на ім увагу. Ну і для таго, каб аддаць належнае «слову амэрыканца». За дзесяцігодзьдзі, якія прайшлі пасьля 1996-га, шмат што зьмянілася ў амэрыканскай палітыцы, у тым ліку і ў дачыненьні да Беларусі, але сваё абяцаньне амэрыканскі ўрад, трэба аддаць яму належнае, выканаў: мы не атрымалі ад амэрыканскай дзяржавы ні цэнта.

Што праўда, і не прасілі. А жылі першы час, як і параіў нам дыплямат, дзякуючы дапамозе сяброў, найперш амэрыканскіх беларусаў (якія да ўраду ЗША ня маюць ніякага дачыненьня). Пішу гэта яшчэ і да таго, што ўсе гэтыя дзесяцігодзьдзі я няспынна, сотні разоў, у розных дыскусіях у інтэрнэце і ня толькі, натыкаўся на папрокі ў бок Пазьняка, што, маўляў, ён жыве ці то на амэрыканскі «вэлфэр», ці то на пэнсію.

У той момант мы канчаткова пераканаліся, наколькі цяжка для амэрыканскай адміністрацыі будзе зьмяніць сваё стаўленьне да рэжыму ў Беларусі. Пацьвердзілася тое, што мы, актывісты БНФ, усе апошнія два гады гаварылі (і ўва што ня верылі і лідэры іншых партый, і большасьць незалежных журналістаў, спадзеючыся на Ельцына як лякаматыў для Лукашэнкі на сьветлым шляху ў дэмакратыю). Масква цалкам падтрымлівае Лукашэнку, і ня толькі ў Беларусі, але і на міжнародным узроўні.

У часе паўгадзіннай гутаркі са спадаром Сыгалам мы ўбачылі, перад якога маштабу машынай — з прапагандысцкім апаратам, дыпляматычнымі місіямі, службамі, агентурай — мы апынуліся.

Тое, што Лукашэнка адразу зрэагаваў на інфармацыю пра нашу просьбу «гарантыямі», мяне не зьдзівіла, па абяцаньні ён ніколі ў кішэню ня лез і быў заўсёды гаспадаром свайго слова: сам даў, сам і ўзяў. Але мяне тады ўразіла апэратыўнасьць дыпляматычнай машыны: за некалькі гадзінаў беларускія дыпляматы скантакталіся з расейскімі калегамі (альбо, што больш імаверна, атрымалі інструкцыі з Масквы), дамагліся сустрэчы ў Дзяржаўным дэпартамэнце — у сваю чаргу, амэрыканскае замежнапалітычнае ведамства выпрацавала пэўную пазыцыю і пасьпела давесьці яе да нас.

Пацьвердзілася і тое, што было відаць падчас сустрэчы ў Сэнаце ў офісе Байдэна: амэрыканскае кіраўніцтва — ці, скажам больш дакладна, амэрыканская бюракратыя — ня надта хоча мяняць стаўленьне да Беларусі. Арганізаваць візыты ў Вашынгтон дэпутатаў, зрабіць крытычную, але карэктную і практычна бязьвінную заяву, падтрымаць нейкім грантам зноў жа бязьвінны для рэжы-

му праект — гэта калі ласка. Але кардынальная перамена, якая б разьвярнула ЗША, а ўсьлед за імі і ўвесь Захад, вымагала пераасэнсаваньня шмат якіх пастулятаў, да якіх ужо прызвычаіліся і ў Белым доме, і на Захадзе ў цэлым.

Так, мы разумелі, што пры разглядзе нашага звароту пераплятуцца шмат якія фактары, і ня толькі адносіны ЗША з Расеяй, але і барацьба рэспубліканцаў і дэмакратаў (і гэта здарылася нават у большай ступені, чым мы чакалі — хаця Міністэрства юстыцыі і ўзначальвала дэмакратка, але ў службе іміграцыі былі моцныя пазыцыі ў рэспубліканцаў).

На пытаньне Вітаўта Кіпеля да эміграцыйнага афіцэра, які праводзіў з намі інтэрвію, калі можна чакаць рашэньня, ён сказаў, што прыблізна праз два тыдні.

«Доўга!» — зазначыў я знаёмаму беларусу. «Ты што, звычайна гэта некалькі месяцаў, а часам людзі і гадамі чакаюць», — адказаў той.

Але хуткасьць часу — рэч ня толькі адносная, але і асабістая.

## Загад пра наш арышт не адменены

Я адаслаў ліст у Віцебск да родных.

*Паколькі, хутчэй за ўсё, гэты мой ліст будзе прачытаны да вас, дык пішу каротка.*

*Настрой у нас нармальны. Адаслаў у Менск пару артыкулаў — думаю, вы іх прачытаеце да таго, як атрымаеце ліст. Нашае пытаньне вырашыцца ў сярэдзіне жніўня: калі ня вырашыцца станоўча, дык тады — праз суд, і шанцы вельмі вялікія. Тут купляем газэты ЗША і Эўропы — сусьветная прэса*

*добразычліва піша пра нашу сытуацыю. «Нью-Ёрк Таймс» даў добры матэрыял.*

*У 12 гадзінаў ночы (у вас — 7 раніцы) ловіцца беларуская Свабода, праўда, трэба выходзіць на вуліцу, але — у курсе ўсіх спраў. Саша Лукашук параіў па-філязофску паставіцца да інфантыльнасьці некаторых дэмакратаў у Менску — па ягоных словах, як бы увосень-узімку ім самім не давялося пацягнуцца за намі ўсьлед. В. У. Быкаў вельмі высока ацаніў маміна інтэрвію на Свабодзе — але я, на жаль, ня чуў, бо быў у цягніку Вашынгтон — Нью-Ёрк. Але Галя дашле стужку.*

*Мы ж пакуль чакаем рашэньня. Паколькі, як нам сказалі, яно будзе кардынальна ўплываць на адносіны ЗША — Расея — Беларусь, дык будзе прымацца тут на самым высокім узроўні. Аднак, незалежна ад рашэньня, нас запэўнілі ў чалавечай добразычлівасьці. Усе перакананыя, што калі дойдзе да суду, дык будзе выйгрыш. Можа быць, таму на палітычным узроўні могуць і адмовіць, ведаючы, што фінал усё роўна будзе станоўчым. І з гэтага ня трэба рабіць трагедыі. Дарэчы, тое, што мы не даём прэсе, тое пішу ў лісьце, бо Лукашэнка ўжо, напэўна, ведае: рашэньне аб прадастаўленьні часовага прытулку прынятае і віза нам працягнутая да студзеня наступнага году. Далей — паглядзім.*

*Жонка Пазьняка з дачкой у Варшаве. Калі ўсё будзе нармальна, пераедзе сюды.*

*Галоўнае — за мяне не хвалюйцеся. У нас была дакладная інфармацыя, што яны плянавалі забойства. Цяпер гэта выключана — узьняты шум, і ўсё, што з намі здарыцца, будзе сьпісана на іх... Гістэрыю, якая цяпер з нагоды нас, успрымайце*

*спакойна — чым грамчэй яны будуць шумець, тым глыбей потым уляпаюцца.*

*Нью-Ёрк, 2 жніўня 1996.*

А жонка Пазьняка Галіна ў тыя дні нам даслала факсам з Варшавы ліст, які меў не прыватны (да Пазьняка), а палітычны характар. Сярод іншага, яна патлумачыла лёс дэпутацкага запыту наконт нашага арышту на мяжы.

*Дарагія Зянон і Сяргей!*

*... Толькі што мы размаўлялі з сакратаркай Дабравольскага Шведавай, якая паведаміла, што запыт пакуль што не адасланы адрасатам, таму што яны даведаліся пра тое, што Вы просіце прытулку. Яны ад гэтага ў шоку, а што тычыцца запыту, то зараз лічаць яго непатрэбным. Тым ня менш я прасіла яго адаслаць адрасатам (калі вы лічыце гэта непатрэбным, то паведаміце, і мы адменім). Як паведаміў В. Асташынскі, а 15.30 (час беларускі) 31.07 запыт адвезены — так сказаў Л. Баршчэўскі. У якой ступені гэта дакладна, Асташынскі высьветліць пры сустрэчы з Баршчэўскім.*

*Зараз у сядзібе прэс-канфэрэнцыя. Усе журналісты «абселі» сядзібу з адным пытаньнем — аб пацьвярджэньні факту азыля. Як паведамілі ва ўпраўленьні інфармацыі МЗС у Менску, пакуль што няма афіцыйнага пацьверджаньня гэтага факту па дыпляматычных каналах.*

*Як паведаміў Хадыка, які сустракаўся ўчора з уплывовай асобай МУС, загад аб вашым арышце не адменены.*

*Па словах В. Асташынскага, управа пакрыўджаная тым, што вы зь ёй не параіліся і не паведамілі загадзя.*

*На мой погляд, Надзея не зусім разумее сур’ёзнасьці сытуацыі. Таму ёй трэба многае тлумачыць. Для яе ўсё кінуць ня так проста. Што тычыцца мяне, я заўсёды з вамі, умовы жыцьця мяне не цікавяць. І я гатовая ўсе цяжкасьці, якія б ні былі, дзяліць з вамі.*

*Абдымаю вас, чакаю вашага званка. Галіна.*

Гэтыя дасланы Галінай ліст мы атрымалі ўжо тады, калі інфармацыйныя агенцтвы паведамілі пра зварот аб палітычным прытулку.

Пра рэакцыю амэрыканцаў (і ня толькі дыяспары) гаворыць прафэсарка Нью-Ёрскага ўнівэрсытэту Ала Орса-Рамана:

*Я прыгадваю маіх бацькоў, якія таксама выехалі зь Беларусі і мусілі прасіць азыль у другіх краінах, таму што не маглі жыць у Беларусі як беларусы. Для беларускай эміграцыі гэта быў шок, хаця мы ведалі, што Лукашэнка рабіў перасьлед нацыі. Але раптам такія людзі, як спадар Пазьняк і спадар Навумчык, людзі палітычныя, якія праводзілі беларускую палітычную справу ў мірны спосаб, — яны мусілі выехаць, таму што яны баяліся за сваё жыцьцё. Гэта быў вялікі шок, па-першае, для беларусаў, для дыяспары, і вялікая падзея для амэрыканскіх палітыкаў. Раптам амэрыканскія палітыкі, прэса зьвярнулі вельмі вялікую ўвагу на тое, што робіцца ў Беларусі.*

У Беларусі нашая заява пра палітычны прытулак на пэўны час зрабілася галоўнай тэмай СМІ. А замежная прэса зьвярнула пільную ўвагу на сытуацыю ў нашай краіне.

Вось як падсумаваў першы палітычны вынік нашага кроку на хвалях Радыё Свабода Аляксандар Лукашук (ягоны тэкст з назовам «Пэрспэк-

тывы палітычнага самаспаленьня» надрукаваў у «Свабодзе» Ігар Гермянчук, цытую па газэтнай публікацыі):

*З пункту гледжаньня палітычнага эфэкту на міжнароднай арэне заява Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка сталася, безумоўна, кульмінацыяй іхняга трохмесячнага знаходжаньня за мяжой і атрымала выключны розгалас. Тысячы людзей штодня зьвяртаюцца па прытулак у адміністрацыйная органы ЗША — але зварот прадстаўнікоў БНФ прыцягнуў такую ўвагу СМІ, што з прыватнай справы Пазьняка і Навумчыка ператварыўся ў гучную палітычную акцыю.*

*Калі прадстаўнікі БНФ разьлічвалі на такі эфэкт, то трэба прызнаць, што ён дасягнуты. Тры месяцы яны працавалі за мяжой па надзвычай напружаным графіку: сустракаліся з прадстаўнікамі ўладаў, парлямэнтарыямі, палітычнымі лідэрамі ва Ўкраіне, у Чэхіі, Польшчы, Вялікай Брытаніі і цяпер у ЗША, публікавалі артыкулы і давалі інтэрвію прэсе, выступалі па радыё і тэлебачаньні, чыталі лекцыі, удзельнічалі ў міжнародных канфэрэнцыях. Апроч таго, Пазьняк і Навумчык падрыхтавалі і выпусьцілі ў сьвет цэлы шэраг заяваў і зваротаў да прэсы і міжнародных арганізацыяў як у абарону правоў арыштаваных і галадаючых у турмах, так і адносна палітыкі прэзыдэнта Лукашэнкі. Гэтыя заявы часам мелі ўплыў нават на ўнутрыпалітычную сытуацыю ў краінах іх знаходжаньня. Так, прэзыдэнт Польшчы Квасьнеўскі, які аднойчы заявіў, што сытуацыя з правамі чалавека ў Беларусі — унутрыбеларуская справа, пасьля публічнага звароту Сяргея Навумчыка мусіў потым публічна апраўдвацца, што яго няправільна зразумелі.*

*Фактычна, па аб'ёме зробленага, Пазьняк і Навумчык удвух дзейнічалі як цэлае Міністэрства замежных справаў, што было ацэнена беларускім МЗС у выглядзе спэцыяльнае заявы, у якой асуджаліся дзеяньні прадстаўнікоў БНФ. Ну а прэзыдэнт Лукашэнка іх дзейнасьць ацаніў яшчэ «вышэй», назваўшы «ворагамі народу».*

*На гэтым тыдні, пасьля скандальнае заявы старшыні камітэту бясьпекі расейскае Думы Ілюхіна аб плянаваным забойстве «аднаго-двух лідэраў БНФ», далейшай эскаляцыі напружаньня ў беларускім грамадзтве пасьля (пакуль вуснай) забароны мітынгаў і дэманстрацыяў, Беларусь зноў апынулася ў цэнтры ўвагі сусьветнае прэсы. У сераду пра сытуацыю ў Беларусі пісалі ангельская Financial Times, нямецкія Frankfurter Allgemeine Zeitung і Handelsblatt, амэрыканскія Washington Post і Wall Street Journal. Агенцыі Associated Press, France Press, Reuter, ИТАР-ТАСС, СМІ шэрагу краінаў зноў зьвяртаюць увагу на Беларусь, якая ў дадатак да ўсіх ня надта прывабных азначэньняў цяпер мае рэпутацыю краіны, якую вымушаныя пакідаць палітычныя апанэнты існуючага аўтакратычнага рэжыму.*

*Нават калі б Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык завяршылі сваю палітычную дзейнасьць такім «актам самаспаленьня», ягоны палітычны эфэкт несумненны. Аднак, ведаючы Пазьняка і Навумчыка, можна меркаваць, што гэтая акцыя ня стане завяршэньнем іхняй палітычнай актыўнасьці, хутчэй наадварот.*

*Практыка існаваньня палітычнай апазыцыі ў выгнаньні, асабліва апошнім часам, сьведчыць пра даволі шырокае поле магчымай дзейнасьці тых, хто*

*вымушаны пакінуць сваю Радзіму. Сусьветная супольнасьць к канцу XX стагодзьдзя стварыла даволі аб'ёмную пазадзяржаўную прастору міжнародных урадавых і грамадзкіх інстытутаў, арганізацыяў, кангрэсаў, а таксама надзвычай эфэктыўную інфармацыйную прастору, дзе палітыкі нават у эміграцыі могуць рэалізоўваць сваю праграму і ўплываць на ход падзеяў у сфэрах, для іх напрамую закрытых. Як зноў-такі сьведчыць замежны вопыт, палітычная эміграцыя не азначае канчатковага зьнікненьня для такіх асобаў палітычнае пэрспэктывы на іх радзіме («Свабода», 2 жніўня 1996).*

Такой бачылася наша сытуацыя ў замежжы.

## Маем падтрымку ад родных і ад Васіля Быкава

Мы — прызнаюся, не без хваляваньня — сачылі за рэакцыяй зь Менску.

Галоўнае было выказана ў загалоўку з паведамленьня БелаПАН у «Народнай газеце»: «БНФ падтрымаў сваіх эмігрантаў». Праўда, гэтая публікацыя заявы кіраўніцтва БНФ зьявілася толькі 7 жніўня.

Трохі раней нечакана ўразіла заява Юрася Хадыкі, перададзеная па беларускім дзяржаўным тэлебачаньні і радыё, пра тое, што ў сваім рашэньні мы нібыта кіраваліся эканамічнымі, грашовымі меркаваньнямі — бо, маўляў, БНФ ужо ня можа нас утрымліваць у замежжы. Гэта быў цудоўны падарунак для афіцыйнай прапагандысцкай машыны. Інтэрвію з Хадыкам паказалі на беларускай тэлевізіі, пазьней у «Свабодзе» ён паспрабаваў

зьмякчыць свае словы, але аргумэнт пра «матэрыяльную падтрымку» прагучаў і тут:

*На маю думку, існуюць дзьве важкія прычыны, якія падштурхнулі З. Пазьняка і С. Навумчыка да гэтага няпростага рашэньня: адсутнасьць у БНФ сродкаў для іх матэрыяльнай падтрымкі за мяжой і ўзрастаньне пагрозы жыцьцю і свабодзе палітычных праціўнікаў рэжыму А. Лукашэнкі. Пра гэта сьведчаць правакацыйныя заявы старшыні думскага камітэта РФ Ілюхіна, нэрвовыя пагрозы прэзыдэнта Лукашэнкі ўвесьці далейшыя абмежаваньні канстытуцыйных правоў і свабод грамадзян і расправіцца з апазыцыяй. Па зьвестках з апарату сілавых структураў, загад затрымаць З. Пазьняка і С. Навумчыка на мяжы не адменены да сёньняшняга дня. На афіцыйныя дэпутацкія запыты ў пракуратуру Беларусі даць інфармацыю аб стане крымінальнай справы супраць Пазьняка і Навумчыка няма адказу* («Свабода», 2 жніўня 1996).

Хадыка ня мог ня ведаць, што БНФ нас і ня ўтрымліваў, мы не прасілі, не ўзялі ад Фронту ні капейкі. Але, зразумела, публічна свайго зьдзіўленьня мы не выказвалі. Больш важнай для нас была палітычная пазыцыя Фронту як арганізацыі.

*БНФ падтрымаў сваіх эмігрантаў*

*Палітычны камітэт Беларускага Народнага Фронту падтрымаў зварот лідэраў руху Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка да ўладаў ЗША з просьбай аб прадстаўленьні ім у гэтай краіне палітычнага прытулку.*

*Народны Фронт запатрабаваў ад кіраўніцтва Беларусі спыніць перасьлед Пазьняка і Навумчыка і гарантаваць ім магчымасьць бясьпечнага вяртаньня на радзіму. Вылучанае таксама патрабаваньне*

*спыніць палітычны перасьлед пад відам крымінальных справаў супраць намесьнікаў старшыні БНФ Юрыя Хадыкі, Вінцука Вячоркі і адказнага сакратара Управы Фронту Вячаслава Сіўчыка.*

*Антон Андросаў, БелаПАН* («Народная газета», 7 жніўня 1996).

Дваццаць фронтаўцаў выйшлі ў пікет ля пракуратуры.

*Учора, у панядзелак, сябры БНФ (20 чалавек) выставілі ў Менску пікет каля будынку рэспубліканскай пракуратуры (вул. Інтэрнацыянальная, 22). Такім чынам пікетоўшчыкі намагаліся атрымаць ад генэральнага пракурора адказ на дасланы раней запыт. У прыватнасьці, іх цікавіла, якія праўныя санкцыі могуць быць прынятыя ў дачыненьні да З.Пазьняка і С. Навумчыка. Праз 40 хвілінаў пікет разагнала міліцыя, ніякага адказу ўдзельнікі, вядома, не атрымалі* («Свабода», 13 жніўня 1996).

У цэлым сябры з БНФ нас падтрымалі, хаця і ня ўсе адразу зразумелі сутнасьць нашага кроку, напрыклад Валянцін Голубеў:

*Я разумею матывы, якія вымусілі Зянона Пазьняка прасіць палітычны прытулак. Але для мяне дзіўна, што гэтае рашэньне кіраўнік БНФ прыняў без кансультацыяў з кіраўніцтвам Народнага Фронту ў Менску. Пазьняк не прыватная асоба, а лідэр палітычнай арганізацыі. Гэта накладвае на яго абавязак нейкім чынам узгадняць свае крокі. Я думаю, што кіраўніцтва Народнага Фронту падтрымала б Пазьняка, і гэта было б палітычнае рашэньне палітычнай арганізацыі* («Свабода», 2 жніўня 1996).

Зьдзіўленьне Голубева зразумелае — але мы ня мелі ніякіх магчымасьцяў абмеркаваць свой

крок з кіраўніцтвам БНФ у Менску, паколькі тэлефонныя размовы праслухоўваліся, а факсы перахопліваліся (праз некалькі месяцаў на БТ будуць ужо, не саромеючыся, са спасылкай на спэцслужбы цытаваць факсы Пазьняка). Пра нашае рашэньне прасіць палітычнага прытулку ня ведала нават жонка Пазьняка ў Менску, калі Пазьняк прасіў яе тэрмінова разам з дачкой выехаць зь Беларусі.

І ўсё ж ацэнка паплечнікаў-фронтаўцаў, прынамсі ў друку, была добразычлівай.

З рэпартажу карэспандэнта Радыё Свабода Віталя Тараса:

*Безумоўна, лёс Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка найбольш хвалюе і заўжды будзе хваляваць іхніх мацярок. Маці Зянона Пазьняка Ганна Яфімаўна пра рашэньне сына застацца ў Амэрыцы даведалася сёньня з тэлефоннай размовы з карэспандэнтам Радыё Свабода. Яе рэакцыя, зразумела, была вельмі эмацыйнай, але разам з тым стрыманай і мужнай:*

*— Пасьля гэтага, як бойню ўстроілі 26-га* (красавіка. — С.Н.)*, тады быў ён тут, але я яго ня бачыла. Вельмі хацеў прэзыдэнт, каб Пазьняка ўзяць, але Пазьняк здолеў сысьці.*

*— Ганна Яфімаўна, магчыма, ваш голас пачуе Зянон Пазьняк па радыё. Што б вы яму перадалі?*

*— Перадала б — найболей здароўя і каб яго жаданьні збыліся.*

*Ганна Яфімаўна мае клопаты са здароўем, у яе хворае сэрца. У тэлефоннай размове яна паведаміла, што дактары забаранілі ёй фізычную працу, але ж ёй даводзіцца працаваць на сваім прысядзібным участку. Вельмі важна, каб Ганна Яфімаўна не адчувала сябе самотнай у гэтай сы-*

*туацыі, каб яна ведала, што можа разьлічваць на падтрымку, фізычную і асабліва маральную.*

*Маці Сяргея Навумчыка, Роза Ягораўна, перакананая ў правільнасьці рашэньня свайго сына:*

*— Як кожная маці, я люблю сваіх дзяцей і ўнукаў. Іх боль — гэта і мой боль. Іх радасьць — гэта і мая радасьць. Сяргей — мой старэйшы сын, і за яго лёс я асабліва хвалююся ў апошні час, калі ён стаў займацца палітыкай. За прайшоўшыя два гады ўлады праявілі непрыхаваную варожасьць да апазыцыі. А падзеі апошніх месяцаў і вось апошніх тыдняў, гістэрычныя заклікі ўладаў расправіцца з апазыцыянэрамі, абвяшчэньне іх «ворагамі народу» (гэта такіх хлопцаў, як мой сын, абвясьціць ворагамі народу!) пераканалі мяне ў правільнасьці прынятых Сяргеем і Пазьняком рашэньняў.*

Такая падтрымка нашых родных надавала сілаў. І асабліва важнымі былі словы чалавека, чый маральны аўтарытэт быў для нас абсалютным. Прагучаў ён у рэпартажы Віталя Тараса на хвалях Свабоды.

*Можна толькі ўявіць, колькі бруду ды інсынуацыяў абрынецца цяпер на лідэра БНФ з вуснаў афіцыйных прэзыдэнцкіх ідэолягаў і афіцыйнай прэсы. Зусім ня выключана, аднак, што і ў лягеры саюзьнікаў Фронту ўчынак Пазьняка і Навумчыка будзе ўспрыняты неадназначна. Мяркуючы па некаторых ранейшых публікацыях, знойдуцца ахвотнікі абвінаваціць іх у здрадзе альбо баязьлівасьці. Вось што думае на гэты конт старшыня Беларускага ПЭН-цэнтру, народны пісьменьнік Беларусі Васіль Быкаў:*

*— Я таксама чуў, як некаторыя далёка ня добразычліўцы Народнага Фронту цяпер раптам пачалі клапаціцца праблемамі аўтарытэту Беларускага*

*Народнага Фронту, асабліва ў сувязі з эміграцыяй яго лідэраў. Але справа тут, канечне, ня ў гэтым. Мы ж бачым, і ўвесь сьвет бачыць, які рэжым усталёўваецца ў Беларусі. І як ва ўмовах гэтага рэжыму весьці колькі-небудзь дэмакратычную працу і змагацца за ідэалы Беларускага Народнага Фронту?! Наогул, за нацыянальныя ідэалы, за беларушчыну?*

*Я лічу, што Пазьняк і Навумчык свае магчымасьці ў гэтым сэнсе амаль што вычарпалі — для іх ужо не засталося легальнай магчымасьці барацьбы і сапраўды паўстала пагроза менавіта фізычнага зьнішчэньня. Калі Ілюхін у Маскве агучыў пэўныя пляны, дык можна меркаваць з пэўнасьцю, што гэта ня пляны ЦРУ, гэта пляны беларускага кіраўніцтва. І пасьля гэтага, канечне, існаваць на Беларусі можна было лідэрам Беларускага Народнага Фронту толькі пэўны час. Ім яшчэ пашчасьціла, што ўдалося вырвацца зь Беларусі. Дапамог, я лічу, выпадак — празрыстая мяжа з Расеяй, праз якую яны выйшлі жывыя на Захад.*

*І ў дадзеным выпадку патрабаваць ад іх вярнуцца — гэта ўсё роўна што патрабаваць зьдзейсьніць учынак камікадзэ. Такога маральнага права ня мае ніхто. І ў дадзеным выпадку рашэньне могуць прыняць толькі яны — толькі Пазьняк і толькі Навумчык. І калі яны прынялі такое рашэньне — значыць, гэта было адзіна магчымае рашэньне. Апроч таго, я хацеў бы дадаць, што, ведаючы і Пазьняка, і Навумчыка, — там іх не чакае прыватнае жыцьцё, што яны і там будуць рабіць усё, самаахвярна рабіць на карысьць Беларусі і Беларушчыны.*

Васіль Быкаў падтрымаў Пазьняка ў справе, якая паклала пачатак нацыянальнаму Адраджэньню —

публікацыі артыкулу пра Курапаты. Ён забраў мікрафон у цэкоўскага чыноўніка ў вечар стварэньня «Мартыралёгу» і Аргкамітэту БНФ, быў сябрам Сойму і даверанай асобай лідэра Фронту на прэзыдэнцкіх выбарах, мы ўдзячныя яму і за салідарнасьць пасьля пабіцьця дэпутатаў у часе галадоўкі.

Слова аўтара «Сотнікава» было ў тыя няпростыя для нас дні моцнай маральнай падтрымкай, дадавала сілаў. Як цяпер мы ведаем, аўтарская назва аповесьці была іншай — «Ліквідацыя».

## Рэпрэсіўная машына запавольвае абароты

Ніколі не крыўдаваў на крытыку ці нават абразы ў афіцыйнай прэсе — і ў камуністычныя часы, і пазьней успрымаў гэта як належнае. Іншая справа, вядома, калі папрокі, прычым зьедлівыя, гучаць ад тых, з кім былі прыязныя стасункі.

Працягвала кпіны і шпількі газэта «Имя». Адразу пасьля нашай заявы газэта зьмясьціла матэрыял Ірыны Халіп пад загалоўкам «Эмиграция всегда заканчивается одинаково»:

*В среду стало очевидным то, что раньше многие полагали невероятным: лидер БНФ Зенон Позняк и активист фронта Сергей Наумчик попросили политического убежища в США, где находились последнее время. Вопрос об их статусе будет решать американский департамент миграции.*

*В тот день экстренно собралась Рада БНФ. Ничего принципиально нового, как оказалось, решение эмигрантов в деятельность партии не внесло. По мнению члена Рады БНФ Юрия Ходыко, у них было две причины просить политического убежища.*

*Во-первых, у Фронта нет средств, чтобы обеспечить Позняку и Наумчику жизнь в эмиграции. Во-вторых, никто не может гарантировать им безопасное возвращение в Беларусь. Ситуация в стране ухудшается, претензии властей к эмигрантам выяснить не удалось: даже депутатские запросы остались без ответов. А частным образом руководству БНФ удалось узнать, что приказ о задержании Позняка и Наумчика остаётся в силе.*

*БНФ работает без лидера уже четыре месяца. Два месяца обязанности председателя исполняет Лявон Борщевский, который пользуется неограниченным доверием всех членов партии. На сегодняшний день он остаётся в должности исполняющего обязанности, а формально председателем по-прежнему является Зенон Позняк. Разумеется, в случае получения американского гражданства он автоматически будет освобождён от должности. Впрочем, Юрий Ходыко подчеркнул, что БНФ и его лидер — отнюдь не одно и то же, хотя слишком часто их отождествляют, и фронт будет работать так же, как и прежде. Хотя, безусловно, изменение политического статуса Позняка нанесёт ощутимый удар по БНФ, а самого лидера в эмиграции лишит возможности участвовать в политической жизни республики.*

*Заместитель председателя Верховного Совета Геннадий Карпенко прокомментировал событие так: «Дело каждого политика — определяться в своей жизни. Что касается Позняка, то думаю, что на его решение повлияли различные угрозы физической расправы. Его можно понять. Но если бы такая ситуация сложилась в моей жизни, то я бы остался в своей стране. Позняк же сделал свой*

*выбор и тем самым вычеркнул себя из белорусской политики». А лидер коммунистов Сергей Калякин прореагировал на новость на удивление благодушно: «Здесь пожили — пусть теперь и там поживут». Похоже, что никто этой новости просто не удивился... («Имя», 2 жніўня 1996).*

Зьвярнуцца па камэнтар да нас ці да тых, хто актыўна падтрымаў наш крок (як, скажам, Васіль Быкаў), аўтарка нататкі не пажадала. Сама публікацыя, між іншым, пацьвердзіла словы Быкава пра тое, што «некаторыя далёка ня добразычліўцы Народнага Фронту цяпер раптам пачалі клапаціцца праблемамі аўтарытэту Беларускага Народнага Фронту, асабліва ў сувязі з эміграцыяй яго лідэраў».

І калі публікацыі ў афіцыйнай прэсе ў тыя дні ніяк нас не ўзрушалі, дык гэтая і некаторыя іншыя каштавалі нэрваў. Бо — сьвядома гэта рабіла Халіп ці несьвядома — пасажы гэтай публікацыі выстаўлялі нас (найперш, безумоўна, Пазьняка) у нявыгадным сьвятле менавіта сярод дэмакратычна настроенай часткі грамадзтва (якая пераважна і чытала тую газэту).

З тэксту можна было зразумець, што Пазьняк цяпер ня болей чым эмігрант, які неўзабаве можа атрымаць амэрыканскае грамадзянства і аўтаматычна страціць «фармальнае старшынёўства» ў БНФ (грамадзянства ЗША Пазьняк ня ўзяў і праз два дзесяцігодзьдзі). А ўвогуле падзея нагэтулькі нязначная, што «никто этой новости просто не удивился».

Словы пра будзённасьць нашага кроку, вядома, не адпавядалі сапраўднасьці.

*У Беларусі першыя рэакцыі на рашэньне Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка былі вельмі эмацый-*

*ныя. Генадзь Карпенка сказаў нават, што З. Пазьняк «зрабіў свой выбар і тым самым выкрасьліў сябе зь беларускай палітыкі». Валянцін Голубеў выказаў зьдзіўленьне. Ідэолягі з Адміністрацыі прэзыдэнта не захацелі здацца арыгінальнымі й запусьцілі вэрсію пра жаданьне апазыцыянэраў палепшыць сваё фінансавае становішча. Асаблівы драматызм дэмаршу беларускіх выгнаньнікаў надало яго супадзеньне зь іншай падзеяй месяца — заявай Ілюхіна пра змову ЦРУ супраць А. Лукашэнкі. Камэнтары да банальнасьці адпавядаюць рэальным эпізодам. Паводле «ілюхінскай» вэрсіі, два лідэры апазыцыі мусяць быць забітыя, што справакуе хваляваньні; у рэальнасьці ж два лідэры апазыцыі заяўляюць пра імкненьне ўратаваць свае жыцьці. У складаным клубку палітычных інтарэсаў і супярэчнасьцяў рашэньне Пазьняка і Навумчыка выглядае адчайнай спробай прарваць кола прадвызначанасьці. Палітычныя эмігранты паспрабавалі выкарыстаць гульню маскоўскіх ды менскіх стратэгаў, сваім дэмаршам зблытаўшы іхнія пляны. Беларуская мутацыя зноў набывае гучаньне ў сьвеце. Калі ж служба эміграцыі і натуралізацыі ЗША сапраўды задаволіць хадайніцтва двух беларусаў, дык гэта будзе рэальна азначаць юрыдычны перавод Беларусі ў іншую катэгорыю дзяржаваў... Гэта сапраўды іншы статус, ён зусім канкрэтна адаб'ецца на палітыцы міжнародных фінансавых інстытуцыяў, значна абмяжуе фінансавыя рэсурсы рэжыму.*

*Яшчэ адзін магчымы вынік — учынак Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка зьявіцца нейкім засьцерагальнікам ад масавых рэпрэсіяў супраць апазыцыі ў самой Беларусі. Рэжым будзе працяг-*

*ваць сьцьвярджаць, што палітычным эмігрантам нічога не пагражае пры іхнім вяртаньні на Радзіму. А ў такіх умовах складана праводзіць гвалтоўныя акцыі ў Менску»* (Алег Дзярновіч, «Наша ніва», 5 жніўня 1996).

Прагноз наконт запавольваньня рэпрэсіўнай машыны аказаўся слушным: адразу пасьля нашай заявы яна спынілася, і нават масавыя акцыі на Плошчы празь некалькі месяцаў, у час так званага канстытуцыйнага крызісу (пра яго гаворка наперадзе) не душыліся. Потым, праўда, усё вярнулася, але тады недзе на паўгода суцішылася.

Тут самы час сказаць пра вэрсіі, якія адна за адной нараджаліся ў дэмакратычных колах Менску.

Гаварылі, што гэта я зьвёз Пазьняка, каб на ягоных плячах пераехаць у Амэрыку. Але для таго, каб атрымаць палітычны прытулак ў ЗША, мне дастаткова было ўласнага статусу экс-парлямэнтара і факту пабіцьця ў часе галадоўкі, пра якое паведаміла ўсе вядучыя сусьветныя выданьні — гэты «кейс», як прынята называць такія справы ў Амэрыцы, станоўча вырашыў бы любы адвакат нават зь мінімальнай эміграцыйнай кваліфікацыяй.

«Не, — казалі іншыя, — гэта не Навумчык, а ягоная жонка, бо ёй вельмі хацелася перабрацца на Захад». На момант, калі мы яшчэ і ня думалі пра палітычны прытулак, Галіна ўжо працавала ў праскім бюро Радыё Свабода і ў такіх камбінацыях не было ніякай патрэбы. Наадварот, яна магла б аформіць мне магчымасьць жыць у Чэхіі як мужу.

Нарадзілася і яшчэ адна (а магчыма, была адмыслова створаная) вэрсія, што эміграцыя Пазьняка — гэта апэрацыя КДБ. Адзін аўтар палітычных біяграфій шмат разоў зь нейкай маніякальнай

упартасьцю паўтараў гэту вэрсію, дадаўшы эпітэт «бліскучая апэрацыя» і зазначыўшы, што зусім не мяне мае на ўвазе.

Зь дзяцінства нас вучылі, што ўсе апэрацыі КДБ «бліскучыя», іншых не бывала. У гэтай вэрсіі, пры ўсёй яе бліскучасьці, ёсьць адна хіба. Калі гэта была апэрацыя КДБ, чаму ж тады тое самае КДБ у зьвязцы з ФСБ Расеі, замежнапалітычнымі ведамствамі Беларусі і Расеі прыклала гэтульки намаганьняў, каб палітычнага прытулку мы не атрымалі?

І паколькі аўтары разважаюць кансьпіралягічна, выкажу сваю вэрсію і я: магчыма, такім спосабам аўтары кпілі з КДБ, у якога правая рука ня ведала, што робіць левая, а галава спала з расплюшчанымі вачыма, пакуль апанэнты рэжыму пакідалі краіну, вярталіся і зноў выяжджалі, вандравалі па сусьветных сталіцах...

## Амбасадар абяцае амэрыканцам «зусім іншага Лукашэнку»

У пачатку жніўня першыя палосы амэрыканскіх газэтаў былі запоўненыя фатаздымкамі спартоўцаў — у Атлянце завяршаліся XXVI Алімпійскія гульні. Ня памятаю, каб мы з Пазьняком і Шукелойцем (які штодня наведваў нас у кватэры Андрусышыных) іх абмяркоўвалі — здаецца, толькі паглядзелі, колькі беларуская зборная ўзяла гэтым разам мэдалёў. У нас былі зусім іншыя клопаты, якія нараджалі куды мацнейшыя эмоцыі, чым у заўзятараў на спартовых трыбунах ці ля тэлевізійных экранаў.

Мы ня ведалі, як рухаецца наша справа ў кабінэтах амэрыканскай улады, але ўскосная інфармацыя ішла зь Менску.

Адміністрацыя Лукашэнкі значна лепей, чым некаторыя беларускія незалежныя журналісты, прагназавала магчымыя вынікі станоўчага рашэньня на наш зварот і дзейнічала энэргічна.

*З крыніц, блізкіх да Дзярждэпартамэнту ЗША, стала вядома, што Міністэрства замежных справаў Беларусі прадпрымае захады, каб З. Пазьняку і С. Навумчыку не далі палітычнага прытулку ў Злучаных Штатах.*

*У прыватнасьці, ёсьць зьвесткі, што беларускае зьнешнепалітычнае ведамства спрабуе пераканаць амэрыканцаў, нібыта літаральна праз некалькі дзён мы ўбачым зусім іншага Лукашэнку — які пойдзе на дыялёг з апазыцыяй, спыніць усялякія перасьледаваньні іншадумцаў і вызваліць палітычных вязьняў. Адначасова, на жаль, няма ніякіх падставаў верыць гэтаму: Лукашэнка ня можа быць іншым* (газэта «Свабода», 13 жніўня 1996).

*Міністэрства замежных справаў Беларусі распаўсюдзіла афіцыйную заяву наконт просьбы Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка аб палітычным прытулку ў ЗША. МЗС, у прыватнасьці, заяўляе, што «няма ніякіх падставаў сьцьвярджаць, што ў дачыненьні да Пазьняка і Навумчыка існуе пагроза палітычнага ці фізычнага перасьледу. Рэспубліка Беларусь прыняла на сябе абавязацельствы па абароне і заахвочваньні асноўных грамадзянскіх правоў і свабодаў і робіць усе намаганьні па іх дакладным выкананьні. МЗС лічыць, што зварот Пазьняка і Навумчыка з просьбай аб палітычным прытулку перш за ўсё накіраваны супраць добрых адносінаў,*

*якія ўсталяваліся паміж Беларусьсю і ЗША, і ня мае пад сабой ніякіх грунтоўных юрыдычных альбо палітычных падставаў* (газэта «Свабода», 2 жніўня 1996).

Заявы МЗС здалося недастаткова, і на беларускай тэлевізіі выступіў міністар замежных справаў Уладзімер Сянько:

*...Мы павінны стрымана рэагаваць на гэтае паведамленьне. Сёньня для ўсіх відавочна, што крок кіраўнікоў БНФ яўна прадыктаваны меркаваньнямі ўнутрыпалітычнай каньюнктуры. Хацеў бы падкрэсьліць пры гэтым: даволі ясна, што такімі дзеяньнямі наносіцца адчувальны ўрон зьнешнепалітычным інтарэсам усёй нашай дзяржавы, усяго нашага насельніцтва. Я ўпэўнены ў тым, што рэакцыя амэрыканскага боку на зварот прадстаўнікоў БНФ таксама будзе стрыманай, бо няма ніякіх падстаў разглядаць яго пазытыўна... Усе спробы асобных грамадзянаў ці палітычных груповак стварыць прэцэдэнт беларускай палітычнай эміграцыі зьяўляюцца беспадстаўнымі і надуманымі.*

Заявы беларускіх дыпляматаў, якія я цытую, гэта толькі тое, што прагучала ў публічнай прасторы; зразумела, што яны не адлюстроўваюць і малой часткі тых намаганьняў, якія прыкладаў у тыя дні афіцыйны Менск (пры спрыяньні Масквы), і дэталі якіх стануць вядомыя толькі тады, калі адкрыюцца архівы.

Спадзяюся, маладыя чытачы кнігі засьпеюць такі час.

У першыя ж дні пасьля нашай заявы і прэсавай канфэрэнцыі ў Кангрэсе ЗША да нас дайшла рэакцыя афіцыйнага Менску. Першай даляцела заява

«галоўнага ідэоляга» прэзыдэнцкай адміністрацыі палкоўніка Ўладзімера Замяталіна:

*У асэнсаваньні трагічнай гісторыі беларускага народу, які страціў у гады Вялікай Айчынай вайны кожнага чацьвёртага жыхара, тэма паліцаяў, калябарацыяністаў і здраднікаў — тэма нумар адзін. Іх рукамі ажыцьцяўляўся генацыд, а па сутнасьці сваёй, зьнішчэньне беларускай нацыі. Беларускія нацыяналісты, безумоўна, за адпаведнае ўзнагароджаньне, вядуць вайну з уласным народам. Але вайна пакуль вядзецца не на тэрыторыі рэспублікі, а за яе межамі, там, дзе гэтых двух адшчапенцаў разумеюць, песьцяць, кормяць і апранаюць.*

Палкоўнік Замяталін быў ідэолягам антызаконнага рэфэрэндуму 1995 году, вынікам якога быў зьдзек зь бел-чырвона-белага сьцяга, Пагоні і беларускай мовы. У момант, калі Замяталін рабіў гэтую сваю заяву, распачатая ім кампанія ліквідацыі беларускіх школаў і беларускіх падручнікаў набыла рысы сапраўднага этнацыду. Пройдзе некалькі месяцаў — і Замяталіна зробяць міністрам друку, і будзе выкінуты з выдавецтва зборнік апавяданьняў Васіля Быкава, а самога Васіля Ўладзімеравіча будуць абражаць на тэлевізіі і ў афіцыйнай прэсе. А звольнены з выдавецтва празаік Уладзімер Арлоў будзе вымушаны думаць не пра асэнсаваньне беларускай гісторыі, а пра тое, як пракарміць сям'ю.

Пазьней Замяталін зойме месца віцэ-прэм'ера, і наступ на нацыянальную культуру набудзе такі маштаб, якога Беларусь ня ведала з 30-х гадоў. У гутарцы зь беларускім паэтам ён скажа, што лічыць за лепшае ліквідаваць Беларусь як незалежную дзяржаву. Яго адправяць кіраваць «Беларусьфільмам», і ён заявіць, што беларуская мова ні пры якіх умо-

вах не павінна займаць больш як дзясятую частку (ня толькі ў кіно — нідзе). Апошні раз, перад сваёй сьмерцю ў 2019 годзе, ён прылюдна аскандаліцца, заявіўшы ў менскай краме прадавачцы, якая гаварыла па-беларуску: «Задолбали своей мовай».

Амэрыканскія газэты са спасылкай на агенцтва Assosiated Press працытавалі словы супрацоўніка лукашэнкаўскай адміністрацыі Міхаіла Падгайнага, што, маўляў, Пазьняк проста хоча жыць на Захадзе.

А вось кіраўнікі прэзыдэнцкай юстыцыі імкнуліся даказаць прававую няслушнасьць нашага кроку.

Праўда, пачалі вельмі няўдала: намесьнік генпракурора Іван Сашчэка ў сваім выступе на беларускай тэлевізіі абрынуў усю інфармацыйную канструкцыю, якую энэргічна выпрацаваў і настойліва падтрымліваў ідэалягічна-прапагандысцкі апарат і якая фармулявалася ў чатырох словах: «Ім нічога не пагражае»:

*Шмат размоваў пра тое, што Пазьняк і Навумчык як быццам прыцягваюцца да крымінальнай адказнасьці. Што тычыцца Навумчыка, то ён нават не выклікаецца для допыту да сьледчага. Пазьняк выклікаецца да сьледчага на допыт. Яго проста трэба дапытаць, а потым вырашыць, ці будзе ён прыцягвацца да крымінальнай адказнасьці. Пытаньне гэтае будзе вырашацца ў межах расьсьледаваньня крымінальнай справы.*

Ужо толькі заявы аднаго з кіраўнікоў пракуратуры пра магчымасьць крымінальнага перасьледу за палітычную маніфэстацыю было дастаткова, каб іміграцыйная служба ЗША дала палітычны прытулак.

Можна меркаваць, што Сашчэка ня меў кансультантаў, абазнаных у элемэнтарных прававых аспэктах. Не чыталі ягоныя памочнікі і газэтаў: вясной 96-га «Свабода» пісала і пра позвы да мяне, і пра спэцаўтамабілі каля пад’езду, і пра перасьлед жончынай сястры Вольгі, якая адмаўлялася паведаміць спэцслужбам, «дзе хаваецца Навумчык».

Спадара Сашчэку я добра ведаў па сваёй дэпутацкай дзейнасьці: ніводзін мой запыт да яго ці то ў абарону нейкіх несправядліва пакараных людзей, ці то супраць ціску на незалежную прэсу ніколі ня меў станоўчага выніку, былі толькі адпіскі. Намесьнік генэральнага пракурора знаходзіў любыя падставы, каб апраўдаць дзеяньні чыноўнікаў ці пры Дземянцею, ці пры Кебічу і Шушкевічу, ці пры Лукашэнку. Пройдзе некалькі месяцаў, і Лукашэнка адправіць Сашчэку ў адстаўку, нягледзячы на адданасьць таго рэжыму.

А вось аўтар наступнай заявы, наадварот, у пачатку 1997-га пойдзе на павышэньне.

Міністар юстыцыі Валянцін Сукала гэтак у тэлевізійным інтэрвію разважаў пра юрыдычныя аспэкты нашай з Пазьняком заявы:

*Даваньне палітычнага прытулку — гэта заўсёды вельмі сур’ёзны прававы міжнародны акт. Для яго прыняцьця мала нейкіх беспадстаўных заяваў, меркаваньняў, здагадак. Для гэтага неабходна абавязковае выяўленьне, бясспрэчнае выяўленьне факту палітычнага перасьледу ў краіне знаходжаньня.*

У той час дзяржаўныя СМІ ўжо не паведамлялі таго, пра што, як лічылі ўлады, людзям ведаць было ня трэба. Не паведамілі яны і пра стварэньне «Вясны-96», якая пазьней ператварылася ў аўтарытэтную праваабарончую арганізацыю на чале з Алесем

Бяляцкім. Але ўлетку 96-га арганізацыя склала вялікі сьпіс пабітых, затрыманых ды асуджаных. Поўніліся аповедамі рэпрэсаваных і нешматлікія незалежныя выданьні.

Але міністар юстыцыі, як выглядае, ці то чытаў толькі «правільную» прэсу, ці то, як раіў Лукашэнка, ня верыў незалежнай. Праз паўгода ён стане старшынём Вярхоўнага суду, які будзе ўзначальваць больш як два дзесяцігодзьдзі.

## Рашэньне ў нашай справе адкладаецца

Нечакана нам паведамілі, што абвяшчэньне выніку нашага разгляду пераносіцца на тыдзень зь нечым, на 23 жніўня.

На вуліцы было пад 40 градусаў, мы сядзелі на кухні ў кватэры Андрусышыных на Мангэтане, прыходзіў Антось Шукелойць, і яны з Пазьняком удвух гадзінамі разважалі пра даваеннае віленскае жыцьцё, згадваючы прозьвішчы, большасьць якіх мне нічога не гаварыла.

Я ішоў у пакой Данчыка і што-небудзь чытаў з эміграцкіх беларускіх выданьняў альбо прагульваўся да кніжнай крамы на Астар-плэйс, ля самага Брадвэю, і гартаў там альбомы.

Альбомы ў кнігарнях гартаў і Пазьняк — праўда, яго цікавілі выданьні па фатаграфіі. Неяк ён натрапіў на ці то фотачасопісы, ці то каталёгі з фататэхнікай, купіў і час ад часу іх уважліва гартаў. Я паспрабаваў пагутарыць зь ім на тэму фатаграфіі, але зразумеў, што, хоць у свой час у фотааматарстве дасягнуў вяршыні стварэньня ўласнымі рукамі хімікатаў для праяўкі плёнак, з роўным посьпехам



Антось Шукелойць і Зянон Пазьняк. Вечаровая гутарка ў кватэры Андрусышыных, дзе мы жылі некалькі месяцаў

мог бы пагутарыць на тэму матэматыкі з акадэмікам Уладзімерам Платонавым.

Аднойчы зайшоў на краму з аўдыёкасэтамі, купіў запісы 1-га канцэрту Чайкоўскага і 2-га канцэрту Рахманінава — улюбёных сваіх твораў. Але ў кватэры бясконца пракручваў запіс м’юзыклу Лойда Ўэбэра «Фантом у опэры», на які нас з Пазьняком звадзіла Орса-Рамана: у мяне няма слыху, але добрая музычная памяць, і хіты з м’юзыклу запомніў, здаецца, на ўсё жыцьцё.

Калі пазьней у Нью-Ёрк прыляцеў тэатральны рэжысэр Валер Мазынскі, яго таксама звадзілі на «Фантом». Адной толькі сцэнаграфіі, імгненных, у некалькі сэкундаў, зьменаў дэкарацый яму хапіла, каб сапсаваць настрой на некалькі дзён: пра такія тэхнічныя магчымасьці ў Беларусі можна было толькі марыць.

Але кнігарні, альбомы ды музыка толькі ненадоўга адцягвалі нас з Пазьняком ад трывожнага,



Пазьняк сфатаграфаваў мяне за сталом у пакоі Данчыка: слухаю Радыё Свабода. Калі накрыць прымач рондалем, лавілася лепей.

нэрвовага чаканьня выніку разгляду нашай справы эміграцыйнай службай.

Строга гаворачы, у нашым з Пазьняком выпадку для любога эміграцыйнага судзьдзі аднаго толькі факту пабіцьця нас падчас галадоўкі ў залі парлямэнту 12 красавіка 1995 году хапіла б, каб даць нам палітычны прытулак — незалежна ад наяўнасьці ці адсутнасьці крымінальных, адміністрацыйных справаў ці іншых формаў перасьледу.

Але да эміграцыйнага судзьдзі справа трапляе ў тым выпадку, калі служба іміграцыі прыняла адмоўнае рашэньне. Паводле ўсіх правілаў, іміграцыйны афіцэр у нашым выпадку мусіў бы прыняць рашэньне на нашу карысьць — але, акрамя палітычнага разьліку, пра які казаў нам Джэк Сыгал, была яшчэ адна праблема. Да нас грамадзянам Беларусі

палітычнага прытулку не давалі, мы з Пазьняком маглі стаць першымі. Даўшы яго нам, аўтаматычна стварылі б прэцэдэнт; і з гэтага моманту па ўсёй тэрыторыі Амэрыкі іміграцыйныя чыноўнікі мусілі б улічваць яго (так потым і атрымалася).

Пра тое, як рухаецца наша справа, служба іміграцыі нас, натуральна, не інфармавала. Сёе-тое даходзіла з камэнтароў прадстаўнікоў Дзяржаўнага дэпартамэнту, пра якія нам імгненна паведамлялі Вітаўт Кіпель ды Алекс Сільвановіч (апошні сказаў, што маладыя амэрыканскія беларусы абмяркоўваюць нашу праблему на нейкім форуме ў нейкім інтэрнэце, што гэта такое, інтэрнэт, я ня меў уяўленьня, і Алекс мне прадэманстраваў тады яшчэ зусім кволы і няхуткі новы спосаб камунікацыі).

Вітаўт Кіпель, які найлепей з амэрыканскіх беларусаў ведаў вашынгтонскую «кухню», лічыў, што рашэньне ў нашай справе будзе менавіта палітычным і будзе прымацца на самым высокім узроўні (ускоснае пацьверджаньне гэтага мы атрымалі ў дзень, калі нам афіцыйна абвясьцілі адказ на наш зварот, але пра гэта пазьней). Даць нам прытулак значыла ўскладніць адносіны ня толькі з афіцыйным Менскам, але і з Масквой. А галоўнае — перагледзець сыстэму адносінаў да Беларусі. Вось як успамінае той час Зянон Пазьняк:

*Пачалася шалёная контрадзейнасьць рускай дыпляматыі і беларускай амбасады. Справа з азылем стала зацягвацца на даўжэйшы час. Рускія, пасьля шэрагу няўдалых супрацьдзеяньняў, занялі вельмі небясьпечную пазыцыю. Яны як быццам бы не аспрэчвалі магчымасьць нашага азылю, але тактоўна прасілі амэрыканскія ўлады не сьпяшацца і зрабіць гэта не адразу, а праз нейкі час, каб захаваць пр-*

*эстыж Лукашэнкі і г.д. Гэта было якраз тое, на што мог пагадзіцца прэзыдэнт Клінтан. Над намі пачалі згушчацца хмары.*

Спачатку нам сказалі, што рашэньне будзе прынятае недзе ў сярэдзіне жніўня, але потым праз Вітаўта Кіпеля перадалі, што яно адкладаецца на тыдзень, а магчыма, і болей.

І гэта была непрыемная навіна. Хоць бы нават таму, што ты ўжо настроены на нейкі канкрэтны дзень і, які́м бы ня быў вынік, ён хаця б пазбавіць ад пакуты няпэўнасьці і чаканьня. А цяпер пакуты гэтыя нам працягнулі.

Вітаўт Кіпель, звычайна аптымістычны і бадзёры, цяпер пры сустрэчах больш маўчаў. Потым, адрываючыся ад думак, пляскаў мяне па плячы і казаў: «Нічога. Усё будзе добра».

Хацелася верыць.

Мы адчулі, што шалі схіляюцца не на нашую карысьць. Выглядала, што намаганьні расейскай і лукашэнкаўскай дыпляматыі (і, несумненна, іншых установаў) даюць плён.

Неяк пасьля доўгага маўчаньня Пазьняк сказаў: «Трэба пісаць Клінтану. Гэта апошняя магчымасьць».

Я выказаў скептычнае стаўленьне да гэтай ідэі, разумеючы, што ў такога ліста зусім мала шанцаў дайсьці да адрасата. Амэрыка — прававая дзяржава, тут прымаюць рашэньні на падставе законаў тыя ўстановы, якія павінны гэтым займацца, і прэзыдэнт ня мае права ўмешвацца ў іх дзейнасьць.

Пазьняк быў перакананы, што ліст дойдзе, што трэба толькі прывесьці важкія аргумэнты. Ён напісаў ліст ад свайго імя, прыгадаў сустрэчу ў Курапатах у 1994-м, патлумачыў, што рашэньне аб




Зянон Пазьняк, Вітаўт Кіпель і Антось Шукелойць у друкарні на Мангэтане ў часе падрыхтоўкі чарговага нумару газэты «Беларус»

палітычным прытулку будзе ўплываць ня толькі на наш лёс, але і на лёс беларускай дэмакратыі і незалежнасьці.

Ліста ад Клінтана мы не атрымалі. Але атрымалі адказ.

## Краіна мяняе статус

З паведамленьня агенцтва Associated Press:

*У пятніцу 23 жніўня Злучаныя Штаты Амэрыкі далі палітычны прытулак двум апазыцыйным лідэрам зь Беларусі, лідэру БНФ Зянону Пазьняку і прэсаваму сакратару Фронту Сяргею Навумчыку. Прэсавы сакратар службы эміграцыі і натуралізацыі адмовіўся ад камэнтароў, заявіўшы, што ў такіх выпадках падрабязнасьці разгляду пытаньня не паведамляюцца. Пазьняк працяглы час зьяўляецца найбольш прыкметнай апазыцыйнай*



Зь Янкам Ханенкам, Вітаўтам Кіпелем і Полам Васілеўскім у вашынгтонскім офісе эміграцыйнай службы. Толькі што атрымалі дакумэнты аб наданьні нам палітычнага прытулку.

*фігурай у Беларусі. Дзеячы апазыцыі былі вымушаныя пакінуць радзіму ў выніку перасьледу з боку рэжыму прэзыдэнта Лукашэнкі, які праводзіць антыбеларускую палітыку, закрывае нацыянальныя школы і заціскае свабоду прэсы. Лукашэнка таксама жорстка душыць антыўрадавыя дэманстрацыі і арыштоўвае іх удзельнікаў.*

Адзначу, што пра антыбеларускую палітыку і закрыцьцё нацыянальных школаў у заходніх СМІ такога ўзроўню было сказана як пра факт упершыню.

Пра рашэньне мы даведаліся ў Вашынгтоне, у офісе эміграцыйнай службы, куды прыехалі разам зь Вітаўтам Кіпелем, а таксама Янкам Ханенкам і Полам Васілеўскім — прадстаўнікамі беларускай дыяспары ў Кліўлэндзе.

У той момант нашыя сем'і знаходзіліся па-за межамі Беларусі.

У вялікай залі для наведнікаў мы былі адны.

Перад тым, як нам уручылі афіцыйныя паперы, Вітаўт Кіпель пагаварыў з супрацоўнікам службы эміграцыі, які паведаміў яму нешта для нас зусім нечаканае.

Зянон Пазьняк:

*Стала вядома, што павіншаваць нас з азылем быццам бы зьбіраецца віцэ-прэзыдэнт Ал Гор (дэмакрат). Але, каб гэтага не адбылося, антаганісты з Рэспубліканскай партыі, якія не сымпатызавалі Гору, зрабілі так, што дакумэнты нам уручылі 23 жніўня, калі ў Службе эміграцыі быў выходны, і для гэтага адчынілі вашынгтонскі офіс іміграцыйнай службы ў неналежны дзень. Дзіўная краіна Амэрыка.*

Пасьля наведаньня цэнтральнага офісу службы эміграцыі мы паехалі ў будынак Кангрэсу, на прэсавую канфэрэнцыю. Я адразу патэлефанаваў жонцы ў Прагу і бацькам у Віцебск, паведаміўшы навіну. Зваліўся цяжар нявызначанасьці і чаканьня. Пазьняк успрыняў паведамленьне, як мне здалося, безь якіх-небудзь эмоцыяў, зазначыўшы, што гэта толькі працяг палітычнай дзейнасьці і пачатак працы ў новых умовах:

*Гэта была рэальная палітычная перамога. Беларускае пытаньне ўдалося стабільна вывесьці на міжнародны ўзровень, прыцягнуць увагу да падзеяў. Дачыненьні да рэжыму ў Беларусі выразна акрэсьліліся, за ім назіралі, заўважалі яго аўтарытарнасьць і недэмакратычнасьць, несправядлівасьць у дачыненьні да людзей. Інфармацыя пра наш*



З кангрэсмэнам Мартынам Гоўкам перад пачаткам прэсавай канфэрэнцыі

*азыль зноў стала ў першым шэрагу міжнародных паведамленьняў.*

*Пазьней мне перадалі, што Лукашэнка, даведаўшыся пра азыль, узбудзіўся і страціў раўнавагу. Ён скочыў за руль аўтамабіля і, кінуўшы ахову, пагнаў у накірунку Шклова. Ахова быццам бы потым шукала і даганяла яго.*

З інтэрвію Васіля Быкава рэдактару расейскай службы Радыё Свабода Пятру Вайлю, 23 жніўня 1996 году:

Вайль: *Мы папрасілі пракамэнтаваць наданьне палітычнага прытулку Зянону Пазьняку і Сяргею Навумчыку вядомага беларускага пісьменьніка Васіля Быкава. Зь якім пачуцьцём вы ўспрынялі навіну з Вашынгтону?*

Быкаў: *Найперш з пачуцьцём вялізнай удзячнасьці ўраду Злучаных Штатаў за тое, што ён,*

*верны традыцыям дэмакратыі, дае магчымасьць для фізычнага існаваньня тым дэмакратам, якія ня могуць знайсьці сабе гарантыяў такога існаваньня ў іншым сьвеце.*

Вайль: *Ёсьць распаўсюджаны пункт гледжаньня, што змагацца трэба ўнутры рэжыму, а не па-за межамі. Якая ваша думка?*

Быкаў: *Яны апынуліся ў стане патэнцыйнай ахвяры, таму няўжо ж можна меркаваць, каб яны ахвяравалі ўласнымі жыцьцямі ў імя нейкіх палітычных раскладак? У нас ствараецца такі рэжым, калі гаворка ідзе ня толькі пра свабоду чалавека, а пра асабістае існаваньне. Менавіта Пазьняк і Навумчык страцілі такую гарантыю, апынуліся ў сытуацыі перасьледу.*

Вайль: *Палітычны прытулак лідэрам беларускай апазыцыі — ускосны, але несумненны знак таго, што ў вачах міжнароднай супольнасьці ў Беларусі несвабодны, аўтарытарны рэжым...*

Быкаў: *Па-мойму, гэта ўжо бачна ўсяму сьвету.*

Праз некалькі месяцаў, 3 сьнежня 1996-га, адразу пасьля лістападаўскага рэфэрэндуму, Лукашэнка заявіць карэспандэнту The Wall Srteet Journal Europe Джону Лафлэнду, што Пазьняк і Навумчык могуць свабодна вярнуцца ў Беларусь. «Але ён дадаў непатрэбнае (і крыху злавеснае) папярэджаньне, што ім давядзецца падпарадкавацца законам краіны», — зазначыў карэспандэнт WSJE.

Магчыма, Лукашэнка меў на ўвазе Крымінальны кодэкс?

Рашэньне амэрыканскіх уладаў ускалыхнула і беларускую дыяспару ў ЗША. Вось як ацэньвалі яны гэта праз год на хвалях Радыё Свабода:

Прафэсар Нью-Ёрскага ўнівэрсытэту Ала Орса-Рамана: *Раптам амэрыканскія палітыкі, газэты зьвярнулі вельмі вялікую ўвагу на тое, што робіцца ў Беларусі. Цяпер усе амэрыканскія ўстановы вельмі выразна разумеюць, што ідзе працэс страты вольнасьцяў ня толькі індывідуальных, але і нацыянальных вольнасьцяў.*

Дырэктар Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку Вітаўт Кіпель: *Які палітычны вынік быў з факту прызнаньня, як гэта паўплывала на адносіны ЗША да Беларусі? Умацоўваецца дыктатура, Беларусь прадаецца, ці мо на эміграцыі ўжываецца тэрмін — аддаецца Расеі. За нішто. Пазьняк і Навумчык засяродзілі грамадзка-палітычную думку ЗША, гэтаксама як і ўсясьветнага грамадзтва, заходняга грамадзтва, бо яны мелі дзясяткі інтэрвію, на іх просьбу і жаданьне была скліканая адмысловая сэсія слуханьняў у Вашынгтоне, спэцыяльная канфэрэнцыя ў фундацыі Карнэгі, — і яны праінфармавалі аб сапраўдным стане, і выказалі пэўныя нават прагнозы, што будзе адбывацца, якімі мэтадамі пачне ўваходзіць у сілу старая расейская адміністрацыя.*

Палітоляг Янка Запруднік*: Па-першае, выезд на Захад і просьба палітычнага прытулку ў ЗША драматызавалі перад вонкавым сьветам тое змаганьне за нацыянальныя правы і за правы чалавека, якое адбываецца на Беларусі. Прыезд у Амэрыку быў свайго роду пацьверджаньнем таго, пра што палітычна дзейнае беларуска-амэрыканскае грамадзтва ўвесь час цьвердзіла: на Беларусі ўрад душыць свабоду, нішчыць нацыянальную культуру, цягне Беларусь назад, у пятлю залежнасьці ад імпэрскае Масквы. Па-другое, прызнаньне амэрыканскім ура-*



НАША НІВА

КУЛЬТУРА, ПАЛІТЫКА

ТЭЛЕПРАГРАМА

БІРЖА ПРАЦЫ

Краіна мяняе статус

Чырвоны тэрор

За кожнага камуніста — 1000 закладнікаў

Рэдакцыйны артыкул у «Нашай ніве»

*дам палітычнага азылю Зянону Пазьняку і Сяргею Навумчыку стварыла прэцэдэнт для прызнаньня палітычнага прытулку іншым асобам зь Беларусі, якія таксама сталі перад пагрозай перасьледу за іхнія перакананьні. Ну і па-трэцяе, заходні друк у выніку вось гэтай палітычнай драмы, людзкой драмы, пачаў больш увагі зьвяртаць на падзеі ў Беларусі, асэнсоўваць іх і паказваць на тую небясьпеку з усходу, якая пагражае ня толькі Беларусі, але Цэнтральнай, ды й Заходняй Эўропе.*

У рэдакцыйным артыкуле «Краіна мяняе статус» «Наша ніва» пісала:

*Пазьняк і Навумчык выканалі сваю палітычную місію. Аўтарытарны антыбеларускі рэжым РБ названы сваім імём на самым высокім узроўні. Побач з гэтым вынікам развагі пра тое, што лідэр апазыцыі пакінуў сваю краіну, ратуе сваё жыцьцё або «збанкрутаваў», гучаць як палітыканства або блеф.*

*Пазьняк выехаў, але і мы ўсе не засталіся на месцы. Мы пераехалі ў іншую эпоху, народжаную хво-*

*рай настальгіяй па таталітарным СССР. І сьвет прызнаў гэта.*

*Беларускі шлях да незалежнасьці атрымаўся не праз дэмакратызм, розум і вернасьць нацыянальным традыцыям, а праз звыродлівасьць рэжыму, якому цяпер ніхто не захоча падаць руку. Захаду сябраваць з РБ будзе брыдка, Усходу — нявыгадна. На пабытовым узроўні сьвет будзе асацыяваць з А. Лукашэнкам кожнага з нас, беларусаў. Мы становімся сувэрэннымі дэ факта, і ўся праблема толькі ў тым, як хутка нам надакучыць чырванець ад сораму.*

І яшчэ адна цытата — зь ліста ў Віцебск да родных:

*Самыя моцныя страхі ўжо ззаду. Вядома, мы ішлі на вялікую рызыку — калі б рашэньне амэрыканскіх уладаў было адмоўным, дык гэта азначала б палітычную сьмерць, ды і маральны ўдар, а так — афіцыйны Менск з гэтага моманту вымушаны апраўдвацца. Дыяспара ацэньвае (і ня толькі яна) атрыманы вынік як вялікую перамогу* (28 жніўня 1996).

Мы, аднак, сваю місію лічылі незавершанай.

## Расказваем амэрыканскім беларусам пра Беларусь

Так атрымалася, што адразу пасьля станоўчага рашэньня адміністрацыі ЗША пра палітычны прытулак нам ізноў давялося ехаць у Кліўлэнд, дзе праходзіў чарговы зьезд беларусаў Паўночнай Амэрыкі. На зьезд амэрыканскія беларусы запрасілі

і Ўладзю Арлова — у Нью-Ёрку ён пасяліўся з намі ў кватэры Андрусышыных.

І ў Кліўлэндзе — сюрпрыз: сустрэча з Дэйвідам Сўорцам, першым амбасадарам ЗША ў Беларусі.

У свой час, адразу пасьля візыту Клінтана ў Менск, мы былі зьдзіўленыя ад'ездам Сўорца зь Беларусі, бо візыт прэзыдэнта ў краіну знаходжаньня (тым больш калі гэта новаўтвораная краіна) лічыцца ў дыпляматычнай кар'еры вялікім плюсам.

Цяпер Сўорц патлумачыў нам прычыну сваёй адстаўкі.

Аказалася, адстаўка была добраахвотная — у знак пратэсту супраць палітыкі адміністрацыі ЗША, якая заняла недастаткова цьвёрдую пазыцыю ў дачыненьні да пракамуністычнага ўраду Кебіча і вельмі слаба падтрымлівала дэмакратычныя сілы ў Беларусі. Сўорц справядліва лічыў, што рашэньне аб вывадзе ядзернай зброі, якое прыняў Вярхоўны Савет пад кіраўніцтвам Шушкевіча, мусіла быць аддзячанае куды большай падтрымкай таму ж Шушкевічу, дэмакратычным сілам і ўвогуле Беларусі, чым гэта зрабіў Вашынгтон.

Апошнія гады спадар Сўорц выкладаў у дыпляматычнай акадэміі ў Вашынгтоне (дзе пазьней на ягонае запрашэньне мы з Пазьняком мелі лекцыю), і сачыў за падзеямі ў Беларусі. Спадар Сўорц падтрымліваў сувязі і зь беларускай дыяспарай у ЗША, пазьней стварыў сумесна з прафэсарам Паўлінай Сурвілай Цэнтар беларускіх дасьледаваньняў ва ўнівэрсытэце ва Ўічыце (штат Канзас). Ён абгрунтаваў неабходнасьць падтрымкі ўрадам ЗША Рады БНР і яе старшыні Івонкі Сурвілы як легітымнай прадстаўніцы беларускага народу і зьвярнуўся



Са старшынём Рады БНР Язэпам Сажычам

ў Дзярждэпартамэнт — але амэрыканская адміністрацыя ўстрымалася.

Было прыемна спаткацца ў Кліўлэндзе з былым старшынём Рады БНР Язэпам Сажычам і ягоным намесьнікам Барысам Рагулем, зь мітрапалітам Беларускай аўтакефальнай царквы Мікалаем. На жаль, гэтым разам не прыехала ў Кліўлэнд Натальля Арсеньнева — выдатная паэтка, аўтарка гімну «Магутны Божа». Захварэла.

Сам зьезд праходзіў у культурніцкім цэнтры «Полацак», у даволі вялікім будынку, на які ў свой



Гутарка з амэрыканскімі беларусамі

час сабралі грошы мясцовыя беларусы. Праз некалькі гадоў там будзе ўзьведзеная і царква, якую ў выніку розных міжканфэсійных спрэчак беларусы страцяць. Але тое будзе пазьней.

А цяпер я пазнаёміўся зь дзясяткамі людзей з розных куткоў Паўночнай Амэрыкі. Ізноў — выступы і расповеды пра тое, што дзеецца ў Беларусі. Штосьці ўжо даводзілася паўтараць соты раз. Але ж людзі хацелі пачуць зь першых вуснаў і выказаць уласную думку. Хаця і меркаваньні не былі арыгінальнымі (а якая яшчэ магла быць ацэнка падзеяў у Беларусі?).

Гэта нагадала мне нашыя бясконцыя дэпутацкія паездкі па раёнах ды вёсках, сустрэчы ў клюбах, тлумачэньне фронтаўскай палітыкі і сутнасьці лукашэнкаўскага рэжыму. Хаця тут была Амэрыка, пытаньні часам былі гэткія ж наіўныя, як у той бабулі ў вёсцы Вязынь на Вялейшчыне, якая ў нас,

дэпутатаў БНФ, запыталася, за што мы адправілі ў адстаўку Хрушчова. Разумею, што наіўнасьць гэтая тлумачылася шчырасьцю амэрыканцаў (за пяць дзесяцігодзьдзяў беларусы, зразумела, зрабіліся амэрыканцамі), неразуменьнем таго, як гэта можа прэзыдэнт імкнуцца зьнішчыць краіну. Абгрунтаваная наіўнасьць. Што праўда, у беларускіх вёсках клопату пра незалежнасьць дзяржавы мы амаль не адчувалі, пыталіся там пераважна пра цэны і пэнсіі.

Некалькі гадзінаў я праседзеў за падшыўкамі газэтаў зь Беларусі, праглядаючы нумары за апошнія месяцы, бо да нас з Пазьняком даходзіла ня ўсё.

Вярнуліся мы ў Нью-Ёрк ужо ў першыя дні верасьня. Разам з Уладзем Арловым прайшлі дзясяткі кілямэтраў па Мангэтане, размаўляючы пераважна пра Беларусь.

Антось Шукелойць завёў нас у бар McSorley's Old Ale House, у Іст-Вілідж, непадалёку ад нашага дому. Уладзя ў гэтым бары ўжо быў у мінулы свой прыезд і нават напісаў пра яго ў эсэ «Божая кароўка на Пятай авэню». Гэта ня самы стары нью-ёрскі бар, але з моманту адкрыцьця ў 1854 годзе ён ніколі не закрываўся і нават у гады «сухога закону» цішком варыў эль.

Ужо значна пазьней я даведаўся, што адна са сцэнаў кінастужкі «Аднойчы ў Амэрыцы» (першага фільму, на які я павёў будучую жонку адразу пасьля знаёмства, паказвалі яго ў менскім кінатэатры «Кастрычнік»), здымалася тут. Старыя фотапартрэты і газэтныя выразкі на сьценах, круглыя невялікія сталы з грубых дошак, пілавіньне на драўлянай падлозе. Бар модны, людзі сядзяць шчыльна, сьпіна да сьпіны.



З Уладзімерам Арловым. Ягоная кніга «Фаўна сноў» падарожнічала са мной увесь 1996-ы

Нехта за мной, за суседнім столікам, устаючы, сваім крэслам пасунуў маё — «Экск’юз мі!» Калі гэты высокі хлопец майго ўзросту з кампаніяй пайшоў з бару, наведнікі глядзелі яму ўсьлед. То быў Джон Кенэдзі-малодшы — сын забітага прэзы-

дэнта, які на пахаваньні бацькі прыклаў, як вайсковец, далонь да скроні — фатаздымак трохгадовага сіраты прымусіў сьвет скалануцца ня менш, чым вестка пра стрэл у Даласе. Праз тры гады Кенэдзі-малодшы загіне за штурвалам лёгкага самалёта на ўзьбярэжжы пад Нью-Ёркам.

Аднойчы ў кітайскім квартале на Канал-стрыт мы з Уладзем купілі двух лобстэраў і вустрыцы, спадзеючыся зьесьці іх зь півам, як беларускіх ракаў. Піва адкаркавалі, а вось панцыр прабіць нам удалося, толькі адшукаўшы малаток. А вустрыцы раскрывалі адвёрткай. Гэтая вячэра, якая зацягнулася надоўга, потым дасьць інтрыгуючы назоў ягонаму эсэ «Вустрыцы а пятай раніцы» (тое, што час пазначаны менскі, аўтар прадбачліва схавае ў тэксьце).

Ня трапіў у эсэ эпізод, як Пазьняк іранічна сачыў за гэтымі нашымі маніпуляцыямі. Але калі мы пайшлі на пятую ці шостую пляшку піва, Пазьняк нагадаў мне, што заўтра рана ўставаць, бо ў Менску будзе ўжо дзень. Чакаюць палітычныя справы.

Некалькі дзён, праведзеных Уладзем у гарах на леціпічы Андрусышыных, дазволілі яму адпачыць ад тлумнага Нью-Ёрку: «Хвоі, дробны, але непалахлівы амэрыканскі зайчык у траве за дзесяць крокаў ад дому, вялікая клюмба і падобныя на нашых хрушчоў калібры над белымі, крэмавымі і ружовымі кветкамі духмянае табакі. Памяць дапоўніць гэтую вартую пэндзьля Анры Русо ідылію ўсяго адной адсутнай дэталльлю — сьвежым нумарам The New York Times з рэдакцыйным артыкулам „The Tyrant of Belarus“».

## The New York Times называе кіраўніка Беларусі тыранам

Рэдакцыйныя артыкулы маюць асаблівую вагу. Загаловак «Тыран Беларусі» на газэтнай паласе ўражваў антычнай вагой.

*Беларусь — краіна, праклятая геаграфіяй і гісторыяй. Цягам стагодзьдзяў на яе нападалі Расея, Літва, Польшча, яна ледзь зьберагла ўласную мову і пачуцьцё нацыянальнай ідэнтычнасьці. Цяпер, пасьля таго, як менш чым пяць гадоў таму яна вызвалілася ад Савецкага Саюзу, Беларусь хутка адступае назад да тыраніі пад сваім аўтарытарным лідэрам Аляксандрам Лукашэнкам.*

*Агоніі Беларусі рэдка калі прыцягваюць увагу сусьветных палітыкаў. Гэта памылка. Беларусь знаходзіцца паміж Расеяй і Польшчай і мае супольныя межы зь Літвой, Латвіяй і Ўкраінай. Яна ляжыць геаграфічна дакладна там, дзе напружанасьці паміж Усходам і Захадам могуць узьнікнуць ізноў, калі Расея ня здолее завяршыць пераход да стабільнай дэмакратыі. Гэта хвалюе — глядзець, як магчымасьць палітычных і эканамічных рэформаў хутка марнее у адной з новых незалежных краінаў, народжаных дэзынтэграцыяй Савецкага Саюзу ў 1991-м.*

*Лукашэнка, які ў савецкую эру быў кіраўніком саўгасу, быў абраны прэзыдэнтам Беларусі ў 1994-м. У славянскай краіне з 10-мільённым насельніцтвам, якая мае з Расеяй шмат агульнага ў гісторыі і культуры, ён далёка не адзіны, хто жадае ўзнавіць як мага блізкія сувязі з Масквой і зноў далучыць беларускую індустрыю, якая распадаецца, да расейскай эканомікі. Савецкі Саюз*

*доўга падтрымліваў беларускія заводы субсыдыямі і таннымі рэсурсамі. Раней сёлета дзьве краіны пагадзіліся на шчыльнае супрацоўніцтва.*

*Але недэмакратычны стыль кіраўніцтва Лукашэнкі агідны. Летась войскі Міністэрства ўнутраных спраў разагналі парлямэнцкі пратэст супраць ягонага аўтарытарнага кіраваньня, пры гэтым пабілі 18 парлямэнтароў (*насамрэч 19. — С.Н.*). Лукашэнка садзіць у турму палітычных апанэнтаў, закрыў незалежныя газэты, узнавіў розныя забароны савецкага часу на выезд за мяжу.*

*Баючыся зьняволеньня альбо горшага ў гэтай новай паліцэйскай дзяржаве, два апазыцыйныя палітычныя лідэры нядаўна папрасілі палітычнага прытулку ў Злучаных Штатах. Вашынгтон адразу задаволіў просьбу аб бясьпецы гэтых двух чалавек, Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка, зафіксаваўшы непрыманьне Злучанымі Штатамі рэпрэсіўнай палітыкі Лукашэнкі.*

*Лукашэнка таксама зварочвае эканамічныя рэформы, распачатыя ў першыя месяцы беларускай незалежнасьці. Ён замарозіў урадавую прыватызацыйную праграму і наклаў на банкі строгі ўрадавы кантроль, увесь час пагражае іх нацыяналізаваць.*

*Такія крокі могуць толькі яшчэ больш дэстабілізаваць эканоміку, якая летась ужо зьменшылася на 10 працэнтаў і пакінула шмат якіх беларусаў у жабрацтве. Тыя льготы па пазыках і эканамічная дапамога, якія Лукашэнка марыць дастаць ад Расеі, напэўна, ніколі не матэрыялізуюцца. Міжнародны валютны фонд, заклапочаны такім разьвіцьцём падзеяў, слушна вырашыў адкласьці крэдыт у 300 мільёнаў даляраў.*

*Відаць, занадта будзе спадзявацца, што Ельцын і ягоныя калегі будуць ціснуць на Лукашэнку, каб ён зьмяніў свае паводзіны, але Злучаныя Штаты і дэмакратычныя краіны Эўропы мусяць вельмі ясна выказаць яму сваю занепакоенасьць. Уздым новай дыктатуры ў цэнтры Эўропы нельга ігнараваць».*

Такі рэдакцыйны артыкул, ды яшчэ ў самай уплывовай газэце сьвету, пацьвердзіў стаўленьне да рэжыму ў Менску.

І стаўленьне гэтае стварала надзвычай спрыяльны міжнародны кантэкст для апанэнтаў Лукашэнкі ў Беларусі, чым, мы спадзяваліся, яны, найперш дэпутаты Вярхоўнага Савету, скарыстаюцца.

## Праводзім брыфінг у Кангрэсе ЗША

У газэтах, якія прывёз з сабой Уладзя Арлоў, а таксама ў тых выразках, якія рэгулярна дасылаў мне бацька ў Нью-Ёрк, усё больш інфармацыі зьяўлялася пра скасаваньне беларускіх клясаў. Пра выкіданьне з выдавецкіх плянаў гістарычнай літаратуры расказаў нам сам Уладзя.

Працэс гэты, аднак, для дэмакратычных партыяў (акрамя БНФ) нібыта і не існаваў. Як ні дзіўна, але і большасьць эўрапейскіх палітыкаў, зь якімі даводзілася спатыкацца ў першыя месяцы эміграцыі, не зважалі на нашую ўстрывожанасьць тым, што мы называлі мэтанакіраваным зьнішчэньнем беларускай нацыі. Ці то не маглі паверыць у рэальнасьць існаваньня нацыянальнага перасьледу, ці — і гэта хутчэй за ўсё — лічылі акцэнтаваньне ўвагі на гэтай тэме «праявай нацыяналізму».

У тыя дні я заўважыў, што такі падыход — ігнараваньне нацыянальных правоў — характэрны і для некаторых амэрыканскіх палітыкаў, і ў большай ступені — для праваабарончых арганізацыяў.

Вядома, афіцыйна ўрад ЗША падтрымлівае захаваньне нацыянальных традыцыяў у амэрыканскіх нацыянальных асяродках. Гэтыя традыцыі нават культывуюцца — праводзяцца розныя фэстывалі, выдаюцца часопісы. Але ў дачыненьні да іншых краінаў урад практычна не акцэнтаваў увагі на нацыянальным аспэкце, гаворачы звычайна пра «агульначалавечыя» правы. Гэтак жа рабілі, па нашых назіраньнях, і праваабарончыя арганізацыі, якія фінансаваліся ў тым ліку і зь бюджэту ЗША. Арганізацыі гэтыя, у сваю чаргу, дапамагалі фінансава праваабарончым структурам у замежжы (і ў Беларусі), і таму ня дзіўна, што тэма нацыянальнай дыскрымінацыі калі і гучала ў выступах беларускіх праваабаронцаў, дык вельмі прыглушана.

Мы з Пазьняком разумелі, наколькі важна прыцягнуць увагу ЗША да беларускай нацыянальнай праблемы, хоць адначасна ўсьведамлялі ўсю складанасьць гэтай працы, якая мусіла заняць гады.

А пачаткам стаў брыфінг у Кангрэсе ЗША. Успамінае Зянон Пазьняк:

*Мы сталі дамагацца слуханьняў у Кангрэсе ЗША аб палітычных праблемах Беларусі. Слуханьні прадугледжваюць доўгі парлямэнцкі працэс, з мноствам дакладаў, працай камісіяў і гэтак далей. Нам прапанавалі правесьці аднадзённае слуханьне па акрэсьленай тэме (так званы hearing).*

*Для амэрыканскай прэсы мы зрабілі адмысловую заяву «Пра нацыянальную дыскрымінацыю беларусаў»:*

*«З прыходам да ўлады Лукашэнкі пачалася халодная вайна супраць усяго беларускага. Ідзе ўнутраная акупацыя Беларусі Расеяй. Пачаўся перасьлед беларусаў за этнічныя нацыянальныя перакананьні, за размову на беларускай мове, за дэманстрацыю нацыянальнага бел-чырвона-белага сьцяга і нацыянальнага герба „Пагоня“, за імкненьне вучыць дзяцей па-беларуску. Паводле распараджэньня Лукашэнкі зьнішчаныя школьныя падручнікі на беларускай мове, ліквідавана большасьць беларускіх школаў (і ліквідацыя працягваецца), зьнішчаюцца беларускія энцыкляпэдычныя выданьні, закрываецца беларуская пэрыёдыка, прымаюцца захады па ліквідацыі беларускіх гуманітарных навукова-дасьледчых інстытутаў. Лукашэнка сьвядома расколвае беларускае грамадзтва па канфэсійнай прыкмеце».*

Што для нас было абсалютна нечаканым — дык гэта тое, што заля ў будынку Кангрэсу ЗША, дзе адбываўся брыфінг, была перапоўненая людзьмі. Крэслаў не хапала, і некаторыя былі вымушаныя стаяць. Потым мы даведаліся, што былі ў залі і два супрацоўнікі беларускай амбасады, але ніяк сваёй прысутнасьці ня праявілі.

Зянон Пазьняк:

*Пытаньні, якія задавалі прысутныя, іх выступы былі канкрэтныя, з добрым веданьнем сутнасьці справы і сытуацыі ў Беларусі. «Нарэшце лёд крануўся», — падумалі мы, убачыўшы гэтулькі людзей, якія прафэсійна цікавіліся беларускай палітыкай. На добрым узроўні валоданьня тэмай выступілі таксама Джэк Сыгал зь Дзяржздэпартамэнту ЗША, прадстаўнікі камісіяў і камітэтаў абедзьвюх палатаў Кангрэсу, аналітыкі і палітолягі. Ад бе-*



Выступ Пазьняка на брыфінгу ў Кангрэсе ЗША

*ларусаў выступалі яшчэ Янка Запруднік і Вітаўт Кіпель. Першае слуханьне з удзелам новай эміграцыі беларускага нацыянальна-вызвольнага руху паказала, што паварот Амэрыкі на падтрымку сувэрэнітэту і дэмакратыі ў Беларусі і крытычная ацэнка рэжыму Лукашэнкі выразна вызначыліся ў беларускай палітыцы.*

Адразу пасьля брыфінгу ў Кангрэсе ЗША мы адчулі, што беларуская праблематыка зацікавіла амэрыканскіх палітолягаў ды праваабаронцаў. У канцы кастрычніка мы былі запрошаныя ў нью-ёрскі філіял праваабарончай арганізацыі Human Rights Watch.

Да гэтага часу мы ўжо прааналізавалі праект зьменаў у Канстытуцыю, якія Лукашэнка прапанаваў вынесьці на рэфэрэндум. Выглядала, што пасьля яе прыняцьця дыктатура на Беларусі магла замацавацца — трывала і вельмі надоўга. Пра гэта мы і расказалі на канфэрэнцыі ў Human Rights Watch, якая была цалкам прысьвечаная падзеям на Беларусі.

І зноў Зянон Пазьняк:

*Калі мы прачыталі гэты праект, то адразу ўбачылі, што маем. Гэта быў праект дыктатуры. Праз нейкі час да нас зьвярнуўся Анці Коркэаківі — адзін з кіраўнікоў уплывовай арганізацыі «Камітэт амэрыканскіх адвакатаў па абароне правоў чалавека». Ён паведаміў, што арганізацыя рыхтуе экспэртнае заключэньне аб праекце лукашэнкаўска-абрамовіцкага твора — «новай канстытуцыі Беларусі» — і папрасіў нас таксама зрабіць свой экспэртны аналіз праекту, афіцыйна пацьвердзіўшы просьбу лістом. Неўзабаве мы зрабілі прававы аналіз тэксту і адаслалі сваё заключэньне ў Камітэт адвакатаў. Пазьней Анці нам прыслаў сумарную экспэртызу Камітэту на ангельскай і расейскай мовах, падзякаваў і паведаміў, што многія нашыя высновы і палажэньні ўключаныя ў тэкст гэтага дакумэнту, які яны падрыхтавалі для Рады Эўропы.*

*Мы паспрабавалі надрукаваць наш аналіз праекту ў Беларусі (у вялікіх газэтах), але з гэтага нічога не атрымалася. Не хацелі друкаваць. Нешта ім перашкаджала.*

Хутчэй — хтосьці.

## Колькі трэба трываць

Ёсьць у Беларусі голас, які можа сказаць пра чалавека і яго выбар такое, чаго сам ён сабе не скажа.

*5 кастр. 1996.*

*Дарагія нашы выгнаньнікі, Зянон і Сяропжа!*

*Атрымаў вашыя мала вясёлыя лісты, дзякуй вам за памяць і ўвагу. Вашае «экзыльства» тут, вядома, нарабіла шуму, але, здаецца, ужо ўсе памалу паспакайнелі, зразумеўшы, што зрабілі вы правільна. Хоць і змушана. Бо тут магчымасьці змагацца за Беларусь усё болей звужаюцца; можа, там зьявяцца якія іншыя. А тут хлопцы будуць працягваць ранейшымі спосабамі, хаця, канешне, і тыя лягчэйшымі ня робяцца. Робяцца труднейшымі. Ды што рабіць? Усё тая неадэкватнасьць дэмакратычных сродкаў таталітарнаму рэжыму, які ўсё болей у нас усталёўваецца.*

*Разумею, як вам несалодка там, але хачу, каб вы зразумелі, што людзям такога кшталту салодка ня будзе нідзе. Мусіць, каб адчуць слодыч (душэўную), трэба нарадзіцца іншымі, якімі вы не нарадзіліся. Значыць, трэба неяк адаптавацца і памятаць, што жыцьцё (і гісторыя) надта парадаксальныя, за чорнай паласой наступае сьветлая, — часам без усялякай бачнай прычыны. Паводле Боскае волі. Праўда, на беспрычыннасьць цяжка спадзявацца, але калі іншага не выпадае...*

*Я вельмі адчуваю вашую эўрапейскую мэнтальнасьць і разумею імкненьне ў Эўропу (чыста псыхалягічнае прыцягненьне да яе). Сам некалі зьведаў, жывучы ў Азіі. А калі да гэтага прымешваюцца яшчэ і прагматычныя ці палітычныя прычыны... А яшчэ — покліч Радзімы, Беларусі... Але як-небудзь.*

*Трэ, мусіць, запасьціся трываньнем і ператрываць. Хаця, канешне, колькі трываць? А чалавечае жыцьцё такое абмежаванае ў часе. Во яна — праклятая экзыстэнцыяльная праблема.*

*Наконт кангрэсу «ПЭН-клюбу» хачу паведаміць, што прайшоў ён даволі трывіяльна. Былі прамовы, неблагія выступленьні. Але ў канцы не абышлося безь нечаканкі — гэта калі мы прапанавалі рэзалюцыю, якая асуджала прэзыдэнцкую дыктатуру ў Беларусі. Першы супраць яе выступіў паляк, затым швэд і латыш. Матыў адзін: «ПЭН» не павінен умешвацца ва ўнутраныя справы краіны. Давялося перапісваць рэзалюцыю... Учора было паседжаньне Хэльсынскага камітэта, вызвалілі Лявона ад сустаршынёўства ў ім. Лявон пра тое прасіў. Хаця я яму перадаваў вашу, Зянон, просьбу заставацца ў Хэльсынскім, але, мусіць, яму сапраўды было цяжкавата. Усё ж ён у БНФ рупіцца...*

*Я коратка распавёў сходу пра новыя магчымасьці, якія адкрываюцца ў сувязі з нашым прадстаўніцтвам на Захадзе ў асобах З. Пазьняка і С. Навумчыка. Здаецца, пагадзіліся.*

*Вось такія коратка нашыя навіны.*

*Вялікі дзякуй за фота, надта добра атрымалася, прыгожа пры добрай кампазыцыі. Толькі выраз твараў пэрсанажаў ня дужа вясёлы. Але што ж... Усё зразумела. Ды не гаруйце дужа, усё неяк пераменіцца. Павінна перамяніцца па волі Госпада.*

*Абдымаю абодвух.*

*Рыгор таксама.*

*Ваш Васіль Быкаў.*

Да гэтага ліста дадам хіба толькі тое тлумачэньне, што Лявон — гэта Баршчэўскі, Рыгор — гэта Барадулін, а фатаздымак, пра які згадаў Васіль Бы-

каў, быў зроблены на трасе зь Нью-Ёрку ў Кліўлэнд, калі мы спыніліся ў маляўнічым месцы — з аднаго боку абрыў, з другога горы — і сфатаграфаваліся. Здымак (тут ён на старонцы 323) быў не буйным плянам, большае месца займаў пэйзаж, але ж вось Васіль Уладзімеравіч неяк разгледзеў і выраз твараў...

Перад тым, як прывесьці тэкст ліста Быкава, я напісаў пра яго ў цяперашнім часе — і ён сапраўды ў шэрагу тых бесьсьмяротных, пра якіх мы гаворым, як пра жывых: «Талстой гаворыць», «Купала піша», «Караткевіч зазначае»... Быкаў размаўляе з намі ўсімі сваімі творамі і думкамі. Трэба толькі пачуць.

## Ці можа камуніст ператварыцца ў нацыяналіста

«Ну што, Роза, ці ты чула, што NATO пасьля Югаславіі будзе бамбіць Беларусь? А Сяргей твой, пэўна ж, у першым самалёце паляціць — паказваць, куды бомбы скідаць!»

Гэта аднавяскоўка сказала маёй маці, якая прыехала на могілкі да бацькоў на Радаўніцу ў Сідаравічы, што пад Магілёвам, ужо празь некалькі гадоў пасьля нашай эміграцыі. «Людзі цёмныя, як піўныя шклянкі», — напісала мне маці ў лісьце, ацэньваючы стаўленьне некаторых знаёмых да нас з Пазьняком, да БНФ і да палітычнай сытуацыі ўвогуле.

Зразумела, у сьвядомасьці людзей твае палітычныя дзеяньні (тая ж эміграцыя) пераносяцца і на сваякоў — мае бацькі і сястра Сьвятлана адчувалі гэта яшчэ ў папярэднія гады, ну а калі на нас абры-

нулася лукашэнкаўская прапаганда, дык спазналі ў поўнай меры.

Ацэнкі нашай з Пазьняком эміграцыі маім бацькам і родным летам 96-га давялося выслухоўваць ледзь не штодня.

Асабліва цікавіліся стаўленьнем бацькі, ведаючы ягоную біяграфію.

Ён да жніўня 1991 году быў спачатку на камсамольскай, а потым на партыйнай рабоце (апошняя пасада — сакратар Віцебскага абкаму), і для яго калегаў нашыя палітычныя разнагалосьсі ў канцы 80-х — пачатку 90-х не былі сакрэтам.

Мая служба ў войску пасьля завяршэньня ўнівэрсытэту супала зь ягонай паўтарагадовай службовай выправай у Аўганістан, дзе ён быў партыйным дарадцам.

Калі я вярнуўся і пачаў працу ў абласной газэце, ён і маці яшчэ некалькі месяцаў заставаліся ў Кабуле. Але за гэтыя месяцы я пасьпеў надрукаваць некалькі артыкулаў, якія адразу па вяртаньні ўскладнілі ягоныя адносіны з калегамі па партыйным апараце. Гэта стварыла няпростыя для яго сытуацыі, якія цяпер назвалі б «канфліктам інтарэсаў». Фактычна некалькі гадоў у канцы 80-х яму давялося жыць у атмасфэры гэтых канфліктаў.

Праз больш як трыццаць гадоў іншы віцебскі кіраўнік адчуе нешта падобнае — на пратэстах у 2020-м затрымаюць спачатку аднаго, а потым і другога сына мэра Віцебску. Прызнаюся, што калі я сачыў за гэтай гісторыяй, спачуваў і сынам, і бацьку. Сынам як палітычным аднадумцам, бацьку — па-чалавечы.

У нашай жа сям'і пік напружаньня прыпаў на восень 1988-га, калі я змагаўся супраць будаўніцтва

Віцебскай атамнай электрастанцыі. І кіраўніцтва БССР, і першы сакратар Віцебскага абкаму Ўладзімер Грыгор’еў адмаўлялі сам факт намераў будаваць АЭС, хаця існавалі пастановы ЦК і Саўміну, а ў Гарадоцкім раёне вяліся падрыхтоўчыя работы.

Ня буду пераказваць свае драматычныя размовы з бацькам. У пачатку кастрычніка ён лёг у шпіталь з дыягназам «гіпэртанічны крыз».

19 кастрычніка я ўдзельнічаў у сходзе ў Доме кіно ў Менску, дзе былі ўтвораныя «Мартыралёг Беларусі» і Аргкамітэт БНФ. А 21 кастрычніка мой артыкул пра АЭС на загад першага сакратара абкаму Уладзімера Грыгор’ева быў зьняты з паласы абласной газэты — і ў той жа дзень бацька адзначаў 50-годзьдзе.

Мой пераезд у Менск разрадзіў сямейнае напружаньне.

Але пры ўсіх нашых палітычных разыходжаньнях з бацькам нязьменным было адно, што аб’ядноўвала — нацыянальная ідэя. Разумелі мы яе кожны па-свойму (бацька лічыў, што да яе рэалізацыі маглі б прывесьці грамадзтва сацыялістычныя сілы, а я быў перакананы, што сацыялістычны экспэрымэнт сябе дыскрэдытаваў), але мы былі адзіныя ў тым, што Беларусь павінна быць беларускай.

Сантымэнт да беларушчыны бацька адчуў у самым пачатку 60-х, пасьля сустрэчы зь лектарам зь Менску, які прыехаў на некалькі дзён у Паставы.

Ён гаварыў пра тое, пра што бацька ўжо думаў, але ня мог сфармуляваць: чаму ў Беларусі так мала ўжываецца беларуская мова, чаму мы ня цэнім сваіх творцаў, чаму ўвесь час вымушаныя глядзець на Маскву.

Звалі гэтага лектара Ўладзімер Кулажанка.

І вось жа як часам закручваецца жыцьцё. Маё актыўнае далучэньне да нацыянальнага Адраджэньня адбылося пад уплывам у тым ліку і Ўладзімера Арлова, які калісьці вучыўся на гістфаку БДУ разам з сынам Ўладзімера Кулажанкі Генадзем, які, як прызнаўся Ўладзя, быў першым у ягоным жыцьці знаёмым хлопцам, які гаварыў па-беларуску (і стаў найбліжэйшым сябрам).

У пачатку 80-х Генадзь Кулажанка паехаў у Аўганістан дарадцам у моладзевых справах і ў ліпені 81-га прапаў, пасьля таго як сеў у таксі. Афіцыйна бацькам і жонцы паведамілі, што ён гераічна загінуў. У той час, калі мы з Арловым пачалі ліставаньне (я служыў у войску пад Лепелем, Уладзя працаваў у наваполацкай газэце і ўжо выдаў першую кніжку, пра якую я надрукаваў водгук), мой бацька ў Кабуле спрабаваў высьветліць, што ж насамрэч здарылася з Генадзем, але безвынікова, ніякіх вартых даверу новых зьвестак не было.

А ў пачатку 90-х доктар эканамічных навук Уладзімер Кулажанка ўвайшоў у экспэртную групу, якая дапамагала нам, дэпутатам Апазыцыі БНФ, ствараць эканамічныя праграмы і законапраекты, у 1994-м быў членам Ценевага кабінэту БНФ, які ўзначальваў Зянон Пазьняк. Калі я прыйшоў у 1999-м працаваць на Радыё Свабода ў Прагу, Уладзімер Кулажанка выступаў на хвалях Свабоды з эканамічнымі аглядамі.

З гадамі ў бацькі наладзіліся добрыя асабістыя адносіны з Уладзімерам Караткевічам, Васілём Быкавым, Петрусём Броўкам, Іванам Шамякіным, Нілам Гілевічам, Рыгорам Барадуліным, Генадзем Бураўкіным, Сяргеем Законьнікавым. І вынікалі яны зусім не са службовага абавязку рэгіянальнага

камуністычнага ідэоляга, а зь іншых патрэбаў, з патрэбаў душы. Ён спрыяў пастаноўкам п’есаў Караткевіча «Званы Віцебску» і «Кастусь Каліноўскі» ў віцебскім Коласаўскім тэатры яшчэ пры ягоным жыцьці, ініцыяваў і ладзіў сустрэчы пісьменьнікаў ня толькі ў Віцебску, але і ў райцэнтрах.

У 1989 годзе ён стаў адным з сузаснавальнікаў Таварыства беларускай мовы імя Скарыны, і два гады, якія заставаліся яму на пасадзе сакратар абкаму, арганізоўваў стварэньне суполак гэтай арганізацыі ў раёнах. Пазьней я знайшоў ягоныя запісы нейкай нарады з сакратарамі райкамаў — там былі прамыя ўказаньні па беларусізацыі, якія ад сакратара абкаму ўспрымаліся дырэктывай. Пэўна, ня ўсім яны былі па сэрцы, але выконваць іх даводзілася.

І такая пазыцыя была дысанансам да агульнага настрою партыйнага апарату Беларусі зь яго нацыянальным нігілізмам. Грэблівае стаўленьне да нацыянальнай культуры было адметнасьцю і абсалютнай большасьці камуністычных дэпутатаў Вярхоўнага Савету, далёка не аўтсайдэраў партапарату. Не пагаджуся зь меркаваньнямі, што калі б КПБ пратрымалася ва ўладзе пяць ці дзесяць гадоў, яна б ажыцьцявіла беларусізацыю грамадзтва (чаго не пажадаў рабіць Кебіч). Так, былі прынятыя пастановы ЦК у сфэры мовы, але да іх у лепшым выпадку падыходзілі фармальна, а часьцей — сабатавалі. Непрыманьне беларускай мовы і незалежнасьці як каштоўнасьці сьведчаць, што ніякай інтэнсіўнай беларусізацыі, на маю думку, не было б. Дзе-нідзе ёй спрыялі б такія, як мой бацька, але ў цэлым яе б чакаў лёс кампаніяў кшталту «харчовай праграмы» ці «кожнаму па кватэры да 2000 году».

Спыненьне дзейнасьці КПБ-КПСС у жніўні 91-га бацька ўспрыняў драматычна, а вось абвяшчэньне незалежнасьці — прыязна.

7 сьнежня 1991 году ён як ідэйны камуніст паехаў у Менск на ўстаноўчы зьезд «новай» кампартыі. На тым зьезьдзе не было тых, хто найбольш палымяна кляўся ў вернасьці камуністычнай ідэі — ні колішніх сакратароў ЦК Сакалова, Пячэньнікава, Ціхіні, ні шэфа віцебскіх камуністаў Грыгор'ева. Яны чакалі, у які бок павернецца ўлада. Вярнуліся ў кампартыю ўжо тады, калі Вярхоўны Савет скасаваў сваю ранейшую пастанову аб прыпыненьні дзейнасьці КПБ-КПСС. Праўда, ня ўсе: новы час адкрываў новыя далягляды — у бізнэсе, які можна было рабіць пра падтрымцы былых аднапартыйцаў ва ўрадзе Кебіча.

А бацька намагаўся павярнуць камуністаў да нацыянальных беларускіх каштоўнасьцяў. І вось у гэтым і было ягонае разыходжаньне з большасьцю аднапартыйцаў, якія паставіліся да стварэньня незалежнай краіны агрэсіўна адмоўна.

Прыкметны нюанс: яны ніколі не казалі (ды й цяпер не гавораць) пра абвяшчэньне незалежнасьці, а заўсёды — пра распад СССР, падаючы працэс як вынік выключна злой волі Гарбачова ды «белавескіх змоўнікаў», але ніяк ня вынікам памкненьняў нацыянальнага авангарду былых савецкіх рэспублік (працэс, безумоўна, складаўся зь некалькіх фактараў, і Віскулі былі хай і важным, але толькі апошнім акордам).

Годзе ў 1993-м, калі актывізаваліся камуністычныя праімпэрскія сілы, бацькавы адносіны з аднапартыйцамі абвастрыліся. Хаця працаваў ён кіраўніком абласнога аддзелу рэстаўрацыі, на пер-

шых прэзыдэнцкіх выбарах галасаваў не за Кебіча, а за Шушкевіча (маці мая і іншыя сямейнікі — за Пазьняка). Пасьля інаўгурацыі надрукаваў у абласной газэце артыкул «Працягнем руку першаму прэзыдэнту Беларусі», заклікаў усе прабеларускія сілы падтрымаць Лукашэнку ў будаўніцтве сувэрэннай дэмакратычнай краіны.

Вось толькі пляны самога Лукашэнкі ніяк не супадалі ні з умацаваньнем сувэрэнітэту, ні з разьвіцьцём дэмакратыі. Ілюзіі наконт Лукашэнкі ў бацькі зьніклі яшчэ да пабіцьця дэпутатаў у Авальнай залі; рэфэрэндум пра мову і сымболіку ён ацаніў вельмі адмоўна. І з таго часу актывізаваў сваю працу ў ТБМ, неўзабаве ўзначаліўшы раду Віцебскага абласнога аддзяленьня. У 1999-м на «альтэрнатыўных выбарах» ён будзе, разам з Георгіем Таразевічам, намесьнікам старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктара Ганчара.

Значна пазьней, увосень 2016-га, абмяркоўваючы ў Празе са Сьвятланай Алексіевіч рознае стаўленьне былых камуністаў да аўтарытарнай улады ў Беларусі, я пачуў ад яе думку, што на пазыцыю майго бацькі паўплываў Аўганістан («Там адразу было ясна, хто ёсьць хто», — сказала аўтарка «Цынкавых хлопчыкаў»). Пэўна, у нейкай ступені тыя паўтара года ў экстрэмальных умовах паўплывалі, але я думаю, што вызначальнай усё ж была ягоная беларускасьць, прыхільнасьць да таго, што ў шырокім сэнсе прынята называць нацыянальным адраджэньнем. Ці сумяшчальна гэта зь неартадаксальнымі камуністычнымі перакананьнямі? Тут Пазьняк прывёў бы прыклады зьнішчэньня камуністычнай уладай нацыянальнай культуры, русыфікацыю і, безумоўна, меў бы рацыю. Але куды тады падзець



Разам з бацькам, маці і пляменьнікам Мікітам у Празе, вясна 1997

Максіма Танка, Генадзя Бураўкіна ды Ніла Гілевіча? Гэта ўжо тэма кампрамісаў і індывідуальнага выбару, але, не ўваходзячы ў тэарэтычныя развагі, выкажу перакананьне: для нацыянальнай культуры, для беларушчыны, для Адраджэньня гэтыя асобы зрабілі куды больш станоўчага, чым было адмоўнага ў факце наяўнасьці ў іх партыйных білетаў.

Я заўважыў такую асаблівасьць: у тыя дні 96-га стаўленьне да мяне з боку бацькоўскіх знаёмых вызначалася не камуністычнымі альбо дэмакратычнымі перакананьнямі, а прыхільнасьцю альбо непрыязнасьцю да незалежнасьці Беларусі.

Прыкладам, адным з найбольш актыўных дзеячоў адноўленай кампартыі на Віцебшчыне быў выкладчык пэдынстытуту гісторык Анатоль Родзік — але адначасна і прыхільнікам незалежнасьці, і актывістам Таварыства беларускай мовы, і ўдзельнікам шмат якіх антыпрэзыдэнцкіх кампаніяў ця-

гам дзесяцігодзьдзяў. Спадар Анатоль наступныя дзесяцігодзьдзі будзе спрачацца з тымі аднапартыйцамі, якія імкнуліся далучыць Беларусь да Расеі.

Ну а тыя, хто Беларусь як незалежную дзяржаву не прыняў, ня вельмі стрымлівалі сябе, каб выказаць маім родным абурэньне маёй эміграцыяй ці зьедлівае спачуваньне.

Як прыгадалі бацькі амаль праз чвэрць стагодзьдзя, тады, у 1996-м, кола тых, хто падтрымліваў зь імі сувязі, звузілася.

Затое імгненна зрабілася зразумелым, хто сапраўдны сябар.

Вось такой была для іх цана падтрымкі мяне і Пазьняка, якую я тады, у адзін з найбольш крытычных момантаў жыцьця, адчуў ад бацькоў.

## Энкавэдыст ведае пра намер дзеда Ягора

Існуе паняцьце гістарычнай памяці нацыі. Ёсьць і сямейная памяць пакаленьняў, якая перадаецца нам генэтычна. Хаця часьцей захоўваецца ў аповедах і лістах. З пашырэньнем тэлефоннай, а потым і электроннай сувязі лістоў, напэўна, ня стала меней, але ці захаваюцца гэтыя гігабайты імэйлаў і чатаў? Сумняваюся. А на антрэсолях майго пакоя ў бацькоўскай кватэры маці спакавала сямейную перапіску за дзесяцігодзьдзі, яшчэ з 1960-х. Калінебудзь я дадам да іх і лісты, якія захоўваю ў Празе.

Працытую два допісы, якія я атрымаў у верасьні 96-га ад бацькі.

*Добры дзень, дарагі Сяргей!*

*Прывітаньне табе ад усёй нашай сям'і, ад многіх людзей у Віцебску, якія цікавяцца табою і пера-*

*даюць добрыя пажаданьні. 28–29 жніўня быў у Менску, віншаваў Генадзя Мікалаевіча* (Бураўкіна. – С.Н.)*, вечарам на яго кватэры былі В. Быкаў, Н. Гілевіч, Г. Карпенка, М. Фінберг, М. Матукоўскі, а таксама Бураўкіна дзеці. Віншаваньняў (тэлеграм, пісем, званкоў) было некалькі соцень. Усе газэты, акрамя «Сов. Бел.», далі аб ім матэрыялы. Цёплай тэлеграмай вітаў яго і М. Чыгір. Не было віншаваньняў ад «бацькі» і яго адміністрацыі. У сваім слове я сказаў, што гэтаму трэба толькі радавацца, бо атрымліваць з брудных рук і вуснаў прывітаньні было б зьнявагай яго як паэта і грамадзяніна.*

*У канцы вечара са мною гутарыў В. Быкаў. Вельмі высока адазваўся аб тваёй грамадзянскай, маральнай пазыцыі, перадаваў добрыя пажаданьні.*

*... Думаю, што ня так проста абыдзецца рэфэрэндум для «бацькі». У мяне ёсьць надзея на лепшае. Важна было б неяк падключыць для тлумачэньня народу мэтаў рэфэрэндуму расейскія СМІ, ды і замежныя.*

*... Перадавай добрыя прывітаньні і пажаданьні сям'і Андрусышыных, Зянону Станіслававічу, беларусам амэрыканскім.*

*Жадаю табе добрага настрою і здароўя.*

*Абдымаю. І. Навумчык.*

*Віцебск, 03.09.96.*

Наступны ліст пісаўся ўжо пасьля звароту Сямёна Шарэцкага да беларускага народу пра абарону канстытуцыйнай законнасьці — зварот той бацька памножыў і распаўсюджваў па вобласьці.

*Добры дзень, дарагі Сяргей!*

*Мы рады, што пісьмы да цябе даходзяць. Сёньня пасылаю табе пару газэтных матэрыялаў. Ведаю,*

*што са зваротам С. Г. Шарэцкага вы з З. С. знаёмыя. Праз мае рукі за апошні тыдзень прайшло некалькі соцень «Народнай волі» з гэтым зваротам да народу (нямала экзэмпляраў папала і ў раёны).*

*З трывогай чакаў учорашняга (першага пасьля перапынку) пасяджэньня Вярхоўнага Савету. Па лініі вэртыкалі рабілася ўсё, каб зьняць Шарэцкага... Але не атрымалася!*

*Думаю, што з кожным днём большае прыхільнікаў дэмакратыі, праціўнікаў дыктатуры. У людзей узрасла цікавасьць да палітычнага жыцьця. Прыхільнікамі дыктатуры выступаюць тыя, хто і раней змагаўся супраць незалежнасьці Беларусі, супраць нацыянальнага адраджэньня. Выключэньне складаюць камуністы (значная частка), якія зараз асэнсоўваюць больш цьвяроза палітычную сытуацыю. Большасьць арганізацый падтрымлівае Новікава і Калякіна, і ў сёньняшняй раскладцы палітычных сіл гэта важна...*

*Многія перадаюць табе прывітаньні, цікавяцца весткамі з-за акіяна. У апошнія дні перадавалі прывітаньне народны артыст Яўген Шыпіла; артыст, паэт Пятро Ламан; Сьцепанішчава з «Народнага слова», Леанід Цьвіка і іншыя.*

*Сардэчныя прывітаньні ад Нэлі і Івана Клямятаў, Вольгі Стаськовай. Усяго добрага.*

*І. Навумчык, 18.09.96.*

Прыемна было атрымаць прывітаньне і ад дзядзькі Івана Клямяты (дваюраднага брата бацькі), які палову жыцьця праслужыў афіцэрам-сувязістам у шахтах у Сярэдняй Азіі. А па вяртаньні ў Беларусь, калі ўбачыў, як выціскаецца беларуская мова, запатрабаваў у пашпартным стале перапісаць сваё імя на Янку. Дзядзькава жонка Нэля, выкладчыца

пэдынстытуту, была даўняй сяброўкай маёй маці — для мяне шмат гадоў сымбалем завяршэньня каляндарнага лета быў ейны дзень народзінаў, які адзначалі ў канцы жніўня. Я яшчэ засьпею цяжка хворую цётку Нэлю, вярнуўшыся ў Беларусь, а вось дзядзькі Янкі ў жывых ужо ня будзе. Надпісы на іх надмагільлях будуць па-беларуску — як і ў маіх дзядоў ды бабак.

З акторамі Коласаўскага тэатру Яўгенам Шыпілам і Пятром Ламанам я ці не штодня бачыўся, калі жыў у Віцебску, і шмат пра коласаўцаў пісаў. Леанід Цьвіка быў маім шэфам у аддзеле культуры абласной газэты і ў значнай ступені настаўнікам.

Ну а нейкі раптоўны, нават для мяне самога, зыход у палітыку пасьля пасьпяховай кампаніі супраць будаўніцтва Віцебскай АЭС, зафіксавала мая калега па рэдакцыі Вера Сьцепанішчава, калі ў лютым 89-га на акруговым сходзе дэлегаваныя партыйнымі камітэтамі ўдзельнікі не прапусьцяць маё прозьвішча ў бюлетэні на выбарах народных дэпутатаў СССР.

На тых выбарах мяне вылучылі шэсьць віцебскіх прадпрыемстваў, я і цяпер не сумняваюся, што, калі б трапіў у бюлетэнь, быў бы абраны. І ўдзельнічаў бы ў гістарычным Першым зьезьдзе народных дэпутатаў СССР, які разам з усімі глядзеў па тэлевізіі, і разам з Андрэем Сахаравым, Алесем Адамовічам, Васілём Быкавым, Аляксандрам Дабравольскім, Віктарам Карняенкам працаваў бы ў Міжрэгіянальнай дэпутацкай групе...

Але праз гады я, застаўшыся пры сваіх ранейшых палітычных ацэнках дзеяньняў віцебскага начальства, якое заблякавала мне ўдзел у выбарах народных дэпутатаў СССР у 1989 годзе, больш

па-філязофску магу ўспрымаць тую падзею (як і многія іншыя). Выбраўшыся ў 1989-м, я напэўна ня стаў бы ўдзельнічаць у выбарах у Вярхоўны Савет БССР у 1990-м — як і абсалютная большасьць дэпутатаў: з усіх «саюзных» дэпутатаў у Вярхоўны Савет БССР абраліся толькі Шушкевіч і крыху пазьней — Кебіч. А значыць, і пазбавіўся б магчымасьці ўдзелу ў абвяшчэньні незалежнасьці Беларусі і ў станаўленьні новай дзяржавы. Вядома, і жыцьцё б склалася зусім па-іншаму: і ў эміграцыі б не апынуўся, і кнігі б гэтай не было; шмат чаго не было б ці было па-іншаму.

Пра тое, як нейкая дробязь можа памяняць лёс — і самога чалавека, і ягоных нашчадкаў, я пачаў задумвацца толькі ў сталым узросьце, хаця нагодаў для гэтага ў гісторыі маёй сям'і хапала. Як, пэўна, і ў гісторыі кожнай сям'і.

Давялося мне і адчуць, што такое генэтычная памяць — праз тое, што прынята называць déjà-vu.

Годзе ў 1985-м, калі я служыў у войску, мяне паслалі на нейкія трохдзённыя афіцэрскія курсы ў штаб арміі, у Барысаў. З нашага лепельскага лесу, з вайсковага гарадка ў Заслонаве, я трапіў у цэнтар цывілізацыі: безьліч дзяўчат на вуліцах і нават — так, гэта ня сьнілася! — грамадзкі транспарт. Афіцэры больш дасьведчаныя адразу вызначылі, у які рэстаран накіруемся ўвечары (калі не памыляюся, кампанію барацьбы з п'янствам яшчэ не абвясьцілі). Ня памятаю, на якую тэму былі заняткі, ці хадзіў я ў рэстаран, але тое, што адчуў, калі нас засялілі на начлег у нейкую казарму, засталося ў памяці на ўсё жыцьцё.

Нас прывезьлі пакінуць рэчы ў казарменнае памяшканьне недзе ў цэнтры гораду (самі курсы



Дзед Ягор у Чырвонай арміі, першая палова 1930-х

былі ў Лядзішчах, гэта вайсковы гарадок у Барысаве). Я пераступіў парог — і сьвядомасьць пачала дваіцца. Не, я быў ня п'яны, проста ўзьнікла яснае адчуваньне, што ў гэтым будынку я быў, што вось зараз, за гэтым паваротам, будзе такое вось памяшканьне, вось гэтак будуць разьмешчаныя вокны, я ішоў — і бачыў дакладна тое, што прадчуваў. Не расстаноўку мэблі (якая там мэбля — салдацкія ложкі), а разьмяшчэньне сьценаў і вокнаў, канфігурацыю прасторы.

Нібыта я тут ужо некалі быў.

Але я дакладна ведаў, што ніколі ня быў у гэтым будынку! Здалося, што я паціху вар'яцею. Я выйшаў у двор, сеў на лаўку ці нават на прыступкі і разгарнуў газэту; памятаю, гэта была «Литературная газета» зь вялізнай публікацыяй пра шахматны матч Каспарава і Карпава. Шахматная тэма, якой я ніколі не цікавіўся, калі не лічыць сямейныя турніры ў дзяцінстве, вярнула мяне хоць у нейкую рэчаіснасьць.

А потым я даведаўся, што ў сярэдзіне 1930-х мой дзед па маці Ягор быў прызваны на зборы ў Барысаў. І, пэўна, жыў у тых самых казармах.

Вольга Стаськова, пра якую згадаў бацька ў лісьце, — дачка дзеда Ягора, малодшая сястра маёй маці, мая цётка. Яны засталіся сіротамі ў ліпеньскі дзень 41-га, калі ўцякалі са сваёй вёскі Сідаравічы пад Магілёвам ад бамбаваньня (гэта былі тыя самыя пякельныя баі, якія нагэтулькі ўразілі пісьменьніка Канстанціна Сіманава, што ён папрасіў пасьля сьмерці разьвеяць там свой прах).

Адной рукой Лізавета (мая бабуля) несла Вольгу, у другой быў абраз, які ейная бабуля ў пачатку стагодзьдзя прынесла з Кіева. Побач беглі мая маці і яе сястра. Ікона не ўратавала — побач выбухнула бомба, потым другая, асколкі трапілі ў скронь і ў жывот. Баба Ліза памерла ўвечары, было ёй 25 гадоў, маёй маці было пяць, Лідзе — тры гады, а Вользе — дзевяць месяцаў. Дзед Ягор ужо быў на фронце і пра гібель жонкі даведаўся, толькі калі вярнуўся з вайны, летам 45-га. Гэта значыць — праз чатыры гады.

А за пару тыдняў да трагедыі дзед на нейкае імгненьне апынуўся зусім блізка ад роднай хаты,

за некалькіх соцень мэтраў. І вось гэта быў той момант, калі нейкія хвіліны маглі зьмяніць лёс сям'і.

У калгасе дзед Ягор працаваў шофэрам. Шофэрам ён быў для калгасу, але ў нейкіх міжраённых спаборніцтвах называлі яго «пілётам» — я ўжо ніколі не даведаюся, чым ён так ужо мог вызначыцца на тых грузавіках-«палутарках», якія магутнасьцю і хуткасьцю саступаюць сёньняшняму самаму маленькаму легкавому аўтамабілю.

Дзеда паклікалі на чарговыя вайсковыя зборы 17 чэрвеня 1941 году (таму мая маці лічыць, што Сталін, магчыма, зьбіраўся напасьці першым). Яго накіравалі ў Барысаў, але неўзабаве пасадзілі за баранку грузавіка і загадалі ехаць у Магілёў. Там яны — хто з Дому Саветаў, хто з абкаму (былы губэрнатарскі палац) вывозілі, як ім сказалі, «архіў і экспанаты». Гэтае слова — «экспанаты» — маці запомніла з аповедаў дзеда пра тыя дні (ці не вывозілі тыя грузавікі і Крыж Эўфрасіньні?). Грузавікі ад'яжджалі не калёнай, а паасобку — пасьля таго, як загрузіліся. Некаторыя везьлі сем'і супрацоўнікаў партыйных і чэкісцкіх органаў — тых, якія не пасьпелі эвакуавацца.

Скрыні паставілі ў кузаў і закрылі брызэнтам, але месца там яшчэ заставалася. У кабіну зь дзедам сеў энкавэдыст. Выехалі ў паўднёвым кірунку, на Быхаў. Дзедавы Сідаравічы, у якіх заставаліся жонка зь дзецьмі, былі акурат каля дарогі. Некалькі хвілінаў хапіла б, каб заскочыць да сваіх — іх усіх можна было б пасадзіць у кузаў (месца хапала) і вывезьці на ўсход, у Смаленск.

Дзед сказаў энкавэдысту, што будуць праяжджаць каля ягонай вёскі, дзе сям'я. «Эта информация мне известна, Мельников», — адказаў чэкіст.

Калі праехалі Слабодку, перад паваротам на Сідаравічы, Ягор адчуў скроньню халодны мэтал — энкавэдыст прыставіў пісталет.

Гэтак, зь пісталетам ля скроні, ехалі, калі Сідаравічы ўжо засталіся ззаду — амаль да будынку «старой» пошты.

Безумоўна, калі б збочыў дзед у вёску, калі б пасадзіў жонку і трох дачок у кузаў, пад брызэнт («Колькі там ужо месца нам трэба — малыя былі, як шчаняты», — казала потым маці), калі б вывез іх туды, дзе выгрузілі архіўныя паперы і куды вывезьлі сем'і чэкістаў і начальства — пэўна, усё магло ў лёсе маёй маці скласьціся інакш.

Усю вайну дзед пранасіў у гімнасьцёрцы мэтрыкі трох сваіх дачок, якія ўзяў з сабой яшчэ на зборы, у чэрвені 41-га, спадзеючыся, што які-небудзь вайсковы «кадравік» пашкадуе траіх дзетак і адпусьціць яго дадому. Спадзяваньні былі наіўнымі. Вярнуўся ён толькі пад восень 45-га.

У 2016-м, калі я прыеду ў Беларусь пасьля дваццацігадовай эміграцыі, маці пакажа мне сваю мэтрыку, якая за гады вайны ў кішэні дзедавай гімнасьцёркі сьцерлася так, што амаль рассыпалася на кавалкі.

А ў сваім пакоі я пабачу тую самую ікону, на якую так спадзявалася баба Ліза за імгненьне да сьмяротнага раненьня. Абраз ўратаваў яе дачок — у тым ліку і маю маці. Значыць, і мяне.

## Лукашэнка хоча зьмяніць Канстытуцыю

Калі сёньня я перачытваю лісты, якія слаў бацькам у Віцебск, пра некаторыя згаданыя ў іх дэталі нібыта чую ўпершыню. Напрыклад, пра новы вы-

бух на Чарнобылі, пра які тады гаварылі (інфармацыя не пацьвердзілася), ці вайсковыя вучэньні, якія меў намер правесьці Лукашэнка паблізу ад атамнай станцыі (яны не адбыліся). Пэўна, калі б ня гэтыя лісты, я б зь цяжкасьцю і ўспомніў, якое надвор'е было ў першыя тыдні той восені ў Нью-Ёрку.

Падзеі, якім прысьвечаныя наступныя старонкі кнігі, адбываліся пераважна ў Менску — і ўплываць на іх нам было вельмі цяжка (хоць і спрабавалі). У іх апісаньні будзе мінімум аўтара, які ў тыя драматычныя дні лавіў кожнае слова зь Беларусі (і ў літаральным сэнсе таксама, выходзячы ў двор з транзыстарам, каб паслухаць рэпартажы карэспандэнтаў Свабоды). Вызначаўся лёс Беларусі, як выявілася, на дзесяцігодзьдзі — куды там памятаць нью-ёрскія дажджы...

*...У нас тут цёпла — напрыклад, сёньня +21°C, хаця надыход восені ўжо адчуваецца, асабліва ўвечары. Таму купляем цёплае адзеньне.*

*Тут пачынаецца шум з нагоды пагрозы выбуху на Чарнобыльскай АЭС, і на гэтым фоне асаблівым дзікунствам выглядае ідэя Лукашэнкі правесьці вучэньні ў 30-кілямэтровай зоне.*

*... Здаецца, цяпер у Лукашэнкі шанец выйграць рэфэрэндум 70:30, хаця яшчэ месяц таму было 99:1. Праўда, пройгрыш яшчэ не азначае ягонай адстаўкі, але ў гэтым выпадку ягоны палітычны канец блізкі (27.09.96, Нью-Ёрк).*

Гэта з майго ліста родным у Віцебск.

Зь верасьня тэма прапанаванага Лукашэнкам рэфэрэндуму зрабілася галоўнай.

Каб чытач адразу меў уяўленьне, пра што спрачаліся Лукашэнка і Вярхоўны Савет, дам сьпіс пытаньняў, якія выносіліся на галасаваньне.




Вітаўт Кіпель і Зянон Пазьняк на нью-ёрскай вуліцы

Грамадзянам трэба было адказаць на сем пытаньняў. Чатыры зь іх былі ініцыяваныя прэзыдэнтам, тры, у альтэрнатыву Лукашэнку, — Вярхоўным Саветам.

Лукашэнка выносіў на рэфэрэндум такія фармулёўкі:

*Ці падтрымліваеце вы адмену сьмяротнага пакараньня ў Рэспубліцы Беларусь?*

*Перанесьці Дзень Незалежнасьці Рэспублікі Беларусь (Дзень Рэспублікі) на 3 ліпеня — Дзень вызваленьня Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў у Вялікай Айчынай вайне.*

*Прыняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 году са зьменамі і дапаўненьнямі (новая рэдакцыя Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь), прапанаванымі Прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь А.Р. Лукашэнкам.*

*Ці выступаеце вы за свабодныя, без абмежаваньняў, куплю і продаж зямлі?*

Перанос Дня Незалежнасьці мусіў зьвесьці да мінімуму ў грамадзкай сьвядомасьці значнасьць беларускага сувэрэнітэту, што адпавядала мэтам аб’яднаньня з Расеяй.

Сьмяротнае пакараньне ўспрымалася большасьцю як справядлівае пакараньне за самыя цяжкія злачынствы, прыватнай уласнасьцю на зямлю афіцыйная прапаганда яшчэ з часоў Кебіча пужала — «прыйдуць паны і ўсё скупяць, а вы будзеце парабкамі». Прадбачыць адказы было няцяжка, і гэтыя пытаньні мусілі адыграць ролю лякаматыва, які выцягне галоўнае для Лукашэнкі — зьмены Канстытуцыі, якія дадуць яму неабмежаваныя ў рэальнасьці паўнамоцтвы.

Вярхоўны Савет ініцыяваў такія пытаньні:

*Прыняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 году са зьменамі і дапаўненьнямі, прапанаванымі дэпутатамі фракцый камуністаў і аграрыяў.*

*Ці выступаеце вы за тое, каб кіраўнікі мясцовых органаў выканаўчай улады выбіраліся непасрэдна жыхарамі адпаведнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі?*

*Ці згодныя вы, што фінансаваньне ўсіх галін улады мусіць ажыцьцяўляцца публічна і толькі зь дзяржаўнага бюджэту?*

Тут, вядома, таксама асноўнай тэмай была Канстытуцыя. Галоўнай асаблівасьцю праекту, падрыхтаванага камуністамі і аграрыямі і падтрыманага Вярхоўным Саветам, была парлямэнцкая форма кіраваньня: пасады прэзыдэнта не прадугледжвалася ўвогуле.

15 сакавіка 1994 году мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, не галасавалі за Канстытуцыю менавіта з прычыны ўключэньня ў яе прэзыдэнцтва і папярэджвалі, што гэта непазьбежна прывядзе да дыктатуры.

...Калі да гісторыі з нашым палітычным прытулкам можна (без усялякай рызыкі перабольшыць) ужыць азначэньне Янкі Запрудніка «палітычная і людзкая драма», дык падзеі ў Беларусі, якія адбыліся ўвосень 96-га, варта ацэньваць толькі як трагедыю. Прынамсі гледзячы на іх наступствы для лёсу беларускай дэмакратыі.

У прысьвечаных падзеям восені 1996-га разьдзелах я буду абапірацца на некалькі крыніц. Па-першае, на сьведчаньні былых дэпутатаў — адны, як Мечыслаў Грыб, надрукавалі свае мэмуары («Белорусский мост», 2006), іншыя, як Павал Знавец, падзяліліся ўспамінамі на маю просьбу. Вельмі важнымі мне здаюцца і інтэрвію, якія перад падрыхтоўкай перадачы на Радыё Свабода ў лістападзе 2001-га я правёў з колішнімі старшынём Вярхоўнага

Савету 13-га скліканьня Сямёнам Шарэцкім, членам Канстытуцыйнага суду Міхаілам Пастуховым і выканаўцам абавязкаў старшыні БНФ (у 1996 годзе) Лявонам Баршчэўскім; яны каштоўныя яшчэ і тым, што пасьля падзеяў тады прайшло толькі пяць гадоў і адчуваньні таго часу яшчэ ня сьцерліся.

Зянон Пазьняк быў у няспынным кантакце ня толькі з кіраўніцтвам БНФ, але і з кіраўніцтвам Вярхоўнага Савету, і фрагмэнты ягоных зваротаў ды лістоў даюць больш глыбокае ўяўленьне пра тое, што адбылося (а таксама і чаму не адбылося таго, што мусіла адбыцца).

З Канстытуцыяй, на якой у ліпені 1994-га Лукашэнка прыносіў прысягу, у яго ня склалася адразу.

У лютым 96-га, выступаючы ў Авальнай залі з пасланьнем аб стане канстытуцыйнай законнасьці, старшыня Канстытуцыйнага суду Валеры Ціхіня паведаміў, што з 14 прэзыдэнцкіх указаў, якія разглядаў Суд, 11 у той ці іншай ступені (а некаторыя і цалкам) не адпавядалі Канстытуцыі. Ціхіня меў на ўвазе 1995 год, калі мне даводзілася прадстаўляць у Канстытуцыйным судзе пазыцыю больш як 70 дэпутатаў у справе манапалізацыі прэзыдэнтам сродкаў масавай інфармацыі і зьяўленьня ў газэтах «белых плямаў» замест дакладу Сяргея Антончыка аб карупцыі ў атачэньні Лукашэнкі. Паседжаньне Суду адбывалася празь дзень пасьля галадоўкі і біцьця дэпутатаў БНФ. Тады Канстытуцыйны суд прызнаў, што палажэньні ўказаў прэзыдэнта супярэчылі Канстытуцыі.

У сваім выступе Ціхіня адзначыў, што, нягледзячы на вэрдыкт Канстытуцыйнага суду, Лу-

кашэнка не скасаваў палажэньняў указаў, якія парушалі Канстытуцыю і законы.

Сярод рашэньняў, прызнаных неканстытуцыйнымі, быў і прыняты ў жніўні 1995-га прэзыдэнцкі ўказ, паводле якога спынялася дзейнасьць Свабоднага прафсаюзу і прафсаюзнай арганізацыі Менскага мэтрапалітэну — менавіта пасьля гэтага ўказу актывістаў страйкаму АМАП паклаў на асфальт, а дэпутат і лідэр рабочага руху Сяргей Антончык быў схоплены на вуліцы і некалькі дзён утрымліваўся пад вартай на базе ўнутраных войскаў.

Казаў Ціхіня і «пра парушэньне прынцыпу падзелу ўлады»; нарэшце, проста расцаніў загад Лукашэнкі ўраду выконваць указы, якія Суд прызнаў неканстытуцыйнымі, як «непавагу да Канстытуцыі і законаў».

Празь некалькі месяцаў, у траўні, Лукашэнка запатрабаваў ад Вярхоўнага Савету зьмяніць парадак фармаваньня Канстытуцыйнага суду, даўшы права прэзыдэнту прызначаць палову членаў. Але большасьць дэпутатаў за гэта не прагаласавала.

Да восені 96-га колькасьць сумнеўных з пункту гледжаньня адпаведнасьці Канстытуцыі ўказаў і распараджэньняў Лукашэнкі вымяралася дзясяткамі.

Прапаноўваючы ў свой час Валерыю Ціхіню на пасаду старшыні Канстытуцыйнага суду, Лукашэнка, магчыма, кіраваўся і адданасьцю Ціхіні камуністычнай ідэі, што нібыта гарантавала недалучэньне да апанэнтаў Лукашэнкі — БНФ і дэмакратаў. Такая адданасьць у Валерыя Гур’евіча сапраўды была, і я сьведчу пра гэта на падставе шматлікіх зь ім гутарак — нашыя дэпутацкія крэслы ў Авальнай залі былі побач. І тады, калі Ціхіня быў сакратаром

ЦК КПБ, і калі пасьля прыпыненьня дзейнасьці Кампартыі кіраваў катэдрай, ён заўсёды ацэньваў падзеі з камуністычных пазыцый. У сьнежні 91-га ён выступіў катэгарычна супраць ратыфікацыі Белавескіх пагадненьняў і адзіны з дэпутатаў галасаваў супраць (ён, а не Лукашэнка, я гэта бачыў на ўласныя вочы, мы нават паспрачаліся зь ім з гэтай нагоды).

Так што тут Лукашэнка мог быць спакойны — на пазыцыі дэмакратаў, тым больш Народнага Фронту, Ціхіня не перайшоў бы ніколі.

Але, як гэта ні здасца дзіўным з улікам фіналу падзеяў лістапада 96-га, Ціхіня вельмі цаніў сваё рэнамэ юрыста — і ў чыста прафэсійным пляне яно, трэба прызнаць, было сапраўды высокім.

Калі Лукашэнка ўнёс прапановы зьменаў Канстытуцыі, якія істотна павялічвалі паўнамоцтвы прэзыдэнта коштам зьмяншэньня ролі парлямэнту, большасьць дэпутатаў іх прымаць адмовілася.

І тады ў пачатку жніўня Лукашэнка накіраваў у парлямэнт прапанову правесьці рэфэрэндум. Датай правядзеньня плебісцыту Лукашэнка выбраў 7 лістапада, дзень бальшавіцкага перавароту 1917 году. Як дзяржаўнае сьвята гэты дзень быў выкрасьлены з календара ў 1991 годзе, каб праз чатыры гады зноў вярнуцца — на наступны дзень пасьля пабіцьця дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Авальнай залі.

## Жырыноўскі піша «дорогому Сене»: «Ты же не Позняк и не Наумчик»

У пачатку верасьня Лукашэнка пацьвердзіў, што мае намер правесьці рэфэрэндум 7 лістапада. У адказ 11 верасьня сьпікер парлямэнту Шарэцкі выступіў са зваротам да беларускага народу «Люди, будьте бдительны! В республике запахло фашизмом!»:

*Наша страна стоит на пороге фашистской диктатуры. Конечно, сейчас не тридцатые годы и Беларусь не Германия той поры. Однако не надо думать, что фашизм зарождается только на почве расизма и крайнего национализма, как это было в Германии тех лет. Современный фашизм (неофашизм) несколько видоизменился по сравнению с тем, каким он был в двадцатые–тридцатые годы... идейно-политическая основа осталась прежней — это лжесоциалистическая демагогия с целью создания массовой базы за счёт недовольных; культ вождя; тоталитарная власть государства; всеобщий контроль над личностью; страшно простая разлиновка общества на два полюса, два начала: мы — они, свои — чужие; монополизирование властными структурами средств массовой информации; использование насильственных методов для подавления инакомыслящих. Предлагаемый президентом проект новой Конституции подводит правовую базу именно под такое общество.*

Гэта было самае рэзкае выказваньне Шарэцкага ў бок Аляксандра Лукашэнкі, якое сьведчыла пра новы ўзровень супрацьстаяньня парлямэнту і прэзыдэнцкай адміністрацыі.

І вось яшчэ цытата з артыкулу Шарэцкага:

*Всеобъемлющее и бесконтрольное управление государством, которого требует президент для себя в проекте новой редакции Конституции, необходимо, с одной стороны, для удовлетворения его гипертрофированного стремления к власти, ... а с другой — чтобы многим из его окружения можно было уйти от ответственности за те нарушения норм законности, которые совершены ими в целях своего обогащения.*

16 верасьня прэсавая служба Лібэральна-дэмакратычнай партыі ў дзярждуме Расеі распаўсюдзіла ліст лідэра фракцыі Ўладзімера Жырыноўскага да Сямёна Шарэцкага, які быў вытрыманы ў гранічна зьневажальным тоне. «Рыло твоё поросячье», «пьяница», «морда» — яшчэ ня самыя агідныя абразы. Працытую толькі фрагмэнты, так бы мовіць, палітычнага характару, з захаваньнем арфаграфіі, пунктуацыі і стылю арыгіналу:

*Уважаемый Семён Георгиевич! Дорогой Сеня!*

*Увидел Твоё «обращение к народу», и прямо оторопь взяла: «Люди, будьте бдительны! В республике запахло фашизмом!». Что с тобой случилось? С каких это пор ты стал вынюхивать то, чего нет?*

*...Сеня! Я как друг тебе советую: не поддавайся на провокации. Не цепляйся к Лукашенко. Он молодец, поднялся до уровня государственного мышления, чего бы я и тебе, Сеня, посоветовал.*

*...Сеня, прежде чем дурить, прежде чем поднимать свой Верховный Совет против Президента, вспомни лучше судьбу нашего Верховного Совета. Ты что, собираешься сбежать на Запад? Кому ты там нужен?! Ты же не Позняк и не Наумчик.*

*...Проамериканская мафия, агенты влияния Запада называют Лукашенко фашистом, потому что*

*он выступает за сближение Белоруссии с Россией, чего они боятся как огня.*

*...А ведь Ты, Сеня, тоже выступал за сближение в Россией, когда приезжал к нам в Государственную Думу. Сам же подписывал документы. Приезжал ранней весной, а скурвился к осени. Или у тебя мышление Шарикова человека-пса, который делал любую пакость по указанию Швондера? Лукашенко старается для Белоруссии, а Ты, Сеня — для западных Швондеров.*

*Сеня, я тебе по-дружески советую: не позорься!..*

*Владимир Жириновский.*

У пачатку 1994-га Аляксандар Лукашук надрукаваў у газэце «Свабода» артыкул пад назвай «Сокал Жырыноўскага», убачыўшы падабенства лідэра ЛПДР з адным дэпутатам Вярхоўнага Савету:

*Люмпэну патрэбныя такія самыя лідэры, як ён сам: беспрычынна агрэсіўныя, псыхічна няўстойлівыя, гатовыя ў любы момант разьдзерці кашулю з унутранай нянавісьцю да «занадта разумных». Не сацыяльная справядлівасьць, а сацыяльная зайздрасьць распальвае пачуцьцё пакрыўджанасьці і недаацэненасьці, засьціць вочы — і яны гатовыя помсьціць усім за ўсё.*

Артыкул выйшаў у студзені, калі ўвядзеньне пасады прэзыдэнта яшчэ не было перадвызначана, і пытаньне аўтара «Ці ўяўляеце падобную асобу ў якасьці кіраўніка дзяржавы?» магло ўспрымацца рытарычна.

Жырыноўскі кіраўніком Расеі, як вядома, ня стаў. А вось герой публікацыі праз паўгода быў выбраны прэзыдэнтам Беларусі.

## Хто ня хоча быць пажыцьцёвым прэзыдэнтам

Ліст, вытрымкі зь якога я зьмяшчаю ніжэй, быў ня першым зваротам Пазьняка да Шарэцкага, алё ён меў канфідэнцыйны характар і быў не адпраўлены праз факс, а перададзены з адным беларусам, які ў тыя дні наведаў Амэрыку.

*Паважаны Сямён Георгіевіч.*

*Гэты мой прыватны ліст асабіста да Вас выкліканы перш за ўсё падтрымкай вашых імкненьняў абараніць існаваньне інстытуту заканадаўчае ўлады і не дапусьціць узмацненьня аўтарытарнага рэжыму на Беларусі. У Вялікабрытаніі, Чэхіі, ЗША і Польшчы я пры сустрэчы з афіцыйнымі асобамі падкрэсьліваў нашае (апазыцыі) зацікаўленьне падтрымкай імі беларускага парлямэнту, наладжваньнем кантактаў і візытаў (асабіста Вашых). Каб падняць ролю парлямэнту перад гіпэртрафіраванай самавольнай функцыяй прэзыдэнта.*

*... Яшчэ ў чэрвені я рэкамэндаваў Фронту арганізаваць патрабаваньні аб імпічмэнце, аб выкананьні 104-га артыкулу Канстытуцыі непасрэдна да парлямэнту. Думаецца, што такі ціск на парлямэнт павінен стаць і яму, і Вам таксама падтрымкай.*

*Паважаны Сямён Георгіевіч, зважаючы на сытуацыю, некаторыя моманты я павінен сказаць Вам тут у лісьце. Вы асабіста і Вярхоўны Савет павінны пастаянна трымаць ініцыятыву. Хай прэзыдэнт рэагуе на Вашы ініцыятывы, а не наадварот. Ініцыятыва — гэта выйгрыш. Другое — абавязкова патрэбны імпічмэнт. І як найхутчэй. Гэта ўратуе парлямэнт і становішча. Бо, паколькі рэфэрэндум адбудзецца, хунта яго выйграе. Вынікі*

*ведаеце. Трэба сьпяшацца з імпічмэнтам. Трэба заручыцца падтрымкай, каго трэба (...) з усімі паразмаўляць, папярэдзіць, высьветліць, прадугледзець і г.д.*

Прыпыню цытаваньне. Ініцыятывы сапраўды ў палітыцы важная, і гісторыя ведае прыклады, калі выхад з абсалютна безнадзейнага становішча быў знойдзены менавіта дзякуючы рашучым дзеяньням. Безумоўна, шанцы значна павялічваюцца пры падтрымцы народу, як гэта было ў жніўні 91-га, калі Апазыцыя БНФ спачатку дамаглася скліканьня нечарговай сэсіі, потым — уключэньня ў парадак дня пытаньня аб незалежнасьці, а затым і прыняцьця станоўчага рашэньня, — тады на плошчы перад Домам ураду стаялі людзі, некалькі тысяч чалавек. Тады паспрыялі і вонкавыя абставіны (і роспуск Гарбачовым КПСС, і абвяшчэньне незалежнасьці Украінай) — але, калі б не было нашай ініцыятывы, дэпутаты задаволіліся б разглядам двух першапачаткова прапанаваных Прэзыдыюмам Вярхоўнага Савету пытаньняў — «Пра бягучы момант» і «Пра Саюзны дагавор». А давялося галасаваць за незалежнасьць. Імпічмэнт якраз і вымагаў рашучых дзеяньняў ад яго ініцыятараў.

*...Калі ня будзе хутка аб'яўлены імпічмэнт — можа быць страчана ўсё. На вас ляжыць вялікі абавязак. Добра, каб вы яго рэалізавалі. Патрабаваньне імпічмэнту будзе падтрымана актыўнымі палітычнымі сіламі, асабліва БНФ.*

*Сілы законнасьці павінны забясьпечыць сабе ў будучыні (у выпадку адсутнасьці імпічмэнту) праўную дарогу ліквідацыі наступстваў рэфэрэндуму і аўтарытарнага рэжыму. Таму важна падтрымаць імкненьні наладзіць вельмі жорсткі*



Пазьняк на сувязі зь Менскам. Звычайна ён пісаў заявы ад рукі, я набіраў іх на кампутары і выдрукоўваў на прынтары, і факсам мы перасылалі іх у Беларусь.

*кантроль і «задакумэнтаваць» з датрыманьнем усіх працэдураў усе парушэньні законаў на ўсіх стадыях рэфэрэндуму. Гэта потым дапаможа не прызнаваць рэфэрэндум, вярнуць законнасьць, Канстытуцыю і парлямэнтарызм.*

*Зычу Вам посьпехаў на адказнай пасадзе Старшыні Вярхоўнага Савету. Я памятаю нашую размову і Вашыя абяцаньні пра мову.*

*З павагай — Зянон Пазьняк.*

*8.09.1996. Нью-Ёрк.*

Праз два дні Пазьняк зьвярнуўся ужо да ўсіх дэпутатаў Вярхоўнага Савету:

*Падтрымліваю і вітаю вашыя станоўчыя ініцыятывы па захаваньні законнасьці і абароне парлямэнтарызму ў Рэспубліцы Беларусь. Але ў гэты пагрозьлівы для грамадзтва час адчуваю абавязак зьвярнуцца да вас як грамадзянін Беларусі, як былы*

*дэпутат Вярхоўнага Савету, як старшыня Народнага Фронту.*

*...Калі рэфэрэндум адбываецца — рэжым перамагае. Ніякія выбары і давыбары ня будуць тады ўжо мець значэньня (ня трэба ў іх і ўдзельнічаць), бо зьменіцца Канстытуцыя... Калі пастанова аб імпічмэнце тэрмінова ня будзе прынятая, Вярхоўны Савет 13-га скліканьня гэтым самым падпіша прыгавор сабе і прыгавор нацыі. У краіне не застанецца тады ніякай улады і ніякай сілы, якая б магла легітымна спыніць беззаконьне і дыктатуру.*

Запозьненасьць у палітычным супрацьстаяньні можа зьвесьці намаганьні на нішто. Да лістапада, хоць Лукашэнку і ўдавалася трымаць ініцыятыву ў барацьбе зь Вярхоўным Саветам, парлямэнт, хай і не заўсёды своечасова, але знаходзіў нейкі адэкватны адказ. Пасьля рэфэрэндуму 1996 году дэпутаты, якія не пяройдуць да Лукашэнкі, заявяць аб працягу дзеяньня Вярхоўнага Савету як прадстаўнічага легітымнага органа. Іх прызнае Захад, яны атрымаюць такую падтрымку і такую ўвагу, якой нават ня мелі, калі засядалі ў 1996-м у Авальнай залі. Яны будуць прымаць цалкам слушныя пастановы — але пастановы гэтыя ўжо ня будуць выконвацца дзяржаўнымі органамі ў Беларусі і захаваюць важнасьць толькі для гісторыкаў і, магчыма, будучых працэсаў у Канстытуцыйным судзе.

Пазьняк пісаў дэпутатам:

*Ня трэба баяцца, што пасьля аб'яўленьня імпічмэнту ўзурпатар ужыве сілу і «распусьціць» Вярхоўны Савет. Беззаконьнем, сілай Вярхоўны Савет не распускаецца. Імпічмэнт, прыняты парлямэнтам, стане законным актам. Усе дзеяньні ўзурпатара пасьля імпічмэнту (калі яны ўзьнікну-*

*ць), у тым ліку і правядзеньне рэфэрэндуму, ня будуць мець легітымнага характару. Рэжым авантурыстаў будзе пазбаўлены ўсялякіх пэрспэктываў, страціць усялякую падтрымку.*

*Падкрэсьліваю: рэфэрэндум Лукашэнкі накіраваны на легітымізацыю дыктатуры. Імпічмэнт жа пазбаўляе яго гэтай магчымасьці. Аб'явіць імпічмэнт можа толькі Вярхоўны Савет.*

*Спадары дэпутаты, рэальнасьць такая, што лёс нацыі сёньня ў вашых руках і часу амаль не засталося. Зрабіце хутка патрэбны крок для Беларусі. Выканайце свой абавязак перад законам, краінай і будучыняй.*

*11 верасьня 1996 г.*

Гэтая спроба лідэра БНФ апэляваць да дэпутатаў Вярхоўнага Савету выразна зьняпраўджвае ацэнкі, якія давалі Пазьняку ў тыя дні некаторыя незалежныя выданьні, спрабуючы стварыць у грамадзкай сьвядомасьці імідж палітыка канфліктнага, няздольнага да супрацоўніцтва з ідэйнымі апанэнтамі.

*Неацэнную паслугу Лукашэнку можа аказаць яго шчыры і зацяты праціўнік Зянон Пазьняк, адыграўшы ролю гэтакай міны з дыстанцыйным кіраваньнем. Валодаючы тым жа мэнталітэтам пасіянарыя, але апынуўшыся ўдалечыні ад Радзімы і партыі, Зянон Станіслававіч відавочна пачаў нэрвавацца. Яму мрояцца замовы КДБ, здрада паплечнікаў і дзікунскае жаданьне астатніх дэмакратаў уехаць у палітычны рай на чужым гарбе. Таму не выключаю, што ў чарговым факсе на імя «кіраўніцтва БНФ не ў эміграцыі» будзе дакладнае ўказаньне: у кантакты зь іншымі партыямі не ўступаць. Такое ўказаньне абсалютна здольны даць чалавек, які ўжо бачыць перамогу на заўтраш-*

*ніх выбарах. Выбралі Ельцына, выберуць Клінтана, ну няўжо ж ня выберуць і Пазьняка? А таму ніякіх — нават часовых! — саюзаў зь лібэраламі, эсдэкамі, камуністамі і аграрыямі. Мы пойдзем іншым шляхам! Пажадана да Палацу спорту, каб зрабіць псыхалягічны ціск на дэлегатаў веча. Вось напужаюцца! Праўда, зь перапуду не пачалі б страляць* (Аляксандар Фядута, «БДГ»).

На самой справе Пазьняк, наадварот, настойваў на як мага шчыльнейшым кантакце лідэраў БНФ з дэпутатамі. Праўда, далёка ня ўсе дэпутаты гэта ўспрымалі; хаця пасьля вясны-96, калі Фронт вывеў на вуліцы дзясяткі тысяч людзей, на яго ўжо не глядзелі як на «арганізацыю ўчорашняга дня», але самаўпэўненасьці ў дэпутатаў хапала.

Дэпутатамі ўшчыльную занялася Адміністрацыя прэзыдэнта, выкарыстоўваючы ўсю моц дзяржаўнай машыны — ад спэцслужбаў да СМІ.

«Падыходы да дэпутатаў былі розныя. Адных запалохвалі нібыта існуючымі супраць іх кампрамэтуючымі матэрыяламі, якія пагражалі абнародаваць. Іншым пагражалі, што зьнімуць з працы іх саміх альбо іх блізкіх родных. Трэцім абяцалі падвышэньне па службе і стварэньне спрыяльных умоваў для працы. Для большасьці абароненых дэпутатаў з савецкім мэнталітэтам гэтага было дастаткова», — піша Мечыслаў Грыб («Белорускій мост», с. 115) і дадае: «Большасьць дэпутатаў ня верыла ў сілу закону, а верыла ў сілу ўлады».

А ўвосень 96-га закон і азначаў ужо значна меней, чым сіла.

«Разбуральная праца ў Вярхоўным Савеце вялася адкрыта, — працягвае Грыб. — Яе ўзначальвалі дэпутаты У. Канаплёў — кіраўнік фракцыі «Згода»

(«Согласие») і Ю. Малумаў — намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету, таксама ад фракцыі «Згода» (с. 115).

10 кастрычніка Вярхоўны Савет з удзелам Лукашэнкі абмяркоўваў пытаньні рэфэрэндуму. «Чаго толькі не гаварылася і ўголас, і пісьмова! — абураўся Лукашэнка. — І пра маё імкненьне да дыктатуры, і пра тое, што я ня ведаю, куды весьці краіну, і пра тое, што я хачу быць пажыцьцёвым прэзыдэнтам».

Цікава, як бы зрэагавалі дэпутаты, калі б тады, у кастрычніку 96-га, ім сказалі, што праз дваццаць чатыры гады, у жніўні 2020-га, Лукашэнка будзе «перавыбірацца» на шосты тэрмін? І ці паверыў бы ў гэта сам Лукашэнка (тое, што ён пра падобнае мог марыць, у мяне няма сумневу)?

На наступны дзень, 11 кастрычніка, на сэсіі парлямэнту выступіў старшыня Канстытуцыйнага суду Валер Ціхіня і заявіў, што ў выпадку прыняцьця прэзыдэнцкага варыянту Канстытуцыі «мы будзем мець у цэнтры Эўропы таталітарны рэжым з усімі яго атрыбутамі. У нас будзе кастрыраваны парлямэнт, у нас будзе кішэнны Канстытуцыйны суд і таму падобнае. Мы атрымаем поўную міжнародную ізаляцыю, калі гэты праект зробіцца заўтра Асноўным законам».

Так, фраза «Мы будзем мець у цэнтры Эўропы таталітарны рэжым» — гэта ўжо ня з нашага з Пазьняком артыкулу. Яе аўтар не актывіст апазыцыі, не дэмакратычны дэпутат у Вярхоўным Савеце. Яе прамовіў прафэсійны юрыст, доктар юрыдычных навук, член-карэспандэнт АН, былы міністар юстыцыі, перакананы камуніст (у нядаўнім мінулым — сакратар ЦК); той, хто яшчэ зусім нядаўна ў статусе дэпутата ў папярэднім скліканьні абараняў



Удзельнікі кангрэсу «У абарону дэмакратыі» 18 кастрычніка



У прэзыдыюме кангрэсу «У абарону дэмакратыі» – Юры Захаранка, Генадзь Карпенка, Генадзь Бураўкін, Станіслаў Шушкевіч, Георгі Таразевіч

Лукашэнку, хто быў ім вылучаны на пасаду старшыні Канстытуцыйнага суду.

Ціхіня прапанаваў абодвум бакам кампрамісны варыянт: і Вярхоўны Савет, і прэзыдэнт адклікаюць свае варыянты Канстытуцыі. Лукашэнка на гэта не пагадзіўся.

Прыгадваючы выступ Ціхіні, Мечыслаў Грыб піша, што «калі б гэтыя словы прагучалі з вуснаў старшыні Вярхоўнага Савету альбо ягонага намесьніка, а ня з вуснаў старшыні Канстытуцыйнага суду, яны маглі б больш важыць. Аднак ні старшыня Вярхоўнага Савету, ні ягоныя намесьнікі ня здолелі даць такой дакладнай і яснай юрыдычнай ацэнкі праекту Канстытуцыі, як гэта зрабіў доктар юрыдычных навук, прафэсар, член-карэспандэнт Акадэміі навук В. Ціхіня (с. 118).

Такую ж, толькі больш разгорнутую і падрабязную, ацэнку прэзыдэнцкаму варыянту далі мы



Мітынг у абарону дэмакратыі. Менск, 19 кастрычніка 1996

з Пазьняком у артыкуле, які паслалі ў Менск і які, як я ўжо згадваў, ня быў надрукаваны. Але, калі, як сьведчыць Грыб, для дэпутатаў недастаткова важка гучалі словы нават кіраўніка Канстытуцыйнага суду, што ўжо казаць пра нас, пра экс-дэпутатаў, якія ў сьвядомасьці дэпутатаў дзейных былі «ніхто». Вось калі б сьпікер ці віцэ-сьпікер, кажа Грыб...

У пятніцу 18 кастрычніка ў Менску дэмакратычныя сілы ў Палацы прафсаюзаў правялі кангрэс «У абарону дэмакратыі».

А на наступны дзень, 19 кастрычніка, на плошчы перад Опэрным тэатрам сабраліся тысячы людзей. У арганізацыі мітынгу ня бралі ўдзелу камуністы.

Дэвіз быў «У абарону Канстытуцыі — супраць дыктатуры».

У той жа самы дзень у Палацы спорту Лукашэнка сабраў «агульнабеларускі народны сход».

Адмовіўшыся пайсьці на лукашэнкаўскі сход, Шарэцкі адначасна катэгарычна адмовіўся ісьці і на кангрэс дэмакратычных сілаў, і на мітынг, якія праводзіў Народны Фронт, заявіўшы на сэсіі: «Я не пайду на кангрэс... Я не пайду і на Ўсебеларускі сход... На мітынг я таксама не пайду».

І не пайшоў.

## Практыка вулічных баёў з Грознага едзе ў Менск

Да мітынгу ўлады падрыхтаваліся сур’ёзна. Напэўна, ні да адной акцыі апошніх гадоў не было мабілізавана гэтулькі войска і міліцыі, а таксама нейкіх спэцыфічных карных падразьдзяленьняў. Былі і сабакі.

За дзень да мітынгу па Менску разьляцеўся спэцвыпуск газэты «Свабода» — на адной старонцы, як улётка. У ёй быў зьмешчаны дакумэнт, перададзены ў рэдакцыю, як было пазначана ў камэнтары, «сумленнымі людзьмі».

Я ведаю, што многія ў Менску былі шакаваныя тым тэкстам, але нас з Пазьняком ён ні ў якой ступені не зьдзівіў. Як, думаю, і іншых былых дэпутатаў Апазыцыі БНФ, якім давялося адчуць на сябе ўдары і зьдзекі афіцэраў спэцслужбаў у ноч з 11 на 12 красавіка 1995 году.

«Дакумэнт рэдакцыя атрымала позна ў чацьвер, калі пятнічны нумар „Свабоды“ ужо друкаваўся,

і нам нічога не заставалася, як зрабіць сёньня вось такі спэцвыпуск», — гаварылася ў рэдакцыйным артыкуле.

Гэта была дакладная запіска начальніка баявой падрыхтоўкі корпусу аховы намесьніку камандуючага ўнутранымі войскамі «О результатах выполнения распоряжения по подготовке сил и средств к охране общественного порядка 19-20 октября 1996 года».

З дакумэнту вынікала, што структуры Міністэрства ўнутраных справаў гатовыя да сапраўдных баявых дзеяньняў на вуліцах сталіцы, і праціўніка яны бачылі ў мірных людзях.

Вось фрагмэнты дакумэнту (стылістыка захаваная):

*...Личный состав готов к выполнению любых задач, в самой сложной обстановке.*

*Огневые группы из расчёта 4 снайпера и 12 автоматчиков в каждом элементе боевого порядка подготовлены и готовы к применению оружия по хулиганствующим элементам. Требования УБС о порядке применения оружия изучены и приняты зачёты под роспись.*

*Боевая техника: бронетранспортёры, БРДМ согласно ранее проводимого расчёта подготовлены, обслуживание произведено. Боезапас: 1 комплект боевой, 2 — холостых.*

*Группы применения специальных средств «Черёмуха», «Ольха» и «Омут» подготовлены. На специальном полигоне в районе населённого пункта Мстиги Заславского района проведено их боевое слаживание. Дополнительно получено на армейских складах п. Речица специальное средство под*

*кодовым названием «Пион». Группа применения его готова....*

*Вместе с тем в силу того, что его применение может поразить большое количество людей, в т.ч. женщин и детей, считаю целесообразным применять его только в исключительном случае.*

*Специалистов-инструкторов отряда «Витязь» (г. Ростов-на Дону) прибывших для подготовки офицерского состава практике уличных боёв в г. Грозном целесообразно использовать во всех частях и подразделениях специального назначения с целью увеличения охвата личного состава для подготовки.*

*Водомёты и пожарные машины корпуса в количестве 24 шт. к действиям готовы. Расчёты подготовлены. Сектора обстрела определены. Подключение к пожарным гидрантам на местах будет проведено в течение 3-5 минут.*

*Специалисты служебно-разыскных собак и служебных животных будут использованы только централизовано и при прорыве толпой милицейских заслонов в направлении Дворца спорта.*

*Всего служебно-разыскных собак 73. Место сосредоточения: подсобное хозяйство учебного центра «Воловщина».*

*Фильтрационный пункт на войсковом стрельбище «Воловщина» готов принять до 2,5 тыс. задержанных. Условия для размещения имеются. Охрана организована. Инженерные и технические работы проведены. Выделенные 2 вертолётные эскадрильи из МО целесообразно передать войсковой части 3214...*

*С целью качественного выполнения поставленных задач прошу дополнительно выделить:*

*По 2 заправки ГСМ на ПТ-76 (22 шт.);*

*49 «КамАЗов» для переброски в г. Минск милицейских частей, дислоцирующих в областных центрах.*

*Специальные средства «Амур» и «Тополь» из расчёта на каждого офицера и прапорщика.*

*Начальник боевой подготовки корпуса охраны полковник А.А. Шкун.*

«Прачытаўшы дакладную запіску палкоўніка Шкуна, кожны з нас цяпер лепш разумее сэнс хваробы таго чалавека, які сёньня кіруе нашай краінай», — камэнтавала рэдакцыя «Свабоды».

Рэдакцыя прасіла чытачоў зьвярнуць увагу на тое, што на тэрыторыі Беларусі знаходзяцца расейскія інструктары, якія вучаць беларускія падразьдзяленьні спэцназу тактыцы вулічных баёў, улічваючы досьвед вайны ў Чачэніі.

«У нас былі зьвесткі, што Лукашэнка прасіў генэрала Лебедзя дапамагчы, у тым ліку інструктарамі, але мы не знаходзілі гэтаму пацьверджаньня, таму не публікавалі інфармацыі. Цяпер, як бачым, Лебедзь выканаў просьбу нашага авантурыста», — пісалася ў рэдакцыйным камэнтары «Свабоды» і выказвалася спадзяваньне, што, публікуючы дакумэнт, яны «сарвалі пляны авантурыстаў і суботняя акцыя пратэсту ў абарону Канстытуцыі і супраць дыктатуры пройдзе мірна».

У той жа дзень, калі выйшаў адмысловы выпуск «Свабоды» з тэкстам дакладной запіскі, ён трапіў у Авальную залю, і а 14-й гадзіне на сэсію Вярхоўнага Савету прыйшлі намесьнікі кіраўнікоў сілавых ведамстваў. Незалежныя журналісты ацанілі іх выступы як няўцямныя.

Першы намесьнік міністра ўнутраных спраў Юры Тарабрын заявіў, што з дакумэнтам не знаёмы і адначасна сказаў, што дакумэнт складзены не ў адпаведнасьці з прынятымі нормамі ўнутраных дакумэнтаў МУС.

Апошняе сьцьвярджэньне, сам таго не жадаючы, зьняпраўдзіў камандуючы ўнутранымі войскамі Юры Сівакоў, які ў той жа вечар заявіў па тэлевізіі, што аўтар дакумэнту знаёмы з усімі правіламі афармленьня ўнутранай дакумэнтацыі міністэрства.

На мітынгу, які прайшоў 19 кастрычніка і сабраў некалькі тысяч удзельнікаў, генэрал Юры Захаранка заявіў, што верыць у сапраўднасьць апублікаванага «Свабодай» дакумэнту. «Захаранка, — заявіў на наступны дзень Лукашэнка на „ўсенародным сходзе“, — размахваючы чарговай фальшыўкай, крычаў пра тое, што ўлада рыхтуе гвалт!»

Мы з Пазьняком не сумняваліся, што дакумэнт сапраўдны, бо яшчэ паўтара года раней аўтаматчыкаў і спэцназ бачылі не на вуліцах, а ў залі парлямэнту, і ня проста бачылі, а адчулі на сваім целе. Калі войскі ўвялі ў парлямэнт і пабілі дэпутатаў — што магло перашкодзіць вывесьці іх на вуліцу і прымяніць супраць мітынгоўцаў?

Аднак ні спэцвойскаў, ні сабак супраць мітынгоўцаў гэтым разам не прымянілі. Наколькі мне вядома, больш гэты чалавек — «палкоўнік А.А.Шкун» — нідзе публічна не засьвяціўся.

Цалкам магчыма, што якраз дзякуючы публікацыі дакумэнту той раз абышлося без разгону і сабак.

## Ямо «экалягічна чыстыя амэрыканскія прадукты»

У 1998 годзе некаторыя асобы з атачэньня Барыса Ельцына паспрабуюць «зандаваць» грамадзкую думку на прадмет вынасу з Маўзалею цела Леніна (гэта Ельцын мог зрабіць у першыя дні пасьля правалу путчу ў жніўні 91-га). Але ў жніўні 98-га здарыцца дэфолт, рэйтынг Ельцына абрынецца і будзе не да Леніна.

А вось Лукашэнка скажа, што, калі Ленін не патрэбен Маскве, ён гатовы забраць яго ў Менск. Выкажацца толькі аднойчы, але тыя словы камэнтатары і сатырыкі будуць успамінаць так доўга, што ў інтэрнэце нельга будзе адшукаць першакрыніцу.

З маўзалеем не атрымаецца, аднак шмат у чым астатнім савецкую герархічную сыстэму зь яе атрыбутамі Лукашэнку аднавіць удасца. І адным з важных такіх атрыбутаў будуць «усенародныя сходы» — копія зьездаў КПСС.

Першы адбыўся 19-20 кастрычніка 1996 году ў Палацы спорту. Форум арганізавалі без такой доўгай падрыхтоўкі, як усесаюзныя партыйныя зьезды, але з такой жа колькасьцю «дэлегатаў» (пяць тысяч), і такой жа эфэктыўнасьцю — усе ўдзельнікі былі падрыхтаваныя да аднагалоснага ўхваленьня і аплядысмэнтаў правадыру.

Лукашэнка адкрыў сход кароткім выступам, у якім адразу абазначыў непрыманьне прынцыпаў парлямэнтарызму:

*Мы не ставим под сомнение значимость системы западного парламентаризма, однако считаем, что реализация общедемократических ценностей в каждой конкретной стране должна соответство-*



У дзеяннях і намерах А. Лукашэнкі прысутнічаюць прыкметы плануемага ім крымінальнага злачынства — падмены законна дзеючага парламенту сходам жыхароў і схіленьне тым самым азначаных грамадзян Беларусі да ўдзелу ў дзяржаўным пераваротце і ў антыправавых дзеяннях супраць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Прашу Вас прыняць неабходныя меры. Кожны ўдзельнік сходу згодна існуючых правілаў павінен быць асабіста папярэджаны пракурорам аб адказнасьці за антыканстытуцыйныя дзеяньні, што пагражаюць законнаму парадку ў дзяржаве, і аб узбуджэньні супраць яго крымінальнае справы ў выпадку ігнараваньня ім законаў і вынікаючых з гэтага цяжкіх наступстваў.

Зянон Пазьняк

12 кастрычніка 1996 г.

Зварот Пазьняка да генэральнага пракурора Васіля Капітана наконт «усебеларускага народнага сходу»

*вать её историческому опыту и вековому укладу народной жизни... Для белорусов — это прежде всего великая традиция общенародного вече, на котором издревле решались самые сложные вопросы. Именно с целью услышать ваше мнение, всего народа о путях развития Республики и сообща принять*

*важнейшие решения я выступил инициатором созыва первого Всебелорусского народного собрания.*

У часы Полацкага княства сапраўды існаваў народны сход гараджанаў, які прымаў рашэньні (што адметна, князь ня меў права жыць у рысе гораду). То быў так званы старажытнарускі пэрыяд. Але пазьней у Беларусі была ўжо значна больш дасканалая форма, якую якраз і можна лічыць парлямэнтарызмам — я маю на ўвазе Вялікае Княства Літоўскае і яго Сойм. Калі я зьвярнуўся па кансультацыю да гісторыка Сяргея Абламейкі, ён нагадаў, што ў нас дзейнічала ня толькі Магдэбурскае, але і Саксонскае права, з судовай сыстэмай, якая прадугледжвала спаборніцтва бакоў. Але пра такую «традыцыю» прарасейскія сьпічрайтэры і памочнікі Лукашэнкі не пажадалі ўспамінаць.

Галоўнай, вядома, была заява пра тое, што цяпер у Беларусі будзе «асаблівы шлях» да таго, што яе ўладар разумеў пад дэмакратыяй. Пазьней «асаблівым шляхам», пракладзеным Лукашэнкам, пойдзе кіраўнік Расеі Ўладзімір Пуцін, які вынайдзе формулу для падобнага — «сувэрэнная дэмакратыя».

На сходзе выступілі каля трыццаці дэлегатаў, але галоўным, вядома, быў даклад Лукашэнкі.

Пачаў Лукашэнка з таго, што памкненьнем беларускага народу назваў не прагу да незалежнасьці, а жаданьне жыць у імпэрыі:

*В нашей недавней истории много трагических примеров, когда люди, стоявшие у власти, нагло и цинично растаптывали желания и чаяния своего народа. А расплачивались за это всегда простые люди. Все вы помните — в 1991 году мы подавляющим большинством высказались за сохранение Советского Союза. В основе такого выбора были*

*и здравый смысл, и мудрость белорусского народа. Люди сердцем чувствовали, что и чернобыльскую беду, и другие невзгоды легче и быстрее можно преодолеть в составе великой страны, вместе с братскими народами.*

Меў на ўвазе Лукашэнка рэфэрэндум аб захаваньні СССР, які адбыўся 17 траўня 1991-га. Вось толькі ў Беларусі ён быў прызначаны з парушэньнем заканадаўства, ды і прыхільнікам незалежнасьці слова ў СМІ не далі.

Спасылка на Чарнобыль выглядала асабліва цынічна. У чэрвені 1990-га дэпутат Лукашэнка прысутнічаў у Авальнай залі пры абмеркаваньні чарнобыльскай праблемы, калі кіраўнікі рэгіёнаў (натуральна, камуністы) скардзіліся, што Беларусь не атрымлівае ад «цэнтру» (гэта значыць ад Масквы) патрэбнай дапамогі. Чуў ён і пра тое, што да 1991 году Беларусь пералічвала сродкі, выдаткаваныя на ліквідацыю наступстваў аварыі на ЧАЭС, у саюзны фонд, а адтуль атрымлівала значна меней. Пра гэтую заганную практыку пісала нават афіцыйная прэса. Кіраўніцтва БССР разумела абсурднасьць сытуацыі, але баялася ня выканаць распараджэньня Масквы.

*Но правители у мудрого народа оказались далеко не мудрыми людьми. Высокомерно проигнорировав волю народа, они с лёгкостью подписали в Вискулях клочок бумаги и сделали то, чего не могла сделать огромная военная машина фашистской Германии. Великая страна, вышедшая победительницей из самой страшной в истории войны, оказалась беззащитной перед политическими авантюристами. Их безответственность обернулась горем и нищетой для миллионов людей. Посмотрите —*

*на огромных просторах бывшего Советского Союза разгорелись кровавые конфликты, миллионы людей стали беженцами, подвергается разграблению то, что создавалось трудом народа.*

*А что выиграл белорусский народ в результате «исторических соглашений в Вискулях» (как любят выражаться наши национал-экстремисты)?*

*И не моя вина в нынешней ситуации, а моя боль и беда, корни которой зарыты в Беловежской пуще.*

Каторы ўжо раз утварэньне незалежнай Беларусі і распад Саюзу Лукашэнка называў катастрофай для народу, але параўнаньне з гітлераўскай машынай прагучала, здаецца, упершыню.

Ну а далей прамоўца перайшоў на асобы — натуральна, у самай зьняважлівай танальнасьці.

*Наш народ один на один остался с чернобыльской бедой. В отличие от господ Наумчика и Позняка, перешедших на экологически чистые американские продукты, белорусский народ живёт на своей земле. Если раньше нам, белорусам, помогал весь Союз, то сегодня мы можем рассчитывать на свой скудный бюджет.*

*Экономика Беларуси, бывшей сборочным цехом Союза, была поставлена на грань катастрофы. Каждый из нас на себе чувствует последствия этого «исторического соглашения». А Шушкевич и иже с ним, сотворив всё это, продолжают поучать белорусский народ. Но, думаю, им уже не удастся ещё раз обмануть людей.*

І панеслася:

*«Газеты и другие СМИ полны заявлений господ Богданкевича, Климова, Карпенко о приближении экономической катастрофы».*

*«Один из бывших, кто сегодня называет себя борцом за права человека, Юрий Захаренко, ещё будучи министром, несколько раз выходил с предложением, чтобы я своими указами изменил уголовный закон. Мало того, что таких полномочий у меня нет, предложения министра носили „костоломный“ характер и возвращали нас к обстановке 37-го года. Это тот самый человек, который был выдворен из МВД за строительство за миллиарды рублей дворца для своего личного отдыха. Это тот самый Захаренко, который вчера* (на мітынгу. — С.Н.)*, размахивая очередной фальшивкой, кричал о том, что власть готовит насилие!»*

*«Самые большие трудности для белорусской внешней политики создаёт та грязь, которую льёт на нашу страну выезжающая за рубеж наша доморощенная политическая оппозиция. Позняки, наумчики, шушкевичи, таразевичи, богданкевичи, гилевичи, а теперь Новиков и Шарецкий калякают* (тут ужо намёк на Калякіна. — С.Н.)*, пытаясь оказать давление на здравомыслящих политиков на Западе и Востоке, запугивая их угрозой диктатуры. Явно зачастили в последнее время за рубеж господа Лебедько, Карпенко, Кравченко, Тихиня...»*

Тое, што найбліжэйшыя дарадцы Лукашэнкі, члены ўраду, кіраўнікі спэцслужбаў не вылазілі з Масквы, лічылася нармальным. Расея ўспрымалася не як «замежжа», а як «свая» краіна.

*«Когда депутаты Лебедько и Кравченко в Совете Европы ходатайствуют об отсрочке приёма Беларуси в эту организацию, они объективно смыкаются с позицией добровольных эмигрантов Позняка и Наумчика, которые призывают Америку не давать нам кредиты.*

*Они равнодушны к тому, что в результате такой политики страдают не правительство, не президент, которого они ненавидят, а белорусский народ, в любви к которому они клянутся».*

*«Я совсем недавно — вчера или позавчера — увидел знакомые лица в российской Думе. И, сидя у телевидения, просто изумился. Дракохрусты и прочие майсени, которые три года назад (поднимите подшивку) были лютыми врагами русского человека, поехали искать поддержку у русских против Лукашенко. Слушайте, такого, таких чудес, такого беспардонного бесстыдства история ещё не знала».*

І яшчэ некалькі цытатаў, якія адлюстроўвалі стаўленьне Лукашэнкі да нацыянальных каштоўнасьцяў, канстытуцыйнай законнасьці, прынцыпаў дэмакратыі і правоў чалавека.

Пра канстытуцыйнасьць:

*«Весной заставляю платить зарплату к какому-то сроку, осенью заставляю платить к какому-то сроку. Вот тут я нарушаю Конституцию. Это я вам говорю перед лицом всей страны. Но Конституционный суд никогда меня за это не осудил. Потому что он давно превратился в политический орган и боится осудить там, где глава государства хоть и нарушает закон, но действует в интересах народа».*

Гэта ўжо была атака ня толькі на парлямэнтарызм і на Вярхоўны Савет, але і на Канстытуцыю. Лукашэнка прама заявіў, што парушае Канстытуцыю, але робіць гэта ў «інтарэсах народу».

І калі сапраўды тэксты выступаў Лукашэнкі пісалі ў тым ліку і адмыслоўцы ў галіне нэўралінгвістычнага праграмаваньня, з улікам узьдзеяньня на

падсьвядомасьць — гэты пасаж мусіў закласьці ў людзей перакананьне, што Канстытуцыі і іхнія інтарэсы — рэчы несумяшчальныя. І што вырашыць гэтую супярэчнасьць можа толькі Лукашэнка.

Ліквідацыяй адной з супярэчнасьцяў. Ці абедзьвюх адразу.

## Кіраўнікі прадпрыемстваў забараняюць беларускую мову

Быў у новага «тырана Беларусі» вораг куды больш магутны, чым «нацыянал-радыкалы» і БНФ, чым Канстытуцыя і Вярхоўны Савет.

Узьнік ён задоўга да таго, як чалавецтва прыдумала паняцьці «канстытуцыйная законнасьць», «падзел уладаў», «парлямэнтарызм». Узьнік як сродак паразуменьня паміж людзьмі — спачатку ў справах простых, як здабываньне ежы, як спосаб абараніцца ад ворага, і ўжо пазьней — як спосаб дамовіцца, а праз шмат-шмат часу — каб сьцьвердзіць сваё права «людзьмі звацца».

Гэтым ворагам была мова. Беларуская мова, чуючы якую ад суразмоўцы, як прыгадваю яшчэ зь першых сустрэч вясной 1990-га, у Лукашэнкі перасмыкаўся твар, нібыта ён паспытаў лімон.

І, атрымаўшы самую высокую ў краіне пасаду, менавіта па беларускай мове нанёс Лукашэнка свой першы самы моцны ўдар.

*Вспомните 1995 год, майский референдум. Вы помните? Было абсолютно то же. «Общество расколется. Что этот Лукашенко делает? Нация погибнет. Беларускую мову зьніштожым».*

*Что произошло? Что плохого, что сегодня гражданин... выбирает тот язык, на котором он хочет говорить и обучать своих детей?.. Погибла беларуская мова? Ни в коем случае не погибла. Наоборот, тенденция осознания, тенденция самасьвядомасьці, тенденцыя популяризации беларускай мовы сегодня растёт. Но не под давлением, потому что когда давишь — всегда получаешь эффект обратный, эффект бумеранга.*

Гэты пасаж Лукашэнкі на «ўсебеларускім народным сходзе» пракамэнтую словамі двух нацыянальных дзеячоў, якія прагучаць празь некалькі месяцаў пасьля выступу Лукашэнкі, на Другім зьезьдзе беларусаў сьвету.

Ніл Гілевіч, народны паэт Беларусі:

*Імпэрашавіністы і запраданцы авалодалі палітычнай сытуацыяй у краіне і разгарнулі шалёна-апантаную дзейнасьць, скіраваную на ліквідацыю сувэрэннай, незалежнай дзяржавы — Беларусь.... Сёньня ў афіцыйным друку нямала пішацца аб тым, што нібыта ў 1990–1994 гг. у нас праводзілася гвалтоўная беларусізацыя. Хачу рашуча запярэчыць, што гэта няпраўда. Не было ніякай патрэбы ў прымусовасьці і гвалце. Як толькі людзі адчулі свабоду і атрымалі Закон аб мове, яны самі адразу ж павярнуліся душой і сэрцам да роднага слова, да нацыянальнай культуры, да вытокаў і каранёў свайго гістарычнага быцьця. Далі б і цяпер магчымасьць на ўвесь голас гаварыць праўду па радыё, тэлебачаньні, і мы ўбачылі б, як людзі пачалі б вызваляцца ад туману, хлусьні і дэмагогіі* (Другі і трэці зьезды беларусаў сьвету, Менск, «Беларускі кнігазбор», с. 40, 42).

Радзім Гарэцкі, акадэмік, прэзыдэнт Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына»:

*За апошнія тры гады назіраецца вялікі адкат ад беларускасьці, асабліва інтэнсіўна пасьля абодвух рэфэрэндумаў... Цяпер ідзе фактычнае зьнішчэньне беларускамоўнага навучаньня. Сёньня ўжо менш 20% дзетак займаюцца па-беларуску. У Менску няма ніводнага беларускамоўнага садка, ніводнай цалкам беларускамоўнай школы. У адзінага ў Беларусі беларускамоўнага ліцэя адбіраюць будынкі. Тая ж доля пагражае Дому пісьменьніка — сапраўднаму прытулку беларускай мовы. Навучаньне ў ВНУ амаль скрозь рускамоўнае. Вельмі рэдкія навуковыя ўстановы і арганізацыі культуры, дзе можна пачуць беларускую мову... Усюды дакумэнтацыя вядзецца амаль цалкам па-руску. Кіраўнік дзяржавы за тры гады кіраваньня толькі тры разы і выступіў па-беларуску! Дзе ва ўсім сьвеце можна знайсьці яшчэ такую краіну?*

Працытаваў Гарэцкі і дакумэнт, які стаўся вынікам пазыцыі вышэйшай улады ў дачыненьні да беларускай мовы:

*Нядаўна газэта «Народная воля» пад рубрыкай «SOS» надрукавала загад кіраўніка Наваполацкай ЦЭЦ Уладзімера Лебедзева: «В связи с тем, что большинство работников ТЭЦ не владеет в совершенстве белорусским языком, и в соответствии со ст. 17 Конституции Республики Беларусь, которая определяет государственными языками в РБ белорусский и русский, приказываю: 1. Всему руководящему составу управления ТЭЦ, начальникам цехов, отделов и служб оперативную и техническую документацию вести только на русском языке. 2. Зам. директора по кадрам внести соответствующие*

*изменения по делопроизводству. 3. Приказываю объявить всем работникам ТЭЦ». Як кажуць, камэнтарыі залішнія.* (Другі і трэці зьезды беларусаў сьвету, Менск, «Беларускі кнігазбор», ст. 15-16)

Упершыню ў жыцьці запярэчу шаноўнаму Радзіму Іванавічу Гарэцкаму, добрымі шматгадовымі адносінамі зь якім ганаруся — у гэтым выпадку камэнтар якраз патрэбен. Забясьпечыць вывучэньне беларускай мовы работнікамі мусіла якраз улада, а кіраўніцтва прадпрыемства абавязана было стварыць належныя для гэтага ўмовы — у адпаведнасьці з Законам аб мовах, прынятым у студзені 1990-га. Шэсьць гадоў для гэтага было цалкам дастаткова. І другое: той жа закон, які тады яшчэ дзейнічаў у поўным аб’ёме, абавязваў спадара Лебедзева весьці дакумэнтацыю па-беларуску.

Але кіраўнікі адкрыта ігнаравалі закон у часы Кебіча, а з прыходам Лукашэнкі тыя, хто ня проста індыфэрэнтна, а варожа ставіўся да беларускай мовы, атрымалі карт-бляншн. Вышэй працытаваным пасажам на «народным сходзе» Лукашэнка даў зразумець: ніякай дадатковай падтрымкі мова і нацыянальная культура не патрабуюць.

Увогуле, выступ Лукашэнкі на «народным сходзе» вызначыў (як потым выявілася, на дзесяцігодзьдзі) стаўленьне ўлады да нацыянальнай гісторыі з праімпэрскіх, пракамуністычных, фактычна сталінісцкіх пазыцый:

*Президент на этот референдум вносит вопрос: перенести с 27 июля, когда фашист Кубе подписал соответствующий указ о символике и белорускости нашей державы, с этого дня на 3 июля, день освобождения нашей Беларуси, праздник, главный*

*национальный праздник, чтобы его все праздновали.*

Быў пацьверджаны курс на збліжэньне з Расеяй:

*Дружба с Россией — это гарантия суверенного существования нашего государства.... Хочу подчеркнуть, что сближение с Россией находится в русле самых современных мировых тенденций развития. Посмотрите, как объединяется Европа: создаются наднациональные органы управления, единое законодательство, вводится единая для стран Европейского Союза валюта. Все понимают, что это магистральный путь развития цивилизации.*

І, нарэшце, Лукашэнка заявіў, якая мадэль дзяржавы будзе выбраная:

*Дирижёр в стране нужен всегда, как бы кому-то не нравилось. В семье, в маленькой семье нужен какой-то глава семьи... А вы хотите, чтобы миллионы людей жили в государстве, и в этом государстве не было вот этого, мягко говоря, дирижёра, главы... Выбросьте из головы вот это равновесие, балансы, противовесы, издержки — это должно быть между ветвями власти. Но ведущий должен быть всегда, который наделён определёнными теми полномочиями, которые вы дадите.*

Такім чынам, падзел уладаў — выканаўчай, заканадаўчай і судовай — можа фармальна заставацца (хаця лепей бы пра яго забыцца), але над усімі — ён, галоўны.

І ўсе гэтыя прапановы пяць тысяч адфільтраваных удзельнікаў сходу сустрэлі воплескамі. Праз пэўны час некаторыя зь іх будуць лічыць за лепшае ня згадваць пра свой удзел.

## Віктара Ганчара выправаджваюць

Як толькі мы атрымалі статус палітычнага прытулку, адразу ж запоўнілі патрэбныя анкеты для атрыманьня так званага «падарожнага дакумэнту», зь якім можна было пакінуць тэрыторыю Злучаных Штатаў. Статус палітуцекачоў даваў нам абарону; да таго ж цяпер, як нам здавалася, усё, што можа здарыцца з намі, было б сьпісана на лукашэнкаўскія спэцслужбы і мела б куды больш шырокі розгалас, чым раней. Таму, здавалася нам, забіваць нас цяпер яны не адважацца. Праўда, Пазьняк ацэньваў сытуацыю, як я потым зразумеў, больш цьвяроза і казаў, што выключаць нельга нічога.

Мы не зьбіраліся жыць у Амэрыцы бязвыезна і ўвогуле лічылі, што Лукашэнку застаецца няшмат, магчыма, некалькі месяцаў. На карысьць гэтага была і інфармацыя пра тое, што ўзмацняюцца настроі супраць яго і ў кіроўнай эліце.

У выпадку імпічмэнту Лукашэнкі і ягонага сыходу мы зьбіраліся вярнуцца ў Менск. Мы дамовіліся пра гэта яшчэ ў ліпені, калі падавалі заяву на палітычны прытулак , і больш да гэтай тэмы ў ракурсе «паедзем ці не» не вярталіся: ясна, што паедзем. Пытаньне — калі.

Адказ на яго залежаў ад падзеяў у Менску.

20 кастрычніка Пазьняк ізноў зьвярнуўся да Шарэцкага:

*Паважаны Сямён Георгіевіч.*

*Я хацеў бы пазнаёміць вас зь меркаваньнямі, якія, магчыма, мелі б для вас пэўны інтарэс.*

*На мой погляд, нельга дапусьціць, каб шляхам грубага парушэньня Канстытуцыі зноў была*

*створана сытуацыя, як з ганебным рэфэрэндумам 1995 г.*

*Пытаньне аб рэфэрэндуме, прызначаным на 24 лістапада, павінна быць перагледжана і прыведзена ў адпаведнасьць з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. (Гэта зразумела і без суду.) У артыкуле 149, ч.2 сказана, што «зьмяненьні і дапаўненьні Канстытуцыі могуць быць праведзены праз рэфэрэндум». А калі так, то кожнае зьмяненьне і дапаўненьне павінна галасавацца асобна як самастойнае пытаньне. Агулам галасаваць немагчыма. І законы, і Канстытуцыя галасуюцца паартыкульна. Гэткая працэдура існуе паўсюдна і абумоўленая самім прадметам галасаваньня. На рэфэрэндум жа, які прызначаны 24 лістапада, вынесены не папраўкі і зьмяненьні, а новая Канстытуцыя, дзе іншая колькасьць артыкулаў, ёсьць новыя главы, заменены іх парадак і г.д. Канстытуцыя не выносіцца на рэфэрэндум.*

*Я ведаю, што вы зьвярнуліся ў Канстытуцыйны суд. Не сумняваюся, што рашэньне Суду будзе нармальнае і праекты Канстытуцыі (лукашэнкаўскай і камуністаў) будуць вернутыя на належнае афармленьне зьмяненьняў і дапаўненьняў.*

*Мяркую, што мае рацыю В. Ганчар, калі кажа пра неабходнасьць прыняцьця пастановы ВС аб пераносе дадатковых выбараў і рэфэрэндуму на больш позьні тэрмін у сувязі зь невыкананьнем неабходных умоваў выканаўчай уладай.*

*19 кастрычніка адпаведныя колы плянавалі ўжыць зброю, ваенную сілу і сабак супраць людзей у Менску. Гэта абурае. Ня толькі пракуратура, але і спэцыяльная камісія Вярхоўнага Савету магла б*



Спадару Старшыні
Вярхоўнага Савета
Рэспублікі Беларусь
Сямёну Георгіевічу
Шарэцкаму.

Зянон Пазьняк,
старшыня БНФ

20. кастр. 1996.

Паважаны Сямён Георгіевіч.

Я хацеў бы пазнаёміць Вас з меркаваннямі, якія, магчыма, маюць для Вас пэўны інтарэс.

На мой погляд нельга дапусьціць, каб шляхам грубага парушэньня Канстытуцыі зноў была створана сытуацыя як з ганебным рэферэндумам 1995 г.

Пытаньне аб рэферэндуме, прызначаным на 24 ~~кастрычніка~~ лістапада павінна быць перагледжана і прыведзенае ў адпаведнасьць з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. (Гэта зразумела і без суда). У артыкуле 149, ч. 2 сказана, што „зьмяненьні і дапаўненьні Канстытуцыі могуць быць праведзены праз рэферэндум". А калі так, то кожнае зьмяненьне і дапаўненьне павінна галасавацца асобна як самастойнае пытаньне. Агулам галасаваць немае-

Ліст Пазьняка да Шарэцкага

*расьсьледаваць гэты факт. Пытаньне пра імпічмэнт паўстае з новай сілай.*

*Паважаны Сямён Георгіевіч, толькі ініцыятыўны парлямэнт і рашучыя пасьлядоўныя палітыкі дасягаюць посьпеху.*

*Зычу Вам усяго найлепшага.*

*З павагай — Зянон Пазьняк. 20 кастрычніка 1996 г.*

4 лістапада Канстытуцыйны суд вырашыў, што пытаньне аб зьменах Канстытуцыі не павінна выносіцца на абавязковы рэфэрэндум. 14 лістапада Вярхоўны Савет абмяркоўваў пытаньне «Аб найгрубейшым парушэньні заканадаўства Рэспублікі Беларусь пры правядзеньні рэспубліканскага рэфэрэндуму».

Пералічыўшы парушэньні з боку выканаўчай улады (практычна ўсё рабілася без уліку меркаваньня Цэнтральнай выбарчай камісіі), старшыня ЦВК Віктар Ганчар сказаў, што «у адпаведнасьці зь дзейным заканадаўствам галасаваньне можа быць прыпынена ў выпадку ўвядзеньня надзвычайнага становішча. Вам меркаваць, менавіта Вярхоўнаму Савету, ёсьць у нас элемэнты надзвычайнага становішча альбо не».

Мечыслаў Грыб ацэньвае гэтыя словы як прапанову Вярхоўнаму Савету скасаваць ранейшае рашэньне аб прызначэньні рэфэрэндуму. Але дэпутаты гэтага не зрабілі. І, больш за тое, вырашылі сабрацца на сэсію толькі 20 лістапада, перад самым рэфэрэндумам. Як зазначае Мечыслаў Грыб, «гэта была тактычная памылка кіраўніцтва Вярхоўнага Савету» (с. 123).

Старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктар Ганчар заявіў, што не падпіша выніковага пратако-



РЭФЕРЭНДУМ

**Ганчар не падпіша пратакол рэферэндуму**

Сітуацыя вакол рэферэндуму разгортваецца настолькі імклі- ва, што літаральна кожны дзень дае новыя факты ў агульную карціну бессаромных парушэн- няў заканадаўства. Кожная за- ява старшыні Цэнтрвыбаркама міжволі становіцца сенсацый- най.

*«Цэнтрвыбаркам не можа прызнаць тую прававую вакха- налію, якая адбываецца ў пер- шыя дні галасавання... Я афі- цыйна пацвярджаю: пакуль на кожным участку для галасаван- ня не будзе абодвух праектаў зменаў і дапаўненняў у кансты-*

Публікацыя ў газэце «Свабода»

лу рэфэрэндуму. У той жа дзень, калі Вярхоўны Савет адмовіўся ад прапановы Ганчара скасаваць сваё ранейшае рашэньне аб прызначэньні рэфэрэндуму, Лукашэнка падпісаў указ аб адхіленьні Віктара Ганчара ад абавязкаў старшыні ЦВК.

На гэта прэзыдэнт ня меў ніякага права: паводле Канстытуцыі, старшыню ЦВК прызначае Вярхоўны Савет. Афіцыйныя СМІ паведамілі, што з прапановай замяніць старшыню ЦВК да прэзыдэнта зьвярнуліся дзевяць членаў камісіі. Як потым высьветлілася, папраўдзе дзевяць членаў ЦВК выклікалі ў Адміністрацыю прэзыдэнта, дзе кіраўнік адміністрацыі Міхаіл Мясьніковіч і ягоны намесьнік Сазонаў прапанавалі падпісаць падрыхтаваную адміністрацыяй заяву.

Выводзіць Ганчара з будынку ЦВК зьявіўся начальнік Галоўнай управы дзяржаўнай аховы

палкоўнік Цесавец — той самы, які ў ноч з 11 на 12 красавіка 1995-га спрабаваў выправадзіць нас, дэпутатаў-галадоўнікаў, з Авальнай залі.

«Я выканаю ўказ прэзыдэнта да канца», — заявіў Цесавец перад тэлекамэрамі.

Служба аховы прэзыдэнта паспрабавала выцягнуць Ганчара зь ягонага кабінэта ў будынку ЦВК — не атрымалася. Пра тое, што адбывалася ў той дзень у Менску, я ў Нью-Ёрку слухаў па Радыё Свабода, выйшаўшы з дому на вуліцу (так лепей лавілася) і прыціснуўшы прымач да вуха. Пазьней, праз гады, я праслухаў рэпартажы ўжо ў архіўным запісе.

Ганчар:

*Сёньня намесьнік начальніка ўпраўленьня аховы аб’ектаў падпалкоўнік Сыраквашка спрабаваў прымяніць меры фізычнага ўзьдзеяньня для таго, каб мяне затрымаць. Але, на жаль, у мяне дастаткова самавітая спартовая фігура для таго, каб гэта было рэалістычным. Натуральна, што ніякага тэксту ўказу няма, і ўказ мяне менш за ўсё цікавіць, бо я службовая асоба, якая падпарадкоўваецца закону, а не ўказам, якія выдадзены зь перавышэньнем канстытуцыйных паўнамоцтваў.*

Да будынку ЦВК на вуліцы Кастрычніцкай прыбылі дэпутаты парлямэнту на чале з Шарэцкім, якога прэзыдэнцкая ахова спачатку не пускала ў памяшканьне. Шарэцкі заявіў журналістам пра канстытуцыйны пераварот. Але ня толькі. «Злачынцы! Робяць злачынства!» — абурыўся Шарэцкі (другі, паводле Канстытуцыі, чалавек у дзяржаве).

Да ЦВК падыходзілі актывісты Народнага Фронту, і ўжо праз гадзіну сабралася некалькі сотняў чалавек (нагадаю, што сацыяльных сетак не было,

мабільных тэлефонаў у звычайных людзей — таксама).

Выканаўца абавязкаў старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі заклікаў менчукоў падтрымаць ЦВК і Вярхоўны Савет:

*У краіне робіцца дзяржаўны пераварот, і абавязак кожнага чалавека, які бароніць дэмакратыю, незалежнасьць, сёньня ўвечары прыйсьці на плошчу Незалежнасьці. Мэта гэтай акцыі — паказаць, што народ ня сьпіць і народу гэты рэжым надакучыў.*

Калі на вуліцы Менску былі выведзеныя бронетранспартэры, Сямён Шарэцкі зачытаў зварот да беларускага народу, да членаў ураду і супрацоўнікаў сілавых структураў, да сусьветнай супольнасьці:

*Робіцца ўсё больш відавочна, што Лукашэнка стаў на шлях антыканстытуцыйных рашэньняў, не спыняецца ні перад чым. Адно парушэньне закону нараджае другое. Ажыцьцяўляецца жудасны экспэрымэнт масіраванага ўзьдзеяньня на сьвядомасьць і падсьвядомасьць людзей манапалізаванымі Лукашэнкам сродкамі масавай інфармацыі. Грамадзяне Рэспублікі пазбаўленыя магчымасьці зрабіць асэнсаваны і аб’ектыўны выбар. Па сутнасьці, рэфэрэндум ператвараецца ў фарс.*

*Паважаныя суайчыньнікі! Мы зьвяртаемся да вас з просьбай зрабіць усё магчымае, каб не дапусьціць усталяваньня дыктатуры на Беларусі. Не дапусьціць масавых распраў і рэпрэсій над людзьмі, якія думаюць інакш, чым Лукашэнка і ягонае атачэньне.*

Дэпутаты Вярхоўнага Савету пачалі зьбіраць подпісы за імпічмэнт прэзыдэнту.

Пазьняк ізноў заклікаў кіраўніцтва Фронту «трымаць» Плошчу. Зьвярнуўся Пазьняк і да грамадзянаў Беларус, заклікаўшы ісьці на плошчу Незалежнасьці з патрабаваньнем неадкладнага імпічмэнту.

Нашыя паплечнікі ў Менску прыклалі вялікія высілкі, каб сабраць людзей і ля будынку Цэнтарвыбаркаму, калі адтуль «высялялі» старшыню ЦВК Ганчара, і ля Дому ўраду.

У тыя дні на хвалях Свабоды мы пачулі рэпартаж з плошчы.

— Скажыце, зь якой мэтай прыйшлі сюды людзі? — пытаўся карэспандэнт прэсавага сакратара сьпікера парлямэнту.

— Яны прыйшлі падтрымаць Вярхоўны Савет, — адказала сакратар.

Але людзі, прынамсі актывісты БНФ (іх была большасьць) прыходзілі зь іншай мэтай — не падтрымаць, а патрабаваць. Патрабаваць імпічмэнту.

Але сьпікер Шарэцкі ў самы крытычны момант заклікаў людзей з плошчы разысьціся.

## Рыхтуецца імпічмэнт, адбудзецца пераварот

У Менску працягвалі зьбіраць подпісы за імпічмэнт.

Як прыгадвае тагачасны дэпутат Павал Знавец, ініцыятарам збору подпісаў была фракцыя «Грамадзянскае дзеяньне», якая ў асноўным складалася з членаў Аб’яднанай грамадзянскай партыі. Зьбіралі подпісы старшыня партыі Станіслаў Багданкевіч, намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету Генадзь Карпенка і дэпутат Генадзь Цярэня.

Такую працэдуру мне давялося рабіць двойчы. Першы раз — у 1993-м, за правядзеньне рэфэрэндуму аб далучэньні Беларусі да сыстэмы калектыўнай бясьпекі СНД (АДКБ). Мяне папрасілі пра гэта дарадцы Шушкевіча, які сам не хацеў ініцыяваць рэфэрэндум. Тады збор подпісаў быў спынены, бо Шушкевіч адмовіўся ад сваёй ідэі, але наўрад ці мне ўдалося б сабраць патрэбную колькасьць (сабраў крыху больш за сотню, а трэба было ад траціны дэпутацкага корпусу, гэта на той момант 115). Другі раз можна лічыць удалым. У пачатку 95-га, калі з Алегам Трусавым мы зьбіралі подпісы за завядзеньне ў Канстытуцыйным судзе справы аб манапалізацыі прэзыдэнтам сродкаў масавай інфармацыі (патрэбныя 70 подпісаў сабралі, працэс адбыўся, суд прызнаў, што Лукашэнка дапусьціў парушэньне, і абавязаў яго адклікаць сваё рашэньне. Чаго той, зразумела, не зрабіў).

У 1993-м і 1995-м асобна падыходзілі да кожнага дэпутата і прасілі паставіць подпіс. Гэтак жа рабілі Карпенка і ягоныя паплечнікі ў 96-м, але была адна розьніца.

Я прапаноўваў ставіць подпісы на лістах адзін за другім (так, як мы зьбіралі подпісы пад заявамі апазыцыі), як звычайна, пазначаючы і нумар акругі. Набіралася недзе тры ці чатыры лісты: на першым уверсе было абгрунтаваньне, а на астатніх — толькі пазначэньне ўверсе, за што ставяцца подпісы. Гэтага здавалася дастаткова. Ва ўсялякім разе, у Канстытуцыйнага суду ня ўзьнікла сумневу ў аўтэнтычнасьці подпісаў (ня памятаю нават, ці трэба было іх усе разам заверыць у сакратарыяце Вярхоўнага Савету; магчыма, што і не).

Подпісы ж за імпічмэнт зьбіраліся на асобных лістах, гэта значыць, кожны дэпутат расьпісваўся асобна.

Зь юрыдычнага пункту гледжаньня розьніцы ніякай. Але пры такой сыстэме дэпутат ня бачыць хаця б частку тых, хто ўжо падпісаўся да яго, роўна як і ня ведае дакладна, якім па ліку ён ставіць подпіс. І мусіць даверыцца (калі спытаецца) інфармацыі таго, хто зьбірае подпісы.

Потым даводзілася чуць, што пры такой сыстэме дэпутатам псыхалягічна было прасьцей адклікаць свой подпіс.

Але куды большае значэньне — і палітычнае, і псыхалягічнае — мела тое, што старшыня Вярхоўнага Савету паставіў свой подпіс апошнім, прычым ужо тады, калі патрэбная іх колькасьць была сабраная.

Тым часам камуністы, агітуючы супраць Лукашэнкавага рэфэрэндуму, не забываліся пра яшчэ страшнейшага стратэгічнага праціўніка — лідэра БНФ.

У Віцебск на пашыраны пленум абласной арганізацыі партыі камуністаў прыехалі першы намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету Васіль Новікаў і першы сакратар ЦК ПКБ Сяргей Калякін. Ім давялося тлумачыць, чаму лідэры партыі не падтрымліваюць прэзыдэнта і ягоныя канстытуцыйныя прапановы.

Выступаючы з нэгатыўнай ацэнкай Лукашэнкі, Новікаў «па-бальшавіцку шчыра» патлумачыў:

*Конституцию Лукашенко не поддерживаю потому, что на место Александра Григорьевича завтра может сесть кое-кто другой. Например, Зенон Позняк. Особенно если «чеченский кризис» приведёт к массовому приходу «голубых касок»*



Лявону Баршчэўскаму, Юрасю Беленькаму, Вінцуку Вячорку, Станіславу Гусаку, Юрыю Хадыку, Вячаславу Сіўчыку, Валянціну Антанашынскаму, Алесю Бяляцкаму, Віктару Карнеенку, Анатолю Крывароту –

Паважаныя калегі!

Дэмакратычная Амэрыка, эміграцыя зь Беларусі, Украіны, Польшчы з захапленьнем сочаць за змаганьнем Народнага Фронту за правы чалавека і незалежнасьць супраць прамаскоўскага антыдэмакратычнага рэжыму.

На Беларусі цяпер адбываецца дзяржаўны пераварот, кульмінацыя якога чакаецца 24 лістапада. Вымушаны яшчэ раз паўтарыць тое, што казаў тры дні назад.

Істотна зьмяніць становішча могуць цяпер толькі патрабаваньні вуліцы аб імпічменце Лукашэнкі і пастанова парламенту аб імпічменце. Вывесьці людзей на вуліцу можа

толькі Народны Фронт.

Ліст Пазьняка да кіраўнікоў БНФ

*ООН на территории российского соседа, заокеанские друзья помогут Зенону Станиславовичу подъехать вовремя в Беларусь. А полномочия у него по новой Конституции будут огромные...* («Віцьбічы», 17 лістапада 1996).

Пры такіх настроях аднаго з кіраўнікоў Вярхоўнага Савету марна было спадзявацца, што і парады Пазьняка будуць успрынятыя, і фронтаўцы на Плошчы не здадуцца дэпутатам статыстамі (таму ў самы крытычны момант ім скажуць: «Разыходзьцеся!»).

Зь ліста Пазьняка да кіраўніцтва БНФ:

*На Беларусі цяпер адбываецца дзяржаўны пераварот, кульмінацыя якога чакаецца 24 лістапада. Вымушаны яшчэ раз паўтарыць тое, што казаў тры дні назад.*

*Істотна зьмяніць становішча могуць цяпер толькі патрабаваньні вуліцы аб імпічмэнце Лукашэнкі і пастанова парлямэнту аб імпічмэнце. Вывесьці людзей на вуліцу можа толькі Народны Фронт.*

*Аднак складваецца ўражаньне, што кіраўніцтва БНФ недастаткова займаецца апэратыўнай арганізацыяй людзей на мітынгах і зборах.*

*Абсалютна недапушчальна, каб сьпікер парлямэнту ці які-небудзь дэпутат выходзіў і ўгаворваў людзей разысьціся. Накіроўваць і адказваць за мерапрыемства павінен арганізатар — Народны Фронт, яго кіраўніцтва і яго прадстаўнікі.*

*Народ выходзіць на плошчу не абараняць слабы парлямэнт, вінаваты ў шмат якіх нашых бедах, а патрабаваць ад яго выканаць Канстытуцыю і пачаць працэдуру імпічмэнту. Патрабаваць цьвёрда і грозна.*

*...Ня трэба слухаць канфармісцкія разважаньні дэпутатаў. Хай вяртаюцца ў залю і прымаюць рашэньні. Гэтаму парлямэнту засталося існаваць сем дзён, а «парлямэнтары» яшчэ, відаць, нічога не разумеюць.*

*Прашу вас рабіць усё, як трэба: мусіць быць плян сходу, арганізатары, адказныя кіраўнікі ад БНФ за мерапрыемства. Людзі павінны іх ведаць, павінны быць інфармаваныя аб мэтах і г. д., пры неабходнасьці на месцы мусіць быць створана грамадзкая ахова збору людзей (успомніце 24-25 жніўня 1991 г.).*

*Дарагія сябры! Ведаю пра вашу ахвярную працу і прашу не крыўдаваць за катэгарычнасьць...*

*Зянон Пазьняк, 18 лістапада 1996 г., 7 гадзін па менскім часе.*

Тым часам у Менску нарэшце сабралі патрэбную для пачатку разгляду ў Канстытуцыйным судзе справы аб парушэньнях прэзыдэнтам Канстытуцыі колькасьць дэпутацкіх подпісаў.

Як прыгадаў у размове са мной у лістападзе 2001-га Міхаіл Пастухоў, заяву дэпутатаў з подпісамі, мяняючы аўтамабілі, прывёз былы міністар унутраных спраў Юры Захаранка.

Пазьняк жа зьвярнуўся да людзей на плошчы:

*Не падтрымка парлямэнту, а — патрабаваньне!*

*Беларусь не забылася, што гэты парлямэнт амаль аднагалосна ратыфікаваў ганебную здраду — антыканстытуцыйны пакт Лукашэнкі — Ельцына. Беларусь не забылася, што асобы, якія ходзяць цяпер у дысыдэнтах, напралом прывялі Лукашэнку да ўлады, топчучы ўсё людзкае, беларускае.*

*Беларусь бачыць, як у час змаганьня так званыя «дэмакраты» адзін за другім шмыгаюць у Маскву,*



Алесь Бяляцкі спрачаецца зь Сямёнам Шарэцкім, які заклікае людзей на плошчы разысьціся

*прапануюць свае паслугі — «дэмакратычна» прадаць Беларусь. Не пакаяньне патрэбна ад іх Беларусі, а адкупленьне і справа.*

*Змыйце ганьбу, спадары-дэпутаты!*

*Аб'явіце імпічмэнт Лукашэнку!*

*Парлямэнту засталося існаваць некалькі дзён. На іхнім баку права. Закон, Канстытуцыя, абавязак перад нацыяй і вольныя людзі. Чаму яны не спыняюць узурпацыю і дыктатуру!? Чаму не выконваюць свой сьвяты канстытуцыйны абавязак!?*

*Паважаныя спадары і спадарыні! Калі зь Вярхоўнага Савету спусьціцца зноў хтосьці да вас і пераканаўча пачне ўгаворваць вас разысьціся, накіруйце яго назад просьценька ў Авальную залю і зрабіце наказ, каб ішоў працаваць і прымаць рашэньні. І каб без патрэбы не выходзіў. Ня ён вас зьбіраў, не яму вас і распускаць.*

(Як у ваду глядзеў — да людзей выходзіў Шарэцкі і заклікаў разысьціся. Маўляў, мы, дэпутаты, усё зробім самі.)

*...Дарагія сябры! Дарагія змагары! Маё сэрца з вамі. Не пакідайце плошчы, пакуль парлямэнт не распачне працэдуру імпічмэнту і пакуль не завершыць яе. Памятайце, лёс Беларусі на вашых плячах.*

*Падтрымлівайце Беларускі Народны Фронт! Верце яму, ён ніколі вам не здраджваў. Ён заўсёды быў за Беларусь. Верце тым, хто дзеля Бацькаўшчыны ахвяраваў сваёй крывёй, асабістай свабодай і родным домам. Верце тым, хто сьмелы, хто змагаецца і цярпіць.* (19 лістапада 1996. Нью-Ёрк, 7 гадзін па менскім часе).

І вось зь Менску даляцела вестка — дэпутаты сабралі патрэбную колькасьць подпісаў для пачатку працэдуры імпічмэнту.

19 лістапада група дэпутатаў Вярхоўнага Савету была запрошаная да Лукашэнкі. У выніку 62 дэпутаты падпісалі заяву, у якой падтрымалі прэзыдэнта. У працы Вярхоўнага Савету яны не ўдзельнічалі, у выніку 20 лістапада ў Авальнай залі адсутнічалі 90 дэпутатаў.

Гэта тое самае, што ў верасьні 1995 году зрабіў тагачасны кіраўнік адміністрацыі Леанід Сініцын, які загадаў залежным ад выканаўчай улады дэпутатам зрываць кворум, у выніку некалькі месяцаў краіна заставалася без найвышэйшага органу заканадаўчай улады.

Цяпер нешта падобнае здарылася і зь Вярхоўным Саветам 13-га скліканьня. Для кворуму (гэта значыць, каб дэпутаты маглі пачаць паседжаньне сэсіі і былі правамоцныя прымаць заканадаўчыя акты) патрэбна ня менш за дзьве трацціны дэпутатаў. Адсутнасьць 90 дэпутатаў не давала кворуму, і паседжаньне не магло лічыцца правамоцным для

прыняцьця рашэньняў. З прававога гледзішча гэта быў сход дэпутатаў.

Між тым менавіта ў гэты дзень дэпутатам абвясьцілі, што Канстытуцыйны суд пачаў вядзеньне справы аб парушэньні прэзыдэнтам Канстытуцыі.

У верасьні і кастрычніку 96-га мы з Пазьняком спадзяваліся, што зусім хутка, празь некалькі тыдняў, нарэшце зьявіцца магчымасьць вярнуцца ў Менск. Нават пачалі прыкідваць, ці варта перад гэтым заяжджаць у Варшаву ці ў Прагу, дзе былі нашыя сем'і, ці адразу ляцець на Радзіму. Я ўсё ж зарэзэрваваў білет на Прагу.

На жаль, ляцець далей, на Менск, не атрымалася.

## Кіраўнікі Вярхоўнага Савету глядзяць на Маскву з надзеяй

*Скорее в Москву!*
*Антон Чэхаў, «Тры сястры»*

Эпіграфы для асобных разьдзелаў у кнігах звычайна не ўжываюцца, але зраблю выключэньне.

І, перш чым перайсьці да разьвязкі сюжэту, хачу больш падрабязна спыніцца на «расейскім» фактары, які адыграў далёка не апошнюю ролю ў тым, што пазьней будзе названа «антыканстытуцыйным пераваротам».

Асаблівую трывогу выклікалі частыя вояжы сьпікера і ягоных намесьнікаў у Маскву, дзе раз за разам выказвалі імкненьне «інтэгравацца з Расеяй». Так, нас вельмі зьдзівіла, што ў часе паездкі ў Маскву Карпенка выпіў чарку з Жырыноўскім — мы,

дэпутаты БНФ, у 91-м спусьцілі Жырыноўскага зь лесьвіцы.

Ня думаю, што настроі дэмакратычных дэпутатаў, таго ж Карпенкі, можна было б назваць цалкам прарасейскімі — хутчэй яны ўспрымалі Маскву як цэнтар прыняцьця палітычных рашэньняў, ад якога ў Беларусі ўсё залежала.

Падставы для такога погляду, варта прызнаць, існавалі: усе яшчэ знаходзіліся пад уражаньнем вызваленьня Сіўчыка і Хадыкі пасьля званка Лукашэнку Ельцына. Намаганьні беларускага грамадзтва, лідэраў апазыцыі, сусьветна вядомых асобаў уключна з нобэлеўскімі ляўрэатамі эфэкту не давалі, а адно тэлефанаваньне з Крамля прыводзіла да імгненнага эфэкту.

Ад Крамля ў Беларусі ўсё яшчэ сапраўды залежала шмат — але ў немалой ступені яшчэ і таму, што палітыкі не ўсьведамлялі Беларусь незалежнай дзяржавай.

Калі чытаеш стэнаграмы Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, практычна не сустракаеш слова «краіна», толькі «рэспубліка». Не ў значэньні дзяржаўнага ўладкаваньня (манархія-рэспубліка), а ў тым, у якім яна была ў абрэвіятуры БССР — як частка СССР, дзе сталіца — Масква. Тое ж самае, зрэшты, можна сказаць і пра парлямэнт папярэдняга скліканьня. Ну а што тычыцца чыноўнікаў Адміністрацыі прэзыдэнта, ураду, абласных адміністрацый, дык многія ўвогуле ўспрымалі незалежнасьць як недарэчную часовую зьяву.

Безумоўна, наяўнасьць у якасьці суседкі вялізнай дзяржавы з імпэрскім мэнталітэтам і невычарпальнымі рэсурсамі ня можа ня ўплываць на паводзіны палітыкаў, але вызначальнае ўсё ж іншае: у якой

ступені гэтыя канкрэтныя палітыкі імкнуцца зьменшыць залежнасьць.

Літоўскія палітыкі да гэтага імкнуліся. У Беларусі ж такое жаданьне ў 1996-м выказвалі толькі нацыянальна арыентаваныя сілы, найперш БНФ, якія не былі прадстаўленыя ні ў парлямэнце, ні ў выканаўчых органах.

У чым прычыны такой веры ў Маскву?

Акрамя відавочных гістарычных (больш як два стагодзьдзі беларусы жылі пад Расеяй, гэта выпрацавала асаблівае стаўленьне да яе сталіцы), былі і чыста псыхалягічныя прычыны.

Нашыя аргумэнты тыя, хто называў сябе дэмакратамі, ведалі — мы іх паўтаралі бясконца. Але, магчыма, гэта якраз той выпадак, калі фраза «Гаварылі на розных мовах» мае літаральны сэнс: тое, што мы пераважна размаўлялі па-беларуску, выклікала ў іх непрыманьне ўжо на падсьвядомым узроўні: спрацоўвала нешта падобнае на сыстэму распазнаваньня самалётаў праціўніка «свой-чужы». Ведаю, што некаторыя не чыталі публікацый на беларускай мове выключна толькі таму, што для гэтага трэба было зрабіць пэўныя намаганьні.

У 90-х, параўноўваючы лідэраў БНФ, таго ж Пазьняка, зь дзеячамі «новай», «лібэральнай» апазыцыі (азначэньні могуць быць розныя; яны не залежаць ад сьветапогляду ці стаўленьня, скажам, да прыватнай уласнасьці на зямлю; галоўнае — яна не была «нацыянальнай», не вылучала нацыянальных каштоўнасьцяў, беларускай мовы ў тым ліку, як несумненных) — Багданкевічам, Карпенкам, Шлындзікавым; урэшце, Шарэцкім, аналітыкі пісалі, што калі франтаўцы ня маюць досьведу кіра-

ваньня вытворчасьцю ці буйнымі ўстановамі, дык «новыя» — маюць.

Гэта была праўда, хаця і ня цалкам (у Фронце і ў Ценевым кабінэце кіраўнікі прадпрыемстваў і інстытутаў былі, напрыклад акадэмік Радзім Гарэцкі, член-карэспандэнт НАН Іван Нікітчанка ці прафэсар Уладзімер Тарасаў).

Але «генэралы» вытворчасьці зрабілі кар'еру ў СССР, дзе ўсе галоўныя рашэньні прымаліся ў Маскве. І, як правіла, пераход на працу ў Маскву (у «саюзнае міністэрства») быў пажаданым этапам кар'еры. Нарэшце, некаторыя закончылі маскоўскія інстытуты ці падвышалі там прафэсійную кваліфікацыю; там былі сябры, частка іхняй уласнай біяграфіі — і па-чалавечы гэта зразумела. Ужо некалькі гадоў Беларусь была незалежная, а піетэт перад Масквой заставаўся.

Іншая справа — Пазьняк, якога ніколі і нішто ня зьвязвала з Масквой і з Расеяй (калі не лічыць абарону кандыдацкай дысэртацыі ў тагачасным Ленінградзе). Памятаю ягоны аповед пра наведваньне Масквы ў 1990 годзе — гатовы сцэнар для кінажанру, тэматыка і стылістыка якога займела ў дзевяностыя назоў «чарнуха». Пазьняк казаў, што ледзь там дыхаў, у той Маскве. Для Шарэцкага ці Калякіна расейскі прэм'ер Чарнамырдзін, акрамя іншага, быў і колішнім супрацоўнікам ЦК КПСС і саюзным міністрам. Для Пазьняка ЦК было — выпладнем пекла, а знаходжаньне ў савецкім ўрадзе ніякага піетэту не дадавала. Калі ў лютым 1991-га Гарбачоў прыйшоў у Авальную залю, Пазьняк, здаецца, быў адзіным дэпутатам, хто ня ўзьняўся з аплядысмэнтамі (я, як і іншыя, і падняўся і прывітаў Гарбачова, і потым яшчэ спрабаваў дамовіцца

зь ім на сустрэчу зь сябрамі чарнобыльскай камісіі). Для Пазьняка кіраўнікі Расеі паводле азначэньня былі палітычнымі праціўнікамі, калі ня ворагамі, і ўжо напэўна не дарадцамі і не арбітрамі.

Словам, кіраўнікі Вярхоўнага Савету (і ня толькі яны) з надзеяй глядзелі на Маскву, на Ельцына, на Чарнамырдзіна.

Да таго ж дэпутатаў супакойвалі і некаторыя палітычныя аглядальнікі: маўляў, Крэмль не падтрымае Лукашэнку ў ягонай спробе перавароту. Аляксандар Фядута пісаў у тыя дні ў БДГ:

*...Улічваючы значнасьць шматразова апісанага беларускімі палітолягамі расейскага фактару, можна ўявіць сабе, як менавіта будзе рэагаваць Віктар Сьцяпанавіч* (Чарнамырдзін. — С.Н.) *на ўвесь гэты беларускі пад'ём пераваротам. Тое, што падтрымкі ня будзе, прадэманстраваў адзінокі і бясплённы пералёт Лебедзя ў Віскулі і назад. Візыт выкінутага на абочыну рэальнай палітыкі Канстанціна Затуліна, прадстаўленага як зорка першай велічыні, паказаў, які будзе фармат узаемаадносінаў «Барвіхі» з «Драздамі». Нарэшце, візыт прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра і віцэ-прэм'ера Валерыя Кокарава паказаў, што ні з адным, ні з другім (ягоным магчымым пераемнікам) Чарнамырдзін ні пра што, акрамя платы за газ, размаўляць ня будзе! А значыць, ня будзе ён размаўляць і з прэзыдэнтам Беларусі.*

Але Чарнамырдзіну давядзецца размаўляць з Лукашэнкам. І нават угаворваць яго.

## Пішу так, што хоць да раны прыкладай

У лістападзе я пераслаў рэдактару «Свабоды» Ігару Герменчуку свой артыкул. Ён быў напісаны з максымальнай ляяльнасьцю да пазафронтаўскіх дзеячоў апазыцыі; як часам кажуць у такіх выпадках, «хоць да раны прыкладай». Я нават выбачыўся перад Ганчаром і Булахавым за тое, што нагадаў ім эпізоды іх палітычнай біяграфіі. Тэкст быў надрукаваны.

Зьмяшчаю яго зь невялікімі скарачэньнямі.

*Чарговы ўрок. Але ці на карысьць?*

*Калі ў студзені 1994 году Лукашэнка, Ганчар і Булахаў (даруйце, Віктар і Дзьмітры, але — было!) разам з Кебічам здымалі Шушкевіча, некаторыя дарадцы сьпікера супакойвалі самі сябе: «Нічога, як падыдзе час ставіць пытаньне на галасаваньне, Ельцын пазвоніць Кебічу і скажа: «Слава, не трогай Стася! А то, понимаешь, долги за газ к оплате предъявим». Калі б такі званок сапраўды адбыўся — заставацца б Шушкевічу сьпікерам, гэта безумоўна. Ды толькі крамлёўскі сябра маўчаў. Той выпадак павінен быў навучыць усіх нас, што сяброў у Крамлі быць ня можа.*

*Але не навучыў. У амэрыканскай газэце чытаю словы Багданкевіча: ніхто з дэпутатаў цяперашняга парлямэнту не выступае супраць беларуска-расейскага мытнага пагадненьня. Падумаў быў, што недакладна перадалі. Але купляю «Московские новости» — тая ж цытата, у інтэрвію Ларысе Саенка. Ларыса — журналіст прафэсійны і дакладны, прыйшлося паверыць. Якія выгады ад мытнага саюзу вы, Станіслаў Антонавіч, бачыце, калі толькі за няпоўныя два гады страты белару-*

*скай дзяржаве на адных толькі «іншамарках» на мільёны даляраў ідуць? У рэпартажы пра вынікі візыту Карпенкі ў Маскву — словы віцэ-сьпікера пра неабходнасьць інтэграцыі з Расеяй. Пра якую інтэграцыю вы кажаце, Генадзь Дзьмітрыевіч? Пры маўклівай згодзе парлямэнту аддалі Наваполацкі нафтаперапрацоўчы камбінат, мазырскі, на чарзе чыгунка, — куды ўжо больш шчыльна інтэгравацца? (*ніжэй даю тлумачэньне гэтай фразы. — С.Н., удакладненьне 2020 г.*)*

*Чым прадыктаваныя гэтыя словы — імкненьнем зьвярнуць на сябе ўвагу, спадабацца Маскве, займець саюзьнікаў? Саюзьнікаў — сярод каго? Прыгадаем, якія аптымістычныя прагнозы рабіліся некаторымі палітолягамі пасьля візыту ў Менск Зюганава і ягоных канфідэнцыйных гутарак зь беларускімі камуністамі. Самі сябе пераконвалі, што ў супрацьстаяньні прэзыдэнт — парлямэнт уплывовая палітычная сіла Расеі падтрымае буйнейшую фракцыю беларускага парлямэнту хоць бы з прычыны бальшавіцкай салідарнасьці. А вось вам, таварыш Новікаў і таварыш Калякін, падарунак ад «Красной пресни» — галасаваньне за выступ Лукашэнкі перад Дзяржаўнай Думай. Што там ваш менскі парлямэнтарызм, канстытуцыйная законнасьць перад расейскімі дзяржаўнымі інтарэсамі.*

*Тры гады таму, пасьля публікацыі ў «Народнай газеце» артыкула Пазьняка «О русском империализме и его опасности», шмат хто абураўся некамплімэнтарнымі выказваньнямі ў адрас некаторых маскоўскіх дэмакратаў. Цяпер, здаецца, ілюзіі адпалі. Ніводны з палітыкаў, якія завуць сябе «дэмакратамі», ніколі, ніводнага разу, не падтрымаў нават «скрозь зубы» незалежнасьць Беларусі.*

*Зрэшты, як і Ўкраіны, Малдовы ці Літвы. Выключэньне — Сяргей Кавалёў і Валерыя Навадворская. Але яны маюць толькі маральны ўплыў, а мараль, вядома, у нашых суседзяў палітыку не вызначае. Я думаю, гэты артыкул варта было б перадрукаваць сёньня — дыскусія пасьля публікацыі абяцае быць куды цікавейшай, чым тады.*

*І вось зноў некаторыя чакаюць, што калі ня Ельцын, то Чубайс, узброены інфармацыяй ад менскіх дэмакратаў, у час «Ікс» адправіць Лукашэнку ў палітычны нябыт. І зробіць стаўку на «здаровыя», «неантырасейскія» сілы. Але зь якой прычыны адмаўляцца Маскве ад Лукашэнкі? Дэмакратыю ён заціскае, правы чалавека? Гэты аргумэнт нічога ня варты, калі гаворка йдзе пра стратэгічныя інтарэсы Расеі...*

*Але ў дачыненьні да Беларусі гаворка йдзе пра больш важнае — інтарэсы ўласныя, якім падпарадкаваныя ўсе астатнія інтарэсы...*

*Незалежна ад нюансаў успрыняцьця расейскімі палітыкамі выступу Лукашэнкі ў Думе, нягледзячы на зьедлівыя камэнтары журналістаў, урэшце істэблішмэнт падтрымае яго пры любых абставінах. Зьмяніць Лукашэнку Масква пажадае толькі на таго, хто будзе згодны праводзіць тую ж палітыку здрады, але больш элегантна. Таму ня варта спадзявацца на Расею. У такіх варунках палітычная пэрспэктыва застаецца за тымі сіламі, якія будуць адстойваць нацыянальныя інтарэсы, не баючыся выглядаць непрывабнымі ў вачах тых, хто якраз, дарэчы, і паважае цьвёрдасьць.*

Мушу ўдакладніць, што ў канцы 96-га пра перадачу Расеі Мазырскага і Наваполацкага нафтаперапрацоўчых заводаў, а таксама Беларускай

чыгункі гаварылася як пра канчатковае рашэньне, і гэта абмяркоўвалася грамадзтвам. Аднак ні чыгунка, ні наваполацкі «Нафтан» перададзеныя не былі. А вось «Белтрансгаз» (стратэгічна важная для краіны сыстэма транспартаваньня газу), пра якую я ў артыкуле не згадаў, з 2011 году цалкам належыць расейскаму «Газпрому».

Ня ведаю, ці чыталі мой артыкул тыя, да каго я зьвяртаўся. Магчыма, і прачыталі.

## Прэм’ер Чыгір падае ў адстаўку

Раніцай 18 лістапада прайшло пасяджэньне Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету. Меркавалася, што гэта будзе сумеснае пасяджэньне разам з членамі калегіі Кабінэту міністраў (куды ўваходзілі прэм’ер і ягоныя намесьнікі). Аднак, акрамя самога прэм’ера, ніхто з членаў калегіі не прыйшоў.

Міхаіл Чыгір паведаміў, што накіраваў Лукашэнку прашэньне аб адстаўцы. Больш правільна было б гэта назваць ультыматумам, паколькі Чыгір назваў умовы, пры якіх быў гатовы адклікаць сваё прашэньне, і галоўнай была — адмова ад правядзеньня рэфэрэндуму. Нязгоду з рэфэрэндумам Чыгір патлумачыў парушэньнем прававых нормаў падчас яго арганізацыі.

Разам з Чыгіром у адстаўку пайшоў яшчэ адзін член ураду — міністар працы Аляксандар Сасноў. Заявіў пра пакіданьне пасады і намесьнік міністра замежных спраў Андрэй Саньнікаў.

Тое, што сышоў Сасноў, нас не зьдзівіла. Былы дэпутатам Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня, Аляксандар, хаця фармальна і не ўваходзіў у склад

Апазыцыі БНФ, часта падпісваў нашыя заявы. Ён быў адным зь пяці членаў Прэзыдыюму ВС (Шушкевіч, Садоўскі, Булахаў, Сасноў, Сьлямнёў), якія 19 жніўня 1991-га выступілі супраць праімпэрскага путчу. На прэзыдэнцкіх выбарах 1994 году Сасноў уваходзіў у каманду Пазьняка. Калі пасьля выбараў Сасноў атрымаў ад Лукашэнкі прапанову ўзначаліць Міністэрства працы, ён раіўся з Пазьняком. Старшыня БНФ лічыў, што ісьці да Лукашэнкі ня варта. Аднак Аляксандар усё ж прыняў прапанову.

У адстаўцы Саснова мы бачылі пацьверджаньне няслушнасьці ягонага рашэньня пайсьці на пасаду міністра; Аляксандар на ўласным досьведзе пераканаўся, чаго вартае высакароднае памкненьне быць карысным свайму народу ва ўмовах, калі краінай кіруе чалавек, для якога мае каштоўнасьць толькі асабістая ўлада.

А вось дэмарш Чыгіра мы ўспрынялі бязь нейкіх сымпатый да экс-прэм'ера, тое ж тычыцца і адстаўкі Саньнікава. Занадта сьвежы яшчэ ў памяці быў арганізаваны з дапамогай Саньнікава візыт Лукашэнкі ў Парыж, ну а Чыгір быў фігурантам дакладу Сяргея Антончыка пра карупцыю ў атачэньні Лукашэнкі (у якасьці кіраўніка банку, які, як сьцьвярджаў дакладчык, фінансаваў выбарчую кампанію дырэктара саўгасу «Гарадзец»). Акрамя таго, на Чыгіру як кіраўніку ўраду безумоўна ляжала палітычная адказнасьць за дзеяньні МУС пры разгоне мірных акцый пратэсту, пачынаючы з пабіцьця дэпутатаў БНФ.

Гэта натуральная рэакцыя палітыкаў падчас палітычнага працэсу, калі ён бурліць і ўспрымаецца ў тым ліку і эмацыйна (можа быць, найперш эмацыйна). Але цяпер, праз гады, мне той крок бачыц-

ца больш важным, асабліва з боку Міхаіла Чыгіра. Кіраўнік ураду выказаў публічна недавер прэзыдэнту, прычым у знак пратэсту супраць стратэгічнага курсу, які (і тое было ўжо ясна) вызначаў кірунак краіны на дзесяцігодзьдзі.

Адстаўка Чыгіра, Саснова і Саньнікава была моцным сыгналам чынавенству — што ёсьць людзі, гатовыя адмовіцца ад пасадаў дзеля прынцыпу. Сыгнал, вядома, быў пачуты, быў асэнсаваны, ды вось характару зрабіць тое самае не хапіла. З розных прычынаў. У тым ліку і «Нехта ж мусіў служыць Беларусі». Беларусі — ці рэжыму?

Пазьней Андрэй Саньнікаў паведаміць, што разам з Чыгіром мусілі пайсьці ў адстаўку 12 членаў ураду. Але не адважыліся.

У 1999-м Міхаіл Чыгір, які возьме ўдзел у «альтэрнатыўных» выбарах прэзыдэнта (пяцігадовы тэрмін Лукашэнкі, вызначаны Канстытуцыяй 1994 г., завяршаўся), будзе арыштаваны і больш як паўгода правядзе за кратамі. Прэзыдэнцкая ж кампанія 2010 году для Андрэя Саньнікава абернецца двума з паловай гадамі турмы.

Яшчэ перад тым, што ўвойдзе ў найноўшую гісторыю як «канстытуцыйны крызіс», Аляксандар Старыкевіч напісаў пра магчымыя наступствы рэфэрэндуму:

*Палітычная шпана, якая дарвалася да ўлады, імкнецца чыста крымінальнымі мэтадамі паставіць краіну пад поўны свой кантроль, усталяваўшы іх парадкі, больш характэрныя для зоны... І так будзе цягнуцца доўга ў выпадку перамогі прэзыдэнта на рэфэрэндуме... Сёньня яшчэ застаецца шанец спыніць агульнымі намаганьнямі катастрофу... У цяперашняй сытуацыі кожнаму давядзецца ра-*

*біць асабісты выбар. Альбо паспрабаваць прыдбаць сабе больш ці менш цёплае месца, прадаўшыся нікчэмнасьцям, якія разбураюць Беларусь, і жыць у сталай залежнасьці ад самадураў-кіраўнікоў і страху быць «кінутымі» імі... Альбо адрынуць эвангельле ад лукавага (якое прапаведуе эгаізм, гвалт і беспрынцыповасьць) і абраць ня менш рызыкоўны шлях супрацьстаяньня сілам цемры, якая згушчаецца над нашай краінай»* («Свабода», 17 верасьня 1996).

Чыгір, Сасноў і Саньнікаў свой выбар увосень 96-га зрабілі.

Зрабілі яго і адзінаццаць дэпутатаў, якія адклікалі свае подпісы за імпічмэнт. Як гэта адбывалася, на маю просьбу ў верасьні 2018-га прыгадаў Павал Знавец:

*На мяне ня ціснулі, бо бессэнсоўна было. А вось на іншых дэпутатаў — так. Найбольш сьмелыя зь іх выходзілі да мікрафона ў Авальнай залі і скардзіліся на «выкручваньне рук».*

*Дэпутаты з правінцыі прыводзілі сьведчаньні, калі спэцыяльныя машыны з уключанымі фарамі (і з танаваным шклом, каб не было відаць твараў). пад'яжджалі да іх дамоў ноччу. І доўга сьвяцілі быццам пражэктарам у вокны хаты. Пасьля такой «падсьветкі» ў галаве правінцыйнага старшыні калгасу і адначасова дэпутата ВС узьнікалі асацыяцыі з варанкамі 1937-га.*

*Некаторых выклікалі ў Адміністрацыю прэзыдэнта на «гутарку», ну і гэтак далей. Гэта быў псыхалягічны ціск. А дэпутаты Цярэшчанка, Лазавік, Навасяд і яшчэ сёй-той мітусіліся: то забіралі паперку з подпісам за імпічмэнт, то потым зноў яе аддавалі.*

*Напрыклад, Навасяд урэшце расплакаўся перад Васілём Шлындзікавым ад страху, што застанецца бяз працы і ні з чым з малым дзіцем на руках...*

*Цікава яшчэ тое, што мае сябры па фракцыі Жушма і Дубовік так і не падпісаліся за імпічмэнт, чым і заслужылі месца ў першай «палаце».*

Выбар, пра які пісаў Аляксандар Старыкевіч, як бачым, быў нялёгкім. Але ў крытычнай сытуацыі ён толькі такім і бывае.

## У Менску высаджваецца крамлёўскі дэсант

19 лістапада ў Канстытуцыйны суд былі перададзеныя 73 дэпутацкія подпісы за імпічмэнт Лукашэнку. А на наступны дзень адбылася яшчэ адна важная падзея. Але ня ў Беларусі.

20 лістапада ў Смаленску (Расейская Фэдэрацыя) Сямён Шарэцкі і Сяргей Калякін сустрэліся з прадстаўнікамі кіраўніцтва Расеі — старшынём Савету Фэдэрацыі Строевым, старшынём Дзяржаўнай Думы Селязьнёвым і віцэ-прэм’ерам Сяровым. Як сьведчыць Грыб, Вярхоўны Савет не ўпаўнаважваў Шарэцкага і Калякіна весьці перамовы: «гэта была ініцыятыва кіраўніцтва Вярхоўнага Савету».

Па вяртаньні з Расеі Шарэцкі заявіў дэпутатам, што мае намер разам з Калякіным сустрэцца з Лукашэнкам і праінфармаваць яго пра вынікі сустрэчы. Тады ж Шарэцкі паведаміў, што ў Менск накіроўваецца дэлегацыя — да Селязьнёва і Строева далучаецца кіраўнік расейскага ўраду Віктар Чарнамырдзін. Гэта былі другая, трэцяя і чацьвёртая асобы ў РФ — не хапала толькі Ельцына, але той ачуньваў пасьля апэрацыі на сэрцы.

«Шмат хто ўскладаў надзеі на дэлегацыю кіраўнікоў Расейскай Фэдэрацыі: дэпутаты былі перакананыя, што расейцы дапамогуць знайсьці выйсьце з палітычнага крызісу», — прыгадвае Мечыслаў Грыб (с. 132).

«Са зьдзіўленьнем даведваюся, што нехта надзяліў Шарэцкага, Карпенку, Калякіна нейкімі паўнамоцтвамі — заявіў дэпутат Анатоль Лябедзька. — Прачніцеся, шаноўныя! Не было такога паседжаньня, ніхто не надзяляў іх такімі паўнамоцтвамі!»

Цягам сутак адбыліся некалькі раўндаў перамоваў. Кіраўніцтва Вярхоўнага Савету (Шарэцкі, ягоны намесьнік Карпенка, старшыня міжнароднай камісіі Краўчанка і лідэр фракцыі камуністаў Калякін) сустракаліся са Строевым і Селязьнёвым, а Лукашэнка — з Чарнамырдзіным.

На першай сустрэчы былі выпрацаваныя прапановы ад Вярхоўнага Савету. «Кампрамісны» варыянт выглядаў наступным чынам: Лукашэнка скасоўвае ўказы, прызнаныя Канстытуцыйным судом неканстытуцыйнымі, усьлед за гэтым скасоўваецца працэдура імпічмэнту, на рэфэрэндуме праект Канстытуцыі, унесены прэзыдэнтам, мае не абавязковы, а кансультацыйны характар, а пасьля рэфэрэндуму ствараецца пагаджальная камісія для ўнясеньня зьменаў у Канстытуцыю.

Удзельнікі перамоваў ці то забыліся, ці то праігнаравалі, што скасоўваць хадайніцтва групы дэпутатаў у Канстытуцыйны суд ня меў права нават Вярхоўны Савет.

Падрабязнасьці сустрэчы Лукашэнкі і Чарнамырдзіна невядомыя і цяпер, калі я пішу гэтыя радкі, хоць прайшла ўжо чвэрць стагодзьдзя.



Падпісаньне пагадненьня. За сталом – Юры Селязьнёў, Віктар Чарнамырдзін, Аляксандар Лукашэнка, Сямён Шарэцкі, Ягор Строеў, Валеры Ціхіня.

Позна ўвечары адбыліся ўжо калектыўныя перамовы з удзелам «крамлёўскага дэсанту». Вярхоўны Савет, як лічылася, прадстаўлялі Шарэцкі і Калякін. Карпенка і Краўчанка ня ўдзельнічалі ў перамовах і чакалі іх выніку разам з журналістамі.

Для журналістаў, а потым і для ўсяго грамадзтва поўнай нечаканасьцю быў удзел у перамовах старшыні Канстытуцыйнага суду Валерыя Ціхіні, і ня толькі таму, што ягоная прысутнасьць ставіла крыж на ягонай аб'ектыўнасьці як кіраўніка судовага органу.

Пасьля шасьцігадзінных перамоваў адбылося падпісаньне «Пагадненьня аб грамадзка-палітычнай сытуацыі і аб канстытуцыйнай рэформе ў Рэспубліцы Беларусь». Яно прадугледжвала, што прэзыдэнт скасоўвае два ўказы, а старшыня Вярхоўнага Савету і Канстытуцыйны суд спыняюць працэдуру імпічмэнту (у пагадненьні гэта



Выглядае, што з усіх трох найбольш задаволены пагадненьнем Лукашэнка. І неўзабаве ён гэта дакажа і Чарнамырдзіну, і Шарэцкаму

далікатна названа «адкліканьнем прапаноў дэпутатаў» і «спыненьнем вядзеньня справы аб парушэньні прэзыдэнтам Канстытуцыі»).

Усе бакі пагадзіліся правесьці рэфэрэндум 24 лістапада, пасьля чаго прэзыдэнт цягам 20 дзён павінен быў сфармаваць Канстытуцыйны сход. Апошні пункт пагадненьня прадугледжваў, што да прыняцьця новай Канстытуцыі прэзыдэнт не распускае Вярхоўнага Савету, а Вярхоўны Савет не адхіляе ад улады прэзыдэнта.

Падпісаньне адбылося раніцай 22 лістапада 1996 году, пад тэлекамэры, — тут ужо за сьпіны асноўных фігурантаў быў дапушчаны і некаторыя з тых, каго ў залю перамоваў не пускалі.

Вось як ацэньваў падпісанае пагадненьне ў той дзень тагачасны сакратар управы Сойму БНФ Вячаслаў Сіўчык:

*Рашэньні, прынятыя сёньня ўначы, не былі вялікай нечаканасьцю. На вялікі жаль, ужо дзьвесьце гадоў намі кіруюць з Масквы. І натуральна, зараз маскоўскія гаспадары былі зацікаўленыя ў тым, каб захаваць тут рэжым Лукашэнкі. Захаваць яго любой цаной. Чаму? Таму што, калі б быў пачатак працэдуры імпічмэнту, ужо неістотна, што рабіў бы дыктатар. Улада была б незаконная, і рана ці позна яму трэба было б сесьці на лаву падсудных.*

Лявон Баршчэўскі ў звароце да людзей, якія сабраліся на плошчы Незалежнасьці, заявіў, што Сямён Шарэцкі перавысіў свае паўнамоцтвы:

*Дакумэнт, падпісаны Лукашэнкам і Шарэцкім, зьяўляецца неканстытуцыйным, адкрыта супярэчыць артыкулу 83 і некаторым іншым артыкулам Канстытуцыі.*

Бясспрэчна, падпісанты (у тым ліку Шарэцкі і Ціхіня), ня мелі права вырашаць за дэпутатаў, якія паставілі подпісы за імпічмэнт, што яны бяруць на сябе абавязак адклікаць гэтыя подпісы. У той жа дзень на сэсіі Вярхоўнага Савету Віктар Ганчар заявіў, што пагадненьне парушае дзейную Канстытуцыю:

*Заяўляю яшчэ раз, што кампраміс на парэштках Канстытуцыі ня можа прывесьці да стабілізацыі. Мэта міратворчай місіі палягала ў тым, каб у цяперашні момант захаваць для Расеі патрэбнага палітыка — прэзыдэнта Лукашэнку, які, натуральна, у цяперашні час, з пункту гледжаньня прагматычных інтарэсаў расейскага кіраўніцтва, цалкам іх задавальняе.*

Анатоль Лябедзька заявіў пра здрадніцтва; пасьля таго, як ён нагадаў пра імпічмэнт, Шарэцкі распарадзіўся адключыць дэпутату мікрафон.

Шарэцкі ў гэты момант усё яшчэ верыў у падпісанае пагадненьне і верыў Крамлю.

А далей здарылася тое, што здараецца, калі гуляюць у напарстак з прафэсійнымі жулікамі. Частка пралукашэнкаўскіх дэпутатаў адмовілася галасаваць за пастанову аб пагадненьні, і яна не набрала належнай колькасьці галасоў. Проста і элегантна.

Як потым расказвалі незалежныя дэпутаты, Канаплёў, паплечнік Лукашэнкі, трымаў ля вуха мабільны тэлефон і дырыгаваў галасаваньнем. Тое ж рабіў і дэпутат Пашкевіч. Падпарадкаваныя прэзыдэнту дэпутаты не падтрымалі палажэньні пагадненьня, якія накладалі на Лукашэнку пэўныя абавязкі.

У выніку пагадненьне не зацьвердзілі.

Што было потым, добра вядома. 24 лістапада прайшоў рэфэрэндум. 26-га лістапада Лукашэнка падпісаў указ аб спыненьні дзейнасьці Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня.

Цяпер дэпутатаў у Беларусі будуць не выбіраць, а адбіраць.

## ЗША ледзь не прызнаюць рэфэрэндум

Чытачы маглі пераканацца, што яшчэ ў першай палове 96-га індыкатар увагі міжнароднай супольнасьці да лёсу беларускай дэмакратыі вагаўся — ад зацікаўленьня адразу пасьля вясны-96, да гатоўнасьці пайсьці на кампраміс з Лукашэнкам у ліпені, калі ён быў запрошаны ў Парыж (ці нават гатоўнасьці здаць Беларусь «дэмакратычнай Расеі»).

Увосень жа 96-га працэс вяртаньня Беларусі ў канстытуцыйнае поле пачаўся ў атмасфэры ўвагі міжнароднай супольнасьці да лёсу беларускай

дэмакратыі, чаму ў немалой ступені паспрыяла рашэньне Вашынгтону аб наданьні палітычнага прытулку двум лідэрам БНФ.

І намер Лукашэнкі правесьці рэфэрэндум, і пачатак працэдуры імпічмэнту, і гвалтоўная адстаўка Ганчара, і «крамлёўскі дэсант» ды падпісанае пагадненьне — усё гэта асьвятлялася заходнімі СМІ і абмяркоўвалася палітыкамі. Асабліва падпісанае пры ўдзеле Крамля пагадненьне. Акцэнт тут рабіўся на слове «Крэмль»: палітыкі Захаду, уздыхнуўшы з палёгкай пасьля нядаўняй перамогі Ельцына над камуністамі на прэзыдэнцкіх выбарах, працягвалі бачыць у ім гаранта ня толькі дэмакратыі ў Расеі, але і ў краінах, якія ўспрымалі як сатэліты Крамля.

І цяпер, упершыню за некалькі месяцаў, зноў узьнікла пагроза, што Вашынгтон палічыць справу завершанай, бо канфлікт вычарпаны з дапамогай гэтага самага «крамлёўскага гаранта». І тут я прывяду аповед Пазьняка, які, акрамя іншага, пацьвярджае, як часам бывае важна апынуцца ў патрэбны час у патрэбным месцы.

22 лістапада ў Пазьняка быў заплянаваны выступ у Вашынгтоне, у фондзе Карнэгі — з такой прапановай да лідэра БНФ зьвярнуўся Дзярждэпартамэнт. На сустрэчу былі запрошаныя кангрэсмэны, дыпляматы і палітычныя аналітыкі. На той момант я ўжо быў у Празе.

Перад выездам зь Нью-Ёрку, у тры гадзіны ночы, Пазьняк патэлефанаваў у Менск, дзе была раніца, і даведаўся пра падпісанае пагадненьне.

*Калі мы з доктарам Вітаўтам Кіпелем зайшлі ў залю фонду Карнэгі, то ўбачылі, што перад кожным ляжалі нейкія паперкі. Гэта было паведам-*

*леньне для друку Дзяржд эпартамэнту ЗША пра начныя падзеі ў Менску. У тэксьце выказвалася задавальненьне з нагоды заканчэньня крызісу ў Беларусі і ўхвалялася нібыта «прымірэнчая» місія рускага кіраўніцтва, якое быццам бы выступіла ня толькі «міратворцам», але й гарантам стабільнасьці ўлады ў Беларусі. Непадалёк сядзеў задаволены рускі амбасадар, а зь ім беларускія «калегі» з пасольства.*

*Мне сказалі, што заява яшчэ ня здадзеная ў друк (было паміж 9-й і 10-й раніцы). Я адклаў свой даклад убок і сказаў, што буду гаварыць пра начныя падзеі ў Менску, паколькі становішча зусім не такое, як адлюстравана яно ў паведамленьні Дзяржд эпартамэнту.*

*Я растлумачыў прысутным, што на самой справе расейскае кіраўніцтва прыехала ратаваць свае каляніяльныя інтарэсы ў Беларусі і падтрымаць Лукашэнку. Гэта жэст супраць дэмакратыі і незалежнасьці Беларусі, умяшаньне ў нашыя ўнутраныя справы, падпорка для дыктатуры. Я сказаў, што рускія проста ашукалі даверлівага Сямёна Шарэцкага, што Лукашэнка ня выканае нават тых умоваў, якія паабяцаў выканаць, што Масква разам з Лукашэнкам хочуць толькі выйграць час, каб правесьці чарговы незаконны і фальшывы рэфэрэндум на Беларусі і ўстанавіць поўны кантроль над нашай краінай.*

*Я падкрэсьліў, што інфармацыя, зьмешчаная ў «стэйтмэнце» Дзяржд эпартамэнту, неадпаведная і паходзіць з тэндэнцыйных крыніцаў, што лепш было б не сьпяшацца з надрукаваньнем такой пазыцыі, а праверыць яе, улічыўшы і мае зьвесткі.*

*Потым была даволі жорсткая дыскусія. Адразу супраць узьвіўся рускі пасол. Яму падтаквалі беларускія службісты. З амэрыканцаў толькі адзін (прысутнічала каля 40 асобаў) спрабаваў падтрымаць рускіх. У канцы дыскусіі, у часе якой пераважная большасьць падтрымала мяне, прадстаўніца Дзяржэпартамэнту паведаміла, што яны ня будуць даваць гэты тэкст «стэйтмэнту» ў друк да поўнага высьвятленьня сытуацыі.*

*У мяне тады нібы гара з плеч звалілася. Было зразумела, што калі б такі тэкст са станоўчымі ацэнкамі чарнамырдзінска-строеўскай афёры ў Менску пайшоў у друк як афіцыйная пазыцыя Дзяржаўнага дэпартамэнту ЗША, то назад яго ўжо не адклікалі б і пазыцыі не зьмянілі б. Усё магло б павярнуцца для нас, беларусаў, вельмі дрэнна.*

*Я дзякаваў Богу за дзівосны зьбег абставінаў, што 22 лістапада я апынуўся ў Вашынгтоне ў цэнтры ўвагі на такім форуме, што ноччу, перад ад’ездам зь Нью-Ёрку, патэлефанаваў у Менск і атрымаў інфармацыю пра падзеі, і нават што даклад мой быў прызначаны з самай раніцы, а не, скажам, на 14 гадзінаў, калі ўжо было б позна, бо «стэйтмэнт» трапіў бы ў друк.*

*Можа, хоць раз, хоць мінімальна, Беларусі пашанцавала. Праўда, на фоне таго, што сталася ў Менску, гэтае меркаваньне выглядае ледзь не іроніяй... І ўсё ж такі, і ўсё ж... Як бы ні павярнулася фартуна, што б ні сталася, што б ні было, у любой сытуацыі трэба змагацца за ўсю Беларусь і адначасна — за кожны мілімэтар, за кожную сэкунду яе жыцьця, яе будучыні.*

*...Пасьля дакладу і дыскусіі ў фондзе Карнэгі я меў магчымасьць 20-мінутнага выступу на тэле-*

*бачаньні CNN (непасрэднае ўключэньне), дзе гаварыў пра зьмест падзеяў у Менску. Пасьля выступу на тэлебачаньні я яшчэ спатыкаўся ў Дзяржпартамэнце ЗША з кіраўніком Усходняга аддзелу (Беларусі, Украіны і Малдовы) Джэкам Сыгалам. Памятаю, што ён быў у вялікім недаўменьні, бо як прафэсійны палітык ніяк ня мог зразумець матываў паводзінаў Сямёна Шарэцкага, якія ня ўкладваліся ў ягоную амэрыканскую лёгіку. Птушка ўжо была ў руцэ, а яе ўзялі і выпусьцілі.*

...Эпізод, пра які раскажу зараз, не ўкладаецца ў драматычную танальнасьць падзеяў. Выступ Пазьняка ў прамой трансьляцыі CNN перакладала Алеся Кіпель, дачка Вітаўта. Яна тады працавала ў буйной юрыдычнай фірме. Ейны калега ў тыя дні быў у Токіё, прымаў душ у гатэлі, у нумары быў уключаны тэлевізар, і калі ён выключыў ваду, ледзь не пасьлізнуўся ад нечаканасьці, пачуўшы з-за дзьвярэй голас сваёй калегі, якая, ён дакладна ведаў, не павінна была цяпер быць у Японіі, і тым болей ў ягоным нумары...

## Пазьняк піша горкі ліст

У лісьце да Шарэцкага, які цытую ніжэй, Пазьняк прадэманстраваў зайздросную эмацыйную стрыманасьць — мушу прызнаць, што асабіста я на ягоным месцы выказаў бы моцныя экспрэсіўныя ацэнкі.

Ліст ужо ня мог паўплываць на падзеі — справа была зробленая, Лукашэнка паціраў рукі. Але тэкст важны для гісторыі, да таго ж ён дакладна адлюстроўвае эмацыйны стан аднаго з герояў гэтай кнігі

(ды і, думаю, шмат каго ў тыя дні). Я падаю гэты ліст цалкам, без скарачэньняў.

*Ягонай міласьці спадару Сямёну Георгіевічу Шарэцкаму.*

*Паважаны Сямён Георгіевіч!*

*Не знаходжу разумнага вытлумачэньня вашаму ўчынку — згадзіцца адклікаць іск пра імпічмэнт узамен на абяцаньне вар'ята лічыць рэфэрэндум, які ён самавольна праводзіць, «кансультацыйным». Хіба можа быць кампраміс з законам ці гандаль правам? Хіба тое, што прэзыдэнт парушыў дзясяткі разоў Канстытуцыю, правы чалавека і законы, перастала быць фактам? Злачынца сваім самадурствам загнаў сам сябе ў яму, а вы ў рашаючы час разам з Чарнамырдзіным і кампаніяй яго адтуль ні з таго ні зь сяго выцягнулі, каб ён Вас першага ж і прыкончыў. (Няўжо Вы хоць на сэкунду паверылі, што Лукашэнка будзе выконваць абяцаньні?) Больш няўдалага ўчынку на вядомым мне палітычным даляглядзе, чым той, што вы зрабілі, я ня памятаю. Вы што, вырашылі добраахвотна зганьбіць самога сабе? Навошта?*

*Няўжо Вы не разумееце, што, як толькі Канстытуцыйны суд прыняў бы рашэньне і задаволіў іск пра імпічмэнт, лёс лукашэнкаўскага прэзыдэнцтва, яго хунты і дыктатуры быў бы вырашаны і сытуацыя хутка перамянілася б (пры разумных дзеяньнях, вядома). Вы маглі б пачаць рэформы, падрыхтаваць пэрспэктывы краіне, аднавіць растаптанае вар'ятам. Вы хоць разумееце, што ў адну і тую ж ваду цяжка ўвайсьці двойчы?*

*Што Вы натварылі? У Чарнамырдзіна свая крамлёўская карысьць. Ім патрэбны Лукашэнка (хоць яны грэбуюць ім і ня любяць яго), бо ён здае*

*расейцам Беларусь, нашу эканоміку, нацыянальныя інтарэсы. Чаму Вы дазволілі ім абысьціся з Вамі, як з хлапчуком?*

*Сямён Георгіевіч! Для палітыка, які стаіць ля стырна кіраўніцтва дзяржавай, няма нічога больш важнага, чым Бацькаўшчына, народ і нацыя — няма нічога важнейшага за шчасьце і інтарэсы Беларусі. Не глядзіце на Маскву, як Лукашэнка. Глядзіце на Беларусь.*

*За апошні месяц мне ўдалося ў пэўнай ступені ініцыяваць і ўдзельнічаць у трох палітычных сходах па праблемах Беларусі (круглы стол у Human Rights Watch, палітычны брыфінг у Кангрэсе ЗША і 22 лістапада канфэрэнцыя ў фондзе Карнэгі, які гуртуе палітычную эліту Амэрыкі). Усюды выказана падтрымка дэмакратыі на Беларусі. Усюды афіцыйна сказана, што Амэрыка не прызнае нелегітымнага рэфэрэндуму. 22-га лістапада была выказана думка Дзяржэпартамэнту аб тым, што Беларусі трэба ўвогуле адмяніць незаконны рэфэрэндум. У палітычных колах Амэрыкі занепакоены націскам Расеі на Беларусь і гатовыя падтрымаць беларускія інтарэсы. Пра гэта я казаў 22-23 лістапада ў інтэрвію на Сі-Эн-Эн. Гэта разумеюць у сьвеце. Ды, відаць, дрэнна чуюць на Беларусі. Інакш не рабілі б неабдуманых учынкаў.*

*Я ведаю, што Вы спахапіліся і хочаце ўсё паправіць. Ня буду Вам больш нічога раіць, бо тут і так усё зразумела. Зычу толькі Вам выправіць усё да рэшты, быць цьвёрдым, перакананым, актыўным і пасьлядоўным беларусам. Імпічмэнт абавязкова павінен адбыцца. Інакш — рэпрэсіі, разбурэньне краіны і дыктатура.*

*Не крыўдуйце на мяне за рэзкасьць да Вас і адкрытасьць. Я быў вельмі ўражаны.*

*З павагай — Зянон Пазьняк. 24 лістапада, 9.00 менскага часу, Нью-Ёрк.*

У дзень, калі Пазьняк адсылаў Шарэцкаму гэты ліст, у Беларусі праходзіў рэфэрэндум — зафіксаваныя назіральнікамі шматлікія парушэньні ў часе агітацыі і галасаваньня, антыканстытуцыйныя ўказы Лукашэнкі пра роспуск Вярхоўнага Савету былі прадметам асуджэньня з боку міжнароднай супольнасьці, але не перашкодзілі ўсталяваньню рэжыму аднаасобнай і бескантрольнай улады аднаго чалавека.

«Ён цалкам парабаціў гэты народ», — скажа праз некалькі гадоў Васіль Быкаў.

## Жонцы абяцаюць кватэру, яе маці — кулю зь пісталета

Чатыры аўтаматчыкі і палкоўнік увайшлі ў вагон электрычкі. Аўтаматчыкі заблякавалі дзьверы, а афіцэр накіраваўся да дзьвюх дзяўчат — маёй жонкі і яе сястры. Усе ў вагоне змоўклі і спалохана назіралі — што ж будзе далей?

Гэта адбылося не ў 96-м, а налета, але было працягам сюжэту.

Увогуле, узьдзеяньне на палітыкаў праз іхніх родных лукашэнкаўская адміністрацыя выкарыстоўвала ад самага пачатку, але з рознай інтэнсіўнасьцю

Бацькоў маіх не чапалі, яны дапрацавалі да пэнсіі; сястру з мужам таксама. Прычына, магчыма, палягала ў партыйным мінулым бацькі і яго

дастаткова добрай вядомасьці ня толькі ў Віцебску, але ў пэўных колах у Менску; вырашылі, што магчымы скандал ня варты эфэкту (будуць потым бацьку і затрымліваць, і выклікаць у КДБ, але гэта ўжо ў 1999 годзе, калі ён быў першым намесьнікам старшыні «альтэрнатыўнага» ЦВК на «альтэрнатыўных» прэзыдэнцкіх выбарах Віктара Ганчара).

Праўда, мая сястра Сьвятлана пры перасячэньні межаў Беларусі рабілася ахвярай супадзеньня нашых ініцыялаў — абое С.І. (Сяргей Іосіфавіч і Сьвятлана Іосіфаўна). У памежнікаў ляжаў загад «Пазьняка З.С. і Навумчыка С.І. пры ўезьдзе-выезьдзе затрымаць», і, хаця гэтае прозьвішча было пазначана ў мужчынскім родзе, службісты перапраўлялі, ці не Сьвятлана маецца на ўвазе. Аднойчы нават затрымалі самалёт зь Менску ў Варшаву, пакуль чакалі ўказаньняў начальства.

Калі мы з Пазьняком пачалі адкрытую палітычную дзейнасьць у замежжы, асуджальныя заявы ўладаў сумяшчаліся зь пераконваньнямі, што нас у Беларусі ніхто і ніяк не перасьледуе. Прамых пагрозаў ці запалохваньня нашых блізкіх не рабілася — бо яны адразу пацьвердзілі б ілжывасьць афіцыйных заяваў.

Але потым тактыка была скарэктаваная. Мая жонка працавала ў праскім офісе Радыё Свабода, але час ад часу прыяжджала ў Беларусь. На ёй пакуль і сканцэнтраваліся.

Кожны раз, калі Галя з Прагі прыяжджала ў Менск, ёю «апекаваліся» спэцслужбы, прычым не асабліва гэта і хаваючы. Аднойчы яна пасьля стаматалягічнай паліклінікі села ў таксі, сказала, што трэба ва Ўручча-4. Кіроўца трапіўся гаваркі, абмяркоўваў апошнія падзеі, жартаваў — і ў размовах

прыехалі да нашага дома № 40 па вуліцы Гінтаўта. І тут Галя зразумела, што, акрамя мікрараёну, не назвала таксісту ні вуліцы, ні нумару дома. «А адкуль вы ведалі адрас?» — «Ды праца ў мяне такая!» — «Ну раз праца, можа, мне і не плаціць?» — «Не, усё ж такі заплаціце!» Яно і правільна, рубель і для чэкіста ня лішні.

Неяк яе запрасіў на сустрэчу наш агульны знаёмы, які працаваў тады ў КДБ (пазьней ён выйшаў на пэнсію). Сустрэліся ля ўваходу ў парк Горкага, пагулялі з гадзіну. Ён імкнуўся пераканаць, што рашэньне пра палітычны прытулак было прынята пасьпешліва, што Лукашэнка ставіцца да мяне добра («адна справа — Пазьняк, і зусім іншая — Сяргей»), што варта падумаць над тым, каб вярнуцца. І што, калі я вырашу вярнуцца, у спэцслужбах ёсьць вельмі ўплывовыя людзі, якія ў гэтым дапамогуць. Падчас размовы па суседніх пешаходных алеях езьдзіла «Волга». Наўрад ці каб запісаць гутарку (дыктафон мог мець у кішэні суразмоўца), магчыма, імкнуліся падмацаваць прапановы.

Другая размова адбылася ў больш бязьлюдным месцы. Галя рабіла на радыё перадачу «Правы чалавека — аснова свабоды», зьвярталася па камэнтары да юрыстаў. Адзін зь іх аднойчы сказаў, што мае да яе нетэлефонную размову. Дамовіліся сустрэцца. Мужчына пад’ехаў да офісу, які здымала радыё (двухпакаёвая кватэра насупраць Купалаўскага тэатру), запрасіў у аўтамабіль. Галя села. Па дарозе гутарка была на нейкія актуальныя тэмы, якія можна было абмеркаваць і праз тэлефон. Тое, што юрыст не прыступае да размовы «нетэлефоннай», як і тое, што машына ўсё больш аддалялася ад цэнтру і выехала на трасу ў бок Горадні, Галю

насьцярожыла. Адвакат хаця і быў знаёмцам, але ня блізкім, да таго ж нікога аб гэтай сустрэчы яна не папярэдзіла.

Празь нейкі час аўтамабіль збочыў з трасы ў лес. Калі яны выйшлі з машыны, чалавек ледзь ня слова ў слова паўтарыў тое, што Галіна чула ад знаёмага з КДБ. Але тут Галя пайшла ў наступ: чаму, калі Сяргею нічога не пагражае, камандуючы памежнымі войскамі не адменіць загад аб затрыманьні? На гэта адвакат сказаў, што такі загад не ў ягонай, адваката, кампэтэнцыі, ягоная справа — перадаць ёй інфармацыю.

Мэта гэтых размоў да канца не зразумелая і па сёньня. Найхутчэй, КДБ меў нейкі плян, першым этапам якога было «адкалоць» мяне ад Пазьняка, прычым каб фізычна я знаходзіўся ў межах Беларусі. Што мусіла адбыцца далей, ня ведаю, а вэрсіі выстройваць не хачу.

Але сустрэча ў электрычцы з палкоўнікам з эскортам аўтаматчыкаў перасягнула ўсе папярэдненія.

У чарговы прыезд у Беларусь Галя зь сястрой Вольгай вярталіся з Глуску ад бацькоў. Звычайна да Асіповічаў дабіраліся аўтобусам, а адтуль да Менску электрычкай.

Вось што яна потым расказвала:

*У Пухавічах у вагон зайшлі чатыры аўтаматчыкі і афіцэр, палкоўнік, ён наблізіўся адразу да нас. Запатрабаваў дакумэнты. Мы паказалі пашпарты, у мяне быў з сабой яшчэ замежны чырвоны пашпарт. «Ну я так и думал, что это вы. Я поеду с вами до Минска», — сказаў палкоўнік і сеў побач. А аўтаматчыкі сталі каля дзьвярэй, па двое. Людзі памалу пачалі перабірацца ў іншыя вагоны,*

*так што, калі прыехалі ў Менск, мы ў вагоне былі амаль што адны.*

*Я яшчэ адразу спытала, у чым справа. «Не волнуйтесь, вы всё узнаете».*

*Прыехалі ў Менск. Двое аўтаматчыкаў пабеглі на вакзал, мы засталіся на пэроне. Тыя двое прынялі вайсковы патруль. А тады ўжо сам палкоўнік пайшоў у будынак. Салдаты пытаюцца: «Дзеўкі, што адбываецца, хто вы?». Я пажартавала, што вось бачыце гэтую валізку — асьцярожней, тут бомба! Вольга, вядома, была вельмі спалоханая. Ды і я таксама.*

*Палкоўнік вярнуўся раззлаваны, сказаў, што вакол бардак, што машыны няма, зараз разам паедзем да мяне дамоў на мэтро. Я спытала, чаго ён ад нас хоча, ён адказаў: «Посидим, поговорим, чайком напоите».*

*Салдаты прайшлі з намі да мэтро, мы паехалі да «Ўсходу», далей да нашага дому на аўтобусе. Каля нашага пад'езду стаяла машына з антэнамі. Падобная на тыя, што былі каля нашага дому ў сакавіку 96-га, перад выездам Сяргея ў Кіеў.*

*Прыйшлі, падняліся на шосты паверх у нашу кватэру. Зайшлі, распрануліся, ён адразу пайшоў па пакоях. Напэўна, хацеў пераканацца, што нікога няма. Сказаў: «Маленькая у тебя квартирка». Прычым было такое адчуваньне, што ён тут не ўпершыню. «А вот эта книга Голубева, правда?» — і дастаў з самай верхняй паліцы кніжнай шафы, якую Сяргей сам зрабіў з дошак і пафарбаваў, кніжку Валянціна Голубева пра Вялікае Княства Літоўскае. Кніжка была тонкая, у мяккай вокладцы.*

*Яшчэ раней я спытала, як яго завуць, як зьвяртацца. «Зови меня просто Коля». Ну Коля дык Коля. Ён сказаў, што кіруе службай бясьпекі і падпарадкоўваецца толькі Шэйману і Лукашэнку, больш над ім начальства няма.*

*«Коля» пайшоў на кухню і сказаў, што гутарыць будзем там. Калі я спытала, чаму, вачыма паказаў на вакно. Пад вакном была іх машына з антэнамі.*

*Сутнасьць яго прапановы была такая, што я мушу разьвесьціся зь Сяргеем і вярнуцца з Прагі ў Менск. Ён назваў дакладную суму майго заробку ў Празе. Сказаў, што ў Менску мне будзе жыць лепей, прычым я магу і не працаваць. «Зачем тебе работать, ты же не Нонна Мордюкова?» (па расейскім тэлебачаньні тады круцілі нейкую рэкляму, дзе гераіня Мардзюковай укладвала шпалы). «Ой, — кажу яму, — як разьвядуся, дык хто ж са мной ажэніцца?» Спрабавала яшчэ неяк жартаваць. А ён кажа: «Дзеўка ты прыгожая, я нядаўна разьвёўся з жонкай і сам гатовы жаніцца». Маўляў, у яго ключы ад новай трохпакаёвай кватэры, і, калі я згодная, дык заўтра паедзем купляць мэблю. Гэта мяне ўразіла. Вольга сядзела моўчкі, яна вельмі баялася, што мяне арыштуюць.*

*Але, маўляў, калі я хачу працаваць, дык магу быць вядучай самай галоўнай перадачы на тэлебачаньні, «Панарамы», буду мець вельмі добрыя грошы. Але гэта ўжо трэба абмеркаваць з прэзыдэнтам. І што Лукашэнка чакае мяне ў панядзелак у сваім кабінэце на Карла Маркса. Але, сказаў «Коля», магчыма, будзе і прэс-канфэрэнцыя, і мне трэба будзе выступіць перад журналістамі і зрабіць нейкую заяву. Але гэта я ўжо мушу абмеркаваць з Лукашэнкам.*

*Падчас размовы пазваніў з Прагі Сяргей.*

Тут перапыню Галін расповед. Назаўтра яна павінна была ад’яжджаць зь Менску ў Прагу, я хацеў папрасіць, каб нешта ўзяла з маіх папераў. Галя толькі і сказала, што ня можа размаўляць, бо ў кватэры служба бясьпекі прэзыдэнта. Я адразу пазваніў сябрам, двум журналістам, якія жылі ва Ўруччы, але ў іншых яго частках. Прыехаць іх не прасіў, проста каб ведалі.

*Яшчэ падчас размовы прыехала сваячка нашых сяброў, якія жылі ў Празе, каб нешта перадаць, разам са сваім будучым мужам. Я адчыніла дзьверы і адразу паказала ім шынэль палкоўніка, на рукаве быў шаўрон з надпісам «Служба безопасности», здаецца так. Яны ўбачылі гэта і нават не праходзілі далей калідора, пакінулі перадачу і зьехалі.*

*Размова ішла каля гадзіны. «Коля» сказаў, што яны пачакаюць да панядзелка: «А ты пакуль падумай». «А нашто думаць, скажу адразу, цяпер. Мой адказ будзе такі — ідзі ты на... разам сваім шэфам. І мне трэба яшчэ тое-сёе купіць перад Прагай. Таму ўставай, мне трэба ехаць у краму».*

*Я раззлавалася. Ён быў спакойны.*

*Мы выйшлі, Вольга засталася ў кватэры. Вось тут «Коля» крыху зьмяніў тон размовы. Ён сказаў, што калі я адмаўляюся ад сустрэчы ў Лукашэнкам і вяртаюся заўтра ў Прагу, ён, хаця і выходны дзень, будзе на службе, каб кантраляваць мой выезд. Сказаў, што я магу быць спакойная, і даў свой нумар тэлефона «на всякий случай». Гэтым разам я выеду без праблем, але больш ён ня раіць мне тут зьяўляцца. Сапраўды, ніякіх праблем не было на мяжы. Калі ў купэ ўвайшлі памежнікі і мытнікі, мяне ветліва папрасілі выйсьці, а тым, хто быў у купэ, загадалі распрануцца, праверылі іх і ўвесь іх*

*багаж. Я не прыяжджала ў Беларусь наступныя пятнаццаць гадоў.*

*Самае цікавае, аднак, адбылося праз шмат гадоў: Вольга апазнала «палкоўніка Колю» ў міністру абароны Юрыю Жадобіну. Пазваніла мне ў Прагу, я паглядзела інтэрнэт — так, падобна, што то быў ён. Вельмі падобны.*

Паводле афіцыйнай біяграфіі, Жадобін у другой палове 90-х служыў у сыстэме ўнутраных войскаў.

Якраз у той свой выезд зь Беларусі (ён сапраўды стаў апошнім на многія гады) Галя рызыкнула ўзяць з сабой важныя для мяне матэрыялы, мае запісы з паседжаньняў Апазыцыі БНФ. На мяжы яе сапраўды ніхто не правяраў.

Поўнае тлумачэньне гэтай гісторыі цяжка даць і сёньня. Якая сапраўдная пасада была ў афіцэра, хто яго накіраваў, ці сапраўды Лукашэнка хацеў сустрэцца з Галяй? Несумненна толькі адно — гэта быў, сярод іншага, і псыхалягічны ціск.

А вось тое, што адбылося ў 1998 годзе з Галінай маці, ужо выходзіла за межы палоханьня словамі.

Мае цешча і цесьць, Надзея Васілеўна і Леанід Максімавіч, у Глуску засталіся ўдваіх — Вольга вучылася ў Менску, Галя была са мной у эміграцыі. Жылі яны ў сваёй хаце.

Леанід Максімавіч быў на працы, Надзея Васілеўна заставалася дома (мела інваліднасьць — слабое сэрца). На «джыпе» (так звычайна па-простаму называюць усе бездарожнікі) прыехалі двое мужчын сярэдняга ўзросту, пазванілі ў дзьверы. Цешча адчыніла. Адразу адзін зь іх прыціснуў яе да сьцяны, другі дастаў пісталет і прыставіў да галавы.

У іх тырадзе самым мяккім было слова «сучка» — і ў дачыненьні да Надзеі Васілеўны, і да Галі.



# Галіну Навумчык не пусцілі на пахаванне бацькі

Аляксандр СТАРЫКЕВІЧ

Адміністрацыя, якая зараз кіруе нашай краінай, чарговы раз засведчыла ўласны гуманізм. Улады праігнаравалі зварот з просьбай выдаць пашпарт Галіне Навумчык, каб яна паспела на пахаванне бацькі.

Галіна выехала за межы Беларусі ў 1996 годзе пасля таго, як ейны муж Сяргей Навумчык атрымаў палітычны прытулак у ЗША. Праз колькі часу муж і жонка перабраліся ў Прагу. Яны прынцыпова захоўваюць беларускае грамадзянства, аднак беларускія пашпарты Навумчыкаў даўно пратэрмінаваныя.

Калі ў пачатку сакавіка раптоўна памёр бацька Галіны, Сяргей Навумчык па тэлефоне тэрмінова звярнуўся ў Міністэрства замежных спраў Беларусі, каб атрымаць магчымасць разам з жонкай і дачкой развітацца з нябожчыкам. Дзяжурны па МЗС ветліва параіў яму скласці пісьмовую заяву. Сяргей так і зрабіў, але не атрымаў ніякага, нават фармальнага, адказу. Фактычна можна лічыць, што Навумчыкам адмовілі.

Наўрад ці гэтае пытанне вырашалася на ўзроўні Міністэрства замежных спраў. Відаць, сумная нагода была выкарыстана адной добра вядомай асобай, каб яшчэ раз адпомсціць сям'і Навумчыкаў, зрабіўшы боль ад страты блізкага яшчэ мацней.

— Ёсць надзейныя звесткі, што пытанне разглядалася на самым высокім ўзроўні. Мабыць, на іншы вынік не варта было разлічваць, — зазначае Сяргей Навумчык. — За 8 гадоў эміграцыі, а прасцей — за 10 гадоў існавання гэтай улады я ў іх нічога ніколі не прасіў, вось папрасіў першы раз і, спадзяюся, апошні. Ясна, гэта не тыя людзі, якія будуць у сваіх рашэннях кіравацца мараллю.

Акрамя ўсяго іншага ў гэтай гісторыі ўлада яшчэ раз засведчыла сваю дробнасць. Сваю бязлітаснасць да тых, каго лічыць "ворагамі народа", яна гатовая дэманстраваць у любы момант, нават падчас жалобы. Цікава, што адначасова дэкларуецца прыхільнасць да еўрапейскіх каштоўнасцяў і нават абмяркоўваецца магчымасць адмены пакарання смерцю. Атрымліваецца, што забойцы могуць разлічваць на гуманнае стаўленне да сябе цяперашніх кіраўнікоў краіны, а палітычныя апаненты — не.

Нар воля 13/IV-04г

Публікацыя ў «Народнай волі»

Казалі, што хай дачка ня думае, што, калі жыве ў Амэрыцы, яе не дастануць. Яны ведаюць усё пра дачку і дастануць адкуль заўгодна. Калі «госьці» пайшлі, Надзея Васілеўна страціла прытомнасьць. А неўзабаве і рэшткі слабага свайго здароўя. Апошнія гады яна не ўставала з ложка.

Памерла Надзея Васілеўна ў студзені 2013-га, на дзевяць гадоў перажыўшы цесьця. Ён працаваў

бухгальтарам у будаўнічай арганізацыі, лічыўся кваліфікаваным адмыслоўцам, на службе яго паважалі. Але, калі яму споўнілася 55 гадоў (мы ўжо некалькі гадоў як былі ў эміграцыі), Леаніда Максімавіча выклікаў да сябе начальнік і проста сказаў, што на яго ціснуць «зьверху» і што лепш цесьцю звольніцца па ўласным жаданьні. Інакш — ён жа ведае, што могуць зрабіць. Цесьць, безумоўна, ведаў — у кожнай будаўнічай арганізацыі інспэкцыя можа знайсьці якія-небудзь дробныя фінансавыя недапрацоўкі, якія пры жаданьні можна выдаць за вялікія крымінальныя парушэньні; лёгка адшукаць і вінаватага (зразумела ж, бухгальтара), а «неперадузяты» суд адправіць яго на некалькі гадоў у турму.

Цесьць быў вымушаны звольніцца, быў бяз працы, пэнсіі так і не атрымаў, бо паўгода не дажыў да 60-годзьдзя: ня вытрымала сэрца.

## Уладзімер Арлоў раіць, як адказваць Ельцыну

Чаму ж была магчымай — пры відавочнай канстытуцыйнасьці пазыцыі, падтрымцы міжнароднай супольнасьці, — параза Вярхоўнага Савету, якая ў выніку стала паразай беларускай дэмакратыі? Навошта было падпісваць славутае «начное» пагадненьне? Гэтае пытаньне я задаў Сямёну Шарэцкаму ў лістападзе 2001 году, калі на Радыё Свабода рыхтаваў перадачу пра падзеі 96-га. Вось што ён адказаў:

*А што мусіў рабіць Вярхоўны Савет яшчэ, каб імпічмэнт адбыўся? Па-першае, мы мусілі сабраць ня менш як 70 подпісаў дэпутатаў. Мы іх сабралі 76.*

*Наступным крокам, каб адбыўся імпічмэнт, мусіла быць рашэньне Канстытуцыйнага суду. Другое пытаньне. А чаму ж тады Лукашэнка і ягоныя прыхільнікі ня сталі выконваць тых пагадненьняў, якія былі падпісаныя, у чым* (у падпісаньні. — С.Н.) *мяне абвінавачваюць. Чаму? А таму, што згодна зь імі мусілі адбыцца давыбары Вярхоўнага Савету. І вынікі рэфэрэндуму павінны былі быць, згодна з Канстытуцыяй, згодна з законам, разгледжаныя на сэсіі Вярхоўнага Савету. Для Лукашэнкі гэта азначала — канец улады.*

У падобнай канфліктнай сытуацыі вызначальную ролю можа адыграць падтрымка палітычнай ініцыятывы насельніцтвам і сілавымі структурамі.

Спачатку — пра плошчу. Некаторыя, у тым ліку і Сямён Шарэцкі, лічаць, што калі б людзей на плошчы Незалежнасьці было больш, чым іх было ў тыя дні, вынік мог бы быць іншы.

Шарэцкі:

*Справа ўся ў тым, што, каб там было людзей сапраўды дзьве тысячы і больш, дык зусім былі б іншыя паводзіны і нас. Але там было, на жаль, ня вельмі шмат людзей, якія не маглі паўплываць на ход падзеяў... Безумоўна, тым, хто стаяў, дзякуй ім, я і сёньня выказваю гэтую ўдзячнасьць, але, на жаль, такіх людзей было няшмат.*

Тут Шарэцкі мог бы выказаць прэтэнзію і да сябе. Калі б, замест адмаўленьня ад удзелу ў мітынгу, 19 кастрычніка Шарэцкі, наадварот, заклікаў людзей прыйсьці, а потым рабіў гэта рэгулярна — на плошчу выходзіла б, перакананы, значна больш. Тое самае тычыцца і лідэра камуністаў Сяргея Калякіна — электарат камуністаў тады быў актыўны.

Адразу пасьля таго, як у лістападзе 2001-га я запісаў гутарку зь Сямёнам Шарэцкім, я пазнаёміў зь ёй Лявона Баршчэўскага (увосень 1996-га — выканаўцу абавязкаў старшыні БНФ). Вось што зазначыў Баршчэўскі:

*Першы эпізод быў, калі гвалтам Ганчара пазбавілі пасады, не далі яму вярнуцца ў свой кабінэт; народ стаяў ля Цэнтравыбаркаму, і арганізавалі такое шэсьце па цэнтры гораду да Вярхоўнага Савету. І вось там выйшаў спадар Шарэцкі, сказаў, што няма сэнсу вам тут стаяць і зьбірацца, разыходзьцеся. Хаця можна было зайсьці ў гэты будынак і сымбалічна яго заняць. І тады б сытуацыя магла інакш пайсьці, таму што народу было на вуліцы, у часе шэсьця сабралася даволі шмат народу. А потым некалькі разоў спадар Карпенка выходзіў на плошчу і гаварыў, што ёсьць спадзяваньне, што маскоўскія палітыкі ўсё-такі прымусяць Лукашэнку стаць на рэйкі Канстытуцыі, і, гэткім чынам, у яго былі такія ілюзіі на той момант.*

Ня згодны Баршчэўскі і з высновай Шарэцкага пра недастатковую, на ягоную думку, масавасьць людзей на плошчы. Нават той колькасьці людзей, якую ўдалося сабраць Народнаму Фронту, было дастаткова для падтрымкі дзеяньняў Вярхоўнага Савету, калі б тыя дзеяньні былі рашучыя:

*Была праблема ня ў колькасьці людзей на плошчы. Проста, калі прыехалі гэтыя «пасярэднікі» маскоўскія, трэба было заняць цьвёрдую канстытуцыйную пазыцыю, і яны нічога не зрабілі б. Народу на вуліцы хапала, і ў патрэбны момант яго б дадалося, калі б дайшло да пасяджэньня Канстытуцыйнага суду аб імпічмэнце.*

Цяпер да пытаньня, а што было б у выпадку, калі б імпічмэнт быў абвешчаны. Ці выканалі б кіраўнікі сілавых структураў свой канстытуцыйны абавязак? Гэта мо адзін з найбольш складаных аспэктаў той гісторыі, найперш з прычыны спэцыфікі гэтых самых структураў.

Што да пазыцыі генэральнага пракурора Васіля Капітана, дык ён выказаў яе Радыё Свабода яшчэ ў дзень гвалтоўнай адстаўкі Ганчара: «У мяне няма іншай пазыцыі, ёсьць адна пазыцыя. Ва ўсякім выпадку, да таго часу, пакуль я буду генэральным пракурорам, гэта пазыцыя закону. Я думаю, асноўная функцыя пракуратуры — гэта пазыцыя закону».

Пасьля рэфэрэндуму, у сьнежні 96-га, генэральны пракурор Капітан быў зьняты Лукашэнкам з пасады. Але гэта ўжо было пасьля правалу імпічмэнту.

Мне здаецца, што наўрад ці які-небудзь камандзір дывізіі мог публічна выказацца хаця б так, як генпракурор — адстаўка была б імгненнай (тое, што пазьней адбылося з генэралам Юрыем Захаранкам, прымушае дапускаць і горшыя варыянты).

Але афіцэрам зь вялікімі зоркамі на пагонах зусім не абавязкова выказваць свае думкі публічна. Ім дастаткова — і, больш за тое, яны абавязаныя — выступіць з падначаленымі імі падразьдзяленьнямі ў абарону Канстытуцыі і закону.

Калі такіх афіцэраў няма, лёс канстытуцыйнасьці і дэмакратыі ў краіне пад сумневам. Ды і будучыня самой краіны як незалежнай дзяржавы таксама.

Але калі яны ёсьць, тады ў супрацьстаяньні, у змаганьні за выкананьне закону прыхільнікі дэмакратыі маюць добры шанец перамагчы.

Гэта ня значыць, што без падтрымкі сілавых падразьдзяленьняў перамога немагчымая — гісторыя мае прыклады, калі народныя выступленьні дасягалі посьпеху безь першапачатковай падтрымкі таго, што ў наш час атрымала назоў «сілавыя структуры». Але такіх прыкладаў вельмі мала, нават у сытуацыях, калі на вуліцы выходзілі сотні тысяч. Звычайна ж перамозе папярэднічаў пераход хаця б часткі сілавых структураў на бок пратэстоўцаў.

А ўжо калі ад самага пачатку людзі ў пагонах (хай нават і ня ўсе), за якімі ёсьць рэальныя ўзброеныя падразьдзяленьні, выказваюць падтрымку палітычным лідэрам, спадзяваньні на посьпех такіх лідэраў зусім не беспадстаўныя.

Магу сказаць, што за ўсе гады дзейнасьці Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня (1990 – студзень 1996-га), мы такой падтрымкі ніколі ня мелі.

Ці мелі яе кіраўнікі Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня ўвосень 1996-га?

Праз некалькі гадоў у размове са мной (не па тэлефоне) адзін з тагачасных кіраўнікоў парлямэнту сказаў, што група генэралаў запэўніла яго, што, калі ў адпаведнасьці з Канстытуцыяй прэзыдэнту будзе абвешчаны імпічмэнт, «мы даставім вам яго ў ланцугах» (было ўжыта менавіта гэтае слова).

Аднак гутарка адбывалася не пад аўдыёзапіс, я нічым не магу пацьвердзіць факту гэтага выказваньня і таму не даю прозьвішча суразмоўцы. Скажу толькі, што ў гэтай кнізе яно фігуруе вельмі часта.

А вось гэты мой дыялёг зь Сямёнам Шарэцкім быў запісаны і ў лістападзе 2001-га прагучаў у эфіры Радыё Свабода.

Навумчык: *Калі б уявіць, што ўсё ж такі імпічмэнт адбыўся. Некаторыя кажуць, што Лукашэнка б, так бы мовіць, не скарыўся, пачаў бы страляць...*

Шарэцкі: *Я ня ведаю, што рабіў бы Лукашэнка, я толькі ведаю, што рабіў бы я і Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету. Мы б дзейнічалі згодна з Канстытуцыяй.*

Навумчык: *Скажыце, а пазыцыя кіраўнікоў сілавых структураў, пазыцыя генэралаў, палкоўнікаў... Я пастаўлю пытаньне так: ці былі сярод сілавых структураў, сярод кіраўнікоў вайсковых падразьдзяленьняў...*

Шарэцкі: *Спадар Сяргей, яшчэ прайшло толькі пяць гадоў. І ўсе гэтыя людзі жывыя, і шмат хто зь іх жыве і дзейнічае ў Беларусі. Яшчэ раз гавару, што я і Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету былі гатовыя і маральна, і арганізацыйна дзейнічаць далей па Канстытуцыі. Вам нешта большае патрэбна?*

Навумчык: *Патрэбна. Я не пытаюся ў вас нейкіх прозьвішчаў, проста...*

Шарэцкі: *Што б вы там ні пыталіся, я вам яшчэ раз сказаў, што мы і маральна, і арганізацыйна былі гатовы дзейнічаць далей па Канстытуцыі. Нам патрэбен быў крок з боку Канстытуцыйнага суду. Безь якога мы нічога не маглі рабіць. Інакш бы мы былі такімі, як Лукашэнка. Мы б ажыцьцяўлялі дзяржаўны пераварот.*

Навумчык: *Тут важна было зразумець для нашых слухачоў, ці ўсё ж такі мог парлямэнт разьлічваць на падтрымку тых, хто павінен быў бы сілавым чынам выступіць за захаваньне Канстытуцыі.*

Шарэцкі: *Цяпер цяжка аб гэтым гаварыць. Я вам яшчэ раз скажу: парлямэнт гатовы быў дзей-*

*нічаць згодна з Канстытуцыяй. Сутнасьць імпічмэнту палягала ў тым, што Вярхоўны Савет зьбірае подпісы, а Канстытуцыйны суд выносіць рашэньне. Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету мусіў, згодна Канстытуцыі, браць уладу ў свае рукі, так? І ўсё.*

За некалькі гадоў да цытаванага інтэрвію, у Празе, у мяне адбылася іншая размова з Шарэцкім на тэму падзеяў восені 1996 году, пры сьведках, і яе я прыгадаў у эсэ, прысьвечаным Уладзімеру Арлову. Гэты фрагмэнт потым шмат цыталі ў незалежнай прэсе, прывяду яго і ў кнізе.

Шарэцкі:

*— Калі было ўжо сабрана досыць подпісаў на імпічмэнт, мне патэлефанаваў Ельцын і сказаў Лукашэнкі не чапаць. Гэта быў, паўтараю, Ельцын! І што я мог адказаць Ельцыну?*

*— Пазьняк бы ягонага Ельцына паслаў у адказ на..., — сказаў Арлоў ужо ў калідоры, і гэта, здаецца, была адзіная нецэнзуршчына, пачутая ад яго за ўсе гады нашага знаёмства».*

## Капітуляцыі падпісваюцца дрыжачай рукой

Пра тое, што адбывалася ў Канстытуцыйным судзе, увосень 2001-га мне расказаў былы яго член Міхаіл Пастухоў:

*Да нас у Суд раніцай прыехаў Юры Захаранка. Ён, мяняючы машыны, прывёз нам подпісы пад зваротам дэпутатаў аб адхіленьні дзейнага кіраўніка дзяржавы ад улады. Аднак у гэты момант Ціхіня быў заняты. Яшчэ з адным судзьдзём мы спрабавалі трапіць да яго, але сакратарка нас не дапусьціла*

*і сказала: «Пачакайце, ён вельмі заняты, прасіў нікога не пускаць».*

*Празь нейкі час мы падышлі зноў да кабінэту Ціхіні, аднак ён быў усё «заняты». І мы ўрэшце вырашылі, нягледзячы на забароны сакратаркі, зайсьці да Ціхіні і пабачыць, чым жа ён так моцна заняты.*

*Калі мы зайшлі да старшыні Суду, дык такая нямая сцэна была перад нашымі вачыма: на сваім месцы сядзеў Ціхіня і, мне падалося, што ўвесь такі збляднелы. І перад ім стаяў высокі чалавек з мабільнай сувязьзю. Відаць, размову яны скончылі. Ну я гэтага чалавека ведаю, гэта быў чалавек з адміністрацыі.*

*Ціхіня, калі мы зьвярнуліся да яго, сказаў: «Прабачце, я цяпер адыду, і хвілінаў праз 30 абмяркуем гэтае пытаньне». Яны апрануліся і выйшлі.*

*Мы засталіся зьдзіўленыя, але не маглі даць ніякіх тлумачэньняў такімі паводзінамі старшыні. Я пайшоў да сабе ў кабінэт. Літаральна хвілінаў праз 5-10 патэлефанаваў знаёмы журналіст, запытаўся, ці праўда, што Ціхіня пайшоў да прэзыдэнта ў адміністрацыю. Я кажу: «Ды не, я толькі яго бачыў, ён нічога не сказаў».*

*Але хвілін праз 30 Ціхіня прыйшоў і сабраў увесь склад Суду, сказаў, што ён быў на сустрэчы ў Лукашэнкі. Пытаньне было пастаўлена, каб мы не сьпяшаліся з прыняцьцем гэтай справы аб імпічмэнце, яшчэ раз падумалі і, можа, схадзілі б на сустрэчу да Лукашэнкі, каб абмеркаваць гэтае пытаньне. Аднак некалькі судзьдзяў, у тым ліку і я, сказалі, што мы ня пойдзем, бо да нас зьвярнуліся дэпутаты і мы мусім захоўваць нэўтралітэт.*

Канстытуцыя не забараняла старшыні Канстытуцыйнага суду сустракацца з прэзыдэнтам — аднак яна і не абавязвала яго гэта рабіць. Чым матываваў свае дзеяньні Валеры Ціхіня, роўна як і пра тое, што за размова адбылася ў ягоным кабінэце з прадстаўніком прэзыдэнта, даведацца так нікому і не ўдалося.

Пасьля візыту ў Адміністрацыю прэзыдэнта Ціхіня ўдзельнічаў у «начных перамовах» з удзелам кіраўнікоў Расеі.

Вось яшчэ адно сьведчаньне, гэтым разам дэпутата Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Паўла Знаўца, якое ён зрабіў у верасьні 2019-га:

*Шарэцкі мне падрабязна распавядаў пра тую ноч, як на яго ціснулі ўсе: і расіяне, і Лукашэнка, і старшыня КС Ціхіня. І яго расповед цалкам праўдападобны. Бо й потым, у 1997-м, падчас нашай паездкі ў Кіеў на палітычны сэмінар, Генадзь Карпенка, які ў тую ноч тусаваўся ў «прылазьніку» і якога ахова не дапускала нават да размоваў і кансультацыяў з Шарэцкім, пацьвердзіў, што разы два ці тры ён, Шарэцкі, выходзіў зь перамоўнай залі. Увесь пачырванелы, з дрыжачымі рукамі, узрушаны...*

*Супраціўляўся Сямён Георгіевіч падпісаньню таго ганебнага «акту аб капітуляцыі» аж да пятай гадзіны раніцы. І здаўся толькі пасьля таго, як палітычны «акт аб капітуляцыі», што адкрываў шлях да поўнага ўсяўладзьдзя прэзыдэнта, падпісаў сам Ціхіня.*

*Але паколькі Канстытуцыйны суд Беларусі ня мог быць бокам тых перамоваў, то подпіс Ціхіні на той паперцы нічога не вырашаў. І тады Ціхіня ўзьняўся з-за стала і так накрычаў на Шарэцкага,*

*што той, быццам парсюк з байкі Кандрата Крапівы, «на сажняў пяць адскочыў». І дрыжачай рукой падпісаў лукашэнкаўскі «акт аб капітуляцыі».*

Пастухоў:

*Галоўную дэзарганізацыйную ролю адыгрываў старшыня Суду Ціхіня. Мы таксама хацелі спытаць яго, што адбылося і хто яго ўпаўнаважыў на гэтыя ўсе дзеяньні. Ён выглядаў такім сумным, нявыспаным; дастаў канвэрт, пры нас яго раскрыў, паказаў нам гэтае пагадненьне «Аб урэгуляваньні канстытуцыйнага крызісу ў Рэспубліцы Беларусь». Ціхіня сказаў, што «гэтае начы мы прадухілілі кровапраліцьце».*

Потым адбыўся рэфэрэндум і Лукашэнка прызначыў новы склад Канстытуцыйнага суду, а Вярхоўны Савет разагнаў.

Празь пяць гадоў пасьля падзеяў, калі яны зрабіліся гісторыяй і маглі быць асэнсаваныя з адлегласьці пэўнага часу, Лявон Баршчэўскі гэтак вызначыў прычыны паразы:

*Падзеі вучаць, што ў такіх экстрэмальных сытуацыях павінны быць людзі экстрэмальных сытуацый. У 91-м гэтую функцыю ўдала выконваў Пазьняк, а вось у 1996–2001 не было каму якраз у экстрэмальнай сытуацыі аказацца тым, хто ўсяляў бы ўпэўненасьць у людзей.*

Неўзабаве пасьля лістападаўскіх падзеяў я запытаўся Пазьняка:

— А што б вы зрабілі, калі б былі ў той вечар у Менску?

— Я б засунуў Шарэцкага ў машыну, вывез яго за горад на якое лецішча ці ў лазьню і зачыніў бы на суткі, — адказаў Пазьняк.

— Не атрымалася б, — запярэчыў я. — У Шарэцкага тады была дзяржаўная ахова.

— Ну тады выцягнуў бы яго за каўнер з-за стала, калі падпісваў пагадненьне.

У палітыцы такія ўчынкі называюцца «прамое дзеяньне», гэта тыя самыя экстрэмальныя (часта фізычныя) дзеяньні ў экстрэмальных сытуацыях, пра якія згадваў Баршчэўскі.

Паўплываць на рашэньні «прамым дзеяньнем» (спыніць Шарэцкага) Пазьняк мог, толькі трапіўшы калі не на перамовы (куды Карпенку не пусьцілі), дык хаця б на працэдуру падпісаньня дамовы. А для гэтага ён мусіў быць ня проста дэпутатам, але віцэ-сьпікерам (як Новікаў ці Карпенка), альбо старшынём парлямэнцкай камісіі (як Краўчанка), альбо лідэрам буйной парлямэнцкай фракцыі (як Калякін). Заняць гэтыя пасады ён меў шанец толькі тады, калі б у Вярхоўным Савеце 13-га скліканьня была фракцыя Беларускага Народнага Фронту. Але ніводзін з кандыдатаў БНФ на выбарах у парлямэнт ня быў прапушчаны, у тым ліку і сам Пазьняк.

Не эміграцыя Пазьняка пазбавіла дэмакратыю шанцу (яна, наадварот, прыцягнула ўвагу сьвету да падзеяў у Беларусі), а ягонае невыбраньне ў 1995-м дэпутатам, да чаго прыклалі рукі і Адміністрацыя прэзыдэнта, і КДБ, і партыя камуністаў.

Трагікамічнае выцягваньне за каўнер старшыні парлямэнту як апошні спосаб не дапусьціць спаўзаньня краіны ў дзесяцігодзьдзі беззаконьня — што можа больш выразна сьведчыць і пра ягоную няздольнасьць прыняць правільнае рашэньне, і пра неадпаведнасьць пасадзе?

## Эпілёг

Мая маці часта прыгадвае клясычнае вызначэньне сну: небывалая камбінацыя бывалых уражаньняў. Але гэта не тлумачыць, чаму мне так і ня сьнілася нічога, што адбывалася б не ў Беларусі. З 96-м ясна: пакуль жыла надзея на імпічмэнт, я быў упэўнены ў хуткім вяртаньні. Але і потым сьнілася толькі Беларусь.

А рэальнае жыцьцё вымагала прагматычных рашэньняў.

У лістападзе я набыў квіток на Прагу, да Галі, якая ўжо паўгода працавала на Радыё Свабода.

Увосень 1996 году ў нас з Пазьняком была невялікая сабраная дыяспарай сума, якая дазваляла двум чалавекам хіба што існаваць (безумоўна, мы вельмі ўдзячныя за дапамогу, бо дыяспара зусім не абавязаная была гэта рабіць).

Праблема фінансаў паўставала ўсё больш востра. Амэрыканская адміністрацыя выконвала абяцаньне не даваць нам ні цэнта. Мы не атрымлівалі ніякай сацыяльнай дапамогі, якую звычайна маюць усе уцекачы. Ну і, паколькі гэтая тэма шмат каго цікавіць, скажу, што ўсе наступныя гады ні Пазьняк, ні я ня мелі ніякіх грантаў ці іншай фінансавай дапамогі ад амэрыканскага ўраду.

Вітаўт Кіпель раіў паступаць ва ўнівэрсытэт, вучыцца. Тады шмат хто з гуманітарыяў перавучваўся на праграмістаў, бо чакалі «праблемы 2000», збою ў працы кампутараў ва ўсім сьвеце пры зьмене тысячагодзьдзя. У выніку праграмістаў зрабілася аж зашмат, а кампутарнага апакаліпсісу ня здарылася.

Унівэрсытэт узяў бы гады, ды я і не зьбіраўся мяняць прафэсію, доўга жыць у эміграцыі ж не разьлічваў. Верылася, што, хаця шанец на адхіленьне Лукашэнкі ад пасады толькі што быў страчаны, але ж ня будзе ён панаваць дзесяцігодзьдзі. Максымум да 1999-га, калі скончыцца вызначаны Канстытуцыяй пяцігадовы тэрмін паўнамоцтваў.

Дапамагаць Пазьняку, рыхтаваць нейкія выданьні пры сучасных сродках камунікацыі можна было і з Прагі. Мы разьлічвалі, што неўзабаве і Пазьняк пераедзе ў Варшаву, каб быць бліжэй да Беларусі і пры дапамозе польскіх сяброў выдаваць бюлетэнь «Беларускія ведамасьці».

Такім чынам, надышоў час сказаць «гуд бай» гасьціннаму Нью-Ёрку. Перад ад’ездам я патэлефанаваў Вітаўту Кіпелю, Але Орсе-Рамана, Янку Запрудніку, Алесю Сільвановічу, Веры і Францішку Бартулям, Антосю Шукелойцю, Паўлу і Юлі Андрусышыным, Алесі Сёмусе, усім, хто быў з намі гэтыя месяцы і дапамагаў нам. За некалькі месяцаў яны сталі мне вельмі блізкімі.

Неяк падлічыў, што ў 1996 годзе нам з Пазьняком давялося начаваць у больш як трыццаці розных гатэлях, кватэрах ці нават офісных памяшканьнях, паўгода пераяжджаць зь месца на месца з дыпляматам у адной руцэ і валізкай з самымі неабходнымі рэчамі ў другой, у пяці краінах сустрэцца зь дзесяткамі палітыкаў, праваабаронцаў, грамадзкіх дзеячоў. Мы далі звыш сотні інтэрвію і камэнтароў, выступілі ў дзясятках месцаў — ад студэнцкіх аўдыторыяў да парлямэнцкіх заляў. Перажылі надзвычай цяжкія дні, калі прымалі рашэньне аб палітычным прытулку і калі чакалі адказу. Але вынік быў таго варты: Злучаныя Штаты і ўвогуле

заходнія краіны зьмянілі сваё стаўленьне да рэжыму ў Беларусі.

Я купіў зялёную доўгую валізку з тканіны (каштавала 20 даляраў, а служыць і па сёньня), склаў туды сваё адзеньне, кнігі і дакумэнты — і паляцеў у Прагу.

Разам з Галяй і сябрамі адсьвяткаваў мой дзень народзінаў, а потым надышло і самае любімае маё сямейнае сьвята — Новы год. Я вырас не ў рэлігійнай сям'і, Каляды мы не адзначалі ніколі. Затое заўсёды была ўбраная ялінка, і ў апошні дзень году апаноўвала адчуваньне магічнасьці пераходу ў нейкі іншы стан.

Недзе ў пачатку 80-х бацькі мае былі ў Баўгарыі і ім прапанавалі паехаць да славутай тады Вангі, якая, як казалі, чарадзейным чынам прадказвае будучыню. Але ў апошні момант яны адмовіліся — усё ж нешта ў гэтым ёсьць ненатуральнае, у веданьні таго, што здарыцца з табой і тваімі блізкімі. Пэўна, пачынаеш тады гуляць зь лёсам, нешта штучна ствараеш, нечага маніякальна пазьбягаеш і ператвараесься ў раба ўласнага страху.

Што, калі б тады, у апошні дзень 96-га, мне сказалі, што я ня ўбачу Беларусь два дзесяцігодзьдзі?..

... Гэтую кнігу я пачаў пісаць у 1997 годзе; вярнуўся да яе, калі нішто ў Беларусі не паказвала абуджэньня; працягваў у другой палове 2020-га (зь цяжкасьцю, бо навіны з дому прымушалі адчуваць то надзею, то скруху), і ўношу апошнія праўкі на пачатку 21-га, калі народ пакутуе ад рэпрэсій рэжыму.

Але дыктатуры, як і кашмарныя сны, не бываюць бясконцымі.

*Рыгор Барадулін*

## Эмігрант

*Сяргею Навумчыку*

*Небу не хапае сінізны,*
*Восені далёка да вясны.*
*Рэха запытай —*
*Ня дасьць адказу.*
*Менскія ды віцебскія сны,*
*Сон нью-ёрскі*
*Не прыйшоў ні разу.*
*Не маўчаць*
*На дне азёр званы.*
*Небасхіл трымаюць*
*Курганы.*
*І на дахах*
*Рыцарскія латы.*
*Думкі і аблокі –*
*Цыганы.*
*Сны не пакідаюць*
*Роднай хаты.*
*17.X.97*

*P.S. Спадар Сяргей!*

*Перапісаў у цёплай і гасьціннай хаце бацькоў тваіх. Дзякуй ім!*

*Рыгор.*

25.X.97

## Паказьнік асобаў

**А**

**Б**

**В**



**Г**

**С**

**Т**

## Пра аўтара

Сяргей Навумчык нарадзіўся ў 1961 годзе ў Паставах. У 1964 годзе з бацькамі пераехаў у Віцебск. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ, служыў у войску, працаваў у віцебскай абласной газэце. Публікаваў артыкулы ў абарону архітэктурнай спадчыны Віцебску. У 1988 годзе быў ініцыятарам грамадзкай кампаніі супраць будаўніцтва Віцебскай АЭС, удзельнічаў ва ўстаноўчым сходзе таварыства «Мартыралёг» і Беларускага Народнага Фронту 19 кастрычніка 1988 г.

З сакавіка 1990 па студзень 1996 — дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі XII скліканьня, быў каардынатарам парлямэнцкай апазыцыі БНФ. Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі ВС 24–25 жніўня 1991 г., на якой была адноўленая Незалежнасьць Беларусі. Аўтар шэрагу законапраектаў. Удзельнічаў у галадоўцы дэпутатаў Апазыцыі БНФ 11–12 красавіка 1995 г. супраць ініцыяванага Лукашэнкам так званага рэфэрэндуму аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, ліквідацыі статусу дзяржаўных сымбаляў герба «Пагоня» і бел-чырвона-белага сьцяга, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць парлямэнт.

У жніўні 1996 г. атрымаў палітычны прытулак у ЗША. З 1999-га — супрацоўнік Радыё Свабода. Сябра Беларускага ПЭН-цэнтру, ляўрэат літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча.

## Summary

In early 1996, Belarus president Alyaksandr Lukashenka initiated the process of Belarusian-Russian integration. In so doing, he hoped to eventually replace the Kremlin's increasingly frail leader Boris Yeltsin.

In response, the Belarusian Popular Front galvanized mass protests. Tens of thousands took to the streets to demonstrate to the world their concern about the threat to the country's sovereignty. These protests were brutally stifled by riot police and agents of the special forces.

The lives and freedom of some former parliamentary deputies — such as BPF leader Zianon Pazniak, and the author of this book Siarhiej Navumchyk — were immediately put in jeopardy. Pazniak, Navumchyk and others were forced to flee the country, subsequently appealing for political asylum in the United States. The granting of that appeal, the first one to political refugees from Belarus, simultaneously served as confirmation that the US deemed the Lukashenka regime «dictatorial» (as the New York Times called it), and directed the attention of the world towards Belarus.

In the fall, Kremlin support allowed Lukashenka to dodge impeachment. He immediately conducted a referendum which granted him unrestricted presidential powers, a move not recognized by the world community.

«Ninety-Six» — is the concluding volume in a series focusing on the early years of Belarusian independence (1990–1996).

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.

